Уладзімір Калеснік

# УСЁ ЧАЛАВЕЧАЕ

Літаратурныя партрэты,
артыкулы,
нарысы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1993

# Сцяжына міфа

## ЗАПАВЕТ

Жыла ў нашай лясной занямонскай вёсцы яшчэ пры Польшчы бедная ўдава, зямлі бадай што не мела, толькі той назвы што зямля: пасажны верацень, а на руках два сыны і дочка... Хатка-завалюшка стаяла на адсяленні, ды на такой пяшчузе, што вятры пяскамі сыпучымі заносілі зруб па самыя вокны, зрабіць на такім падворайку хоць благенькі агарод ці садок пасадзіць і сам Бог не змог бы. Выпрошвала ўдава ў падсуседзяў градку — на адработак ці мо за так, з ласкі на пацеху. Зрэшты, адной кабеціне колькі яно той гародніны трэба: сыны пастухавалі ўсё лета ў багацейшых занёманскіх вёсках, дачушка дзяцей няньчыла чужых. На зіму хлопцы збіраліся разам, зімавалі на сваіх пастухоўскіх «пудах». Падросшы, сыны пайшлі парабкаваць, ганяць плыты, маглі ўжо падкінуць у хату не толькі па мяху спажыта, але і па чарадзейцы-залатовачцы. Грамада спачувала гэтай сям'і, таму радасна прабегла ў пачатку 30-х гадоў па вясковым тэлеграфе вестка:

— Чулі? Дэньчышын меншы (гэта значыць Шура Калеснік) зарабіў ужо на гармонік. Гарманістам будзе...

А неўзабаве наўздагон адной сенсацыі прыбегла другая — яшчэ большая: «Гэта ж хто б сказаў, Дэньчышын меншы хадзіў у Вільню, насіў, кажа, свой баян паказаць нейкаму Шырме! Каб паслухаў, як іграе!..»

— Ну і што?

— Дык што ж: сказаў — файнецка грае! І нешта там яшчэ... Навуку даваў, як што трэба. Паказаў Шуры ўсе музыканцкія штукі. Во што! Рады жэўжык вярнуўся. Падумаць толькі, яшчэ са слабодскіх гарманістаў ніводзін так далёка не дапяў...

Калі адзін старэйшы гарманіст выпытваў у Шуры: «Хто ж такі гэты Шырма?» — той адказаў, цвелячыся:

— А бо-о! Не ведаеце, хто такі Шырма! А стары му-

зыкант называецца. Сходзі ў Вільню — паглядзіш, не пашкадуеш...

Задаволіў цікавасць той гарманіст і не ходзячы ў Вільню. Шырму, аказалася, ведаў наш аднавяскоўвец мастак Мікола Васілеўскі. Летам ён звычайна прыязджаў наведаць бацьку і заадно падзарабіць на карцінах, якія маляваў па некалькі штук за дзень тэмперай на гатовых загрунтаваных кардонах. Прадаваў людзям з ходу, па залатоўцы ці па дзве, гледзячы ад памеру. Мой бацька таксама купіў для новай хаты чатыры штукі. Усе — лясныя краявіды: парудзелы стажок са снегавою шапкай набакір пад бярозкаю, стары сасновы бор улетку з зялёненькай падсадаю, санная дарога між бяроз паўз леснікову хату, з ліловым дымком над комінам і зеленакосыя бярозы ўлетку над азерцам, парослым лілеямі. Суседзі, заходзячы да нас у хату, гадалі, якая ж гэта мясціна, дзе намалявана, хоць ведалі, што мастак маляваў усё «з галавы», а ў лесе, ды яшчэ зімою, не мог маляваць. Мікола Васілеўскі вырас да вайны ў Пецярбурзе, заставаўся гарадскім інтэлігентам і любіў прыроду, як не кранутае нікім і не дасяжнае нават для творцы хараство. Працаваў ён у Вільні, у «Маланцы», быў сакратаром літаратурна-мастацкай арганізацыі «Веснаход», у якой старшынствавала Наталля Арсеннева. Васілеўскі ведаў Шырму. Сустракаў яго, зрэшты, і адзін з нашых актывістаў Грамады і ТБШ, што ездзіў у Мір і Стоўбцы на з'езды і сходы. Шырма выступаў інструктарам ад імя Галоўнай управы, чытаў лекцыі, даваў парады харыстам, запісваў тутэйшыя песні.

Ёсць у літаратурнай спадчыне Рыгора Раманавіча нават артыкул пра гурток ТБШ у Старым Свержні, вёсцы, што знаходзілася ад нашай кіламетраў за пятнаццаць уверх па Нёмане. Расказваецца там, між іншым, пра здольнага кіраўніка хору Міхася Гарановіча, які не толькі атрымаў падобны, як і мой зямляк, запавет, але тут жа здзейсніў яго. Праўда, інфармацыя без подпісу ўвайшла ў рэдакцыйны артыкул да аднаго з нумароў «Летапісу ТБШ» за 1933 год. Тады ўжо ў нашу вёску беларуская прагрэсіўная прэса не даходзіла, актывісты вызваленчага руху або паўцякалі ад павальных арыштаў за граніцу — у БССР, або адседжвалі кару ў турмах.

Свет чуткамі поўніцца, нехта з мясцовых кемлівых людзей усё ж навёў Шуру Калесніка на сустрэчу з

Шырмам. Вандроўка ў Вільню і Шырмава бласлаўленне не давалі спакою тутэйшым гарманістам, якіх у наваколлі было чалавек пяць. Пачатковец як бы «абшай вёсцы было чалавек пяць. Пачатковец як бы «абрамізіў» іх сваёй дасужасцю. Ды яшчэ, вылупень, трымаў у сакрэце парады, якія пачуў ад настаўніка. Назолаў Шура збываў кепікамі або проста адмоўчваўся.

Служыў ён тады парабкам у лясным фальварку Ціхова, які адкупіў у старога пана Касакоўскага багаты віленскі медык пан Гаўлік. Меў ён брата, хворага на сухоты, дык прыслаў яго ўпраўляць фальваркам і заадно лячыць грудзі сасновым водарам. Упраўляцца было не цяжка, бо зямлі ворнай значылася за панам не больш, як у добрага мужыка, а лес, вядомая справа, сам расце, без догляду. Заліўныя лугі над Ціхаю пан распрадаваў сялянам на скос, за грошы або на трэцюю капу, ды такім лёгкім спосабам назапашваў сабе корму для пары коней і некалькіх кароў. Лячыўся хворы пан таксама методай лёгкай і натуральнай: проста жыў сабе, як душы жадалася. Ездзіў на вечарыны і банкеты, што радоўкаю шыкавалі «паньствовыя» чыноўнікі ды інтэлігенты, і да сябе склікаў кампаніі на рэванш. Іграла на тых банкетах звычайна самая лепшая аркестра ў ваколіцы: каваль Пецяр і сталяр Міхалачка — гармаеісты, кравец Лявонька — скрыпач, часам і лесаруб Хвеляў Фанік — бубен. Усе лічылі, што цяпер і новы музыка павінен увайсці ў капэлу. Але Шура застаўся збоку, не кваніўся да панскіх ігрышчаў. Рыпаў на гармоніку сам адзін па глухіх лясных хутарах — Чорнай, Рудзьме, у Беразінцы, часам і ў Ціхове, калі гаспадара не было дома. На гэтыя вячоркі спанатрылі хадзіць дзяцюкі і дзяўчаты, пра якіх у вёсцы шапталі, што яны займаюцца «паліцікай». Завадатарам быў мой стрыечны брат Арсен Балабановіч, здольны, гожы сабой, цвёрды характарам хлопец. Яшчэ ў сямігодцы настаўнікі прадказвалі яму шчаслівую будучыню, лёгкі хлеб, зароблены не рукамі, а галавой, але заўчасная смерць бацькі прымусіла Арсена кінуць школу. Свой «універсітэт» — чатыры гады ён прайшоў у вядомай турме «Вронкі», а год пабыўшы на волі, зноў трапіў «удаскавальвацца» ў гродзенскую турму жорсткага рэжыму. Сядзеў у адной камеры з Піліпам Пестраком і, па сведчаннях таварышаў, умеў паспрачацца з пісьменнікам па бягучых пытаннях палітыкі і нават па праблемах тэорыі і гісторыі рэвалюцый. Дык вось і вадзіў Арсень сва-

іх сяброў-таварышаў па лясных хутарах, выкарыстоўваючы вечарыны для камуфляжу падпольных сходак. Яму аднаму і сказаў музыкант Шура, якую параду атрымаў ад Шырмы: «Іграй, хлопча, свае родныя песні і танцы. Не ганіся за моднымі гарадскімі шлягерамі».

— Бо сапсуюся, значыць, пад дзіч матары... — растлумачыў Шура запавет.

Неўзабаве падпольшчыкі ўцягнулі маладога музыку ў сваю арганізацыю, і ён узяўся перапраўляць людзей і літаратуру цераз «зялёную» граніцу. Фальварак Ціхова якраз ляжаў на шляху «партыйнай тэхнікі». Спраўны і спакойны па натуры парабак добра спраўляўся з небяспечнымі заданнямі. Чаго толькі не пераносілі тады цераз граніцу падпольшчыкі! Рыгор Раманавіч прыгадаў у адным са сваіх пасляваенных выступленняў, што яму па гэтай лініі дастаўлялі з Мінска нават музычныя апрацоўкі беларускіх народных песень. Такіх апрацовак у Заходняй Беларусі не было каму рабіць, акрамя толькі аднаго прафесара Канстанціна Галкоўскага, дык дапамагалі браты з-за мяжы. Пры вобыску ў Галоўнай управе ТБШ паліцыя знайшла 33 кнігі, выдадзеныя ў Мінску, яны прачытваліся актывам і высылаліся для часовага карыстання ў раёны.

Неўзабаве паліцыя напала на след падпольнай пераправы па трасе Рудзьма — Рубяжэвічы, арыштавала падазроных, у іх ліку і нашага музыканта, забрала і бласлаўлёны Шырмам гармонік. Пан Гаўлік не мог даць веры, каб яго лагодны і сціплы парабак ды палез у «камуну». Выпрасіў неяк хлопца і гармонік у ярэміцкага каменданта паліцыі пана Банасюка, з якім разам гулялі ў карты ды балявалі.

Было гэта незадоўга да самагубства пана Гаўліка. У прыпадку хмяльной рэўнасці ён застрэліў з рэвальвера маладую прыгажуню-настаўніцу, да якой без поспеху заляцаўся. З нораву пусціў і сабе кулю на тым самым месцы. Здарэнне гэтае скаланула ўсю ваколіцу неўразумелай жахлівасцю. Быў жа пан Гаўлік чалавекам рахманым, культурным, а тут раптам — не давядзі Божа... Панская прыхамаць парушала нормы паводзін, прынятыя ў народзе: залётніку належала шанаваць непрымушаную волю дзяўчыны. Шкада было паненкі, якая, бы тое сонейка, свяціла ў лясным Антанёве.

Прыйшоў памятны верасень 1939 года. У нашу вёску прынёс ён радасць, азмрочаную жалобай. Вяртаючыся

з гродзенскай турмы, трапіў у небяспеку пад Скідзелем Арсень Балабановіч. Узброены ў Гродне рабочымі, адважны камуніст прыняў бой з атрадам паліцыі, быў смяротна паранены і памёр ужо ў савецкім вайсковым шпіталі. Паклалі ўзрушаныя землякі свайго любімца і заступніка на вечны спачын пад ліпамі на школьным пляцы, насупраць вясковага могільніка. Не думалі не гадалі, што пачынаюць гэтаю магілай новы могільнік, партызанскі, які разрасцецца за гады акупацыі за паўсотню магіл аднадумцаў і паслядоўнікаў Арсена Балабановіча. На пахаванне ў той вераснёвы жалобны дзень сышлася ўся ваколіца. У скрусе, але з гонарам праводзілі свайго важака сябры-таварышы. Расла ў вачах простых людзей цана ахвярнасці тых, хто набліжаў жаданы час уз'яднання народа.

З прыходам Чырвонай Арміі парабак Шура Калеснік стаў гаспадаром у тым жа фальварку Ціхова. Перажыў ён там і вайну, цудам выратаваўся, калі вясною 1942 года прыбалтыйскія карнікі ў хаўрусе з паліцаямі спалілі панскі дом — партызанскае гняздо, а мужчын пабілі. Быў Шура нашым партызанскім сувязным і часта граў на танцульках, якія наладжвалі хлопцы з рудзьмянскай заставы, каб скаратаць зімовы вечар у таварыстве дзяўчат, партызанскіх сваячак, што паўцякалі сюды з-за Нёмана ад паліцэйскіх аблаў. Страшны быў час. Збавіцца ад няпэўнасці і трывогі выгнаннікам і іх абаронцам дапамагала песня. Яна сунімала іх трывожныя душы высокім ладам народнай душы і лекавала. Запавет Рыгора Раманавіча станавіўся для гарманіста і яго слухачоў талісманам, чарадзейным сродкам ад страхаў жыцця.

Пасля вайны партызанскі музыка і сувязны працаваў старшынёю калгаса. Я, помню, студэнтам, запісаў ад яго пару рэвалюцыйных заходнебеларускіх песень, пачуў і Шураў расказ пра гісторыю гармоніка.

## ЗВОДЗІЛА ПЕСНЯ

Стаўшы аспірантам, задумаў я ўзяць тэмай дысертацыі літаратуру былой Заходняй Беларусі. Тады нават у салідных літаратуразнаўцаў, а не то што ў мяне, зялёнага пачаткоўца, не было яснага ўяўлення, які змест можа таіць гэтая тэма. Думалася, што аб'ём яе сціплы,

таму і вырашана было пачаць «ад Адама» — са збору і вывучэння рэвалюцыйных песень. Асобныя творы мне былі памятны яшчэ з дзяцінства. У нашай вёсцы пры Польшчы моладзь спявала іх, асабліва вясной, калі разліваўся Нёман і адгароджваў вёску шырознаю, як вокам сягнуць, блакітнаю прасторай разводдзя ад усяго свету, а перадусім ад улады і паліцыі, што заставалася недзе там, на другім, далёкім палявым баку, ледзь не за краем свету. У радасны час крыгаходу збягаліся ў канец вёскі, на ўзгорак, старыя і малыя, дзецюкі і дзяўчаты. А сабраўшыся ў гурт, спявалі. Спачатку дазволеную, на словы Якуба Коласа, лірычную:

Льецца Нёман паміж гораў,
Светлы, чысты, як з расы,
Накапаў ён ямаў-нораў,
Гоніць воды праз лясы.

А потым прыходзіла больш задзірыстая, на словы Цішкі Гартнага:

Гэй ты, Нёман-рака,
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
У свае воды лавіў...

І ўрэшце, раззадорыўшыся, бралі на поўныя грудзі забароненыя, рэвалюцыйныя — пра змаганне і свабоду, пра падпольшчыкаў і палітвязняў, пра іх ворагаў — панскіх паслугачоў і катаў з дэфензівы, пра славу і бясслаўе, пра перамогу дабра над злом. Нарэшце з'яўляліся песні савецкія, пачутыя па радыё, з Мінска і развучаныя на слых. Дражніла ўсё гэта кемлівых вяскоўцаў. Дакорліва ківалі сівымі галовамі дзяды: «Рана пташачка запела, каб це кошачка не з'ела...», «Даспяваецеся, дазухуецеся да бяды. Будзе с . . . . дразда пець, як дадуць на пастарунку гумай у пяты...» А тыя задзіры выгуквалі наперакор сатырычныя прыпеўкі пра вусы і шаблю самога Пілсудскага:

Больш за ўсіх Пілсудскі чмуціць,
Свае доўгі вусы круціць.
Няхай круціць — не паможа,
Бо на старасць лапці ўзложа.
Як будзе хадзіць па свеце,
Хай яму сонца не свеце.

Юнакі адчувалі сябе тут, на занямонскім баку, свабоднай сябрынай і кідалі выклік віжам і ахоўнікам панскага ладу, што сядзелі ў сваіх катоўнях і бяссільна скрыгаталі зубамі там, за Нёманам...

2. Зак. 528.

Дык вось з вывучэння гэтых песень я і пачынаў сваю аспіранцкую працу. Спаркаваліся мы з Янкам Брылём, які загарэўся жаданнем працягваць раман «Граніца», і паехалі на веласіпедах па дарогах ды сцежках легенды. Нацэльваліся на вогнішчы вызваленчага руху — Слонімшчыну, Скідзельшчыну, Наваградчыну. Вандравалі каля двух месяцаў, сустракаліся з ветэранамі КПЗБ, Грамады, ТБШ, з партызанамі і паэтамі, са спевакамі, акторамі і штукарамі. Вось тады імя Рыгора Раманавіча не сыходзіла з памяці нашых субяседнікаў. Натуральна, узнікла спакуса наведаць Рыгора Раманавіча, пагутарыць асабіста з чарадзеем і гаспадаром песеннага царства. У Скідзелі мы паклалі веласіпеды на чыгуначную платформу і маханулі ў Гродна, дзе жыў тады Шырма. Але, на жаль, не засталі яго: быў у чарговым турнэ са сваёю славутаю капэлай.

Шкада было, што сустрэча не адбылася. Я суцяшаўся тым, што ў Гродне Брыль пазнаёміў мяне з Міхасём Васільком. Я ўгаварыў нават гэтага бясконца сціплага чалавека напісаць для маёй патрэбы аўтабіяграфію. Ад Васілька мы пачулі многа сардэчных слоў пра Рыгора Раманавіча як пра апекуна і настаўніка, выдаўца першага паэтавага зборніка «Шум баравы». Выдавец у Заходняй Беларусі быў юрыдычнаю асобай, якая згаджалася пароўну з аўтарам несці судовую адказнасць за кнігу паводле законаў аб друку. А Васількова кніга праз некаторы час была канфіскавана ўладамі. Міхась Васілёк, шаноўны паэт і культурны дзеяч, называў свайго дабрадзея на вясковы лад проста і сардэчна — дзядзька Рыгор. Выглядала гэтая фамільярнасць даволі міла, як прызнанне духоўнага сваяцтва. Васілёк, помню, першы раз сказаў мне пра публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя працы Рыгора Шырмы, прыгадаў яго псеўданім Рыгор Баравы, крыптанім Р. Ш. і Г. Ш., якімі падпісваліся публікацыі ў «Беларускім летапісе», «Нашай волі», «Sygnaly» і іншых левых перыядычных выданнях. «А «Летапіс», — акругліў Міхась Васілёк, — то фактычна дзядзька Рыгор амаль што сам і пісаў. Акрамя хіба вершаў ды яшчэ якіх другарадных рэчаў».

Пазней я гатовы быў дзякаваць выпадку, што першы раз наша сустрэча з Рыгорам Раманавічам не адбылася, бо зразумеў, як слаба быў да яе падрыхтаваны, асабліва ў параўнанні з Янкам Брылём. Ён-то рыхтаваўся, можна сказаць, ад калыскі. Як і мой аднафамі-

лец, вясковы музыка Шура, Янка Брыль удаўся пявучым, з малых год жыў і дружыў з песняй, памятаў мноства твораў, умеў і любіў з нагоды спяваць, здолеў яшчэ абжыць беларускую народную песню ў сваіх апавяданнях і аповесцях. З песні народнай, з яе ладу і духу выйшаў светлы і чулы лірызм Брылёвай прозы, а ў нейкай меры і склад яго характару, што свяціўся радаснай дабрынёй або іскрыўся нязлосным гумарам. Рана асірацеўшы, Янка выхоўваўся пры маці, часта апынаўся ў гурце матчыных сяброваж, а на вёсцы, вядома ж, дзе жаночая кампанія — там і песні, там і душэўная размова пра шчасце і каханне, вернасць і здраду, пра нарадзіны, старасць і смерць. Падросшы, Янка стаў арганізатарам культурна-асветнай самадзейнасці, іграў першыя ролі ў п'есах, спяваў у хоры, адным словам, прырода і самавыхаванне зрабілі яго даўно роднаснай душою Шырмы. Пра такіх, як ён, Рыгор Раманавіч пісаў калісьці ў дарожным нарысе: «Жорсткае жыццё вырабляе на вёсцы асобны тып ідэйнай моладзі, якая ў самой постаці, на твары, у вачах мае нешта сваё, блізкае, беларускае: ціхі і спакойны, але цвёрды погляд ідэаліста, рашучасць і адвагу змагара».

Я асабіста належаў да малодшага пакалення, якое ўвабралася ў сталасць ужо недзе ў вайну. Біяграфічны кантакт з Рыгорам Раманавічам не мог быць у мяне такім змястоўным, як у Брыля. А ў дадатак ад прыроды я не музыкальны. У школьныя гады спрабаваў, як і кожны падлетак, пашкатурхаць свае музычныя магчымасці, але без асаблівага поспеху, хоць дапамагаў мне асвойтацца з музыканцкай кухняй наш сусед, кларнеціст з музыканцкай каманды. Царскім салдатам ён вывучыў нотную грамату, з вайны, праўда, кларнета не прывёз, нажыў толькі прафесійную хваробу — дыхавіцу, ну і салодкае замілаванне да музыкі. Змайстраваў дома сам скрыпку і граў для душы. І мяне пачаў уцягваць у тую слодыч. Але мала што з яго стараннях выходзіла: навучыўся я неяк іграць адну мелодыю «Во саду ли, в огороде...». Свет хараства пранікаў да мяне больш цераз вочы, колеры, пластычныя формы ды слова, чым цераз мелодыю. Музыку, песні я любіў слухаць, а спяваць у гурце саромеўся. Лепш гатовы быў цярпець кепікі сяброў за маўчанне, чым за фальшывую ноту. І ў гімназіі не здолеў абудзіць у мяне музычнай струны нават прафесар Антон Валынчык, знаёмы

Р. Шырме заходнебеларускі кампазітар і адзіны педагог-беларус, прыняты ў польскую гімназію. Праграму я, праўда, засвойваў, на скрыпцы ўмеў іграць зададзеныя мелодыі, але выязджаў на спрыце і памятлівасці пальцаў, а не на слыхавым адчуванні і ўяўленні. Нават пазней, калі прафесійна вывучаў як крытык мелодыку мовы, часта лавіў сябе на тым, што аналізую не толькі ўражанне, а і чаргаванні плаўнасці і зацёнаў у рабоце моўнага апарату. Адным словам, у Апалона, Арфея і Пана быў бы я нахлебнікам, а не работнікам.

## СЦЯЖЫНА МІФА

Восенню 1951 года мы з Янкам Брылём дамовіліся разам паехаць у Вільню, у архівы і бібліятэкі колішняга цэнтра вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Спыніліся адразу ў гасціннай сям'і Веры Сямёнаўны і Івана Патапавіча Шостакаў, землякоў, якія пазнаёмілі нас з некаторымі віленскімі беларусамі. Жыло тады ў горадзе багата ветэранаў беларускага вызваленчага і культурна-асветніцкага руху. Некаторыя сталі маімі кансультантамі і дарадчыкамі. Светла помніцца мне нядзельная вандроўка па старажытнай Вільні ў таварыстве мастака Пётры Сергіевіча. Яго расказ пра віленскія помнікі архітэктуры, творы свецкага і сакральнага мастацтва і сёння жыве недзе ў душы шчымліва-радасным акордам. Нават шчыраванне шаноўнага майстра ў паклонах перад алтарамі касцёлаў, што тады мне здавалася пацешным дзівацтвам інтэлігентнага чалавека, часам ажно дражніла, сёння прыгадваецца ўрачыстым абрадам прызнання і шчырай удзячнасці папярэднікам, тым безыменным майстрам разца і пэндзля, пабрацімам Люцыяна Таполі, што натхнёна, з любоўю да хараства і жыцця ўзносілі і аздаблялі віленскія храмы. Падхапіўшыся з каленяў, Пётра Сергіевіч падыходзіў да нас, прыхільнікаў грамадзянскай этыкі, з нейкай пачцівай вінаватасцю. Неяк і не падумалася тады, а ці не з такім жа піетэтам ставіцца да сакральнай культуры і Рыгор Ширма. Я хоць і ведаў, што Рыгор Раманавіч пачынаў сваю дырыжорскую кар'еру з рэгенцтва ў Пружанскай царкве ды і ў Вільні кіраваў адначасна царкоўным гімназічным і студэнцкім харамі, але маё ўяўленне ста-

віла яго поплеч з Брылём і тымі заходнебеларускімі інтэлігентамі, што густавалі ў свецкім вальнадумстве, вялі духоўны радавод ад Льва Талстога, Махатмы Гандзі, Альберта Эйнштэйна, Бертрана Расела... Наогул, дапытвацца пра веру ў часы атэістычнага рэжыму было ніякавата: яшчэ падумае хто, што збіраю кампрамат. Так і шчымела недзе загнанае ў падсвядомасць пытанне. Зняць з яго табу дапамог нядаўна кампазітар Уладзімір Алоўнікаў. Давялося побач з ім сядзець у Камітэце па дзяржаўных прэміях, калі абмяркоўвалася гукавая анталогія беларускіх народных песень, створаная Віктарам Роўдам на падставе фальклорных запісаў Р. Шырмы. Уладзімір Уладзіміравіч падхапіў і ціха, для мяне, удакладніў ацэнку не Роўды, а Шырмы, папярэдніка і патрона:

— Такой капэлы, з такім гучаннем няма і не будзе. Яе можна было адрозніць па гучанні, па духу і танальнасці ад усіх калектываў краіны.

— А скуль такая самабытнасць? — спытаўся я. — Ці не ад царкоўнага спеву ідуць вытокі?

— Так... Ад беларускага царкоўнага спеву — стылёвы знак.

У мяне як бы нешта цяжкае адлегла ад душы. Сапраўды ж, для Шырмы царкоўная песня была працягам народнага харавога спявання, а псалом, канон ці кант— перанесеная ў царкву пявучая душа народа. Шырму я ўбачыў пабрацімам Люцыяна Таполі, народнага мастака, для якога пантэон народнага меласу такое ж святое месца, як і царква, калі ў ёй служаць сумленныя святары.

У Вільні асабліва мілым і цікавым для нас абодвух здарэннем стала спатканне з дачкой Рыгора Раманавіча Ленай Шырмайтэ (так асімілявалі яе прозвішча літоўскія калегі-медыкі). Вайна разлучыла яе з бацькамі, і Лена жыла пад апекай настаўнікаў Беларускай гімназіі пэўны час пры акупацыі. Цераз Валянціна Таўлая яна была звязана з антыфашысцкім рухам. Цікава расказвала Лена Рыгораўна пра тое супрацоўніцтва з паэтам, які ўсё жыццё ніяк не мог увайсці ў ролю канспіратара-падпольшчыка, заставаўся лішне бестурботным, адкрытым у размовах, і ёй даводзілася часта тузаць яго за рукаў, перасцерагаючы, каб не раскрыўся на сваю бяду перад ненадзейным суб'ектам.

Праз некалькі дзён мы з Брылём дасталі пакой у старэнькай гасцініцы «Наруціс», якая спадабалася нам цішынёй ды зручным размяшчэннем у цэнтры горада. Прагна накінуліся мы тады на яшчэ не зусім упарадкаваныя фонды акадэмічнай бібліятэкі, куды перавезлі матэрыялы з музея Івана Луцкевіча. Выкарыстоўвалі зычлівасць нядаўняй партызанкі з-пад Каўнаса Онуты Эдукайцітэ і віленскай беларускі Ніны Ляшкевіч, якія часта заставаліся пасля работы і нам дазвалялі працаваць да позняй ночы. З любові да навукі самі падбіралі нам цікавыя матэрыялы, не чакаючы заказаў. Аднойчы Онута запрасіла нас на кубак кавы. Жыла яна з сястрой Бірутай, як аказалася, непадалёку ад «Наруціса». Запамятаўся той вечар інтэлігентнасцю, ад якое многіх адвучыла вайна і якую нам належала вярнуць, напоўненую дэмакратызмам і братняю дружбай. Літоўскія і беларускія інтэлігенткі рабілі гэта так натуральна, што агортвала сэрцы чуласць да іх. У зычлівай атмасферы ў добрым настроі работа спорылася. За дзень мы пераладпачвалі бярэмы матэрыялаў, дамоў брылі як п'яныя ад уражанняў. Новае, пазнанае ўсё больш і больш разварушвала наша здзіўленне перад жывучасцю памяці народа, напаўняла жаданнем змагацца за права народа на дастойнае жыццё. Падзеі, імёны, творы сыпаліся, як з цудоўнага рога, і мая наіўная дапытлівасць пачала змяняцца разгубленасцю: як усё гэта ахапіць і як скласці з гэтай разнашэрснасці, куламесы ідэй і падзей навуковую сістэму?.. Заходнебеларуская літаратура, мастацтва, культура — гэта ж барацьба і кампрамісы, горы супярэчлівых біяграфій, твораў, лёсаў. Гераічны спеў народнай душы то азараўся надзеяй, то азмрочваўся горам, — балючы летапіс змагання за нацыянальную еднасць, за месца беларусаў у цывілізаваным свеце, за права «людзьмі звацца». Як падаць яго чытачу, як прабіцца цераз ідэалагічныя загародкі і рэгламенты?.. А што гэта такое, Брыль уведаў добра ў 1946 годзе, калі яго зусім перасталі друкаваць за «заходніцтва», за ігнараванне ідэалагічнай начынкі. Дасталася і мне на вучоным савеце за адну-адзіную спасылку на В. Ластоўскага ў рэфераце.

І сярод імён, якія паўтараліся часта, было імя Рыгора Раманавіча Шырмы. Заімпанавала мне шырыня ахопу і праблемнасць яго кароткіх публікацый — ад уступнага слова ў першай кніжцы М. Танка «На этапах»

да публіцыстычных артыкулаў пра Пушкіна, Талстога, Горкага, Коласа, ад інфармацый пра злыбеды мясцовых гурткоў ТБШ да праблемных артыкулаў пра волю народную і лёс культуры маладых нацый, культуры патрэбнай, як жывая вада, усяму чалавецтву, — такія былі кругі. Ды знамянальна, што ўся гэтая разнастайнасць нітавалася агульнай канцэпцыяй, асабістым вопытам аўтара — даравітага мастака, грамадскага дзеяча, асветніка. Агульнае рэчышча, у якое скіроўваў Рыгор Раманавіч многаструменную плынь праблем, — гэта народ, яго гістарычны шлях, яго дзень сённяшні і заўтрашні. У адным з артыкулаў сказаў ён пра сябе, сваіх паплечнікаў і сяброў з Таварыства беларускай школы: «Наша становішча заўсёды было слушным, бо нашы шляхі вядуць у народ».

Другое выслоўе дапаўняла сказанае, пераходзіла да народнай творчасці і гучала яшчэ больш урачыста і лаканічна: «Песня — душа народа». Афарызм гэты сёння многім вядомы, бо ён вынесены на вокладку кнігі выбраных публікацый Шырмы, якая выйшла ў 1976 годзе ў Мінску і з'яўляецца для шырокага чытача найбольш поўнай крыніцай інфармацыі пра літаратурную дзейнасць аўтара.

Магчыма, нават незнарок, і гэта асабліва знамянальна, Р. Шырма сфармуляваў запаветную думку сваю ў форме перыфразы памятнага выслоўя Францішка Багушэвіча: «О, то ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы». Пераклічка тут красамоўная і знамянальная, бо выяўляе агульную цягу да рамантычнай прыўзнятасці, якою поўніцца духоўнае жыццё і мастацтва кожнага народа, што ідзе шляхамі нацыянальнага адраджэння. Францішак Багушэвіч быў першым на Беларусі тыпам інтэлігента-народніка, Рыгор Шырма — ці не апошнім магіканінам у слаўнай плеядзе постацяў. Мацей Бурачок, паэт эпічнага складу таленту, называў свае вершы на рамантычны лад песнямі, хоць, напэўна, разумеў, што творы гэтыя (большасць іх) нельга праспяваць, паколькі напісаны яны мовай моўленай, стылем апавядальным ці публіцыстычным. Ды ўсё ж яго вершы мелі права называцца песнямі, бо закраналі сферу вышэйшых пачуццяў і духоўных каштоўнасцей — любоў да радзімы, парыў да свабоды, прагу справядлівасці і чалавечнасці. А песня дружыць з высокім. У адным з артыкулаў Р. Шырма назваў дарагімі рысамі беларускай народнай

песні, што ўздымаюць яе «на сусветны п'едэстал», — «вялікі патрыятызм, вялікі гуманізм і вострую сацыяльную накіраванасць». Няхай у Шырмавай тырадзе будзе шмат гіпербалізацыі, няхай сабе рэальна песня складае сама болей толькі часціну народнай душы, затое часціну чулую, цэнтр найбольшай уражлівасці, адкуль, як ад сэрца, арэолам праменіцца яснота. Зрэшты, Шырмава афарыстычнае расшырэнне паняцця «песня» мае яшчэ іншы сэнс і логіку. Не стаў бы Шырма дзеячам нацыянальна-вызваленчага руху, ідэйным ідэалагічным байцом, каб не бачыў у песні акрамя пачуцця, перажывання яшчэ і згустку волі, неўтаймаванай прагі да жыцця ідэальнага, годнага чалавека, жыцця вольнага і прыстойнага. Будучы музыкантам і літаратарам, Р. Шырма нароўні цаніў у песні мелодыю і тэкст, настрой і сэнс, якія, злучыўшыся ў адно, рабілі яе дзейснай, як закліканне.

Рыгор Шырма знайшоў сябе як грамадзянін, рэалізаваў як асветнік і мастак, далучыўшыся да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху яго радыкальна-дэмакратычнага крыла. Нядаўна мне пашанцавала знайсці хіба першы пісьмовы след гэтай сувязі — ліст да Браніслава Тарашкевіча, датаваны 15 верасня 1922 года. Шырма толькі што вярнуўся з бежанства, выгнаны голадам і разрухай, прывёз з Тамбоўшчыны сяброўку жыцця і першае дзіцятка. Родная вёска аказалася апусцелай; зямля ўздзірванела, бацькава хата згарэла. Скрозь панаваў цар-голад. Палякі пачалі ствараць свае школы, прывозілі настаўнікаў з цэнтральнай Польшчы, а ў Шырмы, беларускага настаўніка, не аказалася ніякіх перспектыў на працу. Спачатку спрабаваў хадзіць лесарубам у Белавежскую пушчу, але там патрэбна было ўмельства ды і сіла, якой не мог пахваліцца згаладнелы інтэлігент. Шанц на выжыванне суліла праца рэгента ў Пружанскай царкве, яго цягнула да асветніцкай і грамадскай справы. Пра гэта і кажа памянёнае пісьмо, у якім Шырма расказвае пра ўдзел беларускай грамадскасці ў выбарнай кампаніі ў польскі сейм 1922 года: «Настрой насельніцтва спрыяльны для блока [нацыянальных меншасцяў. — *У. К.*], патрэбна толькі глыбей правесці ў масы прапаганду. З Брэста былі прадстаўнікі ў Пружанах, але па воласцях работы няма яшчэ ніякай. Для вёсак удалося атрымаць толькі 5 экз. інструкцыі № 1. Газет няма ніякіх. Пераканальна пра-

шу выслаць «Беларускі звон» і ўсё, што можа быць карысным у перадвыбарнай кампаніі»[1].

У канцы пісьма Р. Шырма паведамляе пра цяжкае матэрыяльнае становішча («туляюся з сям'ёю ў свіронку»), просіць уладкаваць яго «на пасаду настаўніка, дзе будзе мажліва» і запэўнівае: «Даю Вам слова, што буду карысным як настаўнік, а значыць, і як працаўнік па адраджэнню Беларусі».

Магчымасць уладкавання знайшлася не хутка. Прапанавалі работу польскія ўлады, але ставілі ўмову, каб ён запісаўся палякам. Шырма ўзяўся за стварэнне пружанскага хору, які вывеў яго імя на арэну культурнага жыцця краю. На вечары-канцэрце ў 1925 годзе прысутнічаў сам Браніслаў Тарашкевіч, тады ўжо старшыня Беларускага пасольскага клуба і заснавальнік Беларускай сялянска-рабочай грамады. Беларускі вызваленчы рух набіраўся сілы, яму патрэбны былі кіраўнікі, арганізатары і асветнікі. Р. Шырма атрымаў пасаду настаўніка Віленскай беларускай гімназіі, пераехаў у Вільню, атрымаў кватэру ў будынку былога базыльянскага манастыра, выкладаў спевы і літаратуру, увайшоў у склад Галоўнай управы Таварыства беларускай школы і неўзабаве стаў яе нязменным сакратаром, справаводам і арганізатарам гурткоў, хат-чытальняў, хароў, лектарам, змагаром за асвету.

Ужо свой першы зборнік беларускіх песень, выдадзены ў Вільні ў канцы 20-х гадоў, фалькларыст складаў з намерам вызваліць «вялікую сілу і моц», што адчувае ў сабе народ, — «каб у братніх сэрцах сярод цемры і бяспуцця загараліся новыя агні, каб паліліся крыніцаю новыя бадзёрыя думы... Бо песня злучае народ, яна ўсведамляе яго і дае сілы змагацца за лепшае заўтра». Такім чынам, рамантычная захопленасць сардэчнай шчырасцю, маральнай чысцінёю і нацыянальнай самабытнасцю народнай песні спалучаецца ў Р. Шырмы з цвярозай і глыбокай ацэнкай яе грамадскага прызначэння, усведамленнем ідэйнай і выхаваўчай місіі. Такі двухаспектны падыход характэрны для ідэолагаў вызваленчага руху наогул, а ў выпадку Р. Шырмы ён адпавядаў яшчэ натуры педагога, інтэлігента першага пакалення, ахвярніка, які нёс у крыві сялянскі практыцызм,

---

[1] ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 208, арк. 9.

рупнасць і ўпартую вынослівасць ды рэалізаваў іх у асветніцкім ахвярніцтве.

Не ўсе Шырмавы псеўданімы мне ўдалося расшыфраваць перад першым знаёмствам, таму карцела вызначыць індывідуальныя рысы яго стылю, каб па манеры пісьма ўгадваць аўтарства яго ананімных публікацый. Дайсці да гэтага было як бы і няцяжка, бо адметнасць Шырмавага самавыяўлення была моцнай. Ні ў аднаго сярод заходнебеларускіх публіцыстаў і літаратурных крытыкаў 30-х гадоў не было такога арганічнага сінтэзу прыўзнятасці з лагічнай доказнасцю выкладу. Праўда, у 20-я гады падобныя рысы выступалі даволі часта ў артыкулах Уладзіміра Самойлы і Адама Станкевіча, сеймавых прамовах Браніслава Тарашкевіча, Ігната Дварчаніна, дзеячаў, што прайшлі такую ж школу, як і Шырма: абапіраліся на рускую рэвалюцыйна-дэмакратычную традыцыю. Увогуле індывідуальныя стылёвыя рысы літаратурна-публіцыстычных тэкстаў Р. Шырмы супадалі з вядучым стылёвым складам заходнебеларускай прагрэсіўнай публіцыстыкі 20-х гадоў. Асабістае і непаўторнае, уласцівае яго слову, адступала кудысьці ў сферу частотнасці штрыхоў, нюансаў, дэталяў. І я, бывала, апынаўся на раздарожжы, вымушаны быў абмежавацца здагадкамі: «Шырма? А мо Суліма?..» Увесь уклад Р. Шырмы ў заходнебеларускую літаратуру тады яшчэ нельга было ахапіць і ацаніць. Ды не толькі з-за нявыяўленасці шэрагу тэкстаў, але таксама з-за ідэалагічнай незалежнасці яго пазіцыі.

Як я гэта бачу цяпер, Р. Шырма быў самым актыўным прадаўжальнікам дэмакратычных традыцый заходнебеларускай вызваленчай публіцыстыкі і літаратурна-мастацкай крытыкі 20-х гадоў. Ён падняў выбіты ўрадавымі рэпрэсіямі з рук публіцыстаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі і Грамады сцяг і адважна панёс яго цераз ліхалецце крызісу і санацыйнай рэакцыі пачатку 30-х гадоў, каб прымацаваць яго да дрэўка Народнага фронту.

Калі пішу гэтыя словы, успамінаецца і чуецца катэгарычны голас Піліпа Пестрака, яго ацэнка, што ішла са мною неадступна з часу майго аспіранцтва, першых подступаў да феномена заходнебеларускай літаратуры: «Шырма? О, гэта — дэмакрат!» Апошняе слова вымаўлялася, прынамсі, з трыма «р». У тагачаснай сістэме ацэначных паняццяў тэрмін «дэмакрат» быў золатам

старой ды неабавязкова самай высокай пробы. У гэтым і была загвоздка...

Сёння ўсё здаецца ясным: стылёвая роднасць публіцыстыкі Ширмы з папярэднікамі — адзнака вернасці нацыянальна-дэмакратычным традыцыям беларускага пісьменства.

Суседства высокага з цвярозым — родавая рыса характару інтэлігентаў першага пакалення. Папаўняючы шэрагі ідэолагаў вызваленчага руху, яны на сабе, на ўласным лёсе адчуваюць узыходжанне свайго класа і ўсяго народа на гістарычныя вышыні. У Р. Шырмы ўсё гэта яшчэ ўзмацнялася крутым характарам чалавека валявога, рыцара плебейскай годнасці, змалку апантанага пошукамі даляглядаў больш прасторных, чым тыя, у якія змясціла яго мужыцкая доля. Ідучы наперад і ўгору, ён дабіраўся да самага асяродка нацыянальна-вызваленчага міфа, браў і, не баючыся высакапарнасці, згушчаў, гучней акцэнтаваў традыцыйную вызваленчую сімволіку: «Пазастаюцца два шляхі: або павольнае нацыянальнае кананне, або ўпартае змаганне за сваю мову», «Гэта нічога, што ноч цёмная, — затое зоркі ярчэй мігцяць на небе...», «Цяпер гэты зачараваны край ужо не спіць», «Яшчэ няма такой сілы, якая магла б перамагчы народную праўду». Часта высокае станавілася ў яго поруч з жыццёва канкрэтным, узрушлівае — з лагічна доказным. І тут быў сакрэт моцнага ўздзеяння Шырмавых твораў на чытача: «Народ жыве, народ будзе жыць, бо ён здольны, працавіты, вынослівы».

Чытаючы тады ў Вільні акт абвінавачання кіраўнікоў ТБШ, я, памятаю, быў уражаны несамавіта выкручанаю пракурорскаю ацэнкай Шырмы, запісаў яе, каб пры выпадку карэкціраваць і аспрэчваць: «Шырма і Стацкевіч, нават незалежна ад уплываў камуністаў, як прадстаўнікі крайняга і мала ўлічваючага рэальнасць шавінізму, што ўзнікае ў народзе, пазбаўленым дзяржаўнай і нацыянальнай традыцый, не маючы сваіх культурных пластоў, змагаліся з названай групоўкай [група Астроўскага — Луцкевіча. — *У. К.*] з-за таго, што яна мела больш памяркоўныя погляды»[1]. Як на сённяшні час і розум, аспрэчваць няма чаго: бязглуздасць ярлыка «шавінізм» відавочная, але надалей уражвае сіла нянавісці пракурора да падсудных, яна роўная

[1] ЦДА ЛітССР, ф. 31, вып. 209, спр. 591, арк. 1145.

цвёрдасці духу і вазе, якую займаў Шырма ў тагачасным публічным жыцці. Пракурор хацеў абрыдзіць Шырму і, не могучы падвесці яго поглядаў пад крымінал камунізму, памяняў камунізм на шавінізм і даў апошняму, трэба сказаць, праўдападобны генезіс — шавінізм адчаю.

Шырма не аддзяляў літаратурна-крытычнай творчасці ад грамадзянскай публіцыстыкі. Як сведчыць Вінцук Склубоўскі: «Непасрэдным арганізатарам народнафрантавой газеты «Наша воля» быў Р. Шырма... Першы нумар газеты адкрываўся артыкулам Р. Шырмы са слоў «Трывожна на свеце», і далей паказваліся ўсё больш нахабныя атакі фашысцкіх агрэсараў на Далёкім Усходзе, у Афрыцы і Еўропе»[1].

Тут да месца будзе дадаць, што Р. Шырма быў добрым канспіратарам, бо адкрываў ён друкаваны орган народнафрантавога антыфашысцкага руху па ініцыятыве і на сродкі КПЗБ. Пан пракурор не ведаў гэтага, нават не падазраваў.

Большасць літаратурна-крытычных артыкулаў Р. Шырмы напісана да нейкіх знамянальных дат: 30-годдзя літаратурнай творчасці Я. Коласа, 100-годдзя з дня смерці А. Пушкіна, 25-годдзя з дня смерці Л. Талстога, водгук на смерць Горкага. Ужо гэта само сабою настройвала аўтара на высокі, нават жалобна-ўрачысты лад. Аднак Шырма не ўпадаў ні ў паніхіднасць, ні ў фанфарную юбілейнасць. Кожны яго артыкул востра публіцыстычны, аўтар асэнсоўваў духоўны набытак гэтых геніяльных мастакоў, мысліцеляў і дзеячаў у святле ідэалаў заходнебеларускага вызваленчага руху, стараючыся растлумачыць, які ж урок жыцця даюць беларускаму селяніну, рабочаму, інтэлігенту Пушкін, Талстой, Горкі, Колас.

Сама ява вызваленчай барацьбы напаўняла баявым духам гэтыя роздумы. Так мне давялося знайсці ў службовых матэрыялах брэсцкага ваяводы цыркуляр, дзе паведамлялася, што нейкія непажаданыя элементы ў Брэсце і ў Пінску самачынна збіраюцца адзначыць гадавіну смерці А. Пушкіна. Ваявода загадваў павятовым старастам і паліцыі не дапусціць да святкавання, бо яно можа выліцца ў дэманстрацыю сімпатый да Са-

[1] Склубоўскі В. Нашчадкі Грамады // Беларускі каляндар. Беласток, 1981.

вецкай Расіі. Антысавецкая палітыка польскага санацыйнага ўрада падмацоўвалася галёканнем рэакцыйных публіцыстаў як польскіх, так і беларускіх згоднікаў. Пазіцыя апошніх вымусіла Р. Шырму пайсці на канфлікт.

Праціўнікам нумар адзін стаў рэдактар-выдавец памешчыцка-манархічнай газеты «Slowo» Станіслаў Мацкевіч-Цат. З асанкай правінцыяльнага пана апалагет абшарнікаў — «крэсовых зуброў» высмейваў вызваленчы заходнебеларускі рух як капашню плебеяў, прасгакоў, нападаў на тых беларускіх публіцыстаў, якія бачылі адзіны рэальны шанц для свайго народа ў салідарнасці з міжнародным рэвалюцыйным працэсам. Рэвалюцыянеры ў разуменні Цата — гэта безадказныя падбухторшчыкі цёмных сіл натоўпу, пагроза цывілізацыі. Паглядзеўшы цераз манархісцкія акуляры на постаць Л. Талстога — уладара душ патрыярхальнага сялянства Расіі, пан Цат аб'явіў вялікага гуманіста ні больш ні менш як забойцам рускай дзяржавы і нацыі. Р. Шырма ўспрыняў такія выпады як абразу вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Ён паказаў веліч Л. Талстога, змагара супраць уціску, абаронцу прыгнечаных людзей, класаў, народаў, а рускі народ, вызвалены рэвалюцыяй, назваў перадавой нацыяй свету. Смела падняў Р. Шырма пальчатку, кінутую заходнебеларускімі нацыянал-згоднікамі, якія ўбачылі ў яго выступленні праяву русафільства. У бліскучым памфлеце «Шукаюць аблічча» ён выкрыў абмежаванасць сваіх апанентаў, якім так нясцерпна карцела завесці вызваленчы рух у джунглі заалагічнага нацыяналізму.

Артыкулы пра Пушкіна, Горкага, Коласа аб'яднаны ўнутранай ідэяй, што грамадская свабода — самая высокая праява хараства. Любоў да свабоды — у натуры кожнага сапраўднага мастака. Біяграфіі Пушкіна, Горкага і Коласа ўключаны Р. Шырмам у кантэкст вызваленчага міфа, які ўхваляе трагічную веліч прызвання народных талентаў. Міф гэты складаў сам беларускі народ вуснамі сваіх вешчуноў, ён нарадзіўся ў казках Рэдкага пра Музыку, а нацыянальныя песняры ўвялі яго ў сімвал нацыянальна-вызваленчай веры.

Недзе адначасова з Рэдкім снаваў з нітак народных прымхаў свае патрыятычныя галошанні «над народу сконам» Францішак Багушэвіч. Прыклаўшы стогны Мацея Бурачка да беларускай рэчаіснасці пасля рэвалю-

цыі 1905 года, Р. Шырма зрабіў знамянальную папраўку: «Тут ужо не на месцы былі б слёзы «над народу сконам», бо народ абудзіўся. Прыйшлі новыя песняры і запяялі новыя песні». У ліку першых новых музыкаў быў Сымонка, герой паэмы Я. Коласа, родны брат па долі-нядолі самога Рыгора Раманавіча.

Калі мне даводзіцца ехаць па ціхай лясной шашы з Брэста ў Пружаны ды недзе ля Шакуноў спаткаць хлопчыка-грыбніка з кошыкам у руцэ, заўсёды прыгадваецца даўні час і апрануты ў шарачок вучань царкоўнапрыходскай школы, неслух, які супраць волі бацькоў падаўся ў вялікі свет за голасам прызвання. Яму пашанцавала крыху больш, чым Сымонку: у калектыве настаўнікаў Пружанскага гарадскога вучылішча, на шчасце, шанаваўся ламаносаўскі варыянт міфа пра народныя таленты.

Шырма — літаратурны крытык адчуваў у Сымонемузыку родную душу. І не цяжка было яму адкрыць крыніцы той духоўнай энергіі, якая вадзіла Сымона па дарогах нязвыклых прыгод, перапаўняла душу лятункамі, а тая выпраменьвалася адраджальнай паэзіяй. Творчы парыў — гэта ў рэшце рэшт імкненне да волі. Прыніжаная ўціскам душа мастака пакутуе, набракае пратэстам і азараецца светлым творчым парывам да Свабоды-красы.

Р. Шырму, як мне сёння здаецца, належыць адно з лепшых у беларускім літаратуразнаўстве вызначэнне ролі мастака і мастацтва ў духоўным жыцці народа, ахопленага ідэяй адраджэння. «Літаратура, — піша ён, — дапамагала распілаваць ланцуг нявольніцтва амерыканскіх неграў і ланцугі царскага прыгону... польская літаратура дапамагла палякам пранесці ідэю свайго дзяржаўнага ўваскрашэння праз вякі няволі, беларуская — змагаецца, і не без поспеху, з праклятай спадчынай прыгону — нявольніцкай псіхікай у народзе, будзіць і падымае годнасць працоўнага селяніна, які яшчэ ўчора гнуў галаву, прыніжаўся і з панам іначай не гутарыў, як скінуўшы шапку, нізка кланяючыся»[1].

[1] Шырма Р. Песня — душа народа. Мн., 1976. С. 48.

## СПАТКАННЕ

Вяртаючыся з Вільні, мы з Брылём збочылі на Гродна і адвячоркам зайшлі да Рыгора Раманавіча. Удвух смялей. Засталося ў памяці ўражанне ад цеснаватай кватэры: вузкі калідорчык і рабочы кабінет, у якім ледзь умяшчалася масіўнае чорнае піяніна. Больш дэталяў я не запамятаў, бо галава была занята клопатам, каб не забыцца чаго, каб выпытаць у гаспадара ўсё тое, што мне «да зарэзу» было патрэбным, але заставалася незразумелым і пасля віленскага карпення над заходнебеларускай прэсай і архіўнымі дакументамі. Гаспадар меў выгляд і манеры суровага, хоць і стрымана-ветлівага настаўніка старой даты. На ім быў чорны гарнітур, які адцяняў сівізну скроняў і надаваў усёй постаці статэчнасць. Глыбока пасаджаныя пад густымі пасівелымі брывамі вочы, здавалася, так і прасвечваюць цябе навылёт, а губы хаваліся пад густою навіссю прыспушчаных сівых вусоў, як бы не хацелі выдаваць нейкай таямніцы. Я цешыўся ў душы, што ёсць мажлівасць трымацца з Янкам, а на выпадак чагосьці накшталт экзамену будзем адзін аднаму памагаць.

Але ў размове Рыгор Раманавіч аказаўся больш даступны і зычлівы, чым з выгляду. Гутарка пацякла пасвойску.

Ад сэрца мне адлегла, і стала рупіць толькі тое, што неяк доўга гаворка не сыходзіла на літаратурную каляіну. Рыгор Раманавіч разважаў з Янкам пра песню, пра мастацкую самадзейнасць, тую даваенную і цяперашнюю. У гаспадара падняўся настрой, паплылі ўспаміны, ён стаў прыгадваць свае падарожжы па заходнебеларускіх мястэчках і вёсках, сустрэчы з людзьмі, актывістамі ТБШ, арганізатарамі харавых і драматычных гурткоў, таленавітымі самародкамі-спевакамі, самадзейнымі кампазітарамі. Многія імёны трымаў ён у памяці. Молада і горача захапляўся духоўнай унікальнасцю сваёй цёткі, даравітай сялянкі з вёскі Кацёлкі Захвеі Хвораст. Ад яе фальклярыст запісаў ажно 150 песень. Калі Шырма назваў спявачцы лічбу запісанага, тая ўсклікнула: «Мусіць, я самая грэшная на свеце!» — «Чаму, цётко?» — «Бо ў нас ніхто столькі гэтых песняў не помніць, колькі я». Пра гэта я чытаў у артыкуле Р. Шырмы, апублікаваным у польскім прагрэсіўным часопісе «Sygnały», падшыўку якога мы з Брылём знай-

шлі ва універсітэцкай бібліятэцы[1]. І хоць усё тое было мне знаёма, але з вуснаў Р. Шырмы яно чулася па-новаму. Нейкая ўрачыста-паважная плынь мовы і палескі окаючы акцэнт надавалі апавяданню Рыгора Рамана-віча не толькі персанальную аўтэнтычнасць, але і ўзрушлівую сілу.

Можа, ад таго, што гаспадар напяваў любімыя Захвеіны мелодыі, а Янка ўмела падхопліваў іх, у мяне складвалася адчуванне Вялікадня ці Каляд, як яны запомніліся з дзяцінства.

Рыгору Шырме пашанцавала нарадзіцца ў элітным, багатым здольнікамі і талентамі родзе. Яго дзед Васіль быў слынным у ваколіцы бондарам, гэта яго мянушка Майстровіч стала родавым прозвішчам. Хораша спявала дзедава жонка Ганна і яе дачка Алеся. Грэлі душу калыханкі, што спявала на сон Рыгору маці Тадора Іваўна. Бацька прынёс з царскага войска багата рэкруцкіх, салдацкіх і народных песень. З гэтай жывой сямейнай фанатэкі Р. Шырма выбера ўзоры і эталоны меладычна-інтанацыйных узрушэнняў. Пазней, падводзячы вынікі сваёй доўгай і плённай працы ў беларускім музычным мастацтве, ён скажа: «Вышэй і прыгажэй за народную песню нічога не можа быць! Няма кампазітара больш геніяльнага за народ!» І гучалі гэтыя словы як поклічы вернасці.

Песня народная, створаная ў вяках, азначала для Шырмы абсалют музычнасці. Бясспрэчны і не падлеглы крытыцы ўзор, аснову, родную глебу, на якой толькі і можа вырастаць музыка прафесійная, сучасная, індывідуальная, аўтарская. Для азначэння народнага архетыпа песеннасці і спеўнасці ён ужываў грэчаскае слова «мелас». Вымаўлялася слова густа і таямніча, як у чарадзея закляцце. У самым поглядзе Шырмы на народную песню было, па маім уяўленні, штосьці міфалагічнае і міфатворчае. Міфалагічны тып мыслення не карпее над аналізам з'яў, сувязяў і рэальных прычын. Каб вытлумачыць сутнасць быцця, яму важна прыгадаць прэцэдэнт, успомніць з'явы аналагічныя, паказальныя і прапрадаўнія. Сілай даўнасці і жывучасці ўзносяцца яны да рангу ідэалу, вечнага і непахіснага ўзору. Гэта было даўно!.. Было адвеку ў сваіх лепшых, найбольш

[1] Р. Шырма не выдаваў сваяцтва з інфарматаркай у газетнай публікацыі. Не хацеў, відаць, каб у чытача паўставала ўяўленне, быццам яго фальклярыстычныя пошукі носяць прыватны вузкі характар.

дасканалых формах, таму *яно* мусіць застацца і паўтарацца ў вяках. Яго патрэбна шанаваць, памнажаць, працягваць, але не адхіляць. Напэўна, у вачах лёгкіх на крытыку і падкіх на поспех маладых ды ранніх спрытнюг ад мастацтва пазіцыя патрыярха магла выглядаць архаічнаю і кансерватыўнаю. Патрыярх чуў наскокі паклоннікаў моды, нявольнікаў таннага поспеху. Мне бачылася, як тлеюць недзе побач канфлікты паміж ула-даром беларускага меласу і павярхоўнымі прагматычнымі спажыўцамі яго, упэўненымі, што валодаюць больш лёгкімі спосабамі прысваення і праставання дарогі да славы. Да яго даходзілі праекты, прапановы і нават патрабаванні «асучасніць» капэлу, зрабіць яе рэпертуар і стыль сугучным з шумным вэрхалам казённых святкаванняў, на якіх бліскалі штучныя бляшкі прыпісак. З горыччу гаварыў Рыгор Раманавіч пра выбрыкі блудных сыноў з ягонага калектыву, людзей, якіх ён, майстар і педагог, сам вырасціў, вывеў у людзі. Горка настаўніку бачыць такое неразуменне свайго вучэння, асновай якога была вера ў недасяжную геніяльнасць народа, творцы меласу, адвечнага, універсальнага ўзору музычнасці і музыкі як мастацтва, закліканага вярнуць здароўе душы сучасніка, разладжанай стрэсамі. Сакрэт гэтага лекавання ў гарманічным суладдзі душы індывіда з душою народа.

Даймала нашага гасціннага гаспадара яшчэ нязжытая горыч першай пасляваеннай спробы выдаць свае шматгадовыя запісы фальклору. Як на бяду, рэдактарам зборніка паставілі наідэалагізаванага вершаплёта М. Клімковіча. Ён так праняўся рэдактарскай адказнасцю, што нават прысвоіў сабе права «паляпшаць» народныя тэксты. Узяўся за «апрацоўку», забыўшыся на дасціпную эпіграму з «Вожыка»: «Вельмі б добра пеў салоўка, каб не тая апрацоўка». Класічны фальклор, як вядома, ідэалізуе свет, малюе яго прыхарошваючы і робіць гэта зычліва, з добраю верай у тое, што як яно скажацца, так і збудзецца. А рэдактар не прызнаваў цудаў, не дапускаў іншага падыходу да мастацтва, як толькі «з пазіцый сацрэалізму». Чытаючы калядку: «Божаява праявілася — сорак кабылак ажарабілася і яшчэ столькі назначылася, сорак авечак акацілася і яшчэ столькі назначылася...», рэдактар упадаў у ідэалагічны жах і гатовы быў падазраваць збіральніка, быццам той, «прыдурваючыся», падсоўвае яму кулацкія пес-

ні, каб скампраметаваць яго і выдавецтва. Раздражнёны, ён ставіў ультыматум: або здыму тэкст, або згодзіцеся на «дапрацоўку». Прынцыповасць не дазволіла Рыгору Раманавічу ісці на кампрамісы з вульгарызатарам. І ён, сцяўшы сэрца, спыніў тады выданне на першым пашкуматаным зборнічку. Пачаць нанова і па-сапраўднаму здолеў толькі ў 70-я гады на хвалі антыкультаўскага разводдзя. Праўда, і там даводзілася змагацца супраць ідэалагічных табу, адбівацца ад папрокаў за «старамоднасць», «ідэалагічныя скрыўленні», «безыдэйнасць». Змагаўся часта адзін, смела выступаючы на з'ездах і пленумах, друкуючы палемічныя артыкулы ў прэсе. І перамагаў, бо тое, што апаненты называлі безыдэйным і старым, было агульналюдскім і вечным.

Гутарка наша натуральна ўсё ж сышла на літаратуру. Рыгор Раманавіч прыгадаў — для мяне гэта здавалася нечаканым — заходнебеларускіх паэтаў сярэдняга пакалення, што атрымалі адукацыю ў сценах Віленскай беларускай гімназіі, як сваіх харыстаў. «О, любілі спяваць! Бывала, прыйду да іх на спеўку вечарам. А збіраліся ў сутарэнні. Праспяваем колькі праграмных, а потым і пачынаюць прасіць: «Давайце, калі ласка, нашу маладзёжную». Я разумею, што просяць падпольную. У школьным будынку небяспечна... Але так яны просяць, што адказаць нельга, згаджаюся, толькі кажу: напаўголаса, ціха. І праспяваем адну, а потым і другую. І пойдзе, і пойдзе камсамольскі рэпертуар». Спевакамі жылі ў ягонай памяці Валянцін Таўлай, Анатоль Іверс, Алесь Салагуб, толькі Максім Танк успамінаўся па-іншаму.

Пра Танка Рыгор Раманавіч гаварыў тым урачыстым тонам, што і пра народную песню, пра народныя таленты. Паважны і вытрыманы інтэлігент тут распальваўся раптам, як нейкі азартны калекцыянер. Талент Максіма Танка быў для яго пасланнем лёсу, адкрыццём веку. Гэта можна зразумець: ён сустрэў маладога паэта ў часы ліхалецця, калі ніва заходнебеларускай прагрэсіўнай літаратуры і культуры была здратавана і спустошана жалезнымі капытамі «пацыфікацый». На пабоішчы шныпарылі кар'ерысты, згоднікі, сеючы ілюзіі апалітычнага культурніцтва, прыхаванага покрывам спакуслівай, чыстай красы. У адным з пісьмаў, адрасаваных варшаўскаму зямляцтву беларусаў, Рыгор Раманавіч пісаў у тую пару: «... адбываецца нейкі працэс знячуленасці да маральнай подласці на грунце грамад-

скім. Да таго прытупілася чуткасць грамадскай этыкі, што нават публічныя даносы ў прэсе не выклікаюць абурэння. А найгорш тое, што і моладзь, заўсёды ўражлівая і багатая высокімі парывамі, таксама пачынае траціць гэтыя высокія ўласцівасці... Праўда, гэтага сказаць не можна пра ўсіх, ёсць адзінкі светлыя. Але гэта адзінкі»[1]. Такою светлаю адзінкай з'явіўся Максім Танк. Рыгор Шырма адчуваў яго як бы абраннікам і пасланцом лёсу, вестуном надзеі, што выходзіў з самога пекла барацьбы, з барыкад і абвяшчаў новую веру нязломнасці.

Перачытваючы пасля нашай гутаркі прадмову Шырмы да першага Танкавага зборніка «На этапах», я пачынаў усведамляць важную, хоць і нялёгкую для сябе ісціну, што разумець і цаніць таленавітага мастака можа найлепш той, хто сам надзелены мастацкім талентам, хай сабе іншага тыпу і складу, але мастацкім і роўнавялікім. Бачу і сёння шэраг тагачасных Шырмавых ацэнак бліскучымі адкрыццямі. Узрушае сам погляд на прыроду паэзіі вызвалення і яе стваральнікаў як на з'явы лёсавыя, над якімі не ўладарны нічыя воля, ні прымус. Гэта «Бунт чорнай зямлі» і «жалезны марш работніцкай масы...». І пра маладога Танка канкрэтна: «Ідэя волі не пакідае паэта нідзе». «Максім Танк... на нашым заходнім небасхіле... загарэўся зоркаю першай велічыні. Думаем, што нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да Вялікага Сузор'я — Купалы — Коласа»[2].

Ён глыбока і тонка адчуваў індывідуальную непаўторнасць, унікальнасць натуры мастака. Гэта відаць і ў артыкулах пра Танка і пра кампазітараў Грачанінава і Галкоўскага, пра спевака Забэйду-Суміцкага. Знамянальным выдаецца мне бліскучае параўнальнае вызначэнне творчых постацяў Купалы і Коласа: «Адзін — парывісты, з шырокім размахам творчай думкі, захапляе магутнымі, смелымі вобразамі, кідае звонкімі вершамі і, як прарок, кляйміць «ворагаў беларушчыны», другі — чаруе сваёй мяккай лірай, гармоніяй свайго духу, сваім мудрым эпасам, які, здаецца, злівае паэта з беларускай прыродай і навакольным жыццём». Напісана гэта ў 1936 годзе, калі наша, замуленая сацы-

[1] Цэнтр. б-ка АН Літвы. рук. ф. БВФ 588.

[2] Баравы Р. Матывы творчасці Максіма Танка // Танк М. На этапах. Вільня, 1936. С. XII—XIV.

ялагізатарскімі догмамі, крытыка нівеліравала і ледзь не атаясамлівала Купалу і Коласа, спалучаючы іх імёны рытуальным злучнікам «і». Шырмава азначэнне нясе ў сабе сапраўды эстэтычны клас і літаратурны бляск, а галоўнае — высокую праўду, даступную толькі мастаку, толькі таленту.

Прыгадваючы Шырмавы расказы таго вечара пра таленты Заходняй Беларусі, я, здаецца, чую сцішаны, як бы напалоханы (каб не зрачы дзіця) голас: «кудлатыя метафары», «беларуская агава, што цвіце раз у 100 год»... Талент для Шырмы быў такой каштоўнасцю, дзеля якой не маглі быць завялікімі ніякія эпітэты. І ніякія клопаты і рызыка. Тады мы пачулі пра тое, як ён павярнуў на выданне зборніка «На этапах» грошы, якія ахвяраваў яму зямляк Васіль Труцька, ваенны інвалід родам з вёскі Агароднікі, што на Косаўшчыне, для друку сабраных Шырмам народных песень. Рыгор Раманавіч нібы апраўдваўся: «Я быў пэўны, што кніжка акупіцца. Песні няхай крыху пачакаюць. Бо ў паэта было ўсё такое жывое, балючае... Так і дыхала бунтам чорных скіб. І пералівалася бурнымі хвалямі Нарачы. Я як узяў у рукі той сшытак, ды як пачытаў толькі пару рэчаў, то й зразумеў, што гэта пэрлы».

У маладым, не вядомым яшчэ паэце Р. Шырма пазнаў чалавека, які нёс у сабе талент, цяжкі і пачэсны дар. Фальклярыст, музыказнаўца, дырыжор і літаратар, сам ён тварыў на рэнесансавы лад, шматбакова, шырока і многа. Уласная даравітасць дазваляла яму беспамылкова апазнаваць іскры таленту ў іншых людзей. «Рыбак рыбака бачыць здаляка». Прыгадваючы свае доўгія вандроўкі па вёсках, пошукі самародкаў народнай творчасці, Р. Шырма піша: «Сутыкаючыся з гэтымі талентамі, я заглянуў у бяздонныя крыніцы народнай песнятворчасці, ад якой, як зачараваны, не маю сілы ўжо адарвацца»[1].

Рыгор Раманавіч слухаў і чуў паэзію, што кіпела і гейзерамі біла з глыбінь вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Паэзія змагання, успрынятая музыкальным слыхам Шырмы, адкрывала нейкія новыя і не заўважальныя для чыстага філолага якасці і рысы. Выразна відаць гэтая арыгінальнасць аспекту ў рэцэнзіі на паэму «Нарач». Р. Шырма знайшоў і вылучыў там два вобра-

[1] Шырма Р. Песня — душа народа. С. 155.

зы — вобраз прыроды і вобраз рыбацкай масы, прытым успрыняў іх не як вобразы рэчыўныя, пластычныя, а як вобразы музычныя, духоўна эмацыянальныя, адносіны між імі складалі дзіўную мелодыю стыхій, надзеленых пявучым духам самога жыцця, духам меласу. «Дзеючыя асобы на фоне прыроды і масы народнай выконваюць ролю салістаў музычнага аркестра».

Артыкулы Р. Шырмы пра фальклор і літаратуру хвалююць, бо ў іх аснове ляжыць глыбокае ўяўленне пра ролю мастацтва ў духоўным жыцці народа і патрабавальнасць да мастацтва на нацыянальным і глабальным узроўні. «Дзеля таго, каб выйсці ў шырокі свет і заняць належнае месца ў сям'і культурных народаў, мала мець багатую народную творчасць. Трэба, каб з гэтай народнай асновы выраслі вартасці агульналюдскага значэння. Трэба, каб і наш народ споўніў сваю культурную місію ў гісторыі чалавецтва».

Было ў мяне адно, далікатнае, як на той час, пытанне да Рыгора Раманавіча, і я баяўся яго задаваць, каб не даняць шаноўнага дзеяча ўсціблівай настырнасцю, якая можа быць даравальнай следчаму, але не даследчыку. Справа датычыла супярэчнасцяў у дакументах, сабраных следствам і ўключаных у судовую справу супраць кіраўнікоў ТБШ. Там побач стаялі такія вось сцверджанні: «Паводле даных паліцыі, Шырма, працуючы настаўнікам беларускай гімназіі ў Вільні, прымаў удзел у пасяджэннях вучнёўскіх ячэек» (л. 25). Шырма і Стацкевіч «падпарадкоўвалі названае таварыства дырэктывам Камуністычнай партыі». Прыкладзена была і лістоўка ЦК КПЗБ, выдадзеная ў сакавіку 1931 года з заклікам «Да барацьбы за вызваленне з турмы беларускіх дзеячаў» (л. 11). Але праз год лістоўка таго ж органа абзывае тых жа дзеячаў ні больш ні менш як «здраднікамі»! У час, калі Стацкевіч сядзеў у турме, іншая адозва, выдадзеная пад шыльдай ЦК КПЗБ, пісала: «ТБШ зноў атрымала здрадлівы ўдар у спіну ад учарашніх сяброў Стацкевіча і Пяткевіча» (л. 23). Яшчэ праз год, у красавіку 1933 года, наваградскі ваявода выдаў цыркуляр, дзе паведамляў павятовым старастам: «З годных веры тайных крыніц Ваяводскае ўпраўленне атрымала інфармацыю, што 4.11.гг. у Вільні пасля суда супраць членаў Галоўнай управы ТБШ на кватэры Шырмы адбыўся сход, на якім прысутнічалі Стацкевіч, Пяткевіч, Шырма, др. Марцінчык, Паўловіч...

На сходзе... пастанавілі звярнуцца да ўсіх акруговых упраў, каб тыя пачалі інтэнсіўную працу... Наступнага дня кожны прыезджы ўдзельнік сходу быў выкліканы асобна на нараду з прадстаўніком ЦК КПЗБ»[1].

Збіраючыся да сустрэчы, я сказаў сабе цвёрда, што мушу ўсе супярэчлівасці абавязкова высветліць. Але тут атмасфера прыўзнятасці, святло сямейнага вогнішча Рыгора Шырмы абяззбройвалі мяне.

Расказаўшы пра перыпетыі з выданнем зборніка Максіма Танка, увесь тыраж якога па загадзе пракурора трапіў на цэлюлозную фабрыку ў Ландвараве для пераапрацоўкі на кардон, гаспадар схамянуўся, што мы ўжо даставаткова доўга гаворым, каб і падмацавацца. Адмаўляцца мы не сталі. У той час людзі нашага становішча прывыклі часам дзейнічаць і па прыказцы: «Воўка ногі кормяць».

І вось рабочы стол Рыгора Раманавіча ператварыўся ў трапезны. Пасярэдзіне заняла месца хлебніца, пры ёй чацвярцінка гарэлкі. Але кілішкі былі пастаўлены толькі нам, гасцям. Мы чакалі, што ж гэта будзе. Нават прагучала наіўна-дэмакратычнае: «А Вам?» Рыгор Раманавіч гарэзліва ўсміхнуўся ў адказ і, сягнуўшы двума пальцамі за лацкан, дастаў з верхняй кішэнькі свайго чорнага гарнітура малюсенькі срэбны кілішак, велічынёй з напарстак, на тоненькай ножцы.

— Вось я, бачыце, які горкі п'яніца, нават чарку заўсёды з сабою нашу.

Гаворка пра гэтую мініяцюрную чарачку прывяла нас да абмеркавання звычаяў, нораваў — даваенных і пасляваенных. Пры Польшчы камуністычнае падполле забараняла сваім членам ужываць алкаголь, каб пад хмелем не рассакрэчваліся таямніцы. А ад падпольшчыкаў «сухі закон» перайшоў і на ўсіх актывістаў культурна-асветнага руху. Шырма апісаў дзесьці нават сустрэчу Новага года ў гасцях тэбэшоўцаў на Будслаўшчыне з песнямі, але без традыцыйнай чаркі. Гаспадар наш быў прыхільнікам строгасці нораваў, маральную чысціню лічыў асновай народнай псіхікі, звычаяў, традыцый. Але ён не быў педантам. Пагаджаўся на маленькую ўступку новаму пасляваеннаму этыкету.

— Ды не такі ён і новы, — асмеліўся я заўважыць.— Вунь Ян Чачот яшчэ пісаў: «Добра памоч суседу — ра-

---

[1] ЦДА Гродзенскай вобл., ф. 200, воп. 2, спр. 12, л. 143.

зам сесці к абеду, ды злы абычай — водкі дай ды дай». Значыць, абычай народны...

Чацвярцінка, якую мы з Брылём памаленьку асушвалі, падагравала застольную гаворку пра норавы, адхіленні і меру ва ўсім. Гэта дало мне штуршок адважыцца на цяжкое пытанне. На маю радасць, Рыгор Раманавіч ахвотна і весела ўзяўся развязваць цяжкі для мяне вузел.

— Усяго было на свеце... Вы разумееце, гэта ж розуму непасягаема і сумленню: мы, члены ўправы, арыштаваны, польскія следчыя дапытваюць нас. Акт аскарджэння закідае нам камуністычную змову, а падпольныя камуністычныя лістоўкі лаюць нас згоднікамі і яшчэ больш... Дапамагаюць рэакцыі ачарніць нас. І скажу вам цяпер, гэта ўжо не сакрэт: кіраўніцтва ж партыйнае мне так давярала, так давярала, што сваю партыйную касу перадавалі мне. І я, маючы касу, па іх указаннях выдаваў грошы на патрэбныя партыйныя справы, у тым ліку — субсідыі на прагрэсіўную прэсу, на масавыя асветніцкія мерапрыемствы і г. д. Вось як можа быць! То была такая абіда, такая ўжо крыўда, што проста плакаць хацелася. А ў вайну, калі мы з калектывам маім у прыфрантавых часцях ды ў шпіталях вайсковых выступалі, то — вы падумалі б, знайшлася ж нейкая чорная душа — напаклёпнічала на мяне. Усё тое ж самае вывалак... А следчы, вядома, малады, дапытвае ды, зразумела, не ведае ён таго жыцця пры Польшчы, дык так усё строга і гарачыцца і аж крыкнуў на мяне: «Ох ты, нацдэм!» Дый выгаварыць тое слова не ўмее... Я на яго гляджу ды кажу яму: ты ж мне ў сыны гадзішся. І як сказаў, то й заплакаў, паверце, заплакаў я... Можа, гэта і падзейнічала. Але высветлілі і выкрэслілі тое хутка.

Пасля мінуты маўчання Рыгор Раманавіч саўладаў з сабою і рэзюміраваў гэтую тэму дасціпнаю прыказкай: «Бойся каровы спераду, каня ззаду, а дурня з усіх бакоў»...

Моцным натурам не ўласціва помслівасць і злапамятнасць. Пазней, ужо ў 1960 годзе, я меў мажлівасць сустрэць ва ўспамінах Сяргея Анісава — функцыянера, прысланага з БССР у заходнебеларускае падполле, катэгарычны і прафесійны позірк на праблему знутры: «Нігілізм у нацыянальным пытанні, прыкрыты плашчом дрэнна зразуметага інтэрнацыяналізму, не быў у нека-

торых партыйных кругах да канца пераадолены. Яшчэ ў 1935 годзе некаторыя партыйныя работнікі КПЗБ адмоўна адносіліся да адзінага ў той час прагрэсіўнага часопіса ў Заходняй Беларусі «Летапіс ТБШ», які рэдагаваў Рыгор Шырма»[1].

Афіцыйным выдаўцом «Летапісу» быў віленскі адвакат-нашанівец Фелікс Стацкевіч, аднак жа людзі, пасвечаныя ў тайны фірмы, згодна называюць фактычным выдаўцом і рэдактарам Рыгора Шырму — аўтара праграмных і палемічных артыкулаў, публіцыста і арганізатара выдання. Адчуваючы на сабе, на Таварыстве беларускай школы і на часопісе няўклюдныя гульні і псоты закамплексаваных і наструнёных партыйнай дысцыплінай сектантаў з апарату КПЗБ, Шырма меў дастаткова праніклівасці і здаровага сэнсу, каб бачыць заходнебеларускае камуністычнае падполле, у прынцыпе, патрыятычным. Асабліва кранала яго ахвярнасць моладзі, для якой палітычная і культурна-асветная дзейнасць была аднолькава патрэбнай і вартай ахвярнага змагання. Прыгадваючы на вечары, прысвечаным 60-годдзю Максіма Танка, свае кантакты з падполлем у часе працы сакратаром Галоўнай управы ТБШ, ён падкрэсліваў, што члены КПЗБ і камсамола «належалі адначасна да легальнай арганізацыі Таварыства беларускай школы. На ўсё жыццё захавалася ў сэрцы тая рэвалюцыйная рамантыка, якою адзначаліся гэтыя арганізацыі — дысцыпліна, адданасць, маральная ўстойлівасць... згуртаванасць падпольнага камсамола, які мог, здаецца, у немагчымых абставінах зладзіць хор, бібліятэку-чытальню, арганізаваць канцэрт-спектакль, лекцыю ў роднай беларускай мове, дапамагчы правесці масавы сход ТБШ, дастасаваць звычай і абрады да свае справы»[2].

## ВЫРУЧКА

Пасля першай сустрэчы з Рыгорам Раманавічам я месяцы тры пісаў сваю работу — нарыс гісторыі заходнебеларускай літаратуры. Хапіла духу разгледзець масавыя формы паэзіі, прозы і публіцыстыкі 20-х гадоў.

---

[1] Анісаў С. Крутымі шляхамі. Мн., 1960. С. 36—37.
[2] Шырма Р. Песня — душа народа. С. 380.

Заняло гэта сотні дзве машынапісных старонак. Навуковы кіраўнік, прафесар Іван Васільевіч Гутараў, які прытрымліваўся, як на той час, смелага, ды што казаць, выгоднага для сябе прынцыпу, даваць аспіранту свабоду, не вадзіць за ручку, прачытаў мой рукапіс і абвясціў, што дысертацыя гатовая, будзем абараняць. Пры папярэднім абмеркаванні на вучоным савеце інстытута знайшоўся пільны апанент, не літаратар нават, гісторык, які дагледзеў ідэйны дэфект, нават ідэалагічную дыверсію, а я, грэшны, зрабіў усяго спасылку на «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, не падумаўшы, што той значыцца ў спісах ворагаў народа. І. Гутараў абараняў мяне як партызан партызана, не дапусціў да выключэння з аспірантуры, але пераканаць вучоны савет, што праца мая гатовая да абароны, не здолеў. Я ж сам адчуў з-за таго змяінага ўкусу гідкасць і апатыю, рукапіс здаваўся як не сваім, спаганеным. Уласна кажучы, не рукапіс, а тое, ува што давялося б launch ператварыць яго, каб не даць падстаў для прыдзірак. Многія ж заходнебеларускія пісьменнікі, вучоныя і публіцысты загінулі ў БССР, дзе яны даверліва шукалі палітычнага прыстанішча і падтрымкі. А мне ўсё, здзеянае рэпрэсіўнаю ўладай, трэба было прызнаваць слушным ды яшчэ шукаць пацверджання ў творах, прыпісваць заганы. У лепшых выпадках трэба было б замоўчваць многае з таго, што было каштоўным. Закінуў я зацверджаную тэму ў кут, да лепшых дзён.

З дэпрэсіі дапамог выйсці нястомны аптыміст, стрэляны верабей І. В. Гутараў, ён параіў абмежавацца творчасцю аднаго Максіма Танка. Змена тэмы прыпазніла маё навуковае аступеньванне на некалькі гадоў, затое час працаваў на мяне, павялічваў шанц быць самастойным. У 50-я гады я пару разоў сустракаўся з Рыгорам Раманавічам у Мінску, куды ён пераехаў са сваёю харавой капэлай. Шырма стаў для мяне кансультантам па грамадска-палітычных арыентацыях многіх дзеячаў і віленскіх органаў друку. Ад яго я даведаўся пра псеўданім Уладзіміра Самойлы — Суліма. Ён адкрыў мне імёны і некаторых псеўданімаў са згодніцкага лагера, даючы ім ёмістыя характарыстыкі. Так, Бужанскім аказаўся ў 30-я гады колішні абяцаючы паэт Яўген Бартуль, ён паўтарыў шлях аднаго з герояў Купалавай «Песенькі пра некаторых маладых людзей»: пайшоў служыць у пракуратуру і па іроніі лёсу прысутнічаў на

допыце Максіма Танка. Каб залагодзіць грамадскую думку і зняць вярэду з сумлення, Бартуль пасіваў артыкулы пра заходнебеларускую літаратуру з авангардысцкіх пазіцый, хваліў Танка да нябёс. Для службоўца, можа, і гэта было смеласцю. А Шырма называў авангардную музыку бryndзюшкамі або музычнай неўрастэніяй.

Шмат цёплых слоў пачуў я тады ад Рыгора Раманавіча пра паэта-самародка Сяргея Крыўца, з якім Шырма блізка сышоўся ў Беластоку напярэдадні вайны. Да гэтага паэта Рыгор Раманавіч адносіўся як да роднага сына, расказваў пра частыя бяседы, гаварыў мне, што мае папку яго рукапісаў, але на маю просьбу паказаць іх аднекваўся: паперы не разабраны, няма часу... Так было нават у пачатку 60-х гадоў, калі я складаў па дамоўленасці з выдавецтвам анталагічны зборнік паэтаў былой Заходняй Беларусі «Сцягі і паходні». Давялося перадрукаваць толькі пару вершаў С. Крыўца, якія сам Рыгор Раманавіч змясціў у зборніку «Мы іх не забудзем».

Прызнацца, раўнівасць уладальніка рукапісаў мяне прыкра здзівіла. Але пазней я зразумеў, што не варта было мне крыўдаваць на яго, хоць ён і затрымаў на шэраг гадоў знаёмства грамадскасці з С. Крыўцом. Рыгор Раманавіч меў важкія падставы, каб не даваць мне тады рукапісаў: ён вырашыў даручыць справу выдання Максіму Танку. Неяк пры сустрэчы Яўген Іванавіч сказаў мне, што не лёгкую атрымаў ад Шырмы задачу, бо вершы патрабавалі ўдумлівага рэдагавання.

Але вярнуся да сваёй дысертацыі. Нарэшце прыйшоў час абароны — 15 лютага 1958 года. Перад пачаткам цырымоніі на калідоры БДУ сабралася група сяброў і знаёмых. Акрамя Янкі Брыля прыйшлі мае партызанскія таварышы, а цяпер калегі-навукоўцы — гісторыкі Аляксандр Мацко і Аляксандр Царук, аспіранцкі друг Фёдар Янкоўскі, сябра школьных гадоў Аляксей Карпюк і шэраг іншых. Прыйшоў і Рыгор Раманавіч. Кампанія весела гаманіла, падбадзёрваючы мяне, як баксёра перад выхадам на рынг. Пунктуальна ў назначаны час паказалася на калідоры прыкметная постаць Крапівы. Параўняўшыся з намі, Кандрат Кандратавіч павітаўся, абвёў прысутных позіркам і сказаў:

— Ну што, сабралася заходняе зямляцтва? Можна і пачынаць...

Усе засмяяліся. Сапраўды, мінская інтэлігенцыя з іншых абласцей не трымалася такім гуртам, як «заходнікі».

На абароне, як на юбілеі ці на пахаванні, абрад наказвае гаварыць толькі станоўчае. Не ў меру шчодрым былі мой кіраўнік, прафесар І. В. Гутараў, і галоўны апанент М. Р. Ларчанка. Гэта выклікала ў Кандрата Кандратавіча крытычную рэакцыю. Відовішча нашага зямляцкага збору, відаць, яшчэ падагрэла патрэбу адрэзагаваць педагагічна, ацвярэзіць «соискателя». І вось ён узяў слова (цытую па стэнаграме):

«Крапіва: Ці не рана яшчэ так гаварыць пра маладога вучонага, які толькі ўступае на гэты шлях?.. Калі б справа сапраўды выглядала так, як тут гаварылі, дык трэ было б прысвоіць доктарскую ступень.

Гутараў: Спачатку так і думалася.

Крапіва: Я чытаў аўтарэферат і на аснове гэтага магу меркаваць, што тав. Калеснік не так ужо добра валодае тэрміналогіяй і асабліва рускаю мовай. Акрамя таго, у аўтарэфераце ёсць некаторыя палажэнні, якія выклікаюць сумніва, бо яны недастаткова якасныя. Я думаю, што тут трэба арыентаваць тав. Калесніка, каб ён у далейшым збавіўся ад гэтых недахопаў, а не захваляць работу».

Кандрат Кандратавіч прывёў канкрэтныя агрэхі і недакладнасці. Сапраўды, аўтарэферат я напісаў недалужна. Гэта была першая абарона па новых, больш жорсткіх правілах, але схем для дысертацыйных работ і рэфератаў, якія абавязковыя сёння, тады яшчэ не было. Можна было ўжываць адвольную форму. Я ж, на сваю бяду, наогул не бачыў сэнсу ў тым, каб паўтараць тэзісна тое, што было ўжо раз выкладзена ў рукапісе. Пісаў як па канец рук, ледзь адольваючы ўнутраны пратэст. Адсюль і ўсплывала пустая ахвота паарыгінальнічаць. Выдатны мастак слова, вопытны рэдактар, Кандрат Кандратавіч адразу ўбачыў у тэксце збоі слова, што выдавалі прэтэнцыёзнасць і прыблізнасць думкі. Мяне чакала кара за недаацэнку такой рэчы, як аўтарэферат. Асабліва эфектна крытыкаваў апанент маё свавольнае сцверджанне, што «рэвалюцыйная паэзія магла ўваходзіць у іншыя надбудовачныя з'явы і зліваецца з імі».

— Што гэта значыць? — пытаў Кандрат Кандратавіч. — Прашу расшыфраваць гэтае палажэнне... Літаратура, якая з'яўляецца надбудовай, часта ўваходзіць

у другія надбудовачныя з'явы? Куды? У рэлігію, філасофію, судовае справаводства?

Недакладныя фармулёўкі лёгка зводзіць да абсурду. Прызнацца, я спачатку разгубіўся. Асабліва тады, калі адна асоба з членаў савета кінула ў знак салідарнасці з Крапівою рэпліку: «Мне думаецца, гэтае выказванне проста непрадуманае», — я адчуваў сябе, як кот на гарачай бляхе.

Ахалоньваць пачаў, прыслухоўваючыся да выступлення Рыгора Раманавіча Шырмы. Чалавек высокай культуры, ён звярнуўся са словамі ўдзячнасці універсітэту, які даў мажлівасць вывучыць «тую рэвалюцыйную рамантыку, якая нараджалася ў вызваленчай барацьбе народа ў Заходняй Беларусі». Я сцяміў, што Рыгор Раманавіч настойвае на прызнанні спецыфікі заходнебеларускай літаратуры. Пераходзячы да канкрэтных пытанняў, ён падтрымаў мае намеры знайсці адметнасць заходнебеларускай паэзіі і сам выказаў сваё разуменне гэтай адметнасці: «Спачатку там вялікае месца займала слязлівая «нашаніўская» паэзія. Паэты ўмелі толькі плакаць. А дзе трэба было сказаць баявое рэвалюцыйнае слова, яны выкрыквалі абстрактныя лозунгі: «Бі ў самы велізарны звон!» Вось такой схематычнасці прамоўца супрацьпаставіў паэзію Танка: «Ён падняў такі пласт нашага чарназёму, што прымусіў нас глядзець на жыццё іншымі вачыма».

У мяне хапіла прысутнасці духу, каб уцяміць, што трэба адстойваць думку, якую, на жаль, я даволі нягегла выказаў. Думка была слушная. Меў жа я на ўвазе повязі масавай рэвалюцыйнай паэзіі з ідэалогіяй вызваленчага руху, з палітыкай і пэўную утылізацыю эстэтычнага, калі яно становіцца выказнікам адначасова эстэтычных і грамадска-палітычных ідэй. Прыгадаліся мне, як тапельцу саломінка, адпаведныя выказванні Энгельса пра апасродкаванасць сувязі паміж базісам і самымі эфірнымі формамі надбудовы.

Рыгор Раманавіч як бы ілюстраваў гэтыя ўзаемаадносіны, расказваў, які ідэалагічны ціск павінен быў адольваць Танк, каб застацца самім сабою. «Не ўсе разумелі значэнне яго вершаў. Адны гаварылі, што гэта камуніст і паэзія яго вузкатэндэнцыйная, а не мастацкая. Шпіцлі проста пальцам паказвалі. Другія гаварылі, што гэта хоць і харошы паэт, але яго хваляць і могуць сапсаваць. Я памятаю, калі выходзіла яго першая кніга

«На этапах», дык у літаратурных колах раздаваліся галасы: навошта даваць хвалебны ўступны артыкул і фотаздымак, маўляў, можна сапсаваць пісьменніка маладога. Жыццё паказала, што Танк быў варты той высокай ацэнкі, якую я ў свой час даў яму ва ўступным артыкуле да зборніка яго вершаў».

Ускосна Рыгор Раманавіч гаварыў і пра маю сітуацыю, пра маю работу: «Не робей, воробей!..» Прычакаўшы сваёй чаргі, я неяк нязгорш выканаў належную па пратаколе ролю — абараняўся, згаджаўся з апанентамі, дзякаваў-дзякаваў... Вінаваціўся перад Крапівою, растлумачыў, што меў на ўвазе повязі мастацтва з больш заземленымі формамі грамадскай свядомасці, якія ў Заходняй Беларусі непасрэдна напрасткі замыкаліся на вызваленчы рух і служылі зброяй у змаганні народа за свабоду і годнасць.

На галасаванні аказалася: два галасы супраць. Ну што ж, была гэта не славутая лыжка дзёгцю, а толькі лыжачка. Пасля абароны наладзілася сціплае застолле ў банкетным зале фабрыкі-кухні. Тады «дысертацыйныя» банкеты яшчэ не былі забаронены, аб'ектыўнасць вучонай сябрыны ставілі вышэй падазрэнняў, і слушна. Прыняў запрашэнне і звабілены каларытнаю кампаніяй Рыгор Раманавіч. Сядзеў ён паміж самымі вясёлымі ў літаратурных застоллях Мінска той пары людзьмі — Гутаравым і Ларчанкам. Зразумела, прыйшоў ён і цяпер у поўным антыалкагольным узбраенні, дастаў з кішэнькі чорнага гарнітура свой срэбны кілішак, пачаў адмерваць сабе камарыную дозу на ўвесь вечар. Іван Васільевіч Гутараў, чалавек шырокай натуры, ацаніў сітуацыю і ўбачыў тут штосьці фарсавае. Каб утрымаць у застоллі сацыялістычную роўнасць, заказаў афіцыянтцы пару бутэлек шампанскага і сам жа, на маю прыкрасць, разлічыўся. Я паспрабаваў папраўляць свой промах, але Іван Васільевіч па-бацькоўску суняў мяне і рассмяяўся: «Ну, палічым гэта як апошнюю кансультацыю. Не будзем дробязнымі». Брыль, які тамадзіў на банкеце, даў яму слова, і мой вясёлы навуковы апякун навёў тост у стылі Франсуа Рабле.

Я тады са шчырым задавальненнем бачыў, як, седзячы між двух сангвінікаў і веселуноў, заўсёды ўрачыста паважны Рыгор Раманавіч ад душы смяяўся.

*1980—1990*

# Абед у Таўлая

1

Выступаць, гаварыць і пісаць пра Валянціна Таўлая мне дае права не так асабістае знаёмства з паэтам, як пазнейшая працяглая праца над вывучэннем яго жыцця і творчасці. Знаёмства наша было кароткае (менш чым год), а на шляху да збліжэння стаяла некалькі перашкод: бар'ер узросту (восем гадоў), бар'ер літаратурнага стажу (гадоў васемнаццаць), нарэшце, далікатны бар'ер балючай памяці вайны з яе незагойнымі ранамі, свежымі магіламі, якіх лепш было не кранаць, як і рабочых таямніц партызанскага разведчыка, якім нядаўна быў Таўлай. Сёння адважваюся прыгадаць пару здарэнняў, якія мне памятаюцца, хоць, верагодна, яны не маюць ні прынцыповай навізны, ні сэнсацыйнага гучання. Памятаюцца мне яны, бо стымулявалі і ў нейкай меры накіроўвалі доўгі, расцягнуты на шмат гадоў пошук матэрыялу для грамадзянскай і літаратурнай біяграфіі паэта.

Перш чым пазнаёміцца з Таўлаем, я пачуў пра яго мужнае жыццё рэвалюцыянера-палітвязня і партызанскага сувязнога ад Янкі Брыля, да якога заходзіў, калі вучыўся ў Мінскім педінстытуце (1945—1949), па праве земляцтва і партызанскага сяброўства.

Інстытут размясціўся часова ў адным ацалелым будынку сярэдняй школы на сённяшнім Ленінскім праспекце насупраць радыёзавода (цяпер той будынак адышоў да Політэхнічнага інстытута). Тады на школьным двары стаяла некалькі баракаў, прыстасаваных пад студэнцкі інтэрнат. Немцы чамусьці забудавалі баракамі многія двары на галоўнай вуліцы горада: імі быў заняты двор Інстытута фізкультуры і Рэспубліканскай партшколы, двор Акадэміі навук. Відаць, недзе ў рэйху па плане «Барбароса» былі нарыхтаваны кампаненты — дашчаныя панелі, вокны, дзверы, — якія можна было хутка ператварыць у жыллё на захопленай вермахтам

«жыццёвай прасторы». Збудаванні былі прымітыўныя і нікчэмныя, як і «новы парадак», з ласкі якога яны трапілі на спакутаваную зямлю Беларусі. Збітыя з драўляных шчытоў каркасы ўяўлялі сабой прыземістыя двухскатныя ангары, падзеленыя на адсекі дашчанымі пераборкамі з вузкімі дзвярыма пасярэдзіне. На праходзе ў кожным адсеку стаяла жалезная печка-буржуйка, а паабапал праходу, як частакол, тырчалі спінкі вузкіх металічных ложкаў з панцырнымі сеткамі.

Студэнтам, асабліва прыезджым, жылося тады цяжка, не выратоўвала нават маладосць. Свае сціплыя жыццёвыя патрэбы і мажлівасці мы рэалізавалі, як правіла, на галоўнай вуліцы: у кнігарнях куплялі кнігі, у кіёсках — газеты, у прадуктовых магазінах, калі заводзіліся грошы, набывалі нерэгламентаваныя прадукты, пераважна рыбныя ды раслінныя кансервы. Збочыўшы на Камароўскі рынак, можна было купіць з-пад палы «цагліну» хлеба, а то і свіную тушонку і сякога-такога «юнраўскага» шмацця. Па галоўнай вуліцы вялі шляхі ў тэатры і кіно, на вакзал і ў лазню. Таму і шнуравалі чародамі па гэтай трасе, абмінаючы груды друзу, студэнты. Хадзілі пехатой, бо трамваі звычайна былі перапоўненыя: улезшы ў сціжму, можна было вельмі проста выскачыць з вагона «чысценькім» — без гадзінніка і бумажніка. Так аднойчы і здарылася са мной, калі я надумаў хутчэй дабрацца да Фрунзенскага райкома, каб стаць на партыйны ўлік. У кабінеце інструктара абмацаў усе кішэні — пуста. Ад нечаканасці я засмяяўся. А жанчына-інструктар вытрашчыла на мяне спалоханыя вочы: «Упершыню бачу такога, каб, страціўшы партыйныя дакументы — смяяўся! Ну і ну! Партызан!..» Яна не ўлавіла, што гэта быў нейкі смехаплач, выбух адчайнай злосці на свет і на сваё бяссілле даць здачы нягодніку. Мне хацелася крычаць: «Што ж гэта дзеецца, людзі добрыя! Такая вайна прайшла, столькі ахвяр панесла, столькі святасцяў аб'явілася, столькі зорак надзеі заззяла, а тут нейкія плюгаўцы кішэні ў былых партызан ачышчаюць. Акупантаў вытурылі, а сваіх вошай вывудзіць не можам!..» Не маючы магчымасці выкрычацца, я смяяўся...

Навучаны тым здарэннем, я палюбіў хадзіць па Мінску пехатою. І вось аднойчы, ідучы ў бок плошчы Перамогі, здалёк заўважыў на супрацьлеглым баку вуліцы Янку Брыля, які ішоў насустрач з незнаёмым мне чала-

векам і нешта гаварыў яму, прыгінаючыся і навісаючы над ім, нібыта бацька над падлеткам. Ад Брыля мне даводзілася пачуць многа цікавых фактаў з літаратурнага жыцця. Гэтыя звесткі дапамагалі чытаць і вывуджваць падтэксты ў інфармацыі, змешчанай на старонках перыядычнага друку. Студэнту літфака карцела далучыцца да сакрэтаў творчасці і да таямніц Парнаса. Не прапускаў я ніводнай аказіі, калі можна было забегчы да Брыля дамоў ці пры выпадку запыніць, сустрэўшы, ды распытаць пра літаратурныя навіны, даведацца пра назначаныя сходы ў Саюзе пісьменнікаў.

І гэты раз я пашыбаваў напярэсціг Янку. Павітаўшыся, ён пазнаёміў мяне са сваім субяседнікам. Гэта быў Таўлай, той самы Таўлай, пра якога я ўжо чуў нямала пахвальных слоў ад майго сябра. Зразумела, што ў думках мы кожнаму новаму пазнанаму завочна герою ствараем адпаведную геранчную паставу, нават выгляд. З расказаў Брыля я ўяўляў Таўлая такім мужчыністым таварышам, а перада мной аказаўся някідкі з выгляду чалавек, апрануты ў фрэнч, перашыты няведама з якой вайсковай ці цывільнай вопраткі, у руках яго быў панашаны руды цыратавы партфель, на галаве кепка з даўгаватым «заходнебеларускім» брылём. Выглядаў чалавек стандартна — такі сабе вясковы настаўнік ці калгасны бухгалтар. Толькі твар, бледны твар, з выразам затоенага смутку ці пакуты, выдаваў нейкую схаваную таямніцу. Я быў ужо дастаткова абцёрты чалавек, каб сляпа не даяраць знешнасці і не ацэньваць людзей толькі па вонкавым выглядзе. Колькі разоў бывала, што зухаваты выгляд меў адпеты баязлівец, фанфарон ці пустальга і наадварот.

Я неяк адразу пачаў асацыіраваць выгляд Таўлая з маім задушэўным партызанскім сябрам Міколам Парэцкім. Такі ж родны да шпіку касцей чалавек. Мы амаль год, ажно да ягонай трагічнай смерці, спалі пад адной коўдрай на нарах у зямлянцы. Коля «за польскіх часоў» колькі год адсядзеў у турмах «за палітыку», быў падкаваны ў марксізме, добра разбіраўся ў жыцці, але не ганарыўся ні сваімі ведамі, ні вопытам, ні сваімі заслугамі, трымаўся проста, адкрыта, да людзей ставіўся зычліва, з гумарам прымаў чалавечыя слабасці, быў дасціпны, але не злосны, ніколі не павышаў голасу, заўсёды ўтрымліваў гаворку на сцішаным, мяккім абертоне. Спакойны і нягучны голас Таўлая выдаўся мне ней-

кім дзіўным, далёкім рэхам майго незабыўнага сябра, што загінуў у вельмі цяжкім для нас баі, калі з сямі чалавек нашай зводнай дыверсійнай групы ацалела толькі трое, а непараненым выйшаў адзін, таксама мой блізкі сябар Косця Балабановіч, які і выратаваў двух астатніх недабітых.

Групу абкружыла ў час днёўкі на хутары Міранка нейкая франтавая часць, што адпачывала ў Міры, і атрад паліцыі з двух гарнізонаў. Ад таго бою пакутаваў ува мне жудасны ўспамін, адчайнае жаданне смерці, застацца разам з сябрамі. Халоднае здранцвенне апанавала мяне, і я, па натуры нявытрыманы, холадна і зацята вёў прыцэльны агонь, як на стрэльбішчы, пакуль боль у руцэ і назе не вярнуў мяне ў стан нармальнага страху. Божа, што гэта былі за хлопцы! Эліта атрада, смелыя, знаходлівыя, а сябры — не разлі вадою: Коля Парэцкі, Міша Мажэйка, Коля Перавоз і Гаўрош атрада, пятнаццацігадовы весялун і забіяка Пейка Навумчык.

Неяк пахвалялася, прыгадаў я, наша інстытуцкая лабарантка, паддобрываючыся, каб я размаляваў насценгазету для кабінета літаратуры, што яна працуе па сумяшчэнні малодшым навуковым супрацоўнікам у музеі Янкі Купалы. І працаваць там куды цікавей, чым тут, у інстытуце. Там усяму задае тон паэт Валянцін Таўлай, намеснік дырэктара па навуковай рабоце. Такога знаўцы літаратуры тут, у педінстытуце, няма (вядома, беларускай літаратуры,— удакладняла яна). Такі адукаваны, разумны і культурны чалавек! А ветлівы! Нават вітаючыся, звяртаецца да цябе далікатна: «Добры дзянёк!» Не быў бы то «заходнік» (лабарантка не зусім зграбна спрабавала падлашчыцца да мяне). І ўважлівы: ніколі не праміне пагаварыць пра жыццё. Калі ты ў клопаце — разважыць, падбадзёрыць. Але і пастаяць за калектыў умее. Уладзіслава Францаўна, дырэктар, усё нервуецца, хоча, каб хутчэй зрабілі экспазіцыю, завялі картатэку, распісалі дакументы, экспанаты. Адчыніць музей спяшаецца. Таўлай дык ужо зусім знябыўся ў камандзіроўках — то ў Вільнюс, то ў Гродна, то яшчэ куды, да нейкіх прыватных калекцыянераў ездзіць, выпрошвае кнігі, здабывае рэчы. Ды і ўсе мы працуем не разгінаючыся. Алеся Александровіч, яна Купалу да драбніц памятае, асабіста была знаёмая, шчыруе ўсё, але Уладзіславе Францаўне цяжка дагадзіць. Ёй усё

мала. Пад настрой робіць разгоны. Раз наляцела і на Таўлая, на сваім хацелася паставіць, дык кажа на яго — маруднік! А ён не стушаваўся, спакойна і разважліва гаворыць, што спешка добрая для лоўлі скочак, а ў такой адказнай справе нічога добрага не дасць. І на жарт спрабуе звесці прэтэнзіі Уладзіславы Францаўны, польскую прымаўку прыгадвае: «Co nagle, to po djable». Уладзіслава Францаўна яшчэ больш распальваецца: «Ад гэтай Таўлаевай маруднасці я хутка зацяжараю!» Тады ён паглядзеў на яе сур'ёзна і станоўча адказаў: «Прашу не думаць, што музей Янкі Купалы — ваш уласны фальварак». Уладзіслава Францаўна не чакала такога: расплакалася, а потым пачала смяяцца праз слёзы. Памірыліся. Але ўжо яна яго абыходзіць. А яе ж у Мінску нават самыя высокія начальнікі баяцца. Калі пойдзе чагосьці дамагацца для музея, то не выйдзе з кабінета, пакуль не атрымае таго, па што прыйшла.

Неўзабаве я меў прыемнасць пазнаёміцца з удавой Янкі Купалы асабіста. Гэта была разумная і зычлівая жанчына, інтэлігентка старой даты, з тых бясконца ахвярных, але і практычных натур, што ведаюць цану дабраты і дабро патрабавальнасці. Зрывалася тады, відаць, таму, што да стрэсавых станаў даводзілі яе чыноўніцкая валакіта і абыякавасць, інерцыя, якую трэба было перамагаць, каб зберагчы імя і спадчыну Купалы. Таўлай глыбока паважаў цёцю Уладзю за нястомную энергію, шчырую душу і адданасць памяці вялікага песняра. Яшчэ тады, не знаючы ўсёй падаплёкі, я ўсё ж прымаў расказы лабаранткі з натуральнай засцярогай: ведаў, што ў падобных выпадках расказчыкам хочацца згусціць фарбы, давесці рабочы канфлікт да эфекту сенсацыі. Так яно і было.

Неўзабаве я сам дасведчыў чуласці Уладзіславы Францаўны. Даведаўшыся, што ў мяне «матэрыяльная праблема», яна заказала мне аформіць стэнд, і хоць я, напэўна, уступаў мастакам-прафесіяналам, але мой экспанат быў прыняты і вісеў у экспазіцыі музея.

Прыгаданае і пачутае неяк нечакана панесла мае думкі, і я злавіў сябе на тым, што не сачу за гаворкай, якую вядуць Брыль з Таўлаем. Толькі зафіксаваў падсвядома, што яны працягваюць сабе размову як ні ў чым не бывала. Значыць, не лічаць мяне чужым ці лішнім чалавекам. Апамятаўшыся, я хутка пачаў уваходзіць у сэнс іхняй гаворкі. А гаварылі яны пра блізкую і мне

справу. Для іх яна з моманту вызвалення Беларусі стала справай жыцця — літаратура! Размову пра навінкі літаратуры ў пасляваенным Мінску можна было пачуць дзе хочаш — напрыклад, у чарзе па піва, якое толькі ўваходзіла ў побыт як сімвал мірных мужчынскіх звычак. Людзі інстынктам чулі, што мастацкае слова, нават калі яно расказвае пра вайну, выступае яе адмаўленнем, нясе ў сабе дух міру, увасабляе духоўныя каштоўнасці і здаровыя чалавечыя патрэбы. Прафесія пісьменніка належыць да ліку самых гуманных, у мірныя дні яе прэстыжнасць натуральна ўзрастае.

Мяне крыху бянтэжыла акалічнасць, што ў размове Таўлая з Брылём мне выпадала роля слухача, а гаворка ж ішла пра партызан, абмяркоўвалася адлюстраванне партызанскай барацьбы ў апавяданнях аднаго прызнанага літаратара. Я, на жаль, не паспеў прачытаць гэтую кніжку. А Таўлай, як аказалася, рыхтаваў на яе рэцэнзію. Тут ён прыгадаў ляпсусы аўтара, які не пайшоў ад жыцця, а ўхітрыўся ілюстраваць модныя схемы і навыдумляў «сем бочак арыштантаў» — дурнаватых і нягеглых немцаў напавал білі старыя вясковыя дзяды, радуючы сваіх бабулек. Распаліў Таўлаеву іронію загалоўны твор зборніка, які аўтар назваў нарысам — значыць, творам дакументальным. Стварыў жа ён там панегірычны аўтапартрэт: намаляваў сябе гэткім народным бардам, які паважна сядзіць на беразе ляснога возера, у грамадзе партызан. Зборня просіць «песняра» прамовіць вершамі. Той адзываецца... Таўлай прывёў некалькі адыёзных радкоў з таго вершаплёцтва:

Часова вораг перамог,
Дый то сабе зламаўшы шыю.

Востра, дасціпна іранізаваў Валянцін Таўлай, падкрэсліваючы інтанацыяй недарэчнасці, а Янка Брыль падхопліваў яго парадыйныя запеўкі і працягваў. Атрымліваўся творчы хаўрус імправізатараў. У абодвух было закранута пачуццё пісьменніцкай і партызанскай годнасці. Рамеснік, вершаплёт прыніжаў народны подзвіг, ператвараў народную вайну ў фарс, не разумеў, што абясцэньваліся ж пакуты і ахвяры, вульгарызаваліся чалавечнасць і жыццёвасць антыфашысцкага руху.

Смелыя Таўлаевы ацэнкі прыйшліся мне даспадобы, у іх адкрывалася прынцыповасць натуры, львіныя кіпці дасведчанага публіцыста, актыўнага ўдзельніка турэмных дыскусій, прамоўцы на славутым судовым працэсе

«малой Грамады». Я пачуў у яго пазіцыі паталенне ўласным сумненням. Нядаўна мяне ўгаварылі выказацца на студэнцкім дыспуце пра іншую літаратурную навінку, якая прэтэндавала на шэдэўр. Атрымалася разноснае выказванне. І хоць мяне падтрымаў нават нехта з выкладчыкаў, але на душы застаўся нейкі цяжар вінаватасці. Думалася: а ці добра вось так уедліва вытыкаць хібы пісьменнікам, якіх засталося ў нас пасля ліхалецця не бог ведама колькі? Пазіцыя Таўлая і Брыля ўпэўнівала мяне, што рабіць гэта, як ні прыкра, неабходна, калі ў нас баліць душа за родную літаратуру. Неўзабаве жыццё прынесла новыя пацвярджэнні слушнасці Таўлаевай пазіцыі: сярод студэнтаў пайшлі гуляць дасціпныя куплеты Пімена Панчанкі, у якіх схемы сталі смешнымі пародыямі накшталт — «Баба Агата адной качаргой угробіла тысячу немцаў».

Прымусіў мяне задумацца і водгук Таўлая на зборнік вершаў Піліпа Пестрака «За сваю Айчыну», востры водгук, крытычны, напісаны паводле суровага афарызма — «Платон мне сябар, большы сябар — ісціна».

Таўлай шчыра паважаў П. Пестрака як старэйшага таварыша па рэвалюцыйным змаганні і здольнага паэта, чые творы ён яшчэ ў «Беларускай газеце» раіў пачаткоўцам прымаць за ўзор, і тым не менш ён палічыў сваім абавязкам крытыкаваць Пестрака, калі не ўбачыў у яго творчага росту, пераадольвання той неапраўданай звычкі зашыфроўваць выказванні, да якой прывучылі паэта турма, пракурорскі нагляд. Таўлай адчуў патрэбу дапамагчы старэйшаму таварышу вярнуцца да манеры, у якой былі напісаны ранейшыя, больш ясныя і камунікабельныя творы. З гэтага рубяжа належала ісці далей, калі ён хацеў стаць паэтам народнага складу. Сёння мне здаецца, што варта аб'явіць названы факт прыкладам і нормай прынцыповасці літаратурных узаемаадносін. Толькі хачу, каб не думалі чытачы, што крытычныя выступленні накшталт апошняга даваліся Валянціну Таўлаю лёгка. Ён быў натурай глыбокай, удумліва-стрыманай, не меў звычкі хадзіць наросхрыст і зухавата выкрыкваць павучанні. Сэрца паэта было асуджана на мужнае маўчанне. Напэўна, такія вострыя акалічнасці паскорылі трагічны фінал яго чалавечага быцця на белым свеце.

Тады, пры першай сустрэчы з Таўлаем, я, крыху скаваны сваёй літаратурнай некампетэнтнасцю, асуджаны

на ролю пасіўнага слухача, вычэкваў моманту, калі ўжо можна будзе адкланяцца, забегчы ў кабінет літаратуры і пачытаць той зборнік адыёзных апавяданняў пра партызан. Мы параўняліся з будынкам Акадэміі навук і прыпыніліся. Брылю трэба было ісці далей, Таўлаю выходзіла збочыць, мне — вяртацца назад. І тут Валянцін Таўлай так непасрэдна і шчыра запрасіў нас зайсці да яго і паабедаць разам, нібыта ўсе мы яго сямейнікі. Грэх было выкручвацца адгаворкамі.

Прыгадаўся мне дух гасціннага Наднямоння і звычкі нашага партызанскага пабрацімства: недзе ўсё гэта жыве ў родных мясцінах, і вось, глядзі ты, яшчэ адзін чалавек прывёз добры звычай у сталічны горад.

Барак, да якога прывёў нас гаспадар, быў падобны да майго інтэрнацкага, толькі пакояў тут было навыгароджвана больш, а дашчаныя перагародкі былі глухія, без дзвярэй. У кожны пакой вёў асобны ўваход з двара. Мы прыселі на лаўку пад дрэвам, закурылі, чакаючы, пакуль гаспадыня зварыць суп. Нарэшце запахла смажанай цыбуляй і скваркамі. Бульбяны засквараны суп удаўся смакавіты, ён расчульваў пахам роднай хаты, згадкамі дзяцінства. Знайшлося і па кавалку хлеба дамашняга выпеку — падарунак знаёмых гаспадарам сялян з Наваградчыны.

За абедам я прыгадаў свайго стрыечнага брата Арсена Балабановіча, які разам з Таўлаем сядзеў у гродзенскай турме ажно да памятнага верасня 1939 года. Таўлай ведаў, што Арсен загінуў у вёсцы пад Скідзелем у баі з польскай паліцыяй. Хваліў гаспадар Арсена за востры розум і палемічны запал. Казаў, што той паспяхова спрачаўся з П. Пестракам, здаралася, і перамагаў. Не любіў догмаў, быў раскаваным.

Многа пазней, калі Піліп Сямёнавіч гасціў у мяне, у Брэсце, я спытаў у яго пра Арсена. Пытанне насцярожыла госця, і ён адказаў, што такога дыспутанта не прыпамінае. Я веру Таўлаю, звесткі яго пацвердзілі іншыя «палітзакі», слухачы і сведкі тых, у асноўным тактычных, турніраў. Веру я і Піліпу Сямёнавічу, бо памяць дадзена чалавеку не толькі для таго, каб даймаць яго прыкрасцямі, яна ж умее і засланяць ад пакут, супакойваць забыццём.

Пасля абеду Таўлай дастаў з партфеля тоўсценькую, невялікага фармату кніжку і, усміхнуўшыся, аб'явіў, што на другое і дэсерт будзе нізка добрых вершаў. Ён

пачаў чытаць вершы Ясеніна. Тады імя гэтага паэта крытыкі адсоўвалі ў цень. Мне ўдалося толькі пачуць урыўкавыя звесткі пра яго ад студэнтаў старэйшых курсаў ды некалькі вершаў, прадэкламаваных памятлівай лабаранткай з кабінета літаратуры, — удзячнасць за афармленне насценгазет. Цяпер мне адкрыўся восьмы цуд свету — краіна дзівоснай паэзіі, зіхаценне чарадзейнага таленту, які ператвараў у паэзію ўсё, да чаго дакранаўся. Кожны прачытаны верш мы ўтрох смакавалі, каменціравалі і ацэньвалі. Я, праўда, пераважна слухаў, падтакваў, але не саромеўся, што не магу дараўняць Брылю і Таўлаю ў гэтай тонкай справе. Паэзія была сапраўды тонкай, і адкрываць, а тым больш растлумачваць яе падтэкставыя тайнікі было няпроста. У такой справе не сорам і не грэх памаўчаць, калі ёсць каго паслухаць.

Зборнік на два дні пазычыў Таўлаю хтосьці з мінскіх кнігалюбаў. Назаўтра мы калектыўна дачытвалі кнігу ўжо на кватэры Брыля, — таксама як дэсерт пасля смачнага фасолевага супу. Таўлай чытаў асобныя мясціны, адрываючыся ад тэксту. Я зайздросціў ягонай памяці, не чуўшы яшчэ тады, што існуе такая з'ява, як памяць прафесійная.

Дзесьці зімою мне ўдалося купіць у кнігарні зборнік выбраных твораў Ясеніна. Ён стаў маёю кішэннаю кнігай. У часе летніх канікул я, дзе толькі мог, чытаў з кнігі і на памяць вершы выдатнага паэта сваім сябрам і знаёмым. Часта дзівіўся: чаму гэта да некаторых не надта даходзіць ап'яняючая буянасць ясенінскіх радкоў? Мае партызанскія сябры махалі на мяне рукой як на пашахонца, які давучыўся да анархіі...

Валянцін Таўлай, калі можна так сказаць, любіў Ясеніна адначасна па падабенстве і па кантрасце: блізкай была яму сардэчная чуласць і сялянскасць рускага паэта, яго вернасць народнаму разуменню праўды-справядлівасці, мэты і сэнсу бязгрэшнага мазольнага жыцця земляробаў. Сугучным быў таксама мужыцкі бунт супраць панства і панавання. Але бунтарнасць у самога Таўлая праяўлялася не так буяна і разгойсана, яна была больш праграмнай. Свой творчы запавет В. Таўлай напісаў, як вядома, на канве літаратурных парад Маякоўскага, а таму Ясенін здаваўся незраўнаным у сваёй раскаванасці майстрам выгібашаў і загібашаў. Лаяльныя артадоксы абвясцілі Ясеніна хворым на ідэй-

ныя загібы і перагібы. Таўлай ні ў кога не пазычаў крытэрыяў ацэнкі Ясеніна, не запазычваўся і ў самога Ясеніна: галоўным крытэрыем было для яго ўласнае жыццё, свой цяжкі вопыт, набыты ў гушчы вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Таўлай зараджаўся ад паэтаў, якіх паважаў, але не пазычаўся ў іх.

Пасля вайны Ясенін пачынаў уваскрасаць у інтэлігенцкіх асяродках сталіцы як сімвал вольнага паэта, незалежнага ад ідэалагічнай кан'юнктуры, бунтар супраць ідэалагічнага зацугліваня і цкавання. У кулуарах Ясеніна супрацьпастаўлялі не Маякоўскаму (гэта рабілася афіцыйна), а Дзям'яну Беднаму. Прынамсі, я пачуў у пісьменніцкім вусным ужытку і запамятаў радкі:

Когда я в «Правде» прочитал
Неправду о Христе от Бедного Демьяна,
То будто бы в блевотину попал,
Изрыгнутую кем-то спьяна.

Да сённяшняга часу я не сустрэў надрукаванага твора, з якога паходзяць гэтыя радкі. А пасля вайны ажывала надзея, што на хвалі Перамогі прыйдзе ачышчэнне духу, услед за дараваннем віны дэзерцірам — дараванне свабоды творчасці паэтам, і спадзе забароннае табу з усіх вінаватых без віны.

Як я разумею сёння, Ясенін быў для Таўлая забароненым плодам паэтычных асалод, якога ён усё ж скаштаваў у юнацтве, перабегшы з Польшчы ў СССР, і смакаваў, вярнуўшыся назад, у Польшчу, як падпольшчык. Ясенін увасабляў ідэал паэта чыстай вады, які дазваляў сабе свабодна меркаваць і думаць пра ўсе сацыяльна-палітычныя праблемы, нават пра рэвалюцыю і яе правадыроў, не змушаючы сябе «ни при какой погоде» чытаць «пузатый «Капитал». Таўлай чытаў «Капітал», прымаў марксізм і рэвалюцыю ў прынцыпе, але сумленне і вопыт жыцця не дазвалялі яму прыняць вузкалобай, лявацка-дагматычнай ідэі класавай барацьбы, устаноўкі на рэвалюцыйную непрымірымасць да беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху, да тых шчырых патрыётаў, што, не прымаючы марксізму, былі дастойнымі людзьмі, шчырымі беларусамі, асветнікамі, вучонымі, нястомнымі самадзейнікамі.

Стаўшы намеснікам дырэктара музея Янкі Купалы, Таўлай прывозіў з Вільні забароненыя кнігі Ластоўскага, Луцкевіча, Адама Станкевіча, іншых дзеячаў ад-

раджэння, спадзеючыся калі не выставіць іх на стэндах, дык захаваць у фондах Купалавага дома. З яго рук мне давялося ўбачыць здымак маладога Алеся Гаруна. Таўлай паказваў яго Брылю, потым мне як рэліквію, не выпускаючы з рук: «Палюбуйся! Паглядзі, які прыгожы!... Нічога, пройдзе час, і імя яго вернецца...» Памятаю, што двайное пачуццё агортвала тады мяне: адчуванне рызыкі, небяспекі сутыкалася з цікаўнасцю і прызнаннем Таўлаевай смеласці, да якое тады я сам не дайшоў. Сфера ідэалогіі была ў маім уяўленні больш небяспечнай, чым зона аховы чыгункі, у якую даводзілася прабірацца з мінай у рукзаку. Там была, прынамсі, ясная мэта, а тут... Не лічыў я сябе такім зарыентаваным у зоне ідэалагічнага пабоішча, каб браць на сябе смяротную рызыку. Таўлай тут здаваўся мне знаўцам і смельчаком. Ён быў фенюменам, загадкай неартадаксальнасці. Чалавек свабодна хадзіў сабе па мінным полі дзвюх ідэалогій, нібыта біёлаг па сцежках змяінага гадавальніка, хадзіў, прыглядаўся і бачыў сярод насельнікаў ніштаватых і нават прыстойных суб'ектаў, незалежна ад таго, якім колерам былі яны памечаны.

Не ведаў я тады яшчэ, што інтэлігентны, далікатны Таўлай аказаўся ў турэмнай «камуне» вязнем другой катэгорыі: артадоксы затрымалі і «завесілі» яго членства ў КПЗБ за тое толькі, што на допытах юнак прызнаў сябе Таўлаем, а не ўпарціўся на прозвішчы Якімчык, як гэта падаваў пашпарт, выдадзены яму ў Лошыцы. Падробленыя там пашпарты польская дэфензіва пазнавала з першага позірку па почырку пісара. Якімчыку пагражала абвінавачанне ў шпіянажы і смяротная кара або пажыццёвая турма. Таўлаю ўдалося прайсці на судзе прафесійным рэвалюцыянерам, якім ён быў на самай справе. Але артадаксальныя левакі хацелі парабіць усіх нягнуткімі і неламуткімі. І яны ўчынілі для вязня турму ў турме, нават не турму, а труну недаверу. Толькі смелы і верны ў бядзе і сяброўстве Якуб Міско ратаваў земляка ад непрадбачанага, што магло здарыцца з двойчы асуджаным — ворагамі і «сваімі» — і запёртым у пажыццёвы ізалятар паэтам. А за што быў той унутраны самасуд турэмнай «камуны»? За тое, па сутнасці, што Таўлай як паэт больш высока цаніў жыццё чалавечае, не хацеў апусціцца да ролі функцыянера, якім могуць маніпуліраваць і падводзіць пад манастыр. Несумяшчальнасць крыві, гуманістычная інакшасць за-

ключаліся ў тым, што Таўлай сумяшчаў камунізм з патрыятызмам, а левыя функцыянеры КПЗБ пачатку 30-х гадоў ужо зноў звалі да рэвалюцыі наднацыянальнай, адной на ўсю Еўропу і на ўсю планету. На судзе Таўлай прайшоў як прыхільнік беларускага рэвалюцыйнага руху, у выступленні дамагаўся свабоды творчасці, а ягоны камунізм быў патрыятычны. Ці не па гэтай прычыне знікла недзе з архіваў у 40-х гадах і прапала судова-следчая справа «малой Грамады»? Ці не збіраліся ахоўнікі артадаксальнага камунізму скарыстаць абвінавачванні польскага пракурора, перацягнуўшы іх на савецкі капыл, каб выкрыць яшчэ адну разнавіднасць беларускага нацыяналізму?

Тады я не мог ведаць гэтых тонкасцяў, ведаў толькі пра цяжкую траўму, якую атрымаў Таўлай, прыйшоўшы ў тую ж Лошыцу ў 1945 годзе, калі там замест даваеннага замежнага цэнтра ЦК КПЗБ размяшчаўся Беларускі штаб партызанскага руху, і папрасіў выдаць яму даведку аб удзеле ва ўсенароднай вайне. У дакументах партызанскага атрада імя Катоўскага спіска сувязных не было, іх не лічылі партызанамі, а пра спецгрупу «Буравеснік» наогул не было і почуту. Выходзіла, што ўсё яго змаганне супраць фашызму, месяцы і годы смяротнай небяспекі лічыліся такою падсобнаю дробяззю, пра якую адказныя таварышы не пажадалі ўпамянуць у справаздачах. І зноў ён аказваўся чалавекам-функцыяй, а не асобай, не самацэнным суб'ектам разумнага і дастойнага жыцця, які сам сабе вызначае мэту і сэнс. З такімі вось згрызотамі жыў, трываў, змагаўся і лячыўся жывым словам Ясеніна і Купалы Валянцін Таўлай. Ходаўся з жыццём, пакуль вясною 1947 года не занапаў ад «нявылежанага» грыпу. Хворым паехаў з мінскімі калегамі на купалаўскі вечар у Ліду (прысвоілі імя народнага паэта гарадской бібліятэцы). Вярнуўшыся, злёг у бальніцу, каб не выйсці. Было яму 33 гады.

## 2

Калі б сёння жыў Таўлай, я ўжо задаў бы яму адно пытанне, якое тады яшчэ не праходзіла цераз ахоўны бар'ер свядомасці. Я б распытаў у яго пра адно адказнае заданне партызанскай разведкі, да якога мяне спа-

прысвечаны А. Міцкевічу, «Між тых палёў», Я. Брыль назваў яго «Дарогі Наваградчыны».

Едучы ў Зэльву, мы з Брылём мелі падставу дапускаць, што сяліба Геніюшаў можа аказацца тою хатай, якая «вушы мае». Апякліся мы яшчэ ў часе першых вандровак па Наваградчыне ў пачатку 50-х гадоў. Пасля адной з іх мне давялося ісці ноччу «спавядацца» па позве ўстановы, якая абавязана была ведаць аб усіх праўду «подлинную и подноготную». Спавядальнік трымаў у руках не толькі пералік фактаў, але і нашпігаваную падазронасцю гіпотэзу прычын, намераў, матываў паездкі...

Зразумела, мы не сталі адкрываць Караткевічу свой горкі вопыт, але папрасілі быць па мажлівасці вытрыманым у размовах, не пускацца ў эфектацыю, ад якое не будзе карысці літаратуры, а, чаго добрага, бяды гаспадарам. Валодзя прымаў нашы развагі, але з вытрыманасцю не атрымалася, бо правакаваць на кароткія замыканні ў гаворцы пачаў муж паэткі Іван Пятровіч Геніюш. Гэта быў задзірысты інтэлігент, прывыклы да асабістага суверэнітэту пад парасонам чэхаславацкай канстытуцыі, дзе пражыў добрыя два дзесяткі гадоў. Любіў ён дражніцца з субяседнікамі, пазіраючы на іх зверху. Свой арышт пасля вайны і ссылку ў Сібір Іван Пятровіч лічыў гвалтам над асобай, парушэннем грамадзянскіх свабод, а ўласныя палітычныя акцыі, якія і ў Еўропе падлягалі крымінальнай, а не маральнай ацэнцы, таксама называў сваёй асабістаю справай. Ён заяўляў, што Заходняя Беларусь была вызвалена не ў верасні 1939 года, а ў ліпені 1941-га. Так ён апраўдваў свой удзел у арганізацыі ганебна вядомага звароту беларускай эміграцыі ў Чэхаславакіі да Гітлера, — падзякі за акупацыю Маравіі і Беларусі вермахтам. Не адчуваў Іван Пятровіч і скрухі за тое, што прыехаў у часе акупацыі на Беларусь у афіцэрскім мундзіры вермахта як вайсковы ўрач. Адным словам, мы пераканаліся ў ходзе спрэчак, што наш размоўца прыпісвае сабе тую абсалютную непагрэшнасць, якою касцёл надзяляе папу рымскага ды і то ў моманты, калі той выступае ex katedra, гэта значыць афіцыйна, урачыста. Іван Пятровіч сам сабе прысвоіў непамыльнасць і на ўсе выпадкі і ва ўсім. Спрачацца з ім было бессэнсоўна, і Брыль першы, а мы за ім, перайшоў да ігнаравання гаспадаровых задзірыстых выпадаў. Застаўшыся без апанентаў,

Іван Пятровіч перайшоў ад палітыкі да паэзіі і выказаў добрую памятлівасць, знаёмства са зборнікамі беларускіх паэтаў, якія купляў ці не ўсе падрад. Ён меў памяць і на імёны, і на хлёсткія словы, на парадоксы, аксюмароны, гіпербалы. Не дзівіўся я пазней, даведаўшыся, што нашпігаванаму палітыкай і лірыкай урачу не ставала часу, а мо нават і ахвоты на медыцыну. Гаворка пра паэзію зняла нашу некантактнасць, да гутаркі падключылася Ларыса Антонаўна, і мы шчыра пагутарылі пра літаратурныя клопаты-спадзяванні. Паэтка аказалася менш ідэалагічна закамплексаванай, чым яе муж. Яна таксама датай вызвалення Беларусі назвала чэрвень — ліпень 1941 года і сярод кансерватыўных палітэмігрантаў мела сваіх мэтраў, але саму праблему бачыла шырэй, чалавечней, драматычней. Яе вопыт жыцця быў перадусім гуманістычным, агульналюдскае дамініравала ў яе свядомасці над палітычным, тэндэнцыйным. Ёй хацелася разумець і быць разуметай, а не навязваць субяседніку свае амулеты ад вывіхаў. Слушнай была яе думка аб гуманістычнай недастатковасці тагачаснай беларускай лірыкі, непрыманне лозунгавасці, ну, і як працяг таго — нястача болю за роднае. Яна бачыла небяспеку ў ідэалагічнай уніфікацыі, сацыялагізатарскім спрашчэнстве, а мы як бы адапціраваліся і навучыліся проста адмахвацца ад догмы ўраўноўвання ўсіх і ўсяго, як коні ў лесе ад заедзі. Адчуванне трывогі за паэтку і пагроза, якая вісела над ёю, дарма ігнаравалася ёю, выдалася мне самым значным і, на жаль, не радасным вынікам тое калектыўнае вячэры ў доме Ларысы Геніюш. Пазней трывога паэткі дапаўнялася новымі сігналамі, хоць я і стараўся неяк супакоіць сябе. Але, у прынцыпе, сігнал SOS быў слушным. Ён адпавядаў не толькі прадчуванням маіх спадарожнікаў-мастакоў, але і маім меркаванням крытыка, педагога, чый вопыт складваўся ў спецыялізаваным студэнцкім і настаўніцкім асяроддзі. І там, на жаль, давялося прыкмячаць, што агонь любові да роднага краю часта быў халодным феерверкам, казённай дэманстрацыяй.

Я ўгадваў адну з прычын такой хлусні: адплата за утылізацыю ўладай скрушлівай ахвярнасці інтэлігенцыі. Новая савецкая інтэлігенцыя адказала утылізатарам яе сіл і аўтарытэту пагардлівай абыякавасцю і маной. Злараднічалі інтэлігенты з таго, што вучэбны і выхаваўчы працэсы не паддаюцца адміністрацыйнаму кант-

ролю. Пісьменнікі зларадцічалі з таго, што метафарычная, мнагазначная, вобразная мова выслізгвае з пальцаў цэнзуры і рэдактуры.

У часе адведкаў у Зэльве нам заімпанавала духоўная ўзнёсласць Ларысы Антонаўны, яе адчайная смеласць жыць самотна, наводшыбе, не баючыся заблудзіцца ў бязмежжы паэтычнай галактыкі. Незалежнасць, асабістая пазіцыя для кожнага з нас былі не толькі штодзённым клопатам, але і сэнсам жыцця. Змаганне за права на сваю думку забірала ў кожнага з нас процьму сіл, кідала ў пот і ў холад, зганяла сон з вачэй, смылела і шчымела ў душах. Зэльвенскай пустэльніцы было як быццам лягчэй, бо яна мела ўжо за плячыма тое, што магло чакаць кожнага. Прайшла сваю Галгофу і стала зайздросна вольнай, як вечны камікадзэ. Знаёмства абавязвала мяне як крытыка стаць яе памочнікам у канфліктах з рэаліямі жыцця, якое яе пакрыўдзіла і якое я абараняў. Кіруючыся вінаватасцю і пачуццём абавязку, я запрасіў Ларысу Антонаўну наведацца ў Брэст. Прызнацца, я не дужа спадзяваўся тады, што яна скарыстае запрашэнне, што павязу яе ў Брэсцкую крэпасць і, вяртаючыся назад, пачую: «Усё гэта ўражвае, але яно не наша...» Не мог прадбачыць, што выбухне мая партызанская гордасць, што між намі дойдзе да кароткага ідэалагічнага замыкання. На шчасце, Ларыса Антонаўна не пакрыўдзіцца і ў знак даверу прывядзе свайго абруселага пляменніка і папросіць, каб я яго беларусізаваў. Не ўяўляю сабе, што згаджуся дзеля святой згоды, хоць буду разумець, што не стае гэтаму плану дробязі — сустрэчнай ахвоты самога выхаванца. Дарэчы, Караткевіч пазней на мае роспыты пра зніклага кудысьці родзіча паэткі, а магчыма, і ягонага, будзе паціскаць плячыма, звальняючы гэтым мяне ад даручэння здзейсніць педагагічны цуд. Як усё ж блізка і пацешна ляжаць у душах паэтаў праніклівасць з наіўнасцю, задзірыстасць з памяркоўнасцю, — будзе думацца мне.

І ў Зэльве позняй ноччу пакінулі мы дом Генюшаў з пачуццём прымірэння. Нас, падарожных, перапаўнялі ўражанні таго клапотнага дня. У гасцініцы, расслабленыя, ледзь дакрануліся да падушак і заснулі як пшаніцу прадаўшы. Была гэта адна з тых начэй, калі рана ўстаеш бадзёрым, з адчуваннем шчасця.

Не дбаў і не думаў я раніцай пра чарговы капрыз

«Масквіча», што сапраўды, як малады жарэбчык, кожны дзень паказваў мне свае норавы. Нехта, выпускаючы яго з завода, не іначай як не тройчы адпляваў. Пра гэта падумаецца пад абед.

Увогуле, з першага дня ўладання пачаліся мае з ім турботы. Як толькі прыгнаў з Мінска і паставіў у двары, каб перакусіць і загнаць у інстытуцкі гараж, то і аказалася, што двор пусты, мой транспарт знік, шукаў, пакуль наткнуўся ў завулку. Зразумеў, што забыўся паставіць на ручны тормаз і жэўжыкі закацілі вялікую цацку ў тупічок, як робяць з гаспадарскімі вазамі на Купалле. Пасля таго я зацягваў «ручнік», нават ставячы машыну ў гараж. Але раз перабраў меру. Позна ноччу, спяшаючыся, забеглі мы з заядлым курцом і выдатным наваградскім краязнаўцам Міхаілам Петрыкевічам у рэстаран захапіць цыгарэт, бо абкурыліся за дзень. Зацягнуўшыся, я забыў зняць машыну з ручнога тормаза і гнаў ад Наваградка да Валяўкі, пакуль у салоне не запахла гарэлай гумай: ляпнула ўся тармазная сістэма. Пасля тае прыгоды я стаў змагацца са сваёю рассеянасцю, паспрабаваў лічыць ручны тормаз непатрэбнаю прыдумкай канструктараў, ад якой гаспадару больш лішняга клопату, чым карысці, а машыне — адна порча.

Заехаўшы неяк у Гродна да Карпюка, пакінуў машыну незатармажанай. Вечарам выйшлі з Аляксеем прайсціся па горадзе. Бачым — знікла мая машына. Кінуліся шукаць — абшнырылі некалькі кварталаў, нарэшце наткнуліся на яе ля глыбокага абрыву, пад якім цурчэў ручай, прыток Нёмана. Пад шчоткай шклаачышчальніка тырчала паперка з надпісам: «Паря! Не зевай. Следующий раз скинем в пропасть».

Пасля падобных папярэджанняў наступнага разу не бывае. Але «Масквіч» мой заставаўся наравістай казой. У часе паездкі па Прыбалтыцы я неяк палез пад яго з гаечным ключом праверыць тармазны дыск і не падстрахаваўся. Машына стала каціцца на мяне. З цяжкасцю ўтрымліваючы яе, я крыкнуў жонцы: «Падлажы што-небудзь пад кола!» Тая падлажыла часопіс і выклікала гамерычны рогат Вялюгіна, Брыля і балгарскага літаратуразнаўцы Юркі Вылчава, якія прыбеглі ратаваць вадзіцеля ад саманаезду. Вялюгін з Брылём тады нават эпіграму склалі, чамусьці па-руску, пад Крылова і Пушкіна:

Из дальних странствий возвратясь,
Побыв на Неринге и в Купе,
О, Володимир, Брестский князь,
Ты начертай себе на д..е
Совет внимательных друзей:
Чем больше технику мы любим,
Тем меньше нравимся мы ей.

Так небяспека і гумар сяброў вучылі культурна абыходзіцца з тэхнікай. Самы небяспечны з урокаў маёй шафёрскай практыкі здарыўся на шляху з Зэльвы на Свіцязь. Небяспеку я змог усвядоміць пазней, калі менш любіў свайго «Масквіча», затое добра, не паводле пашпарта, а на справе, спазнаў, што гэта цацка важыць тону з гакам, а вагу трэба паважаць.

Перад абедам падкацілі мы да Нёмана, выехалі на абалонне, рэчкі яшчэ не было відаць, але яна адчувалася: шырокая, атуленая масівам дубовых гаёў уздоўж адхоннага лугавога берага.

— Усё. Спынімся над кручай Нёмана і паабедаем, — апавясціў Валодзя.

Абед уяўляўся яму не як падмацунак, а як рытуал паяднання з Нёманам.

— Звернем, братцы, вунь туды, у самы пук дубровы, і ўчынім трапезу на язычніцкі лад. Прычашчэнне да Нёмана. Ну, вярні руля, вадзій!

Я прыпыніў машыну: сапраўды—ідэя! Ад'ехаць ад тракта на пару кіламетраў па абалонні, схавацца за расахатымі дубамі, разлегчыся на крутым беразе, на чабаровым мурагу ды палюбавацца, як плыве ён, бацька-Нёман, як цячэ тут, у нізоўях, на поўную сваю сілу...

Янка падтрымаў Валодзеву ідэю.

Я крутануў рулём, газануў, і машына лёгка пакацілася па тупкай лугавой дарозе. Мы ад'ехалі з кіламетр, і заставалася ўжо толькі збочыць улева, пад'ехаць да ракі і спыніцца, як дарогу перасекла доўгая латачынка, колішняя Нёманава старыца. Я заўважыў глыбокія каляіны ў чорным іле, але абапал іх зелянела шаўковая лагчына. Агульнае жаданне выскачыць да Нёмана прытупіла маю асцярогу, пусціў «Масквіча» каціцца па мяккай зялёненькай посцілцы, пакідаючы між калёс чорныя сляды падвод, якія разлаташылі лугавую дарогу. Паехалі мы, пакаціліся, пакуль не сеў наш «Масквіч» на пузе. Сеў грунтоўна. Калі я паддаваў газу, дык толькі балота свістала з-пад задніх скатаў.

У нас ужо быў сякі-такі вопыт выпіхваць угразлую

машыну з балота. За Слонімам учора мы ўгразлі на глі-
ністай дарозе ў вялікай дажджавой лужыне. Але сілы там было болей: з намі быў Мікалай Бурсевіч. Трое мужчын разуліся, забрылі ў лужыну ды рыўком так папхнулі, што яна выскачыла, як корак з бутэлькі. Не сядзела яна там так глыбока ў муле, як тут, над Нёманам, ды не ставала плечука Бурсевіча, а машыне тупкага грунту, як на дне лужыны. Паспрабавалі Караткевіч з Брылём выштурхваць, але з-пад задніх колаў толькі пырснулі на іх два фантаны чорнага мулу. Папіхачы адскочылі ўбок, не ведаючы, як даступіцца да капрызнага «Масквіча». Паспрабавалі выцягваць за ручкі дзвярэй, стоячы абапал кузава, але гэты спосаб не дзейнічаў.

Доўга апісваць, як мы вымошчвалі грэблю, як дамкрацілі, як я бесталкова газаваў, аж вада ў радыятары закіпела, ды не ў гэтым справа, не сапёрныя прыёмы аказаліся кульмінацыйным момантам прыгоды. Самым напружаным і небяспечным стаў эпілог. Выехаў я з балота заднім ходам і стаў упоперак каляін, якія пралажыў, з'язджаючы з груда ў лагчыну. Цяпер належала падняцца на груд. Накіроўваючы машыну наўскасяк адхону, каб не было так строма, я пачаў падымацца, рухацца па касагоры. Адхон аказаўся, аднак, небяспечна круты, і я ўспомніў, як, бывала, паступаў мой бацька, калі вазіў сена цераз прынямонскія раўкі, лужыны і брады. Ён аддаваў мне лейцы, паказваў, куды накіроўваць каня, а сам, падкасаўшыся, падыходзіў да воза, убіваў у бок сахара і трымаў воз, страхаваў. У асобных выпадках бацька падлазіў пад край воза і браў увесь яго цяжар на спіну, ішоў гезам па касагоры, пакуль конь не выцягваў на роўнае. Нібы кадры кінафільма, праплылі ў мяне перад унутраным зрокам памятныя з дзіцячых гадоў вострыя сцэнкі сенавання, і я, доўга не думаючы, сказаў Брылю, які і сам хіба некалі ўжываў падобныя прыёмы, возячы сена ці снапы:

— Янка, падтрымайце разам з Валодзем...

Яны падышлі і ўперліся рукамі ў кузаў паверх акон, а я ўключыў першую хуткасць ды прадоўжыў выезд па схіле. Перад самым чубам груда касагор стаў такім крутым, што левыя колы пачалі адрывацца ад зямлі, мяне кінула ў пот, але я ведаў цвёрда, што ў небяспечныя моманты самая страшная рэч — паніка: «Да д'ябла, трэба адкідаць усякія сумненні і думкі пра небяспеку, —

сказаў я сабе па партызанскай звычцы. — Айда наперад!» І не перастаў падрульваць улева. Вось левае кола ўжо датыкнулася чубка грудавое травы. Пранесла!

— Ага, пакацілася велікоднае яечка! — пераможна гукнуў, паднімаючы, як алімпіец на подыуме, рукі ўгору Валодзя.

Так Караткевіч стаў хросным бацькам майго чырвонага «Масквіча», адною метафарай зняў з яго біркумянушку пажарнай машыны. Вось што значыць паэтычнае бачанне. Яно не фіксуе, а дае найменні рэчам, працэсам, адносінам — прызнае ці абрыджвае. Паэзія робіць рэчаіснасць не толькі двойчы існуючай, а суаднесенай з чалавекам, гуманістычна прасветленай і ацэненай па шкале каштоўнасцяў, выпрацаванай цывілізацыяй.

Паехалі да Нёмана паўз лятачыну, памыліся, паабедалі на адкрытым месцы, але без ідылічных настрояў: страцілі шмат часу, а дарога была далёкая — ажно пад Ліду, у вёскі, ад якіх Янка Брыль быў нядаўна абраны дэпутатам. Край там аказаўся цікавы кантрастамі: поруч са старадаўняй, абсаджанай магутнымі дубамі мураванай з валуноў царквы ў Бабраўцах — курная хаціна каля Мажэйкава на хутары. І слабаватыя калгасы, да якіх ніяк не магла прывыкнуць частка людзей, гналі, як і ў часы акупацыі, самагонку па кустах ды неяк перабіваліся з хлеба на квас. Брыль гарэў жаданнем папravіць маральны клімат у акрузе, шукаў спосабаў, як дастаць дэфіцытную тэхніку калгасам, думаў, як наладзіць мастацкую самадзейнасць, прыцягнуць людзей у хаты-чытальні, бібліятэкі. Я чуў у Мінску ад яго шмат расказаў пра той этнічна стракаты куток, дзе частка каталіцкага насельніцтва ў знак непрымання калгасаў аб'яўляла сябе палякамі, мела інфармацыю ад родзічаў, якія выехалі ў Польшчу, што пры жаданні можна заблакіраваць калгасы. Увогуле людзі трапілі такі пад моцны ідэалагічны ўплыў польскамоўных рэдакцый, сродкаў масавай інфармацыі Захаду, якія вялі халодную вайну. Тое, што мы ўбачылі, пераўзыходзіла ўяўленне. Насамперш кантрасты: выцацканыя дамкі з пафарбаванымі охрай ды бялілами зухаватымі верандачкамі і раптам — курныя хаціны. Калгас пабудаваў адной даярцы, якая жыла са старою маці, нармальную хату, дык не мог перасяліць: маці і дачка не хацелі перасяляцца, прывыклі і не звярталі нават увагі, што дзецюкі цураліся курніцы. Успамінаючы брата, што жыў у Ленінградзе,

яна хацела, ды не магла кінуць наседжанага гнязда — жыла. Караткевіч разы два абабег навокал хаты, бязвокай праявы, карцела зазірнуць і ўсярэдзіну. Але кудою? На фоне парослай дзікім плюшчом па самы вільчык страхі ён папрасіў сфатаграфаваць яго. Здымак той змешчаны, здаецца, у 5-м томе ягонага васьмітомніка, як адна з пікантных прыгод аўтара «Дзікага палявання караля Стаха».

З Брылёвымі выбаршчыкамі на той раз не сустракаліся, і сам дэпутат абмежаваўся некалькімі гутаркамі. Ён заўважыў, што некаторыя выбаршчыкі прымалі яго за цудатворцу, які павінен усё магчы, і патрабавалі немагчымага. Хадайніцтвы — няўдзячны абавязак дэпутата. Многія вяскоўцы лічылі калгас ярмом для сябе, ды яшчэ дубовым, гадалі, калі яно такі трэсне. А пакуль не трэснула, гналі ўпотай самагоніцу ды збывалі ажно ў Ліду ці Гродна. Як памятку больш статэчных дзён агледзелі мы царкву ў Бабраўцах, змураваную з колатых валуноў, абсаджаную старавечнымі дубамі, быццам язычніцкі храм у гонар Ярылы і ўсіх чарадзейных і дужых рэчаў, магутных стыхій і істот.

На схіле дня мы з прыемнасцю рванулі ў кірунку Свіцязі, у гасцінны дом ляснічага Сацэвіча, паспелі яшчэ да захаду сонца выплысці на лодцы з вудамі, але возера было ціхім, празрыстым, рыба баялася нашых ценяў, уцякала жыраваць у густыя водарасці, адцэджваць праз жабры планктон.

Свіцязь была яшчэ тады сабою — не нагружана рэстаранам, пансіянатам, не засмечаная кампаніямі аматараў выпіць на прыродзе. Было ў возера яшчэ шмат той рамантычнасці, якая вылівалася ў радкі Міцкевіча: «Gwiazdy nad łoba i gwiazdy pod łoba, i dwa obaczysz ksieżyce».

Мы з Янкам дражнілі Валодзю ўспамінамі пра леташнія дабычлівыя рыбалкі. Бывала, у кампаніі на світанках ганялі пазычаную ў ляснічага лодку цераз чароты і, знаходзячы невялікія вокны, кілзалі дзябёлых гарбылёў наўздзіў гаспадыні. Свіцязянскі акунь адмысловы, нідзе такога не знойдзеш: луска далікатная, нібы ў плоткі, такога не цяжка чысціць. Гэтым адвячоркам нам не шанцавала, давялося задаволіцца здымкамі, на якіх Караткевіч, крыху пазіруючы, паказваў рыбацкі азарт. Страціўшы ўрэшце надзею на ўлоў, Валодзя пачаў пераводзіць гаворку на паэзію, мы па памяці дэк-

ламавалі свіцязянскія балады Міцкевіча, пераносіліся ў XIX стагоддзе. Здаецца, тады, над Свіцяззю, Караткевіч запяяў беларускую песню паўстанцаў Каліноўскага «Ой, закурэла ды сырымі дрывамі». Спаўняліся ж сотыя ўгодкі паўстання 1863 года, Валодзя жыў тою гераічнаю парой, прыгадваў малавядомыя, часта парадаксальныя факты, дзёрзкія выпады паўстанцаў, жорсткія самадурныя выхадкі Мураў'ёва-вешальніка, які ў помслівым гневе апускаўся да змены назваў вёсак, у якіх прыгонныя сяляне ішлі да «мяцежнікаў». Адна вёсачка на радзіме Цёткі атрымала назву Сабакінцы.

У спеўным настроі мы вярнуліся ў хату, дзе гаспадыня прыгатавала беларускую вячэру з кумпяком і каўбасою, з грыбамі і гарачаю бульбачкай. Уміліла Валодзю атмасфера сям'і ляснічага, у якой так звонка шчабяталі па-беларуску дзеці. Нам перадалася атмасфера зычлівасці, гармоніі, лагоднай усмешлівасці. Пявучых спадарожнікаў пацягнула на песні, і я меў прыемнасць слухаць мо самы багаты рэпертуарам пісьменніцкі канцэрт. Валодзя цягнуў барытонам, Янка запяваў тэнарам, леснічыха повічкавала мяккім сапрана. Які мы спеўны і які недалужны народ — не ўмеем паказаць таго, што ўмеем.

Наша вандроўка прадоўжылася назаўтра аглядам навагрудскага замчышча, фарнага касцёла і музея Міцкевіча. А закончылася на дзядзінцы замка ў Міры, які Валодзя аглядаў пільна, нібы інтэндант, якому належала раскватараваць у падобнай будыніне не адну княжацкую дружыну. Брыль многа расказваў пра Наваградчыну і Міршчыну, прытым высмыкваў з памяці вясёлыя ды займальныя эпізоды. Вось з'ехаліся ў 1799 годзе на з'езд у Мір цыганы, караля абіраць і каранаваць. Урачыста вялі апошняга нашчадка дынастыі Квекаў пад ручкі, апранулі славутага канакрада ў чорны фрак, і раптам людзі, мірскія мяшчане, што прыглядаліся цырымоніі, зарагаталі. Убачылі, як на чорным фраку матлялася ззаду бірка ламбарднага магазіна, у якім арганізатары свята пазычылі панскую вопратку.

Я адвёз спадарожнікаў на станцыю ў Стоўбцы. Не хацелася расставацца, так мы прыцерліся за гэтых некалькі дзён. Чалавек — істота грамадская, хоць часам і дзічыцца або фардыбачыцца і ўнураецца ў сябе.

*1990*

# Неспакойны Пегас

Упершыню ён прыехаў у Брэст на сустрэчу са студэнтамі педінстытута ў 1963 годзе, напярэдадні Дня перамогі. Праграма вечара апавяшчала выступленне госця, студэнтаў і берасцейскіх пісьменнікаў. Прысутныя прачыталі два зборнікі яго вершаў — «Матчына душа» і «Вячэрнія ветразі», кнігу апавяданняў «Блакіт і золата дня» і надрукаваны ў «Полымі» першы раман «Нельга забыць», якому наканавана было нажыць бурную біяграфію і больш рамантычную назву «Леаніды не вернуцца да Зямлі».

Я адкрыў вечар заклікам да студэнтаў набрацца смеласці і выступаць шчыра. Чытацкая думка можа быць карыснай пісьменніку тады, калі яна шчырая, а калі падладжана пад стандартны густ, хрэстаматыйныя нарматывы — нічога не вартая. Такія веды залічваюцца толькі на экзаменах ды і то педантычнымі выкладчыкамі, а нашаму госцю, мастаку слова, патрэбны жывыя ўспрыманні.

Караткевіч выступаў свабодна, раскавана, гаварыў пра свае творчыя планы, чытаў фрагменты з рамана «Каласы пад сярпом тваім», над якім працаваў, на памяць дэкламаваў вершы пра Машэку, Багрыма, паўстанца Ваўкалаку, пра «векавечнай бацькаўшчыны клёны», і ўсё гэта рабілася так непасрэдна, натуральна, што аўдыторыя парадніласся з госцем, студэнты ахвотна выступалі.

Найбольш грунтоўна выказваліся пра творчасць пісьменніка будучыя літаратары — Уладзімір Гніламёдаў, Васіль Жуковіч і Міхась Тычына. Апошні захапляўся Талстым і трапна адшукаў у творах Караткевіча высокую маральную чысціню, прагу духоўнасці, пошукі сэнсу жыцця, якія прыводзяць герояў да Беларусі, яе векавечнай красы і сумлення.

Мяне ўразіла, што многія студэнткі хвалілі аўтара

за ўсхваляваны паказ мінулага свайго народа. Іх шчырыя, часта наіўныя рэплікі сведчылі пра голад гістарычнай праўды, якая звязвае чалавека з народам, нацыяй, з мінулым і будучым, робіць жыццё духоўна багатым, напоўненым патрыятызмам і гістарычнымі каштоўнасцямі, паднімае грамадзянскую годнасць.

Студэнтам імпанавала, што Караткевіч не вывучаў гісторыю як вучоны, перабіраючы і ўпарадкоўваючы падзеі, зводзячы ўсё ў сістэму. Ён жыў у гісторыі і цераз свае чалавечыя адчуванні даваў ацэнку гістарычным эпохам. Вартасць эпох мастак вымяраў свабодай. Чым больш свабоды, тым больш даспадобы прыходзілася эпоха ці этап у лёсе Беларусі. Але ж вядома, што ў грамадстве ёсць дапушчальная мера свабоды, за якою, па словах Філона Кміты Чарнабыльскага, свабода з'ядае парадак. Мне здавалася, што Караткевіч не прызнае такіх метамарфоз.

Спадабаліся студэнтам героі рамана «Нельга забыць» — Андрэй Грынкевіч і Ірына Горава. Яны спадчынныя інтэлігенты, людзі з дваранскімі радаводамі. Сэнс іх жыцця — памнажаць духоўную культуру чалавецтва. Калі гаварыць канкрэтна, дык для пісьменніка Грыневіча — гэта падыманне літаратуры свайго народа да ўзроўню еўрапейскай. Праз духоўнасць — да патрыятызму, — такі шлях лічыць ён адзіна вартым жыцця. Я не быў такім паблажлівым у ацэнках герояў рамана, як студэнты. Ірына Горава выдалася мне даволі суматошнай і саманадзейнай. Карэжыла ў ёй адсутнасць таварыскага такту, нястача жаноцкасці.

У часы, калі дазвалялася выхваляцца толькі плебейскай бязроднасцю і бяспамяцтвам, Караткевіч паказваў савецкіх інтэлігентаў, беларускага студэнта і рускую выкладчыцу, людзьмі, якія не саромеюцца сваіх продкаў, памятаюць іх, крывёю пародненых паўстанцаў 1863 года з народам, стараюцца быць годнымі іх. Родавая памяць для нашчадкаў — маральная апора чалавеку, бо ён адчувае сябе не выпадковым суб'ектам жыцця, а гістарычным пераемнікам традыцый і каштоўнасцяў народа, патрыятычных запаветаў.

Нашай студэнцкай грамадзе, якая ў масе паходзіла з сялянскага асяроддзя, дзе ў сем'ях памяталі свой род не далей як да трэцяга калена, героі Караткевіча адкрывалі перавагу арыстакратызму над плебейскасцю. Ён прызнаваў не так уроджаны, як набыты арыстакра-

тызм духу. Носьбітамі яго выступалі інтэлігенты-патрыёты, вартаўнікі і памнажальнікі нацыянальнай скарбніцы. Студэнты так прагнулі ўмацаваць нацыянальную тоеснасць, што не заўважылі супярэчнасці паміж інтэлігенцкім арыстакратызмам пісьменніка і афіцыйна абавязваючым культам беднаты. Я таксама рабіў выгляд, што не заўважаю гэтага дысанансу, падкрэсліваў, што ў госця патрыятычна настроеныя арыстакраты і інтэлігенты любяць народ, сябруюць з сялянамі. Ідэалам мастака быў інтэлігентны перадавы арыстакрат, які нёс у сабе грамадзянскую культуру, станавіўся народным заступнікам, а то і важаком, абаронцам прыніжаных. Такі Алесь Загорскі з рамана «Каласы пад сярпом тваім», такім бачацца госцю і Каліноўскі, Марцінкевіч, Багушэвіч.

Зрэшты, пра Каліноўскага давядзецца гаварыць асобна. Караткевіч заставаўся на подступах да гэтага вобраза. Пазней у гутарцы прызнаваўся мне, што яму цяжка ўвайсці, пераўвасобіцца ў постаць Каліноўскага, бо дыктатар паўстання яму здаецца чалавекам, заціснутым самадысцыплінай, нават жорсткім. Яго цяжка палюбіць, хочацца бачыць яго не часткай паўстання, не функцыянерам, а чалавекам. Гэта будзе дзесьці пасля 1968 года, калі выйдуць дзве часткі рамана і аўтар прыедзе на канферэнцыю ўжо з новым пакаленнем студэнтаў.

Пасля першай сустрэчы мы рана ўсталі, паснедалі і выехалі ўдвух з горада, пакуль не запрудзілі вуліц гурты ўдзельнікаў традыцыйнага мітынгу ў гонар Перамогі, што меўся адбыцца ў цытадэлі, частку якой не так даўно вайскоўцы адкрылі для наведвальнікаў. Госць пажадаў паглядзець на старажытны Камянец, наведаць Белавежскую пушчу, бо руіны крэпасці агледзеў учора, а святочныя цырымоніі яго не вабілі — стандарт.

Раніца выдалася сонечная, ціхая, але зябкая. Валодзя прыехаў у Брэст, абганяючы вясну, у адным летнічку. З увагі на холад я захапіў у хаце цыгейкавую безрукаўку, пацягнутую зашчытным салдацкім дыяганалем. Вопратка аказалася вельмі дарэчы пры агледзінах Камянецкай вежы, калі госць забраўся ажно на дах і з-за каменных зубцоў узіраўся цераз рэчку Лясную ў далягляд, дзе ў ранішнім тумане зяблі пушчанскія воступы. Я зрабіў серыю здымкаў Валодзі ў той безрукаўцы, і пару з іх аказаліся ўдалымі, яны аздобілі нават Збор

твораў. Караткевіч быў увесь ва ўладзе лятункаў аб мінуўшчыне, крыху пазіраваў: глядзіць на здымку сурова, нібы пан кашталян, якога пазваў вартаўнік пагглядзець вопытным вокам на ятвяжскіх коннікаў, што вынырнулі з імглы ды круцяцца на ўзлеску. Кашталян разгадае намеры ворага і дасць каманду да абароны.

Музея ў вежы тады яшчэ не было. На сцяне першага яруса вісела сціплая экспазіцыя. Абслугоўванне наведвальнікаў вялі настаўнікі-краязнаўцы на грамадскіх пачатках. Валодзя нязлосна падражніўся з маладзіцай-дзяжурнай, закідваючы яе пытаннямі і пацешна адказваючы за яе.

Падзякаваўшы настаўніцы за клопат і распісаўшыся ў кнізе наведвальнікаў, мы падаліся далей, да Белавежскай пушчы. У Дзмітровічах захапілі з сабой настаўніка літаратуры Леаніда Крышпіновіча, накапалі дажджавікоў, вырашылі паглядзець зуброў і аленяў у камянецкіх вальерах ды пасядзець з вудамі на беразе Лясной. У мяне здараліся ў тых мясцінах удалыя рыбалкі: пры вялікіх разводдзях сюды заходзіла, мабыць, з Буга, шмат шустрых шчупакоў-сяледчыкаў, вельмі агрэсіўных і падкіх на малыя блёсны. Я захапіў два спінінгі і дзве вуды. На жаль, не ўдалося пачаставаць госця добрым рыбацкім азартам: разводдзе ў тым годзе было невялікім і вада ўжо спала, большая рыба сышла ўніз, давялося пазабаўляцца печкурамі ды паслухаць Валодзевых расказаў пра каралеўскія рыбалкі на Дняпры, якія наладжваў дзядзька па матчынай лініі І. В. Грынкевіч.

У глыб пушчы мы не паехалі, адклалі на наступны раз. Зрэшты, дзень прайшоў хутка, уражанняў было ўдосталь, адразу пасля вячэры госць дастаў з саквояжа рысавальны альбом, які служыў яму адначасна блакнотам, і зачыніўся ў сваім пакоі. Да поўначы напісаў верш «Белавежскі алень» і прысвяціў яго З. і У. Калеснікам. Акуратна перапісаны чорным чарнілам тэкст уручыў раніцай Зосі. Пад вершам дата: «9 мая 1963. Брэст». Я таксама перад сном зрабіў пару нататак, аркушык з імі неспадзеўкі захаваўся. Падаю тэкст, перабяліўшы і прасвятліўшы скарачэнні:

«Прыехаў У. К. 7.V.63. Сам-насам расказваў пра Молеву (прататып Ірыны Горавай) — гэта жонка мастака Бялюціна, настаўніка маладых маскоўскіх абстракцыяністаў. У часе крытыкі Эрнста Неізвеснага і мадэрніс-

таў міністэрства культуры адпусціла Бялюціну сродкі на «перавучванне» навучэнцаў, якія ўваходзілі ў яго студыю і «заразіліся» мадэрнізмам. Караткевіч быў дужа шакіраваны і абураўся, не мог зразумець, як дазволіў сабе перакананы ў сваёй праваце Бялюцін пайсці на такое паніжэнне, так раптоўна, паспешліва пераніцавацца, крутнуць на 180° і ўзяцца за абсурдную працу перавучвання сабой жа навучаных мастакоў

— Як ён зараз будзе глядзець знаёмым у вочы? — ускрыкваў Караткевіч. — Не магу зразумець, як гэта здарылася. І што было прычынай такога злому Бялюціна: спакуса ці страх?

Я выказаў думку, што, можа, ён ужо ў такім узросце ды так пабіты жыццём, калі чалавек не цэніць такіх рэчаў, як эстэтычная незалежнасць.

— Не, — адказаў Караткевіч, — ён яшчэ не мае сарака.

Быў нядаўна Валодзя ў Маскве, чуў там, што Хрушчоў выступаў на пленуме маскоўскага гаркама і сказаў, быццам у барацьбе супраць мадэрнізму перагнулі палку. Вінаваты ва ўсім Собалеў і Суркоў, якія з карысліваецці дэзінфармавалі ЦК КПСС. Фурцава здагадалася пра аферу і заявіла: «Хай не думаюць некаторыя нядобрасумленныя людзі, што ім удасца справакаваць кіраўніцтва партыі і ўрад на фізічную расправу з творчай інтэлігенцыяй».

Караткевіч прыводзіў у прыклад маладога латышскага паэта, пра якога пачуў на курсах у Маскве. Той быў замешаны ў нейкай палітычнай апазіцыі, трапіў пад суд. Валодзя ездзіў нават са сваім другам Геранімам Стулпанам у Рыгу хадайнічаць перад урадам аб дараванні віны асуджанаму пісьменніку: «Я веру, што калі б дзяржава даравала кару чалавеку, асуджанаму за палітыку, то ён ніколі больш не займаўся б палітыкай. Як ты думаеш?»

Я адказаў, што паэт, відаць, ацаніў бы высакароднасць даравання віны, а палітыкан наадварот — палічыў бы, што ён мае рацыю, і прадаўжаў бы свой занятак з большым азартам, рашыў бы стаць уладаром свету».

Выступаючы на вечары, Валодзя расказваў студэнтам, як загарэўся пісаць пра Каліноўскага. Лічыць гэту постаць самаю шчымліваю ва ўсёй нашай гісторыі. Захапіўся Каліноўскім яшчэ ў Кіеўскім універсітэце. Вы-

вучаў дакументы ў архівах Вільні. Даведаўся, што прозвішча Каліноўскага, які карыстаўся псеўданімам Віtажэнец, раскрыла жандарам дачка гаспадыні, дзе той жыў перад выездам на Гродзеншчыну. Караткевіч тлумачыць здраду рэўнасцю, адвергнутым каханнем. Подпісы «судебных заседателей» на дакументах, спачатку разборлівыя, сталі ў канцы неразборлівымі, асабліва там, дзе выносіўся вердыкт, што Каліноўскі вінаваты. І зусім неразборлівыя подпісы пад смяротным прысудам. Гэтае назіранне дало падставу мастаку пранікнуць у духоўны стан суддзяў. Яны хісталіся, адчувалі дакоры сумлення.

Вяртаючыся з пушчы, Валодзя шчыра, па-мужчынску гаварыў пра рамансаванне з Молевай, яно было зусім платанічным. Я паверыў і сказаў, што даводзілася часта назіраць падобныя адносіны экзальтаваных студэнтаў да выкладчыц, а студэнтак да выкладчыкаў, якія лічыліся ледзь не багамі, а на выпускных вечарах атрымлівалі ахапкі кветак удзячнасці за веды, якія яны «далі». Мяне пацяшалі такія рытуальныя акты ідалапаклонства, а калі пачуцці піетызму спадалі на мяне, дык абараняўся, жартуючы: «Розуму свайго я ніколі нікому не раздаваў, бо не меў лішняга, ды наогул розум — гэта такая эфірная субстанцыя, якую пераліць з адной галавы ў другую немагчыма, улятучыцца». Я прасіў студэнтаў лічыць усё добрае, што яны вынеслі з інстытута, сваім набыткам і радавацца, што хапіла кожнаму сілы, волі, здольнасці і духоўнай патрэбы набываць столькі ведаў, каб хапіла іх для выкладання літаратуры і нават для творчай работы. Развітваючыся, казаў: «Да сустрэчы на старонках літаратурных і метадычных выданняў».

Гэтак я разглядаў і ўдзячнасць Караткевіча Молевай, яго шчодрыя падарункі каханай — амаль палова вершаў з кніжкі «Вячэрнія ветразі». Валодзя ўбачыць тую кніжку ў мяне на стэлажы значна пазней, возьме ў рукі і напіша, прыгадваючы нашы размовы, высакапарна: «Дарагому майму другу, Валодзю Калесніку, каб ветразь нашай літаратуры (далёка не вячэрні) заўжды трымаў высока. 21 снежня 1980 г.».

Літаратурны вечар даў мне магчымасць праверыць сваё ўспрыманне творчасці Караткевіча, асабліва паэзіі. Тады я якраз канчаў рэцэнзію на кніжку «Матчына душа» для «Дружбы народов». Мне выдавалася, што

змест апраўдвае назву, кніжка падкуплівае шчымлівай уражлівасцю і ўсхваляванасцю перажыванняў. Для прыкладу хацеў прывесці верш «Паўлюк Багрым», дзе рамантычная вобразнасць надзіва трапная. Трывожна гучаць радкі запеву:

На гасцінцах бярозы
Зусім пачарнелі ад ветру...

Чытач уваходзіць у драматычны настрой, ён уражаны тым, што бярозы, сімвал дзявочай мілай красы, счарнелі, пакутуюць. Боль нарастае, даходзіць да трагедыйнага ўзрушэння, калі замест бяроз перад вачыма паўстаюць «бураломныя хвояў крыжы». Ад страчанай мілай красы да злавеснасці, трагедыйнай сімволікі вядзе думку чытача паэт, дасягае містычных глыбінь хрысціянскай міфалогіі з яе самаахвяраваннем бога і пакутнаю смерцю на крыжы адкуплення. Ці толькі рамантыка гэта? Так мне хацелася напісаць, але ж хто з чытачоў саюзнага часопіса ведаў біяграфію Багрыма?

Не ведалі чытачы і беларускага асілка Машэкі, паданне пра якога Караткевіч адважыўся па-свойму прачытаць. У паданні лагодны вясковы дзяцюк не знёс крыўды за «адбітую» панам нявесту, пайшоў у разбойнікі, помсціў саперніку-пану. Помста — благая страсць засляпіла яго, ператварыла ў дэмана, вампіра, прагнучага крыві. Янка Купала паклаў момант перараджэння ў аснову паэмы «Магіла льва». Ён паглыбіў і псіхалагічна матываваў наяўную ў паданні зменнасць ацэнкі: забіла Машэку Наталька, яго колішняя каханая, а народ ухваліў забойства, паколькі свет збавіўся ад разбойніка, але ў той жа час народ пашкадаваў аб страце волата, які быў раней справядлівым, увасабляў мару пра героя, здольнага абразуміць паноў, выбавіць край ад здзеку і прыніжэння.

Патрэбна было не мала рызыкі, каб пасля Купалы прапанаваць сваё прачытанне. У Караткевіча Машэка — постаць гераічная ад пачатку да канца, праблема перараджэння адсутнічае. Рамантызацыя Машэкі — генеральная ўстаноўка, якою кіраваўся паэт. Ключавым сігналам з'яўляюцца радкі з маналога Машэкі:

Нішчу я паноў, замкі іх палю,
Я ламаю іх векавы бізун,
Помшчу за маю бедную зямлю,
За яе жальбу, за яе слязу,
За тваю красу, за маю любоў...

Машэка ў Караткевіча — гэта прадвеснік вечнага бунтара, ерэтыка, які пройдзе праз усю яго творчасць, бо ерэтыкі, спрэчнікі — гэта такое племя, што заўжды мае рацыю, хоць гэта прызнаюць, бывае, праз стагоддзі маўчання або пагарды.

Гэтыя меркаванні давялося апусціць, сёе-тое падчысціла і рэдактура, але шэраг думак, што я праверыў на аўдыторыі літаратурнага вечара ў прысутнасці аўтара, прайшлі.

Я меў мажлівасць упэўніцца, што слушна заўважыў асаблівы склад душы паэта і падтрымаў яго імкненне да вечных тэм, спрабаваў адказаць на пытанне, чаму творы Караткевіча выклікаюць вострую рэакцыю крытыкаў і атрымліваюць спрэчныя ацэнкі. У рэцэнзіі я лічыў істотнай вось гэту мясціну: «Яшчэ да выхаду першай кніжкі «Матчына душа» яго вершы, што друкаваліся ў часопісах, станавіліся прадметам гарачых спрэчак. Маладога паэта аднолькава гучна хвалілі за арыгінальнасць, талент, майстэрства і ўсчувалі за кніжнасць, ускладнёнасць, нават за непавагу да сучаснасці. Творы Караткевіча нараджаюцца ў пошуках, голас паэта не закасцянеў, гэта, як мне здаецца, галоўны повад для крытычных нападак. Напэўна, шэраг папрокаў трэба аднесці і на рахунак самой крытыкі, якая недастаткова ўлічвае спецыфіку лірычнай паэзіі як жанру, дзе своеасабліва выяўляецца тэма сучаснасці.

Маючы справу з вечнымі тэмамі — жыццё і смерць, каханне і разлука, чалавек і прырода, — з вышэйшымі пачуццямі — патрыятызм, інтэрнацыяналізм, чалавечнасць, — паэт пераасэнсоўвае іх у сучасным духу. Паэтычныя маналогі — гэта крыніца фантазіі, што звязвае ў адзіным вобразе з'явы далёкія і блізкія, прыгадкі і назіранні, мару і рэальнасць. «Дэман» Лермантава таксама востра закранае праблемы сучаснасці, як і «Герой нашага часу», аднак ніхто не стане пытацца, калі Дэман спакусіў Тамару? У творах лірычных субстрат часу — не час дзеяння, а час уяўлення лірычнага суб'екта пра падзеі, што адбыліся ў мінулым, ці адбываюцца вось цяпер, або чакаюцца ў будучыні, нарэшце, рэакцыя на падзеі, якія могуць адбыцца ўсюды і нідзе, заўсёды і ніколі. Па змесце роздумаў лірычнага суб'екта трэба вырашаць пытанне пра вобраз сучаснасці ў творах паэта.

Чаму агульначалавечае захоўваецца ў паэзіі, якая

адлюстроўвае не забабоны, а сапраўдныя перажыванні савецкага чалавека? Ды хоць бы таму, што сучаснасць хоча быць увекавечанай у неўміручых творах».

Прачытаўшы праз 30 гадоў тую рэцэнзію, дзіўлюся, што мне даводзілася выступаць адвакатам паэта, які не прызнаваў перавагі сучаснасці над мінулым, устаноўленай малапісьменнымі, але ўсеўладнымі ідэалагічнымі рамеснікамі з ведамства Кацярыны Фурцавай.

Да ліку адметных стылёвых рыс паэзіі Караткевіча я аднёс драматызацыю, баладную фантастыку, уменне ўзрушаць лаканічным, важкім словам і красамоўным змаўканнем: «Стрыманасць пачуццяў, стрыманасць слоў, стрыманасць жэстаў — вось чым пераконвае балада». Сапраўды, «Партызанская балада» Караткевіча ўвайшла ў залаты фонд беларускай лірыкі. Мне ўдалося прыкмеціць і, стаўшы ў наіўную позу, дакараць крытыкаў за тое, што яны ўхіляюцца ад аналізу праграмных твораў паэта, а праграма яго такая: «чалавеку нельга жыць без маці-радзімы, без яе душы», таму «я абавязаны» яе апяваць. Місійнасць іншага толку патрабавалася тады ад паэзіі. Ідэалагічная машына падрадзілася ж забяспечыць зліццё нацый і пабудаваць за 18 гадоў камуністычнае грамадства. Ставіць пад сумненне здзяйсняльнасць праграмы забаранялася. Паэта, які выносіў традыцыйную праграму любові да свайго старажытнага народа і векавечнай Бацькаўшчыны, можна было падтрымаць, толькі іграючы ролю наіўнага чытача. Я гэта рабіў, хоць і здавалася мне, што радок «У векавечнай бацькаўшчыне клёны» неабачны і вызываючы. Так яно было.

## БЕЗ СВАТАННЯ І ЗАРУЧЫН

Пасля асабістага і літаратурнага знаёмства да мяне часта даходзілі звесткі пра яго жыццёвыя і творчыя справы, асабліва актыўнае рэха давала ідэя рэфармацыі літаратуры праз гістарычную і патрыятычную тэматыку. Праблема гэтая была моцна наідэалагізаванай, нават небяспечнай для Караткевіча і цяжкой для вырашэння.

Прыгадваецца мне гутарка з М. Танкам у часе яго дэпутацкага прыезду на Палессе, восенню 1963 года. Яўген Іванавіч як рэдактар «Полымя» і адзін з кіраўні-

коў Саюза пісьменнікаў быў уцягнуты ў жыццёвыя нягоды маладога пісьменніка, які па-донкіхоцку змагаўся за патрэбную для самавыяўлення таленту свабоду творчасці. Выдавецкая наменклатура мела звычай ставіць аматараў свабоды на галодны паёк, а маладым і пайкі адбірала. Умешванні ў творчую працу тлумачыліся ўмовамі халоднай вайны, нарастаннем ідэалагічнай барацьбы сусветнага імперыялізму супраць нас. Вайна ідэалогій сапраўды тарахцела на ўвесь эфір, і здавалася, што была патрэба ў еднасці і адзінадумстве. А тут знайшоўся малады ерэтык, які пачаў дамагацца не прыбаўкі да пайка творчай свабоды, а наогул поўнай свабоды. Малады аўтар ігнараваў акадэмічную гістарыяграфію, якая паказвала мінулае беларусаў як ланцуг пакут і вечнае імкненне зліцца са «старэйшым братам». М. Танк разумеў, што шанцаў у Караткевіча бадай што няма, тым больш што той ішоў напралом, не прызнаючы ніякіх уступак. Сітуацыю абвастрыла цяганіна аўтара з дзяржаўным выдавецтвам за раман «Нельга забыць». Твор быў надрукаваны ў «Полымі», а выдавецтва патрабавала для кніжнага выдання купюр і паправак. Выходзіла, што рэдактар часопіса і ўвесь рэдсавет былі ідэалагічна нявытрыманымі. Упартасць Караткевіча ставіла Танка і палымянцаў пад удар. А віноўнік не бачыў тут нічога некарэктнага, бо лёс рамана і лёс літаратурнага часопіса, яго калектыву, нават лёс усёй беларускай літаратуры для максімаліста — велічыні раўнацэнныя. Нават адзін таленавіты сказ ці адзін таленавіты выраз у разуменні Караткевіча быў роўны ўсёй літаратурнай скарбніцы свету. Танк ведаў этыку персаналізму, сам карыстаўся ёю ў маладыя, поўныя безнадзейных сітуацый гады. Але цяпер адказны рэдактар не мог сабе дазволіць безадказнасці. У ім змагаўся паэт з дзеячам. Яўген Іванавіч спачуваў маладому таленту, лічыў яго жаданне стварыць беларускую гістарычную белетрыстыку высакародным патрыятычным парывам. Але задума здавалася яму нездзяйсняльнай. Ён спыняўся на думцы, што спазніліся ўжо мы, беларусы, запозненыя кураняты не жыццяздольныя. Сапраўды, спазніліся. Дакладней, нас «спазнілі» і апярэдзілі суседзі. Прытым не так, як, скажам, народы трэцяга свету, чыя гісторыя засталася «чыстаю» кружоваю легендай. Наша гісторыя была раскрадзена і перайначана суседнімі гісторыкамі, утылізавана. Беларускія акадэмічныя гісторыкі пайшлі

ў васальную залежнасць да рускіх дарэвалюцыйных кансерватыўных дзеяпісцаў. Патрыятычных беларускіх гісторыкаў дарэвалюцыйнай пары — Любаўскага, Доўнар-Запольскага, нават Пічэту аб'явілі нацдэмамі і ворагамі ці шкоднікамі «савецкай навукі».

Вось у такой, здавалася б, безнадзейнай сітуацыі давялося змагацца за свабоду творчасці, за рэфармацыю літаратуры Караткевічу як паэту, гістарычнаму белетрысту і драматургу. Ён быў пачынальнікам, першапраходцам. Зброя мастака — талент, а Караткевічу дастаўся ад прыроды буйны і самабытны, нават «рагаты» талент. Мастак прывучаў да сябе чытача і выдаўца. Тады я не ведаў пра перапіску Караткевіча з Танкам, але бачыў, што Яўген Іванавіч спачувае маладому бунтару, хоць рэалістычней уяўляе цяжкасці, якія стаяць перад беларускай літаратурай, перад развіццём гістарычнай тэмы. Як рэдактар часопіса ён стаяў паміж двух агнёў. А Караткевіч — у полымі. Яшчэ настаўнікам сутыкнуўся ён з жахлівай збедненасцю гістарычнай самаарыентацыі беларускіх школьнікаў. Ён пісаў Танку: «Дзеці дрэнна ведаюць гісторыю, а мне б вельмі хацелася, каб людзі раптам адкрылі мора паэзіі ў беларускай гісторыі, як калісьці адкрылі ў шатландскай. Думалі сабе, што там адзін верас ды скалы, а тут пайшлі, загаварылі, заспрачаліся розныя Роб Роі, і ўвесь свет стаў і толькі цёр вочы, думаючы: «Хіба я сляпы быў да гэтага часу?»

З Брылём у Караткевіча склаліся адносіны больш цесныя, сяброўскія, хоць і ў іх уносіў скрыпы юначы максімалізм. Брыль з Караткевічам няспынна абменьваўся думкамі наконт жыццёвай практычнасці і творчай свабоды. Гэты абмен нагадваў бы размову Санча Панса з Дон Кіхотам, калі б старэйшы і больш практычны Янка Брыль сам часта не трапляў у сітуацыю Дон Кіхота, а карыслівым гатовы быў стаць дзеля малодшага сябра, шаляніцы, які выкідваў конікі далёка не бяскрыўдныя, а часам шкодныя і небяспечныя для сябе. Вось ад лішняй бяспечнасці Брыль спрабаваў яго адвучыць. Памятаю размовы, калі выдавецтва ў асобе дырэктара Матузава ўзялося «рэзаць» апублікаваны ў «Полымі» раман «Нельга забыць». Брыль узяў на сябе ролю медыятара, згадзіўся напісаць рэцэнзію, указаць для адчэпнага на такія-сякія хібы, запрапанаваць папраўкі і зрабіць мінімум уступак выдавецтву, абараніў-

шы прынцыпова важнае, адкрыць твору дарогу да чытача. Караткевіч згадзіўся даверыцца вопыту старэйшага сябра. Сышліся яны ўтрох у кабінеце дырэктара. Брыль уступіў нейкае неістотнае скарачэнне, на якім настойваў выдавец. Той і сам, мажліва, перастрахоўваўся на выпадак, калі вышэйстаячыя спытаюцца, што зрабіла выдавецтва, каб давесці тэкст да ідэалагічнай нормы. Але Караткевіч, як толькі ўбачыў, што дырэктар абрадаваўся ўступцы, выбухнуў пратэстам.

— Нават коскі не ўступлю. Ніводнай коскі! — І, усхапіўшыся з крэсла, горда выйшаў з кабінета.

Не раз пасля гэтага Я. Брыль пры мне выгаворваў Караткевічу яго выхадку.

— Ты б хоць ужо, калі цябе дзядзька на спіне цераз балота пераносіць, не лупіў бы яму пятамі пад бакі!..

Караткевіч выслухоўваў дакор, апусціўшы вочы, але з ухмылкай на вуснах. Ён чуў у душы, што Брыль сам недзе любуецца тою маладзецкаю выхадкай, бо і сам жа забіраў рукапісы апавяданняў з выдавецтва, калі рэдактар ці цэнзура патрабавалі бязглуздых пераробак або здымалі прынцыпова важныя мясціны. Толькі ён меў ужо горкі вопыт, што амаль нічога ад аўтарскіх пратэстаў не зменіцца, усяго да творчых клопатаў прыбаўляюцца матэрыяльныя, а каб тварыць, трэба быць адзетым, абутым і хоць сяк-так накормленым. Для ахова аўтарскай пазіцыі больш надаваліся абыходныя манеўры, уступкі менш істотныя, дзеля ратавання галоўнага.

— Я б табе адрэдагаваў, — гаварыў іншы раз Брыль, — што ты б абышоў Матузава, той бы і вокам не міргнуў. А кніга бы выйшла.

— А я не хачу. Няхай ляжыць дзесяць, дваццаць, трыццаць год, але выдам так, як я хачу!

— Ну і сядзі, вельмі ты іх напалохаў. Яны гэтаму і рады.

Два дзесяткі гадоў пасля часопіснай публікацыі чакаў раман сваёй пары, выйшаў кнігай спачатку ў Чэхаславакіі, а потым, пад націскам літаратурнай грамадскасці, і ў нас. Караткевіч лічыў свае паводзіны натуральнымі для паэта. Адна справа згадзіцца на кампраміс са старэйшым таварышам, а іншая — з выдавецкім дырэктарам. Тут ужо кампраміс азначаў публічнае аб'яўленне сябе мяккацелым.

Даводзілася мне чуць, як Брыль па праву старэйша-

та брата дацінаў Караткевіча за тое, што ён не дазваляў нікому на свеце называць сябе рамантыкам — толькі рэалістам. Захавалася ў мяне нататка з якойсьці нашай паездкі па Наваградчыне, на жаль, без даты.

— Рэаліст, — іранізаваў Брыль. — Ад Любчы да Уселюба 9 кіламетраў, а ў цябе два сутачныя конныя пераходы. Здорава гналі коннікі, па чатыры кіламетры за дзень! Ну і коні...

Караткевіч надзьмуўся, але маўчыць, а Брыль прадаўжае:

— Ад Наваградка да Валеўкі 19 кіламетраў, а ў цябе князь літоўскі памёр ад страты сіл, калі тры дні дабіраўся з дружыннікамі праз нетры. Я ж заўвагу табе зрабіў у рукапісе як чалавеку, а ты ўсё роўна сваё, пакінуў, як было.

— Папраівіў ты, бо ў вас (тут і я быў занесены ў графу Вы) адно мысленне, а ў мяне — другое. Трэці том «Живописной России», прысвечаны Беларусі, чорным па белым піша, што адлегласці там большыя... Вось і пакінуў.

Да ліку людзей з іншым мысленнем трапляю і я за тое, што часам на сустрэчах Караткевіча са студэнтамі вытыкаю яму недакладнасці фактычнага характару па абавязку педагога і крытыка.

Брыль, каб не падліваць масла ў агонь, расказваў часам для павучэння пра свае канфлікты з-за мастакоўскай незалежнасці. Гэтым разам пачаў на казачны лад:

— Было гэта тады, калі на крэсле М. сядзеў таварыш Б. Выклікае мяне, значыць, Б. і гаворыць: «Знаете ли, у вас зачем-то введены какие-то неблагозвучные фамилии: Чигунчик, Шарейко какой-то... Смотрите, то ли дело в русской литературе: Онегин, Печорин, Иртеньев...»

— А я падключаюся, — гаворыць Брыль, — яго ж перачальным тонам устаўляю: «Неклюдов». Той спыняецца, маўчыць, а потым далей вядзе:

— Ну, это не характерно. В общем, мы вам предлагаем — есть мнение такое, чтобы вы поехали бы в деревню и написали повесть об МТС.

Брыля здзівіў такі «снисходительный тон» і вульгарненькі заказ, успомнілася Міцкевічава насмешка: «Na zakaz można tylko buty szyć» — і ён адпрэчыў на рамантычны лад:

— А я не хачу.

— Как так?

— Ды ніяк. Проста не хачу.

Пасля Брыля пайшоў на прыём па выкліку таварыша Б. Анатоль Вялюгін. Выйшаўшы, перадаў Брылю словы пакрыўджанага кіраўніка: «Этот Брыль... Строптивый, понимаете ли, молодой человек!»

На літаратурныя вечары, якія наладжвала кафедра беларускай літаратуры, хадзілі акрамя студэнтаў беларускага аддзялення філфака найбольш дапытлівыя выкладчыкі гуманітарных кафедраў, пару чалавек псіхолагаў і педагогаў. З грамадскіх кафедраў па знаёмстве часам хадзіў адзін рэктар, большасць грамадазнаўцаў лічылі ніжэй уласнай годнасці наведваць нейкія там літаратурныя мерапрыемствы, аціраліся каля абласной наменклатуры, як ідэалагічны актыў партыі. Адзін з кіраўнікоў кафедры філасофіі называў на пасяджэннях вучонага савета прафеліруючыя кафедры «вспомогательными». Галоўнымі і асноўнымі лічыў «метадалагічныя». Неяк я пад злосную руку не стрымаўся і кінуў рэпліку: «Каго ж мы выпускаем — папоў?» Адрасат не зразумеў, чаго смяюцца ў зале.

І вось прыйшла к нам працаваць на філфак новая выкладчыца гісторыі КПСС — Валянціна Браніславаўна Вадковіч. Яна сама, без запросін, пачала наведваць літаратурныя мерапрыемствы і радавалася, што студэнты выступаюць там ахвотна. Увогуле новенькая не баялася гаварыць у выкладчыцкай што-кольвек не для пратакола, напрыклад, выдавала сваю слабасць чытаць дэтэктыўныя раманы. Тады падобныя захапленні называліся мяшчанскімі заганамі густу, людзі адказных прафесій старанна іх утойвалі, хоць употай сёй-той нават польскую мову вывучаў, каб чытаць дэтэктыўчыкі, ад якіх гнуліся паліцы ў кнігарні «Дружба». Дык вось, новая выкладчыца рабіла адкрыта тое, што іншыя ціхачом рабіць асцерагаліся. Яна, праўда, толькі пачынала сваю кар'еру на педагагічнай ніве, не паспела адаптавацца. Некалькі гадоў пасля заканчэння універсітэта працавала археолагам у абласным краязнаўчым музеі, разгадвала тайны гоцкіх магіл, адкрытых на Берасцейшчыне, і напісала кандыдацкую дысертацыю. Мноства і стракатасць захапленняў у прыгожай бландзінкі, якая нібы дзіця, даверліва глядзела на людзей блакітнымі блізарукімі вачыма з-за вялікіх модных акуляраў, магла б каму збоку паказацца праявай какецтва ці модні-

чання. Але на справе аказалася, што экстравагантнасць была вонкавым знакам эмансіпацыі, пратэстам супраць стандартызацыі вобраза савецкай жанчыны ў тагачасным кодэксе камуністычнай маралі, дакладней, у адпаведнай графе анкет і сакраментальных фраз-характарыстык аб «маральна-палітычнай устойлівасці».

Не памятаю, ці то пасля чытацкай канферэнцыі па рамане «Каласы пад сярпом тваім», ці па аповесці «Чазенія» Караткевічу давялося даваць вельмі многа аўтографаў студэнтам. Збіранне аўтографаў стала модным. Прыносілі госцю зборнікі яго вершаў і прозы, а хто не паспеў купіць кніжкі, то падсоўваў нейкі часопіс ці альманах з яго творам. Мне надакучыла чакаць у зале, пакуль разыдзецца даўжэзная чарга, зайшоў у выкладчыцкую, дзе якраз новая «марксістка» апраналася, каб ісці дамоў. Мы перакінуліся словамі пра вечар, пра выступленні студэнтаў. Ізноў яна дзівілася, што студэнтаў нібы падмянілі — усе актыўныя, а на семінарах маўчаць, бы сонныя мухі. Гутарка ў нас зацягнулася ажно да прыходу Караткевіча. Я пазнаёміў двух арыгіналаў, назваў Валянціну Браніславаўну, аб'явіў яе навуковыя рэгаліі, занятак, пажартаваў наконт еднасці супрацьлегласцяў. Валодзя тут жа падхапіў жартоўны тон і пачаў, што называецца, салонны флірт, пераплятаючы мажорнае з грубаватым, як Несцерка ў інтэрмедыях, і выклікаў дастойны адпор. Па дарозе на вячэру ён распытваў мяне як мужчына мужчыну пра «цывільны стан» і іншыя валёры бландзінкі, не дужа адхрышчваўся, калі я жартам прапанаваў пасватаць і дамовіцца, каб прыняла ў прымы.

Валянціна Браніславаўна выхоўвалася ў сям'і партыйнага работніка, напэўна, шчырага прыхільніка сацыялізму і камуністычнай этыкі. З гарэзлівасці нажывала раскаваны стыль успрымання табуізаваных правіл і прынцыпаў. Археолаг па адукацыі і па навуковай кваліфікацыі, яна згадзілася часова выкладаць гісторыю КПСС. У краязнаўчым музеі навуковым супрацоўнікам плацілі мізэрную зарплату, не павышалі ставак за навуковыя ступені і званні, аплочвалі фактычна за прысутнасць на рабоце. Брэсцкі педінстытут прымаў навукова-педагагічных работнікаў па конкурсе і аплочваў працу ў адпаведнасці з навуковымі ступенямі і званнямі, але ён не меў гістарычнага факультэта, дзе чытаўся б курс археалогіі. Абставіны прымусілі Валянціну Бра-

ніславаўну перакваліфікавацца, але яна не думала мяняць сваё хобі. Зарабляла на ўтрыманне педработай, прадаўжаючы займацца археалогіяй у часе летніх канікул. Як мне здаецца, экзатычная навуковая прафесія рабіла яе асобу цікавай для Караткевіча. Веды яе былі на добрым узроўні, пра што сведчыла выдадзеная ў 1972 годзе яе кніжка «Памятники истории и культуры», у якой належнае месца займала Берасцейшчына.

Ведаю, што другая сустрэча Караткевіча са студэнтамі магла быць роўна праз год, у мяне на кніжцы вершаў «Матчына душа» стаіць напісаная яго рукою дата «22 мая 1964 г.» і далей патрабавальная сентэнцыя: «Дарагому другу Валодзю Калесніку, якога люблю сардэчна, як вельмі нямногіх. А ўсё ж мы жывем. Ул. Караткевіч». Мажліва, пасля таго вечара ён не толькі гутарыў з Валянцінай Браніславаўнай, але праводзіў яе дамоў. Мы з Зосяй доўга чакалі яго на вячэру. Афрадыта і Гіменей, як кажуць, не таропка робяць сваю справу. Калі і дзе яны аформілі шлюб, ведае хіба толькі архіў грамадзянскага стану. Паступілі так, як героі «Чазеніі» і як, зрэшты, не рэдка бывае ў творчым асяроддзі — не рабіць базар з інтымнай справы. Тым не менш у Караткевічавым успрыманні сватам быў я. Гэта засведчана ў яго аўтографе на кніжцы «Вока тайфуна». Чытаю: «Міламу майму Валодзю Калесніку, які мне «ўдружыў» раз і назаўсёды, свату і брату — ад аўтара. Ул. Караткевіч. 26.XI.74 г.».

За якімсьці там чарговым прыездам Валодзі Валянціна паўжартам аб'явіла ў выкладчыцкай, што дала пісьменніку заказ на дэтэктыўны раман, няма чаго пароіцца ды карпець над сур'ёзнымі гістарычнымі ці сацыяльна-псіхалагічнымі эпапеямі. Няхай «замыкаецца на масу» ды ідзе насустрач тым, хто чытае кнігі для прыемнасці. І пра грошы тады не трэба будзе клапаціцца, тут жа разбяруць і перавыдаць папросяць. А з заробкамі ў Валодзі была вечная праблема. Ён ранавата прафесіяналізаваўся, а выжыць з ганарару тады маглі толькі празаікі, якія сістэматычна перавыдаваліся, ды яшчэ драматургі, чые п'есы ставіліся па ўсёй краіне, ды паэты-песеннікі. З ганарараў за часопісныя публікацыі ды асобныя кніжкі пракарміцца мог хіба толькі адзін Мікола Лупсякоў, які жыў усе лета ў шалашах над Дняпром і харчаваўся ўловам з вуды. Большасць пісьменнікаў зарабляла, працуючы рэдактарамі ў выдавецт-

вах і часопісах, супрацоўнікамі на радыё, літаратурнымі кансультантамі ў газетах. Караткевіч не мог спалучаць штодзённага хаджэння на службу з творчаю працай, таму, пераехаўшы ў Мінск, стаў вольным літаратарам, браў накіраванні на літаратурныя і сцэнарныя курсы ў Маскву, жыў на стыпендыю.

Яшчэ ў часе свайго настаўніцтва на Украіне і ў Оршы ён адчуў, што праца педагога паглынала процьму ўнутраных сіл, якія маглі б субліміравацца ў творчую фантазію, а ўрэшце, стаць вобразамі і творамі. Мастак цаніў асабістую свабоду і незалежнасць вышэй за ўсё на свеце. Таму і жыў у Мінску, як той ваўкалак у Альгерда Абуховіча,— «хоць галодны, ды свабодны». Пазычаў часам грошы ў лепш уладкаваных сяброў, пачынаючы з Я. Брыля. Атрымаўшы ўрэшце ганарар, Караткевіч з ходу разлічваўся з даўгамі, а астатак распускаў на таварыскія выдаткі, якія ён лічыў ганароваю справай, што ўмацоўвала пазіцыі. Наогул Валодзя быў у жыцці непрактычным, не звяртаў увагі, а часам нават як бы бравіраваў сваімі матэрыяльнымі цяжкасцямі і непаладкамі. Гэта толькі даказвала вечны прыярытэт духоўнага над матэрыяльным. Недзе ў глыбіні душы ён марыў пра сяброўку і спадарожніцу, такую ж летуценную, незалежную, дзёрзкую і суверэнную, як ён сам, у той жа час дамавічок нашэптваў яму на вушка, што няблага было б, каб такая неканфармаваная эмансіпантка была б яшчэ і добраю гаспадыняй... Я не ведаю, наколькі спраўдзіліся практычныя падказкі дамавічка, але ўпэўнены, што Валянціна Браніславаўна ўнесла стабільнасць у побыт пісьменніка ўжо тым, што ўмела разумець яго і апекавацца ім. Немалаважным стабілізатарам была кандыдацкая зарплата, што дазваляла загаціць прорвы і згладзіць выбоіны ў няпэўным бюджэце мужа. Праўда, і далей Валодзя пазычаў грошы ды вяртаў даўгі, а тое, што заставалася, распускаў з фантазіяй і шчодрасцю сваіх шляхетных герояў. Здаралася, садзіўся і на перамелах, тады злаваўся на ўвесь белы свет. Неяк застаў я яго ў пікавай сітуацыі, і ён расказаў мне пра пацешную спробу выйсці з безграшоўя. Прыкінуўшы, дзе ўзяць грошай, ухапіўся за паведамленне ў друку, што іспанскае выдавецтва выпусціла ў свет яго кнігу. Час прайшоў ужо немалы, а ганарар не прысылалі, выходзіла, што вінавата Усесаюзная асацыяцыя па аўтарскіх правах. Ён узяў у рукі даведнік і на-

браў маскоўскі нумар тэлефона. Адказаў натрэніраваны ветлівы жаночы голас. Валодзя завёўся і прачытаў натацыю супрацоўніцы саліднай па назве і несаліднай па справах фірмы, якой хоць трава не расці, што недзе аўтар зробленых грошай вымушаны сядзець без капейкі і думаць пра чорны хлеб замест таго, каб выношваць новы твор.

Работніца УААП паабяцала тут жа высветліць пытанне і прасіла пазваніць праз гадзіну. Пазваніў. На другім канцы провада азваўся той самы ветлівы голас, толькі з ноткай іроніі:

— Так, паважаны таварыш, сапраўды ваша кніжка выйшла ў Іспаніі і вам належыцца ганарар. Неадкладна вышлем яго на Ваш адрас. Толькі мушу расчараваць Вас. Пакіньце спадзявацца, што Вам удасца залатаць сямейны бюджэт. Вы атрымаеце ў пераводзе на савецкую валюту 9 рублёў з капейкамі.

Дзве тэлефонныя размовы наконт іспанскага ганарару каштавалі аўтару прыкладна столькі ж. Поўны разлік...

І ўсё ж былі моманты, калі хата Караткевічаў нагадвала поўную чашу і гаспадар, сустракаючы мяне ў Мінску, сілай цягнуў у госці. Жылі Валодзя з Валяй дружна, размаўлялі на той жа іранічна-парадаксальнай мове, пікіраваліся слоўкамі, а Валодзя складаў прыпеўкі і прыгаворкі пра сваю жаніцьбу і сяброўку жыцця. Не прамінуў у адной эпіграме і маё прозвішча. Сам павесяліў у прысутнасці Валі такім вось тэкстам:

А Калеснік добры быў,
Мне козачку падарыў,
А козачка белая
Па пакоях бегае.

Была і другая, негатыўная эпіграма, яе выкарыстаў Рыгор Барадулін у «Смаргонскай акадэміі», магчыма, ён і склаў яе, а Караткевіч прыстасаваў для хатняга ўжытку:

Усе бабы дрэнна йдуць,
Мая баба добра йдзець,
Мая баба добра йдзець,
Круціць задам, як мядзведзь.

Караткевіч высока цаніў сяброўку жыцця, пра што сведчыць згаданы раней надпіс на кнізе «Вока тайфуна». Валянціна Браніславаўна мела зграбную паходку, таму Валодзева штукарства выглядала як камуфляж

захаплення. Жонка прызнавала паэтава права на свабодныя разрадкі пасля напружанай творчай працы. Мядзведзем з таго шаржа падаўся мне сам гаспадар, калі позняй раніцай валюхавата дыбаў пасля «ночного бдения» з магазіна, трымаючы дзве авоські ў руках. Відаць, нарыхтоўка харчу была яго сталым заняткам, бо мне, прыезджаму, здаралася пару разоў нагадзіцца на паэта, занятага шэраю прозай. Зрэшты, ён і ў памідорах умеў бачыць сонечнае святло. Работы для дому Валодзя не саромеўся — нёс службу, як належыць рыцару пры даме. А мо хаджэнне па прадукты замяняла яму спартыўную зарадку. Хадзіць, трухаць, дыбаць карысна ўсім, а тым, каго фантазіяй заносіць лятаць пад самыя аблокі, — асабліва.

Караткевічы дапамагалі адно аднаму не толькі ў дамашняй, але і ў творчай рабоце. Валянціна Браніславаўна працавала ў калектыве акадэмічных навукоўцаў, якія атрымаў заданне падрыхтаваць шасцітомнік «Помнікі культуры Беларусі». У навуковых экспедыцыях нярэдка ўдзельнічалі абое Караткевічы, жонка па абавязку, а муж па ўласнай ахвоце — вольным стральцом, паляўнічым на старасветчыну. Найбольш захавалася яе на Палессі, бо яно было менш прывабным і даступным для заваёўнікаў. Караткевіч стаў энцыклапедычным знаўцам культуры Заходняга Палесся, выратавальнікам шэрагу помнікаў, асабліва сакральнай архітэктуры, ад вандалізму штатных атэістаў, ваяўнічых мясцовых прагрэсістаў. Не адзін матыў Караткевічавай паэзіі, прозы, драматургіі навеяны тымі вандраваннямі і праблемамі, з якімі сустракаліся краязнаўцы, археолагі, гісторыкі культуры. А праблем было хоць гвалт крычы.

Згадзіўшыся на выданне кніг пра помнікі архітэктуры, беларускае начальства не дужа ўяўляла, што гэта будзе за выданне, якія помнікі трапяць у яго. Думалі, помнікі воінам ды старыя свецкія помнікі, што ўцалелі ад вайны. Але аказалася, што ўвекавечванню падлягалі і тыя помнікі, да якіх не паспелі дабрацца ваяўнічыя культурнікі, платныя атэісты, змагары за класавую чысціню савецкай культуры. Мецэнаты і куратары акадэмічнага выдання закруціліся, як кот на гарачай блясе. Азваліся комплексы крыжабаязлівасці, непрымання рэлігійнага культу, які нібыта канкурыраваў з культам правадыроў. Адным словам, запрапанаваныя аўтарскім калектывам матэрыялы для будучай кніжкі былі пачы-

шчаны, шмат выяўленых помнікаў сакральнай архітэктуры выкінута. Выходзіла, што зашмат іх ацалела...

У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору закіпалі спрэчкі, у якіх адной са смялейшых удзельніц была жонка Караткевіча, ды і сам ён падключаўся то вусна, то пісьмова абараняць старую Беларусь ад выкрутных і беспамятных дзетак — ідэалагізатараў. Мабыць, і вандроўкі Караткевіча па Беларусі, барацьба за спадчыну, за агульначалавечае ў ёй, удзел у вымушаным супраціўленні ўсіх творчых людзей і калектываў уладарству ідэалагічнай артадоксіі, — усё гэта падвяло Караткевіча да кнігі пра Беларусь, адрасаванай падлеткам. Пра Беларусь-маці і любую сястрыцу, а ўрэшце, сяброўку жыцця. Іронія лёсу ў тым, што заказалі яму гэтую кнігу ўкраінцы для сваіх школьнікаў і ўсіх, хто захоча пазнаць суседзяў, братоў-беларусаў.

Я чуў пра тыя клопаты не здалёк, а зблізку. Валодзя любіў Берасцейшчыну, быў закаханы ў Белавежскую пушчу, таму прапанаваў разам паездзіць, паглядзець.

З тых уражанняў, дапоўненых вывучэннем навуковых прац, паўстаў нарыс «Белавежская пушча» і запаветная кніга «Зямля пад белымі крыламі». Рыхтуючы апошнюю да выдання, ён папрасіў у мяне даць яму на выбар мае фотаздымкі. Я адгаворваўся, казаў, што здымкі ў мяне былі чыста аматарскія, але ён настойваў, не хацеў, каб ілюстрацыі былі чыста журналісцкімі, стандартна-паказушнымі. І ўкраінскае выданне змясціла з дзесятак маіх пейзажных і жанравых фатаграфій, некаторыя былі зроблены ў часе нашых з аўтарам кнігі паездак па Наваградчыне, Слонімшчыне і Берасцейшчыне.

Давялося мне ездзіць па Камянеччыне, Пружаншчыне і Бярозаўшчыне ў складзе пісьменніцкай брыгады па лініі бюро прапаганды літаратуры. Я рабіў уступныя гутаркі, прадстаўляў удзельнікаў, а выступалі Я. Брыль, М. Аўрамчык і У. Караткевіч.

Нечакана ў Камянцы нас перасцігнула Валянціна Браніславаўна. Я пабаяўся, што брыгада наша паменшае на аднаго паэта, але не, Валодзя аказаўся верным мужчынскаму абавязку, паехаў з намі далей на Пружаны. У Бярозе нас вельмі гасцінна сустракаў былы партызан, цікавы субяседнік і нетыповы партыйны функцыянер, аўтар успамінаў «Мы аляксееўцы» і некалькіх

публіцыстычных кніжак Пятро Лявонавіч Лебедзеў. Ён слыў і сярод партыйных работнікаў як анархіст, дазваляў сабе на розных форумах ушчэнт крытыкаваць першых сакратароў абкомаў і дабірацца нават да ЦК КПБ. Яму прарочылі і звальненні, і выключэнні, але не важыліся зрабіць такое інваліду вайны, ды і справы ў Бярозаўскім раёне ішлі добра, Лебедзеву народ сімпатызаваў за тое, што той не ўжываў кіраўнічай цырымоннасці, трымаўся проста, імгненна рэагаваў на скаргі і крытыку, што ішлі знізу. І вышэйстаячыя, каб збавіцца ад неўпраўляемага кіраўніка, парэкамендавалі яго на павышэнне, а фактычна сплавілі ў апарат ЦК, у нейкі кантрольны орган. Здарылася тое пазней, а цяпер Лебедзеў прэзентаваўся ва ўсёй сваёй натуральнасці.

Начавалі мы ў паляўнічым доме і прагаварылі з партыйным ерэтыком ледзь не да світання. Караткевічу гэта было як мёдам па губах.

Не прапускаў і сам Валодзя важных для культуры падзей, якія адбываліся ў Брэсце. Памятаю, прыехаў з Сымонам Блатуном і маладым скульптарам, прозвішча якога, на жаль, не прыгадваю, прыняць удзел у падвядзенні вынікаў конкурсу на праекты мемарыяла Брэсцкай крэпасці. Прыехаў, нягледзячы на бытавую траўму (выглядаў як забіяка з налепленым крыж-накрыж пластырам на лбе). Уся яго «малая дружына» была настроена ваяўніча: прабіць дарогу праектам беларускіх скульптараў. Караткевіч хацеў, каб ля Вечнага агню пасяліўся творчы дух беларускага народа.

Прыехаў Валодзя без папярэджанняў і збянтэжыў мяне ўшчэнт. Мне стала сорамна, што, жывучы ў Брэсце, не ведаў нават пра нейкае абмеркаванне і адбор праектаў. А вучэбных заняткаў на гэты дзень паставілі ў расклад шэсць гадзін лекцый, прасіць падмены было позна. Давялося ахвяраваць адзіным у сваім родзе гістарычным мерапрыемствам. Яшчэ раз пацвярджалася горкая мудрасць: нельга стаць на родным сметніку прарокам. Для начальства, якое арганізоўвала мерапрыемствы, мясцовыя мастакі і вучоныя былі драбязою ў параўнанні са сталічнымі. Забылі ці не захацелі запрашаць драбязу... Хапіла таго, што самі «присутствовали». Так жылося-думалася на правінцыйным узроўні.

Прыйшоўшы вечарам з работы, я застаў Караткевіча і «дружыннікаў» разгарачонымі, у іх усё яшчэ кіпеў агонь палемік. Радаваўся Караткевіч, што прайшоў пра-

ект сімвалічных уваходных варот у мемарыял, запраектаваны Бембелем у выглядзе гіганцкай прабоіны ў абарончым вале, абломкі каземата, падаючы, утварылі палую зорку — сімвал надзеі.

Жывучы душою ў гісторыі сярэдніх вякоў, Караткевіч, як ужо гаварылася, дражніў вартаўнікоў ідэалагічнай чысціні праблемай набілітэту. Ён марыў адрадзіць арыстакратызм, элітарнасць у ахамелым на таталітарнай ураўнілаўцы грамадстве. Тады ніхто з пісьменнікаў не прызнаваўся, што ў яго бацькі была ў свой час моцная гаспадарка, апостальская манера прыбядняцца абавязвала ўсіх, самыя буйныя ўладнікі траслі лахманамі беднасці сваіх бацькоў і дзядоў. Валодзя ж мог сказаць: «А мы, Караткевічы, як арыстакраты, не саромеліся гаварыць нават непрыстойныя словы, бо былі вышэй хамства». Арыстакраты ў яго не абібокі, а рабачаі духу, соль зямлі, патрыёты, ахвярнікі, краса жыцця. Нават у мядзведзяў, коней, сабак і катоў Валодзя любіў пародзістасць, а ў людзей — радавітасць і мацёрасць, буйнасць, нават буянасць. Нобілі ў яго разуменні — гэта людзі гонару, ён хацеў засяліць нобілямі перадусім роднае Прыдняпроўе. Тут для яго быў матачнік асабістай годнасці. Неяк у часе нашай вандроўкі па Навагрудчыне я абраніў фразу, што заходнікі маюць гаспадарскую псіхалогію. Валодзя кінуў рэпліку:

— А мы, усходнікі, якую маем псіхалогію?

Я жартам адказаў у ягоным стылі:

— Г..наедскую.

Валодзя кінуўся ў амбіцыю, абразіўся. Як гэта, ды ўсходнікі даўжэй жывуць у сацыялістычных умовах, выпрацавалі калектывісцкую псіхалогію. А ў вас адна-асобніцкая.

— Што галоўнае ў сацыяльнай псіхалогіі?

— Канешне, годнасць!

— Тады я дакажу, што перавагу маюць заходнікі, хочаш?

— Як гэта?

— А так. Гарантыяй годнасці селяніна была, як вядома з літаратуры, зямля: «Купіць зямлі, прыдбаць свой кут і з панскіх выпутацца пут». Ты згодзен з гэтымі словамі Коласа? Прызнаеш Коласаў прынцып годнасці селяніна?

— Прызнаю.

— А хто ж раней быў раскулачаны, пазбаўлены

ўласнай зямлі: усходнікі ці заходнікі? Дзе раней калектывізацыя абеззямеліла селяніна, а значыць, і мацней падкасіла аснову годнасці?

— Ну, ва Усходняй, але затое мы, усходнікі, маем больш высокую калектывісцкую псіхалогію.

— О не, даражэнькі, селянін, які мае ва ўласнасці толькі дваццаць пяць сотак зямлі, набывае, паводле Коласа, дробязную псіхалогію.

— Дык што ты хочаш сказаць, што ва ўсходнікаў горшая псіхалогія?

— Я не кажу, што горшая. Кажу — іншая. А думаць трэба лагічна. Там, дзе драбнее ўласнасць, драбнее і псіхалогія. Нараджаецца парабкоўская абыякавасць і безгаспадарчасць пустальгі.

— Дык ты лічыш, што і я маю такую псіхалогію?

— Мы ж гаворым пра сацыяльную псіхалогію. Калі ты станеш апісваць калгаснікаў толькі ружовымі фарбамі, то праявіш лакейскую псіхалогію.

— Ну, гэта іншая справа...

— Напэўна іншая, бо мы, пісьменнікі, пакуль што не пазбаўлены аўтарскай уласнасці на твор, адсюль і амбіцый поўныя ноздры, асабліва ў пасрэднасцяў. Што датычыць калгаснікаў, дык і ва Усходняй, і ў Заходняй яны змогуць вярнуць здрабнелую, збяднелую годнасць праз узбагачэнне сваіх калгасаў, а пісьменнікі — праз таленавітасць твораў. Талент — уласнасць, прытым індывідуальная, прыватная пры ўсіх ладах і ўладах.

Мы як бы памірыліся. Але Караткевіч быў задзеты за жывое, і праз некаторы час я пачуў ужо ў Мінску, у пісьменніцкім асяроддзі, пагалоску: «Караткевіч казаў, што Калеснік не любіць усходнікаў, кажа, што ва ўсходнікаў г..наедская псіхалогія». Я не прыдаў значэння бульварызацыі маіх думак. І не выгаворваў Караткевічу. Толькі раз, калі ён сам пачаў гаворку, шкадуючы аб недарэчным рэзанансе, які падняўся, калі праблема трапіла на канвеер рэспубліканскага ідэалагічнага ведамства, дзе працаваў адзін амбіцыйны пісьменнік, што захацеў праславіцца на сутыкненні лбамі пісьменнікаў «усходніх і заходніх, перапечаных і недапечаных», — я прыгадаў Валодзю і гутарку ў Бурсевічаў, калі ён сам скардзіўся, што ўсходнікаў дзесяткі гадоў адвучвалі працаваць, давялі да апушчанасці. Той не стаў каяцца.

— Мала што было. Ну, казаў чалавек, мо давялі, а можа, і намыляўся, хіба я папа рымскі?

Бяда, што некаму выгадна сварыць людзей. Не паддамося на правакацыю.

Зайшоў я да Караткевічаў у 1980 годзе, на пачатку зімы, пасля юбілею, на якім мы з Зосяй не змаглі прысутнічаць па непрадбачаных сямейных абставінах. Хацелася павіншаваць цёзку асабіста, распытаць, як адчувае сябе з ордэнам Дружбы народаў на грудзях. Была ў мяне і рабочая справа: нагадаць Валодзю пра абяцанне сустрэцца са студэнтамі. Сустрэча мела быць перадюбілейнай, а цяпер ужо станавілася пасляюбілейнай, студэнты непакоіліся і прагна чакалі. Не думалася мне, што гэта будзе мой апошні прыход у гасцінную хату Караткевічаў.

Валянціна Браніславаўна была на рабоце, гаспадар кінуўся шыкаваць халасцяцкі стол. Мяне даймаў страўнік, таму пачаў паднімаць рукі ўгору, хацеў адхрысціцца ад шчодрага юбіляра, нават план абароны склаў загадзя. Але...

Падрыхтаваў я Валодзю падарунак на шчасце: саву — сімвал мудрасці, выразаную сваімі рукамі з чаchoткавай бярэзіны. Надыбаў на гэтую чачотку выпадкова, блукаючы па гарыстых пралесках Наваградчыны, якімі так захапляўся мой цёзка. Я і не дужа многа мудраваў над сувенірам, проста ўбачыў амаль гатовага пугача ў аблушчаным з кары драўляным пакручастым чурбаку, выразаў толькі драпежную дзюбу ды круглыя вылупні-вочы ў засені густога пер'я. Потым надумаўся ды зрабіў падстаўку, каб гэтае цуда-юда магло стаяць на стале, а пры жаданні і на паліцы пры сцяне.

Бываючы ў Караткевічаў, я меў магчымасць разам з гаспадаром любавацца рэдкімі экспанатамі, паразвешанымі на сценах, парасстаўлянымі на паліцах, стэлажах, падаконніках, нават на рабочым стале. Чуў ад Валодзі і расказ пра тое, як мінскія ўркаганы абчысцілі летам яго кватэру, улучыўшы момант, калі гаспадары паехалі ў чарговую экспедыцыю. Мяне распацешыла, што пацярпеўшы расказваў пра сваю бяду як пра дэтэктыўны сюжэцік, які датычыць кагосьці іншага, прыдуманага.

Я ведаў слабасць гаспадара да незвычайных прадме-

таў. Прывозіў ён з Каўказа самшытавыя кійкі з дзівоснымі нарастамі і загагулінамі, неяк і мне падарыў. Асабліваю слабасць меў да памятак даўніны і твораў народных здольнікаў. Бывала, прыязджаючы ў Брэст на спатканні са студэнтамі (я арганізоўваў канферэнцыі, дыспуты па многіх Валодзевых творах), госць заўсёды прывозіў нейкі сустрэчны сувенір «пані Зосі» — на гэтым пункце яны з маёй жонкай былі, што называецца, аднаго заводу, мелі падобнае выхаванне. І цяпер красуюцца на самым дамашнім алтары два вясёлыя мядзведзі, стаіць на кніжным стэлажы дэкаратыўны драўляны коўш, падобны не то на зубра, не то на дракона, а побач бярозавы пянёк з убітай у яго мініяцюрнай беларускай сякеркай, як гаварылі ў нас у вёсцы, «кавальскай работы». Гэты адмысловы тып інструмента, на жаль, ужо забыты, адрозніваўся ад крамнага і ад салдацкага стандарту нейкай спецыфічнай сякернай сутнасцю, можна сказаць, пародзістасцю. Беларуская сякера не толькі магла сячы — яна хацела і ўмела гэта рабіць адмыслова.

Перад прыездам неяк Валодзя запытаў па тэлефоне, ці хачу я мець у прэзент зборнік Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам». Я адказаў — вядома, і ён прывёз мне добра захаваны экземпляр. На пытанне, чаму не трымаў у сябе такой рэдкай кнігі, адказаў: «Не захмялеў ад гэтай паэзіі. Прачытаў раз, а больш не хочацца. Вось Жылка — іншая справа. У яго нават агітацыйныя вершы — паэзія. Памятаеш, «Дзед», «Каваль» — здаецца, плакатна, але кранаюць. У гэтым зборніку ёсць рэчы трапныя, а большасць расплывістая, наіўная. Бяры сабе, можа, у літаратуразнаўчым рамястве скарыстаеш».

— Скарыстаць варта, але выдаваць скарыстанае цяжка. Пачакаем, можа, грамадства зразумее, што сталая літаратура мусіць мець многа паэтаў і розных — патрэбны барабаншчыкі і дударыкі, салаў'і і драчы, пчолкі і матылі. Але ў нас падобна на тое, што агітпроп дае заказ вывесці адну пароду паэта, якая б давала малако, мяса, воўну— усё адразу.

І вось я ў Валодзі. Ён аглядае саву, цырымонна дзякуе, бачу, задаволены маёй цацкай, адзін сімвал чаго варты — мудрасць! Гэта ж табе не сухі розум і нават не добрае пачуццё, а мудрасць! Сінтэз розуму і сэрца, а яшчэ цнатлівасці і «опатрености», як казаў Скарына.

Зрэшты, і мудрасць не ўсё. Ёсць жа рэчы цалкам неспазнаныя і недасяжныя для чалавека. Значыць, і таленавітыя людзі павінны выпрацоўваць нейкія адэкватныя неспазнанаму сродкі пазнання. Інтуіцыю? Нават больш. Чаму павінны? Маюць! Трэба толькі азірнуцца назад, у глыбіню. Вось гаспадар падышоў да тумбы, закладзенай унізе кнігамі ды пухлымі папкамі, аздобленай зверху гіганцкай марскою ракавінай. Звычайна курортнікі, прывозячы дробныя ракавіны з поўдня, давалі тым, хто не пабываў «на югах», слухаць, прыклаўшы вуха, як у гэтым апусцелым доміку падводнага марскога жыхара шуміць, не сціхае рэха даўно адгрымеўшых прыбояў, мінуўшых назаўсёды стыхій.

Валодзя ўзяў ракавіну ў рукі і тонам знахара ці вучонага акіянолага стаў апавядаць мне пра яшчэ адну таямніцу ракавіны.

— Мармуравідны корпус малюска! Чырканеш краем ракушкі па целе чалавека, і імгненная смерць! Без болю!..

Глядзіць на мяне Валодзя, драматычна хмурачы бровы, набіраецца веры ў тое, што сказанае ім — дзіўная, але шчырая, хоць і несамавітая, праўда. Адвечны акіян ракоча, бунтуецца ў гэтым перламутры, хоча перадаць нам тайну... А мы, лапухі, не цямім, не разумеем, занадта далёка адышлі ад свету прыроды. Розум наш стаў засланкай, сцяной непралазнай. А ўсё ж, падняўшыся над ёю і над сабою, услухаўшыся ў рэха часоў мінулых, можна зразумець таямніцу жыцця і смерці. Валодзя глядзіць напружана, як гіпнатызёр. Нават левае, святлейшае вока раўняецца з цямнейшым, робіцца такім жа бяздонным. Цуд цудам, аднак магік не забывае і пра мой імунітэт на варажбітоў і варожбы, пра ўстойлівасць да гіпнозу, таму асцерагаецца, каб не перабраць меры і не даць повада для іроніі.

— Трымаю вось у руках і, скажаш, другіх страшу, а сам не палохаюся, не баюся памерці. Не, браце, цяпер гэтая малюска чалавеку не страшная, яна вывараная!..

Мы абодва смяемся, але Валодзя надае смеху д'ябальскае, хімерычнае гучанне, паднімае бровы, закочвае вочы, спалохана міргае, робіць магічныя жэсты пальцамі, каб не развеяўся чар яснавідства. Пераходзім на гісторыю. Нейкая старая гравюра нагадала яму крыжакоў, і ён пытае, ці ведаю я, як літоўцы, а фактычна беларусы, продкі нашы, забівалі крыжакоў. Я раблю

пошіск плячыма, каб дадаць ахвоты і смеласці фантазіраванню, гавару няўпэўнена:

— Рабілі засекі, засады, асцерагаліся, каб не стаць здратаванымі цяжкою крыжацкаю конніцай?..

— Што ты, стары, гэта толькі паспаліты спосаб, а найчасцей ужывалі каварны: бралі вялікую рыбіну, вымалі з яе хрыбетнік, падбіралі адпаведныя косткі, прывязвалі асцюк да канца стралы, і ён станавіўся вастрыём, гротам. Лязо гэтых касцяных дзюбаў макалі ў трупны яд. Атрутныя стрэлы пускалі ў панцырных вояў. Ад маленькай нават драпіны захопнік гінуў!

Пасля паўзы, а потым майго разважання пра этычную хісткасць валенрадызму, Валодзева фантазія распальваецца да белага нагрэву, ён выбухае асуджальнай тырадай супраць усіх заваёўнікаў і дастае з шуфляды свае малюнкі — карыкатуры на ўзурпатараў, дэспатаў, глуміцеляў свабоды і іхніх кволых ахвяр. Я спыняюся на шаржы, які нагадвае Мураўёва-вешальніка. Малюнак выкананы бліскуча, у духу чорнага гумару: дэспат-маразматык. Можна было б прапанаваць сатырычнаму часопісу, але... але што скажа рэдактар, якога трымаюць пад прыцэлам ідэалагічныя інстанцыі? Там выседзелі ў часе сваіх нудлівых засядальных цырымоній ахоўны міф пра тое, нібыта сучаснік, пазбаўлены гістарычнай памяці, будзе больш свабодным і лягчэй упраўляемым за чалавека, які гэтаю памяццю «абцяжараны» і намагнічаны. Сучаснік не павінен глядзець у мінулае, бо яно прайшло, трэба жыць сучаснасцю, дбаць пра будучыню. Інстанцыі не цэняць жывога чалавечага ўяўлення з яго трыма катэгорыямі часу: мінулым, сучасным і будучым, яны, як робаты, думаюць хутка і просталінейна, для іх існуе цяперпічына. У інструкцыі напісана, што мінулае мае памылкі, таму памяць аб ім здымаецца з бібліятэчных паліц і пераносіцца ў спецсховішчы.

Валодзя выканаў карыкатуры на аркушыках школьнага альбомчыка для рысавання, карыстаўся шарыкавай аўтаручкай з чорным стрыжнем. Паказаў мне цэлы стус малюнкаў і, расшчодрыўшыся, аддаваў усё, як прэзент за прэзент. Я выбраў два: шарж на салдафона-рэпрэсіўніка ў напалеонаўскай трохвуголцы, пузатага, абвешанага ордэнамі, тупога, набздычанага ў позе статуі. Маразматык забыўся, што ён на п'едэстале, засунуў руку ў прарэх — вось-вось пачне спраўляць малую патрэбу.

Другая карыкатура была вясёленькай: рахманенькі пегас у выглядзе осліка ці ішака з букетам кветак у пысе.

Успрыманне свету ў Караткевіча было пераважна паэтычна-музычным, як у Брыля. Ён лавіў на слых настроі свету, схопліваў танальнасць, але меў яшчэ вострае пластычнае бачанне, тонка лавіў абрысы прадметаў, людскіх твараў, прыстойна ўмеў рысаваць пяром. У яго маляванні, як я заўважыў, было шмат чагосьці ад кітайскага аўтаматызму. Караткевіч іншы раз мог, заплюшчыўшы вочы, нарысаваць, не адрываючы ручкі ад паперы, храбрага зайца са шчытом і мячом у лапках, Дон Кіхота на худым кані, вусатага льва, фартовага ката, але партрэты рысаваць не браўся, толькі свой профіль спрытна шаржыраваў. Малюнкі служылі яму спосабам нейкіх выхадаў ад слова ў антыслова. Вяртаўся назад у слова з большай зрокавай канкрэтыкай і пісаў малюнак рэчыўна, контурна і калярова, а яшчэ і фантазліва, сюррэалістычна.

Я равёў гаворку на нядаўні юбілей. Чуў ад пісьменнікаў, што Валодзя добра павесяліў публіку непраtакольнымі выгібашамі, а ўвогуле, усё было гучна і весела. Папрасіў яго паказаць урадавую ўзнагароду, нядаўна ўведзены новы ордэн Дружбы народаў.

— Прыгожая цацка. Кінь вокам, пане-браце, знаеш у ювелірных рэчах толк. Погляд мой на ўзнагароды — табе вядомы. Усё гэта «суета сует и томление духа». Хачу быць вышэй казённага ганаравання, як належыць мастаку. Мог бы і вярнуць на злосць маім ворагам, што закрэслівалі ўвесь мой творчы плён. Адно называлі шкодным, другое то нявытрыманым, то нацыяналістычным. Дык вось, цяпер няхай заткнуцца: ёсць урадавае прызнанне таго, што я зрабіў, і на гэтым кропка. Канешне, будзе і далей весціся падкоп і вынюх з таго хоць бы дому на Урыцкага. Але я з тымі хлопцамі і раней не дужа цырымоніўся, а цяпер — і тым больш. Карацей — варта справу замачыць.

Гаспадар падышоў да стэлажа, выняў нейкі карапузы фаліянт, а з-за яго выцягнуў захаваную ад дамаўнікоў пляшку «Московской». Мяне кінула ў пот: гэта ж трэба, справакаваў на выпіванне, ад якога збіраўся адвесці. Цяпер, дай Бог, спыніцца на сімвалічным келішку. Паспрабаваў намовіць гаспадара схаваць тую пляшку непарушанай, але ён пачаў нервавацца і ўскіпаць.

— Ты кажаш — не магу, і я таксама не магу! Толькі

ты не можаш піць, а я не выпіць не магу! Вось у чым наша розніца, а ў астатнім — браты. Памятаеш, што я абяцаў табе прыехаць у госці? Плануеш мяне на «чаях» трымаць?..

Закончылі кампрамісам — зрабілі па чарцы, а пляшку гаспадар схаваў назад. Пакінуў я хату сардэчнага друга са змешаным пачуццём удзячнасці і вінаватасці, немагаты што-кольвек папраіць. Чуў пра яго цяжкое недамаганне, хадзілі пагрозлівыя чуткі пра папярэджанні ўрачоў, а тут і сам «памог як кашаль хваробе».

Радавала тое, што абяцаная сустрэча ўсё ж адбудзецца. Нашым філфакаўцам выпала шчасце. Вечар мне бачыўся як шырокі дыялог чытачоў з пісьменнікам, студэнты загадзя рыхтавалі пытанні ў пісьмовай форме, перадавалі арганізатарам у акадэмічных групах, а тыя расстаўлялі ўсё па тэматычных паліцах. Зразумела, можна было задаваць яшчэ пытанні вусна, апаніраваць, спрачацца.

Валодзя быў чалавекам гонару. Паабяцаўшы прыехаць, ён адчуваў сябе даўжніком слова і, нягледзячы на тое, што адчуваў недамаганне, пазваніў у вызначаны час і папрасіў толькі не настойваць, каб ён спыніўся, як бывала раней, у нашай кватэры, паставіў нават генеральскую ўмову па інтэнданцкай часці: люкс у гасцініцы «Інтурыст». Апярэджваючы маё здзіўленне, растлумачыў: «Я ўжо, браце, у такім узросце, што маю свае персанальныя звычкі, мушу начаваць сам, праўду кажучы, маю пэўныя клопаты са сваім грэшным целам і не хачу ствараць клопатаў іншым, хоць бы і блізкім мне людзям. Але што зробіш, без гэтага я не змагу, не здолею трымаць форму і выступаць. Мушу мець належныя ўмовы. Не падумай чаго благога, я не корчу з сябе пана, не выпяндзерваюся. Павер. Перадавай паклон Зосі і вітай студэнтаў. Прыедзем мы з Валяй, яна хоча наведаць берасцейскіх сяброўак. Не думай толькі, што я стаў сібарытам, жыву хутчэй аскетам».

Я дагаварыўся з абласной студыяй тэлебачання запісаць і перадаць у эфір маё інтэрв'ю з пісьменнікам. А работнікі краязнаўчага музея Т. А. Слесарук і А. С. Барысавец прапанавалі правесці да абеду экскурсію для госця з жонкай і берасцейскіх літаратараў у старажытнае Бярэсце, абяцалі паказаць штосьці звыш традыцыйнай праграмы — найбольш захаваны крапасны бастыён з цэленькім казематам. Такога звычайным турыс-

там не паказвалі, аб'ект стаіць упрытык з пагранічнаю зонай, а даезд туды цяжкаваты — бездарожжа. Заязджаць вырашылі ад Гершонаў, ад каплічкі, што пабудавалі ў XVII стагоддзі братчыкі ці манахі Сямёнаўскага манастыра на месцы пакутніцкай смерці за веру Афанасія Філіповіча. Там, паводле жыція, было знойдзена цела святога пакутніка, апазнанага па зрэбнай кашулі і лапці на адной назе.

Дарога аказалася гразкай і выбоістай. Добра, што музей дастаў на гэты выпадак вайсковы мікрааўтобусік з двума вядучымі мастамі. Прабіраўся ён адчайна: падскокваў на калдобінах, западаў калёсамі ў ямы, запоўнены гліністай калатушай. Для хворага Валодзі трасучка аказалася пакутай. Ён сядзеў, уціснуўшыся ў сядзенне, трымаўся аберуч за свой хворы бок. Твар пакрыўся халодным потам. Калі нарэшце аўтобусік спыніўся і навуковы супрацоўнік музея Аляксандр Сцяпанавіч Барысавец стаў запрашаць выйсці з машыны і падзівіцца на ўцалелы форт, сцяты ад болю Валодзя закапрызнічаў, як дзіця: «Не хачу я бачыць ніякіх бастыёнаў. Ненавіджу! На які д'ябал мяне столькі трэслі?»

Гэта быў спантанна выказаны пратэст пісьменніка супраць вайны, супраць любавання ўсімі яе атрыбутамі, хоць бы гэта былі помнікі абарончай архітэктуры. Валянціна Браніславаўна адчула сябе няёмка перад былымі калегамі-музейнікамі, узялася ўгаворваць мужа і неўзабаве вывела яго з машыны. Перамагаючы боль, Валодзя то вінавата ўсміхаўся, то моршчыўся, але падышоў да бастыёна, праўда, захаплення не выказаў, спусціцца ў казематы не рашыўся, стрымана выслухаў расказ пра гісторыю будаўніцтва гэтага ўмацавання і, пакульгваючы, вярнуўся ў аўтобус. Папрасіў шафёра, каб назад вёз як мага цішэй.

Вярнуліся адразу да нас, Зося пачаставала лёгкім абедам, больш капітальнае застолле планавалася на вечар, пасля трудоў праведных. Валодзя, праўда, напалохаў мяне: шмыгануў на кухню і папрасіў у Зосі чарку. Мне стала боязна, каб Валодзя не насваволіў на тэлестудыі, яшчэ раз прасіў памятаць, што ў Брэсце ідэалагічны рэжым жорсткі і не хацелася б зноў даваць повад валацужным homo sovieticus шпурляцца мянушкамі «националисты», як гэта здарылася ўжо аднойчы, гадоў дзесяць таму назад, пасля выступлення ў інстытуце.

Трывогі мае аказаліся дарэмнымі. Перад тэлевізій-

най камерай Караткевіч мабілізаваўся, забыўся на дакучлівае адчуванне болю. Адным словам, падняў галаву. Спачатку я спрабаваў ашчаджаць яго, разгортваў пытанні шырока і ўжо ў самой пастаноўцы наводзіў на адказ. Але размоўца не стаў карыстацца выручкай, знарок паварочваў гаворку ў іншы бок, ды так задзірыста, што поўнасцю выяўляўся яго самастойны рызыкоўны спосаб бачання праблем нашай літаратуры, яе месца ў беларускім жыцці. Былі там выпады супраць афіцыёза, але тонкія, пра якія гавораць: дурань не здагадаецца, разумны прамаўчыць. А сітуацыя была крызіснай, неспрыяльнай.

Адкрыта і востра гаварыў ён пра свой боль за родную мову, пра тое, што мова — духоўны пашпарт народа, не шануецца і не ўжываецца ў дзяржаўным жыцці. Аспрэчваў Караткевіч скептычны погляд на перспектыву развіцця беларускай гістарычнай аповесці і рамана. Ну і што ж, што спазніліся мы ў развіцці гэтага жанру, але ж без ведання мінуўшчыны, без любові да старажытнасці і да рэліквій нельга стаць беларусам, свядомым беларусам.

Я радаваўся, што выступленне на тэлестудыі не стаміла, а як бы наадварот — узбадзёрыла яго. У нас заставалася ўсяго гадзіна часу да сустрэчы са студэнтамі. Караткевіч папрасіў кілішак і шклянку моцнага чаю з бутэрбродам. Я ўздыхнуў, але змоўчаў, бо пачуў у яго інтанацыі не зухаватасць, а сапраўдную пакуту хворага.

— Ну вось і гатовы! Як гэта ў Бранеўскага: «Bagnet na bron»?

На вечары Караткевіч трымаўся па-каралеўску. Весела хлопаў у далоні, апладзіраваў студэнтам, якія чыталі яго вершы і дзяліліся чытацкімі ўражаннямі, а потым бітыя дзве гадзіны адказваў на пытанні. Гаварыў з нейкай адчайнай адкрытасцю, проста бравіраваў незалежнасцю і ў думках падражніваў нейкага педантычнага начытніка і сляпога артадокса, які найвялікшаю цнотай у жыцці лічыў уменне ехаць выезджанай каляінай з адзетымі шорамі на вачах. Караткевіч прызнаваў толькі свабодны бег вольнага каня па бяскрайніх прасторах. Толькі вольны палёт душы абяцаў нечаканыя сустрэчы, шчырыя размовы з людзьмі, новыя суджэнні аб свеце. Толькі дзеля такога вольнага палёту варта жыць. Такі быў урок жывой размовы мастака з будучымі настаўнікамі, гуманітарыямі, тымі, каму роднае слова

давядзецца прапагандаваць, прапаведаваць усё жыццё. Выказванні прымалі часам не пратакольны характар, бо пытанні здараліся вострыя. Студэнты глядзелі на перспектыву сваёй выміраючай прафесіі з трывогай. Выкладанне роднай мовы і літаратуры трымалася яшчэ ў лепшых вясковых школах, і чым больш глухой была мясціна, тым лепшае было становішча настаўніка-беларусаведа. Нашы выдатнікі часта адмаўляліся ад назначэння ў горад, ехалі або ў глухамань, або ў свае родныя вёскі. Смелыя выказванні Караткевіча аб заняпадзе нацыі, страце гістарычнай памяці, аб неўміручасці нашага племені, аб харастве роднай мовы стваралі драматычны настрой, паднімалі дух, сяго-таго палохалі дзёрзкасцю, затоенаму віжу давалі і матэрыял для даносу.

Як шкада, што не ўдалося зрабіць магнітафоннага запісу гэтага выступлення! Запіс рабілі па маёй просьбе студэнты. На жаль, тэхніка, як гэта часта ў нас бывае, падвяла.

Прыгадаць тое, што было сказана Караткевічам, магла б хіба калектыўная памяць слухачоў. У мяне засталося крыху нататак, зробленых пасля тэлезапісу на вечары, але яны вельмі далёкае рэха таго жыцця, якое пульсавала.

*

Здаецца, што дарослыя гады і жаданні не выгналі з яго душу дзіцяці. Дзіця жыве ў самой сарцавіне душы, накшталт матрошкі, і тое вясёлае, зычлівае дзіця дае рух і каларыт духоўнаму жыццю дарослага. Караткевіч любіць і ўмее па-дзіцячы непасрэдна, прытым таленавіта забаўляцца. Гэтая дзейнасць складае асаблівы ягоны стыль адносін да свету, паднімае давер да яго, раззбройвае праціўнікаў.

*

Як мне ўяўляецца, стыхія паэтыкі Караткевіча — знарокавая перабольшаная прыблізнасць, праз якую праглядвае натура чалавека, бескарыслівага і бесклапотнага, схільнага ствараць фантастычныя цяжкасці, каб у фантазіі пераадолець іх. Многа ў натуры яго захавалася ад хлапчука.

*

Літаратура, паказаная ў аспекце строгага рэалізму, выглядае як разнавіднасць навукі, якая выражае вынікі пазнання не ў сілагізмах і не ў тэхнічных канструкцыях, а ў вобразах, духоўных эквівалентах самога жыцця, створаных так жа, як і навуковыя ісціны, шляхам аналізу і сінтэзу.

Умоўныя формы трактуюцца як сродак самавыяўлення мастака, і ім адводзіцца падпарадкаваная роля: «Але з якой бы стараннасцю ні абараняў той ці іншы пісьменнік або крытык перавагу ўмоўнасці, ім не ўдаецца давесці, што гэта і ёсць найбольш эфектыўная, найбольш пераканальная форма ўдзелу літаратуры ў мастацкім асваенні эпохі».

*

Чытачам прозы Караткевіча, прывыклым да пэўных усталяваных прынцыпаў і правіл адлюстравання, выцякаючых з генеральнай устаноўкі на аб'ектыўнасць, адразу павінна кінуцца ў вочы свабода інтэрпрэтацыі падзей, своеасаблівая падгонка працэсу пад ідэю, калі ход гісторыі як бы мае свайго рэжысёра, які дбае пра сэнсоўную прычыннасць, нават у тых выпадках, калі верх бярэ яўная выпадковасць.

Справа тут не толькі ў рамантычнай манеры пісьма, справа ў генеральнай творчай устаноўцы аўтара — абдорваць сучасніка радасным і балючым цяжарам гістарычнай прыналежнасці, прапісаць сучасніка ў гісторыі.

*

Рамантычны Валодзя аддае свае творы тым чытачам, якія любяць у жыцці і ў літаратуры, нават у мове як сістэме вобразаў, не правілы, а выключэнні.

*

Спрадвеку чалавецтва, пазнаючы свет, усё цяжкое для пазнання рукамі і розумам аддавала пачуццям, інтуіцыі, таленту, аб'яўляючы яго таямнічым, занябесным, божым. Што і хто валодае сёння таямнічасцю для су-

часнікаў, у масе сваёй адукаваных і матэрыялізаваных свядомасна? Непазнанае. Мастацкі талент, як магічны крыштал пазнання, застаецца ў ліку таямнічых з'яў, непазнаных. І — парадаксальна, таленту, з'яве непазнанай нашы талмудысты сацрэалізму даручаюць пазнаваць і рацыянальна тлумачыць усё. Непазнанаму даручаецца пазнаваць непазнанае, неразгаданаму разгадваць неразгаданае, а ўрэшце, і непазнавальнае: хоць ялаў, дык цяліся.

*

«Чазенія» — першы ў нашай пасляваеннай прозе твор пра рэабілітацыю міласэрнасці перад аблічам бедаў, якія несла чалавецтву тэхнічная рэвалюцыя і навуковы прагрэс. Заказалі мне з «Литературной газеты» водгук. Надрукавалі — не пазнаў. Усяго і карысці, што дасведчыў: чым вышэй орган друку, тым менш павагі да аўтара, асабліва перыферыйнага.

*

Завяршыць «Каласы...» стрымлівае вобраз Каліноўскага. На гэты вобраз не распаўсюджваўся прынцып «святы» і «грэшны», а ў Караткевіча ўвесь свет «святы і грэшны», і кожны чалавек быў крыху анёлам і крыху д'яблам, пакутнікам і помснікам, а сам ён для сябе і для свету таксама супярэчлівы.

У «Каласах...» герой Алесь Загорскі, зрабіць Каліноўскага такім жа, значыць, ураўняць герояў, збіцца на паўторы і страціць фабульнасць і кампазіцыйнае ядро. Караткевіч адчуваў, што трэба і Кастуся паказаць са слабасцямі, але, відаць, стрымліваўся, каб не збіцца з задумы твора як эпапеі паўстання. Неяк у гутарцы гаварыў мне, што Каліноўскі — палітык, дыктатар, фанатык палітычнай ідэі, запраграмаваны, самаабмежаваны ў сваіх паводзінах. Чалавек жа сучасны ніколі не згаджаецца на смерць, бо ён марыць пра несмяротнасць. Стан несмяротнасці — прывілея чалавека і чалавецтва, яна — маці ўсіх жаданняў і стымул самапазнання, з яе выцякае патрэба ўласнай годнасці і пачуцця свайго я.

*

З Рыгорам Барадуліным яны розныя і па творчых арыентацыях, і па настроях, і нават па спосабах карыстання вобразным словам. Барадуліна вабіць усё станоўчае, жыццярадаснае, а словы ён смакуе, забаўляецца, штукарыць. Караткевіч бачыў чалавека ў гісторыі ўзвышана і трагічна, а слова ў яго — сродак абуджэння спагады.

Ён часта бязлітасна ломіць фразу, можа паступаць са словам неабачліва, уздыбліваць фразу, наогул адчувае вобразатворчую справу як ломку і тварэнне.

Варта асэнсаваць розніцу складу творчых і чалавечых характараў двух мастакоў. Калісьці я быў здзіўлены, улавіўшы ў Караткевіча дух і тон саперніцтва, нават канфрантацыі. Прыемна ўспомніць, што я адразу пачаў адхіляць усё канфрантацыйнае і як умеў пераконваў Валодзю, што Рыгор харошы хлопец, а потым чуў ад яго: «Які цудоўны хлопец Рыгор!»

*

Яшчэ ва ўсёй красе і сіле дзейнічае ідэалагічны рэжым, а ў зале прысутнічаюць не толькі філфакаўцы, прыйшлі студэнты і выкладчыкі іншых факультэтаў, сядзяць незнаёмыя мне людзі з горада. Я разумею, што не можа абысціся і без патайных інфарматараў, таму сачу за карэктнасцю студэнцкіх пытанняў, выступленняў і адказаў Караткевіча. Карыстаючыся правам вядучага, па ходу каменцірую тыя мясціны, якія могуць быць успрыняты на шкоду аўтару ды выклікаць прыліў пільнасці вышэйшых інстанцый.

Не думалася мне тады, што тэхніка падвядзе, таму вярнуўся дамоў пасля вечара і не зрабіў сістэмных нататак. Засталося ў памяці некалькі агульных афарыстычна выказаных ідэй. Перш за ўсё ідэя дуба і парасткаў, якая пралілася бальзамам на маладую аўдыторыю. Рэакцыя на эпіграму пра дуб, які выступаў сімвалам застою.

...Стаіць над здзірванелай сцежкай згубы,
Нібыта ўсім, што з ім было ў жыцці,
Увасобіў да канца «ідэю дуба»,
І больш дубам няма чаго расці.

Хораша прагучала пахвала ерасі, якую пазней сустрэў я ў яго апошнім зборніку «Быў. Ёсць. Буду».

Ерась, вялікая маці ўсіх народаў вялікіх,
Выратуй сына свайго, што не будзе быдлець спаквалю...

*

Балюча было бачыць Караткевіча хворым, то адчайна абыякавым да свайго здароўя, то скурчанага ад болю. Хацелася стаць містыкам, каб верыць, што не ўсё безнадзейна.

І ўсё ж юбілей і грамадскае прызнанне падбадзёрылі Караткевіча. Можа, гэта і быў той эліксір, які мог бы змяніць яго жыццё, каб грамадскасць прымяніла яго раней. Мастак набыў новага дыхання, прыходзіў на пісьменніцкія сустрэчы, чула вітаўся, моцна і шырока, са шляхецкім размахам, сціскаў у абдымках, гразіўся прыехаць у Брэст, прыгадаць маладыя гады, пачаў выступаць на пісьменніцкіх форумах. Смела і бескампрамісна выкрываў ідэалагічны ціск на літаратуру. Звышідэяй яго жыцця і творчасці засталася свабода, поўная свабода. У ідэолагаў, як вядома, свабода дапускалася толькі з ленінскім абмежаваннем: «ад чаго?» Падразумявалася — ад адказнасці за лад на планеце. Але ж на самай справе ніколі яшчэ ад пісьменніцкай безадказнасці не валіўся свет, ад палітычнай — так, ляцелі ў пух і прах, разляталіся дзяржавы, ламаліся троны і гінулі людзі, якіх палітыкі лічаць на тысячы і мільёны. Пісьменнік і сваіх калег называе пайменна, і персанажаў, хоць бы і пісаў эпапеі ды апісваў масавыя панарамныя сцэны. Шкоднасць ці карыснасць мастацкіх твораў датычыць даволі абмежаванай колькасці людзей. Для палітыкаў вынікі пісьменніцкага ўздзеяння на масы не страшныя, нездарма ж у перадавых краінах адсутнічае, паколькі не акупліваецца, цэнзура. А выпадкі асабістых кантактаў палітычных дзеячаў з пісьменнікамі сустракаюцца пераважна ў дыктатарскіх рэжымах. Сумленным прафесійным палітыкам літаратура можа прынесці карысць хіба што як сродак выяўлення псіхалогіі грамадства, ды і то толькі тады, калі будзе напісана свабодна, без аглядкі на сацыяльны, ідэйны ці нават эстэтычны заказ. Такое здараецца не часта, таму цывілізаваныя грамадствы стараюцца забяспечыць умо-

вы, у якіх творчы працэс працякаў бы адкрыта і рэляцыя паміж палітыкамі, ідэолагамі, публіцыстамі з аднаго боку і мастакамі з другога кантралявалася свабоднаю думкай. Гульня адкрытымі картамі паднімае грамадскі прэстыж і літаратуры, і палітыкі. У нас жа музу трактавалі як служанку ў палітыкаў. Супраць гэтага пратэставалі ўсе таленавітыя мастакі, а Караткевіч рабіў гэта звонка.

Я радаваўся за Валодзю. Неяк запрасіў ён мяне на прэм'еру оперы Смольскага па аповесці «Сівая легенда». Атрымаўся цудоўны вечар, побач сядзелі Валянціна Браніславаўна, Зінаіда Мажэйка ды і сам аўтар лібрэта, падказчык мелодый малавядомых беларускіх песень, на якіх трымаліся многія сцэны і арыі. Валодзя падарыў мне вялікі кавалак рукапісу лібрэта, рукапіс моцна стракацеў папраўкамі, устаўкамі і купюрамі. Твор аказаўся ўдалым, галоўнае — сапраўды беларускім і трагедыйным, хвалюючым. Я вярнуўся ў гасцініцу перапоўнены радасцю за Валодзю, тым больш што пачуў ад яго, што ён завяршае «Каласы пад сярпом тваім». Дакараў сябе за зрывы настрою ў часе пасляюбілейнага гасцявання.

Лёс аказаўся для Уладзіміра Караткевіча бязлітасным і каварным. Нечакана захварэла на рак гартані квітнеючая, жыццярадасная Валянціна Браніславаўна. І хоць мужна перанесла аперацыю шыі ды не саромелася дэфармацыі твару, прыходзіла ў Дом літаратара на вечары, старалася быць вясёлай. Аднак выздараўленне аказалася падманным. Прыйшло вялікае гора: Уладзімір Караткевіч страціў сяброўку жыцця. Для яго, прывыклага да сямейнай апекі, гэта быў жахлівы ўдар. Праўда, паэт стараўся мужна змагацца з лёсам. Летам 1984 года я быў заняты, як заўсёды, у дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі і на летняй сесіі завочнікаў. Пачуў ад знаёмых, што Караткевіч выбіраўся з Валянцінам Ждановічам у падарожжа па Палессі. Вестка мяне супакоіла. Паехаў і я праведаць землякоў у Наднямонне, вярнуўся ў канцы жніўня і з газет даведаўся пра вялікую страту сваю, сяброў маіх і беларускай літаратуры.

*1990*

# Кантэкст несмяротнасці

Хіба мажліва развітацца з вечнасцю, належачы да яе?

А ён верыць, што «не знікаць паэтам вечна, у вечнай песні жывучы». Ён адчувае сябе сынам народа, прадаўжальнікам яго неўміруча-пакутлівай долі, яго мовы, якая, паміраючы і ўваскрасаючы, перажыла вякі, занепадаючы і абнаўляючыся, — жыве. Ён, свядомы сваёй несмяротнасці хіба ад першага кроку ў паэзіі, рыхтаваўся да развітання з жыццём, сурова ацэньваў сябе, чыніў над сабой апошні суд, складаў запаветы сучаснікам і нашчадкам. Дзёрзкая трагічная паслядоўнасць, мужная гатоўнасць глянуць у вочы праўдзе і смерці, верачы ў адвечнае і несмяротнае.

Як сканаю — душа застанецца
Ў ззянні кожнай крынічнай слязы,
У аеру, што з ветрам сячэцца,
Ў срэбных хвалях дняпроўскай лазы.

Гэта з кнігі «Мая Іліяда», а вось з апошняга зборніка:

Падаў...
Плакаў...
Ды толькі
Ў той час, як не бачылі вы,
І які той цяжар ні будзе,
Ён веры маёй не сагне:
Мяне пахаваюць людзі,
Лепшыя за мяне.

Лепшымі яны стануць, напэўна, і таму, што прымуць да сэрца пакутлівы вопыт жыцця і слова паэта і прадоўжаць яго. Невыпадкова пераклікаюцца загалоўкамі чацвёртая, апошняя кніга паэзіі Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду.» з першым зборнікам «Матчына душа». Паміж імі выйшлі «Вячэрнія ветразі» і «Мая Іліяда» — нацэленыя больш на знешні свет духоўных каштоўнасцяў, на помнікі культуры, шэдэўры мастацтва, сусвет-

ныя постаці, а першая і апошняя — на свет унутраны, на вобраз ідэалу. У іх пануе прарочы дух.

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двуногіх.
. . . . . . . . . . .
За ўсіх, хто крывёю піша.
У нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

Прарок-бунтар. Такімі выступалі вялікія рамантыкі — Міцкевіч, Славацкі. Яны бунтавалі супраць Бога, калі той, па іх разуменню творца гісторыі, несправядліва караў няволяй іх родны край. Бог быў для рамантыкаў разумна-нячулым традыцыяналістам, а яны сынамі прагрэсу, абнавіцелямі свету. Які ж адпаведнік рамантычнага Бога выводзіць сучасны паэт? Раздвоены. У адных творах Караткевіча Бог увасабляе ідэал маральнай чысціні, гармонію быцця, як іх разумее народная этыка.

«На Беларусі Бог жыве», —
Так кажа м о й просты народ.
Тую праўду сцвярджае раса ў траве
І адвечны зор карагод.

Паэт паблажліва прымае такое бяскрыўднае разуменне ідэальнасці і завяршае свой роздум пра вобраз ідэалу згодай: «І няхай да веку жыве». Але ж вядома, што ідэалы ўмеюць супраціўляцца і выкідваюць конікі, калі іх пачнуць так проста зводзіць з паднябесных арбіт на зямныя калдобіны. Ідэалам Людвіка Заменгофа было, напрыклад, стварыць мову, якая б прымірыла звадкі і калатню паміж палякамі, беларусамі і яўрэямі, што насялялі яго родны даваенны Беласток. Ён вынайшаў эсперанта. Нацыянальных антаганізмаў гэтая ідэальная, «справядлівая», складзеная паліглотам з розных моў свету, супермова не суняла. Не стала яна мовай прымірэння чалавецтва, але праз гады аказалася вельмі здатнаю для праграмістаў і можа стаць сусветнаю мовай кібернетыкі. Так і ідэалы красы і цнатлівасці не гатовенькімі і цэленькімі ўпалі з неба, яны адкрываліся людзьмі па крошачках, здабываліся ў жыццёвай барацьбе супраць антыідэалаў — брыдоты, подласці, здрады. За іх змагаліся пакаленні і завяшчалі змагацца на-

шчадкам. Таму і паэт ставіцца да праблемы актыўна, ён лічыць, што ісціна, справядлівасць могуць быць здабыты толькі ў змаганні — у смелым дыялогу, адкрытай і сумленнай канфрантацыі думак, пазіцый. Караткевіч бярэ на сябе цяжар няўдзячнай, таму двойчы пачэснай місіі ерэтыка, прыроджанага спрэчніка, парушальніка спакою, ён падвяргае сумніву і крытыцы ісціны агульнапрызнаныя, вечныя, дзёрзка заклікае абнаўляць рангі каштоўнасцяў і святасцяў, каб не заскаруз у застоі дух чалавечы: «Ерась, вялікая маці ўсіх народаў вялікіх, Выратуй сына свайго, што не будзе быдлець спакваля». Абгрунтоўваючы думку пра мужную і цяжкую патрэбу духу ісці наперакор усяму, напярэсціг усталяванаму, насустрач невядомаму, Караткевіч стварае адзін з сучаснейшых праграмных вершаў кнігі:

Не злабіся на ерэтыкоў,
Не цягні ў самое неба выю.
Свет без іх — чародка прасцякоў,
Свет жывы — пакуль яны жывыя.

Ты мудрэц — пакуль мудрыць яны.
Ёсць яны — няма ў табе падману.
Не гані агнём іх, не кляні,
А малі аб іх уратаванні.

Натуральна, што пад агонь ерэтычнай крытыкі трапляе і Бог, ён аказваецца не такім бездакорным, як лічыць наіўна-апалагетычнае ўяўленне: «Бог і сам не ведае нічога, Бог і сам на ростані дарог». Гэта, аднак, не зніжае вобраз ідэалу, а толькі вынікі і выдаткі звядзення ідэалу на зямлю. Калі Бог сыходзіць да людзей і падае ім ідэал як закон, як дэкрэт ці наказ, дык са зместу ідэалу выветрываецца дух ідэальнасці, а талковаю праграмаю дзеяння ён не становіцца. Вось і трапляе ў тупік Бог-дырэктыўшчык, разводзіць рукамі на ростанях зямных выбоістых дарог. Ідэал тады ідэал, калі ён вабіць, узносіць, застаючыся дасягальным і недасягнутым.

Памятайма, што спрэчкі, адмаўленне, бунтарства моцныя не самою апантанасцю, а перадусім зместам таго, у імя чаго паднімаецца безаглядная крытыка. Сцвярджальнае ядро ерэтычнага бунту Караткевіча высокае і яснае — гэта працяг узбагачэння патрыятычнай і гуманістычнай легенды беларусаў. Часта галоўная думка праграмных твораў вырастае з аўтарскага асэнсоўвання запаветаў, пакінутых папярэднікамі. У «Маёй

Іліядзе» вешчуном выступаў Максім Багдановіч, прадоўжаны У. Караткевічам.

Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.
Не давайце святыні псам!
Не давайце з яе глуміцца,
Бо праспіць яна ясну зару,
Бо святы ізумруд заімгліцца
У пярсцёнку тваім, Беларусь».

Слоў, узятых у двукоссе, няма ў Багдановіча, яны — сінтэз і бліскучы працяг думак з яго патрыятычных вершаў «Безнадзейнасць», «Беларусь, твой народ дачакаецца...», «Пагоня» і інш. У апошнім зборніку вешчунамі і апосталамі ідэалу выступаюць іншыя героі і духоўныя важакі нацыянальнага адраджэння — Кастусь Каліноўскі, Ігнат Буйніцкі, Ігнат Грынявіцкі — яны першапраходцы, сцяганосцы свабоды і чалавечай годнасці.

Слава *Першых,* якія сабой заплацілі
За айчыну і слова, племя і род
І душу аддалі, каб яна ажывіла
Мёртвы гліны камяк:
Свой родны народ.

Да шэкспіраўскіх трагедыйных вышынь паднімаецца Караткевіч у вершы «Прарок», задуманым як маналог з III акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі».

Пакутваць цяжка гневам і журбою,
У пустыні марна да пяскоў гукаць
За край, даўно адвучаны ад бою,
Ад мовы, гонару і языка.

Але, наперакор абставінам, трэба застацца адзінокім ахвярнікам без падтрымкі і падмогі, так загадвае годнасць патрыёта і гонар, што не згас яшчэ, хоць бы ў адным сэрцы. А з годнасцю дружыць і надзея, і вера ў збавенную сілу ўласнай смерці, якая абудзіць годнасць у народзе.

Пачуць, хаця і ў першы дзень на сконе,
У згасанні мозгу ярасны ваш крык.
І зразумець, што вы ўзламалі краты,
Апошняй думкай, цяжкай, як свінец,
Што блізкі ён, вялікі ваш пачатак,
Што блізкі ён, вялікі мой канец.

Славутай карцінай «Вясна» Фердынанда Рушчыца, апошняга магіканіна неарамантызму віленскай мастац-

кай школы, навеяны вобраз верша «Ворыва на валах», дзе мірная праца асацыіруецца з відовішчам гістарычнага валюнтарызму, пераворваннем межаў гістарычна здзірванелага краю.

Я гэта бачыў сам, хоць адышло:
У апошні, можа, раз на белым свеце
Ішлі быкі і ворыва плыло,
А зверху — хмары, чырвань, сінь і вецер...

. . . . . . . . . . . .

Бялкі ў крыві, а капыты — у гразі.
І ўсё здаецца мне: нарогам-зброяй
Быкі, як старажытныя князі,
Маю радзіму на кавалкі кроягь.

А лічацца ж толькі тыя ідэалы, што ўкараняюцца на зямлі, хто б яе ні араў, чым ні засяваў.

Караткевіч — рамантык ва ўсім, нават у катэгарычным адмаўленні рамантычнай прыроды свайго таленту. На спробу падвесці яго пад рамантычны эталон ён бурна пратэставаў: «Не рамантык я! Я — рэаліст! Я так бачу жыццё і пішу толькі праўду». Не жадаў слухаць заўваг, што дэвізам рамантыкаў была жывая праўда, гэта значыць сагрэтая сэрцам, ачалавечаная любоўю да простага люду, здольная працівіцца халоднай, мёртвай, разважнай праўдзе, якую прапаведавалі арыстакраты, халодныя класіцысты. Караткевіч добра ведаў гісторыю рамантызму, але быў пэўны, што гісторыя не паўтараецца, і баяўся стаць антыкварнай фігурай у паэзіі. Ён прагнуў быць паэтам сучасным, змагарскім нават у сваіх гістарычных творах. Яго воляю і марай было ўзброіць сучасніка духоўнасцю, далучыць да гісторыі радзімы, а цераз яе — да сусвету, да чалавецтва. Паэт забіраўся ў сховы скарбаў старой Беларусі, знаходзіў крамянёвыя наканечнікі стрэл, каменныя тапары і малаткі, ачышчаў ад іржы лёзы мячоў, аздабляў кабінет фігурамі анёлаў, выратаваных з апусцелых касцёлаў і збуцвелых капліц. А потым складаў творы пра неўміручасць скарбаў народнага духу, таго, што Скарына называў «усякаю добраю навукай, або мудрасцю божай і чалавечай».

Крайне асабістым, ажно тэндэнцыйным было яго ўспрыманне тэрміну «рамантызм». Склалася яно, калі рамантызм стаў казлом адпушчэння за хібы рэалізму. Яго лічылі нейкім псотным ідэалістам, мройным падманшчыкам, прадаўцом салодкіх наркозаў, занятым толькі тым, каб падмануць і адвесці чытача ад праўды рэальнага жыцця. Бяда ж была ў тым, што праўда ў

працах прапаведнікаў выключнасці рэалізму была не іхняй і не жыццёвай, а ўзятай часта з вуснаў вульгарных сацыялагізатараў, якія мелі гатовыя рэцэпты нават на прапорцыю станоўчага і адмоўнага ў вобразе. Караткевіч хацеў быць змагаром за лепшую рэальнасць, але не безадказным стваральнікам паэтычных міражоў. Адмяжоўваючыся ад абрыджанага дагматыкамі раманТызму, паэт у душы і ў слове заставаўся ваяўнічым рамантыкам. Не прызнаваўся сабе, што ідэалізуе, але... яго натхняла вера ў ідэал.

— Ну і што ж? — скажам мы сёння. — Спрадвеку ідэалізуе яву народнае мастацтва, паказваючы рэальнасць як дыстанцыю паміж тым, што існуе, і тым, што быць павінна. Чарадзейная казка і рытуальная песня часта пакідаюць рэальнае ў падтэксце, а належнае адлюстроўваюць як існае. Прыказка ці анекдот жывуць амаль без ілюзій, стараюцца быць насмешліва цвярозымі, практычнымі, але і там належнае на першым месцы. Многія познія жанры фальклору, напрыклад, балады, неабрадавыя песні, паралельна даюць два вобразныя рады, супрацьпастаўляючы мару яве, і цераз параўнанне абагульняюць, тыпізуюць, выяўляюць сутнасць. Паказ належнага, увядзенне ідэалу ў вобраз жыцця, само па сабе не з'яўляецца ідэалізацыяй, прыхарошваннем. Толькі выдаваць належнае за існуючае, ужо здзейсненае, ёсць падман і містыфікацыя, парушэнне гнасеалагічнай дысцыпліны, культуры пазнання, аднолькава абавязковай для рэалістаў і рамантыкаў. Гэтым грашыла ў нас ілюстрацыйнае мастацтва, што выдавала жаданыя ідэі за здзейсненыя факты, ашуквала і размагнічвала чытачоў, пакуль не надакучыла.

Ідэал хоць і з'яўляецца данасцю духоўнай, але ён такая ж рэальнасць, як і з'явы матэрыяльнага свету. Мастак можа праўдзіва адлюстраваць свет рэчаў і свет ідэй, свет вытворчых адносін і свет адносін асобы да сэнсу быцця, свет бачымы і свет жаданы. Звычайна не паасобку адлюстроўваюцца гэтыя два станы свету, а ва ўзаемасувязі, а сродкі выбіраюцца як жыццёвыя, так і ўмоўныя. Гэта мы, прастакаватыя крытыкі і нашкеленыя намі чытачы, часта бачым у паралелях рэальнага і належнага падазроную «блытаніну», грэх супраць праўдзівасці, якую нам хочацца ўяўляць сумаю з'яў ці падзей у цяперашнім часе і ў адным месцы на зямлі. Час мінулы і будучы пры такім разуменні ўсяго і служыць

для падвышэння сучаснасці, а не дапамагае фарміраваць яе. На справе ж мінулае і будучае фарміруе і саму нашу сучаснасць, і нашу здольнасць бачыць, ацэньваць яе як рэальнасць жывую, грамадскую, сацыяльную, дзе мерай рэчаў — чалавек, яго шчасце, яго лёс.

Больш ні ў чым на зямлі мне няма патрэбы:
Толькі б шчасця болей яе сынам,
Больш любові, пяшчоты, сумленнага хлеба,
Менш хлусні, менш свінцу, менш агню палям.
Толькі б хлопцы былі да дзяўчат, як ветрык,
А дзяўчаты да хлопцаў, як сонца, былі.
Толькі б мукі зямлі ў зямныя нетры
Разам з целам маім навек адышлі.

Каханне і любоў пераплятаюцца і, нібы ў казцы, пераўтвараюцца з жыццёвых адносін у паняцці філасофскія, экзістэнцыяльныя. Яны спасцігаюць агульны стан і унікальную сутнасць быцця ў самых розных праявах, ад мілавання хлопца з дзяўчынай да спалучэння неба, зямлі і вады, з чаго паўстае жывая прырода.

Плод кахання бору і хмары, —
Мой Дняпро, і Бяроза, і Нёман.

Таксама ў сферы інтымнай дзеюцца быційна-глабальныя рэчы, калі каханнем ахоплены душы глыбокія, свядомыя сваёй творчай моцы і прызвання.

Ты дала мне імгненне і шчасце,
Я табе даў за гэта — бяссмерце.

Менавіта філасофскі погляд на каханне-любоў напоўніў узрушлівай сілай «Паэму пра явар і каліну», «Грубае і ласкавае» і многія лірычныя вершы. У аснову першага твора лёг традыцыйны баладны сюжэт (свякроў атручвае нялюбую нявестку, яе муж накладае на сябе рукі, закаханыя злучаюцца пасля смерці), але талентам мастака звычны матыў падняўся да ўзроўню вялікага мастацтва: абгрунтаваныя псіхалагічна і канкрэтызаваныя гістарычна вобразы набраліся эпічнай велічы і чалавечай глыбіні, сталі дзейнічаць не толькі ў сямейна-псіхалагічнай калізіі, але перамясціліся на ўзровень нацыянальна-гераічны. Вось дыялог воіна Яна з гарадзенскім князем Давідам:

— Яне! Прасі чаго можаш!
Ты ў ворага славу адняў,
Ты прабіўся праз строй варожы,
Ты — магістра зваліў з каня.
Ты —
Зламіў таму быдлу шыю,
То прасі хоць свет у мяне...

— Княжа... Мне паланянку...
Марыю...
Яна... пакахала мяне.

— Хочаш — золата, колькі важыш?
Ці бурштынаў,
каб аж скамянець?

— Княжа... Мне паланянку...
Марыю...
Яна... пакахала мяне.

— Хлопча!!! Аб'еўся блёкату!?!
Немец з прусам кроў нашу п'е...
Яна пруска! Балтка! Рабыня!

— Княжа, я кахаю яе.

Парадоксы кахання ў другой паэме маюць агульна-людскі сэнс: каханне і рэўнасць, любоў і нянавісць, ласка і грубасць, вернасць і здрада, гуртаванне і раз'яднанасць людзей — разглядаюцца як універсальныя катэгорыі, што вызначаюць якасць быцця, сэнс і патрэбу існавання індывідаў у свеце. І натуральна, постаць каханай можа ператварацца ў радзіму, нават у маці-зямлю або ў ідэю свету. Праўда, Караткевіч не прымае метафізічных канцэпцый пра сусветную збавіцельна-даравальную любоў, ягоная любоў дзейная, нават ваяўнічая, дзеля яе панавання герой змагаецца, а перамогай гатовы лічыць сваю смерць на полі бою і слова «любоў» піша на баявых сцягах радзімы.

І над строем тваіх абаронцаў суровых,
Над клінкамі, што п'юць гарачую кроў,
Будзеш ты лунаць
На харугвах пунсовых.
Залатое святло!
Прамаці любоў!

Змест паняцця любоў разрастаецца ў Караткевіча на ўсіх мажлівых каардынатах. Калі ў «Маленні аб чашы» (зб. «Мая Іліяда») ён, застаючыся ў межах практычнай канвенцыі быцця, пісаў:

Беларусь мая, ты адзіная,
Перад кім на каленях стаю:
Мне, слузе твайму, цяжка загінуць,
Лёгка — жыць у славу тваю... —

дык у паэме «Грубае і ласкавае», а таксама ў шэрагу вершаў апошняй кніжкі паняцці лёгка і цяжка мяня-

юцца месцамі, выводзячы імкненне да ідэалу за межы этыкі, практычных разлікаў.

Ты не плач. Я скажу табе ціха-ціха,
Што цалую лязо чужога мяча.
Ён дабро мне зрабіў, пракалоўшы грудзі:
Я ўпэўнены ў гэты шчаслівы дзень,
Што цябе ні бог,
ні д'ябал,
ні людзі
Больш не змогуць вырваць з маіх грудзей.

Тут не містыка і не пухіры экзальтаванасці, а празорлівасць сталага этычнага бачання: цяжэй жыць, чым памерці аднаму за дваіх. Не цямілі такога прыдумшчыкі формулы «и за того парня», пра што сведчыць і нядоўгі век выслоўя.

Супраць бросні на паверхні жыццёвай плыні ідзе рамантык, жадаючы вярнуць людзям усю паўнату іх чалавечай сутнасці, вянок чалавечнасці — высокую духоўнасць, павагу да мінулага і веру ў будучыню. У чым жа бачыць паэт хібы духоўнага свету сучаснікаў, як уяўляе сабе ўзбагачэнне? Перадусім у асабістай годнасці. А годнасць асабістая складаецца з годнасці класавай, нацыянальнай, агульначалавечай. Пахібкамі ў гэтай сферы паэт тлумачыць адставанне грамадзянскай культуры, нястачу таго гістарызму мыслення, што здольны ператвараць веды аб мінулым радзімы ў любоў да яе, у патрабавальнасць да сябе і павагу да іншых народаў. Той, хто не паважае сябе, не здольны паважаць іншых, ён можа толькі прытварацца, паддобрывацца.

Не слушна будзе без агаворак успрымаць вядучы матыў кнігі «Быў. Ёсць. Буду.» як пафас агульначалавечага. Чалавечнасці — так, але не агульначалавечага, паколькі паэт, гістарычна адукаваны інтэлігент, ведае, што не ўсім «чалавекам» і народам аднолькава страшны былі нават паморкі і эпідэміі, а тым больш варожыя нашэсці, пагрозы нацыянальнай свабодзе, праву на гістарычнае быццё. Ён і ў мінулым, і ў сённяшнім свеце бачыў прыклады, што ад голаду і хвароб паміраюць у першую чаргу бедныя, ахвярамі захопнікаў становяцца слабыя, а багатыя ды хвацкія, а тым больш дужыя ды хіжыя, выжываюць і, жывучы за кошт пакораных, выдаюць сваё панаванне за ласку і дабрадзейства для прыгнечаных, велічаюць свой разбой цывілізацыйнай місіяй.

Найбольш мучылі яго праявы атавістычнай залганасці ў свеце. Караткевіч па-рыцарску змагаўся супраць

аблуды. Ён прадчуваў, што вялікае зло, якое прынёс культ асобы нашай многанацыянальнай радзіме і камуністычнаму руху ў свеце, быў вынікам не толькі асабістых заган Сталіна, а перадусім нізкай грамадзянскай, этычнай і палітычнай культуры ў краіне. У гістарычных творах пісьменнік выкрываў нашу фатальную спадчыну, развенчваў дзвюх загубіцельніц колішніх нашых традыцый грамадскага сужыцця — шляхецкую манію свабод, што ператварылася ў самаволю, анархію на бяду Рэчы Паспалітай, і царскі дэспатызм імперыі Раманавых, што спараджаў чарнасоценшчыну, шавінізм у пануючай нацыі і ў адказ святы нацыяналізм прыгнечаных.

Так, многія з тых крыўд, якія кранаді незраўнаную ўражлівасць душы паэта, былі свядомым ці несвядомым абрыджваннем яго апанентамі агульначалавечай этыкі і маралі, якія абзывалі абстрактным гуманізмам. Гордага паэта наперакор цягнула да агульначалавечага, ён ведаў, што гуманізм беларускага адраджэння, з крыніц якога чэрпаў ідэі, не быў абстрактным, бо вырас у сістэме нацыянальна-вызваленчай і сацыяльна-дэмакратычнай этыкі, якую стварыў вызваленчы рух, абапіраючыся на рэвалюцыйны вопыт суседніх народаў: рускага, украінскага, польскага. Пра гэта сведчаць ідэйныя запаветы Каліноўскага, Багушэвіча, Багдановіча і Купалы. Чалавечнасць была ў той сістэме звышідэяй, але не толькі і неабавязкова чымсьці агульналюдскім, паколькі шырмай агульналюдскага прыгнятальнікі прыкрывалі свае класавыя і вялікадзяржаўныя пакусы і амбіцыі. Самыя светлыя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння бачылі агульначалавечы ідэал у роўнасці ўсяго працоўнага люду планеты, у роўнай годнасці і павазе ўсіх нацый, усіх народаў. Такі кантэкст агульначалавечага прымае Караткевіч. Ад справядлівасці ў сваёй краіне да справядлівасці ў свеце — вось дыяпазон і напрамак стрэлкі ў шкале ідэалу.

Такое разуменне палемізавала з завядзёнкай на лёгкую, зручную і прыемную духоўнасць, калі культурнікі і масавікі, нават школьныя педагогі прывучалі думаць, што духоўнасць, як мода, даецца лёгка, нібы лёгкая музыка, масавая паэзія ці цалкам зразумелая без слоўнікаў мова падручніка ці буквара. Караткевіч папярэджвае перад прафанацыяй духоўнасці, падкасцю на тлумлівую бяздумнасць у мастацтве, але не спяшаецца

асуджаць, працягвае руку тым, хто шчыра аступаецца, міжвольна, як вось гэтая «жанчына з дзіцячай спуджанай душой»:

У адвечнай празе чалавека
Яе душа, яе рука
Шукае месца ў гэтым веку
І ўсё не можа адшукаць.

То ў шыльдах Суціна, то ў Хласка,
То ў Бацічэлі, то ў Манэ,
У канкрэтнай музыцы, ў Пікаса,
У хлусні, ў каханні і ў віне.

У канкрэтным мужы і ў кватэры,
У калекцыі старых карцін,
Ва ўсмешлівых старых хімерах...
Ці новых? — Знае бог адзін.

Напэўна, сучасным шукальнікам «лёгкай» духоўнасці нешта ў кнізе Караткевіча здасца цяжкаватым, не зусім зразумелым. Але ж таму і называецца цяжар духоўнага росту пачэсным, што рост гэты настае з уменнемператвараць незразумелае ў зразумелае для сябе і для людзей.

Супрацьпастаўленне маральных вышынь і амаральнага нізу, належнага і наяўнага, паднебнага і карытнага — суперзадача лірычных маналогаў У. Караткевіча. Дзеля кампраметацыі нізкага ён не баіцца гаварыць грубыя словы, уводзіць жывёльнае, каб высвечваліся на цёмным фоне самацветы высокага духу.

Гіене — баяцца, сабаку — вішчаць.
Свінні — рыцца ў гноі сваім.
А льву патрэбны калючы гушчар,
Родны край і свабода ў ім.

Рамантычная ў Караткевіча раз'яднанасць і канфліктная спалучанасць зямнога і занябеснага. Духоўным арыенцірам і каштоўнасцям належыць скрозь пяршынства, і смерць сапраўдная, канчатковая для чалавека — гэта смерць духу, забыццё свайго роду, сваіх духоўных карэнняў нават пры жыцці.

І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.
Ты забыў? Ну што ж, на дасвецці
Ты без сонца будзеш канаць...

Гэта здорава, што сёння літаратурная грамадскасць

Беларусі строга ацэньвае праявы абнаўлення на паэтычнай ніве, залічваючы ў актыў, бадай, усяго творы П. Панчанкі ды яшчэ У. Някляева, хоць трэба памятаць, што беспадстаўная прыдзірлівасць, як і безгустоўная ўсёяднасць, аднолькава збівае з тропу, прывучае да легкадумства і салодкага палону моды. Хтосьці з моднікаў перабудовы нават злараднічаў у друку наконт таго, што вось у шуфлядах сталоў нядаўна памерлых класікаў члены камісіі па спадчыне не знаходзяць рукапісаў з тайнымі духоўнымі тэстаментамі, усё напісанае ў свой час было надрукавана без перашкод. Перабудоўвацца, выходзіць, трэба моладзі самой, без добрых прыкладаў і прэцэдэнтаў. Пакінем на рахунку легкадумства падобныя адкрыцці і воклічы. Зазначым, аднак, што з мудрай сентэнцыяй Андэрсенавага дзіцяці пра голага караля яны нічога агульнага не маюць, падобны хутчэй на рэплікі казачнага Івана-прастака: «Цягаць вам, не перацягаць». Беларуская літаратура, як і ўся савецкая літаратура, мае свой сур'ёзны рахунак як да перыядаў панурай пільнасці, так і да перыядаў казённа-бюракратычнай абыякавасці і лянівай дабрадушнасці.

Пасмяротны зборнік У. Караткевіча якраз з'яўляецца адным з самых значных укладаў, запісаных на рахунак перабудовы, гэтая кніга — прадвеснік новага мыслення — грамадзянскага і палітычнага. Увайшлі сюды творы, якія аўтар пісаў раней, пісаў без аглядкі на выдавецкую «праходнасць», амаль не публікаваў у перыёдыцы, працаваў часам і без веры, што яны так скора ўбачаць свет. Паўстае са зборніка бунтарны дух ворага ўсякай артадоксіі, усякай руціны, высока гучыць голас працаўніка забарон і ўказальных знакаў на шляху творчага духу. Караткевіч — прынцыповы змагар супраць стандартызацыі духоўнага жыцця, у якой ён прадчувае пагрозу і замах на чалавека, яго індывідуальнасць, непаўторнасць, святасць асобы, здольнай тварыць.

Ажывае са старонак спантанна шчыры, любячы і гняўлівы, узрушаны і расчулены, пахмурны і насмешлівы Валодзя Караткевіч. Душа яго звініць крышталёвым звонам прызнання ў вернасці беларускай адроджанай традыцыі Каліноўскага, Купалы, Багдановіча, Танка, раскрывае абдымкі ўсім паэтам, хто яднаў у адным вобразе каханую дзяўчыну, родную маці, радзіму і нават сусвет. Паэт верыць: «Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы,

Нельга ні уджаліць, ні забіць». А да няздольных паднімацца да зор ён ставіцца са смяшліваю карэктнасцю: «Давай на антыбрудэршафт з табою дзёрнем. Хачу ад сёння быць з табой на «вы».

Апошняя кніга паэта дае мажлівасць засведчыць здзіўляючую цэльнасць і паслядоўнасць бунтарнага, часта ўшчуванага жыццём, але не выбітага з мажору мастака. Ён мужна і з годнасцю прайшоў праз вернасць сабе і радзіме, захаваў годнасць сваёй беларускай, далучанай да ўсіх скарбаў свету, душы. «Быў. Ёсць. Буду.» — загаловак, падказаны пачуццём асабістай, нацыянальнай і чалавечай годнасці і адказнасці.

Шкада, што так хараша, так любоўна выдадзенай сябрамі кнігі, сярод якіх мы бачым не толькі брата па пяру і сэрцы, рэдактара зборніка і аўтара натхнёнай прадмовы да яго, Рыгора Барадуліна, але і мастака П. Драчова, фатографа В. Ждановіча і выдавецкіх работнікаў на чале з М. Дубянецкім, — не патрымаў у руцэ сам незраўнаны знаўца прыгожага і людскага — Уладзімір Караткевіч. Няхай уцешыць чытача яго вера ў несмяротнасць дабра і хараства. Кніга яго — вымпел, узняты насустрач абнаўленню, яна гаворыць многа мудрага пра нормы і дэфармацыі ў сферы каштоўнасцяў, шчыра падказвае здаровыя суадносіны нацыянальнага агульналюдскага братэрства.

*1987*

## Плён творчасці — дослед жыцця

Мы пазнаёміліся з Аляксеем Карпюком недзе адразу пасля вызвалення Заходняй Беларусі, у Наваградку, у беларускай сярэдняй школе, якая ўтварылася на базе пераехаўшай з Вільні Беларускай гімназіі. Сярод віленцаў аказалася моцнае зямляцтва з Беласточчыны, якое спаборнічала за лідэрства з наваградскім зямляцтвам. Спаборніцтва было здаровым, партнёрскім, яго лепш назваць супрацоўніцтвам энтузіястаў, якія разам шукалі, як ва ўмовах новай школы рэалізаваць ідэалы сацыялізму, новага, больш справядлівага ладу жыцця. Эліта гэтая вырасла ў гушчы заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху, несла ў сабе яго запаветы: уз'яднаць народ на платформе сацыяльнай справядлівасці, адрадзіць нацыянальную культуру, выйсці з цемры і беднасці, даць шанц беднаце. Лідэры, вучні старэйшых класаў, былі ўжо сфарміраванымі рупліўцамі грамадскіх спраў, іх лік папоўніўся тымі перарасткамі, каго ў свой час за прыналежнасць да падпольнага камсамола і ўдзел у палітычных акцыях выключылі з гімназіі, судзілі, ганялі па турмах, так званых «беларускіх універсітэтах». Нас, маладзейшых, уражвалі іх грамадзянская культура, таварыскасць, ініцыятыўнасць, ветлівасць, ахвота і ўменне працаваць у школьным самакіраўніцтве. Для малодшых калег яны былі адначасна сябрамі і выхавацелямі, старэйшымі братамі: апекаваліся, але і патрабавалі набірацца ведаў і культуры паводзін.

Карпюк быў адным з «віленцаў», ён не мог стаць першай скрыпкай у беластоцкай капэле, але не быў і апошняй, трымаўся на роўнай назе з лідэрамі, бо хоць быў малодшы па ўзросце, але таксама прайшоў камсамольскае падполле, зведаў допыты ў паліцыі, адседжваў тэрмін у турме за спробу ўцячы ў СССР падлеткам у 1934 годзе.

Бліжэй пазнаёміліся мы з Карпюком у Наваградскім педвучылішчы, якое спешна было адкрыта недзе ў пачатку 1940 года і сцягнула ў свае інтэрнаты, абсталяваныя ў будынках польскіх ваяводскіх устаноў, частку вучняў з дзесяцігодкі і новую групу пераросткаў, чыю асвету прыпынілі канфлікты з санацыйнымі ўладамі ці проста беднасць.

Карпюк быў з ліку тых вучняў дзесяцігодкі, што не мелі належнай матэрыяльнай падтрымкі з дому і рады былі стыпендыі, таннай сталоўцы, якую адкрыў гаспадарлівы дырэктар педвучылішча. Тады сяляне заходніх абласцей яшчэ не разжыліся савецкімі грашыма, таму ўтрымлівалі сваіх дзяцей у гарадскіх школах, падвозячы ім натуральны харч. Карпюкова Страшава пад Беластокам, як на тагачасныя транспартныя сувязі, лічылася за сямю гарамі. Пракарміцца на адну стыпендыю было цяжкавата, выручала стыхійна ўзнікшая ў нашым пакоі нумар шэсць харчовая камуна. Было нас пяць хлопцаў з Наднямоння, з-пад Налібоцкай пушчы і адзін Карпюк — з-пад Беластока. Мы прывозілі «сідары» ледзь не кожны тыдзень, а ён разы два на год, пасля зімовых і летніх канікул, затое прывалакаў гору смакаты: цэлага кумпяка, паляндвіцу, каўбасы, пару апольцаў сала таўшчынёю на ўсе пяць пальцаў. Нашы цмокалі ад здзіўлення, а мяне гэта біла па самалюбстве, бо пасля смерці маці бацька мой не спраўляўся на два франты, жаночыя клопаты ўсклаў на малодшага сына. У каморы, бывала, ні даць, ні ўзяць, а так не хацелася быць горшым у гурце. Але камуна ёсць камуна: на стале заўжды ляжала манастырская схімніна: брус чорнага хлеба і графін вады, пасля паездак хлопцаў дамоў — і кусок сала, сыр, галушка масла, пара цыбулін. Падмацоўваліся, хто калі згаладаўся. Жылі мы весела і дружна, усе ўцягнуліся ў грамадскія справы, пару чалавек цераз камсамол, астатнія праз студэнцкае самакіраўніцтва або і самадзейна.

Трымаліся мы з годнасцю, мелі канфлікты за парушэнні дэмакратыі дырэкцыяй, невыпадкова ж у часе акупацыі пяцёра з нас пойдуць у антыфашысцкае падполле і вырыхтуюцца на партызанскіх камандзіраў ды палітработнікаў. У Еўропе ішла вайна, маладыя галовы кружыліся ад палітыкі, а пары паддаваў старэйшы за астатніх на некалькі гадоў Аляксей. Ён устанавіў сабе спартанскі рэжым: схопліваўся з ложка на світанні,

хутка апранаўся і для спортзарадкі, пакуль астатнія «чухаліся», абягаў газетныя кіёскі, купляў цікавейшыя газеты, прачытваў на бягу і прыносіў у пакой прыгаршчы сенсацый. Соўваў таму-сяму газету ў рукі і раіў прачытаць што цікавейшае, калі ж некаторыя з нас пасля начнога карпення над кнігамі, ці над афармленнем насценгазеты, або маляваннем святочных плакатаў спалі, прыкідваліся хворымі, Аляксей бег на кухню, выпрошваў колькі трэба порцый супу на вынас, прыносіў у пакой і, стукаючы лыжкай па вядры, прамаўляў да галодных страўнікаў, а потым і да сумлення: клікаў падмацавацца ды ісці на заняткі, веды нашы патрэбны краіне — гэта зброя!.. Звычайна агітацыя дзейнічала напалавіну: гарачы, духмяны суп «апраналі» ды лажыліся дасыпаць на другім баку. Аляксей аднача набыў у нас правы рупара грамадскіх ідэй, інфарматара і напамінальніка. Імпанавала ў ім упартая самастойнасць, незалежнасць суджэнняў, ацэнак і паводзін, пацяшала бяскрыўднае дзівацтва.

Узрушыў Аляксей усіх у канцы першага дня вайны, калі студэнты проста разгубіліся, убачыўшы неарганізаванае павальнае адступленне нашых салдат з-пад Гродна. Да таго ж у горадзе не стала хлеба, і настаўнікі-ўсходнікі ды камсорг педвучылішча выехалі сабе на грузавіку назад, за старую граніцу, нават не развітаўшыся з калектывам, занятым абсталяваннем у будынку сярэдняй школы вайсковага шпіталя. Карпюк, як аказалася, ужо тады дапяў да ваенкома, хацеў добраахвотна ўступіць у Чырвоную Армію, але, атрымаўшы адмову з вуснаў разгубленага ад навалы непамысных падзей камісара, выпрацаваў уласны план дзеяння, які мы, калегі па пакоі, прынялі як паратунак ад ганьбы: немцы маюць часовую перавагу ў тэхніцы, таму будуць наступаць да асенніх дажджоў і бездарожжа, а тады іх пагоняць назад. Нам трэба адыходзіць на ўсход, там уступіць у нейкую вайскова-вучэбную часць, прайсці ваенную падрыхтоўку і прыняць удзел у выгнанні фашыстаў.

За ноч мы дабраліся да Нёмана, але там, у родных мясцінах, даведаліся ад сельсаветчыкаў, якія спрабавалі эвакуіравацца, што на былой польска-савецкай граніцы «заходнікаў» затрымліваюць і ўсіх вяртаюць назад. Параіўшыся, мы вырашылі, што будзем збіраць зброю, авалодваць ёю і рыхтаваць баявыя дружыны, якія сустрэнуць захопнікаў, калі тыя стануць адыходзіць восен-

ню над ударамі Чырвонай Арміі. На гэтым рашэнні мы развіталіся з Карпюком, які адзін пайшоў пад Беласток, у сваё роднае Страшава.

Адшукаў мяне Аляксей неяк пасля вайны ў Мінскім педінстытуце і да завідкаў усцешыў дэтэктыўнымі калецамі сваёй ваеннай біяграфіі: ён прайшоў не толькі праз падполле, але яшчэ праз лагер смерці ў Штутгафе, наладзіў маладзецкія ўцёкі, а потым стварыў і ўзначаліў партызанскі атрад імя Каліноўскага. Дабіваць ворага пайшоў на фронт, стаў артылерыстам, удзельнічаў у вулічных баях у Берліне. І ўсё гэта прайшло ў яго цяжка-важка, з рызыкай, але без промахаў і задзіраў, якія грызуць сумленне, жахаюць пачварнымі снамі. Спаў Аляксей сном праведніка. Як соль на рану легла прынесеная ім з Наваградка фатаграфія Зіны Маслоўскай, сяброўкі па педвучылішчы, якой давялося разам з Львом Васілеўскім, жыхаром інтэрнацкага пакоя нумар шэсць, адкрыць трагічны спіс ахвяр нашай падпольнай арганізацыі ў ліпені 1942 года, літаральна за некалькі дзён да выхаду ў партызаны, дзе можна было прыняць смерць, прынамсі, у няроўным баі. Аляксей пабываў у бацькоў Зіны, усё праведаў пра нас.

Як дзівацтва ўспрыняў я Карпюкова паступленне на факультэт замежных моў у Гродзенскі педінстытут. Памятаў, што да моў ні цягі, ні асаблівых здольнасцяў у яго не было раней, нават па-беларуску гаварыў, падмешваючы польскія і рускія словы і роднენькія дыялектызмы — такі ўдаўся. А тут раптам цяга да газет змянілася на філалогію, англістыку. «Вось што значыць homo politicus!» — думаў я.

Ды ўжо зусім раззброіў мяне Карпюк, заявіўшы неяк пасля сканчэння інстытута, што пачаў пісаць аповесць пра жыццё вясковых настаўнікаў, пад назвай «Курыная гісторыя». Прыгадаўся мне тады даваенны пацешны выпадак, калі Аляксей, прыехаўшы ў інтэрнат, як і я, з канікул на дзень раней, завалок мяне для кампаніі ў чайную на Замкавай гары і заказаў сабе дваццаць шклянак гарачага чаю, без цукру — маўляў, ад грыпу, які да яго падбіраецца, — ды на вачах у анямелых афіцыянтак выпіў залпам, не ўстаючы з-за стала, а назаўтра запэўніваў мяне, што дапамагло — інтуіцыя яго ніколі не падводзіць. Калі так, то чаму не стаць пісьменнікам, даверыўшыся інтуіцыі? Я абяцаў пазнаёміць яго з якім-небудзь прафесіянальным літаратарам.

Вандруючы летам па Гродзеншчыне з Брылём на веласіпедах, мы заехалі ў Біскупіцы да Карпюка, дзе той працаваў дырэктарам сямігодкі і сакратаром партарганізацыі калгаса. Алёша быў у канфлікце з мясцовым кіраўніцтвам: абараняючы калгаснікаў ад бюракратаў і недарэчных інструкцый, звярнуўся з пісьмом у ЦК КПСС, паказваючы, да якога абсурду можа прывесці на справе сляпое выкананне ўстаноўкі «Першы хлеб дзяржаве!». У ажыятажы датэрміновай здачы паставак збожжа мясцовыя кіраўнікі забываюць пра тое, што большая частка пасеваў стаіць забытай на полі, пераспявае, асыпаецца, а то і зімуе нязжатай, і ніхто за гэта не адказвае, акрамя калгаснікаў ды іх сем'яў, пасаджаных на галодны працадзень.

Аляксей справы не выйграў, яго, як ганарыстага назолу, адпусцілі ў Гродна на кафедру педагогікі ў пединстытут, а парадкі ў калгасе засталіся. На жаль, і ў інстытуце Аляксей не ўгрэўся. Не прыйшоўся да двара і ў рэдакцыі абласной газеты. Знайшоў сябе і сваё прызванне ў літаратурнай творчасці. Праўда, нялёгка і не хутка. Настаўнікам і творчым узорам стаў для яго Янка Брыль, але таленты іх былі розныя і па маштабах, і па складу, адсюль здараліся і кароткія замыканні, і перыяды пахаладанняў.

Увогуле Карпюк умеў быць удзячным. У разгорнутай аўтабіяграфіі «Мая Джамалунгма» ён адзначыў: «Янка Брыль... даваў штуршок майму ўяўленню, стаў эталонам, на які трэба раўняцца, у каго вучыцца, і быў тым, хто ў мяне паверыў, шчыра і бескарысна дапамог. Успамінаючы цяпер непісьменныя рукапісы, якімі я завальваў Івана Антонавіча і ў якіх ён умудраўся нават знаходзіць штосьці каштоўнае, я не перастаю захапляцца душэўнай шчодрасцю гэтага чалавека, яго педагагічным талентам»[1].

Я. Брыль убачыў у пачынаючым пісьменніку іскрыны душэўнай ахвярнасці, бескарыслівасці, таму не толькі цярпліва спрачаўся, а і чысціў яго мову, дапамагаў выпрацоўваць індывідуальную манеру, агульную культуру пісьма — яснасць. Вучань аказаўся працавітым, упартым, перапісваў тэксты па 20—30 разоў і з божай дапамогай даводзіў да чытэльнасці. Гефестава праца ўпэў-

---

[1] Цыт. тут і далей па аўтарскім рукапісе. Адзін з варыянтаў тэксту быў надрукаваны ў час. «Маладосць», № 4 за 1964 г.

нівала яго, што аснова мастацкага таленту не ва ўменні пісаць зграбна, хлёстка, а ў здольнасці адчуваць, чым жывуць людзі, што ў іх баліць, і мець ахвоту, а часта і смеласць дапамагаць слабым, абараняць іх ад бяздушных крыўдзіцеляў, якімі б дужымі ды помслівымі тыя ні былі. Пісанне для Карпюка стала і застаецца перш за ўсё ўдзелам у фарміраванні грамадскай думкі, спробай уплываць на сумленне і норавы, а ўрэшце — арганізацыяй грамадскай волі. «Пісанне стала маім лёсам, — гаворыць у памянёнай аўтабіяграфіі А. Карпюк. — Я знайшоў спосаб, як найбольш быць карысным людзям. Я спазнаў шчасце, я ведаю, як мне жыць!»

Такім чынам, перад намі пісьменнік грамадзянскага складу, нездарма значнае месца ў яго літаратурным набытку займае публіцыстыка — нарысы «Мая Гродзеншчына», «След на зямлі», «Чаго мы варты», артыкулы і выступленні на літаратурных форумах. Натуральна, у аснову яго аповесцяў «У адным інстытуце», «Пушчанская адысея» і ў раманах «Вершалінскі рай», «Карані» закладзены грамадскія канфлікты, а ў дадатак уведзена шмат дакументальных фактаў, эпізодаў, вобразаў, што прыдае прозе большую, чым традыцыйнай белетрыстыцы, аўтэнтычнасць і выклікае бурную апазіцыю абражаных прататыпаў адмоўных персанажаў.

Дастойна пражыўшы акупацыю і вайну, А. Карпюк адчуў сябе паўнапраўным савецкім грамадзянінам, годным даверу і маючым права свабодна выказвацца па ўсіх вострых пытаннях мінулага і будучага краіны. У меру таго як набіраў вагу яго пісьменніцкі аўтарытэт, усё больш пачыналі значыць для яго праўдзівасць і свабода слова, гэтыя каштоўнасці станавіліся справай жыцця: «Я стаю на сваёй зямлі, ды яшчэ каб не гаварыў на ёй таго, што думаў? Навошта тады жыць?!» Гэта рэпліка з выступлення А. Карпюка на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся ў Мінску 16 мая 1966 года. Прамоўца быў да таго часу аўтарам папулярных у моладзі аповесцяў, але тэму для выступлення даў яму ажыятаж, падняты вакол тэксту разгорнутай біяграфіі «Мая Джамалунгма», апублікаванай у часопісе «Маладосць».

Сёння мала хто б паверыў, што бядою для аўтара абярнуўся станоўчы водгук на «Маю Джамалунгму» мюнхенскай газеты «Бацькаўшчына», якую выдавалі на фондавыя сродкі халоднай вайны фашысцкія паслугачы

і пажыццёвыя палітычныя аферысты Станіслаў Станкевіч і Якуб Стральчук.

Правакацыя падышла якраз на час закручвання ідэалагічных гаек з выпадку выхаду на памост улады Брэжнева. Над літаратурай і пры Хрушчове праносіліся гнеўныя хмары, сыпаліся грымотныя абвінавачанні ў мадэрнізме ці абстракцыянізме, адыходзе ад сучаснасці, адрыве ад надзённых праблем. Пры Брэжневе ажылі рэцыдывы культу Сталіна, спробы абяліць правадыра, сумленных пісьменнікаў сталі вінаваціць у шкодлівым раздрапванні ранаў, падрыванні ўстояў, якімі былі і заставаліся страх і рэпрэсіі. Літаратурны працэс падпаў пад больш жорсткі ідэалагічны кантроль, і Карпюк не мяняў пазіцыі, таму трапіў у лік першых казлоў адпушчэння, без якіх не мог адбыцца рытуал чарговай ідэалагічнай кампаніі. Яе праводзіў новы шэры кардынал Суслаў, патрапляючы новаму гаспадару падкруціць камандную сістэму, вярнуць грамадства назад, у стан пакорнага бяспамяцтва. Пахвала рэцэнзента з Мюнхена дала ў рукі служакаў кампрамат, а Карпюк аказаўся ўпартым, не збіраўся каяцца, і канфлікт з ідэалагічнай службай ахапіў усе тры ўзроўні — абласны, літаратурна-ведамасны і рэспубліканскі.

«Чатыры гады я працаваў загадчыкам агенцтва «Інтурыст»,— паведаміў на з'ездзе А. Карпюк.— Калі ж у мюнхенскай «Бацькаўшчыне» з'явілася хвалебная рэцэнзія на маю аўтабіяграфію з «Маладосці», сакратар нашага абкома партыі т. Міцкевіч даў загад мяне з «Інтурыста» прагнаць па прынцыпе — калі вораг хваліць, значыць, я кепскі». Пісьменнік слушна ўлавіў у адносінах да сябе паварот старых прыёмаў шальмавання і глуму, якімі карысталіся несумленныя кіраўнікі ў сталінскія часы: «...дакуль у нас будуць цягнуцца рэцыдывы мінулага ды практыкавацца звычай: раней збэсціць чалавека, затаптаць, а потым ужо разбірацца — вінаваты ён ці не?» — абураецца пісьменнік і прычыну подласці бачыць у тым, што «некаторых людзей пакалечыў культ... чалавек такі век свой адно і ведаў — падпарадкоўвацца загадам зверху, у яго, беднага, атрафіравалася здольнасць самастойнага мыслення, знікла прыродная чалавечая рыса не ісці наперакор свайму сумленню».

Заахвочваючы ўдзельнікаў з'езда павесці барацьбу супраць праяў сацыяльнай паталогіі, якія спарадзіла

сталіншчына, Карпюк дае прыклад смелай незалежнасці замыслення пісьменнікам, бярэ пад абарону нядаўна заклеймаваны ідэалагічнаю службай твор Васіля Быкава: «Дарагія таварышы, мазгі — не каробка хуткасцяў, пад стандарт іх не падгоніш. Ніякімі аргументамі, нават рашэннямі ЦК. Напрыклад, я і цяпер лічу, што «Мёртвым не баліць» — выдатны твор беларускай літаратуры, і дай Бог кожнаму пісаць так, як напісаў наш таленавіты гродзенец [В. Быкаў жыў тады ў Гродна. — *У. К.*]».

Прыведзеныя выказванні сапраўды прадвяшчалі прыход галоснасці і перабудовы. Аказваецца, што патрэбы публічнасці, адкрытасці думкі, гуманізацыі жыцця ўжо тады бунтавалі кроў лепшых прадстаўнікоў ваеннага пакалення, якія ў смяротных выпрабаваннях пазбыліся страху і звычак сляпой паслухмянасці, перасталі патураць самадурству дужэйшага і не дазвалялі начальству ўстаўляць ім мазгі. Яны разумелі, што толькі свабодная думка і чыстае сумленне, добрая воля могуць ачысціць ідэалы сацыялізму ад кампраметацыі ды амярцвення. Карпюк як пісьменнік і грамадзянін ішоў у ліку прадвеснікаў дэмакратычнага і гуманістычнага абнаўлення рэальнага сацыялізму ў рэспубліцы. Смелыя публічныя выступленні ў Гродна і Мінску, пайменная крытыка абласных і рэспубліканскіх кіраўнікоў, што падымалі кампанію ідэалагічнага ўціхамірвання грамадскай думкі, літаратуры і яго асабіста, выклікалі падтрымку. Так было і на пісьменніцкім з'ездзе. Старшынстваваў якраз у парадку чарговасці Я. Брыль, ён згадзіўся прадоўжыць Карпюку рэгламент і дазволіў прамоўцу выказвацца да канца. Зала падахвочвала смельчака воплескамі, але частка прысутных раўнялася на кіраўнікоў з прэзідыума — стрымлівалася.

Памятаю, Карпюк і сам ачах, калі на перапынку заўважыў, што пачалі ўнікаць яго позірку некаторыя з калег, што ў прыватных гутарках былі такімі ж радыкальнымі. Самота штурхнула яго пад паветку нашай старой дружбы. Няўклюдна спрабаваў я запэўніваць сябра, што ўсё абыдзецца, што не дапусціў ён ніякага крыміналу, калі глядзець на ўсё па еўрапейскіх мерках. Мастацтва сёння ў свеце лічыцца пазнаннем моцна суб'ектызаваным, персаналізаваным, мастак не можа дайсці праўды без эмоцый і перабораў, таму мае права гаварыць усё, што хоча, і рана ці позна давядзецца гэтае права афіцыйна прызнаць і ў нас, без гэтага мас-

тацтва і яго галоўны стрыжань — літаратура — завянуць, страцяць прэстыж і дома, і ў свеце.

Мае словы аказаліся добрымі пажаданнямі. Пасля з'езда Карпюк стаў персонай нон грата, пачалося зламыснае калупанне ў яго акупацыйнай біяграфіі. Нейкі спецработнік навыграбаў у архіве канцлагера Штутгаф пераводаў і квітоў на грошы, якія атрымліваў пад распіску вязень. Беласточчына, як вядома, была далучана да Прусіі, там хадзілі не акупацыйныя маркі, а сапраўдныя «рэйхсмаркі», бацькам рэпрэсіраваных дазвалялася пасылаць абмежаваную колькасць грошай, за якія вязень мог купіць у лагернай кантыне зубную шчотку, пасту, мыла з дазволу начальніка. Несумленны ж спецработнік прыдумаў абвінаваўчую версію, нібыта грошы выплачвала Карпюку ахова лагера за нейкія брыдкія паслугі. Пад сумненне была ўзята добраахвотнасць уцёкаў Карпюка са Штутгафа, а затым ініцыятыва па стварэнні партызанскага атрада імя Каліноўскага. Карпюка выключылі з партыі, і толькі на бюро ЦК яму ўдалося адхіліць інсінуацыі. Памятаю, як з радасцю ўваскрашонага расказваў мне Аляксей кульмінацыйны эпізод з таго слухання яго персанальнай справы.

Апраўдваючыся, ён наўгад стаў гаварыць, што ў бацькі яго толькі фармальна значылася 32 гектары зямлі, а фактычна там пераважала няўдобіца, для ворыва ж яму хапала толькі адной кабылы, ды і тая была старая, сівая, з «грэчкаю» ў поўсці. П. М. Машэраў перапыніў яго рэплікай: «Бацькава зямля не мае істотнага значэння для справы. Мы зыходзім з таго, што кожны, хто ў часе акупацыі сам, добраахвотна ўзяў у рукі зброю і хоць раз выстраліў у кірунку ворага, — той наш чалавек!» Пісьменніка аднавілі ў партыі, спагнаўшы за неразборлівасць у сродках абароны.

Аўтабіяграфія «Мая Джамалунгма» пасля часопіснай публікацыі не выдавалася і пасля ачышчэння аўтара. На сённяшняе ўспрыманне — гэта твор, у якім сумленны камуніст і пісьменнік, пранікшыся ідэямі XX з'езда КПСС, цвёрда стаў на яго пазіцыі і здолеў прадбачыць абнаўленне каштоўнасцяў і ацэнак. Ён даў, напрыклад, апераджальныя ацэнкі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, выявіў унутраныя супярэчлівасці ў камуністычным падполлі, выкрыў маральную некарэктнасць лявацкай тактыкі, шкоднасць сектанцкага фанатызму, падазронасці, тэрору, што пашыраліся ў другой

палавіне 30-х гадоў нават у нізавых арганізацыях КПЗБ. Узнікла пошасць праваДырства, былі выпадкі фізічных распраў. Карпюк выявіў наяўнасць беззаконнай рэпрэсіўнасці ў заходніх абласцях БССР пасля верасня 1939 года. Там кіравалі пераважна кадры, прысланыя з усходніх абласцей. Яны прайшлі школу кіравання ва ўмовах «абвастрэння класавай барацьбы» па меры набліжэння да сацыялізму. Пісьменнік падводзіць чытача да высновы, што сектанцкая нецярпімасць і беззаконная рэпрэсіўнасць, што практыкавалася органамі савецкай улады ў заходніх абласцях, аслабілі пачуццё нацыянальнай згуртаванасці грамадства напярэдадні вайны. Прыезджыя кадры фактычна кінулі насельніцтва на волю лёсу ў першы дзень вайны. Панічныя ўцёкі функцыянераў кампраметавалі савецкую ўладу і моцна зашкодзілі антыфашысцкаму і партызанскаму руху на тэрыторыі заходніх абласцей, а пазней адмоўна ўплывалі на тэмпы аднаўлення народнай гаспадаркі і культуры, выклікалі супраціўленне калектывізацыі, затрымлівалі наладжвання здаровага грамадскага жыцця.

Адною з адметных рыс творчасці Карпюка з'яўляецца праблема людзей-дзівакоў. У ранніх апавяданнях і аповесцях яны неслі каларыт экзотыкі, інтрыгавалі і забаўлялі чытача. Разам з тым дзівацтва аказвалася псіхалагічна і сацыяльна змястоўным, станавілася аўтарскім прыёмам індывідуалізацыі персанажа, спосабам выяўлення ўнутранай годнасці героя, абгрунтаваннем ці прыкрыццём яго ўнутранай патрэбы супраціўляцца ніверліроўцы і канфармізму. Стварэннем абавязковых схем станоўчага героя займалася культавая ідэалогія, літаратура павінна была ілюстраваць іх, а літаратуразнаўства пацвярджаць правільнасць ілюстрацый. Так на практыцы збіваліся рогі рагатым, абгладжваліся канты кантовым, пастрыгаліся пад нулёўку валасатыя. Карпюковы дзівакі ў кантэксце уніфікаванага аўтарытарнага грамадства рабіліся пратэстантамі супраць ніверліроўкі асобы, часта здадзенай на ласку і прыхамаць кіруючых перастрахоўшчыкаў ці самадураў. Дзівакі патрабавалі большай грамадскай плошчы для функцыяніравання свайго «я», чым серадннякі. Яны аказаліся людзьмі канфліктнымі, якія, дамагаючыся свабоды выбару жыццёвых дарог і мэт, ламалі машыну для ўціску душ.

Адыход ад жорсткіх спрошчаных ацэнак чалавека,

звядзенне асобы да функцыі, што Карпюк назіраў у камсамольскім падполлі Заходняй Беларусі 30-х гадоў, шкоднасць якіх сам паспытаў, пераадольваў у вайну, калі людзям розных поглядаў давялося згуртавацца ў барацьбе супраць фашызму, — усё гэта яшчэ паўтараецца і сёння, калі прыярытэт агульналюдскага становіцца састаўною часткай новага палітычнага мыслення ў нашай краіне.

Ужо Янка Барташэвіч, герой аповесці «Данута» (1959), што ўвайшла ў творчы актыў аўтара і ў хрэстаматыйны фонд юначага чытання, выступае сацыяльна змястоўным дзіваком. Ён пакутліва ломіць у сабе ўстаноўленыя вякамі класавыя і нацыянальныя табу, пераступае заказаныя рубяжы элітарнай непрыступнасці, ідзе, трымаючыся за кволую нітачку кахання, і адкрывае, што гэтае агульналюдскае пачуццё мацней за класавае. Польскі генерал і яго арыстакратычная жонка не толькі антыподы беларускага вяскоўца, але вельмі прыемныя людзі, пабожнасць іх дачкі чамусьці спадабалася адпалітыкаванаму каханнем, заядламу атэісту: «...гледзячы, як Данута шчыра малілася, ні разу не азірнуўшыся і не павярнуўшы галавы, я адчуў цёплае спачуванне і нават захапленне яе нявіннай верай». Уласна, яго ўразіла не пабожнасць, а сіла веры, духоўнасць і вернасць — рысы агульначалавечыя.

Ідэя аповесці ўкладзена ў вельмі характэрны для літаратур нацыянальнага адраджэння сюжэт: вясковы прастак у горадзе, мужык у панскім палацы, селянін у тэатры і г. д. Беларускія класікі то пасміхаліся зычліва над мужыком («Панскае ігрышча» Тапчэўскага), то рэабілітавалі яго, паказвалі роўным пану па маральных якасцях («Сялянка» Дуніна-Марцінкевіча); усё залежала ад светапогляду і творчай задачы. Заслугаю Карпюка з'яўляецца тое, што ён пайшоў далей і ўзяўся аспрэчваць жорсткі сацыяльны падыход да ацэнкі чалавека наогул, усумніўся ў прыярытэце класавага над чалавечым яшчэ задоўга да выкрывальных пастаноў XX з'езда КПСС. Аповесць выйшла з апераджальным эфектам і здабыла сэрцы моладзі, дапрацоўвалася, напаўнялася духам гуманістычнай змястоўнасці, парадаксальнымі сітуацыямі, перавыдавалася, перакладалася ў краіне і за мяжой.

Янка Барташэвіч, спачатку прадстаўнік закамплексаванага плебейскага асяроддзя, аказаўся здольным

аціць душэўнае хараство Дануты, хоць яна была для яго ядавітай кветкай з чужога кветніка. Плебея ўзнесла высока хваля кахання, інтуіцыя падказвала яму, што прывабная арыстакратка з'яўляецца цудоўнай дзяўчынай, адкрытай свету, людзям, чалавечнасці і дабру. Пушчаная па каскадах рамантычных прыгод ідэя суверэннасці асобы, таемнасці душы, святасці кахання, якое лёгка разбурае класавыя антаганізмы, спадабалася моладзі і прынесла аўтару першы трывалы поспех.

Другім этапным творам стала аповесць «Пушчанская адысея», першы варыянт якой напісаны ў 1961 годзе і апублікаваны на старонках «Полымя» (1964), кананічны яе тэкст з'явіўся ў двухтомным Зборы твораў у 1980 годзе. Па прызнанні аўтара, яна перапісвалася, шліфавалася, дапаўнялася 18 разоў. У адрозненне ад «Дануты» гэта рэалістычны твор, які расказвае пра цярністы шлях аўтара ў акупацыю і вайну. Тады Карпюк жыў і працаваў поплеч з Быкавым, відавочна адной з прычын паваротаў да жорсткага выкрывальнага рэалізму быў поспех паплечніка-гродзенца, яго драматычнае ўзыходжанне на вяршыні праўды, сумлення і славы. Але галоўная прычына ляжала ў натуры самога Карпюка, у пакутах яго асабістай памяці, якая не закончыла маральнага ачышчэння ў рамантычнай фантазіі, а далей патрабавала суровай споведзі і разліку. Пра гэта адназначна сведчаць разгледжаная вышэй аўтабіяграфія і выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў.

«Пушчанская адысея» ўвайшла ў рэалістычную плынь беларускай прозы аб вайне, пачатак якой паклалі ваенныя апавяданні і раманы К. Чорнага, а папаўнялі яе рэчышча акрамя твораў В. Быкава трагедыйныя апавяданні Я. Брыля — «Маці», «Адзін дзень», «Memento mori» і раман «Птушкі і гнёзды», аўтабіяграфічныя раманы і аповесці А. Адамовіча — «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», «Хатынская аповесць».

Заслуга Карпюка заключаецца ў тым, што ён уключыўся ў барацьбу за дэміфалагізацыю вайны як грамадскай з'явы жыцця і метаду палітыкі. Шчырая, асабіста перажытая і ўсвядомленая праўда аб вайне, якую выяўлялі пісьменнікі-франтавікі і партызаны, абвяргала ідэалагічныя схемы, прызваныя абгрунтоўваць сілавую палітыку, з якой доўга не маглі расстацца дзеячы, выхаваныя на сталінскай канцэпцыі непрымірымасці двух светаў. Яны настойвалі на нязменнасці нашай ідэалогіі,

дапускалі ўступкі толькі ў сферы гандлю, — адзіна дапушчальным кампрамісам лічылі дагаворнае тэрмаядзернае супрацьстаянне. Акопная і лагерная проза, і ў першую чаргу дакументальная, мемуарная, перабудоўвала свядомасць, давала веру той праўдзе аб вайне, якую ведаў і мог ведаць толькі сам народ. Аповесць Карпюка ўнесла істотныя карэктывы ў вобраз ворага, вобраз фашысцкай Нямеччыны і акупаванай «Малой зямлі», канкрэтна Беласточчыны, у воблік партызанскай і франтавой вайны, у якім гераічныя рысы перамешваліся з трагічным і нялюдскім. «Пушчанская адысея» застаецца цаглінай у падмурку рэалістычнай беларускай прозы аб вайне.

Больш складана, нават спрэчна і супярэчліва пастаўлена праблема рамантычнага дзівацтва ў рамане-былі «Вершалінскі рай» (1972). Пісьменнік заняўся там паказам сацыяльных закуткаў жыцця Заходняй Беларусі 30-х гадоў, асэнсаваннем лёсу самых бедных, самых цёмных, прыніжаных і пакрыўджаных пластоў беларускай вёскі. Даведзеныя да адчаю і безнадзейнасці сусветным крызісам галетнікі пацягнуліся да цудадзейных сродкаў збавення ад бядоты і зла. У глухіх мясцінах узнікалі секты цемрашалаў і аферыстаў. Адной з найбольш прыкметных на Гродзеншчыне стала вершалінская секта Гальяша. На яе звярнуў увагу яшчэ ў 30-я гады Рыгор Шырма і даў трапную сацыяльную ацэнку як праяве цемры ў паднявольным краі, дзе паліцыяй цкуюць і ў судах распраўляюцца з Таварыствам беларускай школы. Гальяшоўшчыне асветнік супрацьпастаўляў асвету, грамадзянскую і агульную культуру, вогнішчамі якой былі гурткі, хаты-чытальні, бібліятэкі, а носьбітамі — ахвярнікі ў вёсках. «Жорсткае жыццё, — пісаў Р. Шырма, — выводзіць на вёсцы асобны тып ідэйнай моладзі, якая ў самой постаці, на твары, у вачах мае нешта сваё, блізкае, беларускае: ціхі і спакойны, але цвёрды погляд ідэаліста, рашучасць і адвагу змагара»[1]. Дарэчы, і ў Страшаве Шырма знайшоў асветніка і самадзейнага спевака Цярэня Карпюка. Аляксей Карпюк недаацаніў гэтага пласта жыцця. Ён падступаўся да тэмы з пазіцый атэізму, які хоць і называўся «навуковым», але не належаў ні да навукі, ні да культуры, а быў толькі часткай вульгарнай ідэалогіі і не стрымлі-

---

[1] Летапіс ТБШ. 1936. № 1. С. 8.

ваўся перад рэпрэсіўнымі метадамі. Пісьменнік хоцькі-няхоцькі спрашчаў праблему і падліваў ваду на млын атэістычнай прапаганды. Хібнасцю метадалагічнага падыходу трэба тлумачыць пісьменніцкую няўдачу, якая забрала процьму часу і сіл, замарудзіла нават творчае развіццё аўтара.

Гальяш у Карпюка палохае сваіх паклоннікаў і паклонніц канцом свету, авалодвае воляй і душамі даверлівых вернікаў, набірае сабе папулярнасць, заручаецца зычлівасцю польскіх улад, гатовых на любыя хаўрусы, абы трымаць у руках цёмную масу «на крэсах». Асноўны пафас твора, як я ўспрымаю, у жаданні выкрыць нялюдскасць духоўнага тэрору, амаральнасць маніпуляцый душамі простых людзей, даведзеных да безвыходнасці, няздольных хоць як уладкаваць сваё зямное бытаванне. Прыбітыя адчаем, няшчасныя, прагнуць абы-якой надзеі, хоць слабых ілюзій, што іх спаняверанымя жыцці ўсё ж маюць нейкі, няхай замагільны, але чалавечы сэнс.

Кім жа лічыць прапаведніка, які ў такой сітуацыі жыруе на чалавечым горы і бядзе? Аферыстам, махляром, прайдзісветам ці прарокам, за якога прымаюць яго ашчасліўленыя падманнаю надзеяй бязмужнія векавухі, скрушлівыя ўдовы, здраджаныя жонкі, пакінутыя дзецьмі мацяркі? Мабыць, тым і тым пакрысе, хоць аўтар, зыходзячы з прынцыпу адназначнасці, прынятай сярод прафесійных атэістаў, асуджае Гальяша проста як паразіта. Аказалася, што патуранне «антыопіумнай» праграме супрацьпаказана мастаку, шкодзіць творчасці чужая стандартная ацэнка, бо замыкае яна творчую фантазію і звужае пісьменніцкую здольнасць ужывацца ў душы і лёсы розных людзей, ставіць сябе на іх месца, што добра ўдавалася раней А. Карпюку.

«Вершалінскі рай» паўставаў з краязнаўчага нарыса, які паказваў адну, хоць і другарадную для Заходняй Беларусі праяву мядзведжых куткоў, куды не дайшлі ідэі нацыянальна-вызваленчага руху і якіх не асвяцілі ліхтарыкі адраджэння. Калі б аўтар спыніўся на тым нарысе, дык, відаць, выйгралі б ад гэтага і тэма, і пісьменніцкая рэпутацыя. Але Карпюк, паверыўшы ў сваю цягавітасць ды напорыстасць, узяўся вывалакаць нарыс на ўзровень рамана. Пакутніцкі эксперымент пераканаў, што раманная форма — гэта не разбухлае апавяданне ці аповесць, а тым больш нарыс. Раман — больш склада-

ная мастацкая структура, на цэлы рад вышэйшая за аповесць, на два рады за апавяданне і хіба на тры — за нарыс.

Пісьменнік працаваў метадам прыбудоўвання і дабудоўвання твора, падключыў аўтарскі псіхалагічны домысел, увёў шэраг выдуманых сітуацый, якія хоць і засталіся ў рамках верагоднасці і маглі быць прызнаны нармальнымі кампанентамі празаічнага твора, але не змагліператварыць нарыс у раман, як шырокаахопную поліфанічную мастацкую карціну жыцця, выкананую шматфарбнаю многаслаёваю мовай.

Белетрызацыя вывела нарыс з рамак дакументальных і не ўвяла ў склад жанраў чыста мастацкіх (пра гэта нагадвае і аўтарскае азначэнне жанру «раман-быль»). Жанравая амбівалентнасць стварыла эфект выяўленчай недастатковасці твора: атэістычны пафас стаў фокусам заходнебеларускага грамадскага жыцця, у той час як на справе знаходзіўся дзесьці з боку ад цэнтра, бо магістральныя шляхі нацыянальнага адраджэння насілі там свецкі і грамадзянскі характар, пра што сведчыць хоць бы перарастанне Беларускай хрысціянскай дэмакратыі з каталіцкай партыі ў Беларускае народнае аб'яднанне — партыю нацыянальна-патрыятычную. Пра свецкасць як паказчык сучаснасці нацыянальнага адраджэння ў Заходняй Беларусі яшчэ ў большай ступені сведчыць плённае супрацоўніцтва ў другой палавіне 20-х гадоў і ў перыяд Народнага фронту другой палавіны 30-х паміж камуністамі і рэвалюцыйна-дэмакратычнай грамадскасцю.

Палітычная рэальнасць патрабавала ад аўтара рамана знайсці не толькі сацыяльнае тлумачэнне такіх праяў калтунаватай адсталасці, як вяршалінская секта Гальяша ў Заходняй Беларусі. Вызваленчы рух, нягледзячы на эксцэсы лявацкіх ухілаў, меў дастаткова высокую філасофскую і палітычную культуру, каб лічыцца сучасным і еўрапейскім. Праўда, састаўною часткай вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі быў асветніцкі рух, прызваны задавальняць вельмі вострую грамадскую патрэбу: «...калі прыслухацца да народнага сэрца, — пісаў у перадавым артыкуле часопіс «Летапіс», — можна заўважыць нешта дужа суцяшальнае — гэта проста стыхійная цяга народная да асветы». Лідэр стотысячнай Грамады называў ТБШ, як сведчыць адзін з яе кіраўнікоў, Р. Шырма, «другою лініяй акопаў». Не-

выпадкова сорак працэнтаў партыйных узносаў па статуту Грамада аддавала на культуру і асвету.

Беларуская хрысціянская дэмакратыя стварыла пры сабе асобную культурна-асветную арганізацыю — Інстытут беларускай гаспадаркі і культуры. Дарэчы, Р. Шырма ў сваіх публіцыстычных выступленнях трактуе гэтага каталіцкага двайніка не як саперніка, а як партнёра ў барацьбе з цемрай. Такім чынам, у Заходняй Беларусі свецкая дэмакратычная ТБШ і хрысціянскі БІГіК засцерагалі культурнае жыццё ад прымітыўных звыраднелых праяў духоўнасці — рэлігійных і бязбожніцкіх. Атэізм там не меў шанцу,— прыстойнаю альтэрнатывай канфесійнай зашоранасці думкі і волі выступала Таварыства польскіх вальнадумцаў, якое было часткай сусветнай асацыяцыі, узначаленай Бертранам Раселам і Альбертам Эйнштэйнам.

З кантэксту гэтых разважанняў відаць, што А. Карпюку неабходна было многа-многа працаваць над «Вершалінскім раем», каб наблізіць яго да рангу сацыяльна-псіхалагічнага рамана, пісанага на заходнебеларускім матэрыяле, які хоць быў на памяці старэйшага пакалення чытачоў, але ўжо стаў гісторыяй, таму раман успрымаўся моладдзю як твор гістарычны. Прапанаваную работу Карпюк прарабіў, але не ў дапрацоўках «Вершалінскага раю», а ў напісанні новага рамана «Карані».

«Карані» (1988) маюць усе прыкметы раманнай формы, хоць і не аднолькава поўна развітыя. Ёсць тут вострая сацыяльна-псіхалагічная праблема змены пакаленняў у штучна урбанізаваным грамадстве, ёсць і шырокі стылёвы паліфанізм — чаргаванні розных кампанентаў: ад публіцыстычнага памфлета ці фельетона да філасофскага трактата на экзістэнцыяльна-гуманістычныя тэмы, ёсць і эмацыянальна напісаныя лірычныя пейзажы, патрыятычныя роздумы і вострыя канфліктныя сітуацыі, дыялогі, эмацыянальныя ўсплёскі, заземленыя дасціпнымі бытавымі сцэнкамі. Ёсць і элементы дэтэктыўнай калізіі і нават пункцірна зроблены сюжэт пра ўгасаючыя імпульсы старэчага недарэкага, а можа, у чымсьці і апраўданага і гуманнага кахання, якое не адрадзілася і не адбылося.

Відаць, найбольш рашуча стварае ўражанне раманнасці «Каранёў» мова. Тут Карпюк пайшоў слядамі Я. Брыля, І. Мележа, якія ў сваіх раманах давалі ход усёй лексічнай, фразеалагічнай і эмацыянальна-інтана-

цыйнай рэчцы беларускай мовы ад яе літаратурнага нарматыву да дыялектаў. Карпюк працуе на базе наднёманскага дыялекту, у прынцыпе, вельмі блізкага літаратурнай норме. Праўда, ён бярэ дыялект гэты ў шырокім абсягу, таму выходзіць за межы тых празаікаў, што трымаліся рамак вярхоўяў Нёмана — Я. Коласа, Я. Лёсіка, Я. Брыля, Я. Нёманскага, А. Пальчэўскага, а сёння трэба дадаць і Г. Далідовіча. Карпюк бярэ дыялекты сярэдняга Наднямоння ды адыходзіць ад бацькі беларускіх рэк ажно пад Беласток. І дзіўная з'ява: Нёман аказваецца тут не воднаю, а моўнаю артэрыяй беларушчыны, такімі ўстойлівымі выступаюць гутарковыя формы сінтаксісу і фразеалогіі. Для ілюстрацыі прывяду фразеалагізмы з адной старонкі тэксту ў раздзеле «На колькі частак дзеляць лімон», дзе даецца штрыхавы партрэт нявесты Франака Шмігельскага, Басі буфетовай: «...кліночкі да майго Франака падбівае», — гаворыць маці героя, цётка Марыся. — Дзеўка паспела і, вядома, баіцца, каб малако не скісла... У майго капейка не запарыцца, а з гэтай, напэўна, жонка выйдзе гаспадарлівая... паржа ў сталоўцы лімон на дзесяць шклянак чаю і яшчэ паўлімона да хаты прынясе! Ну, а дзе ты бачыў такія граблі, каб ад сябе граблі?.. Мой Франак чаму можа наследніка навучыць? Хіба на пень брахаць!.. Жаба ў яе на языку не спячэцца, не-е. Языком гэтым апераза цца лю-убіць!»

Раман «Карані» не роўны, месцамі на ўзроўні мікравобразаў адчуваецца збуяласць метафар, неапраўданыя выдаткі яснага сэнсу на карысць раскілзанай іншасказальнасці, перабору гіпербалічнасці. А ўся вобразнасць павінна мець сваю меру, дакладнасць такую, як і дзелавая інфармацыя. Аднак аўтар дапускае думку, быццам вобразатворчасць — гэта перадусім сродак эпатажу. Вось чытаем у «Пралогу» метафарычнае выслоўе пра ранішняе паветра: «Яно густое, хоць ты рэж яго нажом на празрыстыя пласцінкі». Цяжка ўразумець сэнсоўнасць прапанаванага занятку: нажом рэжуць лусты хлеба, скрыляюць каўбасу, а на пласцінкі можна рэзаць хіба што бляху, фанеру, шкло і іншыя такога роду ліставыя рэчывы, якія і блізка не нагадваюць паветра.

У тым апісанні летняй раніцы ля хутара сустракаецца эстэтычна разбэрсаны малюнак настрою: «Панавала цішыня, поўная мудрай велічы і спакою. Свае цяжкія воды з металёвым, як у разлітой ртуці, адценнем Нёман

нёс уздоўж агародаў у Балтыку ўпэўнена, раўнадушна і маніў да сябе, абяцаючы халадок і асалоду». Тут кідаецца ў вочы перабор меры ў настроі Нёмана, сапраўды, не можа нехта раўнадушны кагосьці маніць ды яшчэ абяцаць асалоду. Выдарылася такое аўтару з жадання зіхатнуць незвычайнасцю метафары, параўнання, яно згладжваецца свежай метафарай: «У імглістым марыве ледзь зелянеў стручок масалянскай царквы». Праўда, і тут слова «масалянскай» цьмянае, чытач мае падставу думаць, што масаляне — гэта нейкая новая рэлігія, а на справе гэта назва вёскі, якую аўтар назаве недзе далей. На жаль, на той жа старонцы «Пралога» ўстаўлена ні к сялу ні к гораду непрыстойная прыпеўка пра марнае шчасце старога Юркі, якая захавалася чамусьці ў памяці сучаснага цыніка. Чакаеш, што вось аўтар нарэшце адкрые нам тэму твора, завяжа канфлікт паміж састарэлым і маладым шчасцем, спрэчку каранёў з вершалінамі, але прыпеўка толькі засведчыла, што сярод калгасных шафёраў у вёсцы Зялёная Даліна ёсць пустабрэхі, якія бессаромна носяць бруд на языках і разносяць, нібы свае візітныя карткі.

Не адчуў я тут чагосьці істотнага, здатнага для пралога. Можа, адчуваючы пахоплівасць і прамашкі, аўтар тут жа пераносіць чытача на бурачнае поле, якое сапраўды здзіўляе буянай урадлівасцю. Толькі зноў жа недакладна ўжываецца выраз «поле буяла», бо ён не стасуецца да цукровых буракоў, бацвінне якіх далей называецца словамі «сакавіта-мясістае, пругкае ды густое, густое»: «...можна легчы на яго, і лісты цябе ўтрымаюць». Словы «буяць», «збуяць» азначаюць такі стан пераўгноеных раслін, калі бацвінне, бульбянне ці сцябліны збожжа перарастаюць належную меру, выцягваюцца ўгору ды слабеюць, вылягаюць. Збуялыя, палеглыя караняплоды мала што маюць пад коранем, толькі цаціўе паўзе. Такая непатрэбная пагоністасць, такі разлад паміж каранямі і вершалінамі называецца ў народзе збуяласцю жыта, бульбы, рэпы, толькі не поля.

Нешта падобнае адбываецца і з сялянскімі сем'ямі, з родам Маркевічаў, дзе сыны, адарваўшыся ад родавых бацькоўскіх каранёў, урбанізаваліся і «збуялі» маральна, абясплодніліся сацыяльна, нігілізаваліся нацыянальна, страцілі здольнасць разумець становішча нават свайго аўдавелага бацькі, былога актывіста нацыянальна-вызваленчага і асветніцкага руху ў Заходняй Бела-

русі. Сыны, нявесткі, пляменнік, у ачмурэнні элементарнага дабрабыту, камфорту, пазбавілі шаноўнага старца таго, што патрэбна было чалавеку для шчасця ва ўсе часы — павагі і свабоды, свабоднай волі, права выбіраць сабе мэту жыцця і жыць па ўласным разуменні, шукаць спосаб застацца патрэбным людзям, карысным свету, жаданым нават тады, калі чалавек выйшаў з прадукцыйна-працоўнага, «вытворчага» ўзросту.

Народная мудрасць кажа, што няма ў людзей такой старасці, якая была б непатрэбнай для ўдумлівай і дбайнай маладосці. У зборніку Сержпутоўскага змешчана казка пра старога дзеда, якога ў час галадухі нашчадкі вырашылі адправіць на той свет як бескарыснага нахлебніка, але адзін з сыноў пашкадаваў бацьку, пракарміў яго ў цяжкі год, і потым стары аддзячыў яму разумнай парадай, як разбагацець. Сыны Маркевіча хлебу не жадны, усяго ў іх хапае, акрамя хіба чуласці, такту. Яны і старога справадзілі на той свет не па злой волі, а па дурасці, з-за самаўпэўненасці, быццам лепш ведае, у чым шчасце той, хто больш зарабляе. На жаль, такая філасофія жыцця прыйшлася ім даспадобы з кодэкса «развітога» сацыялізму. А. Карпюк спрабуе цярпліва праверыць, а што з гэтага прымітыву атрымліваецца на практыцы — на чалавечых лёсах. Сыны зглумілі спакойную старасць Лаўрэна.

«Такой народнай закваскі быў чалавек, — на такіх зямля трымаецца», — шкадуе нябожчыка зямляк, капітан міліцыі Іван Касцевіч, пляменнік паэта Міхася Васілька. Гэтае трапнае азначэнне вырвалася як дакор сынам, што нячула абышліся з бацькам, давялі яго да трагічнага канца. Але адрасат у капітана атрымаўся шырэйшы — усе урбанізаваныя летуны і камбінатары, майстры утылізаваць бацькоўскі лёс, майно, драпежна і бяздумна ўпарадкоўваюць жыццё родных супраць іх волі. «Папрывозілі, панімаеш,— дакарае капітан, — з вёсак на голы асфальт сюды сваіх старых, родных бацькоў, папрывалакалі супраць іх волі, павыдзіраўшы з роднай глебы, са сваіх гнёздаў... Круцялі і махінатары!» Капітан ажно перагібае палку, наракае, што няма закону на пакаранне турмой сыноў Маркевіча. Забывае службісты ахоўнік грамадскага парадку, што палка законнасці мае два канцы. Распісаць усе сямейныя адносіны ў крымінальным кодэксе — гэта азначае адмяніць адвечныя рэгулятары паводзін, якімі з'яўляюцца доб-

рыя звычаі, норавы, урэшце, асабістая чуласць, сумленне і ўласная годнасць. На гэтым трымаецца культура прыватных адносін.

Не сказаць каб сыны Лаўрэна Маркевіча былі дрэннымі людзьмі і благімі сынамі. Яны на свой лад паважалі бацьку і хацелі забяспечыць яму спакойную старасць. Не віна іх у тым, а бяда, што спрабавалі ашчаслівіць бацьку сілай, «зверху», з вышыні ўласнага гарадскога жыцця. Так паступала грамадства з імі, вясковымі хлопцамі, гаспадарскімі сынамі, так паступалі і яны. Грамадства сілай урбанізавала іх, навучыла круціць баранкі, забяспечыла жыллём, прыстойнымі зарплатамі, «Жыгулямі», пажаніла на дыпламаваных жонках. Урбанізацыя дасталася маладым лёгка, яны плылі ў гарады касякамі, утваралі там свае скопішчы жыхароў рассяляненых вёсак. Для іх гэта быў пераход з ніжэйшага класа земляробаў у вышэйшы — рабочы клас, які тагачасная сацыялогія ідэалізавала, велічала гегемонам. Ідэалагічны шурум-бурум падняў іх амбіцыі і падарваў генетычныя карані. Яны сталі дзяржаўнымі «вадзіцелямі». З вышыні «гегемона» і з ляноты ўзяліся маніпуліраваць лёсам бацькі, пакуль не давялі яго да самагубства. Страшна тое, што віна іх міжвольная, самі яны ахвяры абезаблічанага жыцця, вінцікі, што адтармазілі сляпы махавік лёсу. Як і ў кожных узаемаадносінах, віна тут расплываецца на ўсіх суб'ектаў. Вінаваты і сам Лаўрэн, што не пратэстуе супраць п'янай і грубай бяздумнасці жыцця сыноў, вінават, што паддаецца ды яшчэ ў думках перакладае віну на нябожчыцу жонку.

Карпюк не спрашчае і не схематызуе праблемы пакаленняў, не становіцца ў позу мудраца, які ўсё спасціг, усё ведае, упэўнены ў маральнай перавазе свайго пакалення. І пакаленне пенсіянераў далёка не ідэальнае, у яго гісторыі не адны залатыя старонкі, не скрозь было змаганне за годнасць і волю ды стваральная праца на карысць радзімы і народа. Маладыя таксама не святыя. На рахунку гэтага пакалення ёсць свае грахі і памылкі: фетышызацыя ўлады, страх і падатлівасць, пакорлівасць лёсу, вера ў тое, быццам сэнс жыцця, яго мэты, нават само шчасце наканоўваюцца недзе ў вярхах. Смыліць у каранях яшчэ недзе прыстасаванства, адвечная мужыцкая нявольніцкая філасофія ласкавага цялятկі, што дзве маткі ссе. Паношыцца там і дробная зайздрасць, і мізэрная тарбахватчына, і звычайная нехля-

мяжасць. Паказальны ў гэтым сэнсе вобраз Лаўрэнавага земляка і аднагодка Зміцера, бацькі вялікай сям'і, якога нашчадкі ператварылі ў вярблюда.

Абладаваўшыся сумкамі і кашалямі, дзень у дзень абслугоўвае ён абмен харчам і барахлом паміж вясковымі і гарадскімі атожылкамі свайго пладавітага роду. Зміцер аптыміст, весялун, майстар па вытворчасці «весялухі-балбатухі», спрабуе ратавацца ад канчатковага апусташэння прыгадкамі маладосці, калі і ён ацiраўся ля вясковых энтузіястаў з кругу паэта Міхася Васілька. Зміцер цягнецца да Лаўрэна, не папракае, што той, будучы старшынёю калгаса, канфіскаваў з міліцыяй ягоны самагонны апарат.

Зміцер успамінае высокі час вызваленчай барацьбы і ачышчаецца ўспамінамі пра тое вогнішча, што некалі шугала і грэла. Ён не злуе на былога старшыню калгаса, бо ведае, што той выводзіў калгас з упадку не для сваёй славы, а для карысці вяскоўцаў, якіх абармоцісты, падкінуты з раёна папярэднік Савоська пасадзіў на карачы. Зміцер уцёк тады са збанкрутаванага калгаса і хоць меў для таго дээерцірства ўважлівыя прычыны — голад не цётка, а тым больш голад мнагадзетнай сям'і, аднак жа адчувае Зміцер і вінаватасць, ён не хваліцца тым учынкам, а толькі апраўдваецца. Зміцер першы запрашае ў госці Лаўрэна як таварыша маладосці, аднапалчаніна і ўдзельніка таго беларускага руху, што напоўніў вышэйшым сэнсам іх нялёгкую маладосць.

Маладое пакаленне, яго філасофія жыцця і практыка таксама супярэчлівыя: моладзь сарвана з арбіт ахвярнасці, якую завяшчалі бацькі, што неслі ахвяру крыві на франтах, у партызанах, а пасля перамогі — ахвяру цяжкой гаротнай працы.

Гледзячы аб'ектыўна, не цяжка прызнаць, што ў экстрэмальных умовах вайны і адбудовы камандная сістэма кіравання эканомікай аказвалася негуманнай, але дала хуткі разавы эфект. Яе маторамі былі прымус і энтузіязм. Нярэдка энтузіязм аказваўся сублімаваным страхам, але не заўсёды: за вайну многія людзі навучыліся глядзець смерці ў вочы, яны не баяліся і крытыкаваць начальства, часта выкладваліся на адбудове з удзячнасці лёсу за тое, што выйшлі жывымі з пекла вайны. Сумленныя франтавікі і партызаны грызлі сябе за палеглых баявых сяброў, адчувалі абраннікамі лёсу, абавязанымі сплочваць доўг скрухай і ахвярнай працай.

Натуральна, самыя ўражлівыя ветэраны густа адыходзілі з жыцця, і слабела адчуванне віны перад ахвярамі вайны ў грамадстве. Доўгажыхары з ліку ветэранаў звычайна аказваліся людзьмі заземленымі: ні віны, ні доўгу перад сябрамі не адчувалі, перадавалі сынам чэкі камфорту і прывілеяў. Ім сніліся «заслужаная» бескантрольнасць і кіраўнічы карнавал. Так складвалася алігархія з пакалення пераможцаў, спадчыннікаў сталінізму, якія адной рукой распісвалі злачынствы «правадыра», а другою выводзілі ідэалагічны вектар бесканфліктнасці савецкага ладу і давалі заказы мастацтву сацыялістычнага рэалізму.

Атрадам моцнага рэагавання супраць самазадаволенасці і знячулення аказаліся дзеці вайны. Дасягнуўшы сталасці, яны зрабілі гуманістычную папраўку да грамадскай ацэнкі вайны. На жаль, яе асвоіла і выкарыстала трэцяя сіла — вечныя назіральнікі і утылізатары чужога розуму. Пакаленне дзяцей у «Каранях» — гэта сыны і дочкі ацалелых салдат, партызан, падпольшчыкаў, а таксама і прыстасаванцаў, якія пачулі сябе як рыба ў вадзе ў п'янай атмасферы застою і прыпісак. Многія з іх пакаштавалі ўжо дэфіцыту і выцыганеных прывілеяў. Многім здавалася, што подзвігі і ахвяры бацькоў страцілі сілу і цану. Гадунцы застойнага часу аказаліся рабамі матэрыяльных даброт, ад культу Сталіна лёгка перайшлі да культу жывата. Сын Лаўрэна Маркевіча Уладзік, класны шафёр, зрабіў дэвізам жыцця ганарлівае пытанне: «Хто, скажы, прыносіць большую зарплату, чым я?!» Гэта ў яго разуменні пачатак і канец абавязкаў мужчыны, мужа, галавы сям'і.

У прынцыпе, і Уладзікава жонка, інтэлігентка, экскурсавод музея, ухваляе мужаву канцэпцыю жыцця, і яна не патрабуе ад яго большага, скажам, духоўнасці, чуласці, таварыскай культуры. Праўда, яна была супраць продажу свёкравай хаты і пазбаўлення Лаўрэна гаспадарскай суверэннасці, але ўнікнуць у духоўную драму свёкра і яна не здолела. І да яе адносіцца аўтарскі дакор: «Замала мы пранікаем у сэрцы і думкі старых, таму і не ведаем, ды і многім з нас у галаву не прыйдзе, што людзі старыя не знаходзяць месца для духоўнага прытулку».

Зморай над жыццём гэтых не бедных, уладкаваных, упэўненых у сабе, звыклых думаць, што яны жывуць у развітым сацыялізме, вісіць спажывецкая псеўдаэтыка,

мяшчанскі карыслівы погляд на чалавека, звычка лічыць асобу інструментам, які можа ці не можа выконваць нейкую карысную для цябе функцыю. Дзіўна, што за такі функцыянальны падыход Лаўрэн чамусьці не крыўдзіцца ні на сыноў, ні на нявестак, ні на землякоў ці знаёмых, а таксама і на незнаёмых начальнікаў, якія паступаюць з ім, так сказаць, па службе. Вось так і ўзаконілася чорствая карыслівасць, стала эталонам афіцыйным. Лаўрэн у душы не прымае вульгарнага функцыяналізму. Маўклівы, стрыманы і памяркоўны вясковец, колішні самародны лідэр не пратэстуе, ён толькі апраўдваецца, калі нацiскаюць на яго, як у выпадку з узнікшым намерам ажаніцца з першаю сваёю нявестай. Начальнікаў асуджае толькі ў думках: «Калі ты ім, нябось, патрэбен быў, твае гады лічыліся козырам — у прэзідыум цябе запрашалі заўсёды! У газетах, па радыё мо з дзесяць разоў успаміналі! Калі табе зара трэ чаго-небудзь, твае гады ўжо перапонай становяцца — от як на свеце бывае!»

Завастрэнне канфлікту пакаленняў Карпюк даводзіць да гратэскавасці ў сцэне абмену рэплікамі паміж Маркевічам і адстаўніком-маёрам, які, наперакор пануючай пагардзе да працы ў сферы абслугоўвання, заняўся зборам аб'едкаў у камунальных дамах.

«— Адстрэл ветэранаў будзе!..

— Які-і?

— Такі самы!

— Што вы гаворыце, Аляксей Аляксандравіч? Ці такое можа быць?!

— А ведаеш, чаму? Бо ветэранаў жыве яшчэ многа, сяму-таму яны вельмі перашкаджаюць, і маладыя ведаюць, што рабіць з імі».

Азлобленасць адстаўніка на маладых перадалася ўжо і Лаўрэну. «А што, на самай справе, хіба і я сваім не перашкаджаю? Шчэ як! Перашкаджаю сынам, перашкаджаю нявесткам, а мо шчэ каму, і толькі з-за таго, што жыву на свеце!»

Карпюк і раней, ужо ў аповесці «Данута» і ў «Пушчанскай адысеі», умеў адшукаць і паказаць непрызнаваныя подзвігі, якія аказваліся істотнымі на партызанскай вайне, больш характэрнымі, чым подзвігі агульнапрызнаваныя. Пісьменнік пазбягаў бравурных гераічных сітуацый, дзе густа падалі трупамі ворагі і жывымі, некранутымі выходзілі свае. Аўтар прыглушаў эфектны

гераізм, ставіў герояў у сітуацыі адваротнага зыходу, якія даводзілі, што вайна не забаўка і вораг зусім не блазан, не тхор і не зацялёпа, а небяспечны працаўнік, які ўмеў і меншаю сілай перамагаць нашу большую, калі яна аказвалася лішне бяспечнай або не навучанай прыёмам сучаснага бою. Гэтая лінія ў беларускай прозе трывалая і вядомая. Але яшчэ больш плённай аказалася ўведзеная і ўзаконеная Брылём, Караткевічам, Быкавым і Адамовічам талстоўская ідэя негераічнага гераізму, някідкага подзвігу чалавечнасці, калі патрыёт супрацьстаяў не толькі ворагу, але нялюдскай вайне як такой. Такі сцішаны подзвіг чалавечнасці праяўлялі маці з аднайменнага апавядання Брыля і старая адзінокая жанчына Зося з апавядання «Зялёная школа», гераіня «Чазеніі» Караткевіча Гражына. Гэта быў подзвіг ахвярнай міласэрнасці, таму і здзяйснялі яго жанчыны.

У рамане «Карані» падобны подзвіг выпаў на долю Лаўрэна Маркевіча, ездавога ў палявым шпіталі. Карпюк паставіў Лаўрэна ў клапатлівую сітуацыю, прымусіў расказаць пра нетыповы подзвіг школьнікам, выхаваным на подзвігах тыповых, апавяданнях «бравурных». Слухачы чакалі пачуць яшчэ адну гераічную гісторыю, ды Лаўрэн, праўдалюбны чалавек, ведае, што трафарэтнае ўяўленне аб подзвігу супраціўна таму, што лічылася подзвігам там, на вайне. Ветэран не можа лгаць дзецям. Не ўмее, не хоча. У той жа час ён хацеў бы аддзячыць вучням, педагогам за запрашэнне на сустрэчу, апраўдаць іх спадзяванні. Гэтая сустрэча вывела яго са стану апатыі, нагадала, што ён, пенсіянер, усё яшчэ некаму ды патрэбны ў гэтым... раўнадушным свеце, які толькі і ўмеў што утылізаваць, утапіць у бытавым камфорце яго старасць, спісаць жывога ў свет маўчання і трывання.

На жаль, і на сустрэчы ажылі утылізатарскія замашкі: настаўніца ва ўступным слове наводзіла госця на пахвальбу, якая па абавязваючых меркаваннях мела аказаць патрыятычнае ўздзеянне на вучняў. Лаўрэн застаўся верным праўдзе, адмовіўся ад прыхарошвання вайны і сябе, радавога яе ўдзельніка, хоць гэта азначала страціць уяўны німб героя, які па шаблону, авансам абвялі вакол яго галавы школьнікі. Свае заслугі ў вайне Лаўрэн ацэньвае сціпла, па-сялянску цвяроза, гэта ўласна не заслугі, а сумленнае выкананне абавязку салдата і чалавека. Лаўрэн не забіваў ворагаў, а выратоў-

ваў ад смерці параненых, дапамагаў ім вярнуцца ў строй ды змагацца з праціўнікам, які ўмеў не толькі забіваць, але і дабіваць раненых на полі бою.

Аўтар паказвае вайсковыя малюнкі здвоенымі: спачатку герой прыпамінае, а аўтар апісвае, як яно было там, на вайне, потым узважвае, як гэта былое ўспрымуць сучасныя школьнікі, і сумняваецца: расказваць ці не.

«Калі доўгі абоз выскачыў на палявую дарогу, Лаўрэн з непрытомнымі салдатамі ды з безабароннай жывёлай аказаўся нібы ўзнятым над зямлёй. Адусюль адкрытым. Яшчэ і на прыцэле. Немцы адразу пачалі па іх куляць міны адну за адной. Але на выбухі азірацца ён не надта меў час — глядзеў за вазамі ды пад шквальным агнём кіраваў лейцамі».

Прыгадваючы гэты эпізод праз пару дзесяткаў гадоў перад вучнямі, Лаўрэн заўважае:

«Ды пра што гэтым малым жэўжыкам гаварыць?

Як пад выбухамі запрагаў коней?

Як біліся аб дошкі галовы цяжка кантужаных возчыкаў, калі фурманкі падкідвала на грудах?..

Як білі злева, білі справа, білі спераду і ў вочы яркія ўсплёскі агню?

Як навокал дыбілася зямля?..

І пра гэта гаварыць?

Ад такога апавядання атрупянее нават гэта вучыцелька...»

Самым вялікім парадоксам франтавой біяграфіі Лаўрэна было тое, што «на вайне не забіваў нікога». І была яшчэ зусім «крамольная» для свайго часу мяккацеласць: «Калі ў павозцы было месца, іхніх параненых браў на воз да сябе ды валок са сваімі на перавязку. А такія немчыкі ўжо смірныя, добранькія і ветлівыя — смех адзін! Усе савалі свае цыгаркі, пстрыкалі запальнічкамі, цвярдзілі: «Гітлер — капут!..» Капітан наш чалавекам людскім быў, лячыў іх таксама».

Лаўрэн Маркевіч не належаў да эліты заходнебеларускага рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, ён — радавы прадстаўнік сялянскай масы, які далучыўся да змагання пад уздзеяннем больш ідэйна падрыхтаваных сяброў, у прыватнасці паэта-рэвалюцыянера Міхася Васілька (Міхаіла Іосіфавіча Касцевіча). І дзейнасць Лаўрэна ў вызваленчым руху абмяжоўвалася дэманстрацыяй патрыятычных настрояў, падтрым-

кай кандыдатаў Грамады ў польскі парламент, удзелам у музычных капэлах, хорах, танцах. Усё гэта было тады не проста забавай, а спосабам сцвердзіць сваю сялянскую, беларускую і чалавечую годнасць. Напэўна, пра гэта так разгорнута Лаўрэн ніколі не думаў. Галоўным для чалавека было тое, што ён уваходзіў у сябрыну паважаных у ваколіцы дзецюкоў і дзяўчат. Скептыкі і кансерватары называлі іх парушальнікамі спакою, закапёршчыкамі, верхаводамі беспарадку, а светлыя душы гарнуліся да іх, грэліся ля іх і, урэшце, далучаліся, як і ў свой час Лаўрэн, да гэтага авангарда, рашаліся зносіць абразы ды гумовыя дубінкі паліцэйскіх, пагардлівыя панскія суды, турэмныя камеры, — згаджаліся ісці на пакуты, ведаючы, што ідуць за праўду, свабоду і годнасць, а без гэтага нідзе ніхто ў свеце не можа шчасліва жыць.

На жаль, аўтар рамана падае гэтыя важкія старонкі біяграфіі Лаўрэна мімаходзь, фрагментарна. А між іншым, вочы сучаснага маладога чытача засцяць міфы пра тое, быццам у Заходняй Беларусі панавалі цемра, невуцтва, эксплуатацыя і галеча, а культуру сюды прынесла савецкая ўлада толькі ў верасні 1939 года.

І ўсё ж Лаўрэн — гэта каштоўны сацыяльны тып і змястоўны вобраз. Ён сцвярджаў сябе і раскрываўся марудліва, але мэтанакіравана, паслядоўна, ва ўсіх пробліскаx і поцемках грамадскага жыцця Заходняй Беларусі, якая бог ведае каторы раз ужо аказвалася палігонам вялікай гісторыі, а ўрэшце стала арэнай татальнай вайны. Лаўрэн аказваўся ўдзельнікам гістарычных падзей, калі па ўласнай волі, а калі пад прымусам, таму і грамадскае жыццё сваё адчувае як нейкі стракаты чырвона-чорны шлях, дзе пробліскі свабоды, надзеі, ахвярнасці чаргаваліся з ценямі нядолі, адчаю.

Паказальна, што светлае і змрочнае ў жыцці Лаўрэна не супадаюць з тою шкалой, якую сёння ўстанавіла публіцыстыка як абсалютную перабудовачную ісціну. Напрыклад, калгаснае будаўніцтва, якое ў Заходняй Беларусі пачалося ў пасляваенныя гады, Лаўрэн захаваў у свядомасці як неабходнасць, якую можна было б правесці па-людску, разумна і з большай карысцю для людзей. Ён асабіста толькі выпраўляў памылкі, якіх магло і не быць, каб арганізоўвалі тыя калгасы як самадзейныя арганізацыі, а не як нейкія прымусова-працоўныя збор-дружыны. Тады б і урбанізацыя не напусціла-

ся такою лавінай і вёска надалей заставалася б уладальніцай векавых народных традыцый, жыла, працавала прыпяваючы і прытанцоўваючы, упрыгожвала б сацыялізм, рабіла б і хлеб духоўны.

Раман «Карані» — гэта не толькі плод таленту пісьменніцкай прадметнай памяці і вобразнага зрокавага ці гука-меладычнага ўяўлення, гэта нават не дзіцячая ўчэпістая памяць сялянскага сына, гэта родавы код, голас, закадзіраваны ў слове; душы многіх пакаленняў земляробскага мужыцкага племені, яго філасофія жыцця і духоўная культура зіхатнула такімі пэрламі вобразнасці, што спыняешся, нібы перад той цудоўнай таполяй у баладзе, што гаворыць чалавечым голасам, славячы несмяротнасць жыцця і кахання. Скарбы народнай душы аддае пісьменнік на суд і духоўны ўжытак ужо перараджанаму, урбанізаванаму, забюракратызаванаму грамадству, спакушанаму безадказна-безаблічнымі адносінамі, што вызваляюць ад асабістай адказнасці за зямлю, за гаспадарку, за вынікі працы і за дастойнасць жыцця. Не без дакору дорыць свой скарб, думкі і сэрца мастак, ён недзе верыць, што дапаможа грамадству ісці наперад, абнаўляцца, захоўваючы памяць і вяртаючы мудрыя ўстоі.

Карпюк падхоплівае тую лінію народнасці ў беларускай літаратуры, якую пачалі Дунін-Марцінкевіч з яго Навумам Прыгаворкам, Багушэвіч з яго Аліндаркам, Купала з «Тутэйшымі», Колас з «Новай зямлёй», Брыль з «Сірочым хлебам» і «Птушкамі і гнёздамі», Караткевіч з «Чазеніяй», Мележ з «Палескай хронікай», Кудравец з «Сачыненнем на вольную тэму», Зуёнак з «Маўчаннем травы», Пташнікаў з «Алімпіядай», Дудараў з мудрымі дзівакамі земляробамі і салдатамі, Карамазаў і Казько з «экалагічнымі» палотнамі пра сціплых рупліўцаў, хавальнікаў народных традыцый і ахоўнікаў зялёнага ўбранства краіны, вартаўнікоў родных гнёздаў.

Самым свежым рэхам жывучай народнасці прыйшлі нядаўна да чытача фантазлівыя і шчырыя, вырасшыя з гродзенскай глебы апавяданні У. Ягоўдзіка, Х. Лялько і ўвесь адраджальны пафас творчасці маладых мастакоў слова. Не можа быць, каб такі напор творчага духу не абудзіў сучаснікаў з забыцця.

*1991*

# Усё чалавечае

## ЗАГАДКА ЖАНРУ

Янка Брыль — прызнаны майстар мініяцюры ў сучаснай беларускай прозе. Жанр гэты ў яго настолькі распрацаваны, што пісьменніка не без падстаў называюць бацькам беларускай мініяцюры, хоць яшчэ да рэвалюцыі ў Змітрака Бядулі была кніжка кароткіх празаічных твораў «Абразкі», на якіх Брыль спасцігаў сакрэты эмацыянальнага і сціслага пісьма. Максім Багдановіч не толькі стварыў некалькі празаічных і вершаваных твораў такога тыпу (верлібр «Я хацеў бы спаткацца з вамі», маральна-філасофская прытча «Зямля Іуды»), але тэарэтычна абгрунтаваў сцісласць як аснову выяўленчай сілы мастацтва слова. Па думцы Багдановіча, беларуская пісьмовая літаратура пачалася з запісванняў паданняў пра ўдзельніка бітвы на Нямізе князя Усяслава Чарадзея і яго ўнука Ізяслава Полацкага. Паданні тыя былі самастойнымі беларускімі творамі, якія перарасталі ў гераічныя песні, каб увайсці ў склад нацыянальна-патрыятычнага эпасу. Але ж собіла ім трапіць на сціло аўтара «Слова аб палку Ігаравым», які «прымазаў» іх да свайго твора (Багдановіч лічыць яго няўклюдным). Так спынілася жанравае развіццё названых паданняў, якія мелі высокія мастацкія якасці: «...пад наплывам чуцця... усюды прабіваецца хоць і зменлівы, але напружаны рытм, выклад робіцца сціснутым, мова моцнай, і ўжо пачынаюць фарміравацца пекныя вобразы»[1].

Паэтычнасць лаканізму Багдановіч знайшоў у вершах далёка не лаканічнага і не надта лірычнага Дуніна-Марцінкевіча: «Сціснутасць зместу — вось галоўны бок паэтычнага апісання, каторым яно розніцца ад прозы»[2]. Напрошваецца выснова, што мініяцюры — гэта вершы

[1] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 106.
[2] Тамсама. С. 457.

ў прозе, і чым больш яны паэтычныя, тым мацней спрасаваны ў іх тэкст, тым цяжэйшае сэнсавае ядро. Тут, аднак, не ўся праўда, бо сціслымі бываюць і творы празаічныя, скажам, фальклорныя прыказкі, прымаўкі, прытчы, мудраслоўі, а таксама творы навуковыя і дзелавыя, дакументы і тэлеграфная інфармацыя.

Я. Брыль не любіць жанравай неакрэсленасці ў творах, азначэнне «верш у прозе», як і «паэт у прозе», здаецца яму чымсьці невыразным і ненатуральным. Але ён смакуе ў выказваннях майстроў пахвальныя словы ў адрас лірызму, паэтычнасці мастацтва. Беларускі празаік падхоплівае, як апраўданне сабе, словы японца Акутагавы Руноске: «Проза займае месца ў літаратуры толькі дзякуючы паэзіі, якая ў ёй змяшчаецца».

А ты, бывае, сумна ці раздражнёна думаеш пра сябе, што вось дарма ўшчаміўся недзе паміж прозай і паэзіяй...»[1]

Вернемся да Багдановіча. Першы з названых вышэй яго твораў — філасофскі ўзнёслы, роздумны, другі — сатырычны, выкрывальны. Не ведаю, свядома ці выпадкова аўтар удыхнуў у гэтыя творы дух эстэтычных крайнасцяў — лірызм і гратэск, прыгожае і агіднае, высокае і нізкае. Мне здаецца, антынамічнасць — родавая рыса мінітвораў. Двухмернасць ляжыць у дыхатаміі мовы, а ўрэшце — у супярэчнасцях жыцця і антыномах думкі. З'ява універсальная, таму і выступае з аднолькавым правам у паэзіі і прозе. Прыказка «Малады сілу паказвае, а стары спосабу шукае» — празаічная ў аснове, але закранае нас трапнасцю суджэння пра псіхалогію крайнасці ўзростаў, дае штуршок пачуццям, уяўленню. Адно з любімых выслоўяў Я. Брыля — прыказка «Доля мая чубатая — ніхто мяне не пасватае» — уяўляе сабою «знятую» метафару. Іншасказанне «чубатая доля» ўключаецца ў побытавы тэкст ды «здымаецца» іранічным паваротам. Чубатая доля — значыць, капрызная, а жаданне замуства натуральнае, яно азначае жаночае шчасце, але і страту дзявочай свабоды.

Слушна згадвае чэшскі крытык і перакладчык Вацлаў Жыдліцкі, што ў Я. Брыля вобраз дзяцінства наогул прасветлены лірызмам, хоць ёсць у яго і горкае, прыкрае, напрыклад, у аповесці «Золак, убачаны здалёк» радасная і ўрачыстая сцэна братання салдат суты-

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. Мн., 1988. С. 205.

каецца са сцэнай бойкі байструкоў вайны — Немца з Казаком. Гэтая гратэскавая кантрастоўка братання таксама псіхалагічна пераканальная, як і натуральная міралюбнасць дзяцей.

Такім чынам, сціслась у славесным мастацтве можа дасягацца двума спосабамі: паэтычным і празаічным, адзнака першага — метафарычнасць, адзнака другога — афарыстычнасць. У фальклоры трапляюцца творы суплетыўныя, што зіхцяць досціпам, здзіўляюць кемнасцю, наталяюць сэнсам і аднача сна маюць рытма-меладычную зладжанасць, нясуць пэўны настрой, льюць асалоду ў сэрца, іх можна вымаўляць, як сцверджанні, а лепш выспеўваць, як лятункі, жаданні, памкненні, эмоцыі: «Хто не ўмее араці, таму хлеба не даці. Не даць хлеба, ні бацвіння, няхай гультай пасе свінні. Яму свінні дакучылі, араць яго навучылі».

Мастацкая вартасць мініяцюры — у змястоўнай зыркасці аўтарскага Я, а як яно заявіць пра сябе ў творы — ці бурнымі эмоцыямі, ці спакойным мудрым роздумам — гэта справа таленту, манеры і задачы.

Я. Брыль з аднолькавым смакам чытае буяныя ад фантазіі вершаваныя зборнікі і нагружаныя навуковай інфармацыяй трактаты. Напрыклад, чытаючы даследаванне Дарвіна пра дажджавых чарвякоў, ён выпісаў водгук чытача, пасланы вучонаму: «Якое ж было маё здзіўленне, калі я даведаўся, што ў іх ёсць асабістае жыццё і грамадскія абавязкі!»[1]

Сэнсава-ацэначны пачатак Брылёвых мініяцюр глыбокі і багаты, у іх часта ўзаемадзейнічаюць поруч два суджэнні, два розныя погляды: адзін належыць аўтару, інтэлігенту, мастаку, патрыёту і грамадзяніну, другі — апанентам, часам славутасцям, а часцей стрэчным-папярэчным; адзін — дарасламу, другі — дзецям, выразнікам сардэчнай чысціні, шчырасці; ацэнка ахоплівае шырокія абсягі жыцця: ад уласнага Я да касмічнага бязмежжа. «Даволі задрыпаны дзядзька пасе каровы, адбываючы радоўку. Пагаварылі з ім. Быў ён шыкоўным польскім уланам, быў і савецкім нешыкоўным пехацінцам, перажыў і пачатак другой сусветнай вайны, у верасні трыццаць дзевятага, і заканчэнне яе, з лета сорак чацвёртага. Усяго было, а вось спыніўся на адной рукапашнай. Яшчэ ўсё нудна ды ўжо і балюча расказ-

---

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 187.

вае, як адзін з іхніх забіў сапёрнай лапаткай трох немцаў, а сам ад гэтага стаў «як непрытомны, як нечалавек, — ледзь адышоў...».

Адгэтуль, ад гэтай нізавой, чарнавой, непасрэднай азвярэласці думка ідзе да яе сучаснага выражэння ў глабальнасці ды касмічнасці...

А са мною ўнучка з букецікам чырвоных «смолак» у руцэ. Як яна — бог мой — слухае гэта, калі мы часцей за ўсё думаем, што «малое не разумее?..»[1]

Чытаеш ацэнкі і самаацэнкі, як неназолістыя напаміны сабе. Сустракаеш Брылёва звычнае — лепш сябе недаацаніць, чым перааацаніць: крытычныя адносіны да свайго Я даюць маральнае права на справядлівую ацэнку іншых. Калі гаварыць пра выхаваўчую ролю мастацкага слова лапідарна, дык Брыль выхоўвае, адказнасцю дае прыклад карэктнасці, выверанасці кожнага крытычнага слова. А паколькі нікому, акрамя хіба Бога, не ўдасца дасягнуць абсалюту справядлівасці, дык трэба паступаць па-чэхаўску: лепш недасаліць, чым перасаліць. Да аб'ектыўнасці ацэначных суджэнняў пісьменнік падключае велікадушна-зычлівы тон, гаворка атрымліваецца спагадлівай, культурнай, але без паблажлівага сіропу.

Вось шчопці адпраўных прынцыпаў, на якіх затрымалася ўвага, калі чытаў цыкл мініяцюр «Хлеб надзённы»: «Трэба змагацца за самога сябе з самім сабою»[2]; «Некаторым з нас выдаецца зашмат крытычнага цукру — як пчолам, калі мёд рыхтуецца на спекуляцыю»[3]; «Хочаш не хочаш, а жорсткім быць неабходна. Хоць і самому ад чужое жорсткасці бывае часам балюча»[4].

Жорсткасць да сябе пісьменнік праяўляе таксама цераз талент. Вось Аляксей Дудараў парадаваў Брыля тым, што не проста выйшаў на «ўсесаюзную арэну... і на сусветную нейкім чынам. Добра, што і яшчэ адзін не паддаецца модзе — ідзе ад роднага на роднай мове»[5]. Васіль Сёмуха абудзіў павагу іншым: «Бацькоў у палескага хлопца замардавалі немцы, а ён гадамі, упарта, натхнёна перакладаў і пераклаў — выдатна «Фаўста»[6].

---

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 87.
[2] Тамсама. С. 141.
[3] Тамсама. С. 142.
[4] Тамсама.
[5] Тамсама. С. 157.
[6] Тамсама. С. 141.

Што агульнага ў двух таленавітых мастакоў? Пашана да роднага і вернасць творчаму прызванню. Брыль чуе роднасць з імі цераз сваю, так бы мовіць, беларускасць, якую лічыць стрыжнем асобы, чалавечаю нормай. «Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што»[1]. Так, гэта нармальна ў прынцыпе, але жыццё несла так многа адхіленняў, якія станавіліся насланнём, бядою, што не раз пхала нас, беларусаў, да нацыянальнага нябыту. На шчасце, норма, захаваная дужэйшымі сярод нас, вяртала на шлях адраджэння ўсіх.

Мініяцюра — адна з памежных форм мастацкага адлюстравання жыцця, яна жыве на стыку паэзіі і прозы, настрою і праніклівасці. Фалькларыст Мікола Янкоўскі, асэнсоўваючы творчы вопыт Я. Брыля ў кантэксце фальклору, запрапанаваў новы жанравы тэрмін — гутарковая мініяцюра, якую не без падстаў лічыць прадвесніцай мініяцюры кніжнай, пісьменніцкай. На думку даследчыка, для гутарковай мініяцюры характэрна перадусім афарыстычнасць: «Наогул мастацкую выразнасць шматлікіх гутарковых мініяцюр ствараюць менавіта афарызмы, перш за ўсё народныя прыказкі»[2]. Такі погляд можна прызнаць традыцыйным, яго мы сустрэнем ужо ў скарынінскай прадмове да біблейскай кнігі прытчаў Саламона (фактычна гэта зборнік народных гутарковых мініяцюр, афарызмаў, прыпісаных нашчадкамі славутаму цару). Прытчамі сучаснікі Скарыны называлі прыказкі, прымаўкі і ўсе іншасказальныя выслоўі, што гавораць «...о мудрости, о науце, о добрых обычаех, заповедех, яко ся имамы справовати и жити на сем свете...»[3].

Тыповая жанравая прыкмета прытчаў — паводле Скарыны — іншасказальнасць. Яны «...иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають»[4]. Скарына класіфікаваў прытчы паводле тэматыкі і ступені «сокрытости», зашыфраванасці. Пры падзеле на групы асветнік улічваў маральны і эмацыянальны тон прытчаў: да вышэйшага класа ён аднёс тыя, у якіх Саламон гаворыць

---

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 140.
[2] Янкоўскі М. Паэтыка беларускай народнай прозы. Мн., 1983. С. 73.
[3] Скарына Ф. Творы. Мн., 1990. С. 21.
[4] Тамсама.

«...яко бы отець сына научая мудрости, разума, умения... и иных добрых нравов»[1]. У эпоху Адраджэння пачуццёвы бок твора не лічыўся такім важным, як сэнсавы, але настрой улічваўся пры класіфікацыі. Сучасная літаратурная практыка дазваляе пайсці далей, мініяцюры Я. Брыля, у прыватнасці, даюць падставу заняцца назіраннямі не толькі над метафарычнасцю і афарыстычнасцю, але над суадносінамі мастацкага і навукова-дакументальнага пазнання рэчаіснасці.

Цяга савецкіх мастакоў да мініяцюр у пасляваенны час павінна разглядацца як форма барацьбы за свабоду творчасці ва ўмовах ідэалагічнага аўтарытарызму і рэгламентацыі творчага працэсу.

Калі глядзець на архіпелаг мініяцюр Янкі Брыля паеўрапейску, дык трэба было б аднесці яго да авангардысцкай прозы, фрагментарнай і рассыпістай па сваёй прыродзе. Але такое рашэнне ўвапрэцца ў некалькі перашкод: па-першае, сам жа Брыль, як мы бачылі, не любіць жанравай аморфнасці ў мастацтве, крыўдуе, калі называюць яго лірыкам у прозе; па-другое, мініяцюры ў Брыля не мазкі на палатне імпрэсіяніста і не сімвалісцкія таемныя знакі, нават не смальты на пано мастака-манументаліста, — яны нешта іншае і большае, бо маюць эстэтычна-выяўленчую закончанасць, самастойнасць і самацэннасць. Цыклы мініяцюр і кнігі мініяцюр — гэта сістэма аб'яднаных гуманістычнаю ідэяй вобразаў і думак, афарызмаў і парадоксаў, назіранняў і выказванняў аб людзях і свеце, аб надзённым і вечным, аб чалавеку, яго мажлівасцях і немагаце. Беручыся вызначаць мастацкую вартасць Брылёвых мініяцюр, нельга выпускаць з-пад увагі таксама тое, што яны нярэдка прысутнічаюць у поўнаметражных творах як мікракампаненты, асабліва шмат іх у аповесцях «Золак, убачаны здалёк», «Ніжнія Байдуны», «Муштук і папка».

Найважнейшы аргумент супраць безагаворачнага прыняцця мадэрнай версіі — тое, што ў натуры Брыля мы сустракаем здзіўляючую раўнавагу духу, яго творчая фантазія і ўяўленні падкантрольныя розуму, у той час як мадэрнісцкая мадэль творчай асобы стаіць на дамінацыі фантазіі, мройнасці, інтуітыўнасці, нават пераборы трызнення падводзяцца там пад сімптаматычны кампанент геніяльнасці.

Сёння, калі быццам бы ўшчэнт разбіваюцца калек-

[1] Скарына Ф. Творы. С. 21.

тывісцкія пачаткі і прынцыпы ў адносінах паміж людзьмі, аб'яўляецца шкоднай ідэя выхавання ў калектыве і цераз калектыў, а супрацьпастаўляецца ёй як адзіна правільны прынцып індывідуальнага ўзгадоўвання, варта падумаць над тым, а які ж падыход да асобы чалавека прапануе Я. Брыль? Мне думаецца, у гэтым сёння спрэчным пытанні ён зыходзіць з вопыту народнай педагогікі і філасофіі Л. Талстога. Для выхавання паўнацэннай асобы прыдатны як здаровы натуральны калектыў (дарадчык, кантралёр, памагаты, антаганіст), так і змястоўная адзінота (час медытацыі і самаацэнкі). Шкодзіць індывідуальнасці калектыў прымусовы, калонія для беспрытульных, казённая бурса ці салдацкая казарма, а калектыў добраахвотны — дружная, любячая сям'я, а потым сябрына па інтарэсах, нават грамадскіх, — спрыяюць станаўленню асобы. Усё гэта меў Я. Брыль у дзяцінстве і зведаў як дабратворнае, так і адмоўнае ўздзеянне на сабе.

Чалавек становіцца індывідуальнасцю ў калектыве, там ён мае мажлівасць адчуваць сябе суб'ектам, якога за нешта любяць, а за нешта асуджаюць родзічы, равеснікі, сябры, таварышы па працы. Ізаляцыя ад калектыву, напэўна, зменшыць шанцы здаровай індывідуалізацыі, спародзіць перакосы і зрывы. Канешне, і яшчэ горш, чым ізаляцыя, можа паўплываць на індывіда прыналежнасць да злаякаснага калектыву, разбэшчанай кампаніі, паразітычнай зборні ці раз'ятранай табалы. Калектыў, як і самота, могуць шкодзіць індывідуальнасці і спрыяць. Усё залежыць ад таго, які ідэал выхавання і якія здольнасці ў выхаванца і выхавацеля. Апазіцыйнасць індывіда да грамадства таксама не заўжды антыграмадская, калі грамадства перажывае крызіс ці ўпадак, адмаўленне яго можа азначаць пошук грамадства новага, жыццяздольнага. Такім чынам, калектывізм і індывідуалізм, падобна як і ўласнасць, нажытая сумленна, выхоўвае, а накрадзеная — дэмаралізуе. У людзей сярэдніх, не надзеленых выдатнымі здольнасцямі, зададзенае загадзя, зверху ці збоку, выхоўванне індывідуальнасці адзываецца недзе клаунадай, але можа адазвацца і хваравітаю зласліваю пагардай да людзей больш здольных ці да слабейшых і ніжэйшых па сацыяльна-таварыскім стане. У крайніх выпадках яно можа азвацца небяспекай і трагедыяй.

Янка Брыль вельмі чулы да грамадскай і жыццёвай

каштоўнасці чалавечых схільнасцяў, ужо ацэнкі паводзін дзяцей даюцца ў яго паводле гуманістычнай ствральнай этыкі. Творца не бачыць асабістага шчасця без людской зычлівасці, прызнання і падтрымкі. Мастак памятае, што ніводзін вялікі папярэднік, мысліцель ці настаўнік, не абыходзіўся без паслядоўнікаў і вучняў. Мелі свае школы Сакрат, Арыстоцель, Платон, мелі вучняў і мастакі Адраджэння, мадэрністы таксама гурталіся ў таварыскія і творчыя групы, сцвярджалі сябе. Канешне, былі, ёсць і будуць творцы-пустэльнікі, ды, у прынцыпе, кожны мастак адчувае патрэбу ў творчай адзіноце. На адзіноту і суверэннасць мае права ўсякі чалавек, які бярэцца стварыць нешта новае і не вядомае свету.

Своеасаблівасць мініяцюрам Брыля прыдае выключная брылёўская «саборнасць» успрымання свету, мастак умее цаніць праніклівасць і мудрасць суджэнняў у простых людзей, якіх не спяшаецца называць народам, яны яму суайчыннікі, землякі, равеснікі або родзічы ў блізкай і далёкай стрэчы. З мініяцюр складваецца ў Брыля дзіўная панарамная карціна жывога, дрыготкага жыцця, вясёлага і гарушчага, разгульнага і мудра сцішанага, выкананая імпрэсіяніс цкаю манерай пуантылізму.

Запісваць назіранні, думкі, цікавыя выслоўі падахвоціў Брыля Л. Талстой, яго дзённікі. У даваенныя часы малады самадзейнік запісаў за вяскоўцамі прыстойную падборку дасціпных выслоўяў (апублікаваў пасля вайны ў «Маладосці»). А мініяцюрамі спачатку станавіліся ў яго найбольш трапныя блакнотавыя нататкі, што вытрымалі пробу часам, не страцілі здольнасці будзіць думку, кранаць сэрца, калі ўся духоўная прастора была засмечана ідэалагічным пустазеллем. Тады Брыль, насуперак стандартам, склаў падборку колішніх сваіх шчырых нататак, каб вызваліцца з творчага прастою, да якога давялі выдавецкія ментары. Потым, у часы адліг, мініяцюры пісаліся для друку, але таксама раскавана, як бы для сябе.

## ЗБОКУ ВІДНЕЙ

Янка Брыль апублікаваў у 1965 годзе кнігу мініяцюр «Жменя сонечных промняў», мініяцюрам аддаў галоўнае месца ў зборніках «Вітраж» (1972), «Сёння і па-

мяць» (1985), тры цыклы мініяцюр змясціў у кнізе «На сцежцы — дзеці» (1988) і далей змяшчае падборкі ў перыядычным друку. На першай старонцы кнігі «Жменя сонечных промняў» аўтар гаворыць, што пісаў мініяцюры «...год за годам, блакнот за блакнотам... Адно з напісанага ўвайшло ў аповесці, апавяданні, нарысы, другое — чакае чаргі. А іншае — просіцца быць самастойным мастацкім творам»[1]. Я. Брыль (не быў бы то вучань Л. Талстога) заўсёды мае ў кішэні рабочы блакнот і вядзе запісы ўсюды, пры любым надвор'і. Рабіў іх нават у нямецкім лагеры ваеннапалонных. Толькі прынёсшы той шматпакутлівы блакнот дамоў і расшыфраваўшы намёкі ды скарачэнні, адчуў халодны жах ад думкі, што яго чакала, калі б нататкі трапілі ў рукі ахоўнікаў ці гестапаўцаў. Публікаваць мініяцюры пісьменнік рашыўся ў сталым узросце, а даходзячы да шаноўнага, пачынае называць мініяцюру кроўна сваім жанрам, які дазваляе яму выказацца найбольш свабодна і арганічна. Пасля першых публікацый дасціпнікі спрабавалі жартаваць, што мініяцюры не адпавядаюць мажной камплекцыі аўтара, але поспехі «Жмені сонечных промняў», а затым і «Вітража» (яны перакладзены на некалькі моў у краіне і за рубяжом) спынілі жартачкі і сталі спакушаць таварышаў па пяру на пробу ўласных сіл. Мініяцюры ўзяліся пісаць А. Карпюк, Б. Сачанка, У. Ягоўдзік і іншыя. Іх публікацыі далі матэрыял для параўнанняў, і неўпрыцям выявілася гарэзнасць самой мініяцюры, аказалася, што яна ўмее спакушаць даступнасцю, а ў рукі не ўсім даецца. Знешняя раскаванасць міні-жанру патрабуе большай творчай рызыкі, выдумкі, досціпу, чым жанры поўнаметражныя, традыцыйныя, класічна строгія. Тут патрэбны ліра-эпічны склад таленту і самавітая абаяльнасць асобы. Варта кінуць вокам на сучасную літаратуру, каб заўважыць, што ў жанры мініяцюр працуюць лічаныя пісьменнікі, а ў традыцыйнай прозе — пераважная большасць. Сучасная руская літаратура можа ганарыцца М. Прышвіным, Ю. Алешам, Ф. Абрамавым, латышская — Я. Райнісам, эстонская — Ю. Смуулам, літоўская — Ю. Марцінкявічусам. З усімі названымі Я. Брыля звязвае творчае пабрацімства, а з равеснікамі — сяброўскія адносіны. На кнігі мініяцюр ён атрымаў найбольшую колькасць водгукаў.

---

[1] Брыль Я. Жменя сонечных промняў. Мн., 1965. С. 2.

Украінскі празаік Леанід Первамайскі пісаў аўтару, прачытаўшы «Жменю сонечных промняў»: «Як добра, што Вы прыслалі мне гэтую кніжку! Я прачытаў яе ад першай да апошняй старонкі. Гэта была не такая ўжо лёгкая праца, бо я перабольшыў сваё веданне беларускай мовы, але ўзнагароджаны быў за свае моўныя намаганні з надбаўкай. Нібыта не кніжку прачытаў, а сам-насам пагаварыў з разумным, добрым і шчырым чалавекам.

...Не кожны з нас мае права напісаць і выдаць такую кніжку, як «Жменя сонечных промняў». У Вас было на гэта ўнутранае права, і як добра для нас усіх, што Вы яго выкарысталі»[1].

Канстанцін Сіманаў, прачытаўшы рускае выданне зборніка «Вітраж», пісаў аўтару 25 сакавіка 1975 года: «Дзякую Вам за Вашы «Вітражы». Узяў з сабою на адпачынак сюды, у Кіславодск, і прачытаў за тры ціхія вечары з пачуццём глыбокай да Вас сімпатыі і адценнем не чужога і Вам пачуцця тугі...

Ваша кніжка дарагая мне сваёю дабрынёю, спалучанай з тою непрымірымасцю, без якой і дабрыню дабрынёю называць няма ахвоты, без непрымірымасці яна хутчэй раўнадушнасць, чым дабрыня»[2].

Эстонскі празаік Юла Туулік адгукнуўся на пасланую аўтарам кніжку мініяцюр так: «Многае з гэтай кніжкі мне знаёма і вядома, але з асалодай і цікавасцю прачытаў яе ад пачатку да канца — сустрэўся з Вамі зноў пасля красавіка, калі разам аказаліся ў Кіеве. І як раней рады, што Вы еўрапеец! — я заўжды рады менавіта гэтаму, паколькі ўкладваю ў гэтае паняцце вельмі многае, істотнае для мяне і святое»[3]. Пад тэрмінам «еўрапеец» трэба, відавочна, разумець моцнае гучанне ў кнізе агульначалавечых быційных праблем і глабальных пытанняў сучаснасці, таго, што грамадская думка называе новым мысленнем.

Зямлячка аўтара, студэнтка Гродзенскага універсітэта, рыхтуючы дыпломную працу пра Брылёвы мініяцюры, выказала яму ў пісьме і здзіўленне, і спачуванне, і ўдзячнасць: «Не перастаю здзіўляцца, як Вы можаце так смела раскрываць душу, выходзіць з самім

---

[1] З асабістага архіва Я. Брыля. Ліст ад 3.11.69.
[2] З асабістага архіва Я. Брыля.
[3] Тамсама.

сабою на людзі. Напэўна, цяжка гэта вельмі? Ды і чытач бывае розны.

...Дзякуй Вам вялікі, што з такой павагай пішаце пра жыхароў нашай вёскі, што не цураецеся іх. Бо як часта ў жыцці паўсядзённым мы бачым адваротнае»[1].

Трэба сказаць, што і на самога пісьменніка находзяць сумненні, а ці не зашмат адкрытасці ў некаторых яго публікацыях, шчырасць публічных выказванняў, як вядома, рэгламентуецца ў цывілізаваным свеце выхаванасцю, этыкетам. Да гэтых рэчаў Я. Брыль чулы, як мала хто з нашых літаратараў. І не з асцярогі прыгадваецца яму «мудры літовец» Марцінкявічус: «А свой «Дзённік без дат» ён падаў, відаць, разумней за мяне: без лішняй канкрэтнай аголенасці, якую я дазволіў сабе ў «Сваіх старонках»...»[2].

Як можна прыкмеціць, ёсць у чытацкіх водгуках адзін лейтматыў: Брылёвы мініяцюры далучаюць да жыцця даверліва, цераз асобу аўтара, які становіцца блізкаю душой і выклікае на шчырасць. Хараша выказаў гэта ў цытаваным вышэй пісьме К. Сіманаў: «...ёсць нешта шчымлівае, калі ідзеш следам за жыццём чалавека прыкладна сваіх гадоў і ў дадатак адной прафесіі, за пункцірным і сумленным расказам пра яго жыццё і недзе прымерваеш да сябе і «поверяешь» свае ўласныя пачуцці і думкі, часам — трудныя».

Шырокі рэзананс выклікалі кнігі Брылёвых мініяцюр у друку. Польскі літаратуразнавец Фларыян Няўважны адзначыў, што Я. Брыль узбагачае перадусім «этычную і эстэтычную ўражлівасць чытача»[3]. Крытык Станіслаў Срокоўскі ў рэцэнзіі на «Вітраж» удакладніў: «Перадусім Брыль з'яўляецца тонкім эстэтам. Колькі ж у тых зацемках і нататках захаплення жыццём, колькі колераў уяўлення, як жыва і глыбока пранікае цераз беларускі пейзаж.

...Умее спалучаць стылёвую дасканаласць з размахам творчага ўяўлення. Умее свае кароткія формы насыціць багаццем эмацыянальных перажыванняў»[4].

Цікава, што ў перакладных выданнях мініяцюр, рус-

---

[1] З асабістага архіва Я. Брыля.

[2] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 192.

[3] Nieuważny F. Szczodra proza Janki Bryla // Nowe książki. 1972, 31 maja. С. 43.

[4] Srokowski S. Witraże // Walka młodych. 1980, 18 maja.

кім і польскім, больш прыжыўся загаловак не першай кніжкі, а другой — «Вітраж». Думаецца, гэта не выпадковасць, слова «вітраж» лепш, чым выраз жменя, хоць бы і сонечных промняў, перадае сутнасць зместу і формы гэтых твораў, багатых і розных па танальнай афарбоўцы, інтанацыйным напаўненні і простых, даступных па мове, але тонкіх па майстэрству. Слушна заўважыў польскі рэцэнзент, што «кніга хоць не мае нейкай выразнай кампазіцыйнай лініі, але дзякуючы сваёй «хаатычнасці» павялічвае адчуванне праўдзівасці».

Сам Я. Брыль не захаваў у пяцітомным Зборы твораў ніводнай кнігі мініяцюр у першапачатковым выглядзе, ён правёў жанравую і тэматычную перагрупіроўку: па-першае, вылучыў тыя творы, якія былі фактычна навеламі, даў ім загалоўкі, гэта значыць права на літаратурную суверэннасць, і размясціў у хparty храналагічным парадку па кнігах выдання. У пятым томе набраўся вялікі цыкл навел «Сцежкі, дарогі, прастор», асобныя з іх напісаны пункцірна і ўтвараюць сэнсавыя ланцужкі.

У «Жмені сонечных промняў» жылі як безыменныя творы-накіды, якія пазней атрымалі назвы «Сёння дзяды», «Памочніца», «Цуды ў хаціне» і падняліся да структурнага ўзроўню навел. Думаецца, такое рашэнне слушнае і апраўданае. Задача класіфікацыі мастацкага матэрыялу наогул вельмі не простая. Скажам, складальнік акадэмічнага выдання беларускіх прыказак, прымавак і выслоўяў М. Грынблат вылучыў трынаццаць тэматычных раздзелаў, а ў іх амаль дзевяноста тэм, і ўсё роўна сістэма дазваляе толькі прыблізна арыентавацца ў матэрыяле.

Змест «Жмені сонечных промняў» аўтар падзяліў на шэсць раздзелаў, у якія ўвайшлі творы блізкія па змесце, але часта розныя па аб'ёме і жанрава-структурных паказчыках. Загалоўкамі да раздзелаў служаць выбраныя з твораў выслоўі. Напрыклад, загаловак шостага раздзела ставіць пытанне: «Чаму сімвалам міру ўзяты голуб, а не дзіця?» Але чытач, які хацеў бы даведацца, адкуль паходзіць і што азначае сімвал голуба з пальмавай галінкай у дзюбе, не задаволіў бы сваёй дапытлівасці ў кнізе Брыля, бо аўтар аперыруе не навуковай, а мастацкай аргументацыяй. Ён сабраў нізку замалёвак, у цэнтры якіх дзеці розных краін, розных геаграфічных шырот, аўтар сустракаў іх у час сваіх падарожжаў. Гэта не проста дзеці, а здаровыя, нармальныя дзеці, нястом-

ныя і дасужыя жыццялюбы, дасціпнікі і рагатуны: якія жывуць у сваім казачным, цудоўным свеце. «Дзецям патрэбна казка, — гаворыць Я. Брыль. — Яна не разбураецца сапраўднасцю»[1]. Дзіцячы свет уражвае ўнутранай свабодай, жыццялюбнасцю і чысцінёй — тым, чаго часта не хапае дарослым, каб дамовіцца аб вечным міры і дружна жыць на зямлі. «Думаў пра абнаўленне душы самай высокай паэзіяй — паэзіяй маленства»[2]. Паэзія маленства асацыіруецца з сонечнымі промнямі, жменя якіх і склала цікавую кнігу. Такім чынам, дзяцінства ўключана Я. Брылём у кантэкст агульналюдскай духоўнасці і выступае сімвалам ачышчэння душы ад шлакаў жыцця, вызвалення з ланцугоў нявольніцкіх звычак — страху і недаверу: «Хлопчык доўга стаяў, любаваўся, прыцэньваўся, пасля купіў чачотку, — па грошах, — адышоўся трохі з натоўпу і выпусціў яе з рукі»[3].

Аўтар не збіраецца абнаўляць сімволіку сусветнага руху за мір, яму важна, каб чытач падумаў і, можа, запомніў жменю абразкоў, якія сведчаць пра тое, што ідэя міру закладзена ў прыродзе чалавека і непасрэдна выяўляецца ў маленстве.

Класіфікацыйная сістэма Я. Брыля ўлічвае не так аб'ектыўны змест мініяцюр, як стан душы аўтара, яе набрыняласць пачуццямі і думкамі пра ўсё людскае. Настроенасць на сапраўднае ў жыцці падказала яму размеркаваць мініяцюры ў пятым томе па раздзелах — «Усё, што ўражвае», «Сцежкі, дарогі, прастор», «Служэнне» і «Свае старонкі», а ў кнізе «Сёння і памяць» надзяліць яшчэ больш твораў самастойнасцю, сабраць у асобны цыкл творчы дзённік — працяг раздзела «Свае старонкі». Звычка аб'ядноўваць мініяцюры ў тэматычныя цыклы перайшла і ў выдадзеныя пасля пяцітомніка зборнікі новых твораў «Сёння і памяць» і «На сцежцы — дзеці».

## СЭНС БЫЦЦЯ

Ёсць у першым раздзеле пятага тома цыкл мініяцюр, які называецца «Пра галоўнае». Што ж самае галоўнае для чалавека? Разумная сэнсоўнасць пражывання жыц-

[1] Брыль Я. Жменя сонечных промняў. С. 228.
[2] Тамсама.
[3] Тамсама. С. 227.

ця: «Малы будзе яшчэ вельмі доўга думаць, што людзі *паміраюць,* а потым прыйдзе час на думкі, што і *я таксама памру...*

А я ўжо думаю і за сябе, і за яго, і наогул за чалавека»[1].

У канцы раздзела прыходзіць і не малы, нават не малады мужчына, ды какетліва заяўляе, што «вось так мы і марнуем самі сябе», а аўтар, гледзячы на яго ўсмешку, заўважае: «Жыццё яшчэ ўсё не бачыцца яму дадзеным *адзін толькі раз.* Жыве — як на вакзале: «Абы той час прайшоў хутчэй». А да якога цягніка?..» (V, 40)

Праміnанне жыцця, абмежаванасць адведзенага чалавеку часу і велічнасць задачы, якую ставіць сур'ёзна разуметае жыццё. Памяць пра мінучасць жыцця не абавязкова павінна быць заўсёды пахмурнай, пісьменнік дазваляе сабе і скаламбурыць на тэму звышпільнасці: «Падумаў: «А ўсё-такі старэю...» і пастарэў яшчэ на некалькі хвілін» (V, 40); «Час бяжыць, бяжыць, а потым я спынюся, і ён пабяжыць далей...» (V, 39). «Дзіўнае, сцішнаватае яно — адчуванне прасторы за табой, прасторы пражытага...» (V, 38). А які ж вывад, якая рада мастака чытачам, як жыць, стала думаючы, што жыццё кароткае, мінучае. Вывады два: адзін можна выказаць словамі выдатнага мысліцеля-гуманіста Альберта Швейцэра — «благоговение перед жизнью»[2]. Швейцэр лічыць гэты прынцып вуглавым каменем сучаснай этыкі, усякай свецкай этыкі. Пра другі вывад я ўжо гаварыў раней: жыць змястоўна. Сам Я. Брыль у тым жа раздзеле падаў гэтую думку жыва, у чалавечым увасабленні: «Колькі таго жыцця!..» Часовасць гэтую разумеюць па-свойму і мудрасць і дурнота. Адна стараецца насыціць яе, часовасць, мудрым зместам, а другая — схапіць хоць што» (V, 39). Напоўніць увесь свой кароткі ці доўгі век мудрым зместам — значыць забяспечыць сабе месца на тым дыване-самалёце, які называецца час чалавечы, каб не забылася твая прысутнасць у свеце, каб помнілася зробленае для людзей.

Такі сэнс мае апублікаваны ў гэтым жа раздзеле лаканічны аўтараў праект тастамента: «У газеце, дзе вы надрукуеце мой некралог, няхай таксама будзе недзе по-

---

[1] Брыль Я. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1981. Т. 5. С. 31. Далей том і старонка — у тэксце.

[2] Швейцер А. Культура и этика. М., 1973. С. 304—326.

бач жывы, таленавіты артыкул пра несмяротнасць сапраўднай паэзіі» (V, 35).

Творчасць — гэта і ёсць спосаб на несмяротнасць, але несмяротнасць не можа быць адзіным і галоўным стымулам літаратурнай працы. Стымулам больш глыбокім з'яўляецца ўсведамленне свайго ўдзелу ў літаратуры, якая нясе праўду аб жыцці, яго ідэалах, мэтах.

Каб пражываць змястоўна ўласнае адзінкавае жыццё, чалавеку патрэбна далучыцца да жыцця зборнага, грамадскага, сваяцкага, сяброўскага, нацыянальнага, агульначалавечага, менавіта ў кантэксце жыцця ўсяго чалавецтва, якому няма канца, асоба можа пазнаць самую сябе, знайсці сваю мэту як функцыю мэты ўсечалавечай. Жыць для людзей дзеля іх шчасця, прыносіць радасць творамі, — усё гэта ідэі, якія свяцілі Я. Брылю з юнацтва. І яны застаюцца ў яго да сённяшняга дня. У трэцяй кніжцы мініяцюр «Сёння і памяць» чытаем: «Нагадалася, — Фёдар Абрамаў, які *ўжо не любуецца*[1] халаднаватай красой роднай Поўначы, і словы Льва Мікалаевіча пра тое, што назначэнне жыцця — радавацца. Радавацца і працаваць»[2]. Далучаная да радасці праца мае ў Я. Брыля прынцыповае значэнне, праца дае права на радасць, маральна абумоўлівае і апраўдвае радасны настрой. З прыемнасцю выпісвае Я. Брыль выказванне польскага паэта і эсэіста Ю. Пшыбася: «...трэба хоць раз у жыцці папрацаваць сумленна, як рабочы і селянін, каб пазбыцца сораму, што пяро лягчэйшае за молат і серп»[3].

У гэты кантэкст добра кладуцца і дакоры самому сабе, што не працуецца, і спробы супакоіць сябе тым, што праца пісьменніцкая трымаецца не толькі на абавязку, але і на творчым уздыме, натхненні, а натхненне не прыходзіць па загадзе. «Мітусіцца не трэба, — раіць пісьменнік самому сабе і ўсім, хто хоча паслухаць яго вопыту, — трэба берагаць свой час, заўсёды, штодня нацэльвацца на галоўнае, зноў і зноў вучыцца»[4]. Не толькі праца, удзел у працоўным працэсе чалавецтва дае права на радасць, апраўданне радасці можа ляжаць і ў самым гэтым пачуцці; у яго змесце: «Трэба

[1] Ф. А. Абрамаў памёр у маі 1983 г. (*Заўв. Я. Брыля.*)
[2] Брыль Я. Сёння і памяць. М., 1985. С. 298.
[3] Тамсама. С. 293.
[4] Тамсама. С. 288.

ўмець радавацца чужому поспеху. Думаючы пра поспех роднай літаратуры. Трэба не ўмець, а ўвесь час вучыцца гэтай радасці...»[1] Я. Брыль захапляецца працавітасцю сціплых пісьменнікаў, якія стараннасцю «прыпаялі» сябе да літаратурнай справы, ён прыгадвае вучня і сакратара Чарнышэўскага М. А. Воранава і бачыць у яго жыцці прыклад, варты пераймання. «І гэта зноў жа павінна вучыць нас, новых «прыпаяных» да свайго часу, сціпласці, адчуванню абавязку»[2]. Сумленнае выкананне абавязку ўраўноўвае таленавітых і сярэдніх радавых працаўнікоў літаратуры, увогуле працаўнікоў, адсюль паўстае універсальная дэфініцыя каштоўнасці чалавечага жыцця: «Разумнае, светлае жыццё — важна *само па сабе*»[3].

І вось, калі здаецца, што пісьменнік у сваіх роздумах над сутнасцю жыцця і прызвання чалавека дайшоў да канца яснасці, знайшоў формулу шчасця, аказваецца, што гэта толькі пачатак, бо над намерамі і думкамі стаіць вядомы элінскі афарызм, любімае выслоўе Сакрата: «Я ведаю, што я мала ведаю, а іншыя не ведаюць і таго».

Сэнс быцця. Калі б можна было ахапіць яго і выказаць адным словам, адным афарызмам ці вобразам, ён перастаў бы быць вечным пытаннем і жыццё наша страціла б сваю загадкавасць, прывабнасць, як траціць яно прывабнасць для тых, хто не шукае сэнсу, згаджаецца жыць як набяжыць. Жыццё ў момант адкрывання сэнсу як бы спыняецца, але ж аказваецца, што адкрыты не ўвесь сэнс, а толькі надзённая частка яго. Жыццё рухаецца далей, вабіць нас вечная дзея яго і новы сэнс і мэта. «Вечнае недаўменне: няўжо гэта толькі так — пажыў, памёр, і ўсё?.. ...Ідэалізм не змог растлумачыць гэта, і матэрыялізм таксама не растлумачвае. Нібыта ясна, аднак далёка не ўсё!..»[4]

У гэтым клічніку мне чуецца радасць з-за таго, што сэнс жыцця глыбокі і неразгаданы. Калі б яго таямніцу акрэслілі філосафы — жыццё страціла б прывабнасць нечаканага. Я. Брыль ведае людзей, якія пэўныя, што маюць канчатковую формулу сэнсу жыцця. На жаль, чым больш самаўпэўненасці ў гэтых людзей, тым больш

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 275.
[2] Тамсама. С. 277.
[3] Тамсама. С. 135.
[4] Тамсама. С. 259.

беднасці, банальнасці ў іх формулах. Найбольш цяжкія выпадкі зніжэння сэнсу жыцця — гэта бездухоўнасць, звядзенне жыцця да клопату пра сытасць, камфорт, кар'еру.

Я. Брыль вядзе зацятую барацьбу з бездухоўнасцю і вульгарнай апушчанасцю, трыбушною люмпенізацыяй, бо чалавеку ўласціва прага духоўнасці і патрэба сцвярджаць сябе добрымі справамі, дасягаць этычнай чысціні кожнага дня, кожнага кроку.

Вось студэнт-медык бяздумна і нахабна даводзіць «перавагу» натуралістычнага падыходу да чалавека над гуманістычным: «А што там ваш N.? Падумаеш — паэт! Усё роўна да нас, у анатамічку, прывязуць!..» Пазычыўшы пасля гэтага па-зямляцку грошай «на тыдзень», натураліст знікае з вачэй аўтара назаўсёды, а «...паэт... даўно ўжо прайшоўшы *апошні раз* медыцыну, шчырым словам сваім жыве і далей»[1]. Чым не сучасны варыянт пачатага калісь Гарацыем і прадоўжанага Пушкіным і Купалам помніка паэту ў слове, што мацнейшае за мармур і граніт, за ледзяную логіку морга і спажывецкае «ўменне жыць». Не проста метафарай, а філасофіяй сэнсу і сутнасці гучыць прызнанне: «З гэтага хлебнага паху, з працы — і я, маё маленства і маладосць»[2]. І яшчэ: «Адчуванне павагі да тых, што *ведаюць* і *працуюць*, — гэта было ў мяне заўсёды. На такім фоне бачыш, правяраеш сябе — ці тое, што трэба, ці на ўсю сілу робіш сваё»[3]. Яго назіранні і роздумы — прыклад спажыткоўвання здабыткаў уласнага і агульналюдскага духу для пераўтварэння чалавека ў Чалавека. Прыгадваючы свае ўступкі часоваму, спакусе хвіліны, каючыся ў пахібках і слабасцях, Я. Брыль высноўвае агульнае правіла творчых паводзін для сябе і для ўсіх: «Кожную кнігу трэба пісаць як апошнюю»[4]. А вось для тых, што не пішуць кніг: «Вялікая культура народа складаецца з намаганняў, працы і барацьбы мноства малых і маленькіх патрыётаў»[5].

Кнігі мініяцюр Я. Брыля даюць мужныя і мудрыя прыклады сустрэч чалавека з непазбежнасцю роздумаў і практычных крокаў па дастойным жыцці ў маладым

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 100.
[2] Тамсама. С. 300.
[3] Тамсама. С. 241.
[4] Тамсама. С. 315.
[5] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 176.

узросце і на завяршальным этапе, які аказваецца не менш адказным. Мастак праходзіць гэты этап без страху і штучнага падмаладжвання, але і без старэчай дэмабілізаванасці, кожны пражыты дзень — гэта праца душы, клопат і выснова, падказаныя фактамі штодзённасці, успамінамі, усечалавечай памяццю.

## ШЧАСЦЕ

У кнігах мініяцюр дапытлівы чытач знойдзе і глыбокія роздумы мастака пра шчасце, пра крыніцы радасці жыцця. Іх, як мне бачыцца, дзве: першая — радасць суzірання хараства свету і другая — радасць сумленна выкананага абавязку, клопат пра ачалавечванне свету і сябе ў ім.

Свет прыроды ў мініяцюрах знаходзіць пераважна лірычнае ўвасабленне, прырода ў Брыля стаіць на мяжы рэальнасці і казкі, яна хавае ў сабе таямніцу жыцця, зліўшыся з прыродай, можна сэрцам адчуць сэнс быцця і наталіць ім душу. Такія адносіны ў мастака з прыродай памятаюцца з юначых гадоў. Вось прыгадка пра сябе пятнаццацігадовага: «...пасля некалькіх дзён цяжкага, горкага роздуму пра жыццё, пра маё ў ім месца, пра маю — ужо тады — нікчэмнасць... мяне, падлетка, вярнула да жыцця, да разумення яго сэнсу прыгажосць навакольнага свету.

Найбольш запомніліся чорныя, бліскучыя, сыта гарластыя гракі над пакошай і на пакошы» (V, 14—15). Багаты ў Я. Брыля набор пейзажу, а яшчэ багацейшае рэха ўбачанага хараства, якім адзываецца яго душа на голас прыроды, у якім мастаку чуецца заклік да высокага: «Не, сёння неба не проста ціхае, а нейкае па-рафаэлеўску, па-анёльску чыстае. Так і нараджалася яна, мара пра вечнасць, пра неба» (V, 10).

«Напісаць трэба і пра тое, колькі я за жыццё спажыў хараства прыроды. На зямлі, на вадзе, у небе. Над ціхай рачулкай у родных мясцінах, гледзячы на гусіны паплавок. Паміж каўказскімі магутнымі букамі над зялёнай цяснінай. У бязмежжы данской ці вінніцкай пшаніцы. Над акіянам. Над белымі аблокамі» (V, 14).

Прывабнасць пейзажных мініяцюр Я. Брыля ў духоўнай змястоўнасці ўспрымання, у роздуме ды пазнаванні цераз сувязь з прыродай самога сябе і сэнсу жыц-

ця: «І ў Талстога яно, і ў іншых — краса прыроды кліча да міру, да любові»[1].

Варта прыгадаць у сувязі з гэтым сяброўскі водгук У. Салаухіна пра паездку з Я. Брылём па Наваградчыне і цікавае «здвоенае» рэха блізкіх па жанры, але розных па характары мастакоў на красу прыроды:

«Янка Брыль, — піша У. Салаухін, — як ініцыятар паездкі і як ураджэнец гэтых мясцін увесь час гаварыў нам з Піменам Панчанкам:

— Ну што? Як зямля? З вас за такія краявіды трэба браць па грывеніку за кожны кіламетр.

...Часам мы ўскліквалі, апярэджваючы гаспадара:

— За гэты кіламетр даём рубель»[2].

Па ініцыятыве Я. Брыля падарожнікі сышлі з дарогі і прылеглі ў жыце, учынілі хвіліну медытацыі, сузірання прыроды, яе хараства. Завяршаючы падарожжа, яны аб'явілі конкурс убачаных малюнкаў і эпізодаў. Першае месца заняла тая хвіліна медытацыі ў жыце. «Ляжанне ў жыце і песня жаваранка над намі», — піша Салаухін. У згаданай кнізе рускі майстар лірычных мініяцюр спыніўся на Брылёвай замалёўцы-прытчы са «Жмені сонечных промняў» — адкуль пустазелле. Нейкі дасціпны селянін, параўнаўшы даўнюю ручную сяўбу з машыннай, прыкмеціў, што апошняй не хапае пачцівасці да зямлі. Пры машыннай сяўбе часта сыплюцца непрыстойныя словы — вось і расце з гэтага пустаслоўя пустазелле. У. Салаухін пашырыў гэтую прытчу, увёўшы адно выключэнне: «Калі прызнаць філасофію беларускага селяніна, размову якога падслухаў чулы пісьменнік, а менавіта, што нахабныя, мярзотныя, мацюжныя словы абарочваюцца на полі пустазеллем, дык няўжо можна ўявіць сабе, быццам грубае, бруднае слова можа пераўтварыцца ў прыгожы, чысты васілёк? Ні ў якім разе, ніколі!

У калючы жабрэй — магчыма, у асот палявы — дапусцім, а ў чысты і ясны васілёк? Не, у гэтую кветку ўложана нейкая іншая ідэя»[3].

Вельмі паслядоўна адстойвае Я. Брыль права быць сабою ва ўсім. У яго разуменні гэта азначае быць шчырым і верным самому сабе, сваім словам і справам, не паддавацца карыслівым спакусам, не чапкавацца перад

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 219.
[2] Солоухин В. Олепинские пруды. М., 1973. С. 190.
[3] Тамсама.

модай, не дапускаць улады над душою, бо душа прымушаная, душа зняволеная не можа, не мае права тварыць, паколькі не можа яна зведаць ні высокай чыстай красы, ні адвечнай чыстай праўды. Патрэба і права творчай асобы быць сабой падаецца Я. Брылём як агульнае і адвечнае права быцця не толькі чалавечага, грамадскага, а і прыроднага: «Над Нёманам — магутныя вербы, тоўста налітыя здароўем алешыны і дубы, што моўчкі, надзейна трымаюцца на сваім» (V, 17).

Вынікам звычайнагаператамлення могуць здацца Брылёвы скаргі ў біяграфічных замалёўках на апатыю і немагату тварыць пасля напісання «Маці», «Сэрца камуніста», «Memento mori» на 41 годзе жыцця. Але такое тлумачэнне толькі часткова адкрывае сутнасць справы. Душа мастака стамлялася і адмаўлялася працаваць, бо прытамілася ад штодзённай адкрытай і часцей скрытай барацьбы з таварышам N., антыпісьменнікам, які ў 30-х гадоў жыраваў у літаратурным асяроддзі, меўшы ўладу над лёсам твораў. Гэтая постаць у нататках Я. Брыля мае свае разнавіднасці: то хітранькага маўчуна або бесклапотнага тупіцы, то пагрозлівага насарога, але сутнасць яе адна — гасіць салаўіны спеў таленту.

«Спявае салавей:

«Людзі, людзі! Ідзём! Ідзём! Віцязь! Віцязь! Па-лі-клі-ні-ка!..» ...Думаў: каму ж ён спявае? А я — каму пішу? Сабе?.. Такі павінен быць настрой, такая шчырасць. А чытача, вядома, трэба бачыць» (V, 8). Параўнаем гэтае крэда мастацкай шчырасці і абавязку мастака з норавамі таварыша N. «Ты красамоўны, разумны, вясёлы — што ж, смейся, жартуй, разгортвай, як паўлін, свой хвост бліскучасці. Але глядзі — спаткнешся, скажам, ці зробіш якое глупства — малапрыкметны таварыш абавязкова заўважыць. І ты тады зусім інакш зразумееш ягоную ўсмешку — усмешку з надзеяй на гэтае глупства. Страшны ты чалавек, хітраваты таварыш!» (V, 112).

Другі тып таварыша N.: сам прасталінейны і адкрыта грубы, амаль як мастак, і быў бы ён мастаком, каб не гэтае «анты», што закладзена ў яго натуры, «анты» можна перакласці ў нашым выпадку як дурань: «Пільнае вока спынілася на цьмяным загалоўку.

«Души священные порывы...» Вы што? Як можна іх душыць, і хто ў нас іх, скажыце, калі ласка, душыць?» (V, 112).

Ад змагання з таварышам N. стамілася душа мастака, ад такой, у асноўным, стомы ён лячыўся ў 1957 годзе на Нарачы, а ў 1958-м — на Свіцязі. Там паўстала кароценькая нататка, дзе аўтар, не раскрываючы прычын, браў усю віну на сябе і выказваў толькі непакой: а што, калі гэты стан творчай немагаты застанецца надоўга? Тады і самому каб не стаць таварышам N.?

«Я лячыўся чароўнай, амаль самотнай прыродай ад жудаснай усё-такі немагчымасці працаваць, быць разумна спакойным... Чытаў, а галоўнае... любаваўся цудоўным, такім блізкім і, адначасна, бясконца загадкавым светам.

Ці гэта важна толькі для мяне? Ці і я аддаю яго для радасці другім?..» (V, 11—12).

Адказ на пытанне, у чым таямніца хараства прыроды, у чым сакрэт яе гаючае сілы, гучыць традыцыйна: у добрым прыкладзе чалавеку, у вяртанні душы да гармоніі жыцця: «Адчуванне красы, удзячнасць за радасць гэтага адчування, думка пра векавечную тугу чалавецтва: ах, як бы нам пачаць нарэшце жыць разумна, згодна, шчасліва!.. Падумалася сёння, што толькі ў гэтым, у такім адчуванні красы прыроды, і ёсць адзіны сэнс апісвання» (V, 16).

Аднак жа натура Я. Брыля не чыста сузіральная, ён не згодзен цалкам растварыцца ў прыродзе, прыняўшы пасіўны лёс раслін, не, ён прагне ўнесці ў жыццё людзей, у іх стваральную дзейнасць, у іх чалавечыя адносіны хараство, аналогіяй якога можа быць суладнасць, гармонія прыроды: «Хлеб і краса, краса і хлеб — з нялёгкай працы» (V, 17) — вось Брылёва формула змястоўнай красы чалавечых адносін, засвоена, мабыць, з дзяцінства ў палявой, працавітай вёсцы Загора. Родную красу ён ацэньвае амбівалентна: «Рэдка бываю апошнім часам у родных мясцінах і таму, здаецца, магу ў нейкай меры свежым вокам глядзець на іх *простую і вельмі няпростую* [курсіў мой. — *У. К.*] красу» (V, 12).

У лясным царстве глядзіцца не толькі сімвал мастакоўскай натхнёнасці — салавей, але і сімвал працавітасці — дзяцел. Гэтыя два сімвалы, два станы вечна змагаюцца ў душы мастака, без іх змагання і суіснавання не было б творчай дзейнасці. У цудоўным эсэ «Тройчы пра адзіноту» Я. Брыль так параўнаў працу пісьменніка з заняткам дзятла: «Дзяўбе, — нават адразу здаецца,

што ён забаўляецца. Табе тут спачатку — музыка, фарбы, проста пацеха, і толькі потым, спакваля даходзіць, што ён — працуе, што і яму трэба есці» (I, 468). І з нейкай нотай апраўдання растлумачвае: «... калі б у душы маёй побач з адчуваннямі толькі чалавека не ішлі яшчэ і адчуванні літаратара, якому, як дзятлу, усюды і заўсёды хочацца, неабходна выдзёўбваць спажыву, — я быў бы проста рад...» (I, 469). Такім чынам, творчасць — гэта радасць і пакута, асалода і работа, а ўрэшце — шчасце сумленна выкананага абавязку перад людзьмі, перад жыццём, перад праўдай. Пісьменніцкі абавязак, з якога нараджаюцца праўдзівыя і змястоўныя творы, гэта для аўтара асабістая ахвяра. Ён прыносіць у ахвяру людзям сваё права проста любавацца прыгажосцямі свету і адварочвацца ад агіднасцяў, як гэта робіць звычайны чалавек. І хто б падумаў, што такой мажлівасці свабоднага любавання светам не мае мастак, які ўвекавечвае красу, прымушае любавацца ёю чытачоў, весяліць іх досціпам і ўзрушае. Любаванне хараством у мастака аказваецца не чыстае, а прыкладное, мэтавае, ён любуецца і павінен запамінаць, як працякае гэта любаванне, для яго ўсё гэта не проста радасць, а матэрыял для твора, матэрыял трэба фіксіраваць, потым фільтраваць, адбіраць, асвойваць, замацоўваць у слове. Пісьменніку даводзіцца працаваць нават у моманты самай высокай асабістай радасці, захаплення, шчаслівасці, і ў часе бяды, асабістага гора — ён нявольнік прызвання, які павінен здабыць асалоду і навуку для чытача і са сваіх горкіх пачуццяў.

А ў чым сутнасць мастакоўскага абавязку, які называюць часта місіяй, прызваннем? На гэта пытанне, як мы памятаем, Я. Брыль адказаў сцісла — рабіць з чалавека Чалавека — і зазначыў, што гэта справа неймаверна цяжкая і складаная.

З выказванняў Я. Брыля пра літаратурную творчасць найчасцей вылучаецца сітуацыя цяжкай працы, адкрывання людзям ісцін, якіх яны не хочуць заўважаць. На жаль, і ў вобразах-абагульненнях чытачы часта бачаць толькі звычайныя замалёўкі адзіночных здарэнняў. А гэта не так.

Я. Брыль — я чуў гэта — зайздросціць звычцы штодзённай працавітасці мастакоў слова — А. Упіта, Ю. Марцінкявічуса, пра якога даведаўся, што самай моцнай і неадольнай спакусай яго з'яўляюцца штодзён-

ная праца да стомы, вытрымка і грунтоўнасць. Пераказаўшы гэтыя ацэнкі, Я. Брыль самакрытычна пашкадаваў: «Чаго не хапае мне»[1]. Ёсць у гэтым шкадаванні шмат павышанай самакрытычнасці. Праўдай з'яўляецца толькі тое, што пісаць без натхнення Брыль не можа, і пры спадах ён трывожыцца і «грызе сябе». Але працуе ён няспынна, як пчала ці муравей, збірае матэрыял, які, накапліваючыся ў душы, павінен стварыць сітуацыю перапоўненасці, натхнёнасці, патрэбу аддаць узятак людзям, аблегчыць душу, а потым зноў пачаць пакутлівы збор назіранняў, пачуццяў, уражанняў, сітуацый, думак, патрэбных для новага твора. Я. Брыль ніколі не капіруе жыцця, ён доўга пераварочвае ў душы розныя падзеі, учынкі, сутыкае характары герояў, спалучае некалькі прататыпаў у адзін вобраз, кампануе і выстройвае твор. Па законах мастацтва гэтая праца павінна застацца незаўважанай чытачом, і мастак, як бы апраўдваючыся, зазначае: «Падбіраю, мяняю, прыдумваю, каб у выніку атрымалася як найбольш натуральна, праўдзіва, а потым крытыка лічыць такое ледзь не проста ўспамінам»[2].

Я. Брыль глыбока разумее і яскрава расказвае пра спецыфіку мастацкай працы, пра нябачны воку цяжар: «Мы, літаратары, па прыродзе сваёй самотнікі. Мы ўмеем знаходзіць шчасце ў сваёй самотнасці, мы нікуды не можам падзецца ад нашага болю, нашага роздуму, нашых сумненняў. Цяжка? І не паскардзішся, бо нехта можа спакойна сказаць: «Цяжка — пакінь». Дарэчы, так і раіў суровы Талстой. Справа ў тым, што пакінуць нельга, нельга стаць раптам не самім сабой»[3].

Кнігі Я. Брыля дэманструюць сілу духоўнай чуласці сучаснага пісьменніка, які жыве і дзейнічае ў прасторах нацыянальнай і сусветнай гуманістычнай думкі, культуры, адчувае сябе прадаўжальнікам вялікіх традыцый: «Пишу, как живу, и живу, как пишу», — узяў сабе на ўзбраенне гэты дэвіз Грыбаедава Прышвін і прадоўжыў яго: «...а творческое поведение я понимаю как усилие в поисках своего места в общем человеческом деле и как долг в этом общем деле оставаться самим собой»[4].

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 264.
[2] Тамсама. С. 250.
[3] Тамсама. С. 240.
[4] Тамсама. С. 227.

Я. Брыль не ўдакладняе і не працягвае на гэты раз думкі папярэдніка — далучаецца.

## КРАСА ЦІ ПРАЎДА

Мастацкую праўду не без падстаў лічаць ядром арэха, які цяжка бывае разгрызці. Дабываць праўду жыцця і ператвараць яе ў праўду вобраза, праўду пазнання — салодкую ці горкую, прыгожую ці агідную — гэта складанейшы момант мастацкай творчасці. Па-свойму цяжкім з'яўляецца і сам акт апавяшчэння: паведаміць свету салодкую і горкую праўду небяспечна, бо салодкая можа стаць падлашчваннем, а горкая можа быць аб'яўлена абразай аўтарытэтаў, разбурэннем святасцяў і многім іншым. Такую двухбакова вострую і небяспечную постаць мае мастацкая праўда, і мастаку патрэбна мець не толькі вялікую праніклівасць, але і адвагу, мужнасць або паэтычную безразважлівую апантанасць ці ўроджаную буянасць натуры, каб гэтую праўду дабываць і аддаваць людзям. Я. Брыль ад прыроды надзелены грунтоўнасцю і чуласцю, ад выхавання — абавязковасцю і адказнасцю, цяжка перажывае, дабываючы і апавяшчаючы праўду горкую, а яе ў жыцці кожнага чалавека не мала. Здараецца, што мастакі баяцца, думаюць, быццам праўдзівасці перашкаджае ў творы наяўнасць красы і майстэрства. У гэтай матэрыі абодва бакі могуць мець рацыю, бо, як гаварыў А. Чэхаў, «непрыгожае ніколі не рэальней за прыгожае»[1]. Я. Брыль не супрацьпастаўляў праўды красе. У мініяцюрах гэтая думка праходзіць як скразная.

«Танк-юбіляр сказаў, што за шмат гадоў літаратурнай працы ён зразумеў найлепш адно: застаецца не тое, што напісана прыгожа, а што праўдзіва.

А каб адно з другім? Як у Чэхава, у Талстога, у іншых такіх?»[2]

Пра творчасць М. Гарэцкага:

«...надзейна адчувалася і адчуваецца тая краса, ад якой і лепей бачыш далёка навокал сябе, і жыць хочацца разумна і прыгожа»[3]. Гэта ўжо працяг думкі, пры-

---

[1] Чехов А. Полн. собр. соч. М., 1974. Т. 13. С. 359.
[2] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 273.
[3] Тамсама. С. 183.

знанне красы духоўнай, якою звычайна свецяцца дабро, сумленне, высакароднае спачуванне і шчырая скруха. Краса і сумленне — родныя сёстры мастацкай праўды, а часта і яе канкрэтныя ўвасабленні.

Маральныя пачуцці дабра і зла, асуджэння і спагады суправаджаюць і падмацоўваюць нашу насалоду хараством ці ўзрушэнне — трагізмам і прымушаюць гідзіцца брыдотай, хоць гэта і нялюба нікому.

Філасофія Я. Брыля перадусім пісьменніцкая, у яго свядомасці дамінуе не інтэлектуальны лагічны пошук ісціны, а гуманістычны, калі ісціна спасцігаецца ўсёю істотай, усім чалавечым жыццём — на ўсю яго лёсавую дыстанцыю ад шчасця да няшчасця, ад нараджэння да смерці. Паказальна, што насалода і агіда, узрушэнне бядой і смех над дурнотай выступаюць у Брыля не так у выглядзе наказаў, дазволаў і забарон, як у выглядзе канкрэтных эмацыянальных рэакцый, нярэдка супярэчлівых, што адпавядае супярэчнасці свету і суб'ектыўнасці пазнання.

Вельмі плённым і актуальным аспектам выказвання мастацкай праўды з'яўляецца ўлік яе маральнай вартасці, здольнасці памагаць або шкодзіць чалавеку. Бывае, шкодзіць нават пахоплівае, бястактнае апавяшчэнне шчырай праўды. У павучальным эцюдзе «Праўдалюбы» Я. Брыль называе апавяшчэнне жорсткай балючай праўды злою радасцю цемры і подласці. Маральна тупы праўдалюбец сказаў падлетку: «Гэта ж не твае родныя тата і мама, яны цябе толькі ўзялі...»[1] Пісьменнік асуджае нялюдскасць такой праўдалюбнасці: «Калі тая ці той сірата зразумее ўсё па-належнаму, наколькі ж вышэй за «праўдалюбца» стане яна ці ён у сваёй ранняй сталасці!» Такім чынам, праўдалюбства ў канкрэтнай жыццёвай сітуацыі можа быць больш амаральным за далікатнае ўтойванне праўды, якая гняздзіцца ў інтымнай сферы міжчалавечых адносін.

Так і ў жыцці людзей ёсць розная краса, і можа яна быць праўдзівай, маральнай, але яшчэ і далікатнай, утанчонай. У мастацкай літаратуры поруч з творамі, напісанымі шурпата, знарок каструбавата ці наогул карава і груба, пад наіўны рэалізм, ёсць творы зіхоткія, напісаныя іскрыстай мовай афарызмаў і метафар. Гэтыя творы таксама могуць быць праўдзівымі і дзейснымі,

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 48.

але Талстой такога стылю пазбягаў. Ён не любіў «Слова аб палку Ігаравым», Шэкспіра, Заля, Метэрлінка, недалюбліваў польскую шляхту за яе паказную зухаватасць, а рускую арыстакратыю — за яе фальшывасць, прытворства, паказную чуллівасць і пустое паразітычнае існаванне. Разам з тым ён прыязна ставіўся да тых джэнтльменаў, якія хоць прытрымліваліся арыстакратычных манер, але паварочваліся тварам да народа. Горача любіў Талстой народных інтэлігентаў, якія неслі ў нізы разумнае, добрае, вечнае. Чытаючы Талстога, міжвольна задаеш сабе пытанне: ці мае права быць краса няпростай? Над гэтым многа разважаў Брыль. Для яго гэта важна, сам жа ён у жыцці і творчасці рэаліст, але адначасна і выдатны стыліст, які хоча ўзбагачаць беларускую прозу і самую мову новымі словамі, выразамі, мелодыкай гучання. З агаворкамі прымаў Брыль схільнасць Л. Талстога да суровага і нават каравага, шарачковага стылю. Настаўнікамі Брыля ў справе майстэрства былі М. Гогаль, А. Чэхаў, а сярод савецкіх пісьменнікаў ён лічыць блізкімі сабе менавіта тонкіх стылістаў — М. Прышвіна, К. Паўстоўскага, з беларускіх — маладзейшых сяброў — М. Стральцова, А. Жука, А. Кудраўца.

Хочацца падкрэсліць, што добры стыль пісьма для Брыля — гэта не зіхоткі і не квяцісты зарапад, а дакладны, акуратны — чысты апавядальны струмень празаічнага расказа: «Кёка Хаясі...

Проза такая чыстая, акуратная, дакладная, што здаецца: гэта ад іерогліфаў, якія, відаць, не дазваляюць нічога лішняга»[1].

## ТАЕМНАСЦЬ ХАРАСТВА

Пра хараство Брыль не гаворыць, што гэта гармонія свету, прымірэнне супярэчнасцяў, лад у касмічнай прасторы і спакой у душах людзей, не кажа ўслед за Гегелем, што краса — супадзенне з'явы з ідэяй, цудоўная дасканаласць жыццёвай субстанцыі. Ён нездарма лічыць сябе больш практыкам, чым тэарэтыкам у падыходзе да праблем жыцця, карацей кажучы, насамперш мастаком, які заняты тварэннем, а не мудраваннем ва-

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 162.

кол красы, устанаўленнем красе правіл, прынцыпаў, законаў.

Хараство ў Брыля — дарунак жыцця, яно нясе ў сабе радасць цвіцення, асалоду сузірання, якога заўсёды здаецца замала, як, зрэшты, і часу на пазнаванне, чытанне. Пісьменнік ставіць побач, у адзін рад, чытанне кніг і любаванне царствам прыроды, а перадусім нашымі блізкімі. Розныя гэта дзеянні, але ўсе яны носяць высокі духоўны характар, прасвятляюць душу, робяць жыццё чалавека больш свядомым, значыць, свабодным ад няведання. Чалавек, на жаль, асуджаны на незакончанасць: ніводнаму доўгажыхару не хапіла жыцця на пазнанне свету і ніхто не нацешыўся хараством свету ўдосталь.

Краса для Брыля — нешта таемнае, дзіўнае. Ад яе можа быць карысць чалавеку: утульнасць, камфорт, слодыч і любасць на душы, аднак не толькі ў карысці вартасць прыгожага: «І зноў у мяне паўтарылася недаўменне: а чаму гэта людзі лічаць, што ўсё *для іх,* называюць адно карысным, а іншае не? Калі краса ў прыродзе перш за ўсё для самой сябе і для ўсяго агульнага»[1]. Што азначае гэтае «для самой сябе»? Прадчуванне чагосьці неспазнанага, нейкай таемнай і ўзрушлівай сілы, якая належыць самому жыццю, а не персанальна чалавеку, хоць бы ён і называўся царом прыроды. Нельга змерыць патрэбамі чалавека красу свету хоць бы таму, што свет са сваёю красой існаваў мільярды гадоў да чалавека: «Зноў ластаўка моліцца на драціне за маім акном»[2]. «Сонца ярка ўзыходзіць. А ў сонцы красуня сасна, якую абстуквае дзяцел. Цяжкі хлеб!..»[3]

Інакш праяўляецца краса ў сферы чалавечых адносін, краса ў грамадстве, ядром тут — лад, такт і добры густ. У сферы адносін няма красы без этычнае чысціні. Калі краса ў грамадстве — па Гегелю — гэта свабода, то краса міжчалавечых адносін як такіх — гэта перадусім узаемапавага, да якой пракладваюць сабе сцяжыну дабрыня, міласэрнасць і паціху наша беларуская рахманасць.

А ў мастацтве краса ўспрымаецца Брылём як каштоўнасць, якая належыць нацыі, а цераз яе ўсяму чалавецтву. «...светла, цёпла было на душы ад сутыкнення з

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 90—91.
[2] Тамсама. С. 95.
[3] Тамсама. С. 98.

непераможна чалавечай Вечнасцю...»[1] — запісаў ён пасля наведвання памятных мясцін славутага літоўскага паэта і мысліцеля Крысціёнаса Данелайціса.

На пытанне, што такое краса, Брыль не дае адназначнага адказу, ён схільны прыняць і прызнаць яе просты і ўскладнены варыянт. Адкідае мастак толькі варыянт красы падманнай і нахабнай, фальшывай і пустой, красы дзеля забавы ці ўзвышэння, а найбольш — красы ядавітай, зласлівай, якая прыкрывае разбэшчанасць. Вакол ядра красы ў Брыля часта носяцца нейкія адмоўна зараджаныя целы: адно — фальшывае пустазвонства, вычварнасць, другое — прасцецкая вульгарнасць, хамаватасць. Вось узор гэтай другой, увасоблены, як ні дзіўна, у постаці сталічнай пісьменніцы, якая: «З бойкай, амаль мужчынскай суровасцю, нейкім нават пракураным баском... пра кагосьці сказала: «Он свои мысли выковыривает из зада»... Можа, гэта і справядліва было сказана, аднак я — вось ужо больш за дзесяць гадоў, — сустрэўшы ў друку імя гэтай пісьменніцы, успамінаю перш за ўсё басок і... чытаць яе не хочацца»[2].

Выключна яскравы прыклад нязгоды маральнага, праўдзівага і прыгожага. Перабор меры ў прастаце, нават калі ён адпавядае праўдзе жыцця, — неэтычны, а значыць, і непрыгожы. Гэта тая прастата, якую палякі пагардліва завуць прастацтвам, або прастата грубая, абразлівая, пра якую рускія гавораць, што яна «хуже воровства».

Супрацьлеглы выпадак нязгоды паміж прыгожым і маральным убачыўся пісьменніку, калі ён глядзеў і слухаў па тэлевізары маладую спявачку, што ўваходзіла ў моду. «Млявым галаскам самазакаханай пястункі яна выводзіць:

Матушка возьмет ведро,
молча принесет воды...

Не вытрываў: «Сама, жаробка, не прынесла б?»[3] Тут штучнае, прытворнае хараство сустрэлася з натуральнаю мерай маральнага, якая арганічна жыве ў народзе і якую пісьменнік хоча бачыць агульначалавечай. Для пакарэння красой спявачцы не хапіла прастаты, самазакаханасць забіла і добры тэкст, і добры голас, манер-

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 55.
[2] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 254.
[3] Тамсама. С. 262.

насць знішчыла патрэбную прастату, да якое абавязваў тэкст, словы таленавітага паэта М. Рубцова, краса знікла, асалода ў слухача змянілася прыкрасцю.

Прастата складанага і багатага душою чалавека прыгожая: «Чеховская *обезоруживающая* простота», — ахарактарызаваў гэты тып хараства Я. Брыль, але палічыў патрэбным растлумачыць: «Обезоруживающая» — таму, што прастата гэтая так шчаслівa нас паняволь-вае»[1].

Прастата, патрэба прастаты для пісьменніка, чалавека, надзеленага талентам, упіраецца заўжды ў праблему сціпласці, здольнасці не пагарджаць простымі людзьмі, адчуваць сябе партнёрам па быцці, па прызванні і нават па мажлівасцях. Вось Я. Брыль гаворыць з вяскоўцамі, людзьмі свайго пакалення, і ў іх гутарцы само сабою ўзнікае панібрацтва, зварот «хлопцы», які ўраўноўвае народнага пісьменніка з калгаснікам: «Хай сабе адзін з нас паплаўнічы[2], другі столяр, трэці пісьменнік, аднак жа мы аднагодкі амаль і — перш за ўсё — *свае людзі*. У гэтым прыемнасць мая, і так бы сябе адчуваць»[3]. Сціпласці і любові да людзей навучыла яго не толькі сялянскае паходжанне (фетыш сацыяльнага паходжання для яго пусты гук, плод сацыяльнага эгаізму, што розніць людзей).

Краса для Я. Брыля — не застыглая. Яна жывая, рухомая, з мноствам адценняў, якія часам ператвараюць яе ў супрацьлегласць: «Нашы старыя могілкі... у зеляніне ды ў сонцы, нібы нават прыгожыя, сумна прыгожыя»[4]. Марсель Пруст гаварыў, што свет быў створаны не адзін раз, а столькі разоў, колькі раз нараджаўся вялікі мастак.

Зменлівай выдаецца Я. Брылю краса жаночая. Старaючыся перадаць яе непаўторнасць, пісьменнік падбірае нярэдка цэлыя чэргі эпітэтаў. Вось як апісана краса маладзенькай дырэктаркі дома адпачынку: «Чарнявая, блакітнавокая, з вяснушкамі на твары, ад чаго яе... ну зусім маладая, шчасцем адораная краса — цяпер, здалёк — бачыцца яшчэ больш сумнавата-соладка-прывабнай»[5]. А далей краса жанчыны ў сярэднім узрос-

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 274.
[2] Сенакосны стораж *(заўв. Я. Брыля)*.
[3] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 299.
[4] Тамсама. С. 50.
[5] Тамсама. С. 61.

це: «Маруся — у загарэлай і пышнаватай красе шчаслівай маці, якой толькі пад сорак»[1].

Аповесць «Хаджы Мурат» адкрываецца хвалюючым апісаннем простага, някідкага, але мужнага хараства, якое ўвасабляе прыдарожны куст дзядоўніку. Букет асенніх палявых кветак — толькі фон для куста, кветкі якога не падышлі аўтару для букета, але здзівілі і ўзрушылі яго неверагоднай трывучасцю. Менавіта трывучасць як этычная катэгорыя праявілася тут так магутна, што пачала выклікаць эстэтычнае ўзрушэнне, здзіўленне, усё, што суправаджае ўспрыманне ўзнёслага і трагічнага: спачатку страх ці боль пакуты, а потым гордасць за гэтага прыдарожнага пакутніка «татарына», у якога «адна сцяблінка была зламана і палавіна яе, з бруднаю кветкаю на канцы, вісела ўніз, другая, хоць і вымазаная чарназёмным балотам, усё яшчэ тырчала ўгору. Відаць было, што ўвесь кусцік быў пераеханы колам і ўжо потым падняўся і таму стаяў бокам, але ўсё-такі стаяў»[2].

Заўважым, што апісанне куста дзядоўніку ў Талстога зроблена простаю мовай, аўтар не захапляецца «героем», а толькі вельмі дакладна, канкрэтна перадае яго выгляд і растлумачвае непрыдатнасць кветак нават для сціплага букета, краса дзядоўніку лішне прасцецкая і пакутлівая, каб упрыгожваць жаночы пакой. А ўсё ж гэта краса, прытым высокая, сімвалічная, як у таго Брылёвага пахілага мэндліка жыта, што супраціўляўся ўсім віхурам жыцця ў апавяданні «Маці».

З дзіцячых год простае сялянскае жыццё прывучыла Я. Брыля заўважаць красу ў будзённым, зрэбным, трывушчым. Л. Талстой упэўніў яго сваімі трактатамі і мастацкімі творамі, што сапраўднае хараство там, дзе сапраўднае жыццё, а сапраўдным ён лічыў толькі жыццё працоўнае і духоўнае, простае і ахвярнае. Дзве красы — народная і панская, простая і вычварная, супрацьпастаўляліся Талстым, падобна як і народнай свядомасцю. Сапраўднай красой называлася першая, бо яна бліжэй стаяла да праўды, справядлівасці, дабра. Красою сумленнаю, праўдзіваю і зычліваю свету, а не фальшываю і ганарыстаю, як панскае бытаванне, вучыла любавацца родная беларуская літаратура. Усё лепшае ў

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 56.
[2] Толстой Л. Собр. соч.: В 20 т. М., 1964. Т. 14. С. 24.

ёй было гарачым сцверджаннем шарачковай, жывучай мужыцкай красы, яе маральнай перавагі над панскай, вычварнай і самаздаволенай. Пазіцыя Я. Брыля ўвасабляе паяднанне талстоўскага эталона з беларускай нацыянальнай традыцыяй.

Падобнае мы сустракаем у многіх беларускіх мастакоў слова, сюды падыходзіць і знаёмы нам жораў з апавядання Цёткі «Міхаська», і «цвяток радзімы васілька» М. Багдановіча, маральна-патрыятычны канкурэнт персідскаму ўзору, гэта і саматканая матчына дзяружка-«перабіранка», як антыпод пышнага ўсходняга дывана з верша М. Танка «Я гляджу на дываны». Нешта падобнае мы бачым і ў творах Я. Брыля: яго козлік-ветэрынар, непародзістыя сабачкі, гераіня першага сталага апавядання Марыля, выгляд і нутро беднай сялянскай хаты з навелы «Як не тая», простыя ды смакавітыя стравы на сняданні ў краўца Кастуся Лапінкі, старая спрацаваная бабуля, партрэт якой малюе самадзейны мастак Алесь Ганчарык з аповесці «У сям'і», і вобразы-малюнкі беларускай прыроды, нават воблік самой заходнебеларускай літаратуры, сціплай, але роднай, у якой вечна пачынаючы пісьменнік Міхась Ганчарык хоча стаць першым празаікам сярод паэтаў. Атрыбутамі трывучай, някідкай, але мужнай і нават узнёслай красы надзелены ў Брыля камуніст-падпольшчык Мікола Кужалевіч з «Сірочага хлеба», Іван Дарма з аповесці «Граніца», Павел Жалезняковіч і Уладзімір Царук з нарыса «Сэрца камуніста», Рафаіл Сяржант з «Партрэта старэйшага таварыша», таксама трагічны вобраз печніка з апавядання «Memento mori».

Але разам з тым прысутнічае ў яго творах эталон красы не простай, не аскетычнай, а багатай, нават раскошнай, такою надзелена настаўніца пані Мар'я з аповесці «Сірочы хлеб», усе чатыры дзяўчынкі з рамана «Птушкі і гнёзды» — немка Марыхен, полька Стася, чэшка Іржынка і беларуска, сяброўка школьных гадоў Руневіча, Лідачка — увасабляюць гэтую шчодрую красу цвіцення. Зразумела, і яна падмацоўваецца маральнай чысцінёй, схільнасцю да дабра.

Ёсць у Я. Брыля і вобразы, якія надзелены эфектнаю, кідкаю знешняю красой, але гэтая краса аказваецца пустою або зласліваю, бо канфліктуе з маральнымі каштоўнасцямі. Увасабленнем такой красы можна лічыць перакладчыцу з апавядання «Memento mori» і мно-

гіх піжоністых гітлераўцаў з рамана «Птушкі і гнёзды». Сярод вылучаных намі тыпаў красы, як можна заўважыць, не аказалася месца Алесю Руневічу, Даніку Мальцу, Галі, а гэта самыя важныя, ідэйна змястоўныя героі Я. Брыля, занадта змястоўныя, каб іх ацэньваць толькі эстэтычнымі катэгорыямі. У гэтых вобразах прыгожае спалучаецца з паўнагучна-маральным, духоўным.

Дзве супрацьлеглыя мадэлі харaства — простай, аскетычнай і складанай, раскошнай — узніклі не ў часы Талстога і Чэхава, яны існавалі, мабыць, з таго часу, калі зараджалася эстэтычнае ўспрыманне свету на ўзроўні першых, высечаных у пячорах Альтаміры жывёльных татэмаў. Адна са старадаўнейшых дэфініцый простай красы належыць кітайскаму філосафу Ду Фу, які гаварыў: «Не трэба быць дарагім, як яшма, трэба быць простым, як камень». Няма сумнення, што афарызм Ду Фу узнік як альтэрнатыва супрацьлеглай мадэлі красы: нельга быць банальным і шэрым, трэба быць зіхоткім, як дыямент.

У розныя эпохі і ў розных асяроддзях на першы план высоўвалася адна ці другая мадэль, а ў эпохі стабілізацыі густаў абедзве яны сужываліся і ўзаемадзейнічалі ў кірунку росквіту, узбагачэння густаў.

## ПАРАДКАВАННЕ ДУШЫ

Мініяцюры, падобна як і творы камернай музыкі, патрабуюць ад чытача актыўнага творчага ўзаемадзеяння пры чытанні. Той, у каго зваротная творчая актыўнасць слабая, прачытвае тэкст павярхоўна, прапускае кантэкставыя значэнні, не глыбока пранікае ў падтэкст, а сам твор здаецца яму нецікавым або цяжкім для разумення. Калі ўзяцца чытаць мініяцюры ўзапар, дык спатрэбіцца акрамя здольнасці раскрываць увесь эмацыянальна-вобразны змест твора яшчэ ўменне самому складваць з малых твораў агульны вялікі вобраз жыцця, у сярэдзіне якога стаіць мастак, аўтар, лірычны суб'ект, той чалавек, які заўважыў і захаваў для людзей гэтую безліч эпізодаў, здарэнняў, уражанняў, роздумаў, ацэнак жыцця, прыцягнуў да іх увагу, але пакінуў самому чытачу права адказваць на пытанне — навошта ўсё гэта, які ў гэтым сэнс, якую з гэтага можна мець карысць і прыемнасць. Бо мініяцюра дае чытачу, як квет-

ка пчале, столькі нектару, сколькі можа ўзяць яго душа. На жаль, узровень прачытвання Брылёвых мініяцюр у крытычных і літаратуразнаўчых працах нельга лічыць дастаткова высокім. Крытыкі часта выказваюць агульныя захапленні, высмыкваюць асобныя творы і каменціруюць змест, але не важацца назваць сутнасці ўсёй кнігі, выявіць яе цераз якасць уласнай рэакцыі.

Часта складваецца сітуацыя, як пасля канцэрта камернай музыкі: слухачы адзін перад адным хваляць канцэрт, каб не выглядаць некультурнымі, а за што хваляць — не дагаворваюць. Ва ўспрыманні камернай музыкі такое яшчэ дапушчальна, там можна хваліць кампазітара і выканаўцаў за асалоду, узрушанасць, абуджаную гучаннем, мелодыяй, а ў літаратуры ідэя перадаецца словам, якое не толькі гучыць, а перадусім нешта значыць, нясе думкі, якія будзяць уяўленні, перажыванні, асацыяцыі. Мне здаецца, зразумець духоўную патрэбу, якая наказвае Я. Брылю пісаць мініяцюры, запісваць назіранні, уражанні і роздумы, можна, карыстаючыся вядомаю сентэнцыяй філосафа Мантэня: «Каштоўнасць душы вызначаецца не здольнасцю высока ўзносіцца, але здольнасцю быць упарадкаванай заўжды і ва ўсім»[1]. Дык вось, уладкоўванне душы, патрэба мець упарадкаваную душу, не пакутаваць ад безалабернасці, забыўлівасці ў абавязках, ад зайздрасці і нячуласці да патрэб і пакут іншых людзей, ад марнавання часу, псавання настрою і жыцця людзям. Весці няспынны суд сумлення над самім сабой для таго, каб мець права ацэньваць і судзіць карэктнасць паводзін іншых суб'ектаў жыцця, — вось у чым этычная і быційная праблемы творчага жыцця пісьменніка. Яна і спарадзіла вялізны айсберг мініяцюр Я. Брыля. Чатыры кніжкі — «Жменя сонечных промняў», «Вітраж», «Сёння і памяць», «На сцежцы — дзеці» — гэта толькі надводная, бачымая сёння частка айсберга. Нашчадкаў чакае частка глыбінная, свінцовы цяжар гістарычнага трагізму, які чуцён ужо з часопісных публікацый.

Мініяцюры як бы ўводзяць нас у свет дзеючай і здзейсненай маралі эпохі, па словах Гогаля, кожны зварот пісьменніка да сябе, да сваёй душы і свайго вопыту з'яўляецца прыкладам, які можа заахвоціць чытача, узбагаціць пераконаннем, што ключ да этычных ацэнак

[1] Монтень. Опыты. М., 1960. С. 33.

і паводзін знаходзіцца ў руках яго самога як індывіда, асобы, здольнай разумець нават прыроджаныя патрэбы як з'явы чалавечыя, а не біялагічныя. Свядомыя, асэнсаваныя паводзіны — вось шлях да чыстага сумлення, гарант асабістай годнасці, якая робіць чалавека адказным не пад прымусам ці пад знешнім кантролем, а толькі па ўнутраным наказе душы.

Вядомы польскі пісьменнік і філосаф Роман Інгардэн гаворыць у трактаце «Аб чалавечай натуры»: «Чалавек можа дапускаць жахлівыя жорсткія ўчынкі, але разам з тым ён — адзінае стварэнне, якое адчувае сябе прыніжаным тымі ўчынкамі і стараецца адпакутаваць за сваю віну. У крайніх выпадках гатовы скончыць з сабой для ратавання сваёй годнасці... Урэшце, праўда і тое, што ў большасці выпадкаў карысць абумоўлівае яго дзейнасць, але ён адзінае жывое стварэнне, якое можа ствараць творы і сітуацыі зусім бескарыслівыя»[1].

## КЛАС ТАЛЕНТУ

Праблема адметнасці таленту Я. Брыля, манеры, стылю застаецца пакуль што ў стадыі дыскусій. Найчасцей гаворыцца пра лірызм з рознымі эпітэтамі — то мужны, то чулы і духоўна азароны. Мне здаецца, адказ трэба шукаць найперш у якасцях асобы аўтара, усіх яго твораў, а не толькі мініяцюр. Я. Брыль выбірае героямі каларытных людзей, а найбольш змястоўных робіць скразнымі апорнымі персанажамі (кравец Лапінка з «Праведнікаў і зладзеяў» і кравец з «Цудаў у хаціне», «Птушак і гнёздаў» і іншых твораў); дзядзька з апавядання «Як маленькі», Паўлюк з апавядання «Мой зямляк», ляснік з «Трэба паехаць» або маці — у яшчэ большай колькасці твораў. Часта характэрныя тыпы Брыля ўспрымаюцца як дзівакі, чымсьці яны падобныя на несмяротнага героя народнай казкі Івана-прастака. Гэта людзі непрактычныя, яны не маюць гаспадарчай хваткі, карыслівасці, ім хочацца жыць свабодней, шырэй — на ўсю паўнату натуры. Іх духоўны свет аказваецца зычліва адкрытым для добрых пачуццяў. Героі гэтыя перажываюць, радуюцца і пакутуюць, а пры гэтым выпрабоўваюць на сабе рэальнае жыццё, сцвярджа-

[1] Ingarden R. Książeczka o czlowieku. Kraków. 1975. S. 22.

юць, наколькі існуючы склад і лад чалавечых адносін дазваляе чалавеку разгортваць сябе як асобу, наколькі грамадскі лад і парадак прымае і цэніць непаўторнасць індывіда, наколькі цярпімы ён да бескарыслівага дзівацтва, наколькі зычлівы для людзей ахвярных і незалежных.

Прыгледзеўшыся да характэрных герояў Я. Брыля, якія выступаюць увасабленнем ідэалу аўтара, яго філасофіі быцця, мы заўважаем букет густоўна падабраных характараў — ад дзівакоў-жартаўнікоў і вясёлых няўдачнікаў да трагічных ахвярнікаў і нязломных змагароў, якія таксама, бывае, балансіруюць паміж вялікім і смешным.

Метай дзівацтва кранугы ўсе станоўчыя героі Я. Брыля — Данік і Мікіта з «Сірочага хлеба», мужчыны з аповесці «У сям'і», цэлая галерэя тыпаў з аповесці «Ніжнія Байдуны». У чым жа гуманістычная сутнасць бяскрыўднага дзівацтва? Зразумець гэта найлепш дазваляюць вобразы трагедыйныя — маці з аднайменнага апавядання; сялянка, што насуперак пагрозам акупацыйнай улады адважылася накарміць акружэнцаў; пячнік з «Memento mori», які добраахвотна пайшоў на смерць дзеля захавання салідарнасці з землякамі і ўласнай годнасці; пажыццёвыя вязні польскіх турмаў, ліра-драматычныя персанажы — Сурмак, Жыцень, Галя і іншыя. Брыль асцерагаецца так званага аптымістычнага трагізму, схіляецца да трагікамічных калізій і герояў.

Што агульнага ў гэтых розных характарах? Перадусім бескарыслівасць, патрэба жыць для іншых, жыць годна. Акрамя маральнай каштоўнасці, варта ўлічыць сацыяльную вартасць дзівацтва. Часта яно з'яўляецца гратэскавай формай пратэсту супраць грамадзянскай безадказнасці. У жорсткім прагматычным свеце дзівацтва — сімвал шчырай і чулай душы, свабоднай волі. Дзівакі выпраменьваюць больш за сярэднюю норму душэўнага цяпла, для іх наказ сумлення больш важны арыенцір, чым падказка практычнага розуму, хоць і розум можна спажыткаваць сумленна. Сваімі паводзінамі героі Брыля часта як бы правакуюць вузкапрактычных суб'ектаў на выпады. Дзядзьку з навелы «Як маленькі», Мікіту з «Сірочага хлеба», Паўлюка з «Майго земляка» ўшчуваюць жонкі, мужчын Ганчарыкаў з аповесці «У сям'і» ацвярожвае бабка, праўда, яна сама ўрэшце пера-

ходзіць у «іх веру» і цераз гэтую непаслядоўнасць выяўляе сваю чалавечую вартасць. У апавяданнях «Марыля» і «Галя» гераіні, пад уздзеяннем абставін, спачатку робяць уступкі карыслівай спажывецкай норме жыцця, а потым за гэта пакутуюць, пячнік з «Memento mori» як бы сам напрошваецца на смерць, тое ж маці з аднайменнага апавядання.

Мне думаецца, нельга звесці праблему стылю і манеры Брылёвай прозы да паводзін аднаго галоўнага героя, уяўнага равесніка ці двайніка аўтара, і прыпісаць яму абсалют характэрнасці. Справа мне бачыцца якраз у тым, што Я. Брыль асцерагаецца злоўжываць правам на унікальнасць, мастак ураўноўвае сябе з многімі добрымі людзьмі і ў складаных сітуацыях паўтарае: «Усе мы крыху паласатыя». А беручы больш маштабна: «Паняцце блізкіх сёння трэба, ужо і неабходна пашыраць на ўсіх людзей, на ўсё чалавецтва»[1]. Ад чалавека Я. Брыль патрабуе аднаго — хацець быць людскім, старацца быць лепшым і за гэта жаданне гатовы даравацъ многа хібаў і слабасцяў. Летунковасць у адносінах да жыцця, фактычна слабасць, яна, аднак, у Я. Брыля паэтызуецца як станоўчая рыса — засцярога ад зачарсцвення душы, якое пазбаўляе людзей сапраўднай радасці, самапавагі і годнасці.

Адметнасць, непаўторнасць творчай манеры Я. Брыля крытыкі спрабуюць акрэсліць катэгорыямі літаратурных родаў: лірызм — драматызм — эпічнасць — аналітычнасць або плюсавымі катэгорыямі эстэтыкі: прыгожае, узнёслае, станоўчы гумар і аптымістычны трагізм. Многае ўлоўліваецца такім спосабам, але не ўсё, недарма ж адны знаўцы сцвярджаюць, што Я. Брыль — лірык у прозе, а іншыя круцяць галавою. Сам жа аўтар успрымае азначэнне «паэт у прозе» як пасведчанне аб беднасці. Калі б Я. Брыль быў толькі лірыкам любою цаной, дык наўрад ці напісаў бы ён паралельна з лірычнымі мініяцюрамі, апавяданнямі і аповесцямі дзве кнігі крытыкі і шмат нарысаў, эсэ, артыкулаў, мастацкай «дакументалістыкі». Нават мініяцюры — жанр пераходны, многія з іх не лірычныя, а разумовыя. Я схільны прызнаць рацыю Алеся Адамовіча, які гаворыць: «Уласна кажучы, «чыстая лірыка» не самае моцнае ў стылі Я. Брыля. Значна мацнейшы гэты мастак

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 200.

там, дзе лірызм яго нібы ўраўнаважваецца вось-вось гатовай успыхнуць усмешкай, а драматызм і нават трагізм — мудрай народнай разважлівасцю»[1]. Мне думаецца, што ні чыстая лірыка, ні чысты драматызм, ні чыстая эпічнасць наогул не даюць іх уладальнікам творчай моцы. У вялікіх мастакоў лірызм, драматызм і эпічны спакой звычайна выступаюць у складаных сувязях. Іх кампаноўка і мера ў канкрэтным выпадку бываюць абумоўлены талентам, густам, а часта і творчай задумай. Мастак увогуле не адвольна прымае эстэтычны каларыт і танальнасць, ён адказвае за гэтыя рэчы настолькі, наколькі адказвае за праўду. Мастацкая праўда хоць і з'яўляецца катэгорыяй не ўласна эстэтычнай, але звычайна аказваецца ідэйна-творчым вузлом або стрыжнем, на які арыентавана ўсё астатняе. Сумяшчэнні родаў і катэгорый, падобна як гібрыдызацыя ў біялогіі, можа даць пры шчаслівых супадзеннях значна большы плён, чым рафініраваная адасобленая чысціня віду.

Складаным бачыць талент Я. Брыля чэшскі літаратуразнаўца і перакладчык Вацлаў Жыдліцкі. У пасляслоўі да выдадзенай у Празе кнігі аповесцей і мініяцюр «Апошняе спатканне» ён гаворыць: «...калі чытаеш яго спелыя творы апошняга дзесяцігоддзя, здаецца, што яны ўтвараюць своеасабліва пабудаваны адзін лірычны маналог, у якім аб'ектыўная карціна свету адсунута на задні план унутраным светам аўтара»[2]. Звяртаючыся да пытання, чаму сам Я. Брыль не любіць быць «паэтам у прозе», даследчык растлумачвае: «...бо ў падмурку яго творчасці ляжыць не разлезлае слязлівае пачуццё, а думка, прасякнутая пачуццём, эмацыянальна зараджаная гісторыяй»[3].

Называючы Я. Брыля лірыкам, удумлівыя крытыкі лічаць патрэбным удакладняць гэтае азначэнне, так Л. Навічэнка ў прадмове да двухтомніка Я. Брыля ў перакладзе на рускую мову называе аўтара лірыкам «натуральнага глыбокага дыхання»[4]. Удакладненне істотнае, бо сапраўды лірызм у Я. Брыля незвычайны, эмацыянальнасць, аснова лірызму, шчасліва дапаўняецца ў яго глыбокаю думкай. Я сказаў і шчасліва, бо звычайна думка аслабляе лірычны настрой душы, спантан-

[1] Адамович А. Горизонты белорусской прозы. Мн., 1974, С. 268.
[2] Bryl J. Posledni setkani. Praha, 1983. C. 5.
[3] Тамсама.
[4] Новиченко Л. Проза добрая, поэтичная // Брыль Я. Избр. произв.: В 2 т. М., 1984. Т. 1. С. 5.

насць лірычных пачуццяў. У Брыля думка не ахaлоджвае лірычнага настрою, а толькі кантралюе яго, прызываючы ў сведкі людзей, вартых даверу. Эмоцыі ўпарадкоўваюцца, прапускаюцца праз сіта, сатканае з бацькавага разумнага досціпу і з матчынага суровага погляду на абавязак жыцця, з грубага дзівацтва нейкага бывалага земляка, а галоўнае — з мудрасці вялікіх людзей, мысліцеляў і настаўнікаў чалавецтва. Толькі вытрымаўшы гэтую пробу, плады аўтарскіх лірычных захапленняў і лятункаў застаюцца ў творы. Апавядальнік у Брыля выказвае сваё без настырнасці і ментарскай катэгарычнасці, ён хоча, каб яго ацэнка ўлічвалася як адна з мажлівых, і падае самога сябе нярэдка ў часе самакрытычнага абстрэлу.

Лірызм у прозе — гэта не толькі манера весці апавяданне ад першай асобы, лірызм азначае перадусім інтэнсіўны і мэтанакіраваны ўдзел аўтара ў рэалізацыі і выяўленні характараў дзеючых асоб, ва ўстанаўленні і асэнсаванні адносін чалавека да свету прыроды і да грамадства. Бывае, што гэты ўдзел носіць лішне настырны характар, ад чаго паслабляецца самавыяўленне персанажаў, за якіх многае гаворыць апавядальнік, ператтвараючы іх у рупар аўтарскіх ідэй, у гаворачых лялек. Пры такіх ператрымках лірычнай манеры лірызм губляе свае ідэйна-выяўленчыя і эстэтычна-ацэначныя мажлівасці. Пісьменніку-лірыку больш, чым эпіку, патрэбна пачуццё меры, унутранага такту, каб не засціць вобразаў дзеючых асоб сваёю персонай, не заглушыць іх галасоў, адчуваць сябе калі нават салістам, дык у хоры, і не саліраваць над хорам.

Крытыка заўважыла, што ў позніх па часе напісання аповесцях — «Ніжнія Байдуны», «Золак, убачаны здалёк» паслабляецца лірычны пачатак і ўзмацняецца пачатак маляўніча-выяўленчы, апавядальны. Мне здаецца, можна гаварыць і пра якасную змену ў самім лірызме як форме выяўлення асабовасці аўтара на розных этапах яго жыцця.

Лірызм ранніх твораў Я. Брыля меў у сваёй аснове маральна-этычную арыентацыю, пафас надаваў яму юначы максімалізм, палкі, бескампрамісны суд сумлення; у гады сталасці гама лірычнага свячэння ўзбагацілася перадусім за кошт інтымна-эстэтычных пачуццяў. Крыніцамі лірызму былі чары прыроды і кахання — адвечныя крыніцы хараства. Лірызм апошніх па часе

напісання твораў, асабліва аповесцяў «Золак, убачаны здалёк», «Мунштук і папка», апавядання «Гуртавое», — гэта лірызм філасофскі, галоўны нерв якога складае не маральная суровасць і не эстэтычная бурлівасць, а мудрая заглыбленасць у сябе, у пражытае даўно, на золку жыцця. Лірычны пачатак «Ніжніх Байдуноў» яшчэ іншы, гэта зняты лірызм, ператвораны пад уздзеяннем духоўнай дасведчанасці аўтара ў субстанцыю гратэску, камізму, пачуцця ў прынцыпе, мазгавога, рацыянальнага, узнікаючага ў працэсе выяўлення недарэчнасцяў жыцця, несупадзенняў паміж сутнасцю і з'явамі, жаданым і наяўным.

У мініяцюрах з кнігі «На сцежцы — дзеці» Брыль прыкметна ўзмоцніў сатырычны смехавы пласт, часам нават да чорнага гумару давёў гратэскавыя вобразы сібарытаў, грубых і цынічных трыбухачоў, ахвяр вульгарнай матэрыялізацыі жыцця.

У маім успрыманні сышліся ў адзін ланцужок тры гратэскавыя крэатуры: заможны калгаснік, палявод, «частуе сябра юнацтва ў сваёй даўно ўжо нябеднай хаце і, знакам дастатку, п'е з дзвюх чарак адразу — злева і справа, адна за адной, з прыгаворкамі.

Такая вяршыня шчасця»[1]. Другі заложнік плебейскай ганарыстасці, падвыпіўшы, хваліцца перад пісьменнікам, куражыцца, хоча аглавушыць інтэлігента фантазлівасцю свайго наказу жонцы: «... каб у магілу, калі здырджуся, апусцілі (дыр, дыр) тры скрынкі гарэлкі і тры віна. На ўсю труну (дыр, дыр, дыр) зверху паставіць — колькі стане!..»[2]

Думаецца, тут мы маем справу з дэмаралізуючай сілай застойных нораваў, калі працавітыя людзі ў заможных калгасах трацілі натуральнае для працоўнага асяроддзя пачуццё меры, станавіліся рабамі «ўдарніцтва», верылі ў тое, што чалавек жыве для працы, і, зарабіўшы грошы, не ведалі, на што іх патраціць, куды ўкласці зароблене, каб мець з яго прэстыж. Культ беднаты і беднасці скажаў нармальныя патрэбы, збядняў сэнс быцця. Праявы люмпенізацыі ў грамадскіх паводзінах суправаджалі рост дабрабыту, які ішоў у пары з ростам ідэалагізацыі грамадства, планаваннем зверху не толькі працы, але і адпачынку. Заарганізаваныя людзі бара-

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 157.
[2] Тамсама. С. 206.

ніліся, прынамсі, дзівацкімі выхадкамі бытавога характару, каб хоць такім чынам адчуваць уласцівую чалавеку свабоду волі.

Здараецца, і Брылёва мініяцюра мае як бы зашмат слоў, а думка разліваецца ручаямі ці трымціць, пераходзячы ад знешняга да ўнутранага свету, танцуе паміж героямі і аўтарам так, што тэкст робіцца мнагаслоўным, а падтэкст забэрсаным. Струменя свядомасці не атрымліваецца, а зграбная апавядальнасць прападае. Напрыклад, колькі разоў перачытваў я нататку пра Стоўна, Дарвіна і аўтарскае ўспрыманне іх твораў[1], ды не змог дайсці яснасці ў ацэнках.

Не абавязковай здаецца часам прысутнасць фрагментаў рускамоўнага тэксту, лёгкага для перакладу нават падрадковага. Чытаеш і гадаеш, навошта гэтая аўтэнтычнасць, дашукоўваешся ў простай інфармацыі нейкай значнасці, неперакладаемасці — дарэмна.

І закрыты ўнутраны свет, і цяга да навелістычнага схоплівання рэчаіснасці, нават дакладнасць і сціслаcць выкладу ці акварэльная мяккасць тонаў, — усё гэта рысы агульныя, іх можна сустрэць у многіх пісьменнікаў, блізкіх Брылю па натуры, напрыклад, у Чэхава, Прышвіна, Паўстоўскага. Асоба — крыніца ўсякай арыгінальнасці, у тым ліку і творчай, а стыль і манера — творчыя праявы асобы. Праекцыя асабістай самавітасці на твор забяспечвае яго арыгінальнасць, здольнасць вабіць і кранаць чытача, узрушаць.

Юлія Канэ лічыць, што аповесці «Ніжнія Байдуны», «Золак, убачаны здалёк» вызначаюцца новай стыльнасцю і мяркуе, што гэтая якасць набыта пісьменнікам у часе працы над трагічнаю кнігай-дакументам «Я з вогненнай вёскі...». Крытык спасылаецца на самога Я. Брыля, які ў аўтабіяграфічным нарысе «Думы ў дарозе» сказаў, што дотык «да народнай бескампраміснай памяці, якая ўсё яшчэ бясконца крывавіць», паглыбіў яго «адносіны да жыцця і свайго ўдзелу ў ім. І ў любові, і ў нянавісці, і ў нягодах, і ў смеху»[2].

Усё гэта было, толькі варта падкрэсліць, што духоўны зарад, які атрымаў Я. Брыль у часе працы над кнігай «Я з вогненнай вёскі...», прыйшоўся на час уступлення мастака ва ўзрост мудрасці, калі пачуцці і розум на-

---

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 186.
[2] Цыт. па кн.: Канэ Ю. Плынь. Мн., 1983. С. 22—23.

гадваюць чалавеку: ты абавязаны разумець, што ж яно такое, чалавечае жыццё, у чым яго слодыч і гаркага, у чым сэнс і прызванне. Мне як сааўтару, што на працягу чатырох гадоў бываў побач з Брылём і Адамовічам, слухаў тысячагалосае рэха трагедыі беларускіх Хатыняў, тут належыць сказаць, што Я. Брыль, самы аптымістычны з нас, аказваўся найглыбей працятым усенароднай бядою. Так, як і мы, ён разгублена пытаў, чаму такое стала мажліва, чаму чалавек можа такое тварыць.

Адамовіч шукаў адказаў у Дастаеўскага, Брыль — у Талстога, і абодва разумелі, што ніхто з былых мудрацоў не можа даць поўнага адказу на пытанне, якое не належала да іх часу. Яны даюць толькі універсальны прынцып — гуманістычны падыход. Адказ даць павінны мы, сучаснікі, на аснове свайго сацыяльнага інстынкту, бо ў народнай свядомасці, у казках, паданнях, легендах канібалізм успрымаецца ў межах чалавечай нормы і ацэньваецца як звіх, збой, звырадненне, свой ідыёцкі, але зразумелы сэнс. Тут жа паношылася неўразумелае, цёмнае чалавеканенавісніцтва. Нават злачынствы Ірада былі прынцыпова іншымі, чым гітлераўскія. Біблейскі дэспат знішчаў уяўных прэтэндэнтаў на ўладу, а дэспат фашысцкі знішчаў усіх, хто трапіў пад руку. Мы адчувалі, што не звырадненасць аднаго суб'екта была прычынай, а звырадненне сістэмы.

Я. Брыль выказваўся неаднойчы, што «Ніжнія Байдуны» былі для яго сродкам пераключэння ад невыноснай зніжанай трагедыйнасці «вогненных вёсак» і падшукоўваў падобныя пераключэнні і ў нас з Адамовічам, называў, між іншым, такім адцягваючым сродкам маю працу над кнігай «Ветразі Адысея», прысвечаную творчасці Уладзіміра Жылкі. Не адмаўляючы рацыі Я. Брылю, мне хочацца тут сказаць, што «Ніжнія Байдуны» былі для яго не проста пераключэннем, а спробай адказу, чаму здараюцца ў грамадстве выбухі нялюдскага, агрэсіўнага, якія прымаюць нацыянальныя, нават сусветныя маштабы. Карэнні з'явы ў звырадненні дзяржаўнаўладарнага клана, які адлучае ад палітыкі шырокія масы прыгнечаных, атручвае іх свядомасць разбуральнымі клічамі, вызваляе плебейскую псіхалогію самасудаў, аб'яўляе сілу і злачыннасць нормай адносін, паралізуе сумленне, ператварае масу з тварца гісторыі ў сляпога цыклопа, які творыць зло, а верыць, што здзяйсняе ачышчальную місію, нясе справядлівасць.

Гратэскавыя паводзіны «байдуноў» — гэта своеасаблівы адказ адлучаных ад гісторыі яе патэнцыяльных творцаў, адказ гратэскавымі, пацешнымі выхадкамі на каварныя міфы паноў жыцця, узурпатараў, паразітаў, якія вырвалі хітрасцю і сілай права вяршыць гісторыю, не маючы на гэта ні падставы, ні здольнасці, бо сапраўдная гісторыя — гэта гісторыя стварэння, а не захопу і спажывання.

«Ніжнія Байдуны» — гэта акт мастацкай і філасофскай рэабілітацыі народных мас як стваральнікаў і творцаў гісторыі. Галоўная ідэя твора — сцверджанне, што нікому і ніколі не ўдасца адхіліць народ ад гісторыі, ніхто не можа беспакарана тварыць гісторыю супраць народа і за яго плячыма.

Адказам на падманнае тварэнне гісторыі з'яўляюцца народны смех, гратэкс, сарказм, знішчальная іронія, а ўрэшце — бунт.

Не паддаюцца пераказу дзівацтвы герояў «Ніжніх Байдуноў» на сучасным літаратуразнаўчым піжоністым жаргоне з яго ігнарацыйнымі выгібашамі «скарбейнае жыццё», «нервенныя людзі». У гэтай аповесці жыццё цяжкое, горкае і пакутнае, а дзівацтвы не ад нерваў, а ад сацыяльнай забітасці, прымусовага адчужэння масы ад гісторыі дзеля панавання ўладарніцкіх клік над душою і целам народаў. Калі эстэтычным эпіцэнтрам «Золаку, убачанага здалёк» з'яўляецца трагедыйны лёс гаротніка Салаўя, царскага салдата, які звар'яцеў у першай штыкавой атацы, дык у «Ніжніх Байдунах» адпаведным па інтэнсіўнасці акцэнтам з'яўляецца камі-трагічны лёс маёра-ветэрынара Асмалоўскага, чалавека-дзівака, які і ў вадзе не тоне, і ў агні не гарыць. Такая дыстанцыя сэнсавага і стылёвага многагалосся.

Калі ўчытацца ў аўтарскія маналогі Брылёвай прозы, дык мы заўважым, што ў цэлым моўны струмень тут багаты, на свой лад паліфанічны, ён перадае не адну гатовую думку, суджэнне ці ацэнку, а і паўставанне думкі. Думка выкрышталізоўваецца ў спрэчках з самім сабою, у ваганнях, папраўках ці тлумачэннях абставін, пры якіх склалася такая, а не іншая ацэнка ўчынку, героя, разуменне падзеі або ўспрыманне малюнка прыроды, які ўзрушыў, навёў на настрой. Маналог ад гэтага персаналізуецца, з яго відзён сам размоўца, чалавек, які шукае, перажывае, думае, выказваецца і ўдакладняе сябе. Часам яго мова можа быць лішне ўскладне-

най, што робіць асобныя фрагменты маналога не надта даступнымі для тых чытачоў, хто недастаткова падрыхтаваў сябе да роздумаў над сэнсам жыцця і этычных ацэнак сваіх паводзін. Цяжкасць гэтая натуральная, яна адпалохвае таго, хто баіцца цяжкасцяў, шукае камфорту, а тых, хто шукае ісціны, сэнсу — мабілізуе, заахвочвае.

Стыль твораў Я. Брыля недастаткова назваць лірычным ці павышана суб'ектыўным. На маю думку, гэта глыбока ацэначны стыль, змястоўны і адказны, а што датычыць эмацыянальных характарыстык, дык гэта стыль шырокага дыяпазону ад лірызму — да гратэску, ад сузіральнасці — да інтэлектуальнай заглыбленасці і дакладнасці слова. Метафарычнасць, дастойная сапраўднай паэзіі, свабодна сужываецца тут з простай інфармацыяй, прыўзнятасць і гумар часам абрываюцца тымі цалкам аб'ектыўнымі формамі выяўлення духоўнага стану, якія называюцца празаізмамі, канкрэтыкай, ісцінамі факта. У прынцыпе, слова Я. Брыля празаічнае, двухгалосае, але напружанае супраціўнымі інтанацыямі, дыскусійнае слова. Празаічная стыхія стварае ўражанне прастаты жытняй палавейнасці стылю Я. Брыля, хоць і тут, як у сапраўдным жыце, растуць і красуюцца паэтычныя васількі.

Сакрэт стылю Я. Брыля, на маю думку, у абаяльнай надзейнасці асобы, дабротнасці постаці апавядальніка. Здзіўляе выключная чуласць да слова, не на зрокавы вобраз і нават не на слухавую эмоцыю, а на слова, гэта значыць на матэрыял нематэрыяльны, у якім зліваюцца рэчыўнасць і духоўнасць, эмоцыя і развага. Слова для яго — форма жыцця душы. «Калі я апісваю прыроду — гэта не капіраванне, а радасць, што жыву, што бачу» (V, 25).

## ГАЮЧАЕ СЛОВА

Не слушна лічыць цыклы мініяцюр «Свае старонкі» і «Да творчай аўтабіяграфіі» проста дзённікам і папракаць аўтара за парушэнне этыкету добрых старых часоў, калі мемуарысты, маўляў, дазвалялі публікаваць свае дзённікі толькі пасля смерці або наогул нішчылі іх, каб не крыўдзіць людзей, пра якіх дрэнна падумалі і якіх асудзілі лішне сурова. Не разумею, чаму людзям

адкрытай свецкай этыкі патрэбна захоўваць крайнасці хрысціянскай пакорлівасці і самапрыніжэння, што навязвала вернікам царква, каб суняць антаганізмы ў грамадстве коштам свабоды асобы. Зрэшты, у пазіцыі Я. Брыля няма нічога ад язычніцкай гардыні і пагарды да бліжніх. Вось адна з самаацэнак пісьменніка: «Што ты ўсё дакараеш сам сябе? І на сонцы ёсць плямы!»

«На сонцы? На мне тых плямаў, як на рабым парсюку!»

Дыялог — у самім сабе»[1].

Такім чынам, судзіць сурова людзей аўтар літаратурна-філасофскіх мініяцюр пачынае з сябе. У гэтым я бачу вартасць яго ўрокаў маральнага самакантролю. Калі ж быць аб'ектыўным у адносінах да нашых вялікіх продкаў, дык не ўсе яны згаджаліся на замагільныя публікацыі свайго «сокровенного». Напрыклад, з дзённікаў Л. Талстога, запісных кніжак А. Чэхава многае пабачыла свет пры жыцці аўтараў. Варта параўнаць тэксты гэтых крыніц з публіцыстыкай і мастацкімі творамі і стане відавочным, што дзённікавыя запісы і нататкі былі папярэднімі, часта вельмі востра, рэльефна, афарыстычна выказанымі праграмнымі думкамі. Яны паўтараліся, разгортваліся, карэкціраваліся ў артыкулах, памфлетах ці маральна-этычных трактатах. Тут трэба шукаць літаратурны прэцэдэнт і першаўзор Брылёвай мемуарыстыкі. Цікавым для нас можа быць пытанне, чаму наш мастак радзей, чым яго настаўнікі, разгортваў дзённікавыя запісы ў апавяданні, аповесці або ў нарысе, артыкулы? Думаецца, адказ трэба шукаць у сферы грамадства і літаратуры, але перадусім у творчай псіхалогіі і ў норавах. Мініяцюрай ён мог выказаць ва унітарным грамадстве больш горкай праўды, чым разгорнутым творам, дзе неабходна да канца дагаворваць і тое, што было непрымальным для друку і густу выдаўцоў. Канешне, мініяцюра, у прынцыпе, цяжэй успрымаецца, чым апавяданне ці артыкул. Пісьменнік разумее, што гэта спажыва перадусім для падрыхтаванага чытача, здольнага схопліваць намёкі, а яму патрэбны і чытач масавы, і для яго даводзіцца прасвятляць мініяцюры ды пісаць навелы, нарысы, артыкулы, але звычайна тое, што апублікавана ў выглядзе мініяцюры

---

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 158.

цюр, ужо не паступае ў поўнаметражныя творы, хіба што як адасоблены кампанент, зачэпка.

«Усё маё — па сутнасці дзённік. *Мая* частка Зямлі, жыццё на ёй, гэтай частцы, я пазнаваў *маё*, стараўся зразумець яго і расказаць пра гэта іншым. І гэтага *майго* так мала і так многа! І я, расказваючы пра маё — у рамане, аповесцях, апавяданнях, нарысах, артыкулах і лірычных запісах, — часамі паўтараюся, аднак, у асноўным, здаецца, іду па спіралі» (V, 566).

Названыя цыклы мініяцюр — гэта далёка не ўсе запісы Я. Брыля і нават не ўся іх пісьменніцкая частка, але перадусім яна. Яе можна прымаць за голас духоўнага жыцця творчай асобы ў наш нялёгкі час. Тут мне бачыцца школа самаўзгадавання для пісьменніцкай моладзі, прыклад для тых юнакоў і дзяўчат, што маюць у сабе дар творчага ўяўлення і самавыяўлення, але не зусім уяўляюць, да чаго гэты дар абавязвае.

Пісьменнік, жывучы ў часы, калі духоўнаму жыццю грамадства пагражала звальненне асобы ад абавязку маральнай медытацыі, унутранага самакантролю, перанясення ўсіх духоўных праблем у сферу знешніх зносін, меў не толькі права, а і абавязак падаваць прыклады ўнутраных медытацый, якія засцерагалі яго ад многіх памылак.

Творы гэтыя выхоўваюць тым, што даюць магчымасць чытачу паставіць сябе побач з пісьменнікам, як партнёрам духоўнага і грамадскага жыцця. Стаўшы побач, чытач пабуджаецца, даходзіць да праўды: а хто ж такі ён і што ж гэта за свет, у якім ён жыве? Гэта важна, бо без яснага разумення вартасці свайго «я», здольнасці да справядлівай аб'ектыўнай самаацэнкі не можа быць ніякай дабрадзейнасці і, напэўна, той велікадушнасці, якая можа патрабаваць ад чалавека нават «звышсправядлівасці», прызнання сябе слабейшым за іншых, менш ведаючым ці менш заслужаным. У рэшце рэшт, калі на старасці людзі не могуць прызнаць сябе пераможанымі моладдзю, у грамадстве абавязкова пачынаецца застой. Праўда, калі пераможцы стануць выхваляцца, дык у грамадстве знізіцца культура зносін і самахвальства змарнуе энергію прагрэсу, уласцівую маладосці.

На пытанне, чым выхоўвае літаратура, можна адказаць: праўдай і сумленнасцю. А праўда, як мы памятаем, можа выступаць у мастацтве як хараство, трагізм ці камізм, узнёсласць або нікчэмнасць, і адпаведна яна

можа дзейнічаць як сістэма маральных катэгорый: дабро і зло, сумленнасць і подласць, годнасць і нікчэмнасць, чуласць і жорсткасць. Л. Талстой, як памятаем, нават падпарадкоўваў прыгожае маральнаму, гаворачы: «Эстэтыка ёсць выражэнне этыкі»[1]. Паняцце мастацкай праўды носіць аксіялагічнае (ацэначнае) значэнне і можа выяўляць адпаведнасць з'явы вобразу або ступень набліжанасці з'явы да ідэалу. Падобная метамарфоза можа адбывацца і з катэгорыямі розум і мудрасць, звычайна розум азначае інтэлектуальныя здольнасці, веды чалавека, а мудрасць — здольнасць ацэньваць разумнасць і маральнасць чалавечых адносін, аддзяляць праўду ад падману, сумленнасць ад подласці. Паступаць мудра, разважаць мудра — гэта значыць жыць справядліва, не крыўдзіць людзей. Літаратура нясе ў сабе і пазнавальную, і этычную, і эстэтычную здольнасць пазнання і ўздзеяння на свет. Па гэтых трох каналах ідзе выхаваўчы ўплыў мастацкага слова на чытача.

Уздзеянне літаратуры на чалавека — складаны акт, ён не выступае асобна, незалежна ад здольнасці і ўзрушаць, і несці гуманістычныя веды. Нават пацешкі, забаўкі выхоўваюць так многааспектна. Эфектыўна выхоўвае твор, які пераўзыходзіць іншыя чалавечнасцю і майстэрствам, больш за іншыя важыць на вагах праўды, сумлення і хараства. Літаратура выхоўвае ўжо тым, што яна існуе як форма свабоднай творчасці, гуманістычнай самаарыентацыі, што ўзвышае і збліжае людзей, прывучае жыць суладна. Ну і што ж тут такога, скажа ўдумлівы чытач, які сам біўся над формулай сэнсу быцця. Усе мы вядзём такую лінію. Сапраўды так, вядзём і даходзім да разумення сэнсу быцця, але дайсці да яго не можам, а перашкаджае нам не тое, што мы не ўмеем жадаць ці не ўмеем разумець, а тое, што не хапае волі і напорыстасці ажыццявіць наш ідэал. А што спрыяе нараджэнню валявой моцы? Эмацыянальнае гарэнне. Вось эмацыянальным імпэтам і можа ўзброіць мастацкі твор, які ў жывой форме паказвае ўсе цяжкасці і ўсю каштоўнасць дасягнення сэнсу. Эмацыянальная ўзрушанасць у Брыля падмацоўваецца яшчэ глыбокаю, грунтоўнаю на агульначалавечым узроўні думкай.

Літаратура выхоўвае прыкладам, цяжарам грамадскай адказнасці мастака за слова, ахвярнасцю жыцця ў

[1] Толстой Л. Собр. соч. Т. 20. С. 61.

мастацтве, складанасцю творчай працы — гэтага згустку крыві і таленту. Літаратура выхоўвае перадусім любоў да нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцяў — роднай мовы, гісторыі, гуманістычных традыцый, а ў рэшце рэшт павышае любоў да жыцця. Выхаваўчае ўздзеянне мастацкага слова тым дзейснае, што яно нязмушанае, гэта выхаванне па жаданні, выхаванне з устаноўкай на творчае рэха з боку чытача, які пабуджаецца да грамадска-карыснага, стваральнага тыпу паводзін і становіцца, мовіць бы, наглядным увасабленнем ідэалу праз вобразы, характары, сюжэты. Само наша ўяўленне аб выхаваўчых мажлівасцях літаратуры складвалася на падставе шматвяковага вопыту сусветнай літаратуры і нацыянальных літаратур, іх уздзеяння на народы праз вобразы нацыянальных герояў, стыль паводзін асобы ў прыроднай і гістарычнай прасторы. Сусветная літаратура прапісвае чалавека ў чалавецтве, нацыянальная — у сваім народзе, робіць яго ўладальнікам і памнажальнікам народных скарбаў: мовы, гісторыі, звычаяў, нораваў, казак, песень — усяго, у чым жыве нацыянальны тып хараства і дабра. Родная літаратура дорыць кожнаму чалавеку яго нацыянальную тоеснасць праз мову і сістэму вобразаў, канвенцыю ўзрушэнняў. Нацыянальная літаратура ўзвышае народ, расказваючы пра яго свету, ставячы на суд усечалавечы. Усведамленне, што ты знаходзішся пад пільнай увагай свету, абавязвае да большага самакантролю і адказнасці.

Асаблівасцю сучасных нацыянальных літаратур з'яўляецца іх гуманістычная сугучнасць, зродненасць у арэале сусветнай літаратуры, таму, мне здаецца, трапна вызначыў Я. Брыль выхаваўчую місію сучаснага пісьменніка: «...у чалавеку выхоўваць Чалавека...» А далей, у іншым абзацы, дапоўніў: «...свабоднага ад безвыходнай цемры і крывавай затхласці нацыяналізмаў ды шавінізмаў розных масцей і калібраў...»[1]

Творчасць Я. Брыля надзённая і карысная, бо яна вучыць чытача жыць адначасна ў сваім і гістарычным часе. Пісьменнік дэманструе сваю павагу да сусветнай культуры, уменне ўзбагачацца з агульначалавечых крыніц мудрасці, дабра і сумлення ды стаяць на варце спадчыны, аберагаючы яе ад правінцыяльнай вузкасці, як ад бяды: «І сапраўды — патрэбны міжнародныя праві-

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 207.

лы руху ў літаратуры: начытанасць, ці што, каб не быць меншым ці большым міжнародным правінцыялам»[1].

Творчасць Я. Брыля — выдатная панарама духоўнага жыцця мастака — і ў сям'і, і на людзях, у адносінах з грамадствам і са скарбамі чалавечага духу, — карысная рэч для тых сучаснікаў, што адвыклі многа чытаць, занядбалі ў хуткаплынным руху надзённых спраў патрэбу вечнага пошуку сэнсу быцця, патрэбу маральнага самакантролю, замянілі пошук духоўных каштоўнасцяў пошукамі матэрыяльных зручнасцяў, камфорту, ачышчаюцца не самакрытыкай, а мітуснёй, натуральнымі або штучнымі сродкамі «забыцця».

Барацьбу з бездухоўнасцю вядзе ўмудроны вопытам, надзелены аптымістычным характарам, жыццярадасным талентам мастак. Праявы дэгуманізацыі жыцця, пачынаючы ад сілавых прыёмаў у палітыцы і канчаючы тэхнарска-спажывецкай амбіцыйнасцю ў вытворча-жыццёвай сферы, не проста рэгіструюцца, а ўзважваюцца на вагах роздуму і сумлення. Эталоны мер і тарыфы цэн для гэтай справы бяруцца са скарбніцы ідэалаў сусветнай літаратуры, класічнай і сучаснай, а таксама з народнай мудрасці.

Важнае месца ў выпрацоўцы здаровых ацэнак адводзіць Я. Брыль беларускай літаратуры, патрыятычнаму і гуманістычнаму подзвігу яе стваральнікаў. Дэвіз аўтара — ад народа — да чалавецтва — пацвярджаецца вопытам народнага жыцця. Нельга мастаку паўнацэнна жыць для чалавецтва, не жывучы для свайго народа, не памятаючы яго славы, здзяйсненняў, яго страт, не дбаючы пра яго добрае імя ў свеце і яго будучыню. «Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служыў і буду служыць як першаснове выхаду ў агульначалавечае»[2].

Пісьменнік зближае глабальныя ідэі веку з рэальным днём, адкрывае неверагоднае, часам пацешныя, а часам жахлівыя іх праламленні ў чалавечых характарах, словах, паводзінах.

У прынцыпе, мініяцюры — гэта дзённік душы, якая ў мастака няспынна, нястомна працуе, шчыруе, бы пчала, і якой хочацца «замацаваць сябе ў часе — інакш жыццё пераліваецца, як вада». Такое азначэнне функ-

---

[1] Брыль Я. Сёння і памяць. С. 308.
[2] Тамсама. С. 295.

цыі мініяцюр выпісаў Я. Брыль у Ф. Абрамава і пацвердзіў: «Блізкім сустрэлася гэта»[1].

Выпрацоўваючы ўласны погляд на пісанне і прызванне пісьменніка, Я. Брыль прынцыпова асцерагаецца, каб не абмежавацца пазычаным. Нават аксіёму Л. Талстога «перажыў — апішы» ён прымае крытычна. Калі апісваць усё, што даводзіцца перажываць, дык можна прапасці ў пісаніне, дайсці да абсурду. Брыль ведае моманты, часам доўгія адрэзкі жыцця, калі пісьменніку не пішацца, калі перажытае не выпраменьвае той мудрасці, якая патрэбна іншым людзям. У Брыля гэты стан называецца: «А як жа гэта бывае горка, пакутліва — чакаць самога сябе»[2]. Пісаць — значыць дзяліцца перажытым і перадуманым, дзяліцца не толькі з ласкавай шчодрасці, а і з чалавечага абавязку дзяліцца станоўчым і адмоўным, пакланеннем красе і асуджэннем агіднасці, суцішэннем спакус і адольваннем зла ў сабе.

*1989—1991*

[1] Брыль Я. На сцежцы — дзеці. С. 177.
[2] Тамсама. С. 178.

# Страла і мэта

З ранніх гадоў Алесь Разанаў востра адчуў цяжар творчага прызвання, пакуты індывідуалізацыі. Канфлікт маладога паэта з норавамі грамадства, якое апавяшчала свабоду і шматграннае развіццё асобы, сацыяльную справядлівасць, а на справе культывавала серадняцтва, праводзіла анкетную нівеліроўку індывідаў, даводзіла да цноты ўпраўляемасці — аказаўся заканамерным і ўстойлівым. Талент не мог згадзіцца на тое, што поўнае растварэнне чалавека ў «масе» зробіць яго шчаслівым і каштоўным для грамадства. Ён разумеў, што духоўнае багацце грамадства складаецца з багатых духам натур, постацяў. Гэты вось прынцып адазваўся вострымі канфліктамі.

Студэнт Беларускага універсітэта быў аб'яўлены буянам, падбухторшчыкам і падлягаў выключэнню. А заўшта? За тое толькі, што патрабаваў, каб яго Alma mater стала беларускай, як гэта значылася ў яе афіцыйнай назве. Замест таго каб пачуць у гэтых патрабаваннях голас юначага праўдалюбства, ідэалагічныя спецы навесілі на хлопцаў біркі нацыяналістаў. Толькі дзякуючы заступніцтву літаратурных колаў сталіцы, канфлікт абышоўся пераводам Разанава ў Брэсцкі педінстытут, фактычна ссылкай па месцы жыхарства бацькоў.

Тады я першы раз паціснуў руку паэту, чый талент давялося заўважыць раней, калі па абавязку старшыні журы чытаў сачыненне вучня Сялецкай школы Бярозаўскага раёна, прысланае на абласны конкурс. Прыезд Разанава-студэнта ў Брэст быў апярэджаны тэлефонным званком Максіма Танка, які даручаў мне падтрымаць выгнанніка, дапамагчы ўвайсці ў новы калектыў і растлумачыць кіраўніцтву інстытута, што ёсць дамоўленасць з адпаведнымі рэспубліканскімі інстанцыямі. Падтрымаць Разанава было не цяжка, паколькі рэктарам інстытута працаваў тады Сяргей Адамавіч Гусак, нядаўні

дэкан філалагічнага факультэта БДУ, таленавіты беларускі літаратуразнавец, патрыёт Беларусі. Зацёнай стала яшчэ адна акалічнасць: Разанаў прыехаў разам з паэтам Віктарам Ярацам, а таго накіроўвалі ў Гомельскі педінстытут. Давялося скарыцца сябрам на разлуку, голас зверху не ўступіў свайго «па месцы жыхарства».

Алесь Разанаў за год стаў і ў Брэсце лідэрам студэнтаў філфака, заімпанаваў ініцыятыўнымі, творчымі адносінамі да вучобы, самастойным вывучэннем замежных моў, свабодным стаўленнем да артадоксіі ў сацыяльных і філасофскіх дысцыплінах, заглыбленнем у экзістэнцыяльныя праблемы, у вучэнні аб унутраным свеце чалавека. Па натуры ён аказаўся не бунтаром, а думаннікам, праўда, творчым, таму незалежным. Увогуле і арганізацыйнай работы не цураўся: стварыў у Кругельскай вясковай школе літаратурны гурток, члены якога сталі запаўняць амаль усю плошчу, адведзеную ў Камянецкай раённай газеце пад літаратурныя старонкі, лепшыя выйшлі на абласную газету «Зара», спраўджвалася яшчэ адно пацверджанне ідэі Талстога пра таленавітасць дзяцінства.

Прайшоўшы вайсковую службу недзе ў ракетнай часці на Поўначы, выдаўшы кнігу вершаў са смелай для той пары назвай «Адраджэнне», Разанаў быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў і змог вярнуцца ў сталічнае творчае асяроддзе, вывучаць мовы, станавіцца паэтам гуманітарна-філалагічнага складу, перакладчыкам з заходнееўрапейскіх, прыбалтыйскіх і каўказскіх моў, эрудзіраваным рэдактарам.

На пачатку перабудовы, галоснасці і дэмакратызацыі публічнага жыцця, калі паднялася цана таленту і незалежнасці думкі, Разанаў увайшоў у групу беларускіх пісьменнікаў, што ўвасаблялі маральны аўтарытэт літаратуры і незалежнасць судджэнняў пра яе здабыткі, хібы, слабасці. Ён нязменны ўдзельнік анкет, якія праводзяцца рэспубліканскаю і саюзнаю прэсай, стваральнік анталогій грузінскай і літоўскай паэзіі, перакладчык з моў, якімі ў нас не дужа часта валодаюць нават лінгвісты. А галоўнае, Разанаў — паэт, лідэр інтэлектуальна-філасофскай плыні ў беларускай паэзіі, яго творы становяцца ў фокус літаратурнай дыскусіі 1972 года, абарванай ведамствам рэспубліканскага ідэалагічнага нагляду, напалоханага ўзыходам новай таямнічай зоркі на паэтычным небасхіле.

Практычна кожны чарговы зборнік А. Разанава абвастраў літаратурную сітуацыю, выклікаючы спазмы ідэалагічнай пільнасці. Творы мастака былі прынцыпова не «рэжымнымі»: раскаваныя маналогі закраналі недзе суслаўскую дактрыну пра зліццё савецкіх народаў і пра хуткую адмену нацый з-за непатрэбнасці гэтых рудыментаў ва ўмовах развітога сацыялізму і фарміравання новай агульнасці — адзіны савецкі народ. У іншых беларускіх паэтаў, скажам, у Пімена Панчанкі, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, патрыятычная тэма гучала часам больш дзёрзка і напорыста, але Разанаў быў маладым, таму аказваўся ў тыглі ўціхамірвання. За адстойванне адраджэнскай ідэі, за падтрымку зборніка «Спадчына», куды была ўключана патрыятычная п'еса Купалы «Тутэйшыя», Разанаву давялося «пацясніцца» ў рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства і перайсці на становішча надомніка-перакладчыка — на самапас. Цяпер А. Разанаў старшыня Беларускага аддзялення фонду Мікалая Рэрыха, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1990 года за кнігу вершаў «Вастрыё стралы».

Наклікаў на паэта ганенні божы дар, талент, які дамагаўся поўнай творчай свабоды, прыцягваў увагу моладзі да экзістэнцыяльных пошукаў, метафізічных роздумаў. Дражніла аўтарытарнікаў, руцінёраў уласцівая мастаку ідэальнасць, заглыбленасць у сябе, а яшчэ патрэба новых сродкаў адлюстравання, пошукі парадаксальных асацыяцый, новых сімвалаў, іншасказанняў, якія рабілі яго маналогі недасягальнымі для ідэалагічнай цэнзуры, а значыць, удвая небяспечнымі. Паэт здаваўся недысцыплінаваным, неўразумелым для ахоўнікаў адзінадумства. Ён рваўся ў непазнанае і паднімаў чытача над будзённым раскладам жыцця і смакатою побыту, вёў да глабальнага сэнсу быцця, да праблем самарэалізацыі асобы. Прыхільнікі афіцыйных ісцін дакаралі яго неўразумеласцю, а равеснікі хвалілі якраз самыя складаныя і, мабыць, такі не зусім і не ўсім зразумелыя творы: падкупляла дзёрзкасць паэта быць непадобным на зразумелых.

Паэзія А. Разанава спалучае фальклорны традыцыйна-вобразны пачатак з абстрактным, метафізічным. Тое і другое прыходзіла ў вершы з жыцця. Бацькава хата, сям'я — вясковая медсястра і работнік сельпо, былы

партызан, палеская вясковая грамада падарылі яму прататыпы прыроджаных альтруістаў накшталт скупшчыка анучаў — «Паэма рыбы» або калгасніцы Тэклі— «Паэма сланечніку», ахвярнай душы, што жыла «маўкліва і безадказна, не вылучаючыся сваёй прысутнасцю, а толькі адсутнасцю кідалася ў вочы». Маральная ўстойлівасць, дабрыня і міласэрнасць, прытым выключная цэльнасць натуры — норма традыцыйнага і феномен сучаснага чалавечага тыпа: радавы чалавек як быццам сцішаны, але нягнуткі. Так трэба. Сёння тэхнічны прагрэс аддае ў рукі чалавека лёс прыроды (паэма «Было балота»), а часам і лёс чалавецтва (паэма «Назаўжды»).

Экскаватаршчык, заложны паляшук Абравец, трымае ў руках рычагі машыны, якая здольна абкультурыць дрыгву, зрабіць багну нівай або перасушыць і загубіць тарфянікі — залатое дно Палесся. Аднагодак Абраўца салдат-ракетчык трымае руку на спускавым механізме ракеты стратэгічнага абсягу — другі манументальны вобраз ранніх паэм Разанава. А маштабнасць прыйшла ад жыцця: тут асабістыя перажыванні паэта, вынесеныя з баявых дзяжурстваў і вучэбных трывог у вайсковай часці, экскаватаршчык жа яго зямляк, можа, сябар ці сусед, таму лёгка аўтару было па аналогіі ўразумець сумненні героя, адчуванне адказнасці за вынікі ўмяшальніцтва ў экалогію унікальнай палескай нерушы.

Паэзія А. Разанава ўразіла моцным зарадам духоўнасці, якая рвалася да самапазнання. Трапна заўважыў гэта і выказаў у пасляслоўі да зборніка «Шлях-360» Варлен Бечык. «Свет чалавечай свядомасці,— зазначыў ён, — раскрываецца... як велізарны супярэчлівы кругазварот сэнсу і бяссэнсіцы, гармоніі і хаосу, вечнасці і мімаходнасці, духоўнага і бездухоўнага». Сапраўды, здабыткам беларускай паэзіі 70-х гадоў сталі яго праграмныя вершы «Адкрыццё», «Першапраходцы», «Паэма святла», «У поцемках з ліхтаром». Паэта вабілі постаці вялікіх пачынальнікаў і першапраходцаў, ахвярнікаў і празорцаў — беларускіх і еўрапейскіх, хацелася ўступіць у паядынак з неспазнаным: «Народжаны ад хлеба, прагну хлеба — пакуль жыву, хачу спасцігнуць сэнс» («Паэма жніва»).

Не толькі ў тэматычным напаўненні відаць наватарства паэзіі А. Разанава, яно і ў новым спосабе, і ў

сродках узнаўлення рэчаіснасці. Пра гэта пераканальна сведчыць пятая па ліку кніга вершаў «Вастрыё стралы». Яна складаецца с трох раздзелаў, названых жанравымі тэрмінамі, якіх не знайсці ў даведніках, паколькі яны аўтарскія: версэты — гэта вершы баладнага складу, блізкія афарыстычнай роздумнасцю да прытчаў, квантэмы — канцэнтраты лірычнай матэрыі, напісаныя вольным вершам і мовай намёкаў, недагаворанасцей, і, урэшце, пункціры — метафарычна-вобразныя рыфмаваныя куплеты, дзе захоўваецца рэха напеўнасці, разлічаныя на эмацыянальнае ўзрушэнне. Тэрмін «пункціры» з'явіўся ў другой кніжцы паэта — «Назаўжды» (1974), а квантэмы ў чацвёртай — «Шлях-360» (1981).

Зразумела, уцягваючыся ў службу пазнавання, лірычны герой пытае сябе, а навошта яму гэты цяжкі занятак? Ці толькі дзеля задавальнення ўласнай дапытлівасці — пазнанне дзеля пазнання? У вершы «Лабараторыя» праніклівымі штрыхамі ён накідаў малюнак нейкага гіганцкага пазнавальнага промыслу, вобраз атрымаўся гратэскавым, а занятак абсурдным. Ставіцца беспераіпынна адзін і той жа дослед: «...ці дастаткова вада — вада, ці дастаткова маланка — маланка, ці дастаткова хлеб — хлеб, і людзі, якія праводзяць дослед, — ці дастаткова людзі...»

Вучоныя лабараторыі ўпадаюць у няпэўнасць.

Яны сумняваюцца ва ўсіх рэчах,
яны сумняваюцца ва ўсіх з'явах,
яны сумняваюцца ў адчуваннях, у думках і нат
у саміх сумненнях,
а вынікі доследу настойліва адкрываюць ва ўсім,
што ні ёсць тут, адно і тое ж:
нішто[1].

Антыподам абсурднай завядзёнкі ўсёпазнавання выступае свет, які не ведае сябе і ведаць не хоча, паэт увасобіў ідэю антыпазнання ў малюнку завеі, беспрасветнага хаосу; аказваецца, агнастыцызм — гэта такая ж бяссэнсіца, як і лабараторна пазнанае нішто. У беспрасвеццi завеі «...няма каму ведаць, якія: добры альбо благі, брыдкі альбо прыгожы... Адступіў ад мяне белы свет, абступіла мяне белае беспрасвецце» (62).

Ёсць яшчэ трэці вобраз пазнання як узыходжання па нябачнай лесвіцы, якую «стварае сама хада, сам рух,

---

[1] Разанаў А. Вастрыё стралы. Мн., 1988. С. 72. Далей цытаты па гэтым выданні, старонкі ў дужках.

само маё падыманне ўгору, само маё спадзяванне, што там, вышэй, я стану мацнейшы, чым быў дагэтуль, і змагу тое, чаго не магу цяпер...» (18). Формула тут, калі можна сказаць, школьная: «Вучыся, нябожа, вучэнне паможа...» (Я. Купала). Ад пазнаючага суб'екта патрабуецца, прынамсі, удакладніць, а што канкрэтна ён хоча магчы і навошта яму сіла веды. Яе можна ўжыць і на шкоду людзям. Тым не менш мэта пазнання пастаўлена, справа за паглыбленнем.

У версэце «Відушчы камень» функцыя пазнання, што падавалася рацыянальна-мазгавой ці практычнай дзейнасцю па ўпарадкаванні свету і ўсталёўванні сэнсоўных адносін паміж людзьмі, тут набывае таямнічы характар: камень, што вякамі ляжаў сабе ля гасцінца, раптам стаў відушчым і празорлівасцю сваёй надзяліў людзей, якія хадзілі міма яго. «Спачатку ўсе ўзрадаваліся, а потым палохацца сталі...» І закінулі палахліўцы відушчы камень на неба. Камень свяціўся, і настаў відушчы век, эра ўсёведання. Як жывецца асвечаным людзям, паэт не гаворыць, але па ранейшым спалоху здагадваецца — не лёгка. За пазнаныя таямніцы трэба адказваць.

На суцяшэнне думаннікам паэт вяртаецца да пазнання, якое паднімае не святло да неба, а чалавека, суб'екта. Скарына называў яго добрым навучаннем, а Разанаў — ачалавечваннем.

Я вучу камяні быць людзьмі.
Я іх прасвятляю сабою (96).

Значыць, не для сябе святло і сіла ведаў, а для ўсяго свету, для прасвятлення матэрыі і духу. Пазнанне — шчаслівы і цяжкі, небяспечны дар, часта дакучлівы і капрызлівы. «— Хто ты такі? — дапытваецца ў чалавека сфінкс. Адказваюць за чалавека гадзіннікі, вагі, календары, слупы... адказваюць могілкі... а сам чалавек маўчыць» (68). Здараецца і адваротнае, калі чалавек, узяўшыся пазнаць свет знешні, навакольны, міма волі сваёй пазнае самога сябе. З гэтых роздумаў над дыялектыкай пазнання, якое бывае то класіфікацыяй рэчаў, то празорлівасцю, таямнічым пранікненнем у тайну тайн і пазнаннем самога сябе, то ачалавечваннем, паўстала разанаўская гнасеалагічная формула стралы і вобраз палёту стралы: «І ляціць нацянькі страла, вынікаючы безупынна з сябе самое, вызваляючыся ад сябе самое, каб, зрэшты, зрабіцца палётам самім» (61).

Шлях пазнання, яго сэнс і мэта сапраўды могуць нагадаць палёт стралы, але таксама — бумеранга: «Я разаслаў удалечыню па розных кірунках стрэлы, а стрэлы вяртаюцца, цэлячыся ў мяне» (84).

Думка, скіраваная на аб'ект, нярэдка вяртаецца да суб'екта і ў яго душы адкрывае сэнс пасцігання і мэту, якой можа аказацца вызваленне духу ад путаў, ад немагаты жыць у непазнаным цёмным бязмежжы.

Быццам прывучаючы чытача да ахвярнасці духу, які спасцігае свет у напружаным узаемаадмаўленні суб'екта і аб'екта, паэт умоўна дзеліць пазнавальны акт на дзве часткі — разуменне і самаразуменне: «Палову жыцця падаюся ў свет, палову — варочаюся са свету, палову жыцця пішу на дарозе свае імёны, палову — закрэсліваю напісанае, палову жыцця расту ад зямлі, палову — расту з зямлёю: і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа» (5). Гэта, па сутнасці, вобразнае перапалажэнне дыялектычнага шляху пазнання, яно цікава тым, што пазнанне і самапазнанне выступаюць не як простыя антынамічныя долькі, а як спрэжаныя, абумоўленыя ўзаемна бакі пазнавальнага працэсу. Без паўнагучнага іх узаемапранікнення пазнанне акажацца актам або нудлівага калекцыяніравання з'яў, або пагружэннем у сябе, што роўна пагружэнню ў цемру касмічнай бязмежнасці душы. І сутнасць адкрываемага спосабу ў драматызме звядзення дзвюх форм пазнання — знешняй і ўнутранай, гатовых выбухнуць нечаканай і часам небяспечнай ісцінай.

Паэтычнасць вершаў А. Разанава ў загадкавасці, драматызме імкнення да мэты, у азарэнні ісцінай. Свет жа пазнае не чысты розум, а жывы чалавек, асоба, якая нясе праз сумненні і пакуты свой лёс. Так асоба шукае сябе, сваё Я і замацоўваецца кропелькай сэнсу ў процьме загадак. На загадкі жыццёвая мудрасць назапасіла шмат практычных адгадак, яны сэнсоўныя і добрыя для надзённых патрэб, але ж паэт — гуманіст, філосаф — успрымае свет як бязмежны феномен самапазнання, і яму мала ўстанавіць, што ў гэтым бязмежжы зялёнае, а што блакітнае, ён хоча ўразумець, чаму і для каго ўсё гэта стварылася, навошта смяротнаму чалавеку каштоўнасці, няхай сабе ён і летуценіць несмяротнасцю.

Вось просты і даўні, як само жыццё, прадмет — ланцуг. Нават сімвалічнае яго ўспрыманне даволі адназначнае: сувязь. Але ж сувязь бывае па сваёй волі і па

прынуцы, таму мажлівы разрыў — ланцуг падзей, ланцуг абавязаў і звон ланцугоў... Аказваецца, усё гэта яшчэ знешнія і далёкія ад гуманістычнай паўнаты значэнні. За імі ідуць глыбінныя, адкрытыя паэтам.

На панадворку сабакі: на ланцугу.

Яны адважныя — дакуль дазваляе ланцуг,
куслівыя — дакуль дазваляе ланцуг,
брахлівыя — дакуль дазваляе ланцуг,
і злуюцца яны на ланцуг таксама — дакуль
дазваляе ланцуг (36).

Аказваецца, ёсць ланцуг дазволенага. Хто прыдумаў яго, для чаго, ад каго? Нават дзікіх ваўкоў, што квапяцца нападаць на ланцужных сабак, утрымлівае ад спакусы ланцуг парадку.

Парасткі ў аднайменным вершы выступаюць больш адназначнымі: яны — «самаловы», прытым надзвычай натурлівыя: пасткі ловяць таго, хто іх ставіў, а не тых, на каго ставіў.

І пачалі яшчэ горай людзі баяцца лесу:
там водзяцца рысі,
там водзяцца лісы,
мядзведзі,
ваўкі
і — пасткі (38).

Паэтычны маналог Разанава вабіць нечаканай парадаксальнасцю і таямнічасцю, словы паэта не толькі называюць прадметы, з'явы і працэсы жыцця, а перадусім пераствараюць даўно і надзейна складзеную практычным розумам чалавецтва інвентарызацыю каштоўнасцяў. Паэт наводзіць на думку, што гісторыя вучыла людзей гнацца за матэрыяльнымі дабротамі, а прывяла да адмаўлення дабрабыту дзеля вызвалення чыстага духу. Эпоха сацыялістычных рухаў і мрояў атаясаміла рэчыўнасць з уласніцтвам і закляйміла таўром пагарды. Аднак археолагі прадаўжаюць адкопваць і склейваць чарапкі пабітых ваз, бо самі інвентарныя кнігі цывілізацый маюць сваю загадкавасць і паэтычнасць. У вершы «Рэчы» паэт называе прадметны свет «апошнім целам людзей», якое жыве «найдаўжэй», бо ўсё, зробленае розумам і рукою чалавека, становіцца метафарай чалавецтва, яго геніяльным іншасказаннем.

На торжышчы, дзе ўсё набываецца і прадаецца,
пытаюся ў рэчаў, як іх завуць.
Яны называюць мае імёны (58).

Загалоўнай гуманістычнаю ідэяй А. Разанава з'яўляецца, на мой погляд, еўрапейская максіма гуманізму: «Я чалавек, чалавек я! Толькі чалавек, а не Бог». Абагаўленне чалавека — небяспечная праява духоўнага нявольніцтва, тыранапаклонства. Змагаючыся за чысціню еўрапейскай мадэлі гуманізму, тэарэтыкі Рэфармацыі нават Хрыста знялі з пасаду нябеснага, каб не быў ні Богам, ні намеснікам Бога сын Марыі. У вершы «Апошні аргумент» на канве еўрапейскага персаналізму асэнсоўваецца міф пра подзвіг рымляніна Муцыя Сцэволы, які вызваўся ноччу перад бітвай з этрускамі пракрасціся ў варожы стан і забіць цара Парсену. Злоўлены стражай, Муцый спаліў на царскай жароўні руку, каб навесці на ворагаў страх — ведайце, з якімі цвёрдымі воінамі будзеце мець заўтра справу. А. Разанаў трактуе сітуацыю шырэй, для яго гэта выпрабаванне сіл, закладзеных у асобе чалавека: «Мой апошні, неперамožны, утоены і ад мяне аргумент — я сам». Чалавек — аргумент сам у сабе, ён больш надзейны, чым таемныя сілы мігатлівых зорак і планет, па якіх прадказвалі вынікі бітваў звездары.

Разанаў любіць пераасэнсоўваць экзістэнцыяльныя матывы еўрапейскай міфалогіі. У версэце «Танец з вужакамі» ўгадваецца тэма Лаакаона, прадказальніка, які хацеў засцерагчы траянцаў перад каварным канём, унутры якога хаваліся ўзброеныя ворагі. На правідцу і яго сыноў багі наслалі марскіх змей. Прыгадваючы матывы міфа, пачынаеш чытаць верш Разанава, спадзеючыся сустрэць пераклічку з трактатам нямецкага асветніка Лесінга. Лаакаон там — зямны герой, што па-чалавечы перажывае трагічную сітуацыю. Апавіты і здушаны змеямі, ён стогне ад болю, але не крычыць — крычаць не дазваляе пачуццё ўласнай годнасці. З годнасцю прымаць трагічны прысуд лёсу — што можа быць вышэй гэтага? І якую яшчэ інтэрпрэтацыю вечнай праблемы можна жадаць? Разанаў паказвае, што можна, бо міф, як і ўсе мастацкія вобразы, невычэрпны ў сваім змесце. Лаакаонава змаганне аўтар прапануе ўспрымаць травесційна — як танец з вужакамі. Падобным чынам звычна ўспрымаць трагізм табала гарадскіх разявакаў, не здольных падняцца над павярхоўным і побытавым. Пад уплыў «агульнай думкі» знарок паддаецца і сам змагар. Не ўхіляецца, праўда, ад небяспекі, але спакуса патанцаваць са смерцю бярэ верх.

Сярод фігуратыўных вобразаў кніжкі варта вылучыць вандроўніка, падобнага на біблейскіх пракокаў і рамантычных дзівакоў. Падарожны ў Разанава свабодны ад рамантычнай манернасці, богападобнасці, ён часцей нагадвае мудрага Дыягена з ліхтаром у руцэ.

Я ў хаты ўваходзіў і з хат выходзіў,
уваходзіў у гарады і выходзіў з іх — і ўсё адно
апынаўся то ў паўакружнасці дня,
то ў паўакружнасці ночы, самім сваім існаваннем
дзелячы свет надвое і з'ядноўваючы ў адно (61).

Перад намі ў большай меры мысліцель, чым прарок, а мэта яго вандровак — пошук ісціны, а не тварэнне цудаў (хоць і гэта не выключана). Вернасць прызванню і спаўненне лёсу падаецца ў вершы як цяга да недасяжнага небакраю. Небакрай недасяжны не таму, што надта далёкі, а таму, што няўлоўны.

ён — там, дзе спынюся,
ён — там, дзе ўпаду.

Жыццё ідзе кругам, вяртаючыся да пачатку,
смерць — нацянькі (61).

Усё жыццё вандроўніка — пошук ісціны, які настойліва асацыіруецца з палётам стралы сэнсу, якая ляціць наперарэз небакраю, як смерць.

Палёт у кантэксце верша — сімвал самапазнання Сусвету. Геаметрычнасць уяўлення не вядзе да акругліваня думак і не адводзіць ад бязмежнага, неабдымнага. Сімвалам магутнай цягі да ідэалу выступае ў кнізе «вандроўны горад», вобраз зыбкі, як фата-маргана, як сігнал далёкай надзеі, пушчаны кімсьці ў прастору з-за межаў зямнога быцця. Увесь версэт гучыць як апафеоз высокаму ідэалу: «горад, якога няма на зямлі, горад, які вандруе». За межы зямнога прыцягнення ляціць страла дапытлівасці і надзеі.

Учытаўшыся ў кнігу Разанава, заўважаеш цэлую сістэму сімвалаў, якія напаўняюць змест шматграннасцю быцця і мнагазначнасцю пазнання: дарога — увасабленне вечнага руху ад сумніву да ісціны, а люстра — алегорыя самасузірання, медытацыі і этычнага самакантролю; зямля і неба — сімвалы матэрыі і духу; святло і цемра — жыцця і смерці; сонца і апраметная — сімвалы цвіцення і гібення; дом і белы свет — увасабленні бяспекі, ахаванасці і растваранасці духу ў бязмежжы; парог — сімвал падзелу свету на малы і вялікі. Інтэнсіўна працуе ў версэтах комплекс канкрэтыза-

ваных абстракцый: час, прастора, рух, спакой, шум, цішыня. Пазнанне ідзе цераз launchpad пераtварэнне з'яў і прадметаў у паняцці аб іх, якія аказваюцца адноснымі і суб'ектыўнымі часткамі самапазнання. Многае тут вынікае з дваістай прыроды мовы: «Слова, як пасрэднік паміж светам унутраным і знешнім, — гаворыць П. Фларэнскі, — відавочна, мае двайную накіраванасць, папершае, ад гаворачага — вонкі... а па-другое, ад знешняга свету да гаворачага, у нутро яго...»[1]

Што б ні падумалася чытачу аб складанасці або дзівацкасці вобразнай формы твораў Разанава, але ніхто не дакажа, што гэтая несамавітасць была для аўтара самамэтай, бо форма адпавядае зместу паэзіі, якая адлюстроўвае знешні і ўнутраны свет суб'екта адначасна і дыялектычна. Версэты, квантэмы і пункціры — гэта формы арганічнага самавыяўлення таленту Разанава, адпаведныя пазнавальнай звышзадачы, якую ён сабе ставіць.

Версэты Разанава трэба чытаць так, як яны задуманы: спачатку схапіць сюжэт, адчуць яго займальнасць, затым заглыбіцца ў сутнасны аспект — роздумы і падтэкст. Займальнаю бывае ў яго метафарычна-сімвалічная іншасказальнасць, як у загадках, нярэдка ж яна замкнёна складанымі асацыяцыямі, далёкімі падабенствамі, намёкамі, замоўчваннямі і паўторамі, якія складаюць важкі па ўдзельнай вазе сэнсавы рад. Назваць яго «цяжкастраўным», як гэта рабілі саманадзейныя крытыкі і чытачы, я б не рашыўся з увагі на гуманістычную і філасофскую вартасць зместу. Урэшце, усё новае павінна быць для масавай свядомасці нейкі час неўразумелым і «неудобоваримым», скарыстаем тэрмін М. Бахціна.

Другая частка кампазіцыі версэта звычайна бывае больш складанай і мацней зашыфраванай, хоць здараюцца і выключэнні: сюжэт можа аказацца самадастатковым носьбітам задумы, як, напрыклад, у версэце прабацькаў парог, на якім сустрэліся два сыны.

— О, яму безліч гадоў, — кажа брат. —
І высечаны ён з дрэва, якога цяпер няма ўжо, —
са шчырага дрэва, і высечаны
людзьмі, якіх гэтаксама няма...

Мы не ўваходзім у хату: у ёй жылі нашы дзяды,
у ёй жылі прадзеды нашы, а мы стаім на парозе,

[1] Флоренский П. А. Собр. соч.: В 2 т. М., 1990. Т. 2. С. 252.

на шчырым парозе, і адчуваем, што мы гэтаксама парог,
да якога — няма нас, і пасля якога — няма... (52)

Сітуацыя хібкая, аўтар паставіў чытача недзе на мяжу бытавога і быційнага, ужо знарочыстыя перадзелы вершаваных радкоў на сярэдзіне слоў, жывасілам разарваныя лексемы і фраземы надаюць выказванню несамавітасць. Думка чытача пачынае шукаць адпаведны форме дзівосны падтэкст, і раптам новы нечаканы паварот. Куды? Да трывожнай актуальнасці: «Хаты чакаюць, што вернуцца людзі». Чытач настройваецца пачуць адказ на адну з балючых праблем сённяшняй Беларусі — гвалтоўную, безалаберную урбанізацыю, вынікам якой аказаўся заняпад сяла, неперспектыўныя вёскі, а ўрэшце, страта эканамічнай самастойнасці, інтэграцыя рэспублікі ў гіганцкую ўсесаюзную сістэму, пераход на куплены за мяжой хлеб. Але паэт, адштурхнуўшыся ад злобы дня, як ад трампліна, разраджаецца парадоксамі надчасавых глабальных маштабаў.

Калі мы са светам — мы супраць свету,
калі мы з прыродай — мы супраць прыроды,
калі мы з родам — мы супраць роду...

Маўленне набыло рытмічную строгасць, парадоксы становяцца заканамернасцямі, чакаецца прысуд самой светабудове, пастаўленай на зыбкім падмурку супярэчнасцяў. Але ўспыхвае зорка надзеі: «Мінулае тоіцца ў змроку, будучыня — у светлыні».

Тут хочацца нагадаць адну з фундаментальных ідэй еўрапейскай гуманістычнай філасофіі — канцэпцыю В. Гумбальдта пра антыномнасць мовы, якую развівалі рускія лінгвісты і філосафы А. Патабня, П. Фларэнскі і інш. Лінгвісты называюць гэту з'яву тэрмінам «дыхатамія» — што азначае дыферэнцыраваную класіфікацыю моўных з'яў, напрыклад, у фанетыцы: фрыкатыўны — нефрыкатыўны, глухі — звонкі, галосны — зычны і г. д. Вучоныя лічаць дыхатамію асновай лінгвістычнай сістэмы, у сваю чаргу яна адпавядае асновам рэальнасці жыцця, якое рухаецца цераз супярэчнасці.

Разанаў любіць змяшчаць сэнсавую дамінанту твора ў фінал, твор будуецца па прынцыпе каметы, якую мы ловім, сігаючы позіркам ад шлейфа да ядра. Здараюцца, праўда, і рассеяныя кампазіцыі накшталт прытчы «Госці», дзе гаворыцца, як незнаёмыя людзі, увайшоўшы ў хату, на пытанне гаспадара, хто яны такія, упэў-

нена адказваюць: «Гаспадары». Гаспадар думае, што яны памыліліся хатай, бо жыве тут ад нараджэння, але няпрошаныя госці аддзіраюць маснічыны і дастаюць з-пад падлогі куфар, са сцяны выдзіраюць схованк-шкатулку, са шчыліны ў столі вымаюць нейкі скрутак. «І вось я стаю ў сваім доме — госць» (56). Лірычны суб'ект не выказвае асабістых адносін да гэтай фарсавай мены роляў. Канчае прытчу апісальным сказам. А які вывад можна прапанаваць чытачам? Напрыклад, такі, што гаспадар у хаце не той, хто жыве ў ёй, а той, хто будаваў яе, таму ведае ўсе сховы, усе скарбы свайго роду. Так, права быць гаспадаром трэба здабываць справамі, — падумае іншы чытач, але ж паношанне ў чужой хаце гаспадарчым добрым норавам не назавеш. Ці не маскіруюцца «госці» нейкай археалагічнаю паказухай? Нават гітлераўскія галаварэзы дратавалі нашу зямлю пад выглядам місіянераў, адраджэнцаў беларускай самасці, творцаў новага парадку ў Еўропе. І так можна падумаць. Да гэтага часу бокам вылазіць беларусу векавое гаспадаранне няпрошаных гасцей. Дык, можа, пара ўрэшце самім стаць гаспадарамі ў сваёй хаце? А гасцей спытаць, ці не надакучылі ім гаспадары, падзякаваць за распарадчасць ды самім адшукваць забытыя скарбы ў дзяржаўным і нацыянальным доме.

І такое ўспрыманне твора мае права на існаванне, хоць яно, напэўна, павярхоўнае, думка паэта залятае вышэй і ахоплівае шырэйшыя прасцягі.

Задума прытчы «Госці» навеяна ўсходнімі вераваннямі аб перасяленні душ і генетычным наследаванні нашчадкамі ідэалаў продкаў, аб фатальнай страце некаторымі з іх генетычнай памяці роду. «Госці» — гэта тая частка пакалення, што ведае, дзе схаваны скарбы душы народнай, куды закінуты забыўлівымі ці недалужнымі нашчадкамі. «Госці» — пасланцы роду, якія напамінаюць нашчадкам, каб шанавалі куфры і шкатулкі, напоўненыя мудрасцю папярэднікаў, прачытвалі запаветныя скруткі — тэстаменты, летапісы, законы і бласлаўленні на вечнае жыццё. Для нашага народа, у якім згубілі родавую памяць верхнія пласты, ды і нізы губляюць пачуццё паўнацэннасці пад прэсінгам вялікадзяржаўніцкіх сіл, праблема гасцей і гаспадароў гучыць трагічна.

Звыштэмай у філасофскай формуле стралы з'яўляецца мэта:

Дзве мэты, якія пярэчаць адна адной, ува мне супадаюць: мэта — усё займець і мэта — усяго пазбыцца (15).

Гэта не сумятлівая барацьба жаданняў ці мітульга настрояў, гэта зведзеныя ў адну антыному параўнанні дзвюх канцэпцый сэнсу чалавечага жыцця: першы — дзейсны, належыць еўрапейскай заходняй філасофіі, другі — сузіральны, метафізічны, мройны — усходняй. Шчасце прадукаваць і спажываць з поспехам можа быць заменена шчасцем устрымацца, умерыць апетыт хоць бы дзеля захавання ўсяго жывога. Прадукаваць і спажываць — гэта ж значыць пажыраць прыроду.

Пакуль што сістэмы каштоўнасцяў, створаныя ўсходняй культурай, застаюцца неасэнсаванаю антыномай для людзей заходнееўрапейскай культуры, але час глабальнай інтэграцыі каштоўнасцяў настаў, усё расце ўзаемная цікавасць і разуменне карысці з абмену для духоўнага ўзбагачэння чалавецтва. Мяркуюць, што ініцыятыва належыць на сённяшні дзень разбуджанаму Усходу, хоць і Захад не дрэмле, толькі таемны змест усходняй філасофіі шчыльней закрыты, яе паняційная канвенцыя цяжэйшая для перастварэння, выказваюцца меркаванні, што каталізатарам сувязі акажацца заходні мадэрн.

У новай беларускай літаратуры першыя крокі да ўсходняга сезаму зрабіў Янка Купала, ствараючы вольныя наследаванні з Рабіндраната Тагора. Да індыйскай філасофіі шчыльна падышоў цераз асэнсаванне гуманістычных ідэй Л. Талстога, Махатмы Гандзі, М. Рэрыха Я. Брыль. А. Разанаў ідзе далей тою ж гуманістычнаю сцежкай свабод чалавека, засвойваючы этычныя ідэі А. Швейцэра. Не выключаю таксама ўплыву бацькі біякасмізму М. Фёдарава, аўтара «Философии общего дела», дзе праблема смерці і несмяротнасці аб'яўлена рэальнаю для сучаснай навукі праграмай: пераарыентаваць чалавецтва ад натуральнага прадаўжэння роду на «прабуджванне» мёртвых. І прабуджаць трэба свядома, выбарачна, вяртаючы з небыцця найбольш даравітыя асобы, а не гуляць у жмуркі з прыродай-парадзіхай. Прыхільнікі «маскоўскага Сакрата» выдалі ў 1914 годзе зборнік «Вселенское дело», дзе заклікалі: «Смяротныя ўсіх краін ...яднайцеся!» У 20-я гады савецкія біякасмісты мадэрнізавалі лозунг руху: «Смерці смерць! На штурм Сусвету!» Ідэі Фёдарава ахапілі асяроддзе рускага зарубежжа, іх падняў ідэолаг зменавехаўцаў

М. Устралаў, а найбольш моцным рэзанатарам аказаліся эмігранцкія асяродкі еўразістаў Парыжа і Прагі — Трубяцкой, Карсавін, Святаполк-Мірскі і інш. Яны бачылі вялікую місію Расіі ў тым, каб стаць звяном сувязі паміж усходняй і заходняй духоўнасцю, адкрываючы новыя шляхі да вечнасці.

Кніга Разанава выходзіць за рамкі чыстай паэзіі, яна напісана паэтычнаю мовай сімвалаў, асацыяцый і метафар, але гаворыць пра выйсце з глыбокага духоўнага, этычнага і быційнага крызісу, які агарнуў наша грамадства, перадусім інтэлігенцыю, што б'ецца над адказамі, дзе прычына жахаў і няшчасцяў, якія перажыў народ пад эгідай барацьбы за сацыялістычную будучыню. Савецкая ўлада парывалася даць прыклад усяму свету і ашчасліваць усё чалавецтва. Аказалася яшчэ раз, што барацьбой і сілай не ашчаслівіш. Хто вінаваты? — устала пытанне на рубяжы няўдач. Адказваюць на яго тыя, што працавалі, і тыя, што кіравалі, а таксама тыя, што хітравалі і ўхіляліся.

Адказы выходзяць рассыпістымі і антынамічнымі: вінаваты аўтары утапічнай ідэі, «класікі», вінаваты вульгарызатары, што сказілі ідэю класікаў, вінаваты хіжыя і тупыя рэалізатары ідэі, правадыры, не здольныя разумна кіраваць. Гэта ж яны разгарнулі оргію рэпрэсій, зглумілі, пад выглядам класавай барацьбы, творчы генафонд народаў. Правадыры, — чуем у адказ, — былі такія, якіх заслужылі падначаленыя, табуном без кнута не пакіруеш. Мала яшчэ прыцікалі несуноў, хапуг, дэмагогаў, з якіх выраслі экстрэмісты, лжэдэмакраты, лжэпрарокі. Абудзім Сталіна — і стане парадак.

Адным словам, адказы палярныя, па схеме вядомай прыказкі: вінават Ігнат ці хата, што пусціла Ігната. Чалавек ці абставіны? У прынцыпе, вінаваты людзі, бо яны самі ствараюць абставіны, але ж не заўсёды робіцца гэта свабодна; у прыродзе чалавека, у яго псіхалогіі ўжо закладзены рэпрэсіўныя і дэпрэсіўныя схілы, у якіх цяжка прызнацца, а тое, што сёння адказнасць перакладваюць нізы на вярхі, грамадзяне на імі ж выбраныя ўлады, грамадскасць — на сістэму, а сістэма назад на грамадзян, — гэта таксама паказчык недасканаласці чалавечай, якую людзям трэба ўсведамляць, каб станавіцца карыснымі ўдзельнікамі грамадскіх працэсаў, а не хітрунамі, круцялямі, пустабрэхамі, для якіх

найлепшай сістэмай выдаецца расейская з царом-бацюшкам на троне, бо царскі род Раманавых — гэта асвечаны Богам,ісцінна рускі, а Ульянавы — рэпрэсіўнікі. А хто ж каму пабудаваў Шлісельбургскую крэпасць? Як быць з Пятром Раманавым і з бунтам стральцоў, куды дзець Мікалая Палкіна?

Хто ж вінаваты ў трывогах і пакутах свету, у якім мы жывём? Разанаў адказвае на гэтае пытанне не адназначна. Паднімаючыся над канкрэтнымі штодзённымі злыбедамі, ён і праблему паднімае да ўзроўню агульначалавечых быційных максімаў і, сунімаючы нагрэў страсцей, гаворыць, што ісціна Сусвету схавана ў самым Сусвеце, значыць, і ў чалавеку, які яе шукае і пазнае. Не ўпадайма ў аднабаковасць, не шукайма віны толькі ў свеце, бо ён не адказчык на судзе, не шукайма і ў чалавеку, бо чалавек і свет супрэжаны. Прычына ў згодзе духу на тое, каб свет быў цьмяным і заблытаным. «Мова, твораная ў самім маўленні... вядзе цераз чыстую эмацыянальнасць да звужанасці і ад звужанасці да нечленараздзельнасці і губляецца ў стыхійных шумах, стуках, свістах, грукаце і завыванні»[1], — трапна заўважае П. Фларэнскі.

Шукайма ісціны ў законах быцця і пазнання, у патрэбе пазнання свету і самога сябе. Супярэчлівае антыномнае пазнанне мучыць, але і вучыць, дае шанц і ўмацоўвае нашы надзеі: «... сярод белых аблокаў блукаюць разам душы апосталаў і кароў» (27). Такі свет, а ён можа стаць іншым, прасветленым, калі прасвятлеюць усе жывыя душы: «Жывы на зямлі, нашу ў сабе сваю смерць і сваю неўміручасць...» (34). Каб свядомасць згадзілася, што ты смяротны, патрэбна адолець страх, каб дацягнуцца да несмяротнасці, патрэбна мужнасць.

А мне хочацца глядзець проста,
а мне хочацца разумець проста,
і проста жыць —
і бачыць светлае светлым,
і бачыць цёмнае цёмным,
праўдзівым — праўдзівае,
крывое — крывым... (35)

Дык што? Умацуем сэрцы наіўнасцю, апросцімся? Не, гэтага нам толькі хочацца, калі палохае сфінкс непазнанага, процьма супярэчнасцяў і загадак, што перад

[1] Флоренский П. А. Собр. соч.: В 2 т. Т. 2 С. 200.

намі і ўнутры нас. Недасканаласць чалавека такая ж рэальнасць, як і таямніца жыцця, як і неразгаданасць свету. Непазнанае можа расчараваць, кінуць у жар і халодны пот, можа завесці ў тупік скепсісу, але ж яно і вабіць, яно дае адвагу глядзець смерці ў вочы і мужна ісці да несмяротнасці. Так на свеце ёсць, і не трэба ілюзій. Горкая ісціна супакойвае пазнаўшага яе.

Філасофстваванне ў Разанава не карыслівы мазгавы занятак, не дасціпнае ўпарадкоўванне слоў, гэта нешта спантаннае і глыбокае, як само жыццё, ачышчэнне і ўпарадкоўванне душы. Паэт шукае гармонію Сусвету ў прыродзе і ў сабе ды неўпрыцям сам становіцца сусветам. Верш пачынае гучаць як рэха таямнічых загадак, водгалас спрадвечных роздумаў і спрэчак пра сэнс быцця, у якіх чутна трагічная прэлюдыя апакаліпсіса. «...самі сабою зрушваюцца са сваіх месцаў нашы бажніцы, астрогі, музеі, крамы...» (60). Аднекуль зверху чутно супакойванне: «...Гэта капаюць краты свае норы, проста краты...» Медытацыя выклікае рэакцыю.

Мы і так не звяртаем даўно ўжо на шмат што ўвагі,
нават на тое, што мы ўжо не надта і мы,
што мы падкапаны ў саміх сваіх думках, учынках, словах,
што — невядома кім — ашуканы,
што — невядома як — страцілі грунт... (60)

А ўсё ж падземная, няспынная работа кратоў трывожыць і служыць прыкладам, спакушае да актыўнай самаабароны і дае надзею: людзі чуюць, быццам недзе там, пад зямлёю, устае запалонены волат і, услухоўваючыся ў яго варочанне, раздвойваюцца: «...адною сваёю часткай палохаемся і радуемся — другой...» Пакутуюць людзі, не ведаючы, як быць: «...ці слухаць не тое, што чуем, бачыць не тое, што бачым, казаць не тое, што разумеем, ці напярэймы кратам капаць... зямлю». Публіцыстычнасць выводзіць думку ў гэтым унутраным маналогу на паверхню, але ўсё ж не закрэслівае філасофскага падтэксту — крот гісторыі рые глыбока.

Не з усім тым, што выказана ў прытчах А. Разанава, патрэбна згаджацца, некаторыя творы прызваны пабуджаць да роздуму, ставіць пытанні. Сюды я б аднёс, напрыклад, версэт «Сыны Іова», твор пра ўзвышэнне, як раней гаварылася, «над калектывам» аднаасобніка, сёння кажуць — аутсайдэра. Герой стаіць сабе з боку прыпёка, глядзіць на братоў, што збіраюцца разам «на святы, нарады, справы, што тычацца нас усіх». Самаўхі-

ленец апраўдвае сябе вышэйшым, як кажуць, наканаваннем: «... нехта, хоць бы адзін, адсутнічаць мусіць. Я вартаўнік лёсу... Я памятаю пра сыноў Іова: яны загінулі, калі сабраліся пад адною страхой усе разам» (20). Так, было нешта такое ў біблейскія часы. Але ці была лепшай за смерць горкая доля таго адзінага брата, які застаўся жывым? Дарэчы, па Бібліі яго пакінуў на дварэ Бог як сведку эксперымента па выпрабаванні стойкасці Іова ў веры. Гісторыя ж не апраўдвае, у лепшым толькі выпадку можа даравацъ таму адзінаму з 300 спартанцаў, які не ўдзельнічаў у смяротнай бітве цара Леаніда на Фермапільскім перавале. Застаўся збоку, як гаворым сёння, з-за хваробы. Эліны верылі, што была тут воля лёсу, сама Феміда пажадала, каб подзвіг спартанцаў атрымаў жывога сведку і вестуна. Вястун лёсу апраўданы лёсам, а нашчадкі толькі памілаваны. Класічным сімвалам вестуна ў грэчаскіх міфах стаў сапраўдны ўдзельнік бітвы элінаў з персамі пад Марафонам, ён прабег сорак два кіламетры ад месца бою да Афін і з поклічам «Перамога!» упаў мёртвым ад шчасця і страты сіл. У гонар таго вестуна грэкі ўвялі новы від алімпійскага спаборніцтва — марафонскі бег.

Сітуацыя ўдзелу і ўхілення — складаная, ацэнка яе наўрад ці можа быць адназначна катэгарычнай, няхай сабе жанр прытчы і патрабуе яснага размежавання дабра і зла ды прадугледжвае павучальную закрэпку. У гэтым выпадку і ў цэлым А. Разанаў не педантычны, навошта паэту лаўры сектанта ці пракурора свету.

Нават стрыжнявыя ідэі выяўляюцца ў версэтах і пункцірах варыянтна. Ідэя антыномнасці гуманітарнага пазнання, паўтараючыся, узбагачаецца і набірае аўтарытэт паўсюднасці, хоць выступае ў тым самым вобразе дарогі і хады.

Хіба іду зямлёй?!
Іду сабой —
бесперастанна сцелючы пад ногі
свой цень,
свае намеры,
свае мэты (143).

Нямы і шматгалосы,
аспрэчваю свой след.
А ўвышыні нябёсы —
як вышні запавет (138).

Чым вышэй паднімаецца ў сваёй празорлівасці думанік, тым больш чулым і талерантным робіцца ён для

людзей, бо выяўляе мнагастайнасць і таямнічасць рэчаў, людзей, ідэй і пачуццяў, лічыцца і з магічнаю сілай мастацкага слова-вобраза: «Не ўсё, што расце, расце для яды, і ўсё, што расце, расце не адною ядою»; «Усё вырашае па-свойму розум, ды нешта ў жыцці не згаджаецца з ім» (25—26).

Так, бывае ў жыцці дыялектыка прысутнасці, але ёсць і этыка адсутнасці, удзелу і ўхілення, апавяшчэння і замоўчвання. На мове штодзённасці адно называюць дыпламатыяй, другое — вернасцю. Усяму ёсць сваё месца, але і свая цана. Напрыклад, не выклікае засцярог адказ героя верша «Маланка», якога запрашаюць далучыцца да адной з сябрын: «— Хадзі да нас, — заклікаюць мяне адны, — гэта ж твая бажніца: ты зноў тут зможаш казаць свае словы да неба...» Іншыя заклікаюць да сваёй бажніцы: «...слухаць, што кажа неба...» А ён стаіць

...на тым самым месцы
здранцвелы,
уражаны,
праяснёны,
не маючы мовы, каб гаварыць, —
з маланкаю ў сэрцы (66).

Супярэчнасці афарызмаў — рэч натуральная ў кнізе, якая мае цвёрды філасофскі стрыжань, пазнавальную і этычную звышзадачу.

Калі твая будучыня
сумесціцца з будучыняю сусвету —
усе словы дарэчы,
усе ўчынкі да месца,
усе стрэлы ляцяць у цэль (142).

Формула стралы — гэта звышзадача кнігі і, мабыць, усёй творчасці А. Разанава, але побач з гэтаю формулай ёсць іншыя, якія засцерагаюць ад дагматызацыі, ад паняволення сябе сказаным.

Мёртвы ў мінулым,
жывы ў сучасным
і неўміручы ў будучыні —
куды б чалавек ні ішоў,
вядзе з сабой
раздарожжа (152).

Пазнаючым суб'ектам у Разанава можа выступаць не аўтар і нават не чалавек наогул, а чалавечы лёс, адсюль і неверагодныя метамарфозы, цуды ўжывання ў лёсы

прадметаў, з'яў, працэсаў, ад пылінкі да космасу: «Думаю, удумваючыся ў самі думкі: што ў іх?!» (110). «Зямля — частка мяне» (версэт «Спадчына»). «Я ведаю шмат, не ведаю аднаго. Мой цень пільнуе мяне» (104). Драматычны шлях пазнання прыводзіць да магічнай таямнічасці космасу і слова: «Заходзіць сонца ў мой сон» (вершаказ «Сон») — адчувае паэт і бачыць: «Адступіў ад мяне белы свет, абступіла мяне белае беспрасвецце» (62). І на змену белай неазначанасці прыходзіць чорная:

> Чорны абраз.
> І нямыя прадонні космасу, дзе гараць,
> не згараючы, сонцы (101).

І вось паэт становіцца на часіну вучнем чараўніка, чытае давераную настаўнікам таямнічую кнігу і наклікае на сябе гнеў настаўніка і страх ад неўразумелых пісьмёнаў, забароненых, табуізаваных слоў: «Я баюся таго, што ведаю», — прызнаецца паэт. «За вокнамі маёй свядомасці цёмныя крыкі» (13—14). Але не можа скрыцца і перад пагрозлівым хаосам чалавек.

Магічнае ў Разанава не містычнае: «Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу...» (86). Сэнс і мэта — дзве апоры, якія не дазваляюць загубіцца душы: «...ад мэты, якую я выбіраю, перастаўляюцца горы...» (89)

Як паталенне трывог пранікае ў разанаўскія маналогі мудрасць старажытнага Усходу, які ўмее сніць пра растварэнне чалавека ў прыродзе і ўпадаць у экстазы перасялення душ. Роднасная яму адлучанасць і статычная прастата філасофіі Ду Фу — прыхільніка прастаты. Справа, зразумела, не ў тым, каб стаць падобным на ўсходняга дэрвіша ці будыйскага манаха і западаць у нірвану. Паэт асэнсоўвае вопыт агульначалавечай мудрасці жыцця, шукае сэнсу ў сто і тысячу разоў большым свеце, чым той, які падбіваў окладальнікаў ведыйскіх кніг адказваць на пытанні: «Куды дзяваюцца зоркі днём, што робіць сонца ноччу?»

Паэт адчувае сябе тым чалавекам, які можа паказваць кірунак на захад і на ўсход, а сам ён «занадта цэласны, каб падавацца ў які-небудзь бок...» і, стоячы на скрыжаванні дарог, злучае ростані: «Тут мой захад і тут — усход» (17).

Душа не прымае халоднага дэтэрмінаванага разумення жыцця і смерці. Для паэтаў у свеце сколькі лю-

дзей, столькі жыццяў і смярцей, не паслужыць нікому апошнім шчытом смерць самагубная са страху і самадурная з помслівасці: праз вякі будзе дакараць жывых, патрабуючы перагляду, перасуду. Увогуле пра смерць, як і пра жыццё, народная мудрасць гаворыць не адназначна: «Не ўсім адна смерць», «Сабаку сабачая смерць», «Раз казе смерць», — казе, можа, і так, а чалавеку? Людзі хочуць жыць і пасля смерці. М. Федароўскі, збіраючы фальклор люду беларускага, натрапіў, мне здаецца, на абсалютную антыномію быцця: «Сяк-так, абы далей ад смерці» і «Сяк-так, абы бліжэй да смерці». Узаемаадмаўленне настолькі поўнае, што адна з прыказак здаецца агаворкай. Але каторая? Ці не сутыкаюцца тут язычніцкая і хрысціянская канцэпцыі жыцця зямнога і замагільнага? Для хрысціяніна «жыццё і паміранне — одно» (П. Фларэнскі). Адсюль дэтэрмінацыя і фаталістычны настрой на суцяшэнне прыгнечаным: «Жыць як набяжыць, а памрэцца — ўсё мінецца». Аднак жыве і думка пра заканамернасць і наканаванасць памірання, жыццё і смерць звязаны прычыннай сувяззю: «Людзі мруць, нам дарогу труць». «Каб не памерлі, дык бы неба падперлі». «Памёр — усё гора адпёр» — такая прыказка трапілася Ф. Янкоўскаму.

Жанр квантэм у А. Разанава можна разглядаць як адзінку славеснай інфармацыі і як узбуджальнік эстэтычнага хвалявання, эмацыянальна-духоўнай актыўнасці, скіраванай на спасціжэнне праўды і крыўды, хараства і болю жыцця. Такому альтэрнатыўнаму падыходу квантэма выходзіць насустрач, раскрывае драму пазнаючай душы і ўзбуджае асалоду зграбнасцю выслоўяў. У ёй выступаюць два сэнсавыя рады: лагічны, які пра штосьці паведамляе, талкова сцвярджае ці адмаўляе, і другі, які разбурае прамую інфармацыю шляхам гульні і пераскокаў думкі, узбуджае іскрэнне асацыятыўнаацэначных імпульсаў (у трэцім звычайна ці ў апошнім, чацвёртым, радку). Сінтаксічныя зрушэнні і сэнсавыя праблескі ў ланцугу інфармацыі звычайна бываюць антыномамі: сілагізмамі, алагізмамі, зацемненымі кавалкамі рэляцыі, парадаксальнымі нонсенсамі, якія, аднак, утвараюць з першаснымі змястоўнымі кампанентамі нейкі загадкавы комплекс. Таемнасць квантэме прыдаюць часам устаўленыя ў моўны рад сінтаксічна нязгодныя алагізмы. Гэты прыём наносіць моцны ўдар па руцінным успрыманні чытача, прымушаючы яго на-

пружвацца і расшыфроўваць загнаны ў падтэкст важкі змест — звышзадачу.

Чытаючы квантэму, як мне здаецца, не варта жывасілам ператвараць яе ў стройны «граматны» сілагізм. Такія сілагізмы з'яўляюцца гнасеалагічным адмаўленнем квантэм як жывога зрэзу трывожнай рухавай свядомасці чалавека, гатовага выйсці за межы сэнсоўнасці, упасці ў транс апантанай відушчасці, спасцігнуць тайну самабыцця. Ці не такі стан трэба лічыць нормай творчага чытання тэксту? А лагічны пераказ будзе яго пахаваннем.

Квантэма да таго часу эстэтычная каштоўнасць, пакуль яна дражніць дапытлівасць, вабіць, дае асалоду, але не насычае, не глушыць гатовымі адказамі, а ўключае яго ў пакутлівы працэс разумення сэнсу быцця, лёсу чалавечага. Квантэма, як носьбіт лёсаў свету і чалавека, павінна заставацца няяснай, як сама доля і як ідэал, што вабіць недасяжным. Не ператвараць загадкавага ў прасцецкае і яснае, а весці да плённага суіснавання двух пачаткаў — вось яе прызванне. У загадкавай цьмянасці — невычэрпнасць і паэтычнасць. Квантэма адсылае розум з яго здагадлівасцю, здаровым сэнсам, самаўпэўненасцю кудысьці ў непазнанае бязмежжа і прымушае скарыцца перад інтуіцыяй — каралеваю пазнавальных сіл.

Да інтуітыўнага ўспрымання тэксту заахвочвае сінтаксічная непрасветленасць моўнай плазмы, якую аўтар не дзеліць знакамі прыпынку на лексемы і фраземы. Часткова ролю знакаў прыпынку выконвае падзел тэксту на радкі, але радок, яго пачатак і канец, можа выступаць у якасці сцісла неакрэсленага знака, які паказвае ўсяго на мяжу паміж адной сінтаксічнай адзінкай і другой, але не ўдакладняе, якія ж сэнсава-інтанацыйныя адносіны паміж размежаванымі сінтагмамі. Адчуваючы недастатковасць такой пунктуацыі, аўтар усё ж вымушаны быў у адным выпадку паставіць працяжнік, але і гэта не выратавала тэксту ад пэўнай варыянтнасці.

прадонне ў крыку
ноч у дні —
крумкач
трымаецца ў руцэ
галінка лёсу (128).

Прывабнасць мастацкіх тропаў-вобразаў паэт параўноўвае з птушкамі, якія адводзяць вандроўніка ад сваіх

гнёздаў, затое розум можа падняцца да ўсёразумення. На жаль, чалавек не можа збавіцца ад унутранай раздвоенасці, а мова яго ад антыномных супрацьстаянняў. «Не скончаны дзень тварэння: зноўку і зноў вылеплівае чалавек сваю лепшую долю» (118). Квантэмы можна ўспрымаць як часцінкі свядомасці, якія ўтрымліваюць у стане дынамічнай еднасці сэнс і бяссэнсіцу, логіку і алагічнасць. Яны нагадваюць падсвядомае бражэнне моўнага рэчыва. Іх цяжка перакладаць, бо тыповае, важнае мы прывучаны асацыіраваць са станоўчым сэнсам, напрыклад, з мудрымі развагамі пра жыццё. Канешне, і ў непрасветленасці састаўных частак квантэмы неяк сплывае агульны сэнс, але можна ўпасці ў педантызм, запіхваючы антыномную ідэю ў цвёрдую шкарлупу сілагізма. Не варта рабіць такога нават тады, калі змест праступае даволі выразна і можа быць успрыняты разумова і пераказаны аднагалосна.

ахвяры абуджаюцца  
нажы  
з'ядаюцца іржою  
чую рэха  
хлеб аржаны (123).

Інфантыльнасцю было б зводзіць гэтыя радкі да сцверджання, што мір лепшы, чым вайна, а жыта каштоўней іржы. Атрымліваецца прафанацыя задумы і пародыя на тэкст. Апрача пазнавальных антыномаў і парадоксаў, акрамя дыялектыкі сінтаксіса, А. Разанаў смела і ўмела выкарыстоўвае на мікрапляцоўках квантэм і пункціраў тэмбр і мелодыку жывой мовы.

празрысты цень  
праз цела нацянькі  
страла спявае (124).

Згадзіўся,  
змоўк,  
прывык —  
абуты і адзеты...  
А патаемны крык  
цябе шукае  
дзе ты?!. (134)

Наталяючы слых вытанчанасцю гучання гэтых мініяцюр, не хацелася б бачыць падключанага да іх груваcткага апарату гнасеалогіі, выпрацаванага практыкай філасофствавання, бо ў гэтым выпадку на тэксты паэта

непазбежна налепіцца чужародны баласт, які можа і пацягнуць на дно аўтарскую задуму, ператварыць мастацкі твор у пераказ вядомых афарызмаў Мантэня, Кьеркегора, Ніцшэ ці каго-небудзь іншага.

Паэтычныя мініяцюры, названыя А. Разанавым пункцірамі, адрозніваюцца ад квантэм большай кандэнсацыяй зместу і гарманізацыяй формы, прасветленасцю падтэксту. Тут прысутнічае не толькі рытм, але і рыфма, не крок толькі, але і напеў. Больш высокая ступень арганізацыі верша здымае ўласцівую квантэмам звышнапружанасць і часамі мудраватасць. У пункцірах досціп не рвецца заганяць здагадлівасць у тупік, не карыстаецца прыёмамі звядзення да абсурду. Аднак паэт не цураецца павучальнага пафасу, часцей наадварот — умацоўвае пры дапамозе эмоцыі пераканальнасць ранейшых роздумаў і этычных суджэнняў; у найбольш удалых творах дасягае сінтэзу этычнага і паэтычнага пачаткаў.

У пункцірах падводзяцца вынікі ключавых матываў кнігі, часта выказаныя раней думкі тут набываюць большую афарыстычнасць гучання і мацней кладуцца на душу. Тут паднімаецца шлагбаум пазнавальнай недаступнасці з'явы, паэт дэманструе чытачу, што ён усё ж мастак, якому дадзена выказваць агульныя ідэі ў канкрэтных вобразах, адкрытых пачуццёваму ўспрыманню. Хочацца завяршыць гаворку пунцірам, які мне выдаецца завяршальнаю кропкай у кнізе.

Які ты — неўпрыкметку
упэўнішся шматкроць.
А вершы — гэта сведкі
і за цябе, й супроць (154).

На заканчэнне скажу, што паэзія Разанава канкурэнтаздольная ў плане папулярнасці, сілы ўздзеяння на чытача. Яна дзейнічае не так чула, як паэзія метафарычна-напеўнага тыпу, але яе сіла строга накіравана на інтэлектуальную сферу асобы, яна будзіць уяўленне і вядзе ў свет усхваляваных роздумаў пра касмічную бязмежнасць матэрыі, поцемкі і ззянні духу ды пра кволага смяротнага чалавека, які, аднак, можа выйсці ў сферы несмяротнасці цераз пазнанне самога сябе. Такім выхадам з'яўляецца паэзія А. Разанава. Яе можнаназваць запрашэннем у несмяротнасць. Як старонкі кнігі быцця, пісанай усім чалавецтвам, яна гаворыць пра беларуса, родны край і сусвет, пра ўсё, што жыве трывожна і прагне гармоніі.

Паэзія Разанава сцішаная філасофіяй, таму яна салідная апазіцыя бяздумнасці і павярхоўнай крыклівасці эстраднага шырпатрэбу, які цераз гітару і апантаны віскат пнецца ўвайсці ў ранг нейкай суперсучаснай маладзецкай нормы.

Не буду казаць, што паэзія А. Разанава даступная кожнаму, але не лічу, што на сённяшнія нашы меркі ды на асветніцкія мажлівасці такая паэзія неўразумелая ці элітарная. Мажліва, яна ствараецца крыху навырост, але з разлікам на таго інтэлігентнага думаючага чытача, за якім будучыня.

*1991*

16. Зак. 528.

# Поле роднасці душ

Інтэнсіўнасць духоўных зносін у сучасным свеце называюць інфармацыйным бумам, лавінай, не апошняй сярод мажлівых прычын глабальнай катастрофы. Мастакі спачувальна гавораць пра разгубленасць сучасніка, які заблытваецца ў сетцы апакаліптычных прароцтваў і катастрафічных прагнозаў. Як адапціравацца ў свеце, перагружаным не проста інфармацыяй, а страхам конавых прадчуванняў, знакамі канца ў бясконцым сусвеце.

У вершы «Сон» Віслава Шымборска адрэагавала на гэтую лавіну трывожнай няпэўнасці быцця і пазнання лёгкаю іроніяй.

Ужо так далёка ўсё відаць, так далёка,
Што дзень і ноч існуюць адначасна,
А ўсе поры года ўспрымаюцца разам.

Як захаваць тоеснасць чалавека і народу на невераГодных перасячэннях часу і прасторы, чакаючы неўпраўляемых метамарфоз? Можа, варта паверыць візіянерам, што чалавек назад паверне плынь часу і замест таго каб прадаўжаць род, пачне ўваскрашаць мёртвых, а ім ужо нічога не баліць — усё адбалела, адсмылела, іх не застрашаць катастрофы. Яны хіба здолеюць гуманізаваць індустрыяльнае грамадства, прымірыць тэхніку з чалавекам і прыродай? Больш свабоды хочуць сёння людзі і народы, больш прастору для творчасці і дзейнасці, поўнай незалежнасці духу.

Беларусь жыве надзеяй на новае адраджэнне, якое павінна ж, нарэшце, здзейсніць прарочыя сны Купалы, Коласа, Багдановіча, сны аб волі. Літаратура, мастацтва апынаюцца ў горне грамадскага жыцця, абпальваюцца, растуць, як крышталі ў карону Радзімы. Гарачка пакутлівага абнаўлення спараджае вострыя супярэчлівасці, антыномы быцця і альтэрнатывы ўспрымання, ахоўны рэфлекс аслабляецца, і расце патрэба злучыцца са светам, удзельнічаць, супрацоўнічаць.

Так мне хочацца бачыць працу сучасных беларускіх пісьменнікаў-перакладчыкаў, якія ўжо ў часы духоўнай ізаляцыі краіны парываліся прадоўжыць справу Максіма Багдановіча і літаратуры 20-х гадоў — перастваралі, пераносілі на беларускую глебу асобныя творы сусветнай і славянскай класікі. Варта нагадаць працу першых адраджальнікаў тае справы пасля вайны — Юрку Гаўрука, Язэпа Семяжона, Аркадзя Куляшова, Янку Брыля, Максіма Танка, пазней, у пару расстайвання тарасаў халоднай вайны прыйшло новае пакаленне беларускіх паэтаў-перакладчыкаў, складзенае з прадстаўнікоў філалагічнага пакалення. Ніна Мацяш належыць да гэтай кагорты. Сваім перакладчыцкім дэбютам паэтка лічыць кніжку Жана Галіўе «У краіне індзейцаў», якая была цёпла сустрэта беларускімі падлеткамі. Давялося ёй прымаць удзел і ў працы над калектыўным зборнікам «Паэты Парыжскай камуны», браць для перакладу творы, запланаваныя выдавецтвам, але толькі тыя, што дазвалялі напрацоўваць майстэрства, паэтычны густ, манеру і стыль. Так Н. Мацяш прыйшла да сітуацыі, калі радавала толькі праца над тэкстамі духоўна блізкіх майстроў. Такім усыноўленым творам аказаўся «Маленькі прынц» Сент-Экзюпе00ры, а ўжо роднай сястрыцай — вершаваны раман Ліны Кастэнка «Маруся Чурай». Недзе адначасова пачынала яна захоплена працаваць над кніжкай выбраных перакладаў польскай паэткі Віславы Шымборскай.

Прыгаданыя факты даюць падставу для разважання пра матывы выбару, пра ідэал перакладчыцы. Л. Кастэнка і яе гераіня — постаці трагічныя. Магутнаю сілай перажыванняў уразіла і паланіла беларуску пяснярка славы казацкай і трагічнага, як у баладах, кахання, з варажбой і атрутай. Напэўна, вабіла і мова ўкраінская, да якой так проста і лёгка было падступіцца з падмосткаў роднага палескага дыялекту.

Віслава Шымборска вабіць нечым таксама высокім і трагічным, але іншым — трагічны ў яе філасофскі стан свету, трагічная бясконцасць быцця і адноснасць пазнання. Вабіць яна казачнай усемажлівасцю, пераносячы душу некуды на сумежжа явы і сну, балючага, страхотлівага і блазенскага, за якім таксама чуецца трагізм недасяжнасці.

Віслава Шымборска належыць да пакалення, якое дужэла і сталела ў вайну. Яна нарадзілася 2 ліпеня

1923 года ў Правэнце-Бніне Пазнанскага ваяводства, паэткаю станавілася ў гады трагічных перыпетый польскай гісторыі, друкавацца пачала ў 1945 годзе, будучы студэнткай Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, дзе штудзіравала польскую філалогію і сацыялогію. З 1952 года працуе ў рэдакцыі штотыднёвіка «Zycie literackie», які выдаецца ў Кракаве. У 1954 годзе атрымала літаратурную прэмію горада Кракава за кнігі вершаў «Для гэтага жывем», «Пытанні, задаваныя сабе», а ў 1963-м— узнагароду Міністэрства культуры і мастацтва за зборнік «Соль». З 1962 года пачынаюць выходзіць зборнікі выбраных вершаў; між іншым, у 1967 годзе выйшаў том вершаў, выбраных самой аўтаркай, з яе прадмовай у серыі «Бібліятэка паэтаў XX стагоддзя». Кнігі Віславы Шымборскай лічаць за гонар выдаваць самыя прэстыжныя польскія выдавецтвы.

Паэзія Шымборскай філасафічная ў лепшым значэнні гэтага слова, экзістэнцыяльна-метафізічныя сістэмы, пачынаючы ад антычных мысліцеляў цераз Лейбніца, Кьеркегора, Хайдэгера, існуюць для Шымборскай не як школы, якімі чалавек авалодвае, каб быць на ўзроўні сусветнай культуры, а як нейкі пазнавальны трамплін, ад якога паэтка адштурхоўваецца, каб выскокваць у бязмежжа і, захоўваючы самаіснасць, дапаўняць строгую філасофію гарэзлівай свавольнай лірыкай.

У лагізаваныя парадкі філасофскіх вучэнняў, у шпалеры сістэм, дэфініцый, сілагізмаў, аксіём Шымборска пускае неаб'езджанага жарабка, натуральнага, жывога суб'екта, які кіруецца ў свеце не чыстым розумам, а ўсёй душою, усімі сродкамі пазнання — да інтуіцыі і падсвядомасці ўключна. На лірычнага суб'екта находзіць страх і разгубленасць ад усведамлення многасці свету: «Столькі адразу свету з усіх канцоў свету — і марэны, мурэны, і моры, і зоры, і агонь, і хвост, і арол, і арэх — як я гэта парасстаўляю, дзе разлажу?.. Не паспею адрозніць гэтай рэчыўнасці ад парожнасці».

«Чатыры мільярды чалавек на гэтай зямлі, а маё ўяўленне ёсць, як было. Дрэнна спраўляецца з вялікімі лікамі, усё яшчэ хвалюе яго паасобнасць».

Атрымліваецца вольны пераклад філасофскай закрытай мудрасці на мастацкую адкрытую вобразнасць і суправаджаецца гэтая трансфармацыя каментарыем, рэфлексіяй. У адных выпадках рафініраванаму розуму спрабуе пярэчыць эмпірычны, тэарэтычнаму, сістэмна-

му — спантанны, ён мысліць сумбурна, не па правілах, але не тэрарызуе апанента, у крайніх выпадках, становіцца поруч, як votum separatum, часцей гарэзліва апаніруе, стварае дасціпныя альтэрнатывы, сутыкаючы паняцці і словы: «Прашу прабачэння, выпадак, што называю цябе неабходнасцю. Прабач, неабходнасць, калі, аднак, памыляюся». «Не вінаваць мяне, душа, што рэдка маю цябе». «Усё перапрашаю, што не магу быць усюды, усіх перапрашаю, што не ўмею быць кожным і кожнаю».

Так сцвярджаецца ідэя плюралізму чалавечых пошукаў ісціны, ідзе праверка праўды чалавечнасцю. Тая праўда, што вытрымлівае экзамен, падвышаецца да рангу мудрасці, г. зн. праўды справядлівай, праўды сумленнай, а часцей — праўды канкрэтнай, як гэты свет, як хлеб надзённы. «Шчаслівае каханне. Ці гэта нармальна, ці гэта сур'ёзна, ці — карысна — што будзе мець свет з двух чалавек, якія не бачаць свету?»

В. Шымборска ўспрымае субстанцыю жыцця як трагізм, які па абавязку і логіцы існавання належыць перажываць. Справа ў тым, каб умець перажыць дастойна, з паднятай галавой, добраю ці іранічнаю ўсмешкай на вуснах, за якою, нібы за шырмай, жыве нябачна, каб зрэдку паказацца і прагучаць паміж слоў, вера ў гуманістычную наканаванасць гэтага наёжанага догмамі свету — зямной долі.

Obmyslalam świat, wydanie drugie,
wydanie drugie, poprawione,
idiotom na śmiech,
melancholikom na placz,
lysym na grzebień,
psom na budy.

Такой вось тырадай іранічных метафар пачала паэтка кнігу выбраных твораў «Паэзія» ў 1977 годзе. Здавалася б, усё творчае крэда, уся мера адносін аўтаркі да свету і да самое сябе месціцца ў гратэску, але праз некалькі радкоў нечакана прыходзіць расчуленасць над ахвярамі жыцця і адвечная, уласцівая паэзіі, гуманнай эмоцыі зычлівасць і вера — усё, што патрэбна на падмацунак сэрца.

Nawet proste dzień dobry
wymienione rybą
ciebie, rybę i wszystkich
przy życiu umocni

Дастойнае пражыванне жыцця — справа не простая для душы ўражлівай, чулай, ранімай. Ёй не абысціся ні гордым маўчаннем, ні ганарлівым скепсісам, ні нават дэманічным бязвер'ем. Разуменне свету і здабытая ў пошуках зычлівасць, ласка — вось спосаб парадкавання ўласнай душы. У гісторыі многа, бясконца многа цёмных і светлых плям, адсюль рахунак жыццю і заплата яму ж. Чаргуюцца бясконца і ніколі не зраўнаважацца шалі касмічных вагаў. Гайданні веры і сумніву, пэўнасці і асцярогі, плюса і мінуса — ці не закон гэта існавання чалавечай ісціны? Дынамічнасць адносін пазнаючага суб'екта да прадмета пазнання закладзена ў самой прыродзе для таго, каб яна магла развівацца, станавіцца больш сэнсоўнай, траціць сваю эфемернасць, — усё гэта выказана В. Шымборскай у сімвалічным вобразе Атлантыды, няпэўнага мацерыка-прывіда, які захаваўся ў почутках, можа, таму, каб дражніць чалавецтва загадкай. Пазнавальная цяга, дапытлівая напорыстасць асацыіруюцца з узыходжаннем на Гімалаі — па дарозе да паўмесяца, на якім мае сядзець кум д'ябла — пан Твардоўскі.

Нярэдка двухсэнсоўныя сітуацыі даводзяцца да абсурднасці, паэтка нібыта запрашае на кінасеансы абсурду і жаху: малыя дзяўчынкі з вежы ўсмешкі глядзяць на катастрофу.

У сусветнай драме жыцця ўдзельнічаюць як рэальныя людзі, так і выдуманыя героі, тыя і тыя ўключаны ў агульную плоскасць мастацкай рэальнасці, пастаўлены на сутыку наяўнага і належнага, а мажліва і немажліва проста не прымаюцца ў разлік. Рэальныя людзі часта прыбіраюць сабе маскі ўяўных, іншы так зрастаецца са сваім прыдуманым двайнікам, што і спіць з выглядам «вынаходніка сноў», а ў той жа час «дэкадэнты плачуць над лёсам зорачкамі сняжынак».

Многія радкі В. Шымборскай чытаюцца як іерогліфы: напоўненыя жыццём — філасофскія аксіёмы пераведзены ў сімвалы, антыномы, парадоксы. Вада і агонь, напрыклад, па ўяўленню паэткі, даўней павінны былі гвалтоўна і жорстка адрозніваецца паміж сабою, сапернічаць, узаемазнішчацца, «абдзіраць і абдорвацца», апантаныя жаданнем «наскочыць на непадабенства», а калі абнімаліся, то «прысвойвалі і пазбаўляліся наўзаем так доўга, пакуль у абдымках заставалася адно паветра».

Чым жа можа прыглянуцца кніга польскай паэткі беларускаму чытачу? Я думаю — арганічным антыдагматызмам, свабодай, смеласцю, калі дыхае агнём і бухае жарам праўды адкамплексаваная душа. Палоніць раскаванасць і ў той жа час культура пачуццяў, свежасць фантазіі, буянасць вобразаў і трапнасць слоў. Імпануе неардынарнасць асобы аўтаркі, актыўнасць яе жыццёвай пазіцыі. Віслава Шымборска як мала які паэт балюча вычуленая на духоўны ціск, уціск і абыякавасць, нават халодная логіка аргумента, відаць, сціскае яе, як жалезны абруч, бо душа паэткі ведае, што далёка не ўсё ўзаемазвязана: «Турма моцная, ды ніхто ў ёй жыць не хоча», — кажа народная прыказка. У вершах В. Шымборскай чытач сустрэне апазіцыю раскаванай вольнай фантазіі, пратэст жывога чалавека супраць жалезнай логікі абставін і ўлады рэчаў, бунт выключэнняў супраць правіл, індывіда супраць віда, асобы супраць масы, хоць мова, на якой вядуцца спрэчкі, часта гутарковая, зразумелая масавай свядомасці. Не эліце патрэбна асабістая свабода, каб рабіць шчаслівай масу, а масе простых людзей, каб быць людскай.

Жыццё як пазнаванне само сабою натыкаецца на адвечны парог апазіцыі — гэта нязгода ўсяго жывога на смерць і нябыт, на мінучасць існавання, прага і дамаганне свайго ў жыцці. Трагедыйная калізія быту з нябытам, часовага і вечнага прымусіла продкаў шукаць кампрамісу. Часовым застаецца толькі жыццё цялеснае, рэальнае, а жыццё, вызваленае духам, становіцца несмяротным, узнесеным над часам і прасторай. Шымборска свабодна рухаецца ў свеце рэальнага і ўяўнага, яна ўспрымае працэс быцця і пазнання ў двух вымярэннях: наяўным і ўмоўным. У яе лірычнай гераіні хапае духоўных сіл жыць дастойна, падымаючыся над трагізмам быцця і нябыту.

Настойліва падкрэсліваецца ў вершах недаацэненая здольнасць іроніі: аказваецца, яна патрэбна чалавеку як нейкі ахоўны панцыр і як засцярога ад лішняй чуллівасці, бездапаможнасці і ўпадання ў самападман. Іронія і гратэск вызваляюць ад маральнага педантызму, ад ваяўнічай цнатлівасці, ад фанатызму і ўсякіх комплексаў наогул. Эмацыянальны свет Шымборскай дысгарманічны, напружаны дысанансамі, прырода і грамадства трашчаць ад канфліктаў, а вершы, здаецца, выбухаюць парадоксамі. Малпа ў паэткі — святая істота, егіпцяне

шанавалі яе разам з «арыёнам блох у срэбранай ад святасці грыве», у Кітаі малпа ядомая, таму «іранічная, як брыльянт у фальшывай абсадзе», «кпіць з сябе, інакш кажучы, дае нам добры прыклад». І «Што да мяне, дык жыву, прашу верыць, мае выперадкі з сукенкай ідуць далей» і заносіцца на тое, што сукенка хоча пераджыць уладарку. Свет сваёй паэзіі В. Шымборска называе «двухкамерным», тут смех бывае балючым, а боль — смешна-радасным.

Унутранай самапавагі хапае Шымборскай, каб не раняць сябе нават у сітуацыях закрытых, інтымных. Спачываючы побач з каханым, гераіня раптам спахопліваецца: «Я занадта блізка знаходжуся, каб сніцца яму», «Я занадта блізка, каб упасці для яго з неба». І расчулена, па-жаноцку: «а была ж я бярозай, а была ж я яшчаркай, а выходзіла з часоў і атласаў, пераліваючыся колерамі скураў».

Паэзія Шымборскай акрамя змястоўнасці ўражвае натуральнасцю формы і мовы, у якой не адчуваецца ні рыфматворнай дысцыпліны, ні выфранчанасці, ні мудрагелістасці і канвенцыянальнай нафуфыранасці. Верш у яе звычайна свабодны. Моўная плынь натуральная нават у рыфмаваных куплетах, афарызмах, гіпербалах, іранічных тырадах. Эфект натуральнасці робіць вершаваную мову перакапальнай, падкрэслівае адэкватнасць прадмета думцы і слову, якім бы неверагодным ці неакрэсленым ні быў прадмет. Словатворчым дэвізам паэткі можна лічыць перыфразу вядомай прыказкі: «Чым далей у лес, тым шырэй адкрываецца даліна відавочнасці».

Ёсць у яе верш на тэму нуля, суб'екта, які раз неяк прыдумаў самога сябе як нуль, жывучы «у краю няпэўным. Пад зоркай сёння цёмнай». І вось гэты нуль аказаўся бадай што адзіным немажлівым для апісання і спасціжэння суб'ектам. Нуль уцёк праз шчыліну, утвораную паміж фактам і прыдумкай. Нуль, аказваецца, больш недаступны, чым камень, у дзверы якога пастукала паэтка. Яе, праўда, не пусціў гаспадар, але адрэкамендаваўся: «Можаш мяне пазнаць, — адказаў ён, — але не ўспрымеш ніколі. Усёю сваёй паверхняй звяртаюся да цябе, а ўсім нутром ляжу адвярнуўшыся». Нутро, асобны аб'ект паэтычнай дапытлівасці, у каменя яно каменнае, маналітнае, таму недаступнае, у чалавека свая праблема недаступнасці: «Гэты сталы мужчына.

Гэты чалавек на зямлі. Дзесяць мільярдаў нервовых клетак. Пяць літраў крыві на трыста грамаў сэрца. Такі прадмет паўставаў тры мільярды год!» Іранічная фантазія Шымборскай, шукаючы дасканаласці, спыняе позірк на цыбуліне. У яе нутро і паверхня аднолькава ідэальныя — паўтараюцца. Цыбуліна — «бруха свету, якое само апаясваецца арэоламі скурак, што перад ім людзі», — іранізуе паэтка. «У нас — тлушчы, нервы, жылы, слюзі і сакрэцыя. І адказаны нам ідыятызм дасканаласці». Папярэджвае паэтка яшчэ перад адной небяспекай, не меншай, чым абсалют дасканаласці, — гэта безаблічнасць. Абезаблічвае асобу натоўп. На фотаздымку паэтка не можа распазнаць сябе і не ўпэўнена, ці хто іншы здолее яе пазнаць, скажам, Дух Часу. Ён нешта не прыглядаецца да галавы, да твару, адсюль парадаксальная выснова: «галава мая статыстычная, яна спажывае сталь і кабелі, найспакойней, найглабальней, без сораму, што абы-якая, без роспачы, што зменная: быццам зусім я яе не маю...»

Польскі крытык Марк Ваўжкевіч лічыць прычынай чытацкага поспеху Шымборскай тое, што яна гаворыць відавочныя рэчы: «Увесь сакрэт заключаецца, аднак, у тым, што ніхто да яе гэтых відавочнасцяў не прыкмеціў і не запісаў. Бачым іх тады толькі, калі чытаем у вершы: дык жа гэта такое простае! Мудрасць гэтых вершаў на тым трымаецца, што яна выказваецца не крыкліва, без сенсацый і дэманстрацый»[1].

Менавіта пошук самога сябе, свайго спосабу існавання ў бясконцым мностве мажлівых і не мажлівых форм быцця, належная ацэнка свайго месца ў бясконцым і мнагалікім свеце, — у гэтым бачыцца і цяжар і годнасць жыцця чалавечага. Ад разгубленасці, дапытлівай няпэўнасці да здзіўлення і супакаення, адкрыўшы сваю непаўторнасць, якая азначае і верагоднасць чалавечага існавання, — такі шлях творчага руху, пошуку праглядаецца ў паэзіі Шымборскай, экзістэнцыяльную моц якой заўважыў і ацаніў у час свайго прыезду ў Польшчу Уільям Сараян яшчэ недзе ў 50-я гады.

Глыбокі псіхалагізм, дыялектычная вастрыня бачання свету і ўменне выяўляць высокае цераз зямное, зніжанае, трагічнае цераз спачуванні ці даравальны ўсмех — надае паэзіі нейкую лячэбную сілу, робіць яе

---

[1] Wawrzkiewicz M. Jak nas widzą // Poezja. 1989. S. 54.

бальзамам, які вяртае душу да раўнавагі, мудрай узнесенасці над марнасцю.

Веру, што беларускія паэты, не толькі тыя, хто, ідучы побач з Разанавым, шукаюць сваіх спосабаў зрабіць паэзію філасофіяй жыцця, сродкам самадасканалення і адухаўлення, пачуюць моцны і дзейсны заклік да вызвалення фантазіі, спадзяюся, што кніга вершаў Віславы Шымборскай у перакладзе Ніны Мацяш дасць новы імпульс імкненню беларускай літаратурнай моладзі да паўнейшага раскрыцця індывідуальнага пачатку ў творчасці.

*1991*

# Пражскі эпісталярый

## СУСТРЭЧЫ І РОСТАНІ

Мабыць, мала якая тэма беларускага адраджэння аказалася так вульгарна заідэалагізаванай, як тэма палітычнай эміграцыі. Толькі ў 20-я гады друк БССР больш-менш рэгулярна змяшчаў інфармацыю, з якой дапытлівы чытач мог скласці сабе прыбліжанае да праўды ўяўленне аб гэтай праблеме. Прынамсі, тады яшчэ ўрад БССР сапраўды лічыў тых беларусаў, якія пакінулі край хоць бы па палітычных матывах, усё ж беларусамі, прызнаваў за імі права на радзіму. Тады вяліся ўрадавыя перагаворы з Радай БНР, наладжваліся навуковыя форумы, сустрэчы і творчае супрацоўніцтва гуманітарнай інтэлігенцыі.

Такая неафіцыйная дыпламатыя была, па сутнасці, часткай дзяржаўнай праграмы беларусізацыі, таму ў ёй удзельнічалі і буйныя грамадскія дзеячы — Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот, Максім Гарэцкі. У беларускай грамадскай думцы той пары эміграцыя, як і нацыянальная дэмакратыя, не падводзілася пад крымінал, на яе прадстаўнікоў не навешвалі цэтлікі класавых ворагаў. У публіцыстычных радках «Безназоўнага» Купала абмежаваў кола закаранелых праціўнікаў новага ладу.

Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.

Пра супляменнікаў, якія жылі за межамі БССР, народны паэт благога слова не сказаў, да іх адрасуецца, як і да ўсяго народа, покліч яднання.

А мы самі сабе самі
Ужо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Гэты звон быў прызыўнаю позвай вяртацца на радзі-

му і прымаць удзел у будаўніцтве Беларускага дома.

Справа раптоўна змянілася ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў, калі сталінская дыктатура, помсцячы за правалы прымусовай калектывізацыі, абрынула свой гнеў на беларускую інтэлігенцыю, зрабіла яе казлом адпушчэння. Вось з гэтага пагрому вырасла кампанія вялікай хлусні, тварэння міфаў пра небяспеку беларускага нацыяналізму. Ідэалагічныя міфы зрабілі тэму эміграцыі закрытай для аналізу і свабоднага асэнсавання. Даследчык ці публіцыст абавязаны быў пацвярджаць святыя догмы, інакш сам залічваўся ў ворагі. Той, хто адважваўся перайсці на мову наіўнага прастака, мог яшчэ беспакарана зрабіць паўнамёк на паўпраўду. Вось чаму нават створаная пасля вайны газета «За вяртанне на Радзіму» не магла дачакацца выніку свайго тытульнага заклiку.

Вятры перабудовы прыносяць і сюды крыху азону. Больш раскавана і шчыра стала гаварыць з замежнымі супляменнікамі газета «Голас Радзімы», шэраг цікавых матэрыялаў пра беларускае літаратурнае замежжа апублікавалі Адам Мальдзіс і Барыс Сачанка, пра гісторыю пытання аб'ектыўна расказвае Мікалай Іваноў у публікацыях «Да гісторыі сталінізму на Беларусі» на старонках беластоцкай «Нівы».

Цікавасць да культурнай дзейнасці беларусаў за мяжой расце, пра што сведчыць хоць бы праведзенае ў 1989 годзе шанаванне памяці спевака Міхася Забэйды-Суміцкага і гастролі амерыканскага беларуса, спевака Данчыка. У гэтым кантэксце варта разглядаць і справы беларускага студэнцтва ў Празе 20-х гадоў. Эпісталярныя матэрыялы, што паслужылі мне для гэтага нарыса, могуць, на мой погляд, дапоўніць працы гісторыкаў персаналіямі, характэрнымі штрыхамі, якія дазволяць чытачу дакладней уяўляць і бачыць як гістарычных асоб, так і статыстаў палітычнай сцэны жывымі людзьмі са сваімі норавамі, амбіцыямі, здольнасцямі і чалавечымі слабасцямі. Такое бачанне, у прынцыпе, належыць да заваёў дэмакратыі, якая прынцыпова змагаецца супраць фетышаў, абагаўлення палітычных дзеячаў,ператварэння іх у ідалаў, а палітыкі ў рэлігію з рытуальным ідалапаклонствам.

Уладзімір Жылка, Ігнат Дварчанін і Тамаш Грыб сустрэліся ў Мінску ў 1917 годзе пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Перапісвацца яны пачалі ў Празе з лютага

1923 года. Жылка рыхтаваўся паступіць, а Дварчанін і Грыб ужо другі год вучыліся на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта. Шляхі і лёсы ў іх былі падобныя, як гэта і належала ахвярнікам вызваленчай ідэі, але і адметныя, бо час быў бурны, жыццё — поўнае неверагодных выпадковасцяў.

Жылка прыехаў у Мінск студэнтам выпускнога курса Багародзіцкага агранамічнага вучылішча, што ў Тульскай губерні, пасяліўся з бацькамі — нядаўнімі бежанцамі — у паўпадвальным памяшканні, якое належала праваслаўнай духоўнай семінарыі, што на рагу вуліцы Рэвалюцыйнай і Высокага месца (пляц Волі). Бацька, Адам Восіпавіч, прыступіў да старога занятку — прадаўца ў царкоўнай краме, а сына пацягнула ў віры беларускага адраджэння. Ён стаў удзельнікам мітынгаў і сходаў, бывальцам «Беларускае хаткі», слухаў прамоўцаў, глядзеў спектаклі, удзельнічаў у вечарынах, пазнаёміўся з Ядвігіным Ш., Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, Леапольдам Родзевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, а з Міхасём Чаротам пасябраваў. Яны разам праводзілі ў жыццё дэкрэты савецкай улады аб зямлі, надзялялі панскім дабром вясковую беднату, упраўлялі нейкім дзяржаўным маёнткам на Старажоўцы, што пад Мінскам. Жылка ўступіў у партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў і належаў да яе левага крыла.

Дварчанін прыехаў у Мінск з арміі, прываблены ажыўленнем у прыфрантавым горадзе беларускага вызваленчага руху. Малады паручнік вёў патрыятычную прапаганду сярод салдат і быў абраны дэлегатам Усебеларускага кангрэса, уступіў у партыю беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, бо ў яго разуменні яна ставіла вострa праблему нацыянальнага адраджэння і сялянскай долі-нядолі. У сакавіку 1918 года Дварчанін быў запрошаны ў Маскву на пасаду сакратара культурна-асветнага аддзела ў Беларускім нацыянальным камісарыяце, пачаў друкавацца ў газеце «Дзянніца». Але неўзабаве сарвалі яго з высокіх арбіт турботы аб расцярушанай у бежанстве сям'і, аб разбураным вайною родным гняздзе ў вёсцы Погіры на Дзятлаўшчыне.

Наколькі блізкім стала мінскае знаёмства Дварчаніна з Жылкам, цяжка сказаць. Ва ўсякім разе абодва яны мелі паэтычныя натуры, павышаную патрэбу асабістай незалежнасці, не падладжваліся і не прыліпалі да людзей і абставін, а ўсё ж упалі адзін аднаму ў вока,

калі праз пяць гадоў, сустрэўшыся ў Празе, адчулі сябе не проста землякамі, а сябрамі, сваякамі па думках, ідэалах і захапленнях, плённа супрацоўнічалі, дружылі, перапісваліся.

Ігнат Дварчанін, старэйшы на пяць гадоў, меў за плячыма настаўніцкую адукацыю, тры гады работы ў школе, вайсковае вучылішча і вопыт франтавога афіцэра, а Жылка мог раўняцца з ім толькі навыкамі літаратурна-творчай працы. Тут ён нават апярэджваў старэйшага таварыша.

Гісторыя, нібыта цвелячыся, скрыжоўвала дарогі гэтых беларускіх інтэлігентаў і патрыётаў, падбівала ісці поплеч, разам, але выходзіла так, што ішлі яны адзін за адным наўздагон або паралельна. Дварчанін пасля акупацыі Беларусі белапалякамі дабраўся з Масквы да родных мясцін, сустрэўся з раднёй і разгарнуў у Дзятлаве патрыятычна-асветніцкую дзейнасць, за што быў інтэрніраваны польскімі вайсковымі ўладамі ў спецлагер. Калі там разгулялася эпідэмія тыфу, вязень уцёк у савецкі ўжо Мінск, але і тут не ўгрэўся, падвёў шчыры і нястрымны нораў: адкрыта выказаўся супраць перадзелаў Беларусі ваюючымі бакамі. Сябры параілі яму, пакуль не позна, падацца ў Вільню і заняцца адукацыяй. З восені 1920-га да лета 1921 года ён быў вольным слухачом выпускнога класа Віленскай беларускай гімназіі, зарабляў на хлеб работай начнога вартаўніка, але марыў пра універсітэт. Пасля атрымання атэстата быў накіраваны Беларускай школьнай радай выкладаць родную мову і літаратуру на настаўніцкіх курсах у Дзвінску. Восенню выехаў у Чэхаславакію і паступіў на філасофскі факультэт Карлавага універсітэта. Вярнуцца з Дзвінска ў Вільню, хоць бы для развітання з сябрамі, не змог, бо там узмоцніліся рэпрэсіі супраць беларускага руху, і яго лагерная гісторыя магла дайсці да вушэй жандараў генерала Жэлігоўскага, які акупаваў Віленшчыну і стварыў там Рэспубліку Сярэдняй Літвы. А Жылку ў гэты час лёс паэта і патрыёта закінуў у Вільню.

Чэхаславацкая рэспубліка стала адным з месц прытулку для эмігрантаў, якія пакінулі Расію, не вынесшы разрухі, вайны ці не могучы прыняць новага ладу. Урад прэзідэнта Масарыка з гуманітарных, а разам і з палітычных меркаванняў дапамагаў эмігранцкай моладзі, адкрываў розныя курсы, назначаў стыпендыі ў наву-

чальных установах, спрыяў набываць прафесіі. У 1922 годзе ў Чэхаславакіі налічвалася больш за шэсць тысяч такіх стыпендыятаў, сярод іх рускіх 3595, украінцаў 2328, беларусаў 48. Праўда, значная частка беларусаў не атрымлівала стыпендый, жыла з разавых дапамог ад грамадскіх арганізацый, у тым ліку і ад Рады БНР.

У Празе ўтварылася спецыфічнае ўсходнеславянскае студэнцкае асяроддзе, у якім беларускія студэнты складалі невялікую, але даволі актыўную частку.

У 1922 годзе Ігнат Дварчанін сустрэў у Празе свайго аднагодка, чалавека вельмі падобнага жыццёвым лёсам, знаёмага яму яшчэ па Мінску 1917 года — Тамаша Грыба. Ён таксама прыехаў тады на Усебеларускі кангрэс з фронту салдацкім дэлегатам, аказаўся здольным прамоўцам, быў выбраны членам Рады БНР і, як Дварчанін, членам Цэнтральнай вайсковай рады. Паходзіў Тамаш з беднай сялянскай сям'і з Дзісеншчыны, таксама, як і Ігнат, быў вылучаны як першы вучань у школе і за здольнасці трапіў вучыцца ажно ў Пецярбургскі псіханеўралагічны інстытут, увайшоў там у беларускае зямляцтва і пад уздзеяннем прафесара Эпімах-Шыпілы, якога называў апосталам і пракокам беларускага адраджэння, загарэўся ідэяй служэння Беларусі. У студзені 1918 года быў дэлегатам на III Усерасійскі з'езд саветаў, дзе ад імя беларускіх эсэраў заявіў пратэст з выпадку разгону першага Усебеларускага кангрэса ў 1917 годзе, галасаваў супраць падпісання Брэсцкага міру, які лічыў актам несправядлівага падзелу тэрыторыі Беларусі паміж ваюючымі бакамі. У часе захопу Мінска войскамі Пілсудскага Грыб адмовіўся супрацоўнічаць з акупацыйнымі ўладамі, быў інтэрніраваны летам 1919 года, два месяцы сядзеў у адзіночцы на Лукішках у Вільні, потым у гродзенскай турме, вызпушчаны пасля Рыжскага міру, падаўся ў Коўну, якая стала сядзібай Рады БНР, але не знайшоў там агульнай мовы з кансерватыўнымі дзеячамі і самім прэзідэнтам Пётрам Антонавічам Крачэўскім. Цераз Латвію выехаў у Чэхаславакію, паступіў на філасофскі факультэт Карлавага універсітэта. Застаўся галоўным ідэолагам беларускіх эсэраў, удзельнічаў у руху Сацыялістычнага Інтэрнацыянала, пратэставаў на кангрэсе супраць польскай каланіяльнай палітыкі ў Заходняй Беларусі.

Уладзімір Жылка нібыта назіркам ішоў следам за Дварчаніным, давялося хіба сем пар лапцей стаптаць,

пакуль дагнаў старэйшага таварыша. Захварэўшы ў галодным Мінску на туберкулёз, Жылка перабраўся ў 1920 годзе да бацькавай радні ў вёску Клецішча на Капыльшчыне, потым — да матчыных братоў у Падлессе пад Гарадзеяй. Там Рыжская мяжа неўпрыцям аддзяліла яго ад сям'і. Нягледзячы на цяжкі стан здароўя, Жылка сышоўся ў Падлессі з кіраўніком паўстанцкай дружыны Ільём Мікулічам, пісаў лістоўкі, агітацыйныя вершы, трымаў па даручэнні паўстанцаў сувязь з падполлем у Нясвіжы і Вільні, а летам 1921 года, пераехаўшы ў Вільню, звязаў падлескіх паўстанцаў з цэнтрам — Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыяй, увайшоў у кола віленскай інтэлігенцыі, пазнаёміўся з Максімам Гарэцкім і Антонам Навіном, пасябраваў з Леапольдам Родзевічам і братамі Канчэўскімі. Для пражытку працаваў у кнігарні, якая забяспечвала падручнікамі беларускія школы ў Літве і Латвіі, друкаваў вершы ў прагрэсіўных беларускіх выданнях. Харчаваўся паэт у той жа, што і Грыб, і Дварчанін, і Станкевіч (крыху раней), бясплатнай сталоўцы для інтэлігентаў, якую адкрыў амерыканскі Чырвоны Крыж.

Дарэчы, у той сталоўцы працавала маці Наталлі Арсенневай, на чые рукі лёг пасля смерці мужа ўвесь цяжар утрымання сям'і. Неўзабаве асобай Жылкі, як і яго папярэднікаў, пачалі цікавіцца жандары. Рэспубліка Сярэдняй Літвы далучылася да Польшчы, а ён стаў нававбранцам. Летам 1922 года паэт вымушаны быў пакінуць Вільню, падаўся ў Літву, спрабаваў выконваць ролю парламенцёра паміж віленцамі і ковенцамі. Летам жыў і лячыўся ў санаторыі «Біршттаны», восенню перабраўся ў Дзвінск ды стаў наведваць выпускны клас толькі што адкрытай там беларускай гімназіі, жыў у сям'і дырэктара Івана Ігнатавіча Краскоўскага. Пра Дварчаніна застаўся ў Дзвінску толькі почут. Пра Грыба нагадвала яго жонка, самая прыгожая настаўніца гімназіі Паўліна Мядзёлка, за якою страляў вачыма палкоўнік Канстанцін Езавітаў, кіраўнік беларускага зямляцтва ў Латвіі.

У часе зімовых канікул Жылка з-за канфлікту з Езавітавым нелегальна вярнуўся ў Вільню, затрымаўся ў Л. Родзевіча і яго стараннямі атрымаў ад Беларускага нацыянальнага камітэта накіраванне ў Чэхаславакію. З пачатку лютага па май 1923 года ён вучыўся на падрыхтоўчых курсах у Езафове, у ліпені здаў экзамены на

атэстат сталасці. Слухачы курсаў, а было іх 10 чалавек, уваходзілі ў склад беларускага студэнцкага зямляцтва. Дэлегатам ад курсантаў Жылка ездзіў на пасяджэнні і сходы зямляцтва ў Прагу, у акадэмічны гарадок Радоцін або ў Студэнцкі дом, што знаходзіўся ў раёне Альбяртова на Слупе, сустракаўся там з Дварчаніным і Грыбам, якія лідзіравалі сярод радыкалаў. Жылку інфармавалі пра работу Прэзідыума Беларускай студэнцкай секцыі, якая ўваходзіла ў ЧУК (Чэшскі універсітэцкі камітэт) — самакіраўнічы орган, што супрацоўнічаў з адміністрацыяй універсітэта, дбаў пра матэрыяльнае забеспячэнне навучальнага і навуковага працэсаў, развіццё культурна-асветніцкай самадзейнасці студэнтаў.

Для таго, каб атрымліваць дапамогу ЧУК, студэнцкае зямляцтва павінна было стварыць агульную арганізацыю, старшыня якой увайшоў бы ў Прэзідыум і паслаў свайго прадстаўніка ў адзін з органаў ЧУК — Студэнцкую дапамогу. Беларускае студэнцкае зямляцтва ўзнікла ў 1921 годзе, тады яно налічвала ўсяго паўтара дзесятка чалавек, падпарадкоўвалася Беларускаму камітэту, які з'яўляўся дыпламатычным прадстаўніцтвам Ковенскай Рады БНР у Чэхаславакіі і ўзяў на сябе ролю шэфа. Персанальна гэтае шэфства выступала як супрацоўніцтва паміж кіраўніком прадстаўніцтва БНР М. Н. Вяршыніным і студэнтам Янкам Станкевічам, які стварыў першую беларускую студэнцкую арганізацыю, называючы яе спачатку Сувяззю нацыянальнай беларускай моладзі, а пазней Таварыствам беларускіх студэнтаў, выдаваў свой друкаваны орган «Беларускі студэнт» і атрымліваў са згоды Беларускага камітэта ўсе сродкі, што адпускаліся ЧУК на дапамогу беларускаму зямляцтву. У палітычных адносінах група Станкевіча была кансерватыўна-каталіцкай антысавецкай арганізацыяй.

Янка Станкевіч быў на дзевяць гадоў старэйшы за Жылку і меў даволі бурны патрыятычны жыццяпіс. Паходзіў ён з вялікай вёскі Арляняты (па-мясцоваму Вурляняты), што на Ашмяншчыне. Было гэта старавечнае вайсковае селішча татарскіх наёмнікаў, якія неслі службу ў войску вялікіх князёў літоўскіх ці не з часоў Вітаўта і былі прызнаны за заслугі вотчычамі, радніліся з беларусамі, прымалі каталіцкую веру, асіміляваліся.

Бацькі Станкевіча з'яўляліся заможнымі сялянамі і паслалі сына вучыцца ў Віленскую духоўную семіна-

рыю. Але хлапчук аказаўся канфліктным: хоць моцна верыў у Бога, а не здолеў умясціць сваёй рагатай натуры ў рамкі семінарскай паслухмянасці. На першым годзе быў звольнены з семінарыі, але застаўся ў Вільні, прымкнуў да беларускага асяродка, што існаваў пры рэдакцыі «Нашай нівы», пачаў працаваць распаўсюджвальнікам газеты, а потым увайшоў у калектыў, выконваў рэдакцыйныя заданні, пазнаёміўся з Ластоўскім, Купалам, прыкіпеў да беларускага адраджэння.

На пачатку вайны Я. Станкевіч быў мабілізаваны ў царскае войска, стаў афіцэрам, на румынскім фронце трапіў у палон. Па хадайніцтве віленскіх беларусаў нямецкія вайсковыя ўлады вызвалілі яго з лагера і дазволілі вярнуцца ў Вільню, дзе ён прыняў чынны ўдзел у культурна-асветнай і грамадскай рабоце Беларускай рады Віленшчыны. У складзе дэлегацыі гэтага згуртавання ездзіў у Мінск на Усебеларускі кангрэс, мабыць, там нажыў алергію на бальшавікоў, якія разагналі з'езд, а потым праследавалі ўрад БНР. Станкевіч выехаў на Віленшчыну і з фанатычнай ахвярнасцю арганізоўваў беларускія школы, на сваіх плячах валок стосы падручнікаў і асветных кніг, брашур, стаў папулярным сярод сялян, але трапіў на зуб польскім вайскоўцам, якія на Віленшчыне самавольна, насуперак Версальскай умове, утварылі Рэспубліку Сярэдняй Літвы, каб такім чынам далучыць Вільню і Віленшчыну да Польшчы. Я. Станкевіч, падобна І. Дварчаніну, дарослым мужчынам сеў на колькі месяцаў за школьную лаву ў Віленскай беларускай гімназіі, каб атрымаць атэстат сталасці. Падобна У. Жылку, ратуючыся ад улад Сярэдняй Літвы, перайшоў у 1921 годзе мяжу ў Літоўскую рэспубліку, атрымаў ад В. Ластоўскага, які ўзначальваў у Коўне эміграцыйны ўрад БНР, накіраванне на вучобу ў Чэхаславакію і ўзяўся арганізоўваць студэнтаў.

Кансерватызм кіраўніка не задавальняў радыкальнай часткі студэнцкай сябрыны, што шпарка расла і лявела, бо з Заходняй Беларусі сталі прыбываць прыхільнікі і ўдзельнікі вызваленчага руху, якія ўхвалялі супрацоўніцтва паўстанцкіх дружын, падпарадкаваных леваэсэраўскай Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі з камуністычным падполлем. У Чэхаславакіі яны, падобна Дварчаніну, Грыбу і Жылку, знаходзілі доступ да асветы і адначасна палітычны прытулак. Па ініцыятыве групы студэнтаў, што ўваходзілі ў партыю беларускіх

эсэраў, утварылася ў 1923 годзе альтэрнатыўная студэнцкая арганізацыя Новая грамада. Яе ўзначаліў Тамаш Грыб.

Новая грамада спрабавала вырваць манаполію на права прадстаўляць інтарэсы зямляцтва з рук М. Вяршыніна і Я. Станкевіча, яна вылучыла Т. Грыба кандыдатам на кіраванне ўсім зямляцтвам — Беларускаю студэнцкаю секцыяй ЧУК. Тамаш Грыб склаў змястоўную праграму дзейнасці, ён прапанаваў выдаваць замест вузка групавога часопіса «Беларускі студэнт» навукова-грамадскі часопіс «Веда» і дамагацца адкрыцця ў Празе Беларускага настаўніцкага інстытута па прыкладзе ўжо існуючых рускага і ўкраінскага, стварыць самастойнае беларускае выдавецтва. Праграму Грыба Вяршынін і Станкевіч заблакіравалі, а кандыдатуру адхіліў сход студэнцкай сябрыны, якая вырасла ўжо да 75 чалавек і ўключала не толькі хрысціянскіх дэмакратаў і эсэраў, а і беспартыйных радыкалаў і нават гурток марксістаў. Студэнтаў задаволіла б прапарцыянальнае прадстаўніцтва ў кіруючым органе ад усіх груп, а не замена хадэцкай манаполіі на эсэраўскую. Пачаўся «крызіс улады». Маладыя яшчэ грамадска-палітычныя групоўкі не валодалі належнымі навыкамі дэмакратыі, каб разумна супрацоўнічаць у мнагапартыйным рабочым органе. Забалаціраваў сход і кандыдатуру новенькага студэнта Мазалеўскага, якога рэкамендаваў Станкевіч як беспартыйнага нейтрала.

Перапіска Дварчаніна і Грыба, а таксама іншых студэнтаў з Жылкам адлюстроўвае напружанасць працэсу палітызацыі асяроддзя, у якім Жылка як паэт і грамадскі дзеяч, ахвярнік беларускай справы іграў ролю пасрэдніка і трацейскага суддзі. Даволі падрабязнае апісанне самой барацьбы за кіраўніцтва сябрынай чытач можа знайсці ў маёй кнізе «Ветразі Адысея». Тут я спрабую толькі рабіць пэўныя ўдакладненні ацэнак, унесці папраўкі і накіраваць думку на свабоднае, дэмакратычнае разуменне грамадскіх з'яў і працэсаў.

## ПОЛЕ ПЕРАМЕННАГА ПРЫЦЯГНЕННЯ

Ружай палітычных вятроў, якія ахаплівалі беларускае жыццё за межамі БССР пасля рэвалюцыі, заставалася Вільня. Беларуская грамадскасць захавала тут, на-

ват пад прысакам ваеннай бяды, вугельчыкі нашаніўскага адраджэння. Патрыятычная інтэлігенцыя, выкарыстоўваючы саперніцтва геапалітычных сіл, працягвала на акупаваных землях імперыі Раманавых культурна-асветніцкую і патрыятычна-выхаваўчую работу не толькі ў самой Вільні, але і на Віленшчыне, Беласточчыне, Гродзеншчыне, Слонімшчыне і Наваградчыне.

У 1923 годзе польская контрразведка выкрыла на Беласточчыне паўстанцкае падполле, якім кіраваў урад БНР з тэрыторыі Літвы. План утварэння буфернай беларускай дзяржавы, федэратыўна звязанай з Літвою, праваліўся. В. Ластоўскі пайшоў з пасады прэм'ера, яго замяніў А. Цвікевіч. Між тым камуністычнае падполле і звязаныя з ім партызанскія атрады К. Арлоўскага і С. Ваўпшасава дзейнічалі спраўна, без правалаў. Кіраўнік падлескай паўстанцкай дружыны Ілья Мікуліч, калі на яго след напалі жандары, знайшоў прытулак у БССР, аб чым паведаміў Жылку пісьмом. У кастрычніку 1923 года з польскай Кампартыі вылучылася аўтаномная Кампартыя Заходняй Беларусі, у канцы снежня ў яе ўступіла леваэсэраўская Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, лідэры апошняй Язэп Лагіновіч і Арсен Канчэўскі сталі сакратарамі ЦК, а Леапольд Родзевіч членам ЦК і вядучым ідэолагам КПЗБ. Такім чынам, адбылася беларусізацыя апарату і складу Кампартыі Заходняй Беларусі. У 1925 годзе дзеячы левага крыла Беларускага пасольскага клуба на чале з Б. Тарашкевічам, заручыўшыся падтрымкай КПЗБ, якая перайшла ад паўстанцкай да парламенцкай барацьбы, утварылі Беларускую сялянска-рабочую грамаду. Яна стала масаваю партыяй рэвалюцыйна-вызваленчага тыпу, арэнай паяднання левых сіл нацыянальнай дэмакратыі.

На другім баку граніцы група дзяржаўных і партыйных дзеячаў на чале з Чарвяковым, Жылуновічам, Ігнатоўскім яшчэ з 1921 года пачала захады аб пашырэнні тэрыторыі БССР, а ў 1923 годзе паспяхова правяла ўсведамляльную работу на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне і на VII з'ездзе КП(б)Б дабілася прызнання беларусізацыі асновай нацыянальнай палітыкі БССР. У сакавіку 1924 года па дамоўленасці з урадам РСФСР 15 сумежных паветаў адышло да БССР. Стараннямі наркамата асветы, узначаленага У. Ігнатоўскім, беларусізаваліся ўсе звёны народнай асветы рэс-

публікі, беларуская мова на практыцы станавілася рабочай мовай дзяржаўных устаноў БССР, партыйных органаў. Вывучаць яе і карыстацца ёю належала ўжо не з ласкі, а з павагі да дзяржавы і кіруючай партыі.

У тым жа 1924 годзе партыя беларускіх эсэраў, што знаходзілася ў БССР на паўлегальным становішчы, улілася ў КП(б)Б, а восенню 1925 года на Берлінскай канферэнцыі А. Цвікевіч перадаў паўнамоцтвы ўрада БНР ураду БССР.

З усіх беларускіх асяродкаў, якія ўтварыліся за межамі БССР у пачатку 20-х гадоў, Вільня зноў вылучалася тым, што тут палітычныя сілы адраджэння дзейнічалі, абапіраючыся на актыўную народную масу, і спаборнічалі між сабою за прызнанне ў народзе.

Палітычны веер заходнебеларускай нацыянальнай дэмакратыі быў шырокім: на левым яе крыле знаходзілася леваэсэраўская фракцыя, а ў падполлі Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя і камуністы, у цэнтры — рэвалюцыйна-дэмакратычныя групоўкі, крыху правей — хрысціянскія дэмакраты, а далей згодніцкія кансерватыўныя сілы, нават манархісты. Зразумела, што паміж палітычнымі групоўкамі ішла вострая палеміка аб задачах, шляхах, перспектывах і формах беларускага адраджэння. Рознагалоссі паміж віленскай і мінскай групамі палітыкаў прывялі да разрыву і эксцэсаў унутры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ пры замене нямецкай акупацыі сталіцы польскаю. Віленцы на чале з Антонам Луцкевічам паралельна з Радай БНР утварылі Найвышэйшую Раду і пайшлі на супрацоўніцтва з Пілсудскім. Апазіцыя трапіла ў мінскую турму. Перад наступленнем Чырвонай Арміі ў 1920 годзе гэтыя і тыя адышлі на Захад, але аселі ў розных мясцінах: віленцы вярнуліся ў Вільню, а іх апаненты пасяліліся ў Коўне і мелі свае прадстаўніцтвы ў Дзвінску, Берліне і Празе. Значная частка радыкальных дзеячаў засталася ў Мінску, падтрымала другое абвяшчэнне БССР. Эсэры трымаліся збоку. Праўда, пры польскай акупацыі леваэсэраўскія баявыя дружыны супрацоўнічалі з камуністычнымі атрадамі, Беларуская камуністычная арганізацыя У. Ігнатоўскага нават уступіла ў КП(б)Б. З прыходам Чырвонай Арміі ў 1920 годзе эсэры апынуліся на паўлегальным становішчы. Гэта, зразумела, непакоіла ўрад БССР і схіляла яго да мірнага ўрэгулявання адносін.

Пасля Рыжскага дагавора (красавік 1921 года) пабапал несправядлівай, навязанай пераможцамі дзяржаўнай мяжы ў беларускім руху празябіліся парасткі нацыянальнага прымірэння, з якіх магло вырасці супрацоўніцтва дзеля ўз'яднання народа. Наогул нацыянальна-вызваленчы рух гартуе, яднае, змякчае сацыяльна-палітычныя антаганізмы, паднімаючы рознагалоссі да ўзроўню нацыянальнага інтарэсу. Дыферэнцыяцыя, раз'яднанне, апазіцыйнасць звычайна абвастраюцца пры падзеле сферы ўплываў пасля перамогі ці поспеху, калі справа даходзіць да дзялення пірага ўлады.

Напярэдадні выбараў у сейм, у 1922 годзе, палітычны веер віленскага беларускага асяродка сціснуўся ў адзін пучок, быў здольны падабраць склад Беларускага выбарчага камітэта на чале з абцёртым у палітычных ходаннях дзеячам Антонам Луцкевічам. Камітэт запрасіў кіраваць перадвыбарнай прапагандай левых ідэолагаў БРА — Леапольда Родзевіча і Язэпа Лагіновіча, для якіх і левае крыло эсэраў было недастаткова рэвалюцыйным: першы стаў ценявым рэдактарам газеты «Беларускі звон», якую выдаваў драматург Францішак Аляхновіч, і пачаў склікаць супляменнікаў на выбарчую бітву. Усё гэта праходзіла на вачах у Жылкі. Ён жыў тады ў Вільні, зблізіўся з А. Луцкевічам, па яго даручэнні выязджаў у Літву пераконваць ковенцаў у слушнасці рашэння заходніх беларусаў удзельнічаць у парламенцкай кампаніі. З Родзевічам Жылка пасябраваў: яны разам курыравалі «Беларускую тэатральную майстроўню» і супрацоўнічалі ў «Беларускім звоне», а потым у газеце «Новае жыццё».

Як толькі сталі вядомы вынікі выбараў, Антон Луцкевіч паслаў 17 лістапада 1922 года ліст Жылку ў Дзвінск, наказваючы, каб яго прачытаў і дырэктар гімназіі Іван Ігнатавіч Краскоўскі.

«Рад я, што Вы так разумееце, — пісаў старшыня выбарчай камісіі, — нашу работу і яе значэнне. Думаю, што 12—13 паслоў у Сойме і 2—3 сенатары (у тым ліку Уласаў) — гэта будзе найлепшае напамінанне ўсяму свету аб беларусах і беларускай справе, лепшае за ўсе тыя папяровыя выступленні, якія робяць ковенцы[1]. Вя-

[1] Група членаў Рады БНР на чале з прэзідэнтам П. Крачэўскім і прэм'ерам В. Ластоўскім, якая асуджала ўдзел віленцаў у выбарах 1922 г. як згодніцтва.

дома, для апошніх існаванне выбарнага нацыянальнага прадстаўніцтва — рэч прыкрая; ды самі яны вінаваты, што сышлі з простай дарогі і пайшлі служыць чужым багам».

Як відаць, дух палітычнага саперніцтва штурхае А. Луцкевіча бачыць значэнне парламенцкай перамогі перш за ўсё як палітычную дэманстрацыю, хоць у той жа час грэх падобнай павярхоўнасці ён вытыкае ковенцам і нават больш — бачыць у іх лініі паслужніцтва ўладам Літвы. Аднабакова ён вызначае і прычыны выбарчага поспеху: «Выбары далі цвёрды доказ, што не чыста сацыяльныя, не рэлігійныя, а выключна нацыянальныя лозунгі прыцягнулі нашы масы. Гэта шмат для каго неспадзяваная навіна, мы самі ледзьве вачам сваім смеем верыць, гэта бясспорная праўда. Вось як узгадавалі наш народ чужацкія ўлады!»

Жылка, Родзевіч, Дварчанін належалі да радыкальна-народніцкага крыла вызваленчага руху, у іх разуменні сацыяльныя і нацыянальныя задачы былі аднолькава важнымі для народа, раўнацэннымі, як узаемаабумоўленыя пастулаты ў праграме нацыянальнага вызвалення. Родзевіч, з якога пасля выбараў спала ноша прапагандысцкіх абавязкаў, не радаваўся, як Луцкевіч, а скардзіўся на новыя, відаць, нечаканыя турботы. «У мяне, — пісаў ён 26 снежня 1922 года Жылку, — дзверы не зачыняюцца ад народа. Выбары разварушылі вёску. Няма арганізацыйнага цэнтра. Паслы адарваны ад народа. І сялянства апынулася сярод поля. Нервуецца, узровень павышаецца і прарвецца. А куды?»[1]

Лідэр ковенцаў Пётра Крачэўскі заставаўся на сваёй пазіцыі: лічыў і далей удзел беларусаў у выбарах памылкай. «Лаіць мяне, — скардзіўся пазней Жылку няўрымслівы Тамаш Грыб, — за маю раду ісці на выбары ў варшаўскі сейм, называючы мяне здраднікам беларускай справы».

Прызнаванне неразрыўнасці сацыяльнага і нацыянальнага прынясе і Жылку, і Дварчаніну шмат канфліктаў з незалежніцкімі дактрынёрамі, якія нацыянальнае, агульнанароднае не проста ставілі вышэй за сацыяльнае, класавае, але наогул ігнаравалі апошняе, спісваю-

---

[1] Цыт. па: Калеснік У. З лістоў Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1974. Вып. 2. С. 153.

чы яго як выдумку марксістаў. З гэтай прычыны Жылка яшчэ летам 1922 года ў Коўне разышоўся з Крачэўскім. Па-лявацку настроеныя марксісты аддавалі першынство сацыяльна-класаваму над нацыянальна-патрыятычным, атаясамлівалі патрыятызм з нацыяналізмам і на гэтым пункце канфліктавалі з дэмакратамі.

У сценах Карлавага універсітэта студэнты ўзнаўлялі ў мініяцюры той веер палітычнага размежавання, якое існавала ў Заходняй Беларусі і ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі за межамі БССР. Толькі ў самой Заходняй Беларусі палітычна стракатую грамадскасць прымушала гуртавацца і супрацоўнічаць агульная пагроза апалячвання, агульны вораг — акупацыйны рэжым. Гэтага агульнага ворага непасрэдна не адчувала беларускае зямляцтва ў Празе, таму канфліктнасць там часта брала верх над супрацоўніцтвам. Эміграцкія палітыкі ковенскай групы, апынуўшыся генераламі без войска, дзеячамі без мас, прынялі студэнцкае асяроддзе Прагі за сімвал беларускай масы, пры дапамозе якой яны, як генералы ля пясочных скрынак, спрабавалі разыгрываць «войны» і выпрабоўваць тактычныя хады.

Да пераезду Рады БНР з Коўны ў Прагу студэнтаў апекаваў ад яе імя М. Н. Вяршынін. Потым апекуноў прыбавілася. З вуснаў Т. Грыба дзеячы атрымліваюць іранічныя ацэнкі: «...за прафесарам М. Н. Вяршыніным нічога нельга зрабіць. Ён большы таўкач, чымся тыя ўсе разам узятыя — з П. А. [Крачэўскім] на чале».

Палітычную сітуацыю на пачатку 20-х гадоў называюць зменавехаўшчынай. Назва пайшла ад альманаха «Смена вех», выдадзенага ў Празе ў ліпені 1921 года рускім эміграцкім асяроддзем. Публіцысты Ключнікаў, Устралаў і іншыя расцанілі пераход СССР ад ваеннага камунізму да нэпа як сімптом вяртання савецкага ладу да буржуазнай дэмакратыі. Абнаўленне эканамічнай палітыкі ў СССР у іх разуменні мела мэтай «рэстаўрыраваць капіталізм на больш высокім узроўні культуры». Зменавехаўцы прыйшлі да парадаксальнай высновы, што сацыялістычная рэвалюцыя і савецкая ўлада, у прынцыпе, былі карыснымі для Расіі, бо паднялі краіну на новы рубеж капіталістычнага развіцця. Прага аказалася месцам, дзе ствараліся знешне падобныя да зменавехаўскіх, хоць прынцыпова розныя, ідэі беларускай нацыянальнай дэмакратыі, выпрацоўваліся прынцыпы адносін да БССР.

З 26 па 30 верасня 1921 года ў Празе адбылася беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Рады БНР і ўрада, дэлегацыі ад беларускіх грамадска-палітычных арганізацый з Латвіі, Літвы, Віленшчыны і Гродзеншчыны, у тым ліку кіраўнікі паўстанцкага руху Беласточчыны Вера Маслоўская, Сяргей Баран, Стэфан Жабінскі, старшыня ўрада БНР Вацлаў Ластоўскі, прэзідэнт Пётра Крачэўскі і міністр замежных спраў Аляксандр Цвікевіч, з Латвіі прыехалі Канстанцін Езавітаў і Паўліна Мядзёлка, эсэраў прадстаўлялі Тамаш Грыб, Язэп Мамонька і Палута Бадунова, паланафільскія колы Аляксюк. Паміж ім і старшынёй канферэнцыі Цвікевічам разгарэлася вострая спрэчка, двойчы спыняў старшыня Алексюка, а ўрэшце пазбавіў яго слова, і па праву, дадзеным яму дэлегатамі, заявіў: «Калі ў нас будуць толькі арыентацыі, а не будзе дзяржаўнага стрыжня, не будзе адзінай дзяржаўнай волі, нас перамогуць і зробяць рабамі. Але наша ідэя святая, і яе святасць дае нам сілы пераносіць нашы крыжавыя мукі.

...Грамадзянін Аляксюк казаў нам, што трэба ісці з Варшавай, не, трэба ісці з беларускім народам, бо ні Варшава, ні Масква не дадуць нам свабоды»[1].

Вельмі востра крытыкаваў палітыку ўрада БССР лідэр эсэраў Мамонька, які незадоўга наведаў Савецкую Беларусь. «Маскоўскія камуністы, каб было лягчэй прыдушыць беларускі рух, зрабілі невялікую рэспубліку з пяці паветаў, у якой фактычна ўладу трымаюць у руках не беларусы. Фактычна маскоўскія цэнтралісты з'яўляюцца такімі ж цэнтралістамі, як і ўлады царскага перыяду»[2].

А. Цвікевіч, аднак, сам парушыў тэзіс адкінуць арыентацыі і даказваў, што ў канкрэтны момант спрэчкі на міжнароднай палітычнай арэне паміж Польшчай і Літвою за Віленшчыну і Гродзеншчыну ёсць падстава падтрымаць Літву. «Калі беларускія землі Гродзеншчыны па-за межамі 12 ліпеня 1920 года адыдуць ад Польшчы, будзе створана фактычна Беларуская Народная Рэспубліка»[3].

---

[1] Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя. Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 3, воп. 1, спр. 169, арк. 26. Далей — ЦДАМЛіМ.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама, арк. 41.

Чытаючы матэрыялы нарады, цяжка ўявіць, што праз два гады арыентацыя прагрэсіўных элементаў беларускай эміграцыі зменіцца дыяметральна і што А. Цвікевіч, змяніўшы В. Ластоўскага на пасадзе старшыні ўрада, стане будаўнічым мостам сувязі з БССР. Пэўныя сімптомы, праўда, можна было заўважыць у асуджэнні радыкальнаю часткай канферэнцыі дыверсійнай дзейнасці генерала Балаховіча і Савінкава. Але не з таго асуджэння браў сілу працэс палітычнай пераарыентацыі. Сілу яму давала нарастаючая нацыянальна-вызваленчая барацьба ў Заходняй Беларусі і беларусізацыя ды дзяржаўнае буданіцтва ў БССР.

У Заходняй Беларусі рухавіком збліжэння сталі не заклікі да змены вех, а баявое супрацоўніцтва паўстанцкіх сіл. З левага крыла партыі асэраў у 1922 годзе выдзелілася Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, лідэрамі якой былі Язэп Лагіновіч (Корчык), Арсен Канчэўскі, Андрэй Капуцкі (Валошка) і пісьменнік Леапольд Родзевіч (Юргілевіч). Невялікая па колькасці, гэтая партыя гуртавала патрыятычную вясковую моладзь і інтэлігенцыю, прапаведавала паўстанцкую барацьбу як адзіны спосаб уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР.

У студэнцкім беларускім асяроддзі як у Вільні, так і ў Празе праблема адносін да савецкай улады, БССР стала пробным каменем палітычнага радыкалізму. Падтрымка БССР азначала падтрымку ўз'яднання народа і той партызанскай барацьбы ў Заходняй Беларусі, якую вялі атрады Кірыла Арлоўскага, Станіслава Ваўпшасава, падпарадкаваныя камуністам атамана Мухі, звязаныя з БРА і атрады атамана Хмары, паручніка Вячаслава Разумовіча, падпарадкаваныя Радзе БНР, якая рыхтавала баявыя дружыны і акцыі на літоўска-польскім памежжы. На жаль, там здарыўся правал: жыхар Саколкі Эдуард Лянкевіч быў падкуплены дэфензівай і выдаў падполле. Паліцыя правяла масавыя арышты. У Беластоку адбыўся буйны судовы працэс над удзельнікамі беларускага вызваленчага руху. Ён атрымаў назву працэсу Веры Маслоўскай, беларускай настаўніцы, чыё выступленне на судзе зрабіла вялікае ўражанне на грамадскую думку Беларусі і Польшчы.

Балючым рэхам адгукнулася гэтая падзея ў студэнцкім асяроддзі Прагі. Тамаш Грыб пісаў Жылку: «Суд над беларускімі рэвалюцыянерамі ў Беластоку, над

Жабінскім з таварышамі. Ужо вестка пра гэта трапіла і ў французскую прэсу... Беларуская справа пачала выходзіць на шырэйшы шлях сваёй актуальнасці — уваб'е асінавы кол у справу беларуска-польскага паразумення. Застаецца адно: падымайся з нізін, сакаліна сям'я!»

Сітуацыя ў беларускім вызваленчым руху за межамі БССР была супярэчлівай, але баявітай і ў цэлым аптымістычнай. Яе рухавіком з'яўляўся моцны стыхійны рэвалюцыйна-вызваленчы настрой у разбуранай вайною і абнадзеенай рэвалюцыяй беларускай вёсцы. Асадніцтва[1] і продаж з малатка замежным фірмам права на эксплуатацыю лясоў — два генератары абурэння, дзеяння партызан, а таксама пратэстаў беларускай парламенцкай апазіцыі ў польскім сейме першай палавіны 20-х гадоў. Вызваленчы рух заходнебеларускай вёскі з аднаго боку і канструктыўная палітыка ўраду БССР з другога сыходзіліся на пункце ўз'яднання народа. Нейкім прадвеснікам і мадэллю мірнага ўз'яднання стала далучэнне да БССР Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей у 1924—1926 гадах.

Следам за першым узбуйненнем БССР 8 чэрвеня 1924 года праходзіў мінскі з'езд партыі беларускіх эсэраў. Удзельнікі прызналі сваю лаяльнасць да ўрада рэспублікі, ухвалілі беларусізацыю як актуальную палітыку, карысную для ўсяго народа.

Ад імя КП(б)Б звярнуўся да з'езда Усевалад Ігнатоўскі, член ЦК, нарком асветы, кіраўнік Інбелкульту. Ён назваў дзве памылкі, два грахі эсэраў: «Утварэнне ў часы польскай акупацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі замест таго каб утварыць рэвалюцыйны камітэт дзеля барацьбы з польскай шляхтай. Другая вялікая памылка — гэта адказ БПС-Р у 1920 годзе прыняць удзел разам з камуністамі па ўтварэнні Рэўкому ССРБ. Але гэтыя памылкі выклікаліся аб'ектыўным становішчам, а не жаданнем асобных людзей»[2]. Імкнучыся быць аб'ектыўным, У. Ігнатоўскі прызнаваў, што «партыя камуністаў мае свае памылкі...». Да іх ліку ён аднёс тое, што «ў часы ваеннага камунізму, калі галоўную ўвагу трэба было звярнуць на барацьбу з унутраным і замежным ворагам, на нацыянальнае пытанне

[1] Польскія ваенныя каланісты атрымлівалі бясплатна зямельныя часткі (асады) на заходнебеларускіх землях.

[2] ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 146, арк. 24.

звярталася мала ўвагі. І яно рабіла шмат зігзагаў»[1].

У. Ігнатоўскі быў з тых буйных светлых постацяў, што мудра абжывалі здабыткі рэвалюцыйнай думкі з карысцю для беларускіх нацыянальных патрэб і інтарэсаў беларускага народа. Народжаны ў сям'і настаўніка на Берасцейшчыне (вёска Такары Камянецкага раёна), ён яшчэ семінарыстам навучыўся засвойваць кананічныя веды з падручнікаў, а іх ерэтычную альтэрнатыву з падпольных брашур і забароненых кніг. За «грэшную» спакушальнасць рэвалюцыяй яго выключылі з Віленскай духоўнай семінарыі, прывучылі ўтойваць сваё вальнадумства і закончыць адукацыю ў Магілёўскай семінарыі, паступіць у Пецярбургскі універсітэт, там удзельнічаць у канспірацыі ды студэнцкіх хваляваннях. Спазнаў ён і ссылкі ў Гродзенскую, пазней у Аланецкую губерні, нават ажаніўся ў ссылцы з прадстаўніцай вядомага рускага народніцкага дома Марыяй Арэф'евай. Канчаў вышэйшую асвету ў Юр'еўскім універсітэце.

Першая сусветная вайна павяла яго, настаўніка віленскай гімназіі, шляхамі бежанства і закінула ўжо педагогам Мінскага настаўніцкага інстытута ў Яраслаўль. Яшчэ ў Пецярбургу У. Ігнатоўскі ўступіў у партыю эсэраў, у Вільні сышоўся з беларускім адраджэнскім рухам, у Яраслаўлі стварыў на базе Мінскага пединстытута эсэраўскую групу «Наш край». Гэта — своеасаблівы эксперымент спалучыць леванародніцкія ідэалы з беларускаю нацыянальнаю ідэяй. Перапіска паміж ініцыятарамі беларускага адраджэння з Мінска і Вільні часоў грамадзянскай вайны паказвае, што на бацькаўшчыне Ігнатоўскага цанілі і чакалі.

«Наш край» пасля Лютаўскай рэвалюцыі пайшоў па шляху патрыятызму і з мая 1917 года прыняў назву «Маладая Беларусь». Пасля Брэсцкага міру Мінскі настаўніцкі інстытут, дзе У. Ігнатоўскага абралі старшынёй педсавета, вярнуўся на акупіраваную немцамі радзіму. Тут У. Ігнатоўскі застае крызіс Беларускай сацыялістычнай грамады, далучаецца да левых сацыялістычных сіл, якія ўтварылі Беларускую партыю эсэраў, уступае ў яе на чале «Маладой Беларусі», але агаворвае для яе правы аўтаноміі, каб узяць курс на сувязі з камуністычным падполлем. За камуністамі ішлі масы. Гэта імпанавала Ігнатоўскаму, але насцярожвала ігна-

[1] ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 146, арк. 25.

раванне нацыянальных інтарэсаў беларускага народа лявацкімі дзеячамі Паўночна-Заходняга абласнога камітэта Расійскай Камуністычнай партыі. Не адпавядала яму і эсэраўская палітыка барацьбы на два фронты (супраць польскіх акупантаў і супраць бальшавікоў).

У канцы 1919 года «Маладая Беларусь» прыняла яго прапанову выйсці з партыі Беларускіх эсэраў і ўтварыць Беларускую камуністычную арганізацыю, падтрымаць праграму савецкай улады. Ігнатоўскі быў абраны ў лютым 1920 года старшынёй ЦК БКА, членамі — С. Булат і Я. Каранеўскі. У гэтай арганізацыі дзейнічаў Міхась Чарот. Арганізацыя кіравала сялянскімі ўзброенымі дружынамі, якія дзейнічалі ў баявым кантакце з Рэвваенсаветам Заходняга фронту, змагаліся з польскімі акупантамі. БКА падтрымлівала патрыятычна настроеных беларускіх камуністаў на чале з А. Чарвяковым і З. Жылуновічам, якія ў складзе Рэвваенсавета Заходняга фронту дамагаліся ўтварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі, а не аўтаномнай вобласці ў складзе Расійскай федэрацыі, на чым настойвалі левыя бальшавікі ў асобе Вільгельма Кнорына, Пікеля, Рэйнгольда і Калмановіча.

У. Ігнатоўскі пасля выгнання палякаў летам 1920 года ўвайшоў у склад часовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Савецкай сацыялістычнай рэспублікі Беларусь, а на II Усебеларускім з'ездзе саветаў быў абраны наркомам земляробства. Цэнтральнае бюро КП(б)Б прыняло БКА ў склад Кампартыі Беларусі, напомніўшы, што гэта арганізацыя ў змаганні з белапалякамі зжыла «рэшткі нацыяналізму». Відаць, падобныя абразлівыя засцярогі сталі часткай палітычнага этыкету бальшавікоў. Мяркуючы па тым, што ў камуністычным руху Беларусі рэй вялі вайскоўцы, якія цураліся беларускага самавызначэння і дзяржаўнага суверэнітэту, трэба разумець, як нялёгка далося Ігнатоўскаму рашэнне аб'яднацца. Таму, відаць, і паблажлівасць жыла да беларускіх эсэраў.

У. Ігнатоўскі быў дзеячам канструктыўным, хацеў спалучыць беларускую ідэю з сацыялізмам, даў прыклад патрыятычнага яднання радыкальна-сацыялістычных сіл з ленінскай плынню ў камуністычным руху на Беларусі.

Інфармуючы А. Луцкевіча пра пераезд у жніўні 1926 года з Латвіі ў Мінск дырэктара дзвінскай беларускай

гімназіі Івана Ігнатавіча Краскоўскага, У. Жылка перадае, што сям'я Краскоўскіх пасялілася ў гасцінным доме Ігнатоўскага, які на лета выехаў у вёску на дачу. Ігнатоўскі працаваў тады народным камісарам асветы і дырэктарам Інстытута беларускай культуры. Ён прыняў Краскоўскага як калегу, які прыбыў папоўніць сям'ю сталічных асветнікаў.

Чаму ўсё ж такі КП(б)Б не пайшла на прызнанне беларускіх эсэраў партыяй лаяльнай апазіцыі? Чаму дамагалася ад іх прызнання памылак, самаліквідацыі і ўступлення ў КП(б)Б без агаворак і без права на сваю, мовім так, аграрна-кааператыўную канцэпцыю сацыялізму? Таму, што ва ўсёй Кампартыі Саюза з часоў ваеннага камунізму, разгрому сялянскіх паўстанняў і эсэраўска-анархісцкіх мяцяжоў фетышам стала лявацкая догма: хто каго. А ў дадатак спакушала надзея на сусветную рэвалюцыю і глабальную дыктатуру пралетарыяту. Паварот да нэпа не развеяў лявацкіх закусаў, наадварот, пасля смерці Леніна непрымірымыя ўмацаваліся, пачалі гуртавацца ў наменклатурны сталінскі кулак, г. зн. лявацтва, закамуфляванае пад цэнтрызм.

Сталінская групоўка авалодала партапаратам, дзейнічала нахабна і разухабіста, громячы меншавікоў, потым трацкістаў, імпанавала плебейству. Панішчаныя фізічна ворагі былі ўчарашнімі паплечнікамі. У касталомні класавых баёў і кланавых афер, эгаізму, грызні не на жыццё, а на смерць паўставала сталінская дыктатура, рэжым аблыжны, цынічны, безадказны і ўпэўнены ў беспакаранасці. Як акажацца праз некалькі год, у КП(б)Б і ў ВКП(б) знойдуцца фарысеі, што крывава спаганяць з Ігнатоўскага і з былых беларускіх эсэраў за няўдачы прымусовай калектывізацыі. Сектанты аб'явяць ідэолага палітыкі нацыянальнага гуртавання нацыяналістам, сепаратыстам, дыверсантам, зацкуюць, давядуць да самагубства. Але гэта будзе пазней.

Як можна меркаваць з лістоў Т. Грыба да У. Жылкі, антыкамуністычная лінія ўтрымлівалася нават у яго свядомасці не без ваганняў: у лісце ад 23 сакавіка 1923 года ён выдаў такі вёрткі пасаж наконт мажлівых адносін да зменавехаўцаў, што яму мог бы пазайздросціць сам Макіявелі: «А цяпер вось аб чым: нашы сябры па няшчасці спешна мяняюць вехі: «У морду Івана — у ногі Пятру». А гэтага і трэ было чакаць. Я кажу пра галіцкіх украінцаў. Яны, расчараваўшыся ў антантскай

справядлівасці, разбіўшы фетыш Ллойд Джорджа, ствараюць новы фетыш — чырвоны Маскоўскі Крэмль. Раз Рада паслоў пастанавіла супраць волі народа суверэннасць Польшчы над Галіччынай, Заходняй Беларуссю, то застаецца адно — ісці супраць гэтай пастановы, супраць Антанты. Супраць Антанты і Маскоўскі Крэмль, а таму вораг майго ворага ёсць і мой саюзнік, як кажа іх Шкодка — галічане ідуць разам з бальшавікамі. А як беларусы? — Справа ясная і зразумелая, аб гэтым няма чаго і казаць... Мы роўна нічога не трацім, а, наадварот, можам здабыць, па крайняй меры, можам здабыць аб'яднанне, не будзе вісець больш праклятце падзелу на ўсходнюю і заходнюю Беларусь, а будзе адна Беларусь, якой і павінна быць».

Праз два месяцы Т. Грыб зноў вярнуўся да пытання змены вех і супрацоўніцтва з БССР: «Менск распачаў змаганне за незалежнасць і непадзельнасць Беларусі, там і будзе галоўны асяродак за гэты покліч волі — там будзе і перамога». 17 жніўня падае з вуснаў Грыба як бы новая прымірэнчая дэфініцыя: «Я быў і застаюся ідэйным ворагам камуністаў, хаця гэта не перашкаджае мне адносіцца з належнаю пашанай да іх».

І вось, калі здавалася, што ідэолаг беларускіх эсэраў рыхтуецца падтрымаць супрацоўніцтва левых сіл на платформе ўз'яднання беларускага народа, нечакана прыцяжэнне змяняецца адштурхоўваннем. Цяжка вызначыць прычыны гэтага задняга ходу. Сказаць, што прычына ў палітычнай няўстойлівасці Грыба, у замілаванні да парадоксаў — значыць нічога не сказаць. Як мне здаецца, адну з прычын можна даглядзець у апошнім пісьме Грыба да Жылкі. Яно напісана 9 лютага 1924 года: «Прыехаў у Прагу У. З. Штэйнберг. Чытаў даклад у «Вольнай грамадзе» на тэму «Праблема тэрору ў рэвалюцыі». А ўчора быў даклад В. М. Чарнова на тэму «аб прызнанні» [новай палітыкі бальшавікоў. — *У. К.*]. Асноўны сэнс дакладу: хай прызнаюць, але мы маем рукі развязанымі. Выступала некалькі апанентаў, у тым ліку Штэйнберг, які, між іншым, сказаў: трэба руйнаваць адзіную і непадзельную Расею, — гэта зрабіла вельмі сільнае ўражанне. Ён таксама выказваецца проці прызнання, але не таму, што бальшавікі не йдуць на ўступкі, а ласне таму, што яны ідуць на ўступкі, трацяць свой сацыялістычны твар, сыходзяць з рэльсаў Кастрычніка».

Ключыкам да прачытання ўражанняў, якія зрабілі на Грыба ідэалагічныя дэкларацыі двух лідэраў рускіх эсэраў, з'яўляецца яго філасофскі, па сутнасці, спавядальны роздум пра волю і прымус: «Як магу я лічыць сябе вольным чалавекам, калі над маёй галавой вісіць страхоцце «муса»? І што найбольш трагічна: без гэтага «мусу» і кроку нельга ступіць. Вось табе і вольная воля!»

Мус — гэта партыйная салідарнасць і дысцыпліна. Свае адносіны да бальшавікоў Грыб карэкціраваў, узгадняючы з пазіцыяй Я. Мамонькі і П. Бадуновай. Так выступілі супраць прымірэння з бальшавікамі і ўрадам БССР акрамя антыкамуністаў з Рады БНР — Крачэўскага, Захаркі і інш. — ідэолагі пражскай эсэраўскай групы — Тамаш Грыб, Язэп Мамонька і Палута Бадунова. У выдадзеным у канцы 1924 года ад імя партыі эсэраў «Поклічы» яны занялі пазіцыю непрымірымых і бескампрамісных змагароў, якіх нібыта абразілі камуністы: «БПС-Р, — чытаем апошні, 37 пункт «Поклічу», — праз увесь час вяла чэснае, адкрытае змаганне рэвалюцыйнае за свае ідэалы сацыялізму, а таму не мае ў чым каяцца і з пагардай адкідае камуністычна-бальшавіцкую дэмагогію аб «раскаяўшыхся грэшніках».

На выбар такой арыентацыі, бясспрэчна, уплывала грубая артадаксальнасць партыйнай прапаганды ў БССР. Як адыёзны факт перадаваў Грыб раней у пісьме да Жылкі фрагмент з артыкула Б. Стасевіча «Партыя сацыял-комікаў», апублікаванага ў «Савецкай Беларусі» 27 чэрвеня 1923 года: «Беларускія сацыял-здраднікі, беларускія эсэры, не прынятыя ў склад Гамбургскага кангрэса, запрошаны Ледэбурам у арганізаваны ім новы інтэрнацыянал. Гэты новы сацыял-камічны інтэрнацыянал складаецца з тых партый, якія не маюць радавых сяброў [членаў. — *У. К.*] і не абапіраюцца ні на якія масы. Да такіх «грозных» партый без сяброў і без масаў належаць і беларускія эсэры на чале з Грыбам і Мамонькам».

Прыязджаў у Прагу ў снежні 1923 года ініцыятар супрацоўніцтва з урадам БССР, міністр замежных спраў, потым прэм'ер БНР, прафесар Аляксандр Цвікевіч, чытаў публічную лекцыю ў Празе, выступаў спецыяльна перад студэнтамі і меў гутарку са студэнцкаю элітай. Але, прынамсі, хрысціянскіх дэмакратаў і эсэраў яго выступленне не перавяло ў новую веру: апошнія

ўспрымалі і падтрымлівалі акцэнты, скіраваныя супраць левасектанцкай наднацыянальнай рэвалюцыйнасці марксістаў, і ўмацоўваліся на антыкамуністычнай пазіцыі. Сакратар Рады БНР Лявон Заяц адазваўся ў пісьме да Жылкі 18 снежня 1923 года наступным чынам: «Апроч вядомай Вам лекцыі Цвікевіча адбыліся яшчэ дзве яго лекцыі для беларускіх студэнтаў, дзе быў даны бой нашым наваяўленым марксістам, ад якіх так нясе расейскай саветчынай». Студэнт Мікола Чарнецкі дапаўняе Зайца водгукам на сустрэчу: «16-га, здаецца, была сустрэча з ковенцамі. Запрошаны былі толькі некаторыя: Грышкевіч, Бусел, Русак, Дварчанін, Грыб, Мамонька, Станкевіч, Клаўсуць, Клімовіч, Вяршынін і ўсе яны [прадстаўнікі ковенскай Рады БНР.—*У. К.*]. Гэта была сямейная бяседа... Але ўсё ж такі пачалі на гэтай бяседзе дакалупвацца — дзеля чаго пазбіраліся... Праўда, нашы на паведамленне Цвікевіча, што ты ўвайшоў у склад Рады, сказалі, што ім гэта невядома, што не было дазволу ўваходзіць у Раду[1]. Цвікевіч развёў толькі рукамі, і толькі на гэтым усё і закончылася».

Усё ж рашаючае ўздзеянне на палітычную пераарыентацыю студэнтаў мела беларусізацыя ў БССР, пашырэнне тэрыторыі рэспублікі, працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, гістарычнай памяці, культурнай спадчыны, мовы. Шкада, што нам не вядомы адказ Жылкі на пісьмо Грыба, але дыскусійны характар, які набірала перапіска ў канцы 1923 года, і яе спыненне ў пачатку 1924 года дае падставу меркаваць, што Жылка пакутліва, але вызваляўся ад недаверу да камуністаў, прыхільна ставіўся да ідэі нацыянальнага прымірэння і супрацоўніцтва нацыянальнай дэмакратыі з урадам БССР. Ён меў больш цесны кантакт з левым крылом заходнебеларускага вызваленчага руху, перапісваўся з Л. Родзевічам, а таксама з роднымі і сябрамі з СССР, якім верыў. Яго мацней, чым Грыба, цягнула да Мінска і родных магіл.

Тамаш Грыб не мог глянуць на СССР інакш, як на былую расійскую імперыю з перафарбаваным фасадам. Падставы для ўстойлівасці такога бачання давалі ўспаміны пра негатыўныя адносіны кіраўніцтва колішніх За-

---

[1] Беларуская Рада — прадстаўнічы орган беларускага зямляцтва ў Чэхаславакіі, створаны пераехаўшым урадам БНР. Старшынёй Рады быў абраны Л. Заяц.

ходняй вобласці і Заходняй камуны да беларускага самавызначэння, а таксама водгалас пра скрыпы самой беларусізацыі. Такое меркаванне пацвярджае скептычная рэпліка Грыба, якой ён закончыў свае разважанні пра мажлівасці Мінска ў аб'яднанні беларускіх адраджэнскіх сіл: «Але за Менскам стаіць сіла варожая — там стаіць мардасты кацап, поўны злобы і нянавісці к сепаратыстам».

Па натуры Тамаш Грыб, напэўна, быў чулым да мужыка-беларуса, любіў яго шчыра і цаніў высока. Праўда, любіў ён і арыгінальнічаць, меў павышаныя амбіцыі, да Жылкі ставіўся з пашанай як да мастака, хоць глядзеў крыху зверху, лічыў, што той пераацэньвае ролю пачуццяў у пазнанні і не паважае цвярозага рацыянальнага мыслення. Удзел у палітычных баталіях падняў Грыба да ролі вядучага ідэолага беларускіх эсэраў, але, відаць, і папсаваў яго характар, зрабіў з'едлівым, скептычным, навучыў засланяцца ад самога сябе хоць бы рэзанёрствам: «...вечнасць, бог, час, прастор, дух, несмяротнасць душы, атам, бясконцасць — усё гэта адны толькі паняцці, на якіх і трымаецца людское філасофстванне. Бо што такое ёсць вечнасць, бог, час, прастор — ніхто не ведае... Гэта ёсць толькі паняцці, у якія кожны ўкладае свой уласны суб'ектыўны змест, і ў выніку маем нешта... неазначнае, не маючае ў сабе ніякай сваёй уласнай унутранай вартасці.

Дык што ж тады мае вартасць? Чалавек мае вартасць у сабе [чалавек. — *У. К.*], які азначае сваё адносіанне да вонкавага свету, які сам сабе стварае бога, стварае свой уласны свет.

...Спачатку ўсё ж такі чалавек, а пасля ўсё астатняе. Усё для чалавека — і «сны залатыя», і раса на лісцях, і Рафаэль, і Мікеланджэла, і Рэпін, і Талстой, і Горкі, і Ленін... Мушу прызнацца, я не люблю сучаснага чалавека, бо ён парадачнае ёсць свінства... І калі я кажу аб чалавеку, то маю на ўвазе чалавека будучага...» (Ліст ад 8 мая 1923 года.)

Сёння даводзіцца чытаць папрокі разумных заднім розумам навукоўцаў у адрас тых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія вярнуліся з эміграцыі ў Мінск адраджаць беларускую культуру і сталі ахвярамі беспадстаўных палітычных абвінавачванняў і рэпрэсій.

Ахвяр дэфармаванай сістэмы здзічэлай улады, ахвяр палітычнага бандытызму і тэрору далей абвінавачва-

юць і судзяць ужо за палітычную недальнабачнасць. Хіба можна прадбачыць абсурднае? Ніводзін нармальны чалавек не ў стане прадбачыць, што палітычны рэжым будзе «свядома» пажыраць сваіх прыхільнікаў і лаяльных грамадзян. Нават выдатны дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адам Станкевіч бачыў у нацыянальнай палітыцы БССР толькі «бляскі і цені», а не самагубную аварыю сістэмы[1].

У 1924 годзе Грыб напісаў разгорнуты публіцыстычны трактат «Нашы задачы», у якім адмежаваўся ад «зменатычнікаў», падкрэсліваючы, што ў рускіх эсэраў і ў беларускіх розныя задачы, розныя ідэалогіі. Беларускія эсэры — гэта народнікі, а не вялікадзяржаўнікі, хоць «мы ніколі не пакідалі думкі аб канцавых мэтах усіх нашых намаганняў — свабода і роўнасць усіх людзей і народаў. Мы змагаемся за сусветную федэрацыю нацыянальных сацыялістычных рэспублік».

Варта прыгадаць, што і ў сваім асяроддзі Т. Грыб нікога не ідэалізаваў, іранічна ставіўся, як мы бачылі, нават да прэзідэнта БНР. Тамаш Грыб бязлітасна звонавіць з п'едэстала на грэшную зямлю напышлівых палітыкаў, паказваючы іх людзьмі без грошай, без сродкаў на існаванне пасля таго, як упала ў цане іх антысавецкая пазіцыя. Савецкі ўрад, узяўшы курс на нэп, станавіўся ўдзельнікам сусветнага рынку, атрымліваў прызнанне ў Еўропе, якая з прыемнасцю збаўлялася ад страху перад «сусветнай рэвалюцыяй». Пазіцыя беларускіх антысаветчыкаў траціла цану, рабілася анахранізмам, якога не жадалі фінансаваць літоўскія ўлады і чэхаславацкія таксама. БНРаўская карта аказалася бітай.

Добра паінфармаваны аб усім Тамаш Грыб напісаў яшчэ ў жніўні У. Жылку: «Вы ведаеце, што ў Коўні цяпер? Адно паскудства, зусім селі на мель. Міністэрства беларускіх спраў зусім ужо скасавана. Аляксандр Іванавіч Цвікевіч, Пётра Антонавіч Крачэўскі, Заяц, Захарка, Вальковіч форменна галадаюць. Думаючы аб адным толькі, як бы вырваць на кусок хлеба».

У канцы 1923 года ўрад БНР пакінуў Літву і пераехаў у Чэхаславакію, атрымаўшы заруку на матэрыяльнае ўтрыманне. Пасля пераезду чэхі задумаліся і згадзіліся толькі на невялікую пазыку. Ізноў жа Тамаш

---

[1] Гл. яго арт.: Цені і бляскі // Калосьсе. 1935. № 4. С. 213.

Грыб не без зларадпасці пісаў Жылку: «Не для культурнай справы яны пераехалі сюды. Ім патрэбна новая спекуляцыя, каб жыць. Вы разумееце гэта: справа беларуская ёсць спосаб пражыцця для іх». Лявон Заяц, былы сакратар Рады БНР, якога нельга западозрыць у саманагаворы, пераехаўшы ў Прагу, таксама скардзіўся на застой і мадзенне ў ковенскім асяроддзі: «Знудзіўся ў затхлай атмасферы Коўна па жывой рабоце і жывых людзях. Я займаўся там нічога ў канцы канцоў не даўшай нам не па нашай віне «палітыкай» і сапраўды нежывой справай...»

Жылка і Дварчанін уяўлялі перспектыву беларускага вызваленчага руху ў супрацоўніцтве левадэмакратычных сіл з патрыятычна настроенымі ўдзельнікамі камуністычнага руху як у БССР, так і ў Заходняй Беларусі. Не ў яднанні бачылі свой шанц, а ў падзелах і канфрантацыі зацятыя артадоксы з буржуазна-нацыяналістычных эмігранцкіх груповак, а таксама з лявацкіх — камуністычных. Адны і другія хацелі мець сваю манаполію на праўду, рваліся да кіраўніцтва. Паказальны ў гэтым сэнсе ліст, напісаны, як можна здагадацца па кантэксце, адным з дзеячаў урада БНР У. Жылку ў адказ на згоду супрацоўнічаць на культурнай ніве з ковенцамі, што пераехалі ў Прагу. Дзеяч зразумеў гэтую згоду па-свойму і паслаў Жылку цэлую інструкцыю да супрацоўніцтва: «Што гэта за грунт, на якім можна і трэба сходзіцца, гэта ёсць адзінасць «сімвалу веры», пэўная аднадумнасць і, калі можна так сказаць, адзінадушнасць, бо, як вядома, не ўсё можна ўзяць розумам. Падобным шчытом павінна быць партыя? Калі хочаце — так... Бо партыя — гэта тая «святая святых» кожнага грамадскага дзеяча, дзе павінна канчацца яго асоба як пачала індывідуальнага. Гэта так зразумела.

Мы так спадзяваліся, што нашы таварышы па партыі трымаюць усё студэнцтва ў сваёй, хоць нават не партыйнай, дык хаця народніцкай арбіце, — што сведчанне іхняй слабасці было для ўсіх нас упрост трагічным.

...Калі створыцца ў Празе моцная і працавітая народніцкая група, дык лягчэй будзе і дыхаць, і працаваць, і сустракацца са ўсімі без вынятку».

Далей аўтар хваліць Жылку і яго калегаў, якія ўзяліся выдаваць часопіс «Перавясла». На пісьме дапіска пасрэдніка, на адрас якога яно было выслана: «З задавальненнем адзначаю, што пажаданне Цвік. ужо адчасці

здзейснена: журнал выйшаў і вабіць да сябе сваім сур'ёзным падыходам да справы і, што асабліва важна — без асабістых лаянак і выпадаў».

Не цяжка ўявіць, як расчараваўся эсэраўскі дзеяч, прыхільнік партыйнага манапалізму, прачытаўшы ў першым нумары «Перавясла» праграмны артыкул Жылкі, у якім асновай кансалідацыі левадэмакратычных нацыянальных сіл прапанавалася лічыць прынцып раўнацэннасці нацыянальнага і сацыяльнага пачаткаў у вызваленні. «Нацыянальная справа, — гаворыць У. Жылка, — паколькі яна творыцца прадстаўнікамі нацыі, не можа быць не класавай». Ён адкідае догмы аб бяскласавасці ці надкласавасці беларускага вызваленчага руху, ідэал незалежнасці народа для паэта мае канкрэтнае чалавечае, сацыяльнае і гістарычнае вымярэнні. Ён пытае: «А для каго і ад каго мыслілася незалежнасць рэвалюцыйнымі сіламі?» І адказвае: «Ад папа і ксяндза, урадніка і пана... ад расейскай і польскай школы, што не шануюць, а даводзяць нягоднасць... нацыянальнага. Незалежнасць — гэта значыць новае жыццё і наша культура, зямля і воля, праца і роўнасць у багацці». З гэтых гуманных і дэмакратычных традыцый павінен зыходзіць і прагрэсіўны студэнцкі рух. Жылкава пазіцыя была падтрымана студэнцкай моладдзю розных арыентацый, менавіта яго абралі дэлегатам ад усяго зямляцтва на агульнаеўрапейскі студэнцкі з'езд, што праходзіў у верасні 1924 года ў Варшаве.

Жыццё пайшло шляхам кансалідацыі левых сіл, а не шляхам байкотаў БССР. Дварчанін і Жылка таксама не ўхіляліся ад супрацоўніцтва і прынялі ўдзел у рабоце ўтворанага студэнтамі-марксістамі літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Жылка стаў рэдактарам часопіса «Прамень». Старшыня гэтай групы Міхась Каўцэвіч пісаў Жылку 18 верасня 1926 года, калі той рыхтаваўся да выезду ў БССР: «Але шкада будзе цябе пускаць ад нас у Менск. Ну, што ж, нічога не зробіш! Толькі старайся, будзь ласкавы, як-небудзь падрыхтаваць выданне журнала. Выкарыстай Дварчаніна Ігната».

Годам раней А. Цвікевіч звярнуўся да савецкага паўпрэда ў Коўне з прапановай перадаць паўнамоцтвы ўрада БНР, які ён узначальваў, пры ўмове, што ўрад СССР і кіраўніцтва БССР падтрымаюць аб'яўленне Вільні і Віленшчыны законнымі тэрыторыямі Беларусі, якое зрабіў урад БНР. Збіраючыся вярнуцца ў Мінск з некаль-

кімі аднадумцамі (у іх ліку Л. Заяц), ён звярнуўся да Краёвага нацыянальнага камітэта, які ўзначальваў А. Луцкевіч, за ўхваленнем, падтрымкай і гарантыямі. «Бо ў момант, калі я як старшыня ўрада падамся ў адстаўку і заяўлю аб жаданні ехаць у Менск, — пісаў Цвікевіч у звароце да Краёвага нацыянальнага камітэта 22 лютага 1925 года, — я для апошняга (разумей Масквы) страчу ўсялякі інтарэс... У гутарцы з мясцовым паспрэдам я зазначыў... што ў Менску прэса «казённая», што кіраўнікі Савецкай улады маларэвалюцыйныя ў напрамку культурным... што толькі ў апошнія гады яны зрабілі ўступкі гэтак дабрадзейныя ў нацыянальнай справе, што трэба пайсці значна далей, зрабіць сапраўды беларускае нацыянальнае адраджэнне Беларусі фактам «новага жыцця»[1].

А. Цвікевіч быў другім пасля В. Ластоўскага палітыкам, які прадбачліва забяспечваў сваё вяртанне ў Мінск. На жаль, сталінскі рэжым аказаўся такім варварскім, што ў грош не паставіў сваю рэпутацыю за мяжой. Дамоўленасць аб гарантыях, напэўна, толькі аблегчыла следча-рэпрэсіўнай службе стварыць «верагодную» версію аб супрацоўніцтве былога прэм'ера БНР з замежнымі спецслужбамі і знішчыць «шпіёна». Зрэшты, падобныя версіі «прышпільваліся» нават палітвязням польскіх турмаў, камуністам, якіх выменьвалі, як Браніслава Тарашкевіча, Ігната Дварчаніна, Яна Бабровіча, па дамоўленасці з польскімі ўладамі і давалі палітычны прытулак у СССР.

## СТУДЭНЦКІЯ ТУРБОТЫ

Каб чытач змог адчуць клімат таварыскага і грамадскага жыцця Жылкі, Дварчаніна і Грыба ў Празе 20-х гадоў, варта пашырыць кантэкст іх перапіскі, пачытаць фрагменты з пісьмаў іншых карэспандэнтаў Жылкі, пацікавіцца рознымі ацэнкамі ўжо вядомых нам фактаў і ўвесці новыя дэталі, характэрныя для побыту студэнцкай сябрыны. Варта ўвагі і ступень індывідуалізацыі інтарэсаў, зацікаўленняў, захапленняў. Такі падыход адкрывае новыя парадоксы жыцця. Чытач, напэўна, чуў моцны і здаровы ідэалізм гэтага асяродка, але не да-

[1] ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 282, арк. 9.

пускаў, што ўстаноўкі на жаданае ідэальнае былі там ўблытаны ў вечную зямную праблему грошай.

Для Дварчаніна, Жылкі і Грыба гэта былі балючыя мазалі. Здаровыя, фізічна дужыя і свабодныя ад грамадскай заангажаванасці дзяцюкі латалі свой дзіравы бюджэт, наймаючыся летам на касавіцу ды жніво да гаспадароў, а Жылка не мог з-за хваробы, Ігнат Дварчанін — з-за мноства грамадскіх даручэнняў, Тамаш Грыб таксама.

Сяброўка студэнцкіх гадоў Жылкі, дачка дырэктара дзвінскай гімназіі Людміла Краскоўская піша ва ўспамінах: «Ежа ў Студэнцкім доме ў сталоўцы была танная, але не вызначалася добрай якасцю. Жыццё студэнтаў у Празе не было лёгкім, з грашамі трэ было экаміць. Дзяўчаты ў большасці ўмелі гаспадарыць і абыходзіліся адной стыпендыяй, але ў хлопцаў выходзіла горш»[1].

Мікола Чарноцкі і Міхась Каберац, сябры па курсах у Езафове, пытаюць Жылку, ці не ведае ён, дзе можна наняцца капаць бульбу. Збіраюцца ехаць у Брно шукаць заробку.

Часам студэнцкая сябрына, каб збавіць кагосьці ад безграшоўя і пазыкаў, праводзіла складчыны. Здараліся шырокія індывідуальныя жэсты падтрымкі. Жылка даказваўся ў сістэме ўзаемадапамогі то аб'ектам, то даверанай асобай ці сувязным, перадатчыкам сродкаў па даручэнні. Мікола Чарноцкі піша 19 снежня 1923 года, што перад Новым годам сабралі Жылку 75 крон і выслалі ў санаторый замест святочнага падарунка. Нехта Язэп піша да яго 5 кастрычніка 1923 года ў студэнцкі гарадок Радоцін, што высылае на яго імя 65 крон для Грышкевіча і абяцае прыслаць па столькі ж Гузоўскаму і Каберцу.

Зборы, ахвяраванні і складчыны праводзіліся як на дабрачынныя, так і на грамадскія культурна-асветніцкія мэты, напрыклад, на выданне часопіса, арганізацыю вечара, дэлегіраванне прадстаўніка на нейкі з'езд і г. д. АБПС[2] дапамагала сабранымі ў студэнтаў грашыма нават заходнебеларускім калегам ці, можа, вучням Віленскай беларускай гімназіі. Пра гэта сведчыць ліст Сымо-

---

[1] Краскоўская Л. З успамінаў пра паэта // Літ. і мастацтва. 1990. 15 чэрв.

[2] Асацыяцыя беларускага паступовага студэнцтва.

на Рак-Міхайлоўскага, на імя якога студэнты пасылалі ў парадку дабрачыннасці 370 крон. Каму канкрэтна ішлі грошы, з пісьма не відаць, можа, друкарам, да якіх меў дачыненне аўтар як старшыня Беларускага выдавецкага таварыства. Адказваючы ахвяравальнікам 28 кастрычніка 1924 года, атрымальнік дзякуе ад імя тых, каму былі прысланы грошы, і запэўнівае: «Будзе зроблены падзел згодна вашаму прызначэнню. Жылку вітаю з выхадам у свет кніжкі «На ростанях». Шкада толькі, што з прычыны недахопу коштаў так бедна выглядае кніжачка, так цесна збіты ўвесь матэрыял».

Другою скразною праблемай было здароўе і вучоба, на жаль, у многіх выпадках гэтыя праблемы набывалі сацыяльны характар: тулянні, бадзянні па свеце вялі маладых людзей да сухотаў, хвароб страўніка, хоць увогуле Чэхаславакія была краінай гаспадарнай і гасціннай, а ўзровень сацыяльнай аховы студэнтаў быў даволі прыстойны. Ды, відаць, супраць настальгіі, смутку па родных і блізкіх ніхто не прыдумаў лякарства.

Прыходзілі Жылку паштоўкі, у якіх такія ж хворыя, як ён, скардзіліся, апісвалі свой цяжкі стан здароўя, не думаючы пра тое, як гэта ўспрыме хворы, уражлівы паэт. Нехта добра знаёмы, звяртаючыся да Жылкі па-ўкраінску «Дорогий Товарищу», дзякаваў за кнігу, якую пазычыў у яго пачытаць, і, апраўдваючыся, чаму так позна вяртае пазыку, пачаставаў такім апісаннем: «...хотив ще собі зробити выписки. Тимчасом дістав горичку — простудився... аж в кінци дістав вибух крови та сім днів плював кров. Дужэ пав на силах та думав вжэ прощатись от с цим світом».

Бывалі выпадкі, калі дзеля эканоміі Жылкавы адрасаты дзялілі паштоўку на двух. Так, 2 мая 1923 года на адным баку паштоўкі Тамаш Грыб піша Жылку ў Езафова, што пачуў ад Міхася Каберца пра пагаршэнне стану здароўя паэта, і прапануе: «... прыязджайце ў суботу сюды, мы перагаворым аб санаторыі і яшчэ аб тым аб сім. Але аб санаторыі ў першую чаргу. Гэта можна будзе ўстроіць». На другім баку паштоўкі Ігнат Дварчанін звяртаецца да слухачоў матуральных курсаў, напамінаючы, што на 6 мая назначаны сход усіх сяброў Грамады, і настойвае: «Дык вось цікава было б, каб вы былі, або хоць з Езафова паступоўцаў (членаў АБПС) было не менш як [далей неразборліва. — *У. К.*]».

У кастрычніку 1923 года Жылка атрымаў паштоўку

з Украінскага грамадскага камітэта з паведамленнем: «Вас можна назначыць на лячэнне ў санаторыі. З гэтага выпадку прашу ласкава прыбыць да УГК 31.X.1923 г. у 9 гадзін раніцы на медыцынскую камісію». У лістападзе ён выехаў на тры месяцы лячыцца ў санаторый «Квасы» на Падкарпацкую Русь.

16 студзеня 1924 года піша да Жылкі студэнт У. Макоўскі ў санаторый «Квасы» як старажылу, распытвае пра ўмовы жыцця, пра лячэнне і пра дарогу — як даехаць. Сваю дапытлівасць ён тлумачыць напрасткі: «Справа ў тым, што дактары знайшлі ў мяне туберкулёз правага лёгкага і таму гоняць у санаторый. Дык вось не ведаю, ехаць мне ў «Квасы» ці ў якую іншую. Можна было б уладкавацца ў расійскім, але хацелася бы болей у «Квасы» дзеля таго, што нас ужо там будзе цэлая грамадка (як Вам, мусіць, вядома, Русак також едзе туды...)».

Лявон Заяц, які сам трапіў у процітуберкулёзны санаторый на Плешы, пісаў 26 сакавіка 1924 г. у «Квасы»: «Як у Вас там справы? Чуў я ад аднаго нашага з Плешы ўкраінца, што свята 25 сакавіка надзвычай добра, пры вялікім ліку людзей і з «пад'ёмам» прайшло.

Далажыце ўсіх высілкаў, каб трапіць на Плеш, бо гэта адна з найлепшых санаторый у Чэхіі... тут можна вылечыцца, дый Рывак няма блізка.

Пакуль што нічога апроч чытання не раблю, не дазваляюць. Пасля буду мець права ад 6 да 9 працаваць (вечарам). Добра было б, каб Вы прыехалі. Ёсць тут 4 украінцы, якія жывуць у бараках, цудоўна адбудаваных («Азія» іх называюць, а я жыву ў галоўнай будоўлі — «Еўропе»)».

Як сведчыць перапіска, Жылка ўжо лячыўся ў тым санаторыі летам 1922 года, але ў чэрвені—ліпені 1924-га паўтарыў курс лячэння, на жаль, жыццёвыя і грамадскія турботы не дазволілі яму як след расслабіцца, перамагчы сілы арганізма на адольванне немачы. Ды і хвароба была ўжо запушчанай да безнадзейнасці.

Прыходзілі і да яго часам паштоўкі далікатныя, спагадлівыя, асабліва ад студэнтак з Прагі і з Вільні. Здаралася, што і дзяўчат даводзілася нагружаць даручэннямі грашовага плана. Аб гэтым сведчыць пісьмо віленскай студэнткі, пачынаючай паэткі Галіны Літынскай, падпісанае вельмі інтымна «уся твая Галінка». Пачынаецца пісьмо гулліва: «Была ў Твайго прыяцеля Іваны-

ча[1] і передала Твой пацалунак. З маіх вуснаў яму, відаць, было больш прыемна прыняць яго, чым ад цябе самога. Так увесь і расплыўся. А затым я пачала гутарку аб Тваёй справе і намякнула аб грашах гэтак, як Ты лічыў патрэбным. На жаль, нягледзячы на тое, што я тут даволі доўга, мне не прывялося бачыцца з дзядзькам Лявонам[2]. Як Ты ведаеш, ён у Вільню не прыязджае, а да яго я не ездзіла. Думаю, што аб Тваім становішчы і грошах паінфармаваны гэтак, як Ты жадаў, бо Іваныч абяцаў пагаварыць з кім трэба.

...Калі Ты, даражэнькі, яшчэ ў Празе, дык перадай маю просьбу Любе, каб прыслалі кніжкі Баўэра, Каўцкага і іншых па нац. пытанню. Вершы мае Ты атрымаеш ад Любы».

Адносіны да вучобы былі ўвогуле сур'ёзнымі. Студэнты працавалі, як кажуць, да ўпаду, здаралася, аднак, што некаторыя не спраўляліся з «калёквіямі», залікамі, экзаменамі. Некаторым не давалася чэшская мова, а прафесарскі кантроль быў няўмольны: субяседванне (калёквіум) праходзіла па адной-дзвюх важных навуковых кнігах на працягу тыдня, прафесар вёў гутарку персанальна з кожным студэнтам. Наведванне лекцый было свабодным. Як прыгадвае Л. Краскоўская, Жылка наведваў лекцыі па гісторыі, літаратуры, а яна — па археалогіі і гісторыі мастацтва. Дварчанін праслухоўваў вельмі многа лекцый і здаваў залікі і экзамены па многіх дысцыплінах, дабіваўся шырыні ведаў.

Кожны студэнт здабываў веды самастойна і, для сябе, штудзіраваў першакрыніцы ў бібліятэках або дома, калі патрэбную кнігу можна было набыць у кнігарні ці ў букініста. Зразумела, ад стомы агортвалі людзей наплывы чорнага гумару ці адчайнага нігілізму. Напрыклад, нейкі неразборліва падпісаны калега, расказваючы Жылку пра калядныя настроі і навіны, атрыманыя з Вільні, выкінуў крылатае слоўка: «Акадэмія хоча зрабіць з нас вучоных, але нічога: мы не паддамося».

Для стыпендыятаў невыкананне вучэбнага плана азначала страту сродкаў на існаванне. Таму пры агульным высокім матэрыяльным узроўні студэнцкага ася-

---

[1] Відавочна, Антона Іванавіча Луцкевіча, цераз якога У. Жылка хацеў звязацца з Л. Родзевічам і папрасіць дапамагчы яму вярнуцца на радзіму. Л. Родзевіч быў у падполлі.

[2] Відавочна, так называлі Леапольда Родзевіча.

роддзя не лічылася брыдкаю справай пайсці здаць экзамен за таварыша, які не справіўся падрыхтавацца. За хворага Жылку хадзіла здаваць «калёквіі» нават яго сяброўка Л. Краскоўская. Яна пісала паэту: «Слухайце, шаноўны сябра, што мне з Simakom рабіць? Іншыя подпісы яшчэ дастану, а з ім горай. Усё ж такі і мяне можна злавіць, што хлапцоўскі індэкс. Дык падумайце, як гэта залагодзіць».

Мікола Чарноцкі без лішніх цырымоній наўпрост паднімае справу камбінацый наконт грошай і вучобы: «Ігнат кажа, што ёсць магчымасць выпісаць нават і грошы на ўпісы для цябе. Дрэнна толькі тое, што трэ будзе падрабіць твой подпіс на nacionale і іншых анкетах. Апрача таго, вось, зрабі ласку, прышлі пару сваіх фатаграфіяў: без іх нічога не зробіш. Спадзяемся, што будзе добра, абы толькі дэкан дазволіў запісацца...»

Не абмінала студэнцкая перапіска і асобы Дварчаніна, за якім усталявалася рэпутацыя чулага сэрцам, справядлівага і дзейнага члена калектыву. Так, жонка дырэктара дзвінскай гімназіі Валянціна Сымонаўна, даведаўшыся, што выпускніца Ліза, накіраваная на прадаўжэнне вучобы ў Прагу, засталася без стыпендыі, жыла на ўтрыманні ў жаночым манастыры і за год нажыла даўгоў на 1150 крон за ўтрыманне, пісала Жылку 27 лістапада 1924 года: «Пастарайцеся з Дварчанінымі, ён, здаецца, блізка прымае да сэрца ўсе гэтыя справы — шукайце якогась выйсця і наогул, калі выпадзе гэты семестр у Лізы... дык заставацца ў Празе асабліва няма чаго. Адзіны спосаб — сабраць тут грошай для яе на выезд, а там, у кляштары, як-небудзь залагодзіць...»

Прыемна сустракаць у адрасаваных Жылку пісьмах сцяжыны і паляначкі жывога хараства. Нават старамодна-прасцецкі народнік са Случчыны Васіль Русак пісаў Жылку: «Валодзя, калі маеце «Уяўленне», перашліце, няхай яно будзе ластаўкаю для мяне». Гэтая паэма была заходнебеларускім варыянтам Купалавага «Безназоўнага», асэнсоўвала сілу і слабасць беларускага адраджэння, азаралася хараством свабоды, ахвярнасцю, прарочыла шчаслівую будучыню Беларусі.

Да паэта-думанніка звярталіся сябры і знаёмыя з просьбамі памагчы шукаць ісціну. Так, адзін непадпісаны адрасат просіць: «Я хачу ў цябе запытаць наконт «Дэкларацыі Рады Случчыны». Калі ты яе часамі ўзяў і яна ў цябе, то вышлі, браток, нам трэба знаць прош-

лае. Не дзеля таго, каб асудзіць яго, а дзеля таго, каб паняць».

Тамаш Грыб успрымаецца студэнтамі неадназначна, яны то здзіўляюцца, спрабуюць пераймаць яго нястомную інтэлектуальную дапытлівасць, няўтольную прагу ведаў, працавітасць, то іранізуюць з непрактычнасці, якая заводзіць інтэлект у метафізічныя сферы, далёкія ад надзённых патрэб. Так, тэмай доктарскай дысертацыі ён абраў даследаванне сацыялістычных ідэалаў у раннім хрысціянстве. Прыгадаю два ўрыўкі з пісьмаў Міколы Чарноцкага да Жылкі: «Цяпер [4 снежня 1925 года. — *У. К.*] акуратна, штодзень працую, гледзячы на Грыба. А ён, браце, шмат-такі працуе. Сядзіць гэта са слоўнікам ля нейкага Канта і эгаістычнае спінозаўскае філасофіі дый толькі ведай, што ў слоўнік зазірай». Другое пісьмо паказвае, як метафізічныя ідэі Грыба перагодзяцца ўдзельнікамі студэнцкіх дыскусій у канкрэтны сацыяльны кантэкст.

Чарноцкі пераказаў Жылку выступленне на дыспуце 29 лістапада 1925 года маладога студэнта Мэнке, які паходзіў з віленскай нямецкай сям'і, ахвярна заангажаваны ў беларускі вызваленчы рух: «Грыб прачытаў свайго Jezusa[1], — піша Чарноцкі, — падняліся пасля спрэчкі па пытаннях сацыяльнага характару. Мэнке, напрыклад, зачапіў пытанне ўзнікнення Месіі... Пачаў даводзіць, што Jezus агітацыю падняў сярод пралетарыяту за сацыяльныя здабыткі (у сваёй агітацыі ён меў сваю тактыку — прызнаваў уладу...). Думку яго падтрымаў Павел[2] і энергічна пачаў шырыць сярод тагачаснага пралетарыяту. Мэнке злучае Паўла з Марксам, кажа, што «Павел рыхтаваўся сваёю агітацыяй зруйнаваць існуючы дзяржаўны лад і на яго руінах збудаваць новы светлы гмах...». Неяк дзіўна робіцца для мяне асабіста — ці існаваў у тыя часы пралетарыят? Але тое цікава, што Грыневіч, спаткаўшыся, кажа, што мы, паступоўцы, займаемся ўжо тэалагічнымі спрэчкамі».

Хвароба і чорствасць людская адбіваліся і на Жылкавых выказваннях пра студэнтаў, асабліва ў лістах да Антона Луцкевіча. Амплітуда ацэнак членаў беларускай студэнцкай сябрыны ў Жылкі крайне шырокая — ад горкіх нараканняў да захаплення. У першым лісце 7 кра-

[1] Рэферат «Jesus Nazarecki».
[2] Маецца на ўвазе апостал Павел.

савіка 1923 года чытаем: «Сапраўды творчых асобаў, якія могуць упісаць свае імёны хоць нязначнымі, маленькімі, але светлымі літарамі ў вялікую кнігу Адраджэння [вельмі мала. — *У. К.*]. Больш анархічнага элементу найгоршага гатунку. Яскравы прыклад Ян. Станкеўчык і Мамонька — людзі розных станаў грамадскіх і пераконанняў, але псіхічна родныя».

У чэрвеньскім пісьме 1924 года ацэнкі яшчэ больш жорсткія: «Прага ёсць важным пунктам, дзе пры добрай волі можна атрымаць скарбы. Але, акрамя добрай волі, жадання, трэба яшчэ нешта іншае — клёку ў галаве. Калі ж глянуць, што за народ ціснецца сюды, то становіцца сумна і боязна за нашу справу — розныя Лембовічы, Басэвічы, Конюхі, Буракі — убоства, тупалоб'е, мізэрнасць, беспрынцыпнасць, а інады немаральнасць». Тут, як бачна, Жылка ацэньвае студэнтаў прыдзірліва, па найвышэйшым эталоне — прыдатнасці для адраджэння. Ён упрошвае А. Луцкевіча, каб той прыслаў вучыцца самых здольных выпускнікоў віленскай гімназіі: «...прысылайце разумных, думаючых хлопцаў, — піша паэт, — чэсных і любячых, якія маглі б потым з гонарам заступіць Вас, старшых. Я асабіста рад быў бы бачыць ... такіх, як Ільяшэвіч, Дыліс, Мэнке, Вернікоўская... Ім бы Еўропа шмат чаго дала, куды болей, чым муры Баторага»[1].

Там, дзе Жылка ўзважвае ўсе паказчыкі за і супраць ды выходзіць на сумарную ацэнку, стрэлка схіляецца да плюсавай рысы на шкале: «Аднак я аптыміст і знаю, што Прага дасць колькі дзесяткаў добрых і сумленных беларускіх працаўнікоў, незалежна ад іх поглядаў: будуць і правыя, і левыя».

## ALMA MATER

Філасофскі факультэт Карлавага універсітэта ў Празе быў прызнаным у свеце асяродкам навукі і культуры. Сама філасофія, праўда, не магла ў 20-я гады пахваліцца буйнымі індывідуальнасцямі. Там дзейнічалі паслядоўнікі ідэй Томаса Масарыка, які з універсітэта быў пазваны на пасаду прэзідэнта рэспублікі. На першым месцы стаяла ўведзеная ў еўрапейскую акадэміч-

[1] Маецца на ўвазе Віленскі універсітэт імя Стэфана Баторыя.

ную філасофію яшчэ рамантыкамі праблема палітыкі і маралі, праблема этыкі вызваленчых рухаў, а таксама вядомая рускім славянафілам ідэя духоўнага пабрацімства славян і пытанне пра ўклад славянскага руху ў гуманістычную скарбніцу чалавецтва. Агульная атмасфера акадэмічнай навукі была карэктнай, цярпімай да радыкальных, нават крайніх пазіцый у палітыцы і ідэалогіі.

Гісторыя і філалогія ўваходзілі як састаўныя элементы ў праграму філасофскага факультэта. Апошняя галіна навукі падмацавалася ў пачатку 20-х гадоў рускаю эмігранцкаю прафесурай. Прыём значнай колькасці рускіх, украінскіх, беларускіх студэнтаў-стыпендыятаў спрыяў філалагізацыі факультэта, практычнаму авалодванню некалькімі славянскімі мовамі, прывыканню да шматмоўнасці і знаёмству са славутасцямі ўсяго славянскага свету — асветнікамі, дзеячамі нацыянальных рухаў, пісьменнікамі.

Перапіска Жылкі з Дварчаніным і з іншымі студэнтамі паказвае, што навучэнцы шырока карысталіся свабодай выбару курсаў лекцый па жаданні і мелі з чаго выбіраць. «Цябе перавялі на поўную дапамогу. Гэтымі днямі павінен будзеш атрымаць паліто... Я прыпісаў табе яшчэ Kadnera — 5 гадз. і Францава, апрача яго семінара. За ўпіс узялі 43 к. ч. 29.XI.23». За слуханне лекцый, здачу залікаў студэнт наперад плаціў ва універсітэцкую касу (квэстуру) належную плату. Стыпендыя выплачвалася толькі пры ўмове своечасовай здачы калёквіумаў, залікаў і экзаменаў. Дварчанін, відаць, з-за навалы грамадскіх даручэнняў на другім семестры не выцягнуў на стыпендыю, але ўсё ж яго вызвалілі ад платы за вучобу[1].

Корпус вучоных-гуманітарыяў у Карлавым універсітэце ўключаў шэраг славутасцяў. Студэнты часта называюць у пісьмах прозвішча прафесара Уладзіміра Францава, выкладчыка гісторыі рускай мовы і літаратуры, Яна Махаля, выкладчыка гісторыі славянскіх літаратур і Яўгена Ляцкага, загадчыка кафедры рускай мовы і старажытнай літаратуры, ураджэнца Беларусі і куратара беларускага зямляцтва.

Яўген Аляксандравіч Ляцкі, нашчадак шляхецкага

---

[1] Tomaszewski I. Ihnat Dworczanin w Pradze // Studia polsko-litewsko-białoruskie. Warszawa, 1988. S. 183.

роду, у розныя часы то апалячанага, то русіфікаванага, гадаваўся ў маёнтачку Гайна ля Барысава, падрастаў пад гукі беларускіх песень, якія хораша спявала яму нянька, вясковая пявуння. Скончыўшы мінскую гімназію, ён паехаў у Маскву, паступіў на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, спадзеючыся стаць паэтам ці празаікам — адным словам, пісьменнікам, а стаў салідным філолагам у школе Шахматава, Вянгерава, Пыпіна. Філалагічным захапленнем яго яшчэ з гімназіі быў фальклор. У складзе навуковых экспедыцый ён аб'ездзіў рускую Поўнач і беларускае Палессе. Філолаг шырокага профілю, аўтар даследаванняў па старажытнай рускай літаратуры і артыкулаў, рэцэнзій аб сучаснай, складальнік зборніка прыказак, прымавак — першаэлементаў духоўнага свету беларускіх сялян, Яўген Ляцкі, універсітэцкі вучоны, трапіў у 1922 годзе ў Прагу, абараніў там вучоную ступень доктара філалогіі. Ён вёў актыўную выдавецкую дзейнасць у рускіх эмігранцкіх выдавецтвах — «Северные огни» ў Швецыі і «Пламя» ў Празе. Апошняе выдавала альманах «Славянская книга», у якім змяшчаліся артыкулы па рускай, украінскай і беларускай бібліяграфіі (апошнія пісаў У. Жылка).

Ідэяй, якая дапамагала Ляцкаму зводзіць шматлікія гуманітарныя пошукі ў адзіны фокус, была духоўнасць. У маладыя гады, калі Ляцкі збіраў замовы, народныя ўяўленні пра нячыстую сілу, пра хваробы і смерць, калекцыяніраваў тлумачэнні сноў, ён прызнаваў рацыю за вучонымі-арыстакратамі і паўтараў іх кансерватыўныя погляды, быццам беларускі народ цёмны, забабонны, адсталы. Праўда, заглыбіўшыся ў народную культуру, ён спазнаў чароўнасць калыханак, любоўных і сіроцкіх песень, мудрасць прыказак, падняў планку сваіх уяўленняў пра духоўную скарбніцу народа, прызнаў агульначалавечую вартасць народнага духу, аснову якога складае здаровы сэнс і маральна-этычная чысціня. Праўда, будучы чалавекам набожным, ён ставіў над народным духам дух веры Хрыстовай. Да беларускага нацыянальнага руху Ляцкі адносіўся з інтэлігенцкай цярпімасцю, не ўхваляў левых кірункаў у студэнцкім асяроддзі. Яго паважалі як эрудзіраванага філолага і інтэлігентна выхаванага чалавека, але радыкалы крытыкавалі за нерашучасць, уступлівасць і нетаропкасць.

Зацікаўлена ставяцца студэнты і да грамадскай

дзейнасці Ляцкага як куратара беларускага студэнцкага зямляцтва. Тамаш Грыб паважліва інфармуе Жылку 13 мая 1923 года: «У Празе ёсць выдавецтва «Пламя», у склад кіраўніцтва якога ўваходзе наш паважаны Я. А. Ляцкі». У іншым пісьме ён паведамляе, што справаваў праявіць ініцыятыву і адкрыць Беларускі педагагічны інстытут па ўзоры рускага і ўкраінскага: «...запрапанаваў зараз жа вызначыць часовую Раду Інстытута ў складзе Дарашэнкі, Ляцкага і Ластоўскага. Праф. Ляцкага запрапанаваў зрабіць старшынёй і разам з ім ужо рабіць захады перад Міністэрствам заграінчных спраў ЧСР». Заблакіраваў гэтую ініцыятыву эмісар Ковенскай Рады БНР Вяршынін.

Ацэнкі Яўгена Ляцкага ў ролі куратара студэнцкага зямляцтва даволі супярэчлівыя. Справа ў тым, што ён распараджаўся фондам, які адпускаў універсітэт на фінансаванне выдавецкай, культурна-асветнай работы студэнтаў і на дапамогу тым, хто не атрымліваў стыпендыі і не меў належнай падтрымкі з дому (іх звалі недапамогаўцамі). Грошы падагравалі прэтэнзіі і замутнялі ацэнку распараджальніка.

Між іншым, фінансы прысутнічаюць у канфлікце паміж Беларускаю студэнцкаю радай і Новай грамадой, пазней Асацыяцыяй беларускіх паступовых студэнтаў. Ляцкі спярша перадаваў сродкі Беларускай радзе, на чале якой стаялі Янка Станкевіч і куратар з Ковенскага цэнтра М. Вяршынін. Новая грамада, утварыўшыся як альтэрнатыва групе Станкевіча, пачала патрабаваць роўнага падзелу субсідый. Станкевіч бурна пратэставаў, учыняў публічныя сцэны, выкрыкваючы: «Нас б'юць зменатычнікі і эсэрыя!» Але агульны сход не падтрымаў яго, паколькі радаўцы не здолелі адчытацца за расходаванне, як пісаў Жылку М. Чарноцкі, 5 тысяч крон чэшскіх, атрыманых ад Ляцкага на выдавецкую і культурна-асветную справу. Ляцкі ў пачатку новага года замарозіў выдачу грошай, заявіўшы, што дасць сродкі толькі пад канкрэтнае мерапрыемства, і патрабаваў паказаць рукапіс запланаванага часопіса ці праграму мерапрыемства, спісы студэнтаў, якія не атрымліваюць стыпендыі і просяць дапамогі. Гэта абвастрыла агрэсіўнасць лідэра Беларускай рады. «Прычынаю было тое, — пісаў Жылку 8 студзеня 1924 года Чарноцкі, — што яны не дасталі для сябе грошай, галодныя, як сабакі. Ляцкі даў ім у лік «будущих благ» (быццам на выдавецкую

справу), а сапраўды на пражыццё і на дарогу Цвікевічу да Коўні... Ён кажа, што «Вашы» ізноў просяць грошай на выдавецтва, а ніякага выдавецтва няма. Ён парашыў выдаць ім 5 тыс. новых чэшскіх крон толькі тады, калі будуць усе подпісы Прэзідыума Грамады...»

Грошы ў атмасферы бурных спрэчак містыфікаваліся, сумы, якімі аперыраваў Ляцкі, пяцікратна перабольшваліся. Тамаш Грыб, які меў інфармацыю непасрэдна як старшыня Новай грамады, называе суму ў тысячу крон, за падзел якое ішла спрэчка. Як бы там ні было, а прызнанне Ляцкім парытэтнасці абедзвюх груп прымушала спрэчнікаў шукаць кампрамісаў, чэсна спаборнічаць і наўзаем кантраляваца.

Жылка і Дварчанін глядзелі на нацыянальнае пачуццё як на сілу канструктыўную, якая можа злучыць супляменнікаў, хоць бы тыя належалі да розных класаў і партый. Патрыятызм умее мірыць прыгнечанага з прыгнятальнікам, змякчаць імператыў сацыяльнай справядлівасці. На аснове адроджанай ідэі беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі — Каліноўскага, гоманаўцаў — аб неадрыўнасці нацыянальнай свабоды ад сацыяльнай яны думалі згуртаваць агульнадэмакратычныя сілы студэнцкай сябрыны. На жаль, цэнтрабежныя сілы, групавы эгаізм, групавыя інтарэсы бралі верх. Замест адной беларускай студэнцкай арганізацыі ўтварылася ажно тры: хрысціянскія дэмакраты справа, марксісты і эсэры злева, а беспартыйныя дэмакраты пасярэдзіне. Прытым і ў радыкалаў не было згоды: эсэраўскія важакі не маглі збавіцца ад злапамятнасці да бальшавікоў за крыўды 1917—1920 гадоў і пераносілі недавер на ўлады БССР, крайне левыя — забывалі колішнія даўгі нацыянальным нігілістам, уступалі адначасна ў марксісцкія гурткі, застаючыся і ў эсэраўскіх. Арганізацыйная неразбяруха, што ўзнікала ў пераходныя часы, моцна даймала шчырую душу Ігната Дварчаніна. Атрымаўшы прапанову ад марксістаў выступіць з дакладам на вечары, прысвечаным Кастрычніцкай рэвалюцыі, ён расказаў пра значэнне Кастрычніка для беларускага адраджэння, не абмінуў і таго, як цяжка прабіваліся ў Мінску ў 1917 годзе ленінскія ідэі аб утварэнні беларускай сацыялістычнай дзяржавы цераз завалы нацыянальнага нігілізму і рэцыдывы вялікадзяржаўнасці, афарбаваныя ў чырвоны колер. Святочны даклад распаліў несвяточныя палітычныя страсці, артадаксальныя марксісты

абвясцілі Дварчаніна ні больш ні менш як нацыяналістам. Абураны праўдалюб рашыў парваць адносіны з гурткоўцамі.

Чарноцкі ўспрыняў афронты і канфлікты Дварчаніна па-дзецюкоўску весела, з гумарам: «Ігнат вельмі коратка пабыў «маладым», — ужо развёўся, — пісаў ён 4 лістапада 1929 года. — Прычыны разводу са сваёю маладою (марксісцкаю моладдзю) — нязгода ў справах хатніх. Тыя кажуць, што наша хата нічога не варта — «московские красные углы» і віднейшыя, чым нашыя, і багацейшыя, і агулам прыгляднейшыя. Коратка кажучы, перацягнула ў ім беларускасць — маскоўскі камунізм... Беларускасць у ім, відаць, у касцёх сядзіць. За справу часопіса, які быў прыпынены з друкаваннем пад час невялікіх неладоў, ізноў бярэцца».

Антыдактрынёрскае бунтарства Дварчаніна прымала формы парадаксальных выказванняў і жэстаў: пасля інцыдэнту са святочным дакладам ён у знак абразы не толькі выйшаў з марксісцкага гуртка, а запрапанаваў стварыць альтэрнатыўны марксісцкаму гурток «беспартыйных сацыялістаў». Як відаць, само паняцце партыйнасці ў канкрэтных умовах, нашпігаваных дактрынамі эміграцкіх асяродкаў, станавілася фанатычным, непрымальным для творчага чалавека. Прыналежнасць да марксісцкага гуртка азначала там такое абмежаванне духоўнай свабоды, што творчая асоба не магла раскавана думаць і паступаць згодна са сваім сумленнем, з належнай чалавеку асабістай адказнасцю і годнасцю.

Канешне, ідэя ўтварэння гуртка беспартыйных сацыялістаў, нават як жэст іроніі ў адрас запалітыканенага беларускага акадэмічнага зямляцтва, была набожнаю мрояй. Адзін з цвёрдых народнікаў, Васіль Русак, лаючы няўмельства «кучкі» кіраўнікоў сваёй эсэраўскай арганізацыі, «якія больш нічога не знаюць, а толькі муцяць», выступіў з контрпрапановай не толькі да сваіх калегаў па партыі, але і да Дварчаніна. Русак пажадаў надаць беспартыйнай арганізацыі Беларускі студэнцкі саюз «ідэалогію незалежных сацыялістаў». Культ партыйнасці разрастаўся, палітычны веер разгортваўся, як індычы хвост.

20 жніўня 1924 года ў Празе адкрылася Канферэнцыя беларускага студэнцтва Заходняй Беларусі і эміграцыі. Пасяджэнні адбываліся ў рэстаране «Новая пошта» ў Вышаградзе-Празе. Старшынёй аргкамітэта

быў Вінцук Грышкевіч, сакратаром Міхась Каберац. У канферэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі Студэнцкай секцыі Беларускай грамады (старшыня А. Клімовіч), Студэнцкай секцыі Беларускай грамады (думкі паступовай, старшыня К. Бусько), Аб'яднання беларускага паступовага студэнцтва (старшыня В. Грышкевіч).

Спісы членаў студэнцкіх беларускіх арганізацый у Чэхаславакіі, зробленыя перад скліканнем канферэнцыі 1924 года, змяшчаюць наступныя лічбы: група Янкі Станкевіча — Студэнцкая секцыя Беларускай грамады — 31 чалавек; паступовае крыло Ксенафонта Бусько — 38, Аб'яднанне беларускага паступовага студэнцтва (АБПС) — 51 чалавек. Застаецца нявысветленай колькасць студэнтаў, якія не належалі да ніводнай з названых арганізацый.

У АБПС лідзіравалі Тамаш Грыб, Ігнат Дварчанін, Вінцук Грышкевіч, да актыву належалі Уладзімір Жылка, Мікола Чарноцкі, усе названыя — студэнты філасофскага факультэта. Прадстаўнікоў дакладных навук было сярод прагрэсістаў менш, гэта — аграном Васіль Русак, лесавод Міхась Каберац, медык Ян Бабровіч. Сама АБПС была палітычна неаднароднай, большасць яе членаў схілялася да эсэраўскага руху, іх спакушала спалучанасць у праграме эсэраў ідэй сацыялізму з народнасцю і беларускасцю. Левую апазіцыю нават у адносінах да левых эсэраў утварыла група марксістаў-інтэрнацыяналістаў, якія прапаведавалі ідэі камунізму і называлі сябе Саюзам савецкіх грамадзян. Лідзіравалі ў гэтай групе — студэнт электрамеханічнага інстытута Міхась Каўцэвіч, студэнт-медык Ян Бабровіч і студэнт-хімік Цвяткоў, які атрымаў рэпутацыю артадокса. Да сярэдзіны 20-х гадоў група шпарка расла, папаўняючыся за кошт вызваленчага руху, які дайшоў да прымірэння левых эсэраў з камуністамі[1].

У дыскусіі па статуту выявіліся моцныя супярэчнасці ў самой АБПС. Ян Бабровіч аб'явіў праект статута апалітычным, вузкапрафесійным і непрымальным, а саму арганізацыю «немагчымай і жыццё ў такой арганізацыі немагчымым». Бабровіча абурала двухсэнсоўнасць сітуацыі, калі, як яму здавалася, «непрызнаныя мяшчанска-клерыкальныя правадыры студэнцтва хацелі

[1] Пратакол пасяджэння Канферэнцыі ад 10 жн. 1924 г. ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 181, арк. 35.

кантрабандай правесці сваю рэакцыйную палітыку[1]. Бабровічу запярэчыў М. Чарноцкі. Ён адаслаў «сяброў», якія хочуць займацца палітыкай, «звярнуцца да ўрада БНР і яго заграцічных прадстаўніцтваў ды там сабе паадчыняць філій і весці палітыку»[2]. Супраць прапановы ўключыць палітычныя патрабаванні ў праграму прафесійнай студэнцкай арганізацыі запярэчыў Вінцук Грышкевіч, ён прыгадаў, што гэта забаронена чэшскім заканадаўствам.

Ян Бабровіч зрабіў афрунт і пакінуў залу, а праз дзень падаў у прэзідыум абгрунтаванне свайго дэмаршу. Сама спроба аб'яднання студэнтаў з розных палітычных арганізацый у адну «з'яўляецца арганізацыяй для арганізацыі, г. зн. гульнёй»[3]. Да стварэння Канфедэрацыі беларускага студэнцтва справа не дайшла. Наадварот, пасля канферэнцыі пачала дзяліцца АБПС і яе працаўнікі, хоць арганізаванасць была патрэбна для нармальнай дзейнасці зямляцтва, яго ўзаемаадносін з ЧУК, карыстання правам на матэрыяльную дапамогу, якая выдзялялася для зямляцтваў згуртаваных, а не распыленых. Паколькі летам 1924 года не змагла стварыцца адзіная зямляцкая арганізацыя беларускага студэнцтва ў Чэхаславакіі, дык беларусы не атрымалі доступу ў Еўрапейскую асацыяцыю студэнтаў СІЕ. Як ужо адзначалася, Жылкава паездка ў Варшаву на Кангрэс СІЕ абмежавалася толькі зандажам. Зямляцтва не змагло даць дэпутату афіцыйных паўнамоцтваў. Жылка выступіў на Кангрэсе як госць, заявіў аб існаванні беларускага зямляцтва, прыцягнуў увагу да яго патрэб і спадзяванняў. Яго місія дала мажлівасць зямляцтву адчуць, што няздольнасць да кансалідацыі шкодзіць беларусам і не робіць гонару. Таму працягваліся новыя спробы згуртаваць землякоў.

Восенню 1925 года была апублікавана прапанова старшыні Беларускай Рады ў Празе Л. Зайца, старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта ў Латвіі К. Езавітава аб скліканні Агульнабеларускай канферэнцыі за кардонам пад час пасяджэнняў Лігі Нацый у Берліне.

---

[1] Пратакол пасяджэння Канферэнцыі ад 10 жн. 1924 г. ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 181, арк. 30.
[2] Тамсама, арк. 35.
[3] Дакументы студэнцкага руху Заходняй Беларусі. ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 284, арк. 22.

Прапанова не здзейснілася, аднак, відаць, у часе яе падрыхтоўкі ўсё ж утварылася агульная беларуская студэнцкая арганізацыя ў Чэхаславакіі (без студэнтаў Заходняй Беларусі) — гэта Асацыяцыя беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА). Як сведчаць архівы, яна пачала дзейнічаць на схіле 1925 года, першым яе старшынёй стаў Вінцук Грышкевіч. Праўда, 27 верасня 1925 года ён вымушаны быў падаць просьбу ў прэзідыум аб вызваленні яго ад абавязкаў старшыні «з прычыны хваробы» (туберкулёзу)[1].

Устаноўчы сход АБСА адбыўся 29 чэрвеня 1926 года. У складзе дэлегатаў аказаліся амаль усе сябры У. Жылкі — І. Дварчанін, В. Русак, М. Чарноцкі (ён жа Чарнецкі), М. Каберац, С. Бусел, М. Гузоўскі. Дакументы сведчаць, што на з'езд прыехалі дэлегаты новых арганізацый, якіх у 1924 годзе не было. Так, Васіль Русак і Ксенафонт Бусько прадстаўлялі Беларускую Раду ў Празе, Мікола Чарноцкі і Сяргей Бусел былі дэлегатамі Вольнай грамады, якую ўзначальваў Тамаш Грыб, Мікола Ільяшэвіч — ад беларускага культурнага таварыства імя Скарыны, патронам якога быў Янка Станкевіч, цяпер ён да прозвішча дадаваў вучоны тытул доктара навук, паспеў, дарэчы, не толькі стаць дыпламаваным вучоным, але і ажаніцца з чэшскай грамадзянкай Марыяй Наваковай. Былі дэлегаты і ад Беларускага сялянскага саюза ў Празе (такую назву прыняў колішні Студэнцкі звяз), узначальваў новае ўтварэнне аднадумец Я. Станкевіча, толькі больш мяккі па натуры за шэфа, Вячаслаў Лаўскі[2].

Арганізацыі гэтыя былі, праўда, дробнымі, напрыклад, Студэнцкі саюз налічваў усяго 15 чалавек, тым не менш 6 кастрычніка 1926 года АБСА на пасяджэнні прэзідыума вылучыла на канферэнцыю СІЕ (праходзіла ў Празе) трох дэлегатаў — В. Лаўскага ад Сялянскага саюза, Т. Грыба — ад Вольнай грамады і «нейтральнага» [так у пратаколе. — *У. К.*] Янку Ермачэнку. Такі эпітэт сведчыў хіба што пра ліберальнасць сходу, бо студэнт медыцынскага факультэта быў палітычным эмігрантам, паходзіў з сям'і землеўладальнікаў з-пад Барысава, вайну пачаў афіцэрам царскай арміі, а скончыў ад'ютантам генерала Урангеля ў званні палкоўніка.

---

[1] Дакументы студэнцкага руху Заходняй Беларусі. ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 284, арк. 16.
[2] Тамсама, спр. 182, арк. 3—15.

У 1920 годзе, эвакуіраваны ў Канстанцінопаль, выконваў абавязкі ўпаўнаважанага ўрада БНР на Балканах. Былы дыпламат захапіў на канферэнцыі прадстаўнічую ініцыятыву: пазычыў у ЧУК 350 крон на прэзентацыйныя выдаткі, і ў кулуарах канферэнцыі яго, а не Лаўскага пачалі лічыць старшынёй беларускай дэлегацыі. Нялёгка праходзіў допуск беларускіх студэнтаў у Еўрапейскую асацыяцыю. Польская дэлегацыя намервалася блакіраваць гэтую акцыю, але В. Русак пайшоў парламенцёрам і пераканаў палякаў адмовіцца ад блакіроўкі[1].

У 1927 годзе актыўнасць беларускага студэнцкага зямляцтва ў Празе спадае. 12 лютага 1927 года прэзідыум разгледзеў заяву М. Чарноцкага аб выхадзе з АБПС і аб звальненні яго з пасады сакратара прэзідыума[2]. Прэзідыум прызнаў просьбу неабгрунтаванай і прапанаваў заяўніку пераканальней матываваць свой выхад з арганізацыі.

27 мая М. Каберац падае заяву з просьбай зняць з яго абавязкі «скарбніка і эканамічнага рэферэнта АБСА з прычыны слабога здароўя»[3], а ў наступным месяцы заяву па той жа прычыне падаў М. Ільяшэвіч, сакратар і прэсавы рэферэнт[4]. Гурток студэнтаў-беларусаў пры Украінскай сельгасакадэміі ў Падэбродах, якім кіраваў Мікола Абрамчык, зусім распаўся з-за палітычнага рознагалосся яго членаў.

Ужо ў 1924/25 навучальным годзе мажлівасці для вучобы заходнебеларускай моладзі ў Чэхаславакіі пачалі звужацца. Прычыны трэба шукаць у вялікай палітыцы.

М. Вяршынін пісаў 5 чэрвеня 1924 года паслу польскага сейма ксяндзу Адаму Станкевічу: «Надзеі на прыняцце нашых студэнтаў у пражскія вышэйшыя школы на 1924/25 акадэмічны год амаль што няма, хоць мне і было сказана, што аб гэтым гаварыць яшчэ рана. Ёсць у нас 4 студэнты без усякай дапамогі, якіх мы ўтрымліваем самі з бядой папалам»[5].

Складаным і пакутлівым аказаўся лёс Тамаша Грыба: і ў часе вучобы, і пасля сканчэння універсітэта ён

---

[1] Матэрыялы АБСА, ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 183, арк. 11—12.
[2] Тамсама, спр. 284, арк. 10.
[3] Тамсама, спр. 185, арк. 11.
[4] Тамсама, спр. 163, арк. 90.
[5] Тамсама, спр. 228, арк. 5.

аказаўся ўцягнутым у палітыку, жыў у яе вірах і падводных плынях. На пачатковым этапе змагання грамадскіх сіл Беларусі за беларускую дзяржаўнасць Тамаш Грыб быў адной з найбольш каларытных і папулярных постацяў на палітычнай сцэне, яго прозвішча мы сустракаем літаральна ва ўсіх грамадска-палітычных органах, што ствараліся ў Мінску нацыянальнай дэмакратыяй — у Радзе Усебеларускага з'езда побач з Прушынскім, Цвікевічам, Мамонькам, Бадуновай, Рак-Міхайлоўскім, Зайцам, у Спаўняльным камітэце Рады з'езда — яшчэ і поруч з Варонкам, Смолічам, Крачэўскім, а ў Спаўняльным камітэце Цэнтральнай вайсковай рады поруч з Езавітавым. Ігнат Дварчанін быў тады толькі радавым членам Рады з'езда і некаторы час працаваў у Вайсковай радзе. Аднак яны былі знаёмыя і захавалі ўзаемны давер і павагу, сябравалі як студэнты і стваральнікі АБПС.

Тамаш Грыб добра ведаў актывістаў беларускай палітычнай сцэны і адносіўся да іх па-еўрапейску, без ідэалізацыі, без піетызму, а проста як да людзей, якія натуральна маюць і мець павінны грамадзянскія цноты, чалавечыя слабасці, а на палітычнай арэне прафесійныя здольнасці і недахопы. Большасць з іх вобмацкам авалодвала складанай прафесіяй палітыка, многія так і засталіся аматарамі, паколькі Беларуская Народная Рэспубліка, якую яны задумалі і спрабавалі стварыць, не мела нават тэрыторыі і не стала тым вадаёмам, увайшоўшы ў які, палітыкі маглі б навучыцца плаваць. Пэўная іронія ў ацэнках, якія даваў Т. Грыб прадстаўнікам беларускай палітычнай сцэны, абумоўлена ўласцівай гэтаму сялянскаму здольніку павагай да здаровага сэнсу. Ён хацеў, напрыклад, каб прэзідэнт БНР Пётра Крачэўскі і яго акружэнне, у прыватнасці А. Цвікевіч, перасталі бясплённа палітыкаваць у Коўні пасля Рыжскага міру і правалу паўстання на Беласточчыне і Гродзеншчыне, а пераязджалі ў Прагу ды заняліся культурнаасветнаю, педагагічнаю працай, рыхтавалі нацыянальныя кадры інтэлігенцыі, якія маглі б у спрыяльных умовах даць новы імпульс беларускаму адраджэнню.

Тамаш Грыб па прыродзе быў тонкаю інтэлігентнаю натурай, ён прайшоў у Пецярбургу да вайны школу духоўнага выхавання ў асяроддзі гуманітарнай інтэлігенцыі і актывістаў беларускага вызваленчага руху, вышэй за ўсё цаніў у чалавеку самабытнасць асобы,

свабоду думкі і слова. Выпрабаваў і загартаваў сябе ў вайну на фронце, давёў да максімалізму пачуццё чалавекалюбства, асабістай годнасці, патрэбу жыць сумленна і ахвярна. Свабода асобы стала для яго паказчыкам якасці грамадства, палітычнай культуры. Вось матывацыя Т. Грыба, чаму ён не можа пераехаць у Мінск: «...хто з пераканання пачувае сябе камуністам, я заўсёды гатоў таму паціснуць руку, але з пагардай адношуся да тое шантрапы, якая дзеля мізэрнай карысці мяняе свае пераконанні... Чэсней быць адкрытым ворагам, з адкрытам забралам весці барацьбу, чым быць нячэсным прыяцелем».

Грыб абураны згодніцтвам эсэраў, якія ў Мінску пачалі рыхтаваць самароспуск партыі, прызнаваць памылкі, якіх — па думцы Т. Грыба — у партыі беларускіх эсэраў не было. Прычынай капітуляцыі ён палічыў маладушнасць і карыслівасць кіраўнікоў: «Але жаднай пашаны не варт той, — пісаў Грыб Жылку, — хто падшываецца пад камуністаў. Я ніколі не падшываўся і падшывацца не буду. Калі дадуць волю думцы, вольна выказваць думку і словамі, і ў друку — я паеду ў Менск. Гэты час прыйдзе. І тады я паеду». Гэта было напісана ў студэнцкім гарадку Радоціне 17 жніўня 1923 года і паслана Жылку ў Езафова над Мэтам, дзе той вучыўся на курсах. Цяжка сказаць, калі Грыб прыйшоў да пераканання, што вяртацца ў Мінск яму нельга і чаму.

Кідаецца ў вочы, як рашуча супрацьпастаўляе Т. Грыб эсэраўскі рух, яго ідэйныя прынцыпы і маральныя ўстоі ўсім беларускім эміграцкім урадавым фарміраванням — Радзе БНР, узначаленай П. Крачэўскім, ураду БНР — старшыня В. Ластоўскі, потым А. Цвікевіч, якія знаходзіліся ў Коўне і супрацоўнічалі з урадам Літвы, — зацікаўленым далучыць Віленшчыну і Гродзеншчыну, якія былі акупіраваны ў 1921 годзе генералам Жэлігоўскім, а ў 1922 годзе далучаны да Польшчы.

Тамаш Грыб уваходзіў у кіраўніцтва БНР, але, як відаць з перапіскі, не падтрымліваў альянсу з буржуазнай Літвой, крытыкаваў прэзідэнта так рашуча, аж П. Крачэўскі наўпрост прызнаўся, што ўсім у Коўне палягчэла, калі Т. Грыб выехаў у Прагу вучыцца. Прэзідэнт выгаворваў Грыбу, што той блытаў карты яму, падтрымліваючы заходнебеларускі Нацыянальны камітэт і яго старшыню А. Луцкевіча, калі тыя, пераканаў-

шыся, што байкот выбараў у парламент Сярэдняй Літвы нічога не даў, пастанавілі прыняць удзел у тым жа 1922 годзе ў выбарах у польскі сейм па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Крачэўскі палічыў пазіцыю Т. Грыба і П. Бадуновай палітычнай дыверсіяй. Але і Луцкевіч крытычна аднёсся да Грыбавай ідэі пераключыць сілы беларускай палітычнай эміграцыі за межамі БССР на грамадска-асветную работу, рыхтаваць кадры нацыянальнай інтэлігенцыі.

Грыб у лісце да Жылкі ад 17 жніўня 1929 года скардзіцца: «Антон Іванавіч Луцкевіч робіць незадаволеную грымасу, што мы ўносім «анархізацыю беларускага грамадзянства», просячы яго прысланы на свабодныя вакансіі разумных хлопцаў [студэнтаў-стыпендыятаў. — *У. К.*], і кажа: ага! — раней вы будавалі дзяржаўнасць на Ластоўскіх, а цяпер культуру будуеце на Мамоньках».

Грыб хацеў прыцягнуць палітычных дзеячаў да арганізацыі ў Празе Беларускага настаўніцкага інстытута. Мажліва, разлічваў гэтым мерапрыемствам кальнуць у брыво, а ў вока польскі ўрад, які нават настаўнікаў-беларусаў, падрыхтаваных у царскай школе, высылаў у заходнюю Польшчу, а ў Заходнюю Беларусь накіроўваў карэнных палякаў. Грыбу хацелася папоўніць студэнцкае зямляцтва ў Чэхаславакіі больш патрыятычна свядомымі і ахвярнымі абітурыентамі ды згуртаваць у педагагічнай установе цвет інтэлігенцыі. У гэтым сутнасць яго звароту да А. Луцкевіча, які ўспрыняў просьбу ў аспекце палітычнага саперніцтва паміж ковенцамі і віленцамі, сацыял-дэмакратамі і эсэрамі і зрабіў, як піша Грыб, «незадаволеную грымасу».

Тамаш Грыб глядзеў на справу культурна-асветнай работы цвяроза і заўважыў, што ў большасці сваёй палітычныя дзеячы не жадаюць займацца гэтаю справай, ім не хапала ахвоты да чарнавой работы, а можа, і ведаў, педагагічнага ўмельства. Дагаварыўшыся з Украінскім педагагічным інстытутам адкрыць у ім для зачыну беларускую кафедру, Грыб запрапанаваў праз Мамоньку ўзначаліць кафедру А. Цвікевічу і атрымаў адмову: прыехаць з Коўна не можа, «бо тамака дзеці — надаелі пераезды».

У іншым пісьме, калі ўвесь урад БНР усё ж пераехаў у Прагу, Грыб сумняваецца ў бескарыслівасці і доб-

рых намерах: «Знача, іх пераезд сюды — дыплёматычны ход, і толькі.

Наколькі Іван Ігнатавіч Краскоўскі шчыра падыходзіў да справы, настолькі ж гэтыя грамадзяне — няшчыра. Не дзеля культурна-грамадскай працы яны сюды прыехалі. Ім патрэбна новая спекуляцыя, каб жыць. Вы разумееце гэта: справа беларуская ёсць спосаб пражыцця для іх, яны і ўжываюць яго. Узапраўды, наіўныя мы людзі: кажам аб культурна-грамадскай працы, а хто будзе яе рабіць?»

Але Т. Грыб як патрыёт Беларусі і як ідэаліст, не абдзелены здаровым сэнсам, бачыў, колькі трацілася рэальных магчымасцяў з-за палітычных амбіцый і пагарды да карпатлівай асветнай працы: «Думаў аб выдавецтве, — піша ён Жылку 21 лістапада 1923 года. — Падумаць толькі, гэтымі днямі толькі даведаўся — аб чым жа? — што вясной ... расейцы атрымалі крэдыт на выдавецтва м [мільён] к. ч. з гакам, а ўкраінцы 1/2 м. к. ч. А мы дулю з макам. Чаму? Ды ўсё таму ж: няма каму працаваць, няма сіл. Прыехаўшыя? Ды яны аб гэтым мала здатны думаць ... Можна было б што-небудзь зрабіць, але гэта мае рабіць пэўная аўтарытэтная і працаздольная ўстанова. Яны ж ствараюць нейкую куртатую «Раду»...

Выйдзе што-небудзь з гэтага? Не, ніколі не выйдзе. А ў найлепшым выпадку можа выйсці тое, што і з выдавецтвам «Вызваленне» ў Берліне, на якое да паўсотні марак праз рукі Ал. Ів. [Цвікевіча. — *У. К.*] выдана на «арганізацыйныя справы». Так, гэта ёсць факт. І ў канцы ні кніг выданых, ні самога нат выдавецтва.

Неяк аднаго разу пытае ў мяне Ляцкі аб гэтым выдавецтве — ён таксама быў унёсшы пай, — ды што я мог сказаць: спытайцеся Вы ў Ал. Ів., ён лепш аб гэтым ведае. Ён быў там старшынёй».

Вось такія праявы няздатнасці, немагаты рабілі Т. Грыба нецярпімым, крытычным, часам з'едлівым, але не зларадным. Ён гатовы быў сам адзін або з невялікай групай энтузіястаў і ахвярнікаў ісці шляхам асветы і служэння. Да іх ліку акрамя партыйных сяброў залічваў Уладзіміра Жылку і Ігната Дварчаніна. Свае прынцыпы і памкненні выказваў так шчыра і горача, што гэтыя мясціны перапіскі заслугоўваюць таго, каб іх пачула сучасная моладзь: «Гэтулькі часу мы былі разам, я прывык у вас бачыць чэснага, парадачнага чалавека. Я

прывык цаніць у вас чалавека, які чэсна і да канца прадумаў мэту свайго жыцця і намеціў шляхі яе дасягнення. Я прывык разумець, нарэшце, вас як таго чалавека, які ў сваіх паступках, нат у сваім штодзённым жыцці стараецца калі не зусім, то хоць адчасці кіравацца гэтай сваёй мэтай. І я вас паважаў, бязмежна палюбіў, бо ваша мэта ёсць адначасна маёй. Мы зыйшліся на цярністым шляху жыцця не для забавы, а для працы, для цяжкай маральнай і маруднай працы над уцелаішчэннем мэты нашага жыцця. У чым яна, гэта наша мэта? Пісаць аб гэтым не буду... Ваша «Уяўленне» і як дадатак да цэласці некалькі вершаў, і амаль уся мая праца і практычная і тэарэтычная ў працягу пяцёх гадоў апошніх — уключаючы сюды і «Лукішкі» і «Цытадэль»[1] — само за сябе кажа. А мо я памыляюся? О, не. Я і цяпер у гэта веру. Я веру, што мы аднолькава па зместу, хоць мо і розна па форме ўяўляем мэту нашага жыцця. Але адно трэба зазначыць пры гэтым: мы яшчэ не выявілі таго, як мы ўяўляем сваю мэту, свой ідэал. Гэтаму шмат было розных прычын, адна з якіх прывяла нас у Прагу. Мы вырашылі грунтоўна папрацаваць над сабой, заняцца самаадукацыяй і самаўдасканаленнем, каб як найбольш у дасканалай форме выявіць тое, аб чым тужыць наша душа».

Чулыя словы сяброўскай любасці і трывогі стаяць у перадапошнім пісьме Т. Грыба да У. Жылкі. Апошняе з захаваных пісьмаў было паслана 9 лютага 1924 года. Яно канчаецца цалкам зычліва, на сяброўскай ноце: «Бывайце здаровы. Набірайцеся сіл, каб разам весці змаганне з беларускім нявольніцтвам ва ўсіх відах і формах».

Падпісана, праўда, коратка «Тамаш», без ранейшага «Ваш», і зварот больш афіцыйны — «Паважаны Тавáрыш» замест ранейшага «Дарагі». Развяла іх усё ж палітыка, сілавая ідэалогія, ад якой, як здавалася Грыбу, ён сам, і Жылка, і Дварчанін вызваліліся, пераходзячы ў чыста духоўную сферу дзейнасці. Яблыкам разладу стаў мінскі з'езд беларускіх эсэраў, на якім было прынята рашэнне аб уступленні ў КПБ, і Берлінская канферэнцыя беларускай палітычнай эміграцыі, дзе А. Цвікевіч з групай міністраў БНР склаў з сябе паўнамоцтвы

[1] Віленская і гродзенская турмы, у якіх Т. Грыб быў зняволены польскімі акупацыйнымі ўладамі ў 1919 г.

прэм'ера на карысць урада БССР і дакляраваў выехаць у Мінск для працы на ніве беларускай культуры. Грыб ацаніў абедзве гэтыя прымірэнчыя акцыі як праявы беспрынцыпнага прагматызму. Калі ён раней дапускаў, што сам вернецца ў Мінск, дзе, напэўна, запануе свабода думкі і слова, то разумеў, відаць, што савецкая ўлада прыйдзе да многапартыйнасці і плюралізму палітычнай думкі, закон дазволіць адкрыта дзейнічаць апазіцыі ў асобе партыі беларускіх эсэраў, прадстаўнікоў інтарэсаў працоўнага сялянства.

Але рэвалюцыя ў Расіі пайшла лукаткамі назад, да ваеннага камунізму, і прыйшла да асабістай дыктатуры Сталіна, да грубай дэфармацыі самой ідэі сацыялізму як ладу, які меўся спыніць адчужэнне чалавека ад грамадства, забяспечыць свабоду ўсебаковага развіцця асобы, шчасце ўсіх і кожнага.

Ужо на XIII партыйным з'ездзе ў 1924 годзе большасць дэлегатаў па прапанове Зіноўева прымяніла сілу супраць апазіцыі Троцкага, загадваючы яму адрачыся ад сваіх поглядаў і пакаяцца. Толькі адна Н. Крупская адчула тут недапушчальнае ўмяшальніцтва ў сферу асобы і заявіла, што адрачэнне «псіхалагічна немажліва», патрабаваць гэтага нельга, «даволі абяцання меншасці працаваць і супрацоўнічаць з большасцю». Голас святой перасцярогі не быў пачуты. Зіноўеў настойваў на публічным раскаянні Троцкага. Па такой жа сілавой схеме былі, у прынцыпе, складзены сцэнарыі аб пакаянні эсэраўскага кіраўніцтва ў Мінску і ўрада БНР на канферэнцыі ў Берліне, толькі ў больш мяккай форме.

Патрабаванне КП(б)Б ад эсэраў раскаяцца Т. Грыб успрыняў як насілле над поглядамі, дамаганне адрачыся ад саміх сябе і дапусціць саманагавор. Абураны, ён напісаў у 1924 годзе «Покліч», які падпісалі яго партыйныя сябры Я. Мамонька і П. Бадунова. Выйшла ў свет дэкларацыя непрымірымасці. Шлях вяртання ў Мінск быў адрэзаны, спынілася сяброўства і перапіска з Жылкам, напэўна, і з Дварчаніным. Тамаш Грыб пратэставаў супраць насілля, дамагаўся свабоды слова і думкі, нібы прадчуваючы, што эскалацыя насілля заблакіруе развіццё самой ідэі сацыялізму. На XV з'ездзе партыі бальшавікоў у 1927 годзе Каменеў паспрабаваў выпрасіць для асуджанай апазіцыі права хоць на захаванне сваіх поглядаў. Просьба была адкінута здзеклівымі і пагромнымі выступленнямі Сталіна.

Т. Грыб нутром адчуваў, што ў камуністычным руху патрабаванне адзінства і аднадумства падрывалі асновы дэмакратыі, свабоды думкі, права на свабоду слова, а ўрэшце і годнасць думаючага чалавека. Праўда, практыка дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР, даволі шпаркі поступ беларусізацыі сведчылі і пра нацыянальную своеасаблівасць грамадскага і дзяржаўнага працэсу ў БССР. Там нацыянальны энтузіязм да пары не дазваляў разгульвацца агрэсіўнай класавасці. У Мінску актыўна дзейнічалі важакі нацыянальнай дэмакратыі, буйныя індывідуальнасці і аўтарытэты, як Максім Гарэцкі, Язэп Лёсік, Уладзімір Пічэта, а прадстаўнікі культуры, маладой творчай інтэлігенцыі напрацоўвалі баланс самабытнасці. Культура ў цэлым набывала нацыянальны змест. І не было яшчэ сталінскай дактрыны, па якой культуры дазваляецца мець толькі нацыянальную форму, а не змест.

Паглядзеўшы пільным вокам на культурнае і навуковае жыццё сталіцы ў пачатку 1926 года, Вацлаў Ластоўскі адзначыў: «Сягоння Менск з'яўляецца галоўным цэнтрам арганізавання беларускіх культурных сіл. І сапраўды, Менск мае ўсе шансы стаць беларускім культурным цэнтрам...»[1]

Не думаю, што Т. Грыба можна назваць больш прадбачлівым за Жылку і Дварчаніна, бо гісторыя савецкай краіны ўступіла ў стан непрадказальнасці .У грамадскапалітычным і культурным жыцці Беларусі ішла барацьба дзвюх тэндэнцый, адну называлі нацыянальна-дэмакратычнай, адраджэнскай, тады яшчэ не абрыджваючы гэтых паняццяў; другую — пралетарска-інтэрнацыянальнай, камуністычнай, не фетышызуючы гэтых ідэалаў, паколькі імі прыкрывалася шкодная беларусізацыі вялікадзяржаўнасць.

Грыб, як і Цвікевіч, сачыў за развіццём памянёных тэндэнцый. Пасля абароны доктарскай дысертацыі яго ўжо не пацягнула ў Мінск, прыглянулася Латвія, хоць там у 1925 годзе прайшла кампанія праследавання педагогаў Дзвінскай беларускай гімназіі. Дырэктар, павадагогаў Дзвінскай беларускай гімназіі. Дырэктар, Іван Ігнатавіч Краскоўскі, і жонка Т. Грыба Паўліна Мядзёлка былі апраўданы судом, аднак не палічылі мажлівым працаваць там і выехалі ў

---

[1] Власт. Уражанні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную рэспубліку // Маладосць. 1991. № 1. С. 105.

Мінск. Тады, у 1926 годзе, Грыб яшчэ стараўся ўвайсці ў склад дэлегацыі, якую пражскае зямляцтва пасылала ў Мінск на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу, але яго кандыдатуру не ўключылі ў спіс. Трэба думаць, кіраўнікі зямляцтва, у прыватнасці старшыня Рады Лявон Заяц, перастрахаваліся ад канфліктаў, ведаючы гвалтоўны характар і задзірыстасць Грыба, баяліся, каб ён не збіўся з курсу на нацыянальнае прымірэнне, умацаваць які мелася навуковая канферэнцыя беларусістаў розных краін. Дэлегатамі з Прагі былі вылучаны прафесар Ляцкі, Ігнат Дварчанін і Уладзімір Жылка. Прыехаў у Мінск адзін Жылка.

Тамаш Грыб, як відаць з перапіскі, сумаваў па сваёй Паўлінцы-журавінцы, але не спрабаваў хадайнічаць аб выездзе ў Мінск у 1927 годзе, калі стаў дыпламаваным навукоўцам і шукаў працы.

Ад прыроды надзелены жывою фантазіяй, маральнай чуласцю, востры на слова, Тамаш Грыб не раз бываў у ізаляцыі і мужна зносіў адзіноту. Ён проста не мог рэалізаваць сябе як грамадзянін без такой дэмакратыі, якая ўмела не толькі крытыкаваць апанентаў, але і ахоўваць права меншасці на свае погляды, паважаць асабістую думку. Штосьці падобнае ён спадзяваўся, мабыць, сустрэць у беларускім асяродку ў Латвіі, дзе пасля прайгранага працэсу ўлады паслабілі рэжым нагляду.

## У ЛАБІРЫНТАХ ВЯЛІКАЙ ПАЛІТЫКІ

Ігнат Дварчанін яшчэ ў 1924 годзе, калі адчуў немажлівасць разважлівым словам прывесці распалітыкаваных студэнтаў да супрацоўніцтва, абудзіць пачуццё нацыянальнай салідарнасці, цярпімасці да іншадумцаў, якая дазволіла б сур'ёзна і разумна вырашаць спрэчныя пытанні, сэнсоўна выкарыстоўваць механізм самакіравання, — вырашыў часова зрабіць дэмарш ад палітыкі і ад грамадскіх спраў. Ён адыходзіў не зламаным і не падаўленым, бо адчуваў за сабою праўду. Ці не адчуванне гэтай праўды схіляла яго пераносіць на старонкі навуковай працы палкую публіцыстычнасць? Студэнт браўся за навуку з перапоўненаю рэхам палітычных дыскусій душою. Яго ідэалам была духоўная свабода для сябе і для ўсіх. Даследаванне, нават на гістарычную

тэму, не магло стаць у такіх акалічнасцях акадэмічным практыкаваннем, дзе думка ціха корпаецца ў фактах і асцярожліва высноўвае ацэнкі, азіраючыся на папярэднікаў. Дысертант міжвольна прадаўжаў палеміку пра шляхі і мэты сучаснага беларускага адраджэння, хоць бы на матэрыяле Адраджэння еўрапейскага.

Беларусі выпала ў той залаты век Еўропы пачэсная місія пашыраць перадавыя ідэі з Захаду на Усход. Тэмай работы Дварчаніна было жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны, праца называлася «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе». Дварчанін задумаў і напісаў не акадэмічную, а публіцыстычную працу з больш высокім, чым дапускалася па этыкеце, каэфіцыентам дыскусійнасці. Малады даследчык глянуў на Скарыну і яго справу вачыма ўдзельніка беларускага вызваленчага руху і пранікліва выявіў глыбінную пераклічку стымулаў, ідэалаў, імкненняў.

Скарына рабіў сваю справу перадусім для шанавання Бога, носьбіта сусветнай мудрасці, справядлівасці і ласкі, але і для «всякое доброе науки», для грамадскай карысці, для пашырэння сярод землякоў «добрых мдравов», а ўрэшце, для ўзвышэння свайго народа і яго мовы. Скарына ў разуменні Дварчаніна — гэта вялікі беларускі патрыёт, асветнік і дэмакрат, які жыў інтарэсамі народа і пакутаваў з-за таго, што меў смеласць апярэджваць свой час, зваць у будучыню землякоў, хоць многія з іх не разумелі яго мэт. Дварчанін убачыў трыумф, але адчуў і трагізм вялікага чалавека, трагізм прадвесніцтва.

Востра крытыкаваў працу Дварчаніна афіцыйны апанент Уладзімір Францаў, кансерватыўна настроены рускі прафесар-эмігрант, які, відаць, нажыў у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны алергію да ўсяго рэвалюцыйнага, непакорнага. Ён не знайшоў у дысертацыі належнага акадэмічнага такту, пахвалы папярэднікам, сціплага прад'яўлення новых дакументаў і сціпла выкладзеных уласных меркаванняў. Там былі смела выказаныя палемічныя ацэнкі і канцэпцыі, свой погляд на вядомыя факты. Францаў, як належала кансерватару, не прызнаваў нацыянальнай адметнасці беларусаў і ўкраінцаў ад велікаросаў, таму сама спроба глянуць на Скарыну па-беларуску абражала яго прафесарскае вуха, раздражняла. Не змог нават пусціць міма вушэй афіцыйны апанент таго, што малады аўтар дазволіў сабе

на роўных размаўляць з аўтарытэтам, прафесарам Уладзіміравым, аўтарам класічна-акадэмічнай манаграфіі пра Скарыну.

Дварчанін пісаў свой твор, каб даць штуршок да адраджэння ў беларускім народзе загубленай нацыянальнай памяці.

З большым разуменнем аднёсся да дысертанта прафесар Ян Махаль, чэх, выхаваны на ідэалах нацыянальнага адраджэння свайго народа. «Вынікі, — пісаў ён у рэцэнзіі,— да якіх дайшоў аўтар,— з'яўляюцца, праўда, часта дыскусійнымі і недастаткова пераканальнымі, але, тым не менш, яны сведчаць пра самастойнасць разважанняў і сапраўднае жаданне дайсці да праўды».

Як слушна заўважыў малады польскі даследчык Е. Тамашэўскі, «аўтар бачыў у друкару, перакладчыку, пісьменніку, а таксама лекару XVI стагоддзя ўзор пазіцыі чалавека, беларуса, адкрытага на сусветную культуру... Інакш кажучы, гэта была асабістая палітычная праграма, выказаная ў форме гістарычнага трактата»[1].

Відаць, у Карлавым універсітэце былі цвёрдыя прынцыпы найвышэй цаніць схільнасці студэнта да творчага ўяўлення і арыгінальнага самастойнага мыслення, бо не толькі Махаль, але і Францаў палічыў працу дастатковай для прызнання вучонай ступені.

12 лютага 1926 года Ігнат Дварчанін здаў экзамен па славянскай філалогіі і чэшскай гісторыі, а 16 чэрвеня — па філасофіі. 23 чэрвеня адбылася абарона дысертацыі. Навуковым кіраўніком выступаў прафесар Ёзаф Хлюмскі.

2 лютага 1925 г. Жылка, паведамляючы А. Луцкевічу аб падрыхтоўцы да святкавання юбілею Скарыны, адзначае, што мяркуе абмежавацца вечарынай, магчыма, разам з чэшскай прафесурай. «Прачытае на святкаванні рэферат Ігнат Дварчанін. Да слова, гэта вельмі дадатны чалавек, з якога пры спрыяючых варунках можа выпрацавацца паважная навуковая сіла. Жадаў бы я, каб Вы пазнаёміліся з ім бліжэй ці хоць мелі на воку. Цяпер ён абсэльвуе і працуе над тэмай для дактарата. Тэмай выбраў «Францыск Скарына і яго час». Сабраў увесь мажлівы ў Празе матэр'ял, і можна чакаць вялікай і паважнай працы. Будзе гатова да Вялікадня. Добра было б яе надрукаваць».

---

[1] Tomaszewski I. Ihnat Dworczanin w Pradze. S. 183.

У ліпені доктар філасофіі Ігнат Дварчанін выехаў скарынінскім шляхам у Вільню. Аб пераездзе ён дамовіўся з Браніславам Тарашкевічам год таму назад, калі той наведаў Прагу і выступіў перад студэнтамі-беларусамі. Крыху раней прыехаў з Прагі ў Вільню, скончыўшы медыцынскі факультэт, адзін з лідэраў марксісцкага гуртка Ян Бабровіч, з якім Дварчаніну давялося працаваць у АБПС. Кааптаваны ў склад ЦК КПЗБ, ён стаў у Вільні прадстаўніком кіраўніцтва гэтай партыі ў Беларускай сялянска-рабочай грамадзе, працаваў у рэдакцыі грамадаўскіх газет, заваяваў сабе сімпатыі эрудзіраванасцю, тварыскасцю і асабістай культурай. Паліцыя злавіла яго ажно праз год пасля масавых арыштаў грамадаўскага актыву. На судзе ў Беластоку ён атрымаў 15 гадоў турмы.

Дварчанін пайшоў слядамі Бабровіча, стаў дзейнічаць на культурна-асветнай ніве беларускага адраджэння ў Вільні ў крытычны момант разгрому Грамады і арышту яе кіраўніцтва, фактычна як бы замяніў Тарашкевіча на пасадзе духоўнага лідэра народнага руху, стаў ідэйным важаком пасольскага клуба «Змаганне».

Нялёгка далося Дварчаніну ўваходжанне ў новае асяроддзе і новую ролю. Вільня прыняла яго па-рознаму. Даводзілася заваёўваць прызнанне ахвярнасцю. На шчасце, вопыт грамадскай работы і журналісцкія навыкі, набытыя пры выданні «Перавясла», дазволілі яму хутка даказаць сваё ўменне. Удзел у новай выбарчай кампаніі дапамог яму, відаць, забыцца нават на старыя канфлікты з артадаксальнымі прадстаўнікамі камуністычнага руху. Праўда, ЦК КПЗБ прышле і ў пасольскі клуб «Змаганне» свайго палітычнага прадстаўніка, фактычна наглядчыка. А ім акажацца адзін з пражскіх артадоксаў Муха-Мухноўскі. Местачковы татарын з Міра, ён быў і застаўся нацыянальна абыякавым, таму зусім шчыра бачыў у Дварчаніне не толькі свайго праціўніка, але і ворага таго камунізму, які ён прадстаўляў. Нават у выдадзенай у 1973 годзе ў Мінску кнізе ўспамінаў «Пути-дороги» Муха не змякчыць сваёй ацэнкі, будзе называць Дварчаніна эсэрам і нацыяналістам. Напэўна, для многіх ваяўнічых сталіністаў адумацца пасля рэабілітацыі ахвяр рэпрэсій азначае ўзяць на сябе асабіста віну за пралітую кроў.

Пасля выезду ў Вільню Дварчанін напісаў Жылку толькі адну паштоўку. На ёй быў здымак любімага Жыл-

кавага куточка: гатычны касцёл святой Ганны побач з пышнаю візантыйскага стылю праваслаўнай царквой. Мясціну гэтую Жылка апісаў у «Вершах аб Вільні»:

Вялікай вуліцы экзотыка,
Тэатры, кіна, шпіталі:
І маліцвенна ўзносіць готыка
Да неба тонкія шпілі;

Святая Ганна — сноў напеўнасцю
Салодка ўзрушана ўсягды;
А поруч з бізантыйскай пэўнасцю
Царква прысела ля вады.

. . . . . . . . .

Плыве па вулках пыха панская,
Распуста, блуднасць і мана;
І ярасць жорсткая, паганская
Бліскае ў вочах ліцвіна.

Дварчанін не прыгадваў паэту яго радкоў, пісаў коратка, тэлеграфнаю мовай. Паведамляў, што ўзрушаны і заняты афармленнем свайго пераезду ў Польшчу.

Вінцук Грышкевіч, які выязджаў летам 1926 года дамоў, у Будслаў, прайсці вайсковую камісію, пісаў Жылку 26 жніўня: «З Ігнатам відзеўся. Адзінокі ён вельмі. У Вільні не хацелі яго пакідаць, але цяпер ужо, здаецца, умацаваўся... А рух, браце, расце. Трэба людзей новых, сільных і жвавых».

Дварчаніну даручылі дапамагчы моцна загружанаму Сымону Рак-Міхайлоўскаму ўзяць на сябе кіраўніцтва беларускім выдавецкім таварыствам. Чакала яго і работа настаўніка беларускай літаратуры ў гімназіі, выданне падрыхтаваных у Празе «Выпісаў з новай беларускай літаратуры» — хрэстаматыі для гімназій, завяршэнне перакладу «Дванаццаці» Блока, а яшчэ літаратурныя клопаты, рукапісы вершаў заходнебеларускіх паэтаў, між іншым, зборнік «Пад сінім небам» Арсеннева. А ўвогуле яго чакалі жорсткія палітычныя бітвы за ўтрыманне кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам, яго друкаванымі органамі. Чакала выбарчая кампанія 1928 года і вострая парламенцкая барацьба за народную справу ажно да арышту ў жніўні 1930 года на мітынгу ў Дарэчыне і самаабарона пасля арышту на следствах, допытах і судзе.

Дварчанін здабыў сабе сімпатыі людзей, асабліва моладзі, ведамі і культурай, а найбольш — натхнёнас-

цю ахвярніка. Нават стаўшы паслом, жыў сціпла, як і ў студэнцкія гады, — наймаў невялікі пакойчык, проста апранаўся і харчаваўся, хоць атрымліваў высокія пасольскія «дыеты». Родзічы, што ў крызісныя гады мелі грашовыя клопаты, не разумелі, чаму багаты ў іх разуменні сваяк не шле ім грошай, а ён, як аказваецца, усё аддаваў на грамадскія справы ды на дапамогу больш бедным сярод сваіх выбаршчыкаў людзям.

У свядомасць сучаснікаў Дварчанін увайшоў як дзеяч, які разумеў патрэбы і ўмеў бараніць інтарэсы простага чалавека. У яго прысутнасці не смелі казырыцца фанабэрыстыя і свавольныя паны чыноўнікі. На адкрыцці помніка Ігнату Дварчаніну ў Дзятлаве ветэран рэвалюцыйнага руху Кавалеўскі расказваў мне такі выпадак. Яго выпусцілі са слонімскай турмы акурат у часе галадоўкі вязняў, якія пратэставалі супраць здзекаў аховы пры маўклівай згодзе адміністрацыі. Кавалеўскі арганізаваў дэманстрацыю насельніцтва ў падтрымку вязняў і ўручыў пракурору патрабаванні галадаючых. Пракурор загадаў разагнаць дэманстрантаў і прыгразіў важаку: «Зноў захацелася за краты!» Тады Кавалеўскі паслаў тэлеграму Дварчаніну. Той тут жа прыехаў, нагадаў пракурору пра яго абавязак: «Вы абавязаны не разганяць дэманстрантаў, а дбаць пра тое, каб не парушаліся законы, бо менавіта беззаконне выклікае і галадоўкі, і дэманстрацыі». Дварчанін выклікаў з Вільні работніка пракуратуры больш высокага рангу, і той, разабраўшыся ў сутнасці канфлікту, абавязаў начальніка турмы задаволіць усе патрабаванні вязняў.

Ад'язджаючы ў Мінск на навуковую канферэнцыю па рэформе правапісу, Жылка зноў нагадаў Луцкевічу пра Дварчаніна: «Вельмі цікава было б, каб Ігнат Дварчанін праз газету падаў свае думкі аб рэформе правапісу і зрэцэнзаваў гэтыя кніжкі Лёсіка. У свой час мы мелі доўгія размовы ў справе змен беларускай абэцэды, і думкі яго, здаецца мне, здаровымі і вартымі ўвагі. Вось што робіць Станкеўчык зараз у «С[ялянскай] Ніве» і «Крыніцы» з беларускай мовай, варт толькі ганьбы. Дурань тупалобы ён... Дзіўлюся толькі, як маглі даручыць яму карэкту[ру] газет, — тыя, што робяць так, мусіць, зусім не паважаюць сябе».

Вяртанне былых стыпендыятаў чэхаславацкага ўрада з Прагі на радзіму, у Заходнюю Беларусь, з дыпломамі інжынераў, педагогаў, урачоў можна прасачыць па справаздачах польскай паліцыі і разведвальных служб. Рэпатрыянты парушалі спакой польскіх улад як прэтэндэнты на пасады па спецыяльнасці, а ў Польшчы пасады высокай кваліфікацыі пакідаліся для палякаў ці ў лепшым выпадку маглі перападаць акаталічаным асімілянтам. З-за гэтага прыезджыя беларускія інтэлігенты з чэшскімі дыпломамі адразу траплялі на паліцэйскі ўлік. У справаздачы віленскай паліцыі за 1926 год паяўляюцца з восені прозвішчы знаёмых нам пражскіх беларусаў, асабліва шанцуе Ігнату Дварчаніну і Яну Бабровічу, зрэдку трапляе на карандаш Вінцук Грышкевіч.

Ужо 9 верасня — як зафіксаваў паліцэйскі нагляд — Галоўная ўправа ТБШ, адстойваючы сваю пазіцыю ў культуры ад канкурэнта, ліберальна-хадэцкага Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, у якім працаваў Янка Станкевіч, стварыла новыя аддзелы: выдавецкі, прыватных беларускіх школ і пазашкольнага навучання. Першым даручана было кіраваць Ігнату Дварчаніну, а другім — Браніславу Тарашкевічу[1]. Недзе з 3 кастрычніка І. Дварчанін, якому даручылі складанне і выданне «Выпісаў з беларускай літаратуры», уступіў у БСРГ і атрымаў партыйны білет. Адначасна з ім быў прыняты ў Грамаду рэдактар «Маланкі» Янка Маразоўскі[2]. На сходзе беларускага навуковага таварыства 23 кастрычніка 1926 года прысутнічалі: Антон Луцкевіч, Ігнат Дварчанін, Уладзімір Самойла, Ян Станкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Валошын, Браніслаў Тарашкевіч[3], была заслухана справаздача аб дзейнасці за год і перавыбрана ўправа, у якую ўвайшлі Ян Савіцкі, Уладзімір Самойла, Ігнат Дварчанін, Сяргей Паўловіч, старшынёю абраны Антон Луцкевіч. 25 лістапада агульны сход Беларускага выдавецкага таварыства выбраў новае кіраўніцтва: А. Луцкевіч (старшыня), члены — Астроўскі, Трэпка, Дварчанін, Грышкевіч[4]. 26 ка-

---

[1] Справаздача паліцыі аб дзейнасці БСРГ за 1926 г. ЦДАМЛіМ ф. 3, воп. 1, спр. 163, арк. 90.

[2] Тамсама, арк. 91.

[3] Тамсама, арк. 95.

[4] Тамсама, арк. 98.

стрычніка «Сход Рады Беларускага выдавецкага таварыства, старшыня Антон Трэпка, сакратар Ігнат Дварчанін, касір Радаслаў Астроўскі, пастанавілі паскорыць выданне «Беларускага календара» на 1927 год і некалькі школьных падручнікаў»[1].

Паліцэйскія справаздачы фіксіруюць унутраную напружанасць у кіруючых органах вызваленчага руху, абумоўленую палітычнымі разыходжаннямі паміж дзеячамі — «нацыяналістычнымі» і іх праціўнікамі — «інтэрнацыяналістычнымі». «Першыя не задаволены палітыкай Камінтэрна і хочуць стварыць сваю, беларускую партыю (Астроўскі): «Масква вельмі шмат патрабуе і не трымае слова»[2].

У канцы кастрычніка 1926 года паліцыя атрымлівае інфармацыю, што ў кіраўніцтве БСРГ з'явіліся падазрэнні, быццам сярод кіраўнікоў завёўся правакатар, які выдае партыйныя сакрэты. Аднак, як сведчаць працы сучасных даследчыкаў (У. Палуяна, А. Бергман), падазрэнні гэтыя не мелі рэальных падстаў і, відаць, былі адгалоскамі сектанцтва і хваравітай падазронасці, якая распаўсюджвалася ў верхніх эшалонах камуністычнага руху, уцягнутых у фракцыйную барацьбу, што вялася ў ВКП(б), КПЗБ, КПП і Камінтэрне паміж ленінцамі і сталіністамі, выходзіла з берагоў здаровай агульначалавечай этыкі.

Вінцук Грышкевіч не праявіў сябе на віленскай палітычнай арэне так гучна, як некаторыя яго калегі «пражане». Прычынай магло быць і слабое здароўе, і памяркоўнасць, што не пасавала да ўсё нарастаўшай дэструктыўнай канфліктнасці ў палітычных сферах вызваленчага руху. Сумленныя і разважлівыя дэмакраты ацанілі гэта як шкодную праяву, якая робіць канструктыўную працу ў беларускім руху немажлівай. У знак пратэсту і асуджэння адзін з самых паважаных публіцыстаў і дзеячаў Беларускага навуковага таварыства Уладзімір Самойла апублікаваў адкрытае пісьмо, у якім зракаўся ўдзельнічаць у руху, дзе амбіцыйныя канфлікты губяць здаровую думку. Пазіцыя гэтая, мабыць, была блізкая доктару філасофіі В. Грышкевічу, які пакінуў след на віленскай сцэне ў асветніцкім руху і навуковым жыцці.

З неапублікаваных яго прац варты сёння ўвагі да-

[1] Справаздача паліцыі аб дзейнасці БСРГ за 1926 г. ЦДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 163, арк. 101.
[2] Тамсама, арк. 104.

клад, прачытаны на VI Агульнапольскім з'ездзе гісторыкаў у 1935 годзе: «Роля беларускіх земляў у польска-літоўскіх уніях»[1]. Даклад можна назваць рэфератыўна-публіцыстычным: аўтар зрабіў сінтэзаваны агляд станаўлення Вялікага княства Літоўскага як поліэтнічнай дзяржавы, у якой вялася палітычная барацьба за дамінацыю паміж літоўскай і беларуска-ўкраінскай арыстакратыяй.

Самым небяспечным для беларускай народнасці аказаўся другі перыяд, калі ў барацьбу ўключылася, набраўшыся гонару і сілы, паспалітая шляхта. Гэта яна ўхваляла уніі з Польшчай, бо хацела прывілеяў і вольнасцей. Дамаганні шляхецкага паспольства адкрылі вароты польска-каталіцкай экспансіі на ўсход. Каланізатарскія акцыі вяліся наплывамі, у часе якіх рос польскі пратэкцыяналізм над літоўскаю каталіцкаю брацціяй, і адплывамі, калі беларуска-праваслаўныя баяры дабіваліся ўраўнання ў правах з католікамі. Пратэкцыяналісцкая тэндэнцыя нарастала з часоў Казіміра Ягелона, які адпіхваў ад стырна дзяржаўнага карабля беларускую феадальную эліту. Літоўскія магнаты страчвалі сваё бачанне мэт усходняй палітыкі, цалкам падпалі пад уплыў польскай верхавіны. У такія моманты беларускія магнаты пераходзілі ў апазіцыю і пачыналі азірацца на Маскву, апору праваслаўя. Шляхта не прымала магнацкіх залётаў з Масквой, баялася царскага дэспатызму. Яна зацясняла повязі з польскай шляхецкай братвой, спехам акаталічвалася і апалячвалася. «Асіміляцыя шляхты дзеля захавання прывілеяў і вольнасцей, — пісаў В. Грышкевіч, — адыграла фатальную ролю ў лёсе ўсяго беларускага народа».

Гаворачы агулам, пазіцыя В. Грышкевіча ў даследаванні прычын заняпаду Беларусі прагрэсіўная, народна-дэмакратычная, хоць і выказана хіба занадта асцярожна, зрэшты, такі стыль быў нормай на вучоных форумах. У манеры Грышкевіча ўсё ж прарываецца знаёмы нам дух чэшскай гуманістыкі — раскаванасць думкі, патрыятычны дух, уменне спажыткоўваць мінулае на карысць сучаснікам.

У 1936 годзе ў альманаху «Маладая Беларусь» Вінцук Грышкевіч надрукаваў востры артыкул «Ці існуе крызіс беларускага руху?». На пастаўленае ў загалоўку

---

[1] Тэкст захоўваецца ў ЦДАМЛіМ, ф. 3.

пытанне ён адказвае не наўпрост, а наўкруга: беларускі рух для яго — з'ява цэласная. Паколькі ж народ аказаўся падзелены Рыжскай мяжой на Усходнюю і Заходнюю часткі, дык і цяжкасці ў беларускім руху розныя.

Ацэнка руху даецца на аснове агульнага крытэрыю: свабоды і актыўнасці самаразвіцця. У выніку такога падыходу ўзнікаюць парадоксы: «Савецкая ўлада не хоча бачыць беларусаў у Усходняй Беларусі, не прызнае прац лінгвістаў і этнографаў, а так праводзіць перапісы, што 90 % аказваецца ў Беларусі расейцаў. У беларускіх школах, — іранічна заўважае Грышкевіч, — беларускімі з'яўляюцца дзеці, моладзь, мова, матэрыял жа навучання далёка не беларускі. Калі справа ідзе пра іншыя галіны жыцця, пачынаючы ад палітычных і канчаючы навуковымі, то яны звычайна знаходзяцца пад кіраўніцтвам каго хочаце, толькі не беларусаў... Ад 1927 г. нішчыцца тут усё, што выказвае беларускі нацыянальны характар, згодна з клічам барацьбы з «нацдэмаўшчынай»[1]. Можна здзівіцца дакладнасці дыягназу, які паставіў вучоны-гісторык, адбіраючы і асэнсоўваючы супярэчлівыя факты са сродкаў масавай інфармацыі як польскай, так і савецкай.

Прычына трагедыі вызваленчага руху ў БССР тая, што кіраўніцтва дзяржаўным і грамадскім жыццём ажыццяўляецца там чужымі рукамі ў інтарэсах імперскіх амбіцый правадыроў. Контрбеларусізацыя пачалася там з тэрору супраць нацыянальных лідэраў і важакоў: «Старыя правадыры-адраджэнцы — найчасцей рамантыкі — або ізаляваны ад грамадскага жыцця тут, або мераюць бязмежную шырыню расейскіх тундраў і стэпаў, а ёсць і такія, што перайшлі ў варожы абоз [лагер. — *У. К.*] ці сталі на службу мамоне».

Злыбеды заходнебеларускага руху іншыя, але таксама цяжкія. Беручы за пункт адліку кансалідацыю і згуртаванасць, якая склалася ў 1922 годзе ў працэсе выбарчай кампаніі ў польскі сейм, В. Грышкевіч адзначае стан распыленасці: «...пад уплывам неспрыяльных абставін». Што гэта за абставіны, аўтар не кажа, намякае толькі, што тыя ж абставіны прывялі да ўзнікнення ў беларускім грамадстве «розных палітычных арыентацый». Калі прыгадаць, што на пошасць розных арыентацый і нястачу арыентацыі на свой народ наракаў

---

[1] Маладая Беларусь. Вільня. 1936. С. 63.

А.Цвікевіч на Пражскай нацыянальнай канферэнцыі 1921 года, дык атрымаецца, што ў сярэдзіне 30-х гадоў адбыўся павальны адкат руху да даўно мінулага стану. Але на справе стан цяпер быў іншы. Іншымі былі і арыентацыі. Неспрыяльнымі абставінамі аказаўся разгром польскімі ўладамі Беларускай сялянска-рабочай грамады, сусветны крызіс, фашызацыя грамадскіх адносін, праследаванні радыкальных дзеячаў Таварыства беларускай школы, узмацненне рэпрэсій супраць падпольнай КПЗБ і абвастрэнне там левасектанцкіх настрояў.

В. Грышкевіч і на гэты раз пачынае аналіз з кіраўніцтва: «Кіруючыя беларускія дзейнікі не паспелі агледзецца, як сталіся выканаўцамі чужой волі, няраз нават супраць свайго сумлення. Пачалася грызня і інтрыгі... Тым часам народ і маладая генерацыя інтэлігенцыі адвярнулася ад іх. Так была скрыўлена лінія беларускага адраджэння, а рэпрэзентуючыя яе павадыры выйшлі з палітычнай арэны. Рух астаўся без павадыроў і без праграм»[1].

Такім чынам, Вінцук Грышкевіч сцвярджае, што крызіс беларускага руху мае месца як ва Усходняй, так і ў Заходняй Беларусі, яны павязаны між сабою, а звеннямі повязі выступаюць вялікадзяржаўная палітыка СССР і Польшчы. Крызіс заходнебеларускага руху падаецца аўтару не вечным. Для выхаду з крызісу «патрэбны новыя людзі з новай энергіяй, іншымі метадамі працы, з выпрацаванай ідэалогіяй, з моцнай воляй. Такіх людзей трэба гуртаваць і гартаваць».

Сімптомам таго, што новыя людзі ўсё ж ёсць, аўтар мог палічыць вынікі перапісу насельніцтва ў Польшчы 1931 года, калі беларусамі запісаліся адзін мільён шэсцьсот тысяч чалавек. У інфармацыйным раздзеле «Маладой Беларусі» прыведзены паказальны факт гуртавання дзейных сіл руху: гэта сумесна прынятая кіраўніцтвам Таварыства беларускай школы і Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры Дэкларацыя аб каардынацыі дзеянняў. Названыя арганізацыі прадстаўлялі радыкальна-дэмакратычны і ліберальна-клерыкальны кірункі культурна-асветніцкага руху. Дэкларацыя была апублікавана 29 лютага 1936 года ў газеце «Наша воля», органе Народнага фронту, які ставіў мэтай аб'ядноўваць усе прагрэсіўныя сілы супраць пагрозы фашызму.

[1] Маладая Беларусь. С. 65.

Артыкул В. Грышкевіча з'яўляецца чыста канцэптуальным, аўтар не называе ніводнага з заходнебеларускіх «павадыроў», ад якіх адвярнуліся народ і маладое пакаленне інтэлігенцыі. Ён быў, відаць, пэўны, што чытачы ведаюць гэтыя імёны з бягучай прэсы, што публікавала звесткі пра рэпрэсіі беларускай інтэлігенцыі ў БССР і пра капітулянцтва ды адступніцтва «дзеячаў» на пабоішчы Грамады.

Вяртаючыся да Уладзіміра Жылкі, Ігната Дварчаніна і Тамаша Грыба, хачу сказаць, што ўсе трое — сыны рэвалюцыі і нацыянальнага адраджэння Беларусі, шляхі іх падобныя і розныя, гэта шляхі, аб'яднаныя трагізмам, шляхі на беларускую Галгофу. Трое ахвярнікаў беларускай адраджэнскай ідэі адышлі з гэтага свету заўчасна і раптоўна. Першы адыходзіў у вечнасць Уладзімір Жылка, пражыўшы Ісусавы 33 гады без аднаго месяца. Памёр на выгнанні ва Уржуме, пакінуў мілай Беларусі запавет-перасцярогу — заклінанне ад палітычных памылак і сляпой тыраніі:

Каб ні зладзей і ні тыран,
Ні чалавек ліхі, пракляты
Не скралі волі ды у зман
Не завялі сляпыя хаты, —
На варце стаўлю гнеў зацяты
Тваіх работнікаў, сялян.
Калі між імі будзе еднасць —
Ліхое згіне у бясследнасць.

Пахаваны Жылка на Уржумскіх гарадскіх могілках, яго праводзілі ссыльныя сябры, беларускія інтэлігенты і калегі, педагогі медыцынскага тэхнікума, дзе паэт вёў заняткі па літаратуры. Надмагілле паставілі пасля вайны брат паэта Барыс і дачка Наталля.

Ігнат Сымонавіч Дварчанін у верасні 1932 года прыехаў у БССР як польскі палітвязень, выменяны савецкім урадам, вёз за пазухай рэкамендацыю ў партыю, якую дала яму ў славутым турмою гарадку Равічы турэмная камуна. Рэкамендацыю прызнала ЦК КПЗБ, і ён быў прыняты ў КПБ. Грамадзянінам БССР пайшоў І. Дварчанін з добрай верай працаваць навуковым супрацоўнікам у Камісію Акадэміі навук па вывучэнні Заходняй Беларусі, але ў сярэдзіне 1933 года быў арыштаваны і бязвінна прыгавораны на смерць.

Да арышту Ігнат Сымонавіч Дварчанін быў намеснікам дырэктара Інстытута мовы Беларускай акадэміі навук, а яго малодшы брат, лесавод Гіляры (Іларыён), —

намеснікам дырэктара Беларускага дзяржаўнага паляўнічага запаведніка ў Бягомльскім раёне.

Загінуў І. Дварчанін у сківаіцах сталінскай рэпрэсіўнай машыны 8 снежня 1937 года ва ўзросце 42 гадоў. Магіла ахвярніка невядома. Вярнуўся ён на радзіму праз паўвека вылітым з бронзы і стаў на гранітным пастаменце на плошчы ў Дзятлаве для супакаення душ землякоў і падтрымання веры ў справядлівасць.

Тамаш Грыб памёр у 1938 годзе, таксама на 42-м годзе жыцця, у Празе ад грыпу. Урна з яго прахам — на гарадскіх могілках. Не было чуваць дасюль, каб хтосьці з беларусаў адшукаў яе і паклаў кветку спагады і ўдзячнай памяці. Паводле нормаў нашай скалечанай дэспатычным рэжымам этыкі, такія, як Грыб, называліся не апазіцыянерамі ці ідэйнымі праціўнікамі камунізму (так гаварыў пра сябе сам Грыб), а заклятымі ворагамі народа. Не сумленным дзеячам альтэрнатыўнай плыні лічыўся Тамаш Грыб у сябе на радзіме, не публіцыстам народніцкага тыпу, якому было што сказаць у абарону хоць бы сілай загнаных у калгасы сялян дзеля пацвярджэння догмы аб гегемоніі пралетарыяту. Многа спагадных слоў мог ён сказаць у абарону запхнутай у закутак беларускай інтэлігенцыі, прыніжанай агульначалавечай вартасці народнай культуры. Ён умеў адстойваць духоўную незалежнасць, асабістую самапавагу, годнасць, права на індывідуальнасць. Усяго гэтага ў нас да перабудовы так не хапала. Афіцыйна пазбаўляліся такога права палітычныя дзеячы і публіцысты, а фактычна ўсе грамадзяне.

Адыходзіў Тамаш Грыб, не змірыўшыся са светам, як і Жылка, душа яго была перапоўнена тугой па радзіме, збалелая і абражаная чуткамі пра рэпрэсіі беларускай інтэлігенцыі ў БССР. Як старшыня Беларускага таварыства імя Скарыны пачаў друкаваць на старонках часопіса «Іскры Скарыны» некралогі па бязвінных ахвярах сталінізму. Сярод іх і некралог па Уладзіміру Жылку. Памылкова было б думаць, што лёс Тамаша Грыба быў самы спакойны, хоць і памёр ён сваёй смерцю. У бытавым плане ён быў чалавекам уладкаваным. Але толькі ў бытавым, і то адносна.

Тамаш Грыб скончыў універсітэт чамусьці пазней за Дварчаніна, таксама з тытулам доктара філасофіі. Ён запрапанаваў свае паслугі настаўніка новаму дырэктару Дзвінскай беларускай гімназіі Сяргею Сахараву, але

атрымаў адказ, што ў Латвіі нельга прымаць на работу ў дзяржаўныя ўстановы людзей, якія не маюць латвійскага грамадзянства. У 1928 годзе Т. Грыб апісваў без нараканняў С. Сахараву сваё становішча: «... заснаваў Беларускі навуковы кабінет як прыватную навукова-даследчую ўстанову. Галоўная мэта — навуковы дослед і вывучэнне ўсіх асаблівасцей Беларускага народа, як у гістарычнай мінуўшчыне, так і ў цяпершчыне... Скажу Вам зусім шчыра: я працую над пытаннем нацыянальнае тыпалогіі ці, інакш кажучы, псіхалогіі народаў. Канкрэтна — якая ёсць псіхалогія беларускага народа? Чым характарызуецца ці адрозніваецца беларус ад паляка, латыша, велікаруса, ліцьвіна ды інш., у чым выяўляюцца характэрныя асаблівасці самаістай яго індывідуальнасці»[1].

У 1930 годзе знайшлося для доктара філасофіі месца бібліятэкара ў Славянскай бібліятэцы, дзе быў створаны беларускі аддзел. Праз два гады Грыб стаў захавальнікам Беларускага замежнага архіва, змяніўшы на гэтай пасадзе памерлага М. Вяршыніна. Парадкаваў дакументы і змагаўся з настальгіяй: «... раблю захады, — пісаў Сахараву ў 1932 годзе, — каб вярнуцца дахаты, на родныя палеткі беларускай зямлі. Вы і ўявіць не можаце, як цісне і гняце адарванасць ад роднага краю, як хочацца пабачыць свае родныя вёскі, свой родны беларускі краявід. Цягне дахаты... Грызе туга... А Вы, мабыць, ведаеце, што мая родная вёска знаходзіцца на Віленшчыне, дзе я не быў ужо з 1918 года». І не стрымаў чулых слоў пра бацькоў: «...чакаюць яны мяне і цяпер. Жадаюць бачыць мяне хоць раз яшчэ перад немінучым адыходам у вялікую дарогу вечнасці. А хіба ж і я не жадаю бачыцца са сваімі блізкімі? Ды не толькі жадаю, а адчуваю павіннасць бачыць іх, суцешыць іх старыя гады»[2].

Хочацца верыць, што гэтыя словы будуць напісаны на стэндзе ў краязнаўчым школьным музеі на радзіме, якая выпраўляла Тамаша-здольніка ў далёкі бурны свет шукаць беларусам месца пад сонцам.

Цікава, што Тамаш Грыб прапанаваў сваю кандыдатуру для паездкі ў Мінск на навуковую канферэнцыю,

---

[1] Сахараў С. Д-р Тамаш Грыб у святле сваіх пісьмаў // Калосьсе. 1938. № 1. С. 56.

[2] Тамсама.

а калі яго кандыдатура была адхілена, настойваў, каб не пускаць туды Жылку з увагі на яго хваробу. Пра Грыбаву пазіцыю паведаміў У. Жылку 30 ліпеня 1926 года Лявон Заяц, які займаўся афармленнем дакументаў: «Грыб, як збайкатаваны, вядзе контрагітацыю, і, калі вы заўтра бы не прыехалі і гэтым самым не падпісалі анкеты, то быў бы скандал, бо Грыб напірае, што Вас не можна пускаць з-за Вашага нездароўя». Жылка выехаў у Мінск як рэдактар часопіса «Наш прамень».

Недзе ў тым жа часе, што і Дварчанін, у Вільню прыехаў яго палітычны апанент — Янка Станкевіч з дыпломам доктара філалогіі ў руках і даўнімі палітычнымі амбіцыямі ў носе. Неўзабаве яго адыёзную фігуру заўважыў сатырычны часопіс «Маланка».

Асновай дзейнасці Станкевіча засталося старое лавіраванне, ён уладкаваўся на працу ў Варшаўскі і Віленскі універсітэты, узяўся ствараць сялянскую партыю на пабоішчы Грамады. Праграмай партыі было згодніцтва, прыкрытае народніцкім фразёрствам. «Маланка» асвятляла, як лідэр сельсаюза выманіў ад урада тры тысячы злотых на ўдзел у Паўночным кірмашы, потым карыкатурна рысавала цырымонію ўручэння Станкевічу медаля за ўдзел у той выстаўцы. Схаўрусаваўшыся з кансерватыўнымі групоўкамі, Янка Станкевіч прайшоў у сейм, але не ўступіў у Беларускі пасольскі клуб, застаўся неарганізаваным, «дзікім» паслом, насіў мянушку «Спадар» за маніпуляцыі з нормамі беларускай літаратурнай мовы. Карыкатурыст з «Маланкі» паказаў яго дзікуном, занятым канібалізмам — паяданнем сваіх падманутых выбаршчыкаў. Адным словам, дыстанцыя, што дзяліла праціўнікаў у Карлавым універсітэце, з пераездам у Вільню павялічылася, хоць яны і разам працавалі ў гімназіі, але ў спадаравай газеціне «Народ», што выдавалася, зразумела, на ўрадавыя грошы, Дварчанін мог прачытаць у снежні 1928 года больш чым данос на сябе і на пасольскі клуб «Змаганне», у які ўваходзіў: «...выступаючая пад беларускім пралетарскім сцягам, інтэрнацыянальная віленская шайка на чале з Дварчаніным дабіваецца правакацыямі зачынення гімназіі».

Ігната Дварчаніна тая ж «Маланка» паказвала ў сяброўскіх шаржах руплівым, затурбаваным заступнікам сялян.

Калі падняцца над палітыкай, дык стане бачна, што

Я. Станкевіч аказваўся настойлівым і даволі плённым асветнікам, які дзейнічаў у сялянскім і маладзёжным асяроддзі заходнебеларускага адраджэння. Ён знаёміў дапытлівых з унікальнымі творамі нашага старажытнага пісьменства, сярод іх аль-кітабы, свяшчэнныя кнігі татараў, напісаныя беларускаю мовай арабскімі літарамі. Яго цікавіла не толькі мова продкаў, а і патрыятычны дух запаветаў. Чытаючы ацалелыя рэліквіі, ён умеў дагледзець часта зашыфраваныя ў слове скарбы беларускай душы. У артыкулах «Беларускія плямёны і іхняе рассяленне» (Родная мова. 1934. № 1—2, 3—4), «Севяране — беларускае племя» (Калосьсе. 1935. № 1) даследчык лучыў племянныя дыялекты не толькі крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, дулебаў, але і севяран. Забытыя цьмяныя тэксты адкрылі дзверы ў дагісторыю беларускага роду-племені, лінгвістычныя здагадкі аказаліся патрыятычнымі памяткамі. Не абыходзілася, праўда, і тут без сенсацыйных імператываў — такая натура ў аўтара, — але ці нехта стрыманы адважыўся б на такое, скажам, сцверджанне, што «Слова аб палку Ігаравым» не на трэцюю частку, а цалкам беларускі помнік прыгожага пісьменства. Максім Багдановіч вылучыў у тэксце толькі два беларускія паданні — пра смерць Ізяслава Полацкага і пра бурлівае жыццё Усяслава Чарадзея. А Станкевіч пабудаваў вось такі сілагізм: паколькі Ігар быў северскім князем, а севяране — беларускім племем, сляды якога і цяпер праглядаюцца ў гаворцы памежных з Беларуссю паўночных раёнаў Чарнігаўшчыны, — там гавораць «лоб», а не «лоп», «дзед», а не «дзет», «людзкі», а не «люцкі», таму хоць племя гэтае рассеялі суровыя вятры гісторыі, але іх каштоўнасці — пачатак нашых.

Пад канец 30-х гадоў Я. Станкевіч як бы страціў звычку сужывацца з польскімі ўладамі і выпрошваць ад іх сякія-такія сродкі на беларускую культуру, страціў і пасольскі мандат. Да ўлады ў дзяржаве прыйшлі палкоўнікі Пілсудскага, новы рэжым — санацыя — забараніў не толькі радыкальнае ТБШ, але і клерыкальна-ліберальны Інстытут беларускай гаспадаркі і культуры, пазакрываў беларускія газеты і часопісы.

Польская ваенна-палітычная дактрына наказвала чакаць ваеннага канфлікту не з Захаду, а з Усходу. Уздоўж польска-савецкай граніцы пачалося праектаванне абарончых рубяжоў, з пагранічнай зоны адміністрацыя

высылала не толькі былых палітвязняў-камуністаў, але і беларускіх святароў. Лідэр Беларускай хрысціянскай дэмакратыі кс. Адам Станкевіч быў высланы з Вільні ў Слонім, кс. Астраповіч (паэт Вінцук Адважны) апынуўся за межамі Беларусі. У Віленскім універсітэце адмовіліся ад курсу беларусазнаўства, Янка Станкевіч страціў працу, якая давала сродкі на ўтрыманне сям'і, ратуючыся, ён адкрыў кнігарню, але беларуская кніга ва ўмовах, калі заміраў асветніцкі рух, даходаў не прыносіла. У кастрычніку 1939 года Вільня адышла да Літвы, пераехала ў Навагрудак беларуская гімназія, яе дырэктарам стаў матэматык Барыс Кіта.

Я. Станкевіч застаўся ў Вільні, пасля інкарпарацыі Літоўскай дзяржавы ў склад СССР выехаў на Захад, жыў у Амерыцы, нястомна працаваў у беларускіх выдавецтвах, утрымліваў там свой собскі варыянт беларускай літаратурнай мовы. Антон Навіна застаўся ў Вільні, даверыў свой лёс бальшавікам і паў ахвярай сталінскіх рэпрэсій.

Тэксты лістоў Дварчаніна і Грыба зберагла сяброўка У. Жылкі Людміла Іванаўна Краскоўская. Цяпер яна жыве ў Чэхаславакіі, доўгі час працавала ў Славянскім музеі ў Браціславе. Сцяпан Александровіч, будучы ў свой час у навуковай камандзіроўцы ў Чэхаславакіі, прывёз па просьбе родзічаў Жылкі яго архіў, папку рукапісаў, якую прынята называць пражскім архівам паэта. Дачка У. Жылкі, настаўніца Наталля Уладзіміраўна Лазарава, і брат, Барыс Адамавіч, зычліва дазволілі мне карыстацца матэрыяламі для напісання кнігі «Ветразі Адысея» і складання зборнікаў паэта — «Выбранае», «Пожні», часопісных публікацый.

Жылка, як вядома, у лістападзе 1926 года выехаў у Мінск па запрашэнні Інбелкульта. Зусім натуральна, што яны і далей перапісваліся з Дварчаніным. Брат Жылкі, Барыс Адамавіч, расказваў мне, што ў часе арышту паэта жанчына ў скураной куртцы набрала цэлы мех лістоў і рукапісаў. Была яна невысокага росту, шчуплая, дык Барыс Адамавіч з ветлівасці ўзяўся дапамагчы ёй і на спіне завалок той мех, у якім навостраныя на контру следчыя спадзяваліся напасці на сляды антысавецкай змовы, а не знайшоўшы прамой крамолы, выкінулі, мабыць, на сметнік «белорусскую писанину».

Дварчанін не здолеў выказаць сваіх грамадска-палітычных поглядаў у друку, яны выказваліся пераважна

вусна на сходах, мітынгах і на пасяджэннях сейма. Матэрыялы пражскага Беларускага замежнага архіву аказаліся падтопленымі, знішчанымі пасля вайны выпадковай аварыяй каналізацыйнай сістэмы. Такім чынам, пісьмы да Жылкі з'яўляюцца адзіным (акрамя дзесятка вершаў з «Перавясла» і двух артыкулаў з віленскіх беларускіх часопісаў) друкаваным дакументам поглядаў і настрояў другога пасля Тарашкевіча духоўнага лідэра вызваленчага руху Заходняй Беларусі.

Перапіска Дварчаніна і Грыба з Жылкам часткова выкарыстана ў маёй манаграфіі «Ветразі Адысея», але час, калі выдавалася кніга, не дапускаў поўнага асвятлення супярэчлівых і непрымальных для тагачаснага ідэалагічнага рэжыму фактаў. Гэтая ж публікацыя рыхтавалася без установак на знешнюю і ўнутраную цэнзуру. Аўтар спадзяецца, што чытач сустрэне ў ёй шэраг новых фактаў з жыцця беларускай палітычнай эміграцыі, студэнцкага зямляцтва ў Празе і за межамі БССР у 20-я гады.

## ФАТУМ ВЯРТАННЯ

Трагедыя беларускай інтэлігенцыі ў 30-я гады не перастае займаць грамадскую думку. Асобны, можа быць, самы святы і самы жахлівы абсурдны акт гэтай трагедыі — рэпрэсіраванне тых, хто вярнуўся з палітычнай і культурна-асветнай эміграцыі.

Сёння, на жаль, пануюць у прэсе аблегчаныя суджэнні па прыказцы: «Не вінават Ігнат, вінавата хата, што пусціла Ігната». Або і наадварот: вінаваты, бо быў пакараны. Так выносяцца замест юрыдычных палітычныя прысуды пад лозунгамі «Далоў БССР!» або «Пакінем рэспубліцы імя сацыялістычная!». Трэба глыбока абнавіць, гуманізаваць і дэмакратызаваць рэспубліку, зрабіць яе прававою дзяржавай, утульным домам, які б любілі, мацавалі працай і талентам грамадзяне, абаранялі яе суверэнітэт як найвялікшую каштоўнасць. Толькі ж ідэалагічнае залепліванне белых і цёмных плям у гісторыі не выхавае грамадзян, якія не дапусцяць трагічных памылак дзядоў і прадзедаў. Ачышчэнне можа прынесці толькі шчырая праўда, захаванне ў памяці жахаў рэпрэсіўнай палітыкі і асуджэнне самой рэпрэсіўнасці як палітычнай антыкультуры.

Многа святла пралівае на гэтую цяжкую тэму перапіска паэта Уладзіміра Жылкі з палітычным, грамадскім і культурным дзеячам, літаратурным крытыкам і публіцыстам Антонам Луцкевічам (Навіном). Яны думаюць пра беларускае адраджэнне, беларусізацыю, пра місію творчай інтэлігенцыі ў 20-я гады і ўводзяць нас у свой трагічны, але яшчэ не безнадзейна фатальны час.

У віленска-пражскі перыяд жыцця Уладзіміра Жылкі выдатную ролю іграла асоба Антона Луцкевіча. 28 ліпеня 1926 года, адчуўшы пэўную расхалоджанасць да сябе «дзядзькі Антона», паэт устрывожыўся і, адолеўшы сваю ўроджаную замкнёнасць, напісаў, кім ёсць для яго шаноўны адрасат: «Вы адзін з нялічаных... як сказаць? — знаёмых, не, больш чым знаёмых, якіх я шаную і люблю, добрыя адносіны якіх для мяне так дарагі. Так шмат губім мы ў наш жорсткі век, калі дурное рымскае ...Homo homini lupus est афарбоўваецца сапраўды ў нейкі жахлівы колер і яго звярыны сэнс пачынае дыхаць у лапах сучаснасці. Так многа непатрэбнай злосці і рафініраванай нянавісці, што траціць жывую і родную душу, траціць Чалавека (дазвольце мне напісаць Чалавека з вялікай літары) неабачна, бяссэнсоўна і я не хачу таго. Хачу быць ашчадным з сваімі скарбамі. Спадзяюся, што Вы верыце ў маю добрую волю і дазволіце па-сяброўску сціснуць руку Вашу, не сумняваючыся ў прыхільнасці і добразычлівасці Вашай». Жылка ўспрыняў А. Луцкевіча ў мінуту сумненняў і трывог не палітыкам, які пацярпеў паражэнне і, сышоўшы ў цень, аднаўляў рэпутацыю. Ён бачыў дзядзьку Антона постаццю, грамадскім дзеячам, асветнікам, інтэлігентам старой пробы і самым вядомым на тую пору ў Вільні беларускім літаратуразнаўцам і крытыкам, апекуном літаратуры, — усё гэта злівалася ў зборны вобраз Чалавека, адраджэнца, захавальніка скарбаў і запаветаў, з якім патрэбна кантактаваць проста для таго, каб адчуць сябе патрыётам, асобай, патрэбнаю свайму народу, знаходзіць сэнс жыцця. Захавалася 19 Жылкавых лістоў да А. Луцкевіча: адзін з Дзвінска і 18 з Прагі. Лісты гэтыя аказаліся самымі шчаслівымі з усёй перапіскі паэта — яны ацалелі ў фондах Беларускага музея ў Вільні, а пасля вайны трапілі ў рукапісны фонд бібліятэкі Урублеўскіх (цяпер Бібліятэка АН Літоўскай рэспублікі). Фонд гэты да нядаўняга часу знаходзіўся на спецзахаванні, таму нават пасля рэабілітацыі У. Жылкі ў 50-я гады не дазваляла-

ся называць у друку прозвішча адрасата, які яшчэ доўга заставаўся ў чорным спісе.

З прыкрасцю прызнаюся, што і ў маёй кнізе «Ветразі Адысея» адрасат называецца апісальна віленскім знаёмым, прозвішча Луцкевіча ўпамінаецца толькі ў крытычным плане, дзе ён выступае няўдачным палітыкам, якога водзіць за нос больш вопытны Юзаф Пілсудскі. Давялося мне ісці на рэгламентаванасць інфармацыі, каб, прынамсі, нагадаць грамадскасці пра дзеячаў беларускай палітычнай сцэны і прыцягнуць увагу чытача. Сам факт сяброўства Жылкі з Луцкевічам сведчыў пра дастойнасць апошняга, прынамсі, да фатальнага суда над Грамадою.

Варта звярнуць увагу на тое, што ў прыгаданым лісце Жылка не называе Луцкевіча ні настаўнікам, ні старэйшым другам ці проста таварышам, хоць усе гэтыя словы былі ў яго ацэначным лексіконе і ўжываліся ў адносінах да Міцкевіча, Дастаеўскага, Багдановіча, Блока, Бадлера, Дварчаніна, Родзевіча і інш. Называючы духоўнага лідэра віленскага цэнтра беларускага адраджэння Чалавекам, Жылка дэманстраваў сваю прыналежнасць да заходняй еўрапейскай культурнай традыцыі, якая ў адрозненне ад усходняй адмаўлялася тварыць з людзей багоў ці ідалаў.

Жылку быў патрэбны не ментар, а субяседнік, не абсалютны аўтарытэт, а сумленны і кампетэнтны партнёр, сваяк па гутарцы.

Унутраная культура і тактоўнасць У. Жылкі праяўлялася ў тым, што ён умеў адносіцца да А. Луцкевіча з пашанай, але без ідалапаклонства. Даведаўшыся ў 1923 годзе, што той намерваецца пакінуць Вільню і перабрацца на педагагічную працу ў Латвію, Жылка ўстрывожыўся: «Ніяк не ўяўляю Вільні і беларус[кага] руху ў Зах. Бел. без Вашага ўдзелу». Зрабіўшы агаворку наконт ролі асобы і грамады ў гісторыі, паэт выказваецца вобразна: «Але ўсё ж як у цягніку, каб ён разумна рухаўся, патрэбен машыніст, так і тут мусіць быць нехта падобны. І як кваліфікаванага старога, пэўнага сваіх сіл машыніста не можа замяніць кожны прафан, так і ў грамадскім, нацыянальным жыцці сапраўднага правадыра не заменіш падстаўной асобай... У Вільні Вы ёсць асяродак, каля якога канцэнтруецца і рухаецца наша Адраджэнне. Вы галоўны мозак справы, і таму мы, меншыя работнікі (нервы народныя), спяшалі так забегчы

на Віленскую, 33[1] паінфармаваць, параіцца, пажаліцца... усякае здараецца! Не, як хочаце, а Вы патрэбны Вільні».

Няма ў словах Жылкі апалагетыкі і аддавання боскай пашаноты. Слова правадыр, ужытае ў ходзе ўгаворвання паважанага адрасата, не азначае суб'екта надчалавечай велічыні, правадыр — тут велічыня духоўная, а не ўладная, носьбіт культуры і вопыту. Правадыр-машыніст абавязаны дзяліцца сваім вопытам і ведамі з менш дасведчанымі ўдзельнікамі руху, ён робіць гэта не з ласкі, а па абавязку дужэйшага ў грамадзе роўных, па законах сям'і.

Беларускі рух у Вільні Жылка ўяўляе грамадою-сябрынай, арганізмам, дзе правы і абавязкі ўсіх членаў разумна згарманізаваны з функцыямі: дужэйшы павінен цягнуць цяжэйшы воз, разумнейшы — паказваць шлях, смялейшы — ісці першым. Эталон такога натуральнага самадзейнага калектыву, дзе акумулююцца, а не нівеліруюцца індывідуальныя здольнасці і сілы адзінкі, апісаў яшчэ ў пачатку 20-х гадоў Ігнат Канчэўскі ў кнізе нарысаў «Адвечным шляхам». Як апошні аргумент супраць выезду А. Луцкевіча, Жылка характарызуе мажлівасці карыснага прымянення сіл у Вільні і ў Дзвінску: «Няўжо Іван Ігнатавіч [Краскоўскі. — *У. К.*] не піша Вам, што задыхаецца, гіне ад затхласці і мізэрнасці? Прызнаюся, я ўцёк з Даўгаўпілса[2], і пражытыя там часы найцяжэйшыя і самыя смутныя ў маім духоўным жыцці, хоць матэрыяльна быў спакойным. Як Вы кінеце музей?» Ведаючы пра матэрыяльныя цяжкасці жыцця Луцкевіча ў Вільні і дапускаючы мажлівасць іншых непаразуменняў, «аб якіх мы тут не знаем», Жылка ўсё ж нагадвае паважанаму адрасату: «...асвядомленасць адпаведнасці (дасведчанасць у грамадскай сферы), каханне да справы дасць Вам моц, духоўную бадзёрасць. Беларускае Адраджэнне перажывае крызіс, дзе ходзіць аб тое, ці быць нам нацыяй дружнай і скансалідаванай, ці бясследна згінуць. У гэты час асабліва важна, каб у нашых радах былі здольныя загартаваныя змагары.

Пішу ўсё гэта далёкі ад жадання сказаць камплі-

---

[1] Дамашні адрас Антона Луцкевіча.

[2] Нелегальна вярнуўся ў Вільню і з дапамогай А. Луцкевіча і Л. Родзевіча выехаў у Чэхаславакію як стыпендыят урада.

мент, але маю на ўвазе Бацькаўшчыну і нашу Справу».

У. Жылка ведаў А. Луцкевіча яшчэ па Мінску 1918 года, калі Вільня давала падмогу і параду, як разгортваць адраджэнне ва ўмовах акупацыі.

Цяжка сказаць, якімі былі адносіны Жылкі, звязанага тады з эсэрамі, да А. Луцкевіча як кіраўніка арыентаванай на супрацоўніцтва з Пілсудскім Найвышэйшай Рады. Адно можна сказаць, што паэт разгледзеў у А. Навіну не столькі палітыка, колькі дзеяча, постаць, увасабленне беларускай ідэі нацыянальнай культуры, таму і няўдачы ў палітыцы не пазбавілі яго аўтарытэту сярод патрыятычнай інтэлігенцыі. Жылкавы пісьмы да А. Луцкевіча не толькі дапаўняюць перапіску з Л. Родзевічам, І. Дварчанінам, Т. Грыбам, але паднімаюць новыя пытанні літаратурна-творчага характару.

Сярод грамадска-палітычных праблем на першым месцы стаіць вызваленне Беларусі, узʼяднанне народа, канфлікты і прымірэнні паміж Вільняй і Мінскам, саперніцтва і супрацоўніцтва розных палітычных сіл у адраджэнскім руху, вяртанне беларускай палітычнай і «акадэмічнай» эміграцыі на радзіму, у Заходнюю і Савецкую Беларусь.

А. Луцкевіч быў увасабленнем пераемнасці і цэласнасці вызваленчага руху беларусаў XX стагоддзя, пачынаючы ад Беларускай сацыялістычнай грамады і «Нашай нівы».

Стараннем братоў Луцкевічаў і ў акупіраванай немцамі Вільні вялася асветніцкая работа, выходзіла субсідзіраваная акупацыйнаю адміністрацыяй газета «Гоман», загаловак якой нагадваў пра народніцкія традыцыі беларускага адраджэння. У Вільні друкаваліся падручнікі, асветніцкія брашуры, паўставалі беларускія школы. Беларуская Рада Віленшчыны першай апавясціла ў 1918 годзе незалежнасць гэтага рэгіёна і перадавала вопыт мінчукам.

Цяжэй было з беларускім патрыятычным асяродкам у Мінску. Тут ні цывільныя, ні вайсковыя ўлады не апускаліся да спрыяльнага жэсту ў бок беларусаў. Беларускае адраджэнне афіцыйна ўспрымалася ў прыфрантавым горадзе нежаданым дзіцем, прыхамаццю амбіцыйных сепаратыстаў. Камуністычныя арганізацыі ў рускай арміі былі расійскімі, а кіраўніцтва бальшавіцкіх органаў улады на Беларусі ўступала ў канфрантацыю з маладымі структурамі нацыянальна-вызваленчага руху.

Беларусь заставалася ў іх разуменні вечнай правінцыяй Расіі — Заходняй вобласцю, Заходняй камунай, нават галоўны прынцып ленінскай нацыянальнай палітыкі — права на самавызначэнне — успрымаўся лідэрамі і ідэолагамі бальшавікоў Мясніковым, Кнорыным, Рэйнгольдам, Пікелем, Калмановічам як палітычная хітрасць, якую карысна ўжываць у крытычных для савецкай улады сітуацыях, а пры лепшай пагодзе можна забываць або ігнараваць.

Пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый вялікадзяржаўная мерзлата ўсё ж адтайвала. Тады і ў беларускі рух прыйшло ажыўленне, многапартыйнасць і палітычны плюралізм. Беларуская сацыялістычная грамада летам 1918 года распалася, на яе месца прыйшлі партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў (левай і правай арыентацыі), беларускіх сацыял-дэмакратаў, беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў і нават беларускіх землеўладальнікаў, разам з тым утварыліся ў Пецярбургу, Маскве, Смаленску беларускія камуністычныя арганізацыі. Палітычная дыферэнцыяцыя, у прынцыпе, не супрацьпаказана нацыянальнаму руху, яна прывучала да супрацоўніцтва ў сістэме нацыянальнай дэмакратыі павагі да іншадумцаў.

Недзе пасля Брэсцкага міру часова заняты немцамі Мінск успрымаўся ўжо як сталіца беларускага вызваленчага руху: сюды з'язджаліся са ссылак, з бежанства і з войска беларускія патрыёты, дзеячы і ідэолагі адраджэння — Алесь Гарун, Язэп Лёсік, вучоныя Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі, Аляксандр Цвікевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, вайскоўцы Канстанцін Езавітаў і Алесь Ружанцоў, артысты і драматургі — Ігнат Буйніцкі, Францішак Аляхновіч, Уладзіслаў Галубок, пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі. У Мінску адбыўся Усебеларускі кангрэс, паўлегальна дзейнічала яго Спаўняльная рада, а Беларуская вайсковая рада рыхтавала нават паўстанне супраць нямецкіх акупантаў[1]. У горадзе з'явілася беларуская адраджэнская прэса розных палітычных адценняў — «Вольная Беларусь», «Вольны сцяг», «Крыніца».

Беларускае адраджэнне, на жаль, не знаходзіла зразумення і ва ўрадзе Керанскага, і пазней у Саветах На-

---

[1] Беларуская школа ў Латвіі. 1933. № 3.

родных Камісараў. Непрыманне рэалій, як напісаў адзін з дзеячаў БНР Аляксандр Цвікевіч, «пераканала ўсіх, што калі раней беларускаму адраджэнню даводзілася мець справу з расійскім самадзяржаўем, дык цяпер даводзіцца мець справу з велікарускім вялікадзяржаўем»[1]. Але кіраўнікі беларускага руху не разгубіліся: па словах А. Цвікевіча, «поруч з петыцыямі і дакладнымі нататкамі і інш. павялі энергічную агітацыю сярод шырокіх мас за дасягненне сваіх ідэалаў. Мнагалюдныя нацыянальныя сходы шырокаю хваляй пракаціліся па ўсёй Беларусі, пакідаючы пасля сябе выканаўчыя органы (Рады). Работа гэтая завяршылася ў снежні 1917 года скліканнем у Мінску Вялікага Усебеларускага кангрэса, ад якога вядзе сваё існаванне Беларуская Народная Рэспубліка»[2].

Існаванне БНР было пераважна сімвалічным, бо Беларусь заставалася зонай вайсковых дзеянняў, змены акупацый. Больш жыццяздольнай аказалася Савецкая Сацыялістычная рэспубліка Беларусь, абвешчаная на канферэнцыі беларускіх камуністаў у Смаленску 1 студзеня 1919 года, але і яна перафарміроўвалася ў Літоўска-Беларускую рэспубліку, потым вярнулася назад да Паўночна-заходняй вобласці і адноўленага летам 1920 года міні-варыянта ССРБ з шасці раёнаў Мінскай вобласці.

Непасрэднае супрацоўніцтва паміж А. Луцкевічам і У. Жылкам пачалося ў Вільні ў часе выбарчай кампаніі 1922 года, калі паэт друкаваўся ў «Беларускім звоне», а пазней нелегальна падаўся ў Коўна ці не па даручэнні А. Луцкевіча, які быў старшынёй Беларускага нацыянальнага і Беларускага выбарчага камітэтаў — растлумачыць ковенскай Радзе БНР слушнасць прынятага ў Вільні рашэння не байкатаваць парламенцкіх выбараў, а ўдзельнічаць у іх. Менавіта з 1922 года пачынаецца перапіска паэта з А. Луцкевічам. Яе змест дапамагае глыбей разумець перапіску Жылкі з пражскімі калегамі.

Генератарам разладу паміж Грыбам і Жылкам, аказваецца, служыла несупадзенне характараў. Па натуры Жылка быў далікатным, ветлівым, цягнуўся да гармоніі, шанаваў этыку як аснову разумнага сужыцця, ад палі-

---

[1] Цвикевич А. Беларусь. Берлин, 1919. С. 19.
[2] Тамсама. С. 20.

тыкі ён таксама патрабаваў перадусім сумленнасці і прыстойнасці. Т. Грыб, наадварот, быў натурай канфліктнай, эксцэнтрычнай і распалітыкаванай. Ён таксама прагнуў справядлівасці і свабоды, але найперш для сябе і сваёй партыі. Няўдачы палітыкі БНР і БПС-Р сапсавалі яго характар, зрабілі сварлівым, выбухным. Адносіны ў Жылкі з Грыбам былі няроўныя, як пагода напрадвесні.

Першае кароткае замыканне здарылася неўзабаве пасля прыезду паэта ў Чэхаславакію, недзе ў красавіку 1923 года. У перапісцы з сябрамі яно фіксіруецца невыразна, а ў пісьме Жылкі да Луцкевіча высвятляецца, што эсэраўскія лідэры Язэп Мамонька, Палута Бадунова і Тамаш Грыб учынілі сварку з-за таго, што іх «не запрасілі» ў створаную перад Калядамі Беларускую Раду ў Празе. «Пакрыўдзіўшыся, — піша Жылка, — яны выпусцілі знамяніты твор — «Извещение» — дакумент чалавечай несумленнасці, маны, тупога нізкалоб'я, калі не ідыятызму». Асабліва абурыў Жылку факт, што пакрыўджаныя паслалі сваё тварэнне прэм'еру БНР Ластоўскаму і ўраду Чэхаславакіі, не дбаючы пра рэпутацыю беларускага зямляцтва. Яны разлічвалі зарабіць на гэтай сварцы грошы, вырваць для сябе частку субсідыі, якую выдзяляў чэшскі ўрад для ўсяго беларускага зямляцтва. «Самае ганебнае, — піша Жылка, — што грошы ў напісанні «Извещения» адыгралі не апошнюю ролю».

Звяртаючыся да Луцкевіча, Жылка пытаецца: «Між іншым, ведаеце, хто самыя непапулярныя між студэнцтва? Безумоўна — не! але, калі скажаце Станкеўчык[1] і Грыб, то Вы не памыліцеся. Сваёй дэмагогіяй, грубасцю, неаб'ектыўнасцю, а галоўнае, *пустагаловасцю* (факт!) яны выклікалі проці сябе страшэннае незадавальненне ўсіх і правых, і левых, і сваіх прыхільнікаў, і непрыхільнікаў, і пашаны да іх — ні на грош. Ёсць нахіл судзіць аб пражскім зямляцтве па гэтых панах. Але гэта... памылка». Асцерагаючыся, каб самому не выглядаць мізантропам, засаромеўшыся сваёй нястрыманасці, Жылка змякчае тон і прыводзіць у станоўчы прыклад тых землякоў, што выпрацоўвалі ў сабе грамадскую і агульную культуру. «Радуе розум, талковасць, умеласць,

---

[1] Мянушка Янкі Станкевіча, тады старшыні народніцка-клерыкальнага гуртка «Студэнцкі саюз».

з якою [яны] падыходзяць да працы. Вось некалькі імёнаў: Грышкевіч, Каберац, Дыліс, Клімовіч, Лаўскі, Бусько, Гарошка. І гэта далёка не ўсе. Але тут і добры каталік Клімовіч, і атэіст-сацыяліст Грышкевіч».

Тут мне бачыцца ключ да светапогляднай эвалюцыі Жылкі: адчуваючы сябе ўсё больш мастаком беларускага Адраджэння, ён падымаецца над партыйнымі, палітычнымі і нават светапогляднымі падзеламі. Рэалізаваць беларускую ідэю могуць толькі людзі розных палітычных і духоўных поглядаў, калі яны будуць здольны прызнаць прыярытэт гістарычнага адраджэння народа. Ідэя адраджэння — гэта высокі ўзлёт свядомасці, духоўны магніт, што яднае патрыётаў Беларусі дзеля вызвалення і будавання Бацькаўшчыны. Жылка зычлівы ў ацэнках людзей, бо ўспрымае чалавека гуманістычна, бачыць яго моцныя і слабыя бакі, а ўзважыўшы, ухваляе асобу, хварэе душою, калі даводзіцца рваць сувязі. Толькі за трэцім захадам, у канцы красавіка 1923 года, Жылка паведаміў Луцкевічу аб разрыве: «Я разышоўся з пачэснай кумпаніяй — Бадунова і К° (К° — Грыб, Мамонька). Прычынай — іх дурасць і подласць... Бліжэй пазнаёміўшыся, бачу, што яны толькі і здольны на паскудствы і то дробныя. Мізэрныя людзі!» Абурае Жылку гвалтоўнасць і сварлівасць прэтэндэнтаў на лідэрства, няздольнасць дбаць перш за ўсё аб рэпутацыі беларускага Адраджэння. Аднак жа дзіўным, проста неверагодным здаецца такі рашучы разрыў далікатнага Жылкі з эсэраўскімі лідэрамі, якія выступалі ж абаронцамі інтарэсаў сялянства, а ён у чарговым пісьме да А. Луцкевіча сцвярджаў: «Мы мусім згадзіцца, што мы сялянскі народ, і таму адвесці ў нашай ідэалогіі паважнае месца кажуху і лапцям». Гэта было напісана 1 жніўня 1923 года, калі Жылка адчуў па праграмных артыкулах газеты «Наш сцяг» (выдавалі ў Вільні Язэп Лагіновіч і Леапольд Родзевіч), што Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя адыходзіла ад эсэраў і паварочвалася да камуністаў. Называючы сябе прадстаўніком «тутэйшых левых», паэт усё ж лічыць заўчаснай такую пераарыентацыю, патрабуе, каб адраджэнне заставалася беларускім, сялянскім. «Тады можна больш адчуць свае сілы і на іх арыентавацца, а не так, як робіць «Наш сцяг». Між іншым, яго нахіл да камунізму мне не падабаецца. Камунізм у грунце варожы беларускай сялянскай стыхіі і нашай нацыянальнай ідэі. Усё, што робіцца ў Менску

(а не столькі той работы як голасу), ёсць не ласка, а ўступка з бою. Жаданне беларускіх камуністаў манапалізаваць беларускі рух — тактычны крок і досьць бязглузды, хоць, зразумела, — Маскве трэба».

Збліжэнне з камуністамі летам 1923 года Жылка лічыць небяспечным, бо яно азначае падпарадкаванне, а не партнёрства. «Тактыка Заходняй Беларусі, — на маю думку, — гуртаванне сілаў, выгадаванне ў масах самадзейнасці і свядомасці. Невядома яшчэ, хто здзейсніць ідэю незалежнасці, Менск ці Вільня? І так раптам распісацца ў сваёй слабасці, спяшацца зарэгістравацца ў маскоўскай канторы пад шыльдай СССР — саўсім няўчасна!»

Насцярожанасць да Масквы падтрымлівалася ў Жылкі паводзінамі рэакцыйных сіл рускай палітычнай эміграцыі ў Латвіі і Чэхаславакіі. У паштоўцы, высланай з Дзвінска 26 кастрычніка 1922 года, ён паведамляе Луцкевічу: «Беларуская справа ў нас на цвёрдым грунце. Вядзецца вялікае змаганне, асабліва з маскалямі. Урадавыя сферы на нашай старане. Між імі мы маем шмат сапраўдных сяброў...»[1] У красавіку 1923 года паэт паведамляе з Прагі аб падтрымцы чэшскім урадам ідэі аб'яднаць студэнцтва паняволеных народаў Еўропы і зазначае: «Цікава тое, што маскалі хацелі перад тым стварыць арганізацыю — великороссов, малороссов и белорусов, але ім міністэрства вярнула іх статут не зацвердзіўшы. Мы ж, народнасці б. Расіі, зарэгістравалі свой у некалькі дзён».

Варта, аднак, заўважыць, што Жылка ў красавіку 1923 года не закрэсліў самой ідэі супрацоўніцтва левых сіл адраджэння, да якіх адносіў сябе, ён сказаў, што супрацоўніцтва з камуністамі заўчаснае, бо демакратычныя сілы слабыя, а камуністы не прызнаюць партнёрства, а толькі дамінацыю і падпарадкаванне. Масква, у яго разуменні, была нацыянальнаю сілай, што несла ў сабе загорнуты ў чырвоны вымпел былы расійскі імперскі сіндром. Напэўна, паэт не быў дастаткова паінфармаваны, каб ведаць, што ініцыятарам паўторнага апавяшчэння БССР улетку 1920 года было Цэнтральнае бюро КП(б)Б, яго падтрымала большасць членаў

[1] Гаворка ідзе пра змаганне за адкрыццё Беларускай гімназіі ў Дзвінску. Перашкаджалі расійскія вялікадзяржаўнікі, што бачылі ў беларускім руху падрыў ідэі адзінага рускага народа ў трох абліччах — велікаросаў, маларосаў і беларусаў.

ЦК РКП(б). З другога боку, ён меў падставы баяцца, што супрацоўніцтва з камуністамі дасць польскаму ўраду карты ў рукі для рэпрэсій супраць беларускага Адраджэння як руху, якім упраўляюць камуністы, утрымліваюць матэрыяльна замежныя дзяржавы.

Жылка сказаў Луцкевічу, што супрацоўнічаць з камуністамі заўчасна, бо сама БССР і яе кампартыя не сталі яшчэ беларускімі. Але працэс беларусізацыі нарастаў па абодвух баках Рыжскай мяжы. Беларусь адраджалася як адзіная нацыя, падзеленая чужою воляю і чужою сілай. Павялічвалася яе тэрыторыя за кошт усходніх, адданых РСФСР тэрыторый, расла беларуская асвета і культура, працягвалася кансалідацыя палітычных сіл на аснове прызнання сацыялістычнага выбару, зробленага БССР.

Красавіцкі разрыў У. Жылкі з лідэрам эсэраўскай студэнцкай групы насіў пераважна этычны, таварыскі характар, і Жылка па-хрысціянску змякчыў сэрца, прымірыўся са звадыяшам Грыбам яшчэ на нейкія 10 месяцаў, да лютага 1924 года, калі ў БССР пачаліся перагаворы паміж кіраўніцтвам БПС-Р і КП(б)Б аб палітычным аб'яднанні і арганізацыйным зліцці. На жаль, бальшавікі з часоў эсэраўскага паўстання 1918 года не дапускалі ніякіх іншых форм паяднання, апрача поўнага адрачэння другога боку ад сваёй праграмы і растварэння ў камуністычнай партыі. Больш таго, за тымі, хто ўліўся ў кампартыю, заставаўся хвост выхадца з чужой партыі ды Каінава пячатка на векі вечныя. Усевалад Ігнатоўскі, якому было даручана прадстаўляць на ліквідацыйным з'ездзе эсэраў ЦК КП(б)Б, аднёсся да былых няпэўных саюзнікаў з часоў савецка-нямецкай і савецка-польскай войнаў паблажліва, толькі для прыліку назваў «хібы», але вытлумачыў іх складанасцю абставін, а не злою воляй канкрэтных асоб і прызнаў таксама хібы і ў нацыянальнай палітыцы КП(б)Б.

Тамаш Грыб асудзіў самароспуск БПС-Р, а кіраўнікоў партыі назваў здраднікамі. Жылка меў у 1924 годзе ўжо іншую думку аб супрацоўніцтве з Савецкай Беларуссю, хоць не была гэта лінія апалагетычнай. Нават Берлінскую канферэнцыю 1925 года, на якой А. Цвікевіч склаў паўнамоцтвы ўрада БНР у рукі ўрада БССР, паэт убачыў як дыпламатычную інсцэніроўку. Выканаўцу галоўнай ролі, А. Цвікевіча, ён убачыў крыху моднікам, а крыху комікам. «Цвіком, — піша ён А. Луцкеві-

чу, — асенняга сезону з'явіўся Цвік з уладжанай ім у Берліне канферэнцыяй. Ён, здаецца, ужо выехаў да Менску. Тое, што пісалася ў польскіх газетах аб Крачэўскім і Захарку — мана. Яны маюць добры буржуазны настрой і асабліва старшыня Рады рэспублікі, які «ніколі, ні за якую цану не зрачэцца» свайго маестата». Жылка ўспрымае Цвікевіча флюгерам, але і з салі́днага Крачэўскага піша шаржыраваны партрэцік. Да асобы Цвікевіча як ініцыятара павароту шляхоў беларускай адраджэнскай эміграцыі з Захаду на Усход У. Жылка звярнуўся яшчэ раней, 1 жніўня 1925 года, калі апісаў, як праводзіў Івана Ігнатавіча Краскоўскага, а выпадкова сустрэўся яму на пражскім вакзале «Цвік... перад адыходам цягніка. Гаварылі мала, але на развітанне ён сказаў: «Да пабачэння там». Я з запытаннем усміхнуўся, а ён дадаў — «да скорага!». Што гэта значыць дакладней, не разумею. Наша старэйшае грамадзянства мо і знае, але мы ўжо не сакрэтнічаем даўно».

Недзе напярэдадні 1925 года Жылка пачаў цікавіцца вяртаннем беларускіх эмігрантаў на радзіму, асцярожліва гаварыць аб бесперспектыўнасці становішча: «... чэшскі ўрад намераны скараціць субсідыі на 50 %... акадэмічнай эміграцыі, будзе магчымасць скончыць свае студыі, а [ад] палітычнай паспрабуюць як-небудзь пазбавіцца». Ідэйны і палітычны патэнцыял эміграцыі Жылка лічыць сціплым: не здолелі выкарыстаць нават тыя сродкі на выдавецкую справу, якія даў чэшскі ўрад. «Ёсць добрыя, разумныя, шчырыя хлопцы... але ў іх адна вялікая вада[1]: бязвусасць». Далей расказвае пра дзейнасць студэнцкага гуртка «Незалежнасць», якім кіраваў сам, называе тэмы найбольш удалых дакладаў: «Ірландскі вызваленчы рух і Беларусь» Дварчаніна, «Крытычны агляд «Спадчыны» — Жылкі, «Пяснярскі Менск» — Вернікоўскай, Каберца і Жылкі.

Затым пераходзіць на асобу І. Краскоўскага, які пасля арышту і суда, хоць і выйгранага, рашыў пакінуць Латвію і спрабаваў пераехаць на педагагічную працу ў Вільню. «Шкада Ів[ана] Іг[натавіча], — піша Жылка. — Ён бы, думаю, зрабіў карысней, каб ехаў не сюды, а пастараўся вырушыць nach Osten. Раней ці пазней мусіць будзе зрабіць гэта... Чакаць, што ў кароткім часе ў Польшчы так зменяцца адносіны, што беларускі рух

---

[1] Загана *(польск.)*.

будзе легалізаваным і ўмажлівіцца зварот да Вільні, нельга... Заданне ўсіх свядомых і актыўных сілаў быць на бацькаўшчыне і пературацць ... нашы планы, думкі і жаданні ў матэрыяльныя вартасці. На беларускай зямлі павінна быць беларуская кніга, беларуская школа, беларуская навука, бел. банкі, бел. каапературы, а найперш *беларуская свядомасць*. Чым болей будзе ў нашых руках такіх «рэальнасцей», такіх «фактаў», тым мы будзем мацней і, якія б пяруны ні білі над нашымі галовамі, яны нас не запужаюць. Скажыце, ці не праўда?»

Нагадаўшы пра сваю хваробу і жаданне «пад крыжам бацькаўскім спачыць», Жылка, нібы агорнуты благім прадчуваннем, дапытваецца ў Луцкевіча: «Толькі хацеў бы чуць, як Вы думаеце? Што можна закінуць проці?»

Шкада, што няма адказу на пытанне, якое акажацца гамлетаўскім. Можна толькі здагадацца па наступным пісьме, што «мозак Адраджэння» ўхваліў вяртанне паэта на радзіму з місіяй служэння нацыянальнай культуры і паэзіі. Абодва яны верылі, што духоўныя каштоўнасці — гэта нешта святое, яны могуць стаць шчытом для сваіх пашыральнікаў і стваральнікаў, калі палітычную сферу пачнуць паласаваць маланкі і грымоты. Беларусізацыя, якой паэт ехаў аддаць рэшту сіл сваіх, была цывілізацыйнаю дзейнасцю, і трэба было мець ментальнасць люмпена ці крымінальніка, каб дапусціць, што яна стане повадам для чорнай расправы вялікадзяржаўнікаў з адраджэнцамі.

Мабыць, каб не выдацца назолай, паэт пасылае А. Луцкевічу зборнік «На ростані» з аўтографам і яму ж прысвечаны верш, просячы, каб было гэта ўспрынята як навагодні падарунак, а не як спроба падлесціцца.

10 лютага 1925 года, не дачакаўшыся адказу, паэт апавяшчае А. Луцкевіча, што сам рашыў вярнуцца на радзіму, у хату бацькоў. Бацькаўшчына сама ў сабе аргумент: «Маё здароўе за гэту зіму шмат згоршылася. Вельмі часта настываў і хварэў. Доктар канешне прымусіў ехаць у санаторый ... Перад гэтым яшчэ раз асмелюся звярнуцца да Вас у справе мае падарожжы. Хвораму і незабяспечанаму матэрыяльна жыццё тут на чужыне становіцца пеклам. Інваліду ў літаральным значэнні, хацелася б мне спакою і яшчэ большае жаданне, каб косці мае ляжалі поруч з бацькавымі на роднай зямлі».

21 лютага А. Луцкевіч сказаў слова падтрымкі, паэт прыняў яго з удзячнасцю: «Будзе па слову Вашаму, — урачыста адказвае ён 25 лютага, — буду рабіць захады, але калі з Вільні не будзе дапамогі, то цяжка чаго-небудзь дабіцца. Для звычайнага смяротнага трэ давесці «лаяльнасць», «выслужыцца» тут, на месцы — усё [гэта] рэчы, на якія я не здольны».

Пачынаючы з лютага 1925 года, бадай, няма такога пісьма да А. Луцкевіча, дзе б Жылка проста ці ўскосна не закранаў бы праблемы вяртання.

10 мая гаворка праходзіць па вядомай ужо схеме: «Да ўсіх маіх немачаў дабавілася яшчэ лішняя: каменні ў нырках». Хвароба сапраўды магла быць самым вострым штуршком да вяртання, але не была самым важным аргументам. Гэта адчуваў паэт, таму разважаў пра палітычных спонсараў: «Раблю крокі, каб вярнуцца на бацькаўшчыну. Гэта не ўдасца пры найлепшых варунках раней чым за 8 месяцаў. Калі прыпадкам пабачыце Р[одзевіча], падзякуйце за вестку (яна мяне вельмі ўсцешыла) і абяцанне дапамагчы. Хацеў бы чыркануць яму, ды не ведаю адрасу».

Родзевіч у 1924 годзе вучыўся ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду ў Маскве, потым вярнуўся на падпольную работу ў край, займаў пасаду сакратара Гродзенскага акругкома партыі і, як відаць, нелегальна сустракаўся з А. Луцкевічам.

У тым жа лісце Жылка аспрэчвае думку рэцэнзента свайго зборніка «На ростані», які запрыкмеціў у вершах 1921—1923 гадоў «усходнюю рэвалюцыйнасць... асабліва сімпатыі да таго «Усходу». Праўда, трошкі аблегчаны ўсе Захадам. Не ведаю, ці сапраўды маю гэты грэх».

Відаць, уцягнуўся паэт у хадайніцтва аб вяртанні, бо стаў баяцца, каб неасцярожны крок не сапсаваў справы. Такім крокам выдаўся яму намер А. Луцкевіча надрукаваць яго «Вершы аб Вільні» ў часопісе «Студэнцкая думка». Жылка папярэджвае мецэната ў пісьме за 1 ліпеня 1925 года: «Гэта мне нарабіла б шмат клопатаў з маёй і так няпэўнай падарожжай. Такія часы і звычаі! Тут «Студ. Думка» лічыцца вельмі чорна-янкастанкеўчыкаўскай. Хіба, каб вершы былі памешчаны ў тэксце Вашага артыкула...»

Пэўнасці ў думках няма, Жылка нервуецца і маракуе на абставіны: «Аб маёй падарожжы, мусіць, віламі

па вадзе пісана. Тут трэба выслужыцца, дагаджаць, а ў мяне спіна старая, касцянее, і гнуцца няма сіл, хоць фармальна проці мяне не муселі б мець нічога асаблівага. Не ведаю, ці можа чым памагчы Р[одзевіч] і як можа? Вельмі сумлеўна. Тутэйшыя ж беларускія прадстаўнікі вельмі «сектанты» і слабыя беларусы. Іх такія рэчы мала цікавяць. «Ёсць больш важныя планетарныя справы!»

Радуецца Жылка за Івана Ігнатавіча Краскоўскага, які не паехаў з Дзвінска ні ў Вільню, ні ў Прагу, а выбраў Мінск, як хацелася і яму. Паведамляе ён А. Луцкевічу, што Краскоўскі «затрымаўся ў «Макарыча»[1]. Валянціна Сымонаўна напісала ўжо ліст Людзе (яна засталася тут). Ён вельмі ружовы. Пакуль што ўсім задаволены і кажуць, што даўно мусім кінуць вагацца, а ехаць».

Абгрунтоўваючы слушнасць выбару, які зрабіў І. Краскоўскі, Жылка апісвае яго прыезд у Прагу на агледзіны запрапанаванага яму месца працы: «Іван Ігнатавіч вынес вельмі цяжкое і сумнае ўражанне. Я асабіста рады, што ён пазнаёміўся бліжэй з тутэйшым жыццём і кінуў летуцець аб Празе, як раней: «Славянскія Атэны»[2] не для ўсіх з'яўляюцца Атэнамі, дый не кожны, папаўшы ў Атэны, стане мудрацом; як доказ таго — наша назарэцкая худоба, якая, магчыма, некалі і культывуецца [але] толькі надворна».

У канцы 1925 года тэма вяртання драматызуецца, апальвае душу паэта нясцерпнасцю, горыччу і крыўдай: «...справа мае падарожжы да гэтага часу не рухаецца з месца. Не ведаю, ці што рабілася праз Р[одзевіча]. Без актыўнай дапамогі... можна на гэту справу махнуць рукою... трэба прыслужвацца, [для] гэтага не толькі трэба быць ура... А я беларус і хачу быць ім. Многа хацеў бы напісаць, але...»

З санаторыя ў Цэркавіцах Угліцкіх ідуць у Вільню сумненні, зняверанасць, адчай. Гэта ўжо сакавік 1926 года: «Падарожыць па-чалавечы страціў усякую надзею, думаю па старой памяці папрабаваць per pedes apostolarum (апастольскаю пехатою), а магчыма, магчыма

---

[1] Так у адраджэнскім асяроддзі па-свойску звалі Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага, які з 1921 года быў камісарам народнай асветы БССР.

[2] Афіны.

вот махнуць на ўсё і на ўсіх рукою». Да нелегальных пераходаў граніцы хворы паэт быў ужо фізічна няздольны, а схавацца, замкнуцца ў сабе не давала ўсё больш набрынялае надзеямі грамадска-палітычнае жыццё, калі духоўныя каштоўнасці, у іх ліку мастацтва, паэзія, трацяць у цане на карысць ідэалагічных стымулятараў, патрэбных для кіравання масамі. Жылка адчуў сябе ў сацыяльным вакууме, зусім адчужаным ад свету. «І ніколі не чуў сябе, — гаворыць, скардзячыся і дзівячыся, паэт, — такім самотным і непатрэбным ... І дзіўна, што ні рукі мае, ні каханне[1] маё не патрэбны майму народу... Хацеў бы ведаць, што рабіць? Вашы намеры на Будучыню?»

У ліпені 1926 года нарэшце зазіхцелі праблёскі ў імгле безнадзейнасці: «Ад Краск[оўскіх] часамі атрымліваю лісты, але далей асабістых спраў не ідуць. Ів[ан] Іг[натавіч] па горла завалены працай, але самапачуццё найлепшае. Пр[акулевіч] і З[аяц] з часу свайго ад'езду забойча маўчаць: жаднаму[2] — нічога».

13 (варта запомніць чортаў тузін) кастрычніка 1926 года Жылка выдае ў Вільню радасны сігнал здзяйснення надзеі: «Нарэшце маю пас[3]. Каля 20-га гэтага месяца выберуся адгэтуль цераз Варшаву. Грошай на падарожжа дастаў. Поўны трывог перад блізкай будучынай — ці прыйдуся да двара? Выходны пункт маіх учынкаў, добрыя яны ці блудныя былі, ёсць і было Адраджэнне. Адраджэнцам хочу застацца надалей. Гэтулькі надзей і спадзяванняў скрышыла жыццё, што баюся браць у падарожжу з сабою найдрабнейшыя надзеі. Так лепей— што будзе, то будзе. Адраджэнне мае свае мэты і заданні, а нас увесь час і ворагі і прыяцелі хацелі б бачыць як сілу слугуючую, — вось дзе прычына маіх трывог».

Туга па радзіме, цяга да роднай сям'і, ды і святая ахвярнасць намераў перамаглі трывожныя прадчуванні, повад для якіх давала маўчанне Пракулевіча, Зайца, Цвікевіча і найграны аптымізм у пісьмах Валянціны Сымонаўны, і перасцярогі практычнага Юрыя Раманейкі.

Уладзімір Жылка меў шырокую інфармацыю пра зрухі жыцця ў СССР і пра беларусізацыю ў прыватнас-

---

[1] Тут — любоў да радзімы.
[2] Ніводнаму (*польск.*).
[3] Замежны пашпарт.

ці. Ён перапісваўся з дзядзькам, кааператыўным работнікам, Ю. Раманейкам, Краскоўскімі, з сяброўкай школьных гадоў, удзельніцай эсэраўскага руху з Багародзіцка Лідзіяй Сілаевай. Перажыўшы трагедыю сялянскіх паўстанняў на Яраслаўшчыне і ў Сібіры, яна з галавою ўвайшла ў кааператыўны рух і прымірылася з памякчэлаю ў нэпе савецкаю ўладай. Перакананальна апісваў адраджэнне земляробства і гандлю цераз кааперацыю Жылкаў дзядзька Юрый Раманейка, былы царскі афіцэр, што перакваліфікаваўся ў эканаміста і кіраваў у Адэсе і Херсоне кааператыўным экспартам збожжа. Ён сімпатызаваў беларускаму адраджэнскаму руху, але як чалавек дзелавы раіў пляменніку не спяшацца з вяртаннем, бо вершаваная прадукцыя на савецкім рынку мае слабы попыт і даходу не прыносіць. Матэрыяльныя засцярогі выказвала з Мінска Валянціна Сымонаўна Краскоўская, угаворваючы сваю дачку Людмілу і Жылку, прынамсі, закончыць універсітэт, а тады ехаць ды забіраць з сабою ўсё адзенне, нават паношанае.

Але перспектыва матэрыяльных нястач не палохала Жылку, ён жыў беларускаю ідэяй і думаў пра вечнасць: «Хоць адно: з бойкі з лёсам нат пераможаны хачу выйсці з гонарам, які і ёсць варты перамогі.

Аб гэтым усе мае малітвы» (30 сакавіка 1926 года). Адзінай вартай увагі матэрыяльнай каштоўнасцю была для яго родная зямля, у якую хацелася зложыць сваё збалелае цела і свой пясьнярскі лёс: «Чым далей, тым цяжэй падупадае маё здароўе... клімат і завадская Прага і матэрыяльныя... абставіны і многа далёка пастугіўшая хвароба. Жыццё чым далей становіцца большай пакутай. А я маю «па тым боцы» родных, бацьку, матку, жывуць у ціхім, зялёным засценку. Хацеў бы «пад крыжам бацькаўскім спачыць», прыемней, калі блізкі зачыніць вочы, прыемней гнаіць родную зямлю, і любоў да яе, здаецца, дае ці можа даць права на гэта» (люты 1925). Такім чынам, і зямля ў Жылкавым успрыманні каштоўнасць больш духоўная, этычная, чым матэрыяльная.

Летам 1924 года ў Прагу прыязджаў на міжнародную канферэнцыю славянскіх географаў і этнографаў акадэмік Я. Карскі. Ён драматычна глядзеў на стан вышэйшай асветы ў Мінску. Пад уражаннем той сустрэчы Жылка напісаў А. Луцкевічу з санаторыя на Плешы:

«Карскі трымаўся вельмі хараша і крытычна да саўвлады [так у рукапісу. — *У. К.*] і заставіў добрае ўражанне на прысутных сваёй незалежнасцю і нат (як ні дзіўна) ... беларускасцю. Незадаволены з палітыкі Менска, якая нібы вельмі паланафільская. Беларускага на Сав. Беларусі нічога няма... Беларусь трэба адваёўваць ад палякаў і маскалёў, і на гэта не здольныя тыя, што падрастаюць у Менску, бо яны не маюць змогі за палякамі, жыдамі і маскалямі папасці ў сцены высокіх школ. Заўсёды мусім помніць пра падзел Беларусі. Народ наш ніколі не можа ўжо загінуць... Студэнтамі тутэйшымі застаўся задаволены, здзівіўся выказанай на сходзе свядомасці іх. Адыходзячы, казаў: «Пацешылі старога, пацешылі!» Хацеў заехаць у Вільню, але не атрымаў візы на ўезд».

Пытанне аб наведанні Карскім Заходняй Беларусі Жылка падаў недакладна, бо пісаў ліст, калі справа знаходзілася яшчэ на стадыі вырашэння. Атрымаўшы на замежную паездку 400 рублёў, Я. Карскі запланаваў спалучыць свой удзел у канферэнцыі з наведаннем Югаславіі і Балгарыі, каб сабраць звесткі пра лёс старадаўніх помнікаў славянскага пісьменства. Яго непакоіла, як перажылі бясцэнныя скарбы палеаграфіі ліхалецце сусветнай вайны. Як аказалася, недаацаніў Яўхім Фёдаравіч таго факта, што ўрады еўрапейскіх дзяржаў насцярожана ставяцца да савецкіх грамадзян, нават вучоных. Пасольствы не мелі права выдаваць яму візу, патрэбна было рашэнне на ўрадавым узроўні. Падаўшы заяву, акадэмік не дачакаўся адказу, а грошы тым часам разышліся, і ён вымушаны быў вяртацца дамоў. Мабыць, гэтаю парою чакання Я. Карскі сустрэўся са студэнтамі-беларусамі і прачытаў свежавыдадзеную кнігу Канстантага Срокоўскага «Sprawy narodowościowe na Kresach Wschodnich», дзе польскі публіцыст крытыкаваў нацыянальную палітыку ўлад у Заходняй Беларусі. Кніга схіліла Карскага пабачыцца на зваротным шляху з землякамі. Улады дазволілі на праезд цераз тэрыторыю Польшчы. Невядома, ці ўдалося вучонаму наведаць Вільню, ці, толькі праязджаючы цераз Варшаву, сустрэцца з прадстаўнікамі грамадскасці Заходняй Беларусі і зверыць ацэнкі польскага публіцыста з выказваннямі жывых сведак і ахвяр дыскрымінацыі.

У справаздачы ён паведаміў: «Сапраўднасць аказалася горшай, чым тое, што паказана ў Срокоўскага. Па-

ланізацыя ідзе ваўсю: тая малалікая інтэлігенцыя, якая засталася ў гэтай частцы Беларусі, звальняецца з работы па розных зачэпках. Няўстойлівая частка ўжо загаварыла па-польску... Але затое ў простым народзе развіваецца самасвядомасць, і нярэдкія жорсткія расправы з прыгняталынікамі»[1].

Паколькі Жылкава пісьмо не датавана, дык да месца будзе прывесці даты з'езда па справаздачы: Карскі ехаў у Прагу цераз Латвію, Літву, Германію і 3 чэрвеня на вечары знаёмства здзівіў сваёй прысутнасцю еўрапейцаў: «Усе хіба думалі, што ніякія зносіны з Расіяй цяпер немажлівыя, — піша Карскі. — Былі здзіўлены і замежныя вучоныя, і рускія эмігранты, якія паставілі крыж над рускаю навукай»[2].

Навуковая частка канферэнцыі адбывалася з 4 па 8 чэрвеня, а з 9 па 15 чэрвеня праводзіліся экскурсіі па Чэхаславакіі. Незалежная Чэхаславакія зрабіла на Карскага глыбокае ўражанне: «Чэхі аказаліся не толькі адным з культурнейшых славянскіх народаў, але здолелі і своечасова не даць згаснуць навуцы... і ў гэтыя некалькі гадоў свабоды ад венгерскага ярма вырасла народная самасвядомасць, развіўся дух самастойнасці. Скрозь будуюцца школы, нават у глухіх вёсках»[3].

Гэтыя ўражанні, напэўна, прасвятляюць непасрэдную прычыну вострага асуджэння акадэмікам польскіх улад, іх дыскрымінацыйнай палітыкі ў адносінах да заходніх беларусаў і не менш вострую крытыку ў адрас улад БССР, якія не мелі сілы зрабіць Беларускі універсітэт сапраўды беларускім. Чэхаславакія наглядна паказвала, якія вялікія і нявыкарыстаныя мажлівасці мае Беларусь. Чатырыста чэхаславацкіх вучоных прынялі ўдзел у міжнароднай навуковай канферэнцыі, пра Беларусь з яе багатаю этнаграфіяй і фальклорам не было сказана ні слова. Акадэміка ўразіла багатая выстава расійскай кнігі за 1914—1924 гады, але не заўважыў ён там кніг беларускіх, хоць кнігалюб Жылка звяртаўся і ў Мінск, і ў Вільню да выдаўцоў, каб прыслалі экспанаты. Чэшскія ўлады, як паэт падкрэсліваў у лісце да

[1] Отчет Е. Ф. Карского о командировке на 1-й съезд славянских географов и этнографов в Праге в 1924 г. Известия Российской Академии наук. VI серия. Т. 18. Ч. 2. Л., 1924. С. 424.

[2] Тамсама. С. 420.

[3] Тамсама. С. 422.

Луцкевіча, не страшацца бальшавіцкай ідэалогіі, гатовы бачыць на выставе і кнігі савецкага часу.

Праўда, В. Ластоўскі, прыехаўшы праз два гады ў Мінск, застаў у БДУ лепшае становішча. Ён запісаў пачутыя ад рэктара БДУ У. Пічэты наступныя лічбы: ва універсітэце вучацца 1181 беларус, 999 яўрэяў, 130 рускіх, 9 палякаў, студэнты іншых нацыянальнасцяў — 34. Гэта быў значны зрух у параўнанні з 1924 годам, хоць Ластоўскі падкрэсліваў, быццам нацыянальныя меншасці застаюцца «элементамі эканамічна і культурна пануючымі ў краі»[1]. Ластоўскага засмучала, што ў БДУ толькі 10 % вучэбных курсаў чытаецца па-беларуску, астатнія — на рускай і польскай мовах. Моўны фронт беларусізацыі быў гарачым. На жаль, як аказалася, занадта гарачым. І гэта дазволіла выдаць за верагоднасць рэпрэсіўную версію пра існаванне ў рэспубліцы падпольнай антысавецкай арганізацыі — Саюза вызвалення Беларусі. Версію прывязуць у канцы 20-х гадоў з Масквы ў Мінск сталінскія пасланцы, спачатку Крыніцкі, які, стаўшы сакратаром ЦК КПБ, афіцыйна аб'явіў адраджэнскую інтэлігенцыю ворагам пралетарскай дыктатуры, потым прыехаў ідэалагічны кантралёр Затонскі, за ім Гей з падручным чэкістам Рапапортам. Завяршылі расправу з беларусізацыяй рафініраваны садыст Берман і прымітыўны мяснік Цанава.

У 1924—1928 гадах нікому і ў галаву не магла прыйсці такая палітычная афера. Савецкая ўлада і КПБ набіраліся аўтарытэту як ахоўнікі інтарэсаў беларускай нацыі і працоўнага люду. Сам Вацлаў Ластоўскі назваў Менск 1926 года «галоўным цэнтрам арганізавання культурных беларускіх сіл»[2] і сам вырашыў у 1927 годзе пераехаць у Мінск, працаваць на ніве беларускай навукі і культуры. З Чэхаславакіі без перасадак выязджалі выпускнікі Карлавага універсітэта, ураджэнцы Заходняй Беларусі. Ніхто не мог падумаць, што гэтае асветніцкае паломніцтва інтэлігенцыі чыясь злачынная, здэгенераваная фантазія выдасць за дыверсію замежных варожых спецслужб.

---

[1] Власт. Уражанні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную рэспубліку. С. 105.

[2] Тамсама.

## КРАСА І СВАБОДА

У перапісцы з Антонам Луцкевічам важнае месца займаюць творчыя пошукі Жылкі і літаратурныя праблемы. Прынамсі, першыя два гады паэзія як голас адраджэння аказалася на такім жа месцы, што і палітыка, толькі ў 1926 годзе паэзію выцясняць беларусізацыя, супрацоўніцтва дэмакратаў з камуністамі і вяртанне беларускай эміграцыі на радзіму.

Паэт цаніў у асобе «дзядзькі Антона» адукаванага крытыка і літаратурнага публіцыста, працы якога дапамагалі беларускай літаратуры стаць дастойнай часткай ідэалогіі Адраджэння. Жылку, відаць, думалася часам, што А. Луцкевіч, прынамсі, у Заходняй Беларусі вызначае кірункі літаратурнага развіцця, паэт раіўся з крытыкам аб тым, наколькі карысны для нацыянальных літаратур вопыт эстэтычных пошукаў еўрапейскай літаратуры, паэтаў развітых нацый, якія прайшлі этап нацыянальнага станаўлення даўно. Жылка недзе ідэалізаваў талент А. Навіны, перабольшваў яго ролю ў шуканні аблічча беларускага прыгожага пісьменства. Зрэшты, гэтая тонкая сфера, як і ацэнкі яе, звычайна адносная, многае залежыць тут ад духоўнай культуры нацыі. Мне ўяўляецца, што А. Луцкевіч быў больш ідэолагам літаратуры, чым крытыкам, для крытыка яму не хапала эмацыянальнай уражлівасці, сілы эстэтычнай інтуіцыі і палётнасці ўяўлення. Але ўжо сам факт, што паэт такой велічыні, як Жылка, з карысцю для сябе раіўся з ім па творчых праблемах, пацвярджае, з аднаго боку, тое, што літаратура беларускага адраджэння была ў тую пару прасолена ідэалогіяй ды насіла ў асноўным утылітарны характар, а з другога боку, А. Луцкевіч аказаўся дастаткова далікатным, каб не падыходзіць да літаратурнага працэсу рыгарыстычна, хоць слова «ідэалогія» сустракаецца ў яго працах такжа часта, як і ў Жылкавых лістах Рух і адраджэнец.

Ужо ў першым, напісаным з Чэхаславакіі вясною 1923 года лісце паэт дае зразумець адрасату, што літаратуру ён бачыць менавіта ў кантэксце беларускага вызваленчага руху. Жылка з гонарам паведамляе, што яму з дзесяццю беларусамі, слухачамі ўкраінскіх курсаў па падрыхтоўцы да экзаменаў на атэстат сталасці, удалося наладзіць у гарадку Езафове вечар, прысвечаны Дню абвяшчэння незалежнасці Беларусі. «Здолелі зрабіць

такую атмасферу на святкаванні (а сабралася больш за 200 чалавек), што ўкраінцы кажуць, што пад'ём агульны быў большы, чым на шаўчэнкаўскім свяце. Мой рэферат на тэму «Беларускія пісьменнікі як прарокі нацыянальнага адраджэння» здзівіў украінскі агул, бо, як яны шчыра прызналіся, — нічога не ведалі аб беларускім пісьменстве. Ну а я «тавар ліцом» паказваў».

У наступным лісце (канец красавіка 1923 года) Жылка заяўляе пра гатовы рукапіс першага зборніка: «Бадай год будзе, як скалаціў зборку вершаў і вось шукаю выдаўца. ... Ці не памаглі б Вы, даражэнькі Антон Іванавіч, Клецкіну[1] ўзяцца за гэту справу... Акрамя гэтага маю да друку пераклад з Франка (з украінскага) паэмы «Майсей». Сама рэч высокавартая і для адраджэнцаў жыва трапечучая».

Атрымаўшы ад Луцкевіча летам 1924 года вестку, што ёсць магчымасць надрукаваць зборнік на сродкі Беларускага выдавецкага таварыства, Жылка тут жа едзе з санаторыя на Плешы ў студэнцкі гарадок Радоцін, бярэ там рукапіс, адбірае лепшыя тэксты, перабельвае і адсылае ў Вільню. Цікава гучыць аўтарская расшыфроўка назвы і ацэнка будучай кніжкі. «Вершы гэтыя пісаныя ў 1920—22 годзе і толькі некаторыя ў 23 г. На ўсіх іх ляжыць адпячатак рамантычнасці і нашчупванне пробы шляхоў, таму і «На ростані». Не магу пахваліцца, што цяпер, у дваццаць чацвёртым годзе маю шлях, але адно пэўна — рамантычныя кветы губяць для мяне сваю прыгажосць і прывабнасць. Хацеў бы думаць, што рамантызм з'яўляецца для мяне пройдзеным. Песні адраджэнца мусяць быць мужныя, каваныя, як сталь, і тэматычна бліжшымі да жыцця. Не трэба ні ўздыханняў, ні напеўнасці, ні беларускай слязлівасці. Мы ваякі і мусім гэта сабе ўцяміць. Мы ведаем, чаго хочам, куды ідзём, чаму хварэем на туберкулёз і чаму здараецца сядзець не толькі на хлебе, але і без хлеба. Так, мы перажываем геройскі перыяд нашага Руху, і паэты мусяць гэта асабліва запамятаць».

Як бачна, Жылка лічыць сваю паэзію мастацкаю формай ідэалогіі беларускага адраджэння і прызнае за зборнікам вартасць паэтычнага дакумента, які адлюстроўвае пераход ад слязлівасці ды спецыфічна беларускага расчульвання сябе і свету народным горам да муж-

[1] Віленскі выдавец беларускіх кніг.

най паставы. Такое ўяўленне адпавядае стану вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, які ў пачатку 20-х гадоў прыняў форму ўзброенай барацьбы. Нейкім чынам Жылка ідзе ў нагу з маладнякоўцамі, прадвяшчае развод з нашаніўскаю летуценнаю, кволаю сумотай, але робіць гэта без маладнякоўскай задзірлівасці і бурапеньы. Паэт арыентуецца на суровую праўду жыцця, сутнасць якога героіка-трагедыйная. Знамянальна і другое: малады паэт не задавальняецца толькі ідэалагічным аспектам паэзіі, спрабуе ацаніць творчую эвалюцыю эстэтычна, як паварот ад рамантызму да ... так і хочацца сказаць — рэалізму, але сам Жылка не ўжыў гэтага тэрміну, абмежаваўся галоўным — сувяззю свайго паэтычнага маналога са станам грамадскай душы.

Жылкава пераадоленне рамантызму знешне чымсьці падобна на маладнякоўскае: за рамантызм прымаецца чулліває фантазёрства і манернасць. У Савецкай Беларусі рамантычны кірунак атрымліваў яшчэ ідэалагічную мянушку «шляхецкі». Пралетарская плынь «Маладняка», заўзяўшыся на арыстакратычны рамантызм, дойдзе да БелАППаўскага абсурду і стане ваяваць супраць паэтычнага падтэксту і ўмоўнасці — за паэзію фактаў.

Заходнебеларуская грамадская думка выпрацоўвала сваё разуменне рамантызму. Праблемай займаліся І. Канчэўскі, А. Луцкевіч, У. Самойла, два першыя вінавацілі пілсудчыкаў у тым, што яны, акупіраваўшы Заходнюю Беларусь, здрадзілі ідэалам рамантыкаў. Але Канчэўскі дзеля справядлівасці сам папярэджваў ад небяспекі беларускага месіянства, а Самойла выявіў раздвоенасць душы польскага рамантыка на Беларусі. Дварчанін разгледзеў рамантызм у кантэксце адраджэння, аб'явіўшы яго з'явай буржуазнай, значыць, састарэлай. У артыкуле «Самамэта ці пабочнае з'явішча» ён накрэсліў трохступенную схему беларускага адраджэння.

Першы этап у развіцці беларускай ідэі — уласна Адраджэнне, час развітання з сярэднявеччам, «залаты век шляхецкай вольнасці, дасягнуўшай свайго апагея, як ні дзіўна ў Люблінскай уніі, якая зацвердзіла роўнае з магнатамі права (на соймах, сойміках) усёй дробнай шляхце (без розніцы рэлігіі). І ў нас, як і на Захадзе, нацыянальная справа была прадана шляхтай за класавыя «прывілеі»[1].

---

[1] Дварчанін І. Самамэта ці пабочнае з'явішча // Перавясла. 1923. № 2. С. 23.

Другі этап — рамантызм, ён супярэчлівы: «...рамантык з Беларусі насіў тры чужыя скуры: лацінскую, французскую і польскую, і зусім сябе задавальняў скіданнем першых дзвюх, каб цяплей захінуцца ў трэцюю. І вось мы бачым на Беларусі адраджэнне ... польскасці, з'яўленне «літэўскай школы польскай літаратуры з «боскім» Міцкевічам на чале»[1]. Прычынай ухабістасці рамантычнага, ці «буржуазнага адраджэння» Дварчанін лічыць тое, што беларускі горад стаў па насельніцтву яўрэйскім, а крызіс прыгонніцтва прывёў да эканамічнага заняпаду краю.

Трэці этап адраджэння праходзіў у Заходняй Беларусі, знешне ён падобны да буржуазна-рамантычнага адраджэння, але галоўнае, што «сучасны буржуа не ёсць ужо новы чалавек, якім ён быў на рубяжы XVIII—XIX стагоддзяў, буржуазныя ідэалы свабоды, роўнасці і братэрства выцвілі»[2]. Сацыяльнаю базай сучаснага беларускага адраджэння Дварчанін лічыць не буржуазію, а пралетарыят і сялянства — два класы, якія складуць працоўную аснову нацыі. Вызваленчая барацьба гэтых класаў уключае ў сябе і нацыянальнае адраджэнне.

«Чалавек працы — вось новы чалавек, якому суджана быць творцам новае гісторыі, а значыць, і справы нацыянальнага адраджэння»[3].

Жылка таксама разглядае рамантызм у кантэксце адраджэння, але яго займае пытанне, як пераадолець слабыя моманты мастацкага рамантызму, ідучы да больш поўнага вызвалення эстэтычнай прыроды паэзіі як мастацтва, спосабу хваляваць душу, уключыць асобу ў нацыянальны, сацыяльны і духоўны працэс, а сутнасцю жыцця застаецца трагізм — гераічны і зніжаны або проста трагізм без эпітэтаў. Не можа быць трагічнаю толькі мэта жыцця, ідэал жыцця — у гармоніі. Душа рамантыкаў рвалася да грымотаў і бураў, але не знайшла там спакою. Мудры кніжнік Максім Багдановіч адкрыў вышэйшы сэнс быцця ў красе. Уладзімір Жылка браў у рукі «сцяг Максіма».

Прапануючы Жылку прысланць рукапіс зборніка, А. Луцкевіч, відаць, выказаў у лісце засцярогу, што вершы, якія друкаваліся ў перыёдыцы, мелі моўныя і версіфікацыйныя шурпатасці. Паэт апраўдваецца і ас-

[1] Дварчанін І. Самамэта ці пабочнае з'явішча. С. 25.
[2] Тамсама. С. 26.
[3] Тамсама.

прэчвае заўвагі, спасылаючыся на жывую мову народную і аўтарытэт вучонага-лінгвіста: «Я сумленна і строга аднёсся да слоўніка. Праўда, сустракаюцца словы з націскамі то на адным, то на другім месцы, але наша мова, як сведчыць Карскі, такія рэчы дазваляе:

Вы малойцы — малайцы,
Накажыце той дзяўцы...

Між іншым, «дзярмо»[1] і ёсць «дзярмо». Так я чуў на Наваградчыне і сустрачаў, калі не памыляюся, у Шэйна, і чаму б так не пакінуць у зборніку? Мая вялікая просьба — быць да аўтара ласкавым і калі што не так, калі што спрэчна, то вырашаць на карысць пісакі».

Перапіска з мэтрам пабуджала да развяг і высноў. Жылка хоць быў моцна заняты вучобай, недзе падсвядома выношваў задуму абнаўлення сваёй і беларускай паэзіі. У чэрвеньскім лісце 1924 года ён занатоўвае некалькі мажлівых шляхоў абновы: «Перасылаю Вам для альманаху вершык. Гадаю, што ён не зусім літаратурны, і прыміце яго як пацешную спробу (мо і першую ў нас) запынуцца перад праблемай Вечнасці і Смерці... Паэзія робіцца праклёнцем у маім жыцці — яна ўладарна выказвае свае правы і тады, калі трэба думаць аб кавалку чорствага хлеба, аб рэальных рэчах. Тады яна даймае цябе рытмам і згукамі, якія далёкія ад «рэальнасці», як габелен ад бруднай анучкі».

Жылка нашчупаў сутнасць канфлікту паміж творчым уяўленнем, імкненнем да гармоніі, хараства і рэаліямі беднага «бруднага» жыцця. Антыподам паэзіі становіцца будзённае жыццё, антынома адраджэнскай ідэі. І Жылка зноў спадзяецца, што гэты канфлікт мары з явай можна пераадолець, уліваючыся ў Рух, як раіў Адрасат, — прымаючы за ўзор народную творчасць, якая не ведае падобных разладаў і сумненняў. Але Жылка разумее, што прыклад фальклору непрымальны для пісьмовай літаратуры, самую народную паэзію трэба пераствараць. «Я згодзен з Вамі, што беларусам, творачы, трэба палажыць, як грунт для свае творчасці, народную творчасць. Паэзія кожнага народа мусіць быць нацыянальная, але мы мусім засвоіць сабе ўсе здабыткі сусветнага пісьменства. Высшае хараство будзе ў умелым згарманізаванні высокай культуры і тэхнікі [верша]

[1] У значэнні дзёран *(заўв. аўтара).*

разам з народным элементам. На жаль, гэта будзе не скора, бо мы толькі шукаем сябе...»

Затое скора, проста нечакана выйшла ў Вільні Жылкава кніжка «На ростані». 15 кастрычніка ён атрымаў аўтарскія экземпляры і адгукнуўся радасцю: «Я ніяк не чакаў пабачыць іх [вершы] так хутка ў друку, і кніжкі былі для мяне прыемнай неспадзяванкай». Неўзабаве паявіліся і станоўчыя рэцэнзіі, толькі Янка Станкевіч педантычна спаганяў з аўтара за парушэнні правіл граматыкі Тарашкевіча. Сам стваральнік граматыкі ведаў розніцу паміж мовай нарматыўна-літаратурнай і вобразна-паэтычнай, бо займаўся перакладамі з грэчаскай і польскай. У лістах Жылкі Браніслаў Тарашкевіч другая, побач з дзядзькам Антонам, постаць адраджэнца, яго і заве паэт дзядзькам Тарасам, але ў той жа час і паслом. Дарэчы, у тым жа кастрычніцкім лісце прыгадаў: «Галоўная навіна ў нашым жыцці — прыезд пасла Тараса. Ён Вам і раскажа аб нашым тутэйшым бытаванні».

Трэба прызнаць, аднак, што зборнік «На ростані» не атрымаў такога рэзанансу, як выдадзеная годам раней асобнаю кніжкай у рэдакцыі газеты БРА «Новае жыццё» Жылкава паэма «Уяўленне». Прычынай, відаць, было тое, што грамадскасць Заходняй Беларусі і беларуская эміграцыя аказаліся рашуча настроенымі на гераічны лад і не прымалі нерашучасці, пераходнасці, глядзелі на паэзію як вернікі на патрыятычнае евангелле. Паказальна ў гэтым сэнсе пазіцыя Тамаша Грыба, які, забываючыся на сваё прынцыповае непрыманне пачуццёвасці, хваліў на старонках «Перавясла» паэму «Уяўленне», а ў лісце да Жылкі прыняў са зборніка «На ростані» ў актыў беларускай ідэі толькі некалькі вершаў. Так, у паэме аўтар пяе гімн адраджэнню пераважна на рамантычна-фальклорны лад, сям-там толькі выходзіць на Блока з яго культам цудоўнай дамы, Расіі-маці, Расіі-жонкі, Расіі-сялянкі. Праблематыка і танальнасць лірыкі аказаліся больш складанымі і супярэчлівымі.

У 1925 годзе Жылка ўрыўкамі, але ўпарта абнаўляе паэзію, рэалізуе праграму, якую апавясціў у лісце да А. Луцкевіча. Дзеліцца сумненнямі, чакае водгуку, пярэчанняў. «Пішу не часта, але маю даволі напісанага за апошні час і ўсё ў гусце тых [твораў], што прысылаю Вам. З фармальнага боку яны вышэй за папярэднія, а як бы мяне радавала невымоўна, каб Вы прызна-

лі іх права на грамадзянства і збоку зместу. Жыццё, на жаль, не ўкладваецца ў патрыятычна-сацыяльны мажор (ну, хоць бы ў менскіх бардаў), ёсць іншыя танцы і часта-густа трагічныя. Беларуская літаратура не мусіць іх баяцца, а я хачу быць чэсным паэтам, а не пець, як пан кажа»[1].

Чаму ж у 1925 годзе найшло на паэта разуменне, што паэзія не можа абмежавацца толькі ідэалагічнаю функцыяй, нават такой высокай, як служба адраджэнню народа? Бо жыццё чалавека шырэй, чым палітычная ці нацыянальная свядомасць, тым больш яе аптымістычны струмень. Жыццё — трагічнае. Дык якой павінна быць паэзія?

10 лютага 1925 года Жылка закончыў складанне новага зборніка лірычных вершаў: «Выбраў да 100 лірычных п'есак. Па зместу яны ці нацыянальныя (іх мала), ці свабодныя (апошніх у меру). У іншым месцы акрамя Вільні гэты зборнік не можа з'явіцца ў друку: нахіл да рэфлексій, эстэтызму, залішняя ўвага да свайго «я» — гэтаму прычына. Але, на мой дурны розум (і кожны цыган свайго каня хваліць) здавалася б, што зборнік меў бы некаторую *літаратурную* вартасць, каб убачыў свет. Тэхніка яго вышэй [чым] «На ростані» і тэматычна глыбей, а калі ёсць месцамі couler noire[2], то дазвольце вымазаць падобнае з жыцця, і тады напэўна не будзе і ў паэзіі. Як бы Вы думалі? Напішыце мне аб сваіх адносінах да гэтай «авантуры».

На жаль, невядома, што адказаў паэту А. Луцкевіч, але з далейшых Жылкавых лістоў можна здагадацца, што выдавецтва не знайшло сродкаў. Мажліва, і выдаўцы не пахвалілі «вольных» вершаў Жылкі, прысвечаных трагізму кахання, адчужэння ад грамадства люмпенізаваных нізоў і задворкаў. Не пасавала да адраджэння безнадзейнасць з карчомным чадам. Ідэя красы, што выратоўвае апушчанага чалавека з бездані, відаць, была яшчэ не актуальнай для Заходняй Беларусі, якая схільна была думаць катэгорыямі масавых пакут, гневу і парываў да волі. Не да ружаў, калі гараць лясы. Дарэчы, пасля пераезду ў Мінск гэтыя творы прынеслі аўтару шмат прыкрасці, хоць гаварылася там пра згубны для чулага чалавека «ўласніцкі свет».

---

[1] Польская прыказка «Як пан кажа — слуга мусіць».
[2] Чорны колер (*франц.*).

Пытаннямі паэзіі поўняцца лісты 1925 года, але тэма выдання зборніка ажыла толькі ў канцы года. Услед за рукапісам новай кніжкі Жылка паслаў яшчэ пяць вершаў 1924 года, што не трапілі ў першы зборнік, сярод іх «Экспрэс» і «Праметэй». Першы Жылка прэзентуе як «новую спробу пабудаваць верш на клічніках і запытальніках», што сінтаксічна набліжае яго да псеўдакласічных одаў. «Сінтаксіс рамантыкаў і сімвалістаў, — гаворыць паэт, — мае свае адметныя адзнакі». Абновы формы ён лічыць паказальнымі і падкрэслівае: «...па сваёй творчасці набліжаюся да так званых неакласікаў, хоць сімпатыі да іншага». Наконт «Экспрэса» прызнае, што верш «перанасычаны сярэдзіннымі рыфмамі і асанансамі, алітэрацыямі, і нейкі траскучы, хоць і тэма такая ж». Як бы парыруючы дакор за штукарства, аўтар растлумачвае, што яго цікавіла адно: «...прыдатнасць нашай мовы для перадачы чаго і чаго зажадаеш, яе рухавасць і багацце, хараство, сілу, мяккасць, пявучасць. І толькі сумна, што ведаеш яе не гэтак, як бы хацеў. Павучыўся б чалавек ад нашых вясковых бабаў, ад нашых старых дзядоў, але... Эх!»

Апошні раз повад для гаворкі на літаратурныя тэмы далі «Вершы аб Вільні», дакладней, артыкул Луцкевіча «Вільня ў беларускай паэзіі», у тэкст якога ўроссып уманціраваны Жылкаў цыкл. Аўтар спадзяваўся, што яго вершы зацікавяць чытача «не толькі з літаратурнага боку», ды і сам пачаў гаворку з мовы, стылю: «Здагадваюся, што будзеце незадаволены з такіх слоў, як «эротыка», «электрыка», «готыка». Але гэта не толькі словы, а і паняцці. Як без іх абыдзешся?» Заглыбляючыся ў форму верша наогул, Жылка пытаецца, як літаратуразнавец аднёсся б да такой жорсткай страфы, як virelei, а потым і «да эстэтычнага кірунку ў беларускай паэзіі». На першы погляд здаецца, што паэт хоча падражніць крытыка, але раптам ён закідвае вуду ажно цераз дзве мяжы — да Менска: «Менчукі ў сваіх крытычных артыкулах радуюцца, што ў нас вось толькі нацыянальная ды сацыяльная тэмы. Гэта такая радасць бессэнсоўная, як і таму, што няма беларускай буржуазіі. Было б добра, каб на беларускай зямлі агулам не было жаднае буржуазіі — тады радуйся. А яна ёсць, яна грабіць беларускіх сярмяжнікаў, і гора, што яна не нацыянальная. У канечным развіцці і фармаванні нашага народа яна з'явіцца і будзе паказчыкам вышэйшае формы нацыі. Таксама ў

літаратуры будзе новай ступенню прыход агульначалавечых тэмаў... Адным словам, я хачу сказаць, што маю права пісаць не толькі ура-патрыятычна-пралетарскія рэчы, але і заставацца ў самотным ціхім храме Харства.

Мой лятунак выдаць кніжку не больш 30—50 вершаў выключна з матывамі кахання, смерці, хараства прыроды, мескіх тавэрнаў і падобнага... Французы, немцы і нават расейцы пад саветамі выпускаюць такія кніжкі кожны дзень. І верхавіны французскае лірыкі безумоўна не ў Беранжэ, а ў Бадлера, Верхарна, як і расейскай не ў Някрасава, а ў Цютчава, Пушкіна. І да слова, наш зямляк Міцкевіч слаўны і агульначалавечай вартасці паэт не тады, як кліча: «O, Matko Polsko! Ty tam świeżo w grobie złożona»..., а ў Крымскіх санетах», у «Конрадзе Валенродзе», у «Імправізацыі»!!!

Запрапанаваў бы Вам, БВТ — выдаць мае эстэтычныя спробы за 1924 год і пачатак гэтага года, каб не ведаў, якія Вы бедныя». Такім чынам, Жылка заўважаў заідэалагізаванасць маладняко́ўскай паэзіі і літаратурнай думкі ў БССР, але не дапускаў, што прынятае там ідэалагічнае аднадумства абавязвае ўсіх, і яму пасля вяртання скажуць: «Хоць ялаў, дык жаніся». А можа, таму ён не бачыў сабе ідэалагічнай пагрозы ў БССР, што сам не пераставаў уводзіць у вершы і сацыяльныя, і нацыянальныя матывы. Прачытаўшы прысланы яму ў снежні 1925 года артыкул А. Навіны «Вільня ў беларускай паэзіі», Жылка з радасцю сцвярджае ідэалагічнае супадзенне поглядаў: «Мы аднолькава глядзім на Вільню. Ваша аўтарытэтнае слова яшчэ болей пераконвае мяне, што к вырашэнню «Віленскага пытання» прыдзем толькі *нашым* шляхам. І яшчэ веру ў здзяйсненне сапраўднай сувярэннасці нашага народа, сапраўднае незалежнасці адбудзецца толькі ў Вільні, ці ... нідзе. Менск — этап у развіцці і поступе нашай ідэі».

Літаратурная гаворка, як бачым, спаўзла на палітыку. Але вярнулася назад, бо палітыка, як яе разумелі марксісцкія артадоксы, здавалася Жылку вузкай: «Аднойй палітыкай доўга не ўгоніш (і па талмуду выходзіць, што яна толькі «надстройка»), трэба будова. Хацеў бы, каб і мяне не адкінулі, толькі я «всерьёз и надолго» ўзяў курс на М. Багдановіча і не ведаю, як прыдуся да двара. Шкада, што не магу развіць сваіх думак у друку. Але за свой сцяг [Максіма] гатовы змагацца... Між ін-

шым, inter nos — маладнякоўцы не тое, хоць між імі шмат мілых хлопцаў».

Так завяршаецца 29 снежня 1925 года цікавая і змястоўная гаворка паміж У. Жылкам і А. Луцкевічам аб літаратуры, яе нацыянальным і агульначалавечым змесце, аб месцы і ролі ў беларускім вызваленчым руху, грамадскім і духоўным жыцці.

Перапіска наступнага, 1926 года датычыцца толькі вяртання на радзіму самога Жылкі і дзеячаў беларускай палітычнай эміграцыі. Праблема гэтая стала настолькі важнай для паэта-эмігранта, што ён не здолеў заўважыць, як яго тэзісы аб перавазе гуманітарных каштоўнасцяў над палітыкай аказаліся абвергнутымі самім жыццём, нават яго ўласным.

Ёсць у канцоўцы апошняга з захаваных лістоў Жылкі да Луцкевіча (нейкая іронія лёсу): «Зрабіце ласку і не адмоўце перадаць пісульку Іг[нату] Дварчаніну. Новага ліста чакайце ад мяне з новых месц».

Новага ліста не захавалася, верагодна, яго не было па той прычыне, па якой адпраўнік не атрымаў ліста ад Пракулевіча і Зайца — дзеля ўзаемнай бяспекі. Невядома, ці пісаў каму-небудзь Жылка лісты ў Вільню пасля пераезду ў Мінск. Перапісваўся толькі з Людмілай Краскоўскай, распытваў пра самых блізкіх сяброў, цераз яе перадаваў ім прывітанні. Бацькі Краскоўскай жылі ў Мінску, ды яна сама наведвала іх у часе летніх канікул. З астатнімі блізкімі сябрамі, якія мелі сем'і ў Заходняй Беларусі, Жылка не перапісваўся. Вось выпіска з ліста 1928 года, прысланая мне Людмілай Іванаўнай 4 красавіка 1991 г.: «Цалуй моцна ўсіх хлопцаў. Каберца згадваю кожны дзень — як я яго люблю і як шкада яго. Жыццё несправядліва да сваіх лепшых, а такіх, як Міхась, мала, вельмі мала. Напішы яму і прывітай ад мяне».

У іншым лісце Жылка паведамляе, што гаварыў аб дазволе вяртання Каберца ў БССР з «адказнымі працаўнікамі. Яны абяцалі зрабіць што-небудзь». Асаблівай сімпатыяй і ўвагай абдорвае паэт Жэньку (Яўгена Дыліса), Гіляра (брата Ігната Дварчаніна), Леўку (Лявона Рыдлеўскага), Любу Вернікоўскую і Лізу Мілоўскую, але пісаць да іх не спрабуе. Што датычыць А. Луцкевіча, дык паэт захаваў да яго пашану, мабыць, да суда над Беларускай сялянска-рабочай грамадой. Працуючы ў рэдакцыі газеты «Звязда», Жылка, напэўна, ве-

даў шмат падрабязнасцяў пра суд над кіраўніцтвам БСРГ, на якім прысутнічаў, між іншым, уласны карэспандэнт «Звязды». Публікаваліся поруч з рэпартажамі з залы суда артыкулы ўдзельнікаў заходнебеларускага вызваленчага руху, што апынуліся ў Мінску на правах палітэмігрантаў. Напрыклад, Жабінскі з бытавымі падрабязнасцямі выкрываў Міхася Гурына-Маразоўскага, які ў свой час блізка стаяў да кіраўніцтва БРА і КПЗБ, а потым аказаўся платным правакатарам і дапамагаў суду давесці, быццам беларускі рух «інспіраваны» з-за мяжы, а яго кіраўніцтва жыве на савецкія грошы[1].

30 кастрычніка 1927 года Жылка надрукаваў у «Звяздзе» верш «А. Навіне». Гэта быў, відавочна, той самы верш, які ён пасылаў Луцкевічу напярэдадні 1925 года замест навагодняга падарунка. У заходнебеларускім друку верш не друкаваўся. Публікацыю твора ў «Звяздзе» ёсць падстава ўспрымаць як акт падтрымкі арыштаваных лідэраў Грамады — Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і інш. А. Луцкевіч стаў для яго цяпер не толькі мозгам вызваленчага руху, а пакутнікам за ідэалы, постаццю сімвалічнай.

Так шукальнікі новых прастораў,
Вынаходцы краёў незнаёмых
З безжахліваю мужнаю думкай
І нязломнай сталёваю воляй;

Падарожныя ў тайнасці ведаў,
Неспакойны чый розум, як шруба,
Што без нехаці ў несыці вечнай
Зашрубоўвае ўдаль і глыбіні.

Заваёўнікі мечам і духам,
Для якіх у запале адвагі,
Падбіваючы сэрцы й дзяржавы,
Не існуе ні меж, ні запынаў.

Песняры, мастакі і музыкі,
Хараства і сугучнасці слугі,
Закаханыя ў буру і громы
І з душой, як збаночкі лілеяў.

Будаўнічыя вежаў і гмахаў,
Падпіраючым неба і неба,
Усе, што прыйдуць да нас і за намі,
Каб тварыць, дасягаць і імкнуцца.

Усе вам мімаволь пазайздросцяць.

---

[1] Ёсць дакументы, якія сведчаць, што Гурын быў засланым з БССР функцыянерам.

«Звязда» пільна сачыла за судовым працэсам над БСРГ, складваецца нават уражанне, што вызваленчы рух Заходняй Беларусі, яго ацэнкі выступаюць нейкім ідэалагічным іншасказаннем, сігналізатарам змен не так у практыцы руху, як у ідэалогіі, якая дыктуе падыходы і плануе ацэнкі.

Так, 9 лютага 1928 года «Звязда» змясціла агульны артыкул А. Цвікевіча пад назвай «Грамада», дзе аўтар сцвярджае, што «барацьба народных мас у Заходняй Беларусі... павялічыла прыцягальную сілу Мінска, які разгортваў працу па культурным, эканамічным і дзяржаўным адраджэнні Беларусі».

3 сакавіка ў рэпартажы з залы суда над Грамадою прыводзіцца паказанне камісара паліцыі Васілеўскага: «Луцкевіч быў душою беларускага руху і кіраваў гэтым рухам па дырэктывах Камінтэрну». Сакратар ЦК КПЗБ Корчык 22 верасня змяшчае першы антыінтэлігенцкі артыкул «Небяспечны ўхіл», дзе заяўляе, што небяспекай для заходнебеларускага вызваленчага руху з'яўляецца тое, што ім кіруе інтэлігенцкая верхавіна, «уносячы ў рух элементы дробнамяшчанскай нацыяналістычнай ідэалогіі, цягне гэты рух назад да лозунга нашаніўскага адраджэння».

У крытычны час У. Жылка, як і належала паэту, быў закаханы ў студэнтку музвучылішча семнаццацігадовую Рыму Маневіч, паехаў на лета да брата Алега, дырэктара пачатковай школы ў вёсцы Лісічына на Міншчыне, пісаў свой зорны цыкл любоўных вершаў і слаў каханай чулыя лісты.

А восенню ўрачы паслалі яго, хворага, з крывахарканнем, лячыцца ў Ялту.

У маі А. Луцкевіч адрокся на судзе ад Грамады і яе кіраўніцтва, кінуў у бядзе сваіх сяброў-таварышаў, адраджэнцаў, калегаў па рабоце ў гімназіі — Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і выйшаў на волю. Тое ж зрабілі юрыдычны кансультант Грамады Фабіян Акінчыц і дырэктар замежнага банка, ён жа дырэктар гімназіі Радаслаў Астроўскі. Адрачэнне вядомых дасюль сваёй рэспектабельнасцю асоб спрацавала на верагоднасць паліцэйска-пракурорскай версіі, нібыта Грамада — падрыўная арганізацыя, замаскіраваная «прыбудоўка» падпольнай КПЗБ, пятая калона, падпарадкаваная чужой дзяржаве.

Рэакцыйная прэса Польшчы абвяшчала адступніцтва,

збіваючы высокую хвалю маральна-палітычнага спрыяння Грамадзе на міжнароднай арэне.

Як аднёсся да фатальнага кроку свайго дарадчыка і патрона У. Жылка — дакладна невядома. Вядомы толькі выбух левасектанцкіх настрояў у БССР і заходнебеларускім падполлі, фанатызацыя літаратурнага асяроддзя, выкарыстанне факту адступніцтва для абрыджвання ўсёй інтэлігенцыі. Галоўнаю прычынай рэцыдываў сектанцтва і левізны на сутыку 20-х і 30-х гадоў стала нарастанне сусветнага эканамічнага крызісу, які ацэньваўся левымі камуністамі як новы шанц для сусветнай рэвалюцыі. У СССР дадатковым каталізатарам левізны стала прымусовая, непрымальная для вясковых эліт калектывізацыя. Расколіна ў верхнім эшалоне заходнебеларускага рэвалюцыйна-вызваленчага руху давала левасектанцкім сілам гатовы кампрамат. Інтэлігенцыя на ўсходнім баку Рыжскай мяжы атрымала мянушку гнілой, а на заходнім — здрадлівай. Не бяруся сказаць, як у душы пераносіў А. Луцкевіч свой фатальны ход, але ў публічным жыцці паступаў як нельга горш: замест таго каб адысці з палітыкі, як раней рабіў, уступіў у антыкамуністычны хаўрус з Астроўскім, якога грамадская думка абвяціла платным агентам дэфензівы, і з Акінчыцам, які ўжо тады апускаўся да братання з фашыстамі. Паводле прынцыпу «Скажы мне, хто твой сябар, я скажу, хто ты» А. Луцкевіч аказаўся жывым увасабленнем не адступніцтва як чалавечай слабасці ў евангельскім разуменні, а сімвалам палітычнай ненадзейнасці. Такога ў краі, ахопленым нацыянальна-вызваленчай барацьбой, згуртаваным баявой салідарнасцю і маральнай дысцыплінай, не дароўвалася.

У альманаху «Маладая Беларусь», які нельга западозрыць у сувязях з КПЗБ (выдаваў у Вільні ў 1936 годзе М. Шчорс, рэдагаваў Вітаўт Тумаш) з'явілася паведамленне аб пастанове таварыскага суда над дзеячамі, якія абвінавачваліся ў канфідэнцыяльных кантактах з урадавымі органамі. «Суд сцвердзіў знаны агульна факт — карыстанне арганізацыяў, кіраўнікамі якіх былі вышэйуспомненыя асобы [Астроўскі, Луцкевіч, Самойла і Трэпка], з канфідэнцыяльных сум, а ў адносінах да дырэктара беларускай філіі польскай гімназіі імя Сладацкага — Астроўскага суд прызнаў яшчэ дэмаралізуючы ўплыў на студэнцкую моладзь карпарацыі «Скарынія». Трэба зазначыць, што да 1934 года беларускім

санацыйным кірункам кіравалі супольна, як Астроўскі, так і Луцкевіч і Трэпка»[1].

У БССР левасектанцкая кампанія прыняла форму контрбеларусізацыі. Ідэалагічная артпадрыхтоўка працягвалася да лета 1930 года. Падобна было на тое, што да выкрывання ворагаў, да «крытыкі і самакрытыкі», да шпіёнаманіі людзі пачалі прывыкаць, а некаторыя набраліся смаку, як ведзьмы да шабашавання. Праўда, пісьменнікі старэйшага пакалення спрабавалі сарамаціць разгайсаны маладняк за непрыстойнасць. Павагу да класікі, цягу да культуры творчасці і да агульнай культуры праявіла бадай што толькі эліта «Узвышша» на чале з У. Дубоўкам, Я. Пушчам і А. Бабарэкам.

«Мужчыны падружыліся, — піша ва ўспамінах жонка Язэпа Пушчы Станіслава Эдуардаўна Плашчынская. — Бывалі часта ў нас Бабарэкі Аня і Адам, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот. Жылка з Пушчам чыталі свае вершы. Жылка і Купцэвіч расказвалі пра Чэхію... Вечарамі пілі чай, а часам і бутэльку добрага віна. Сядзелі да пазна»[2].

Сяброўства з узвышэнцамі і сямейнае клапатное шчасце дапамаглі Жылку забывацца пра хваробу, паблажліва зносіць нападкі крытыкаў і матэрыяльныя цяжкасці. «У 1929 годзе, — піша С. Плашчынская, — у нас нарадзілася другая дачушка. І ў Жылкаў нарадзілася дачушка, а я яшчэ не бачыла яе, і мне вельмі хацелася пайсці да іх. Яны жылі ў невялікім пакоі. Пасядзелі, гаспадары расказвалі пра Ялту, мора. Рыма іграла на піяніне, а малеча Беата ў такт музыкі дрыгала ножкамі. Беаце было ўжо 3 месяцы, а нашай 6. Уладзік з Рымай у той вечар падарылі сваё фота, ялцінскае, якое ў мяне і зараз ёсць, хоць і ездзіла ў ссылку на Урал... Уладзік выглядаў не зусім добра, ён і быў хударлявы, а тут — зусім, зусім схуднелы, бледны».

У красавіку 1928 года Жылка і яго сябар па рабоце ў «Звяздзе» Фэлікс Купцэвіч былі выключаны з «Маладняка»: адзін за пасіўнасць, другі — за ідэалагічную ўхілістасць, сталі ўвасабленнем чужакоў, аб'ектамі публічнага цкавання. Восенню Жылка перастаў працаваць у рэдакцыі «Звязды», застаўся выкладчыкам музвучылі-

[1] Маладая Беларусь. С. 69.
[2] Тэкст у аўтара публікацыі.

шча, хоць яшчэ не ўсведамляў, відаць, небяспекі, якая насоўвалася на яго і на ўсіх добрых сяброў.

У БССР тым часам пачала на свой лад асвойвацца палітычная дактрына аб імперыялістычнай пагрозе, вырастала крымінальная версія, паводле якой усе заходнебеларускія інтэлігенты, што знайшлі прыстанішча ў БССР, з'яўляюцца завербаванымі агентамі дэфензівы. Сябра Валянціна Таўлая Юрый Тарасюк расказваў мне, што злавесная версія хадзіла не толькі ў галовах следчых, суддзяў, наглядчыкаў, а і сярод падсудных, ссыльных і зняволеных. Аглавушаны дзікім абвінавачаннем чалавек і сябе баяўся лічыць невінаватым, а ў вінаватасці астатніх, асабліва «заходнікаў», пераставаў сумнявацца: не могуць жа ўлады так масава памыляцца. Сустрэнецца з такою аблудай і Жылка, калі ссыльныя таварышы, даведзеныя да адчаю абсурднай віной і незаслужанай карай, стануць вінаваціць яго і такіх, як ён, і папракаць, што прывезлі з замежжа антысавецкую заразу, за якую пакутаваць даводзіцца ўсім. Менш вінавацілі пакутнікі следчых, суддзяў, пракурораў з «троек» і «асобых нарад», якія судзілі «па рэвалюцыйным сумленні». Рэпрэсіўная вакханалія стала звычнай. З часоў грамадзянскай вайны ўвайшлі ў кроў і плоць новага ладу «чрэзвычайкі».

Станіслава Эдуардаўна Плашчынская так згадвае набліжэнне бяды ў 1930 годзе: «У часе зімовых канікул прыязджаў з Масквы Уладзімір Дубоўка, і дамовіліся з Язэпам і Адамам Бабарэкам, што летам паедуць на Каўказ падзівіцца на прыгажосць гэтага краю. Вось яны [Пушча з Бабарэкам. — *У. К.*] паехалі ў Маскву да Дубоўкі. Меркавалі пабыць тыдні 2—3, але прыехалі праз 8 дзён. Пытаю ў мужа: «Чаму так хутка?» А ён кажа, што нікуды не ездзілі яны. У Маскве жах што робіцца. Хапаюць людзей і арыштоўваюць нават у цягніку: «Предъявите документы. Пойдемте с нами!» Хлопцы пагаварылі і рашылі нікуды не ехаць: калі што здарыцца, то няхай гэта будзе дома, каб ведалі родныя, дзе шукаць».

Пушча дапамагаў бацьку то касіць канюшыну, то яе сухую звозіць. «24 ліпеня быў страшэнны дождж, грымоты, маланка і ноччу... стук у вароты. Бацька выйшаў і пытае: «Хто там?» Старшыня сельсавета кажа: «Плашчынскі, адчыніце». Калі адчынілі, то разам з прадсядацелем увайшлі 4 вайскоўцы: 2 салдаты і два вышэй-

шыя чыны — гэпэушнікі. І забралі Пушчу і павезлі ў чорным воране ў Мінск».

У. Жылка трапіў пад першую хвалю павальных арыштаў, як і Я. Пушча.

«У тую ноч, — прыгадвае С. Плашчынская, — забралі Адама Бабарэку, у Маскве Дубоўку. Калі праз пару дзён я пайшла ў Мінск з перадачай, то мне стала страшна: колькі народу стаяла з перадачамі! Уся інтэлігенцыя гораду сядзела за кратамі. Амаль уся універсітэцкая прафесура. Рэктар універсітэта У. Пічэта, прарэктар Чаржынскі, Я. Лёсік, а пісьменнікаў!!!»

Першай смяротнай ахвярай контрбеларусізацыі ў Мінску стаў зацкаваны на выкліках у ДПУ Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі. Натхніцель беларусізацыі, буйны гісторык, ён ведаў шаленствы «смутных времен» і выбраў адзінае дастойнае выйсце з калізіі трагічнага абсурду — самагубства.

«Праз некаторы час, — піша С. Плашчынская, — я спаткалася з Рымай. Яна сказала, што ў тую ж ноч арыштавалі Уладзіка, але ён ляжыць у тубдыспансеры. Яму вельмі дрэнна, зноў адкрылася крывахарканне.

Я пайшла разам з Рымай наведаць яго. Ляжаў бледны, схуднелы. Быў нам вельмі рады...

Балюча было глядзець на яго, так цяжка хворага, такога маладога».

Памяць чалавечая надзейна захоўвае звычайна падзеі, якія ўсхвалявалі, узрушылі, здзівілі, а многа важных фактаў праходзіць па-за ўвагай сведкаў, здаюцца не цікавымі. Нашчадкам жа патрэбны поўны рэестр падзей, каб зразумець мінулае. Архіўныя матэрыялы арышту, следства і суда ўяўляюць сабою такі рэестр, хоць і няпоўны, няма там многіх пратаколаў допыту.

Яшчэ перад атрыманнем допуску ў архіў расказваў мне ў прыватнай гутарцы намеснік пракурора Мінскай вобласці, зямляк Сямён Уладзіміравіч Скаруліс, які займаўся рэабілітацыяй рэпрэсіраваных грамадзян Беларусі, што арышт Язэпа Пушчы падрабязна апісаны ў рапарце малапісьменнага, але заядлага следчага, нейкага Зарыцкага. Службіст насцярожыўся, пачуўшы, што бацька паэта, хутаранец, мяркуючы па абразах у хаце, каталік ды шляхціц з засценка Каралішчавічы Паўлюк Плашчынскі, разбуджаны дамашнімі, зірнуў на чужых людзей і міжволі вымавіў жонцы: «Прыйшлі забраць на-

шага Язэпа»[1]. Следчы ўхапіў аброненае слова і занёс у рапарт, як праяву сямейнага пачування віны. Можна ўсклікнуць: жывы Фрэйд! Счытванне падсвядомага сэнсу ў словах, сказаных спрасоння...

Але на пытанне чужых людзей, дзе сын, гаспадар ужо не адказваў. Сакратар Каралішчавіцкага сельсавета ашукаў яго, сказаў, што мае даручэнне асабіста аддаць Язэпу важную тэлеграму. Бацька падумаў і прамовіў, што абодва сыны спяць у гумне, цэлы ж дзень звозілі жыта, натаміліся. Не даслухаўшы да канца, сакратар са следчым сквапна кінуліся ўхапіць дабычу. Гаспадар жа зноў зацяўся і не пайшоў адмыкаць гумна.

Маладыя Плашчынскія аказаліся больш пільнымі за старога, уцямілі, чым тут пахне, і затаіліся ў сене. Язэп мог меркаваць, што, застаўшыся на волі, здолее неяк прабрацца ў Мінск ды папрасіць заступніцтва хоць бы ў наркома асветы Баліцкага, які пасылаў яго стыпендыятам на вучобу ў Ленінград, а то дойдзе і да Янкі Купалы, які па-бацькоўску апекаваў літаратурную моладзь, не адмаўляў у падтрымцы нават няўдзячнікам, што браліся ў рожкі з класікамі. Хто ж то ведаў у тую ноч, што следчая каманда АДПУ БВА, узначаленая Рапапортам, Аргавым і Сікорскім, назначыла Купалу і Коласу ролю ідэйных натхніцеляў выдуманага «Саюза вызвалення Беларусі», а нарком асветы Баліцкі таксама быў на падазрэнні.

Паэту Язэпу Пушчу ноч 24 ліпеня выдалася, напэўна, злавесным часам прыходу на бацькаў двор «чужых людзей», пра цёмныя намеры якіх ён пісаў з Ленінграда ў «Лістах да сабакі»:

Даруй, што я пішу табе аб гэтым, —
Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,
Вуглоў каб не разнеслі людзі вуліц...

І ты адзін правёў у ноч такую,
Правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год святкую
І слухаю, ці ў дзверы хто не дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось рукі заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак, —
Пішу аб гэтым я табе з Расіі.

---

[1] Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь. Дадзеныя з «Дела по обвинению Ластовского Вацлава... и др.». Т. 2. Старонкі ў дужках.

Мабыць, карцела і старому Плашчынскаму падцкаваць сабакаю чужых людзей, выгнаць са двара, але то былі ваўкалакі, бо не тэлеграму нейкую прывезлі яны, а ордэр на арышт. Няпрошаныя госці адчувалі тут сябе гаспадарамі, а законныя гаспадары жылі ўжо ў іх на ласцы.

Абодва «паштары» ўзяліся падважваць і здымаць з крукоў фортку гуменных варот. Прывялі ў хату Язэпа. Функцыянер зачытаў яму пракурорскі дазвол на арышт і вобыск.Ператрэслі ўсю хату і гумно, да раніцы калупаліся ў паперах, пазабіралі ўсё, што здалося падазроным. На досвітку павезлі Язэпа ў Мінск.

Уладзіміра Дубоўку арыштавалі на чатыры дні раней, у Маскве, «на службе в Кремле», адрас месца жыхарства: «Мало-Грузинский переулок, д. 34, кв. 13; летом — дача Перловка, квартал III, д. 5 (с. 693). Усе гэтыя дадзеныя з анкеты мелі стаць па задуме супрацьрэпрэсіўнымі амулетамі. Паэт працаваў рэдактарам беларускамоўных дакументаў Саўнаркома СССР. Бацькі яго ад часу бежанства жылі ў Маскве, а незадоўга да арышту ў сталіцу пераехаў старэйшы брат Вячаслаў, былы рабочы, які добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, адваяваў грамадзянскую вайну, даслужыўся да звання камандзіра і ўлетку 1930 года быў накіраваны на вучобу ў Ваенную акадэмію. Даведаўшыся аб арышце брата, ён напісаў грунтоўнае пісьмо ў тры адрасы: сакратару ЦК КПБ Гею, начальніку АДПУ Рапапорту, адказнаму сакратару ЦБ ячэек Ваеннай акадэміі. Дакумент, як для сучаснага чытача, сцішнаваты. Дубоўка-старэйшы піша, што ён член партыі бальшавікоў, да якое прыйшоў у 1918 годзе, малодшыя два браты — камсамольцы, «стихов (по своей натуре) не люблю, поэтому каких-либо выводов делать или что-либо доказывать не собираюсь... языка белорусского не знаю, т. к. вся моя жизнь... протекала на территории РСФСР». З братам ён сустракаўся рэдка, толькі ў час службовых прыездаў у Маскву, з прыватных гутарак мяркуе, аднак, што той не быў праціўнікам савецкай улады. Чуў ад яго толькі нараканне, што творы яго зацiскаюць у выдавецтвах. Цішка Гартны сказаў нават, што пакуль ён кіруе Дзяржаўным выдавецтвам, датуль ніводная кніга Уладзіміра Дубоўкі не выйдзе з друку. Вайсковец бачыў тут няўвагу да маладых кадраў творчай інтэлігенцыі: замест таго каб прыцягваць маладых паэтаў да будаўніцтва сацыя-

лістычнай культуры, іх адштурхоўваюць. За лаяльнасць брата да савецкай улады паручаецца. Праўда, уставіў чырвоны камандзір усё ж ідэалагічнае заклінанне, якое патыхала этычнаю порчай тае пары: «Я — член партии большевиков и враги партии, советской власти, враги диктатуры пролетариата — мои враги. Никакими родственным чувствам и связям места нет и быть не может» (с. 709).

Не ўсведамляў камандзір, сялянскі сын, што зрабіў ён уступку этычнай дэфармацыі, якая адбылася ў аўтарытарнай дзяржаве: прызнаў дыктатуру пралетарыяту каштоўнасцю, перад якой адвечныя духоўныя вартасці — братэрская роднасць, любоў і давер, сямейнае цяпло і падтрымка нічога не варты. Заява Вячаслава Дубоўкі трапіла да адрасатаў, была далучана да следчай справы, але на ход следства не зрабіла станоўчага ўплыву. Уладзімір Дубоўка атрымаў тую ж стандартную кару — пяць гадоў высылкі. У 1935 годзе яму, як і многім, тэрмін быў прадоўжаны да 1937 года (выходзіла, ужо ў 1935 годзе планаваўся і рыхтаваўся пякельны 1937-мы). Пасяленец У. Дубоўка 16 лістапада 1937 года быў асуджаны спецтройкай Чувашыі на 10 гадоў пазбаўлення волі «за антысавецкую агітацыю». Праследаванні, пазбаўленне грамадзянскай годнасці прывялі да таго, што паэт замкнуўся душою, перастаў пісаць, памяняў пяро на сякеру і гэблік, плазаваў і габляваў падваліны сацыялізму ажно да смерці Сталіна. Нават пасля рэабілітацыі колісь нязломны важак узвышэнцаў не мог збавіцца ад сляпога страху перад непрадказуемасцю ўлады. На сяброўскай вечарыне з выпадку свайго 60-годдзя будзе пераводзіць тосты за юбіляра ў заклінальныя ідэалагізмы.

Адам Бабарэка быў арыштаваны 24 ліпеня ў Мінску, на кватэры, пратакол арышту і вобыску захаваў дзве падрабязнасці: творчую і пікантную. У арыштаванага знайшлі і забралі запісы, «разные документы» і архіў літаратурнага аб'яднання «Узвышша» (с. 716), але вышнырылі яшчэ шэсць царскіх залатых манет вартасцю па пяць рублёў. Гэта кваліфікавалася як прысваенне і ўкрыванне дзяржаўнай маёмасці.

Жылка аказаўся першым арыштаваным беларускім пісьменнікам. Яго затрымалі 18 ліпеня 1930 года, як мне расказваў брат паэта Барыс, на дачы, якую той здымаў у вёсцы Баравое пад Мінскам, у гаспадара Толсціка.

Арышт жа афармілі ў Мінску, на кватэры Язэпа Пушчы, якую гаспадар уступіў Жылку на час сваёй вучобы ў Ленінградзе. Пры вобыску, як сведчаць дакументы, узята 27 кніг, папка з часопісамі і рознымі бланкамі на чэшскай мове, «разная переписка», біяграфія Жылкі... Пратакол арышту ды запоўненая адразу ў турме анкета захоўваюць шмат фактаў, якія не былі вядомы ні айчынным, ні замежным біёграфам паэта. Жылка, мабыць, сам настаяў, каб унеслі ў следчыя дакументы колькі фактаў, што маглі б азначаць пратэст супраць беспадстаўнага арышту. Як і Дубоўка, ён адмовіўся падпісаць атрыманне абвінавачвання, за яго падпісаў брат Кастусь, які вучыўся на медфаку БДУ і жыў на кватэры ў жанатага брата. Больш таго, «при обыске была заявлена жалоба по заявлению» (с. 728), — гаворыцца ў пратаколе. Анкета змяшчае карысныя для арыштаванага дадзеныя: падвяргаўся вобыску ў Вільні польскімі ўладамі як рэдактар беларускай газеты. На жаль, не названа газета, рэдактарам якой быў Жылка, мажліва, гэта была адна з аднадзёнак, што спехам выдаваліся ўслед за канфіскаваным нумарам асноўнага выдання, каб не прапаў набраны ў друкарні матэрыял.

Удакладненымі дэталямі біяграфіі з'яўляюцца: «...да сакавіка 1917 г. вучыўся ў Тульскай губ. у с/гас. вучылішчы; у 17 г. вучыўся ў с/х школе да 1919. З 1919 — настаўнікам у беларускай школе ў Мінску. У 1921 г. у Вільні займаўся палітычнай работай. У 1922 уцёк у Літву, жыў у Коўне, у Дзвінску і пераехаў у Прагу, рыхтаваўся на атэстат сталасці і паступіў у Універсітэт — па 1926 г.». Цікавы новымі дэталямі і мінскі раздзел анкеты: «У 1926 — ін. Бел. Культ. і «Беларуская вёска», у 1927 — у «Звяздзе» — заг. аддзелам. У 1928 г. — Белдзяржкіно, перакладчык. З вясны 1929 хворы, лячыўся».

Важным з'яўляецца прызнанне, што з 1919 года па 1922—1923-ці Жылка быў членам партыі беларускіх эсэраў. Антон Адамовіч, праўда, пісаў у прадмове да нью-йоркскага выдання твораў паэта, што Жылка належаў да баявой дружыны беларускіх эсэраў, але, мне здаецца, гэта мала верагодна з-за стану здароўя, зрэшты, і ў Празе, мяркуючы па перапісцы, ён не рваўся да дзейнага ўдзелу ў арганізацыйнай рабоце тамашняй групы беларускіх эсэраў. Запіс у анкеце здымае сумненні і пралівае святло на прычыны разрыву адносін Жылкі з ідэолагам беларускіх эсэраў Тамашом Грыбам. Ак-

рамя асабістага і літаратурна-творчага пахаладжэння гэта было яшчэ і разыходжанне палітычных арыентацый у пераломны момант.

Жылка настойваў на ўпісанні ў анкету, што ён хворы адкрытаю формай туберкулёзу лёгкіх і яму «накладзены пнеўматаракс (пачата ўдуванне), якое павінен рабіць праз кожныя 8 дзён, інакш наступіць крывахарканне і крывацёк». Думаецца, следчыя органы вымушаны былі лічыцца з тым, што імя Жылкі было вядома ў Вільні, Мінску і Празе сярод беларускай грамадскасці, якая магла заступіцца за хворага паэта. На такія здагадкі наводзіць факт, што мера «пресечения» была злагоджана, а ініцыятыва ішла па ранжыру зверху. Радавы следчы Каласкоў не зрабіў ці не мог зрабіць хвораму аніякай палёгкі. На яго, як і на здаровых, склаў у ліпені 1930 года «пастанову аб заключэнні пад варту», дзе сцвярджалася, што «пагражаючае яму пакаранне злучана з пазбаўленнем волі, што ёсць падставы на ўхіленне яго ад следства і суда з прычыны цяжкасці пагражаючага яму пакарання, і што, знаходзячыся на волі, ён можа перашкодзіць раскрыццю праўды... таму следчы лічыць неабходным, кіруючыся арт. 144, 146, 147 і 158 УПК, трымаць арыштаванага пад вартай пры Камендатуры ПП і ДПУ БССР па 1-й катэгорыі, аб чым аб'явіць абвінавачанаму і адбітак гэтай пастановы даслаць пракурору...» (с. 729).

Пасля подпісаў упаўнаважанага Каласкова і начальніка следчага аддзела ДПУ па БВА Аргава ідзе пацверджанне: «Гэтая пастанова мне аб'яўлена. Уладзімір Жылка» (с. 730).

Затым падшыта медыцынская даведка: «У заключенного Жилко Владимира Адамовича туберкулёз лёгких в 3-й стадии. Нуждается в направлении в тубинститут для леч. 2.VIII. лечащий вр.» (подпіс неразборлівы, с. 731).

Па справе Жылкі, як і іншых арыштаваных, следства накіравала хадайніцтва ў ЦВК БССР аб прадаўжэнні тэрміну ўтрымання пад арыштам да лютага 1931 года, г. зн. на шэсць месяцаў болей, чым дазваляў закон. Нечаканай пасля гэтага з'яўляецца пастанова старшага ўпаўнаважанага другога аддзела СА АДПУ па БВА Сікорскага ад 26 жніўня аб змене меры спынення, дзе сцвярджаецца: «Рассмотрев после допроса целого ряда

лиц дело по обвинению гр-на Жилко Владимира, и, принимая во внимание:

1. Силу улик.

2. Что нахождение на свободе обвиняемого Жилко Владимира не может повлиять на результаты следствия и что он имеет постоянное место жительства, а потому руководствуясь с. 167 УПК

ПОСТАНОВИЛ:

Принятую в отношении обвиняемого Жилко Владимира меру пресечения содержание под стражей отменить, заменив таковую подпиской о явке к следствию, к суду, и обвиняемого Жилко Владимира немедленно из-под стражи освободить» (с. 733).

Пастанова ўступіла ў сілу праз два дні, аб чым сведчыць прыпіска пасля подпісу следчага: «Настоящее постановление объявлено. 28/8 Аргов».

Дарэчы будзе тут прывесці тэкст падпіскі, якая выконвала ролю закладу за выхад з-пад варты:

«Я, нижеподписавшийся, Жилко В. Адамович, даю настоящую подписку Государственному Политическому Управлению Белоруссии в том, что я обязуюсь:

1. Никуда без ведома означенного выше управления из города Минска не отлучаться;

2. По первому требованию являться как по вызову ГПУ, так и судебных органов;

3. Хранить в строжайшей тайне сущность моих допросов следствия и вообще все то, что мне стало известно за время моего пребывания в ГПУ;

4. Проживать буду по ул. Чичеринской, дом 7, кв. 1. или на даче в д. Боровое у гр. Толстика.

В случае перемены адреса немедленно обязуюсь известить об этом ГПУ.

Нарушение настоящей подписки или одного из ее пунктов влечет за собой привлечение к уголовной ответственности и заключение под стражу.

*Владимир Жилко»* (с. 733).

Захавалася яшчэ заява на імя следчага аб змене месца жыхарства: «Довожу до вашего ведома, что с 12-ти часов сегодняшнего дня я переехал жить на квартиру к моему брату Константину по ул. Сторожовской, д. 1. кв 6. 8 сентября 1930 г.» (с. 734).

Прабыванне паэта ў бальніцы следчыя дакументы не фіксіруюць. Людзі, якія яго наведвалі — С. Пла-

шчынская, Ю. Гаўрук — прыгадваюць, што стан яго здароўя быў цяжкі, нават безнадзейны. Мажліва, асцярога схіліла следчыя органы выпусціць Жылку з-пад варты паміраць на свой кошт.

Усяго ў судовай справе 25 тамоў матэрыялаў, за 60—90-я гады прыбавілася яшчэ чатыры тамы рэабілітацыйных расследаванняў, праведзеных па пракурорскіх пратэстах супраць пастаноў Калегіі, троек і іншых неканстытуцыйных рэпрэсіўных органаў у БССР і па месцах ссылкі. Дваццаць пяты том з'яўляецца падагульняючым, гэта заменнік абвінаваўчага акта, у яго звялі самыя важкія абвінавачанні і ўлікі. Каб пераканацца, што гэта такое, варта прачытаць хоць бы загалоўкі раздзелаў, у якія былі зведзены кампіляцыі з 24 папярэдніх тамоў. Прывяду два наступныя: «Деятельность организаций в области просвещения», «Причины долголетней безнаказанности нацдемов». Такая ж бесцырымонная канверсія ідэалагічнага ў крымінальнае характэрна і для «Обвинительного заключения по делу контрреволюционной организации «Саюз вызвалення Беларусі» (по обвинению Ластовского, Некрашевича, Красковского, Лёсика и др.)». Яно нагадвае каменціраваны спіс арыштаваных, выпіскі з анкет пра іх удзел у апазіцыйных акцыях супраць бальшавікоў у часе рэвалюцыі і грамадзянскай вайны або — у гады эміграцыі. Канчаюцца абвінавачанні стандартнаю фразай: «...уступіў у контррэвалюцыйную арганізацыю САБ-СВБ і праводзіў асноўныя ўстаноўкі гэтай арганізацыі». Зааміньваецца абвінавачанне сакраментальнымі фразамі: «прызнаў сябе...», «прызнаў сябе часткова...», «не прызнаў сябе вінаватым».

Супраць прозвішча Жылкі (нумар 42) у графе «адрас» запісана: «Освобожден под подписку. Проживает в Минске», а ў канцы спіса даецца даведка: «Все обвиняемые по этому делу, за исключением Демидовича и Жилко, содержатся под стражей при Комендантуре ПП ОГПУ БССР и с сего числа перечисляются содержанием за ГПУ. Старший уполномоченный 2 отд. СО ПП ОГПУ БССР Сикорский».

Заключны том справы СВБ канчаецца выпіскай з пратакола Калегіі АДПУ па БВА БССР за 10 красавіка 1931 года. На жаль, уяўлення аб тым, як праходзіла тое пасяджэнне, выпіска не дае. Створаны на аснове пастановы Прэзідыум УЦВК нефармальны судовы орган не

хацеў, мабыць, пакідаць нашчадкам свайго незаконна народжанага глуму. Ён быў дзіцем рэпрэсіўнага маньяцтва, любіў адзяваць маску таямнічасці, таіў свой склад і нават пастановы ў сакрэце. На маю просьбу паказаць поўны пратакол, дзе павінны быць запісаны выступленні асуджаных, прынамсі, тыя іх заявы, што ўпамінаюцца ў рэабілітацыйных дакументах, складзеных цяперашнімі следчымі (там, напрыклад, гаворыцца, што Вацлаў Ластоўскі, Іван Краскоўскі, Аркадзь Смоліч, І. Серада, Алесь Цвікевіч, Мікола Улашчык і іншыя адмовіліся яшчэ на пасяджэнні Калегіі ад сваіх паказанняў), мне было сказана, што пратакол пасяджэння Калегіі ў архіве не захоўваецца. Калі ж я паспрабаваў растлумачыць, наколькі важны ён для мяне і дапрацоўкі маёй кнігі, работнік архіва ўсміхнуўся з наіўнасці маіх поглядаў і сказаў, што на пасяджэнні Калегіі пры ДПУ абвінавачаныя не дапускаліся. Пастановы прымаліся завочна. Я прыняў гэта да ведама, хоць і не хацеў паверыць.

Мне, прывыкламу мець справу з дакументамі польскіх даваенных судоў, здавалася, што акты адмаўлення ад паказанняў маглі праходзіць толькі на пасяджэннях Калегіі ДПУ. Хацелася пачытаць поўны пратакол такога пасяджэння, магчыма, там былі б хоць сцісла пераказаны жывыя словы пратэсту падсудных. Але і цяперашняга архівіста вінаваціць не магу. Захаванасць дакументаў, якія ён апякуе, жалю вартая. Усе яны маюць ажно трайную нумарацыю: пачатковую — простым алоўкам, які тымчасам сцёрся да нечытэльнасці; другую — чырвоным, а трэцюю — сінім. Адны з гэтых пазнейшых нумароў (дзе чырвоныя, а дзе сінія) закрэслены, розніца паміж закрэсленымі і дзеючымі лікамі адвольная, як бы нехта растрос усё ды нанова паскладаў тое, што было ў свой час складзена і панумеравана, відаць жа, таксама сістэмна, толькі прыстасавана да іншай задачы. Устанавіць, што было, што ўпала і прапала, а што засталося ды за якія «грахі» ці «заслугі», відаць, не ўдасца нікому і ніколі.

На малую ўцеху ўсім, хто жадае пачуць як мага больш праўды, скажу, што ў часе рэабілітацыйнай праверкі, праведзенай па справе ў 1956—1988 гадах, ад сваіх колішніх паказанняў адмовіліся ўсе, хто астаўся жывы, між іх — Улашчык, Зянюк, Аніхоўскі, Чаржынскі, Чарнушэвіч, Мядзёлка.

У абвінаваўчым заключэнні — 25 том справы, падсудныя групіруюцца паводле вызначаных следствам ролі і віны. Першую групу складаюць загалоўныя постаці — В. Ластоўскі, А. Цвікевіч, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, І. Краскоўскі, А. Смоліч, П. Трэмповіч. Фактычна гэта інтэлектуальнае ядро беларускага Адраджэння, стваральнікі духоўнай базы пад палітыку беларусізацыі. Іх радавод у беларускім руху пачынаецца з «Нашай нівы» і абвяшчэння БНР. Яны складалі даволі дружную сябрыну, нават грамадскасць, якую следства ператварыла ў кіруючы цэнтр контррэвалюцыйнай арганізацыі — «Саюз вызвалення Беларусі». Цэнтр СВБ нібыта ставіў мэтай звергнуць савецкі лад шляхам узброенага паўстання з удзелам польскай інтэрвенцыі і тэрору супраць савецка-партыйных кіраўнікоў. Тое, што ў арыштаваных не было знойдзена нічога забойнага, акрамя сталовых нажоў, гальштукаў ды паясных рамянёў, якія запрыходавала турэмная камера захавання, каб ніхто не зарэзаўся і не павесіўся, следчых не бянтэжыла, яны мелі гатовы сцэнарны план аперацыі і азартна выконвалі яго.

У ліку рэпрэсіраваных, тых найбуйнейшых, таму і першых, аказаўся шаноўны беларускі грамадскі дзеяч і асветнік Іван Ігнатавіч Краскоўскі. У гасцінным доме сям'і Краскоўскіх у Дзвінску і ў Мінску знаходзіў паэт цяпло і апеку. Гаспадар, народжаны ў 1880 годзе, надаваўся Жылку ў бацькі і фактычна выконваў бацькоўскі абавязак у гады паэтавай беспрытульнасці. Гаспадыня, Валянціна Сымонаўна, украінка (дзявочае прозвішча Сокільская), была душою звязана з ахвярнікамі беларускага Адраджэння, яна атуляла паэта сапраўды мацярынскаю апекай, як роднага сына.

Людміла Іванаўна Краскоўская паведамляла Жылкавай дачцэ, што Іван Ігнатавіч быў членам Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні (1921—1922 гг.), дзе пазнаёміўся з Жылкам, а пераехаўшы ў Дзвінск на пасаду дырэктара беларускай гімназіі, запрасіў яго спыніцца ў сваёй сям'і, бо паэт не меў за што жыць і вучыцца. «У нас часта жылі знаёмыя», — прыгадвала Л. Краскоўская. А Жылка і Валянціна Сымонаўна добра разумелі адно аднаго, перапісваліся нават у ссылцы.

Сям'я Краскоўскіх пасля ссылкі гаспадара перабралася ў Маскву, старэйшы сын Сяргей працаваў авіяканструктарам у інстытуце ЦАГІ ў А. Тупалева, быў арыштаваны разам з дырэктарам і вялікай колькасцю навуко-

вых работнікаў у 1937 годзе. Са ссылкі не вярнуўся. Малодшага сына Святаслава, музейнага работніка, арыштавалі ў Маскве ў 1941 годзе за тое, што няшчыльна было занавешана акно ў часе бамбёжкі, — палічылі, што шпіён, дае сігналы фашыстам. І сціплы музейны работнік знік.

Збалелым, слабым выехаў У. Жылка ў ссылку ў горад Уржум Вяцкай губерні. Горкім суцяшэннем магло яму служыць хіба тое, што ехаў без канвою ў добрай дружнай сябрыне адраджэнцаў, якія не пакідалі яго і на выгнанні, перапісваліся, наведвалі. Яны ўрачыста пахавалі песняра, а Кіпель збярог тэкст апошняй паэмы «Тэстамент».

1 красавіка 1933 года Жылкі не стала. Вестка пра яго заўчасную смерць дайшла да Рыгі, Вільні і Прагі. Некралог у пражскім часопісе «Іскры Скарыны» напісаў Т. Грыб, у віленскім «Калосьсі» — Ст.Ст[анкевіч], які асабіста не ведаў паэта. Чаму не дзядзька Антон?

Як паведаміў А. Сідарэвіч у рэпліцы на скарочаную газетную публікацыю гэтага матэрыялу, у рукапісным фондзе Літоўскай акадэмічнай бібліятэкі ёсць тэкст Жылкавага некралога, напісанага А. Навіном. Гэтая акалічнасць выклікае пытанне: чаму ж не з'явіўся некралог дзядзькі Антона ў салідным літаратурным часопісе «Калосьсе»? Мне думаецца, мажлівым адказам на гэтае пытанне можа стаць інфармацыя ў хроніцы «Маладой Беларусі» пра пастанову грамадскага суда «ў справе т. званай беларускай санацыі — Астроўскага, Луцкевіча, Самойлы і Трэпкі. Суд сцвердзіў знаны агульны факт — карыстанне арганізацыяў, кіраўнікамі якіх былі вышэй успомненыя асобы, з канфідэнцыяльных сум... Не ўгодамі развязваюцца нацыянальныя і сацыяльныя праблемы»[1].

*1990—1992*

---

[1] Маладая Беларусь. С. 69.

# Калі суду не трэба сведак

10 лістапада 1987 года мяне запрасілі ў суд Ленінскага раёна г. Брэста ў якасці сведкі абароны па справе арганізатараў жалобнага рэквіема, праведзенага 28 кастрычніка перад будынкам мастацкага салона па Савецкай вуліцы. Я ведаў, што работнікі райвыканкома і гарвыканкома прызналі запланаваны жалобны мітынг-рэквіем не разнавіднасцю традыцыйнага народнага абраду памінання продкаў, які на Беларусі мае назву Дзяды, а палітычным мітынгам і забаранілі яго.

Я ведаў, што была пададзена на імя старшыні абласнога Савета народных дэпутатаў т. Бурскага апеляцыя на некампетэнтнасць рашэння аб забароне. Сам параіў складальнікам заявы падкрэсліць, што на Беларусі, дзе здавён-даўна сужываліся розныя хрысціянскія канфесіі: праваслаўе, каталіцызм, уніяцтва і розныя евангелічныя абшчыны — прыжыўся ў народзе звычай святкаваць Дзяды вясною, на Радаўніцу, што адпавядае праваслаўнаму канону, і на ўсіх святых, восенню, што адпавядае каталіцкай традыцыі. У партызанах я быў на Міршчыне, у зоне праваслаўнай канфесіі, і памятаю, людзі запрашалі нас на Дзяды восенню, верачы, што ў святы вечар нават паліцаі не асмеляцца праводзіць карныя акцыі. Не ведаю, ці напісалі гэтае тлумачэнне складальнікі апеляцыі, але да пачатку рэквіема адказу на сваю заяву арганізатары не атрымалі. Апавясціць людзей, згодных прыняць удзел у жалобным рэквіеме, што мерапрыемства забаронена і адмяніць яго — было ўжо немажліва. Паколькі адным з ініцыятараў выступала абласное аддзяленне СП БССР, членам прэзідыума якога я з'яўляюся, то я па абавязку і дадзеным слове павінен быў прысутнічаць на рэквіеме, каб на выпадак перавышэння службамі аховы парадку сваіх паўнамоцтваў падзяліць лёс малодшых таварышаў, а калі спатрэбіцца, выступіць у абарону ініцыятараў.

У Брэсце наспявала паўтарэнне сілавой акцыі, якая мела месца год таму назад у Мінску. Кіраўнікі Брэста не пажадалі вучыцца на горкім вопыце сталічных калегаў, вырашылі пафанабэрыцца, паказаць вышэйстаячым службовую пільнасць, а ніжэйстаячым — сілу ўлады.

Тэндэнцыйнасць, сілавы падыход мясцовага начальства да самадзейных грамадскіх і асветніцкіх арганізацый у Брэсце — з'ява вядомая. Ніводная самадзейная арганізацыя не мае тут свайго памяшкання, на такім рэжыме жыве і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР. Затое памяшканнямі забяспечваюцца мёртвыя душы з Таварыства барацьбы за цвярозасць, Таварыства кнігалюбаў і іншых фармалізаваных, упраўляемых зверху папяровых арганізацый. Невыпадкова, што ініцыятарамі святкавання Дзядоў выступіла Брэсцкая рэгіянальная рада БНФ «Адраджэнне» ды абласныя аддзяленні творчых саюзаў. Жывыя пажадалі памянуць памерлых і «убиенных» продкаў.

У пачатку падрыхтоўкі сакратар абласнога аддзялення СП БССР Мікола Пракаповіч пазваніў мне па тэлефоне і спытаў, ці згодзен я на тое, каб аддзяленне выступіла ў ролі ініцыятара разам з названымі партнёрамі. Я выказаўся за, бо меў даўнія падставы. Можа, дзесяць гадоў мне давялося ўваходзіць у склад камісіі аблвыканкома па выпрацоўцы новых абрадаў, я многа раз настойваў на тым, каб адрадзіць, аднавіць, прыдаць свецкую форму ўсім народным абрадам і добрым звычаям. Праекты абнаўлення абрадаў распрацоўваліся клубнымі работнікамі, на камісію траплялі радзінны, вясельны, а пахавальны — не. Я спрабаваў пераканаць кіраўніцтва і камісію, што пахавальны абрад мае выхаваўчае значэнне, бо ён заснаваны на самым глыбокім эстэтычным пачуцці — трагізме. Трагічнае ўзрушэнне з выпадку смерці блізкага чалавека адольваецца дзякуючы родзічам і блізкім людзям, якія ўдзельнічаюць у абрадзе, наступае яднанне душ, і блізкія родзічы адчуваюць сябе атуленымі, падтрыманымі духоўна.

Адносіны да памерлых, да продкаў былі тады ў нас ганебна пагардлівымі, пра што сведчылі неабгароджаныя могілкі, струхлелыя часовыя знакі над магіламі. Дый цяпер абгароджванне могілак шмат у якіх мясцовасцях вядзецца не па падказцы сумлення і духоўнай патрэбе, а па плане добраўпарадкавання тэрыторыі за кошт калгаса і без удзелу грамадскасці. Вялікая выха-

ваўчая традыцыя беларускіх народных звычаяў — догляд магіл, памінанне продкаў на ўсяночную, на Радаўніцу і восенню ў Дзень задушны — не ўсюды выкарыстоўваецца для выхавання духоўнай культуры, умацоўвання сям'і.

Будучы членам вучонага савета Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, я прысутнічаў на абмеркаванні рукапісу аднаго з трыццаці шасці тамоў беларускага фальклору — «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні». Складальнік тома У. Васілевіч шмат гадоў аддаў збіранню матэрыялаў. Яго калегі разумелі ахвярнасць і высокую якасць працы вучонага, прызнавалі унікальнасць рукапісу гэтай кнігі. І ўсё ж азваліся асцярожлівыя душы колісь цёртых у жорнах вульгарнага сацыялагізму навукоўцаў: «Таварышы, — папярэджваў хтосьці, — у пахавальных абрадах і галашэннях, на жаль, вельмі многа хрысціянскага, царкоўнага элемента...» Выходзіла, што выданне мае ахілесаву пяту. Атэісты могуць успрыняць яго як ускосную падтрымку хрысціянскай рэлігіі і царкоўных абрадаў.

Пачуўшы дух вядомай навуковым асяродкам уступлівасці за кошт аўтара, я спытаўся: «Адкуль жа ўзяла пахавальны абрад царква? Хіба хто з прысутных верыць, быццам абрад гэты быў скінуты з неба. Але ж евангелісты сведчаць, што пахаванне Хрыста было праведзена па народных абрадах, прынятых на Блізкім Усходзе. Яго пахавалі так, як хавалі простых людзей у Іудзеі. Аплаквалі па звычаях і абрадах галілеян, племені, да якога належаў ён, з якога выйшаў. Пахавальныя абрады належаць народнай культуры, царква іх запазычыла ў народа, а не наадварот, хоць была і зваротная дзея. Царкоўнікі закансервавалі свабодны абрад, прыдалі рытуалу кананічную замкнёнасць. У народзе абрады жывуць адкрытымі і цяпер, іх можна дапаўняць, змяняць. У розных сацыяльных асяродках у розныя часы існавалі адметныя тыпы абрадаў. Напрыклад, аўтар «Хронікі літоўскай і жамойцкай» даў нам апісанні пышных пахаванняў язычніцкіх князёў Швінтарога, Нарымонта, Міндоўга. На жэглішча клалі поруч з целам памерлага яго любімага слугу, баявога каня, паляўнічага сабаку, сокала, меч і лук са стрэламі. Хрысціянская царква вывела грубую язычніцкую пыхлівасць нават з каралеўскіх пахаванняў, падвяла абрад пад евангельскі культ беднасці і пакуты. На пахаванні караля Жыгі-

монта Старога перад катафалкам ішло паўтары тысячы спецыяльна скліканых жабракоў. Шэсце азначала, што толькі бедныя падданыя могуць заступіцца за каралеўскую грэшную душу перад святым Богам. Аднак жа кароль пры жыцці заказаў сабе пышную мармуровую капліцу, сам наглядаў за працай італьянскіх майстроў і, прымаючы ўсыпальніцу, пахваліў іх: «Гэта зроблена добра».

Каб засароміць апанентаў, я нават расказаў пра звычай папуасаў, якія, пахаваўшы старэйшыну рода, танцуюць на магіле, а потым спальваюць вёску і ўцякаюць у другое месца, каб душа нябожчыка не магла знайсці жывых і помсціць. Ад тых дзікіх нораваў застаўся ў народзе, здаецца, толькі адзін звычай — выносіць нябожчыка нагамі ўперад, каб не вяртаўся дамоў. Паднялася вострая дыскусія.

Усе мы засталіся радыя, што пераважыла на савеце думка друкаваць беларускія народныя галашэнні. Традыцыйныя парады аўтару — яшчэ раз перагледзець рукапіс і г. д. — не вялікая бяда.

На жаль, у Брэсце і ў часе перабудовы не знайшлося даверу навукоўцам і мастакам, адзіным годным веры экспертам для тутэйшых чыноўнікаў аказаўся мясцовы дабрачынны. Той аказаўся праваслаўным артадоксам і заявіў, што не ведае такога свята, як асеннія Дзяды. Заставалася адно — закрыць Амерыку. У сувязі з забаронай праводзіць мітынг-рэквіем рытуал быў зведзены да прамоў, у якіх арганізатары апавясцілі людзей аб тым, што здарылася, і растлумачылі, чаму абрад будзе сціслы. Канешне, у выступленнях Р. Бакіевіча, Ю. Сіманава ды астатніх гэтыя тлумачэнні і абуранасць беспадстаўнай забаронай выглядалі як дысананс таму жалобна-ўрачыстаму памінанню продкаў, дзеля якога сабраліся людзі. Хвалююча прагучалі вершы паэтаў М. Пракаповіча і А. Каско, прысвечаныя выдатным дзеячам Брэстчыны і адраджэнню традыцый народнай культуры.

Прысутныя зразумелі акалічнасці і даравалі арганізатарам тое, што свецкі абрад памінання Дзядоў аказаўся эмацыянальна бяднейшым за народны і царкоўны. Зрэшты, на Беларусі гэты абрад пранікаўся палітычнымі страсцямі з часоў рамантызму. Не хто іншы, як наш славуты зямляк Адам Міцкевіч у паэме «Дзяды» паставіў у фокус глумленне царскага сатрапа Навасільцава

над патрыятычнымі студэнцкімі гурткамі філаматаў, філарэтаў, прамяністых, якія хацелі вызваліць мужыка ад цемры і ганьбы прыгону, польскі, беларускі і рускі народы ад царскай тыраніі і марылі пра братэрства славян у вольнай дэмакратычнай сям'і.

Справа дайшла да суда над ініцыятарамі берасцейскіх Дзядоў. Засталося прыкрае ўражанне ад гэтай справы — не суд, а цыганскі базар. Незалежнасці думкі суда і асуджэння было мала ў берасцейскай Феміды. Першы суддзя, яшчэ малады юрыст В. Карпук, вёў разгляд карэктна і вытрымана. Ён аб'ектыўна дапытаў і выслухаў сведак, абароны, а потым абвінавачання. Суддзя ўстанавіў, што апошні сведка не ведае ў твар і не бачыў на рэквіеме абвінавачанага грамадзяніна Аляшкевіча, работніка рачнога порта. Прыняў суддзя да ведама заяву грамадзянкі М., якая паведаміла, што сведка абвінавачання з'яўляецца камандзірам рабочага атрада, функцыянерам, які знаходзіцца на паслугах міліцыі і не можа выступаць у якасці аб'ектыўнага сведкі.

Суддзя звольніў грамадзяніна Аляшкевіча ад адказнасці за адсутнасцю віны і доказаў абвінавачання. Аднак не спыніў ён сведкі, калі той без спросу кінуўся дэманстраваць сваю асвядомленасць і, тыкаючы пальцам на прысутных у зале людзей, з юдавай ухмылкай апавяшчаў: «Многие из этих были там. Вот этот был, и этот был, и этот...» Праўда, суддзя не перашкодзіў і прысутным жанчынам выказаць абурэнне бессаромнасцю румянага прыгажуна, які прадаўжаў подзвігі Хама, Юды і Смердзякова адначасова. Не спыніў суддзя і мяне, калі я рэплікай нагадаў сведку, што ён без патрэбы перастараўся, бо прысутныя людзі не страцілі павагі да сябе, яны самі скажуць, чаго былі на рэквіеме і што там рабілі. Нічога ганебнага там не адбылося, за выключэннем хіба сабачага промыслу некаторых сведак абвінавачання.

Потым, пасля перапынку, ужо ў іншай зале справу рэквіема стаў разглядаць новы суддзя — А. Сіманаў. Зрабіўшы пераклічку сведак, ён убачыў, што сведкі абвінавачання пасля папярэдняга канфузу зніклі, а засталіся толькі сведкі абароны. Суддзя выправадзіў нас на калідор і пачаў допыт Міколы Пракаповіча.

Працэдура цягнулася каля гадзіны, а сведак суддзя не выклікаў. Мы сядзелі на лаве ў калідоры, гаманілі, чакаючы свайго часу. Не дачакаліся. Праз гадзіну ад-

чыніліся дзверы судовай залы, і мы даведаліся: «Мікола Пракаповіч атрымаў 200 рублёў штрафу». Рэквіем прызнаны несанкцыяніраваным палітычным мітынгам. Хоць і курыцы вядома, што палітычныя мітынгі прымаюць рэзалюцыі, дэкларацыі, звароты, а тут нічога такога не было.

Потым суддзя А. Сіманаў павёў допыт паэта А. Каско і загліта абласнога драмтэатра Р. Бакіевіча ў сваім рабочым кабінеце. Убачыўшы фармальны падыход суддзі да справы, я пакінуў кабінет суддзі.

Пастанова суда абскарджана абаронцай падсудных. Чакаецца другі акт бясплоднай судовай цяганіны. Прыгнятаючае ўражанне выклікае адсутнасць у рэспубліцы канструктыўнага ўзаемадзеяння паміж кіруючымі інстанцыямі ўсіх рангаў і грамадскімі самадзейнымі арганізацыямі. Справа ўскладняецца нястачай у самадзейных грамадскіх арганізацый доступу да сродкаў масавай інфармацыі, іх дзейнасць становіцца аб'ектам плётак, міфаў, інсінуацый і рознага роду службовых кар'ерысцкіх спекуляцый.

Паводле ўяўленняў наменклатурных колаў рэспублікі, грамадства БССР сёння складаецца з мудрых кіраўнікоў розных профіляў, якія ствараюць праграмы і планы перабудовы, кіруюць іх выкананнем, і працаўнікоў, якія рупліва і даверліва выконваюць планы, рэгулярна павышаюць нацыянальны даход.

Прырост нацыянальнага даходу на 4,5 % за год на душу насельніцтва — доказ фенаменальнасці беларускай эканомікі, якая эфектыўна працуе па цэнтралізаванай старой схеме.

І вось на бяду завяліся беларускія экстрэмісты, якія займаюцца дэмагогіяй, дыскрэдытуюць кіраўнікоў, настройваюць супраць партыі і савецкай улады масу, не даюць мажлівасці спакойна працаваць і дасягаць яшчэ вышэйшага нацыянальнага даходу. Акрамя мянушак «экстрэмісты» і «дэмагогі» ў адносінах да актывістаў незацверджаных добраахвотных самадзейных арганізацый ужываецца тэрмін «непрыяцелі народа», які з'яўляецца прамым сінонімам злавеснага выслоўя з лексікону сталінскіх рэпрэсіўнікаў — «ворагі народа».

Кіраўнічыя асяродкі ганарацца тым, што па нацыянальным даходзе БССР абганяе на 0,5 % Літву. Але ж гэты паўпрацэнтны абгон можа сведчыць і пра тое, што на нізкім узроўні гаспадарання прырост нацыянальнага

даходу не прама залежыць ад змястоўнасці грамадска-палітычнага жыцця і культуры ў краіне ці рэгіёне. З другога боку, калі БССР толькі паўпрацэнта набыла за страту такога плённага для нацыянальнай культуры супрацоўніцтва паміж урадавымі, гаспадарчымі органамі і грамадскімі арганізацыямі, якое склалася на Літве, дык трэба падумаць, перш чым ухваліць наш абмен быка на індыка. Думаць жа цвяроза перашкаджае сапраўды індычая амбіцыя чыноўнікаў з розных ступенек улады. Яны ўпэўнены: улада — фетыш, талісман — выключны доступ да якога маюць і толькі павінны мець вызначаныя наменклатурай асобы. А тым часам улада становіцца таварам і прадметам спекуляцый і махінацый.

Вось чаму ў гушчы народа ажывае і так бурна выбухае з вуснаў моладзі жаданне больш сэнсоўна і справядліва, больш дэмакратычна вырашаць справы, больш плённа дзейнічаць для адраджэння нацыянальных каштоўнасцяў, засцерагчы нацыю ад размывання, ператварэння ў безаблічны кангламерат, гатовы пацячы куды заўгодна, абы там таўсцей мазалі маслам лусту, не патрабавалі адказваць за стан зямлі, на якой жывеш.

Працоўны люд Беларусі, як ні стрымана і асцярожліва паводзіць сябе, пакрысе ўсведамляе, што без ініцыятыўных ахвярнікаў, якія выступілі з прапановай заснаваць «Мартыралог Беларусі», грамадскасць рэспублікі не пазнала б столькі праўды аб Курапатах і іншых месцах пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій, без грамадзянскай смеласці і самаадданасці актывістаў БНФ «Адраджэнне» і іншых арганізацый рэспублікі не даведалася б усёй праўды пра пагрозу, якая навісла над імі, жыхарамі Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей, не дачакалася б і грамадскай апекі тысячы ахвяр, цяжкахворых, знямоглых людзей, нашых суайчыннікаў, каб не дамаганні самадзейных арганізацый па ўсёй Беларусі.

Без грамадскасці не былі б выяўлены экалагічныя балячкі, зоны этнічнага вымірання беларусаў як нацыі, знікнення народнай мовы, культуры, нацыянальнай свядомасці і тоеснасці. У большасці выпадкаў самадзейныя незалежныя грамадскія і асветныя арганізацыі не абмяжоўваюцца выяўленнем фактаў, яны вядуць культурна-асветную, усведамляльную работу, супрацоўнічаюць з партыйнымі і савецкімі органамі, фармальнымі арга-

нізацыямі, калі не натыкаюцца на супраціўленне, незычлівасць і вядомую, зненавіджаную ўсімі нармальнымі людзьмі чыноўніцкую крывадушнасць і аблуду.

Спіхнутыя ж на палажэнне незаконных, члены самадзейных арганізацый нажываюць псіхалогію парыяў, бяспраўных плебеяў; некаторыя, паверыўшы ў дэструктыўнасць свайго мыслення, пакідаюць грамадскую арэну і замыкаюцца ў сабе, іншыя кідаюцца ў крайнасць і азлабляюцца, міма сваёй волі становяцца экстрэмістамі, спрабуюць справакаваць такія сацыяльныя канфлікты, якія б прымусілі кіруючыя структуры заняцца толькі гэтым канфліктам ды пакінулі ў спакоі нефармалаў. Ясна, што гэта не проста марнатраўства духоўнай энергіі і чалавечага жыцця, гэта нешта горшае, гэта рэгрэс сацыяльнай культуры. Куды вядзе гэтая дарога? Да хаосу, сацыяльнай пошасці, якое мы ўдосталь хапілі пры сталіншчыне.

Адным словам, рэцыдывы старога ў новым папяровым афармленні.

Афіцыйная прэса часта абсмоктвае фарсавы аргумент наконт таго, чаму кіруючыя колы рэспублікі не могуць згадзіцца на супрацоўніцтва з нефармаламі, чаму не могуць дазволіць зацверджанне праграмы БНФ. Аказваецца, праграма гэтая напалавіну плагіят: усё, што там добрае, запазычана з пастаноў XIX партыйнай канферэнцыі або XXVII з'езда КПСС, а тое, што прыдумалі складальнікі праграмы БНФ «Адраджэнне» самі, — дрэннае, шкоднае, экстрэмісцкае і нацыяналістычнае. Атрымліваецца, што кіраўнічыя інстанцыі БССР хочуць увесці аўтарскія правы на палітычныя ідэі. Але ж хто не разумее, што палітычная ідэя не верш, не песня, не паэма, уласнасць на якую ахоўваецца аўтарскім правам.

Палітычная ідэя, падобна як і мастацкая, бясспрэчна, узнікае ў галаве асобнага чалавека — лідэра ці радавога члена палітычнай партыі або руху, але яе лёс прынцыпова адрозніваецца ад лёсу ідэі мастацкай, навуковай, тэхнічнага вынаходніцтва. Палітычная ідэя адразу пасля свайго нараджэння трапляе на канвеер калектыўнага абмеркавання, асэнсоўвання, узважвання, сацыялізуецца і страчвае ў працэсе дапаўненняў, мадыфікацыі, фармулёвак аўтарскую асобнасць, індывідуальнасць, ператвараецца ва ўласнасць палітычнага органа, які яе выпрацаваў і які кроўна зацікаўлены, каб гэтая

ідэя універсалізавалася, захапіла масы людзей у краіне, дзе нарадзілася. І ва ўсім свеце. Сацыялагізаваная грамадска-палітычная ідэя як бы адрываецца ад творцы, прагне стаць усеагульнай уласнасцю нават тады, калі грамадская свядомасць захоўвае яе сувязь з асобамі выдатных палітычных дзеячаў.

Мне цяжка прыгадаць, каб шмат ідэй такога тыпу, такой ступені арыгінальнасці ўнеслі ў дакументы XXVII з'езда КПСС ці XIX партканферэнцыі беларускія дэлегаты і ЦК КПБ. Адкуль жа такая амбіцыя і такая сквапнасць на выключнае права карыстання гэтымі ідэямі? З традыцый правадырства, прымусу і лакейства, якія мучылі партыю і грамадства дзесяткі гадоў, давялі да самазадаволенага атуплення.

Ва ўмовах дэмакратычнага грамадства кожны палітык, заўважыўшы, што ідэю яго партыі прызнаў нейкі чалавек ці арганізацыя, — радуецца і гаворыць пазычальніку як таварышу па ідэі: «Давай супрацоўнічаць! Я ведаю, што ў вашай праграме ёсць ідэі непрымальныя для мяне, я лічу іх памылковымі, але маю цярплівасць не патрабаваць, каб вы адмаўляліся ад іх. Давайце супрацоўнічаць па тых пунктах нашых праграм, якія нас збліжаюць. Можа, у ходзе супрацоўніцтва і ўзаемнага даверу, партнёрскай лаяльнасці ў нас пачне выпрацоўвацца кампрамісны падыход, практыка разумных уступак. Дэмакратыя ж — гэта дачка кампрамісаў». Прыкладна такім шляхам і робіцца гібкая палітыка супрацоўніцтва і дэмакратычнага ўзаемадзеяння бакоў. Нават у тых выпадках, калі кампраміс і ўзаемныя ўступкі акажуцца немажлівымі, дык у абодвух бакоў будзе выпрацоўвацца этыка лаяльнасці, пэўная цярпімасць да іншасці партнёра і здольнасць цвяроза ацэньваць, наколькі ў канкрэтнай сітуацыі інакшыя ідэі партнёра з'яўляюцца непрыдатнымі для грамадства, наколькі яны цяжкастраўныя ці шкодныя. Карацей кажучы, лаяльнае супрацьстаянне і барацьба ідэй дадуць магчымасць пазбегнуць фанатычнага засляплення, варожых канфрантацыйных міфаў, у палоне якіх звычайна аказваецца не толькі той, хто іх стварае, але ні ў чым не вінаватая даверлівая маса людзей, якія прывыклі жыць і думаць аўтарытарна, слепа давяраючы свае лёсы і інтарэсы «спецыялістам», патронам.

Дух і стыль супрацоўніцтва, а не канфрантацыю абяцае палітыка новага мыслення нашаму грамадству, за-

мучанаму дзесяткамі гадоў варажнечы, фізічнага вынішчэння палітычных працаўнікаў. Няўжо грамадства Беларусі, найбольш абяскроўленай рэспублікі, не заслужыла на прыход здаровага сэнсу і чалавечай культуры ўзаемаадносін бакоў хоць бы і ў палітыцы? Няўжо мы так і не зможам выйсці з заварожанага д'ябальскага круга мананалізму на ўладу, маналагічнай формы існавання думкі, з ярма амбіцыйнасці, а ўрэшце, паўпраўды?!

*1988*

# Тут можна жыць

## КАЗУСЫ ПРАВІНЦЫІ

Пісьменніку, які жыве ў правінцыі, даводзіцца ў парадку адаптацыі прывыкаць да спецыфічнай шкалы ацэнак яго працы і яго асобы. Паколькі вартасць устанаўлівае публіка, але замацоўвае правам аўтарытарнасці кіраўнічае асяроддзе, а мастацкіх твораў не хапае часу чытаць нікому, дык на дошцы грамадскай карыснасці пісьменнікі аказваюцца натуральна ніжэй майстроў відовішчных і іншых прыгожых мастацтваў, творы якіх кіраўнікі і публіка часцей бачаць, слухаюць і прымаюць як уклад у духоўную вытворчасць ці ў фонд культурнага адпачынку працоўных. Ад мастацкай літаратуры ў гэтым сэнсе наедак мала відочны: вершы, апавяданні, артыкулы з'яўляюцца ў друку не так часта, рэгулярна сачыць за «Літстаронкамі» мала каму з чытачоў абласной газеты хочацца: беларускія органы друку чытаюцца толькі спецыялістамі ды асобнымі аматарамі-дзівакамі.

Грамадскасць выпрацоўвае думку аб паэтах візуальна: на літаратурных сустрэчах, слухаючы творы ў аўтарскім выкананні. На такое ўспрыманне, зразумела, не ўсе творы разлічаны. Адным словам, творчы пачатак засланяецца больш выразным — субардынацыйным. Пісьменнікі ва ўспрыманні правінцыі дзеляцца паводле таго, у якім ярусе яны сядзяць. Найніжэй знаходзяцца пісьменнікі раённыя, пра іх існаванне ў абласным цэнтры могуць і забыць, калі тыя не нагадаюць пра сябе нейкім сенсацыйным творам ці незвычайным учынкам; пра аўтараў абласнога рангу гаворыцца з лёгкай паблажлівасцю — «таксама пішуць», пра рэспубліканскіх — з фамільярнасцю — «нашы беларускія пісьменнікі», а ўсур'ёз прымаюцца маскоўскія, з прыніжанасцю — зарубежныя!.. Праўда, і тут павага бывае этыкетнай.

Павучальна было б кожнаму паэту хоць раз у жыцці выехаць у раён з журналістам, каб пераканацца, што

асновай дзелавых узаемаадносін і ацэнак у нас яшчэ застаецца нязжыты страх: каго больш баімся, ад каго залежым — таго і больш «паважаем». Варта прывучыць сябе глядзець на гэты утылітарны этыкет з гумарам. Адмяніць і перарабіць яго немажліва. Для гэтага патрэбна будзіць асабовасць і незалежнасць з абодвух бакоў круглага стала. Адным словам, патрэбна заключная фаза перабудовы — нацыянальнае адраджэнне.

Напэўна, для жыцця ў правінцыі трэба нарадзіцца, але і ўцягнуцца можна, калі станеш цаніць такія рэчы, як персанальнасць і суб'ектыўнасць адносін з людзьмі, яны лепшыя ў малых, чым у буйных гарадах, тут вышэй адчуванне бяспекі, зроджанае з таго факта, што многа людзей, вартых даверу і спраўджаных, табе знаёма асабіста, і чалавек ніколі не адчувае сябе загубленым у натоўпе, бо кожны дзень на вуліцы сустрэне не адзін свойскі, зычлівы твар.

А ўсё ж бываюць і нараканні сяброў на нудоту і адзіноту. Я суцяшаю іх тым, што можа быць яшчэ нешта горшае — агрэсіўнае непрыманне «інакшага», мудрагеля, зазнайкі — эфект нівеліроўкі. Перажыць абыякавасць не так цяжка, творчы чалавек павінен перш за ўсё прывучыць сябе да адзіноты, самая адказная частка яго працы — перажыванне, думанне, эксперыментаванне, пісанне, маляванне, складанне песень, танцаў павінны працякаць у стане выключнай засяроджанасці, у самоце, без дарадчыкаў і памочнікаў. Калі такой патрэбы няма — няма таленту, няма творчай асобы, ёсць чалавек, які хоча, гарыць жаданнем адыграць нейкую «важную» ролю.

Часта бывае, што ў правінцыі складваецца дружны і адкрыты калектыў (на кафедры, у літаб'яднанні), праходзіць час і заўважаеш потым са скрухай і жалем, як людзі, прывыкаючы да адкрытасці і зычлівасці, трацяць прабіўную сілу, не ўмеюць адстойваць свае аўтарскія інтарэсы ў рэспубліканскіх органах друку, паводзяць сябе наіўна і недалужна, крыўдзяцца, чакаючы, што на крыўдзіцеля нойдзе скруха ды ён узнагародзіць пакрыўджанага ласкай і ўцехай. Гэта вельмі важны сімптом — страта сацыяльнай арыентацыі, абумоўленая нажніцамі паміж агульналюдскай этыкай, кодэксам чалавечнасці і практычнай рабочай этыкай устаноў, сфармалізаваных арганізацый і ўсяго такога. Быць адкрытым і шчырым не толькі не аплачвалася, а і дорага каштавала, бо ня-

рэдка такія людзі станавіліся казламі адпушчэння.

Асобным, на мой погляд, паказальным парадоксам з'яўляецца беларускае абласніцтва. Па оваіх памерах беларускія вобласці ўступаюць расійскім, але па насельніцтве часам пераўзыходзяць і дасягаюць іншых саюзных рэспублік (Брэсцкая вобласць роўная Эстоніі). У той жа час па культурнай вазе нашы вобласці блізка не падыходзяць да суседніх, яны пераважна толькі адміністрацыйныя і гаспадарчыя цэнтры. Адміністрацыйныя велічыні аказваюцца карлікамі грамадскага, культурнага, навуковага і творчага жыцця рэспублікі. У росце культуры і творчасці абласное кіраўніцтва мала зацікаўлена, справядліва сказаць наадварот — яно зацікаўлена ў тым, каб інтэлігенцыя не набыла значэння і не пачала «ствараць праблемы».

Калі ў абласцях будуць умовы для дзейнасці салідных культурных сіл — створацца моцныя навуковыя калектывы, аддзяленні творчых саюзаў ды выраступь, убяруцца ў сілу самадзейныя нефармальныя арганізацыі, тады, скажам, першы сакратар абкома партыі ці старшыня аблвыканкома не змогуць адбыць па два тэрміны на пасадах і ні разу не паказацца ў «свой» інстытут, універсітэт. Ды і ВНУ, калі б усё ішло як трэба, было б не дзве-тры на вобласць, а больш. Можа тая ж Эстонія мець іх ажно шэсць! Веды ж — капітал. Праўда, толькі там, дзе на іх ёсць попыт. Па абласных цэнтрах залежваюцца і ўцэньваюцца не толькі дрэнныя тавары, але часам і добрыя спецыялісты, веды, таленты, псуюцца характары ў творчых людзей, заблакіраваных кіраўнічай актыўнасцю ці апатыяй, а яшчэ часцей некампетэнтнасцю.

Людзі энергічныя, інтэлектуальна ёмістыя, ахвочыя спажываць бясконцую колькасць інфармацыі, апантаныя цікаўнасцю пранікнуць за кулісы грамадскага і творчага жыцця, ведаюць выдавецкую кан'юнктуру, сакрэты пісьменніцкай «кухні» і сакрэты сталіцы ад магазінаў да кабінетаў у Доме ўрада, — такія людзі ў правінцыі сумуюць і пакутуюць ад колькаснай і якаснай недаінфармаванасці. Можна назваць такую недаінфармаванасць уяўнай, бо ва ўмовах інфармацыйнай навальніцы не толькі ў свеце, краіне, але і ў вясковай хаце звестак бывае аж занадта, каб чалавек мог скласці грунтоўнае ўяўленне пра жыццё сям'і чалавечай. Існуе ж на Захадзе тэорыя адзінай вёскі, у якую мае ператварыць

свет пан тэлевізар, знаёмячы між сабой усё чалавецтва і вяртаючы яго да пачцівых нораваў вясковай грамады, дзе людзі ўмелі саромецца і стараліся зарабіць павагу суседзяў, бо «грумада», як казаў наш геніяльны казачнік з Вялікага Рожана Рэдкі, — адзін вялікі чалавек. Пакуль што гэта мара, лятунак, нязбыўнасць, бо сучасны тэлевізар, і прэса, і ўся лавіна інфармацыі больш раз'ядноўвае, палітызуе, чым гуманізуе.

Суб'ектыўнае адчуванне недаінфармаванасці абумоўлена хутчэй тым, што многія людзі не маюць ахвоты і ўмення самастойна асвойваць інфармацыю, перапрацоўваць яе, ствараць на яе аснове карціну свету і знаходзіць сябе ў свеце. Інфармацыйная лавіна ў многіх разбудзіла апетыт, варты Гарганцюа. Галодным здаецца, што інфармацыя сама па сабе каштоўнасць, самацэнная духоўнасць і чым больш яе спажываеш, тым больш пажывішся. Але гэта ілюзія. Насычэнне наступае не ў працэсе спажывання, а ў працэсе ўпарадкоўвання, асэнсавання інфармацыі, тады і паўстаюць новыя, арыгінальныя ідэі, пры ўмове, што чалавек мае творчае ўяўленне, высокую мэту. Вось гэты момант і ёсць момант духоўнага наталення. Можна жыць і ў правінцыі ды адчуваць паўнату духоўнага жыцця, зведваць сэнс жыцця — калі хочаце, шчасце. Лічу, што сёння ў нашай беларускай літаратурна-навуковай сферы работнік сярэдняй велічыні можа цалкам рэалізаваць сябе ў правінцыі, не наракаючы на лёс.

Пра таленты першай велічыні — маўчу. З павагі да недасяжнага.

А ўсё ж правінцыя ёсць правінцыя. Жывыя душы ў правінцыі глушыць сёння інфармацыйны шум і тлум, дэзарыентуе нястача фактаў, недавер да афіцыйнай інфармацыі расце, простыя людзі хочуць адкрытасці, праўды. Так было ў эпоху Рэфармацыі, у разгар дыспутаў Лютэра з Эккам. Рэфарматары перамагалі царкоўных артадоксаў тым, што пераклалі на нацыянальныя мовы Біблію, адкрылі доступ простаму люду да святых кніг, пазбавілі санюўнікаў царквы манаполіі на ісціну і таямнічага арэолу.

Сёння ў нас тайнымі апокрыфамі з'яўляюцца дэкларацыі, звароты, публіцыстычныя творы нефармальных арганізацый. Лічу, што грамадскія арганізацыі «Тутэйшыя», «Талака», гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі», арганi-

зацыйны камітэт Руху ў падтрымку перабудовы прыстойна раскатурхалі грамадскую дапытлівасць, нягледзячы, а, можа, дзякуючы дэзінфармацыі афіцыёзу. Вельмі ж яна была вульгарнай.

Сёння перыферыйным пісьменнікам няма адбою ад запрашэнняў выступіць, расказаць праўду, растлумачыць супярэчнасці газетных публікацый. Сустрэчы пачынаюцца канфрантацый, але пастуцова насцярожанасць развейваецца. Прыгадваецца сустрэча пісьменнікаў з апаратам Брэсцкага абкома камсамола. Адзін з адказных удзельнікаў, які, відаць, спадзяваўся пачуць ад літаратараў экстрэмісцкія выбрыкі ды ўзамен навешаць ім на вушы лапшы, застаўся расчараваным і паскардзіўся: «Мы загаварылі праблемы». Сапраўды, гаворка цягнулася больш за тры гадзіны і адразу пасля рабочага дня. Людзі ж і вячэраць перахацелі, слухаючы перапевы банальнага тэзіса (ён, дарэчы, гучаў як балванка і ў выступленнях мінскіх рабочых на абрадзе абрыджвання «Талакі» і «Мартыралога») — не трэба, маўляў, нам мітынгаў і дыскусій, а трэба больш спраў. Работнікі на сваіх рабочых месцах зробяць перабудову. Я спытаў: «А на якім станку, скажыце, робіцца сумленне, пачуццё ўласнай годнасці, гуманістычная ўражлівасць ці хоць бы сціпласць і ветлівасць? Ёсць такі станок?» З аўдыторыі пачулася: «Няма»... Тады я запярэчыў і сказаў, што такім цудоўным станком з'яўляюцца зносіны. На гэтым станку мы якраз і працуем. І той факт, што мы слухаем адны другіх і не глушым, не абражаем, не сварымся, а думаем — доказвае плённасць нашай працы па абнаўленні душ, вызваленні ад няведання, нецярпімасці.

Я, напрыклад, упэўніўся, што ў апараце Брэсцкага абкома камсамола працуе нямала светлых і шчырых юнакоў і дзяўчат, якія хочуць спажыткаваць маладыя сілы і здольнасці для гуманістычнага абнаўлення нашага жыцця, для выкарчоўвання нялюдскай спадчыны, якую пакінулі гады культу асобы Сталіна і культу безасабовасці Брэжнева ды Чарненкі. Моладзь хоча чыстай праўды, моладзь не зносіць дэзінфармацыі, ідэалагічных шумаў, баламуцтва. А ісціну блоцяць ідэолагі застою, якім хочацца і сёння дзве контрбеларусізацыі — крывавую 30-х гадоў і ціхую перыяду застою — выдаваць за заслугі сваіх аднадумцаў перад савецкай уладай. Яны не бачаць, якімі сталі смешнымі, быццам той

страшны казёл з дзіцячай казкі: «Туп, туп нагамі, закалю цябе рагамі, а барадою кроў замяту».

Я сказаў бы, што тут адзін з казусаў бюракратычна-застойнага правінцыялізму ў беларускім варыянце. Беларускасць яго ў трагічнай нацыянальнай недастатковасці, а можа, і ў магіі нязбытага страху перад неадбюракрачаным яшчэ прывідам улады. Страхам хварэюць не толькі простыя людзі, але і кіраўнікі, і работнікі свабодных органаў друку, на старонках якога не знайшлося дасюль месца практычна ніводнаму з публіцыстычных твораў, складзеных нефармальнымі арганізацыямі. Нават навуковы палемічны артыкул Зянона Пазняка «Двухмоўе і бюракратыя», наватарскі па пастаноўцы пытання аб лінгвістычным браканьерстве беларускага чыноўніцкага асяроддзя, нават гэты твор даводзіцца чытаць не ў беларускім часопісе, а ў рускамоўнай эстонскай «Радуге» (1987. № 4). Выходзіць, у Беларусі, каб публікаваць альтэрнатыўную публіцыстыку, трэба навучыцца метафарычнай мове і выказваць свае думкі вершамі.

Сумленныя і дапытлівыя людзі, жыхары перыферыі, заходзяць у тупік, не вераць афіцыёзнай антынефармальнай прапагандзе, скептычна пасмейваюцца з крумцення груганоў застою, але не могуць нідзе прачытаць саміх тэкстаў тых дэкларацый, заяў, якія абрыджваюцца як «палітычнае невуцтва», «пена на хвалях перабудовы» і т. п. Выступленні аўтарытэтных пісьменнікаў у абарону грамадскіх правоў, свабод і годнасці перыферыя сустракае з надзеяй, чакае ад іх цуду. Вядома ж, нават сумленныя пераказы не могуць замяніць арыгінальных тэкстаў і спатоліць смагу самастойнага асэнсавання.

Не ўсталёўваецца ў рэспубліцы атмасфера адкрытасці. Не відаць і не чуваць, калі настане час партнёрскага дыялогу. Бюракратыя праяўляе свае даўнішнія звычкі глушыць галасы грамадскасці і нефармальных аб'яднанняў, апошнія ж, у сваю чаргу, пазбаўленыя падтрымкі і зычлівасці з боку крытыкі, кідаюцца ў крайнасці. Максімалісцкія пературымкі, неабачлівыя выказванні маладых разносяцца на языках, абрастаюць зламыснымі падтэкстамі, запісваюцца ў ідэалагічныя кандуіты, не дзіва, што ў гэтай атмасферы нефармальныя арганізацыі слаба растуць — як у сталіцы, так і на перыферыі.

Ідэалагічная калацея адцягвае ўвагу ад праблем ад-

раджэння беларускай мовы, культуры, скарбаў народнай душы. Несумненна, вымушаная неабходнасць апранаць у мундзіры калектыўных адозваў, дэкларацый, зваротаў, праграм яшчэ неўсталяваныя думкі, якія натуральна павінны б жыць спачатку ў канкрэтных галовах, выказвацца індывідуальна, публікавацца, абмяркоўвацца на розных узроўнях, перш чым стаць параграфамі пастаноў і праграм, заўчасная вымушаная фармалізацыя ідэй, супрацьпаказаная і нефармальным арганізацыям. Гэта таксама злосны парадокс правінцыялізму на рэспубліканскім узроўні.

Тут не месца пералічваць усё трапнае і вытыкаць пахібкі ў «Звароце ініцыятыўнай групы Канфедэрацыі беларускіх суполак». Ёсць там рэчы, якія шакіруюць, хоць яны і перакрываюцца станоўчымі ініцыятывамі, у ліку якіх дамаганне свабоднага доступу грамадскасці да сродкаў масавай інфармацыі, ахова беларускай мовы, нацыянальнай культуры, грамадзянскіх і аўтарскіх правоў. Скажу толькі, што не на карысць будучай Канфедэрацыі суполак ідзе ўзроставы партыкулярызм, дамаганне для моладзі прыярытэту ў сацыяльным забеспячэнні, прывілеяў для маладых сем'яў. Ва ўсіх грамадствах прыярытэтам на сацыяльную апеку карыстаюцца дзеці, і ўсе, а не толькі маладыя, маці малых дзяцей, інваліды і састарэлыя, няздольныя да працы, а ў нас — маладажоны. Нельга вызваляць моладзь ад гуманістычнай адказнасці за стан грамадства, ад клопату за самапачуццё ўсіх узроставых і сацыяльных пластоў.

Юнацкім партыкулярызмам аддаюць прапановы «Звароту» ўвесці нацыянальныя адзінкі арміі, абмежаваць праходжанне вайсковай службы межамі сваёй рэспублікі. Чытаючы гэтыя параграфы, думаеш, няўжо арміі сталі служыць у сучасным свеце толькі для парадаў і нам можна пераапрануць Савецкую Армію ў нацыянальныя вышыванкі, узброіць балалайкамі, бандурамі ды цымбаламі. Перабудоўваць армію трэба, як усе састаўныя часткі дзяржавы. Ёсць, на мой погляд, сэнс у павелічэнні ролі прафесійнага складу вайскоўцаў, што прапануецца ў памянёным «Звароце». Аднак уводзіць перагародкі ў структуру, калі другі бок інтэгрыруецца, набіраецца сілы — несур'ёзна. Займацца перабудовай арміі павінны кампетэнтныя і адказныя спецыялісты, а грамадскасці разумна абмежаваць свае намаганні ў гэтай справе патрабаваннем парытэту, раўнавагі сілы на-

шай і сілы праціўніка. Сёння было б разумна падпарадкаваць рэспубліцы войскі ўнутранага парадку.

Самаю кідкаю рысай правінцыялізму ў літаратурным жыцці рэспублікі з'яўляецца, на маю думку, абсалютная няздольнасць беларускай пісьменніцкай сябрыны рассяляцца. Адных трымае і палохае субардынацыйная залежнасць перыферыі ад цэнтра, другім лесціць становішча сталічных шышак. Як на маё асабістае адчуванне, дык у гэтай палахлівасці ёсць крыху прытворства і часам хітрыкі, якімі прырода кампенсуе, як вядома, нястачу ў чалавека характару, творчай самастойнасці і шмат чаго яшчэ. Не адчувалі В. Быкаў, А. Пысін, жывучы на перыферыі, якойсьці непаўнацэннасці, не адчуваюць яе Н. Мацяш, А. Карпюк, Бічэль-Загнетава. Ёсць сярод сталічных таварышаў аматары глянуць зверху на правінцыяла, паставіць на адну рысу ніжэй сталічнага калегі, але не менш бывае зычлівасці, бескарыснага клопату з боку тых работнікаў друку, якія прафесійны падыход да аўтараў ставяць вышэй асабістых сімпатый і нават установак, спушчаных зверху. Мне падабаецца наша літаратурнае асяроддзе, бо ў ім ва ўсе часы, як я памятаю, хапала ўнутранай свабоды, часам смеласці, на горшы ж канец, гумару, каб, дапускаючы кампрамісы, ведаць, што гэта паскудная справа.

За гады застою літаратурнае асяроддзе сталіцы абрасло службістамі і знаўцамі ідэалагічных абрадаў, майстрамі этыкету, умелымі нейтралізатарамі жывога, вострага падтэксту ў рукапісах, адным словам, функцыянерамі, фармалізатарамі літаратурнага працэсу. Творчая сябрына пачала ператварацца ў вытворчы цэх. Неяк на адным з нашых з'ездаў маскоўскія госці, слухаючы парады ідэалагічных службістаў пяра, далі нашай арганізацыі мянушку — «рота палітрукоў». Думаю, што гэта была трапная гіпербала. Можна было б і вастрэй назваць нашага брата, гратэскавым, хадавым у вайскоўцаў слоўкам «паліттуркі», за прабачэннем Назыма Хікмета.

Цяпер пачынаецца ачышчэнне, вяртанне назад да сябрыны, да першаасновы. Пісьменнікам з перыферыйных асяродкаў гэта па душы, бо там сяброўскія нефармальныя паводзіны не зводзіліся. Тут стараемся трымацца гуртам, хоць і сварымся, бывае, але даражым пачуццём дружнай сям'і. Здараецца і абараняцца мусім гуртам. А як жа інакш? Вось перад Кастрычніцкім святам пазваніла Ніна Мацяш, пасля абмену віншаваннямі я

заўважыў нешта не святочнае ў голасе. І сапраўды, яна стала аб'ектам нагавораў і нападак за тое, што ўзялася стварыць пры Доме культуры ў Белаазёрску асветніцкую сябрыну «Агмень». Напярэдадні афіцыйнага сходу ў пасёлак прыехаў раённы ідэолаг, убачылі з мясцовым калегам аб'яву, прачыталі і абурыліся: як гэта, ствараць арганізацыю самавольна? Заняліся прафілактыкай. Учыталіся ў заяву, вылучылі слова «сход» і ўзялі ініцыятыўнікаў на бюракратычны кручок: на сход трэба мець дазвол райвыканкома. Без дазволу можна праводзіць толькі пасяджэнні, значыць: зняць аб'явы, вучняў і настаўнікаў на сход не пускаць! Дырэктар першай Белаазёрскай школы Г. Залеўскі ў прафілактычным запале дайшоў да таго, што прыбег у клуб і прымушаў сваіх настаўнікаў пакінуць незаконную зборню. Адным словам, «Пінская шляха» ў перабудовачным выданні. «Я да гэтага часу, — піша ў пісьме да мяне Н. Мацяш, — не магу апамятацца...»

Кожны год, калі чытаю студэнтам курс беларускага фальклору, чую недзе на тэме калядных песень сакраментальнае пытанне: «Вы хваліце народныя абрады і песні за іх маральна-выхаваўчую каштоўнасць, а ў нас старшыня сельсавета штрафуе бацькоў, чые дзеці хадзілі шчадраваць!» У вачах слухачоў я, выкладчык, аказваюся тым салдатам, які мае смеласць хадзіць не ў нагу, бо не падпарадкаваны старшыні сельсавета.

Сёлета пачуў ад першакурсніц пра новыя, больш рафінiраваныя прыёмы змагання з народнымі абрадамі пад лозунгам атэістычнага выхавання. Адзін старшыня сельсавета прымяніў «класавы» падыход: паштрафаваў на выбар дзяцей калгасных спецыялістаў і растлумачыў: «Начальніцкія дзеткі разнахабіліся — няхай ведаюць, у каго ўлада: у рабочых ды сялян ці ў гнілой інтэлігенцыі». Дырэктар нейкай дзесяцігодкі правёў цераз бацькоўскі савет рашэнне падстрыгчы пад нулёўку ўсіх хлопцаў, што хадзілі шчадраваць. Абіндзюжыў, як авечак пад весну. Народная мудрасць кажа: «Не дай бог свінні рог, а мужыку пана».

Колішні дырэктар (царскі, польскі) не дазволіў бы сабе такі глум, бо ведаў, што глумленне прыніжае не толькі таго, над кім глумяцца, але і таго, хто глуміцца.

Вядома ж, ёсць разумная альтэрнатыва апісанай практыкі, жывуць на месцах і светлыя кіраўнікі, што ведаюць цану чалавечаму фактару, жывуць і сапраўд-

ныя ініцыятары, энтузіясты. У Ляхавіцкім, Столінскім, Пружанскім і іншых раёнах здаўна свабодна святкуюцца народныя святы, калядуюць, шчадруюць, гукаюць вясну, паляць купальскія агні... Дырэктар саўгаса «Іскра» Скакун выдзяляе сродкі на ўборы ўдзельнікам масавых відовішчаў, раённая газета публікуе рэпартажы і здымкі. Усе ведаюць, што добры грамадскі клімат — такая ж каштоўнасць, як і зарплата ці кватэра. Цяпло культуры збліжае людзей, трымае на месцах, а сіберны холад разганяе. Калісь у Пажэжыне Маларыцкага раёна была вялікая сярэдняя школа, тады мясцовыя настаўнікі пераапраналіся і хадзілі шчодрым вечарам па вёсцы — толькі не шчадраваць, а лавіць вучняў-шчадроўнікаў, каб заўтра ўшчуваць іх, а бацькоў палохаць штрафам. Сёння лавіць няма каго: закрылася ў вёсцы і пачатковая школа.

Хто ж увасабляў камандную правінцыяльшчыну ў часы застою? Мясцовыя тузы, часта самадуры. Прыязджае, бывала, адказны таварыш у школу, якую афармляе мастак, бачыць партрэт Горкага, а пад ім надпіс: «Чалавек — гэта гучыць горда!» Чытае, круціць галавою: «Што за надпіс? Няправільна. Напішыце: «Савецкі чалавек — гэта гучыць горда». Мастакі перарабляюць. Праз тыдзень прыязджае іншы, але больш адукаваны, чытае і дзівіцца: «То ж скажоны горкаўскі афарызм, патрэбна дакладнасць». Мастакі тлумачаць сітуацыю. Ніжэйстаячы змаўкае. Але пакінуць такога ляпу не можа. Школу ж прыедзе прымаць камісія, высветліцца, што і ён глядзеў, і ён недабачыў. Шукае кампрамісу: піша на картцы: «Трудом своим славен человек» і перадае цераз дырэктара школы мастакам. Тройчы наклейвалі літары, двойчы збівалі, і паскардзіцца не было каму — правінцыя.

У правінцыі здараюцца яшчэ больш пацешныя сітуацыі, бывае, не ведаеш, што рабіць: смяяцца ці заплакаць ды апусціць рукі. Вось задумала кіраўніцтва багатага калгаса зрабіць уласны комплекс адпачынку з верхавой яздой, даўнімі забытымі фаэтонамі, «лінейкамі», брычкамі, адным словам, рэлакс з пераносам у мінулае. Здорава! Нават замежных турыстаў зацікавіць. Прыгадалася, што ў калгас гэты ўваходзіць вёска Лышчыцы, сядзіба вядомага грамадскага дзеяча на Брэстчыне, педагога, адваката, філосафа-атэіста, аднаго з першых вестуноў утапічнага сацыялізму ў Беларусі, чалавека,

рэпрэсіўнікі, дэмагогі, культурныя страхапуды і валюнтарысты. Нават непрымальныя ідэі, калі іх выказваюць думаючыя людзі, сумленныя апаненты, павінны спажыткоўвацца як стымулятары пошуку контраргументаў і самаўзбагачэння, набыцця дыскусійнай формы. Адным словам, сёння патрэбны ідэалагічныя работнікі, здольныя шырока і свабодна размаўляць з камуністамі і беспартыйнымі, веруючымі і няверуючымі — па-людску. Тут, можа, адзін з ключоў да перабудовы свядомасці нораваў.

Апарат кіравання асветай і культурай, які існаваў да гэтага часу, у маім адчуванні — гэта плод усесаюзнага бюракратычнага правінцыялізму. У нашай беларускай культурна-асветнай сітуацыі недарэчнасць гэтага ўтварэння пераўзыходзіць фарсавыя межы, бо культурай часта ўпраўляюць людзі, якія не толькі не ўмеюць ствараць каштоўнасці культуры і не ведаюць ім цаны, але не хочуць ведаць нават мовы, на якой тыя каштоўнасці ствараліся. Працэс тварэння духоўнай культуры суверэннай краіны павінен быць толькі самакіраўнічым працэсам. У механізме самакіравання з часам галоўнае месца зоймуць майстры культуры, творцы і носьбіты яе. Невялікі адміністрацыйны апарат будзе іграць службовую і абслугоўваючую ролю, як выканаўца калектыўнай думкі і волі самадзейнага архіпелага творчых калектываў і асобных незалежных буйных мастакоў, стваральнікаў школ, кірункаў, стылёвых плыняў. Так я сабе ўяўляю будучае — і не толькі ў сферах духоўнай вытворчасці.

*1988*

## ЗМЕСТ

### Частка 1



### Частка 2

**Калеснік У.**

К 17 Усё чалавечае: Літ. партр., арт., нарысы. — Мн.: Маст. літ., 1993. — 381 с.

ISBN 5-340-00932-7.

Кнігу вядомага літаратуразнаўцы складаюць партрэты і эсэ, прысвечаныя дзеячам беларускай культуры і літаратуры — Р. Шырму, В. Таўлаю, У. Караткевічу, а таксама мастацкаму слову Я. Брыля, А. Разанава, Н. Мацяш, А. Карпюка.

Асаблівую цікавасць уяўляе нарыс «Пражскі эпісталярый», у якім аўтар дае шырокую панараму літаратурнага, культурнага і палітычнага жыцця Беларусі 20—30-х гг. і ўдзелу ў ім літаратараў, асветнікаў, палітыкаў, такіх, як У. Жылка, А. Луцкевіч, І. Дварчанін, Т. Грыб і інш.

К $\frac{4603020102-130}{М 302 (03)-93}$ 72—93 **ББК 83.3Бел7**

*Літарэтурна-мастацкае выданне*

Калеснік Уладзімір Андрэевіч

**УСЁ ЧАЛАВЕЧАЕ**

Літаратурныя партрэты,
артыкулы, нарысы

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка*
Мастак *В. А. Губарaў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Я. Ф. Харко*

ІБ № 3710

Здадзена ў набор 21.05.92. Падп. да друку 13.10.93. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум.-друк. арк. 20,16. Ум. фарб.-адб. 20,37. Ул.-выд. арк. 21,0. Тыраж 3 700 экз. Зак. 528.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**

**Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.**

## *ДА УВАГІ ЧЫТАЧОЎ*

У 1994 годзе
выдавецтва «Мастацкая літаратура»
плануе выдаць кнігі беларускіх
літаратуразнаўцаў,
якія даследуюць жыццёвыя і творчыя шляхі
слынных сыноў беларускага народа —
змагароў за свабоду, асветнікаў, пісьменнікаў,
вучоных, мастакоў:

*Г. Кісялёў*
РАДАВОДНАЕ ДРЭВА
Каліноўскі — эпоха — наступнікі

*А. Ліс*
ЦЯЖКАЯ ДАРОГА СВАБОДЫ
Артыкулы, эцюды, эсэ

*У. Ягоўдзік*
БЕЛЫЯ РЫСЫ НА ЧОРНЫМ ПОЛІ
Кніга пра пісьменнікаў і мастакоў